# ГОРАД. САВЕЦКАЯ

Яна бездапаможна рыпела, гайдалася, дрыжэла, мігцела спужанымі вачыма, стагналі пад хуткімі крокамі прыступкі, млелі ад страху дзверы, і настойліва грукала ў чаканні дапамогі мітуслівая фортачка.

Злева, па-за дахамі суседніх дамоў, узносілася ў вечаровае лістападаўскае неба карункавая вежа Чырвонага касцёла, дымелі коміны, па белай вуліцы цягнуліся ланцужкі слядоў, зліваліся ля «Бельгіі» ў рудую раку і ўпадалі ў двор. Тут дрыжэў на вятры шэры глог, упрыгожаны чырвонымі ягадамі, хаваліся ў куце бязлістыя бэзавыя кусты, бялела каменная адрына, значна свяжэйшая і прыгажэйшая за саму «Бельгію», і вабілі выпадковага госця жоўценькія, толькі-толькі абструганыя прыступкі.

Той, хто надумаў бы спыніцца зараз у двары «Бельгіі», абавязкова адчуў бы сябе асабліва самотным і пакрыўджаным: так заўсёды адчуваеш сябе халодным вечарам на пустой вуліцы побач з чужым гаманкім святам. А свята там было – ого якое: кожную хвіліну жоўтыя вокны выбухалі дружным рогатам, раз-пораз пачыналіся спевы, звінеў дзявочы смех, бразгалі талеркі і весела біліся шклянымі бачынкамі адзін аб адзін поўныя кілішкі.

Ніколі такога не бачыла раней ціхмяная, прыстойная «Бельгія». Ад самага свайго нараджэння – акурат перад вайной, у дзевяцьсот трынаццатым, тады яшчэ гасцініцай яна не была – давала будыніна прытулак спакойным і добранадзейным людзям – фармацэўту Нянкоўскаму, зубному доктару Альпяровічу, і нават артылерыйскі маёр Паўлаў, жывучы ў дваццаць пятым доме, такі ўжо ціхмяны чалавек быў, гнілому цяляці хваста не адарваў бы. А мо то не дом вінаваты быў, а ягоная кантузія. У дваццаць трэцім годзе гаспадар, Ёсель Абрамавіч Перскі, неяк сказаў жонцы сваёй Леі Янкелеўне: «А ці не адкрыць нам, Лея Янкелеўна, гасцініцу?» І стала з дома – гасцініца, і крыху такой пабыла. У дваццаць пятым Ёсель Перскі адбіў яе ў гарадскога ўпраўлення нерухомасцю, ці, як звалі яго пакацінаму, МУНІ: «Помощник коменданта 4-го района при обследовании моего дома заявил, что дом мой будет мунуципализирован, и я буду выкинут по той, якобы, причине, что у меня в доме помещалось учреждение. Желая предотвратить могущее возникнуть на основании слов пом. коменданта недоразумение, настоящим заявляю, что в моем доме за все время никакого учреждения не помещалось. В 1920 году шоферами Особого отдела в моей гостинице было занято в течение 2 месяцев 3 номера за плату. Принимая еще

во внимание, что при отступлении поляков дом мой был сильно разрушен (выбиты все стекла, повреждены печи и крыши) и что мною было потрачено много денег на ремонт дома, который еще и продолжается в настоящее время, и что гостиница, находящаяся в моем доме, служит единственным источником существования моей семьи, состоящей из 7 человек, настоящим прошу МУНИ выдать мне удостоверение на право владения моим домом».

Зараз Лея Янкелеўна, мажная, шырокая ў плячах і твары жанчына, хаваецца ў спіжараньцы і слухае, як стогне і рыпіць яе «Бельгія», як грукае і тупае наверсе грамада, як скавыча лесвіца і ўскрыкваюць дзверы, калі нехта шпаркі выбягае на двор і тут жа вяртаецца назад.

«Мыцця заўтра будзе — прорва», — думае Лея Янкелеўна і перакладае на палічках чысценькія ручнікі.

Прыбег днямі малады хлопец, па-гаспадарску расчыніў тугія дзверы, з парога гукнуў: «Ёсць хто?» — і адразу зняў усю гасцініцу пад нейкі з'езд, шчодра разлічыўшыся без торгу. На з'езды, бач, не шкада ім, а ў самога кажух з бацькавага пляча, бручыкі на каленях пузыром, галёшаў няма, гразі нанёс — а Божа мой, а свеце мой. Але ж прыгожы такі, маладзенькі, грошы тыя з кішэні дастаў уроссып, ніякай павагі, паглядзела б я, як ягоная матка такія грошы ў руцэ трымала б. Асцярожненька, роўненька склала б стосікам, хустачкай перагарнула. А гэты — шмяк! Дзеці, што казаць. Лайцішэ кіндэр*.

З раніцы яны папрыходзілі ціхія, але важныя, занялі нумары. Удзвюх з пакаёўкай іх сустракалі, адводзілі па пакоях. Гэты болей за ўсіх запомніўся: з белым чубам, у высокім капелюшы, нешта накшталт манаскага клабука, модны палітон, высокія шнураваныя боты. Во гэта госць! Кій не струганы, а крамны, фабрычны, боты ажно блішчаць, высокі, спіна прамая, гонар, а не госць. Во запісана: «Шукайла». Прозвішча троху нязграбнае, вядома ж, а так на выгляд — няпросты чалавек. Той, што з ім, працейшы хлопец. Беленькі, вочкі маленькія, смяшлівыя, вусны ў нітку. Апрануты бядней за першага. Прозвішча туды ж, не графскае: «Відук». То ж мак-самасейка, відук. Прыдуманае, ці што. Прыкацілі на фаэтоне, форсу! Колькі тут з вакзала да «Бельгіі», два разы нагамі перакінуць, але бралі, бач, фаэтон. Грошы — фр-р-р, фр-р-р, а фурман і рады з дзяцей злушчыць, сораму не мае.

А як увечары са з'езда пацягнуліся, дык ужо шумяць, гамоняць, ані хвілінкі памаўчаць. І дзяўчаты ж з імі. Адна высокая, з залатой касой, прыгожая, другая малая як верабей, ціў-ціў-ціў, усё шчабеча

---

* Горкія дзеці (ідыш).

нешта, трэцяя чарнявая, поўненькая, нібыта нават і наша дзевачка, толькі што з хлопцамі па гасцініцах цягаецца, ай.

А хлопцы добрыя. Дабрэнныя такія хлопцы. Маладыя ўсе, некаторыя зусім хлопчыкі. І той, учорашні, у кажушку, бегае, спрытны такі, зграбны, вясёлы, адно толькі — вачамі міргае надта. Гаспадыня спыніла яго запытацца, ці будуць назаўтра да вечара заставацца, — стаў, глядзіць на яе, усміхаецца, рукамі разводзіць, бачна, не ведае, што адказаць, і міргае, моцна прыжмурваецца. З ім яшчэ адзін, невысокі, галава — дзьмухавец, кучаравы, белы. Вочы сінія. Куды адзін — туды другі, як іголка з ніткай, туды-сюды па лесвіцы, цераз тры прыступкі.

А во яшчэ, маладзенечкі, бялявы, вочы вугольчыкамі, падбароддзе такое ўпартае, усё шныр ды шныр з бялявенькай па калідоры. А то на лесвіцы спыняцца, гутараць. Нашы хлопцы так з дзяўчатамі не шныраюць, гэтыя павальней.

Былі спачатку, ды сышлі потым, тыя, што тутэйшыя, менскія, пасядзелі за сталом, выходзілі цяжкія, вочы блішчаць. Тыя больш сур'ёзныя, хоць таксама маладыя ўсе: адзін высокі, столь падпірае, троху сутулаваты, твар нібыта габляваны, усё буйное, добра бачнае: вусны, нос, вочы... Другі — чарнявы, ветлівы, павітаўся ціха, ажно прыслухвацца давялося, што кажа, і галаву крыху набок хіліць. Яшчэ адзін з імі: нос угару, упарты, прамы, скупаваты ў жэстах, нібы завязала яму, толькі раз-пораз закідвае назад кудзеркі прыгожых густых валасоў.

Лея Янкелеўна перабірае ручнікі і прасцінкі. Ёй і смешна, і трывожна, і шкада, што не можа пайсці да іх наверх і паглядзець, сесці побач, засмяяцца гэтаксама — яна, як маладая была, прыгожа смяялася. Гэты, у шнураваных ботах, заўважыў бы, далібог. Ат, глупства. Гуляе «Бельгія», а вуліца сціхае. Змаўкае званочак конкі, не грукаюць ужо падковы фурманак, не крычаць рамізнікі, паціху гасяць святло ў вітрынах крамаў. Цяпер ужо хіба толькі навобмацак можна адшукаць на вуліцы за цяжкімі дзвярыма з пазалочанымі надпісамі бакалею, гадзіннікавую майстэрню, зубнога доктара ці аптэку. Зрэдку перабяжыць вуліцу спознены мінак. Менск засынае рана. «Бельгія» не засне да світання.

Каб толькі «Бельгія» магла, дык пайшла б уночы на Рэвалюцыйную — паўз Чырвоны касцёл, паўз Пішчалаўскі замак, уніз за пажарку, — пайшла б і села побач з пятнаццатым домам, і яны на два галасы ўздыхалі, крахталі і пасмейваліся б, бо тыя, хто ўвечары гаманіў у «Бельгіі», удзень шумелі на Рэвалюцыйнай, 15. Яны тут як выбух, бо квартал ціхі, спакойны, толькі-толькі паразганялі манастыры, але манастырскія муры стаяць, і стагоддзямі намоленае паветра ціхенька трымціць у чорным вецці таполяў і ліп. Супраць гарачага віру новага

жыцця — празрыстае ліпавае трымценне. Але яны яго не чуюць, тыя, хто бяжыць у пятнаццаты дом па Рэвалюцыйнай.

Не жарты вам — сур'ёзны будынак з сур'ёзнай гісторыяй: дыпламаты, міністры, камісары, потым — навукоўцы, акадэмікі, географы, гісторыкі-мовазнаўцы, народ хоць і малады, але ж стрыманы. Маладнякоўцы тут маюць адзін пакойчык: у ім заўсёды дымна, тлумна, поўна і расчынены вокны, бо, калі іх зачыніць, пакойчык, пэўна, лопне па швах. Абстаноўка спартанская: парэпаны стол з шуфлядамі, тры кульгавыя крэслы, на стале — немаведама адкуль навюткае прэс-пап'е. Вокны мурзатыя, на падаконніку бляшанка з акуркамі, абрывак газетчыны і на ім — шматкі сала і залатое шалупінне цыбулі. Папраўдзе, гэта ўсё. Калі трэба нешта друкаваць — ходзяць прасіць у суседзяў машынку на пару хвілін ці хоць б там, у суседзяў, пастукаць. У шуфлядах — архіў: лісты, тэлеграмы, пратаколы пасяджэнняў, сценаграмы, сшыткі з вершамі. Багацце!

Два гады бегалі туды-сюды, гаманілі па вечарах у пакойчыку, выдурвалі з Інбелкульта грошы на канверты і паперу і раптам — з'езд! Пяцьсот сяброў па ўсёй Беларусі! Свой часопіс! Ці вы бачылі, а? Як вечарына якая, дыспут — публіка ледзь-ледзь сцерпіць, покуль там прыветнае слова, агляд палітычных падзей і два-тры выступоўцы пажылыя — усё чакае, калі ж свае! Дзяўчаты пішчаць, у далоні пляскаюць, цішком ад хлопцаў, якія побач прыслухоўваюцца, цыдулкі ў прэзідыум кідаюць: «Сямейны склад выступаючых паэтаў?». Выскоквае на сцэну малады, чарнабровы Сярожка Серада з педтэхнікума:

> Зіма, зіма, і снегу па калені…

І ўся зала хорам, з нечаканымі, не паэтавымі клічнікамі напрыканцы радкоў:

> Ні сцежак, ні дарог няма!
> Цярусяцца і падаюць сняжынкі памаленьку!
> Зіма!

Дудару — таму нават і цэлы радок казаць не трэба. Стане пасярод сцэны, агледзіць залу з усмешкай, праміргаецца па сваёй, усім вядомай ужо звычцы і ціха, кожнае слова нібыта праз кропку, пачне:

> Мы. Дзеці.
> Рэвалюцыі.

І зала выбухае:

> Кастрычніка сыны!
> У дзень радасці кіпучае!
> На свет з'явілісь мы!

Але так бывае не з усімі. Ніколі зала не падхоплівае за Чаротам: таго слухаюць ціха-ціха, стойваючы дыханне, нічога не разумеючы ў складаным нітаванні радкоў, але гойдаючыся нават у такт рытму, які ён яшчэ і лёгенька адбівае нагой. Ніколі і ніхто не чытае вершаў за Дубоўку. Гэты выходзіць на сцэну сапраўдным гаспадаром, цярпліва чакае, покуль сціхнуць воплескі, і, нібыта балансуючы над безданню, разводзіць рукі і пачынае чытаць.

І гэта заўсёды так здорава, што кожнаму хочацца быць паэтам. А як хочацца, дык тады трэба бегчы на Савецкую, 107, бо паэтаў спярша гадуюць там. Сцежка ўжо ўбітая хлапечымі чаравікамі: выскачыў з Інбелкульта, сшытак пад пахай — і паімчаў па Рэвалюцыйнай наверх, зачапіўшы крыху крамаў і заезных двароў Верхняга горада, адтуль да касцёла Святога Тамаша і марш-марш па Савецкай ажно да белай камяніцы на тры паверхі, і на ёй на франтоне золатам — МБПТ. Менскі беларускі педагагічны тэхнікум імя Ігнатоўскага.

Надворны бляск роднага фасада, гасціннасць высокай аркі, строгія чорныя пруты брамы, прахалода двара — і таварышы мае, бэз, шыпшына і глог. Бягом па прыступках. Дома.

Ад Белпедтэхнікума вуліца, выгнуўшы шэрую спіну, пакоціцца ўніз, паўз жоўценькую прысадзістую электрастанцыю — і да Свіслачы, не замерзлай яшчэ, чорнай, у белых нізкіх берагах, якая павольна плыве між агародаў і падворкаў, несучы ў сабе вольніцу Банцараўшчыны, тугу Пярэспы і тлум Нямігі, бяжыць паўз Ляхаўку і адтуль — на Серабранку, за горад, у белую далячынь.

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Тады, у «Бельгіі», усё і пачалося.

Ён так моцна прыжмурваў вочы кожны раз, калі звычайныя людзі проста міргаюць, што я не магла глядзець ані на кога іншага і глядзела толькі на яго — як ён міргае. У гэты момант — у гэтыя моманты — ён раптам, на секунду, станавіўся такім бездапаможным, такім разгубленым, жмурыўся — і вось ужо ён зусім іншы, хвацкі, самаўпэўнены, дзёрзкі. І толькі паспееш здзівіцца гэтай дзёрзкасці — як зноў ён міргае, зусім бездапаможна.

У той вечар у «Бельгіі» пасля з’езда шмат пілі, крычалі, рагаталі, смалілі, хадзілі туды-сюды, прыносілі з марознай вуліцы нечаканы пах свежых агуркоў і ўсё выводзілі нас, дзяўчат, на калідор «паразмаўляць» — з нашага боку дык проста пастаяць ля акна і паслухаць розныя п’яныя глупствы. Наста Маркава была паплакала, бо яна спадзявалася, што Уладзік пакліча

яе з сабою, а яна ганарыста адмовіцца, а ён сышоў з Сасюрам, нібыта і забыўшыся на яе. Зараз Наста сядзела ў роспачы, але яе ўсё роўна не надта запрашалі «паразмаўляць», бо ўсё ж Уладзікава. Зіна выходзіла то з адным, то з другім, але найчасцей з Шукайлам, і было чамусьці страшнавата за яе. Наташа з калідора амаль не вярталася, яна не пераносіла табачнага дыму, да вялікай радасці Відука. А я сядзела і глядзела, як міргае Дудар, і нічога не магла з сабой зрабіць, і таму паразмаўляць пайшла з ім адразу, як толькі ён, добра праміргаўшыся, запрапанаваў. Вакол ягоных вачэй ляжалі глыбокія цені, нібыта стома ад сутаргавага міргання, а ў вачах мігцелі агеньчыкі, і на вуснах грала мяккая ўсмешка, і гэта зноў мяне бянтэжыла: цяжкая стома і бесклапотная ўсмешка побач.

Пажыць у гасцініцы! Во дык навіна. Яшчэ ніколі я не спынялася і нават не была ў гасцініцах. У «Бельгіі» нам з Настай Маркавай і Аняй Брэсцкай далі комнату падчас з'езда «Маладняка» на першым паверсе, ля спіжаранькі. Я з Віцебска, Аня палачанка, Наста з Магілёва — важныя людзі, дэлегаткі.

«Бельгія» — то была двухпавярховая драўляная будыніна, якая няпэўна стаяла на высокім каменным падмурку. Памятаю як цяпер той пакойчык: два старасвецкія ложкі з драўлянымі разнымі спінкамі і перапалосая канапка. Было бачна, што канапка жыла тут спакон веку, а ложкі прыехалі пазней — можа, толькі перад намі. Цераз калідорчык была невялічкая камора — там, здаецца, стаяла толькі адно крэсла, на якім, склаўшы рукі на фартушку, сядзела гаспадыня з чорнымі вільготнымі вачыма, і па сценах былі прыбітыя палічкі, на якіх ляжала бялізна і ручнікі. У вітальні можна было пасядзець на яшчэ адной канапцы, якая выглядала на стрыечную сястру той перапалосай, і паглядзець у акно, якое выходзіла на двор, на мураваную адрыну — яна выглядала значна маладзейшай за «Бельгію», і спачатку, нырнуўшы з вуліцы ў двор, я падумала, што «Бельгія» там. Прайшло столькі гадоў, а я памятаю «Бельгію» ўсю, нават з яе пахам і гукамі. Тады, зранку, водарыла яна язмінам і застарэлай табакай, пральняй і прасам, і раз-пораз грукала недзе на другім паверсе незачыненая фортачка.

Хлопцам адвялі нумары на другім. Раніцой, як мы зайшлі паглядзець свой пакой, іх не было бачна: нехта тупацеў над нашымі галовамі, але, мабыць, так і трэба ў гасцініцах, каб быў тупат. Мы пасядзелі крыху на ложках, падзівіліся на шпалеры на сценах і пайшлі да Інбелкульта. А калі пасля з'езда, ужо ў цемры, мы ўсёй грамадой ваваліліся ў «Бельгію», яна затрэслася, зарыпела і пачала разгойдвацца з боку ў бок. Спачатку мы з дзяўчатамі сядзелі на ложках і нават баяліся паварушыцца, бо наверсе адбывалася нешта страшнае: моцна грукацела, рагаталі ў дзясяткі глотак хлопцы і часам узнімаўся чыйсьці высокі голас. Зараз, увечары, «Бельгія» водарыла інакш: табакай, гуталінам, скуранымі каўнерамі і мокрымі ад расталага снегу капелюшамі.

Дзверы ў наш пакойчык расчыніліся ледзь не з нагі, заляцеў Каратай: «Гэй, дзяўчаты, пайшлі наверх, ну, што зажурылася, галубка, пайшлі, красуня мая!» Мы з ім раней вучыліся разам у педтэхнікуме, таму я не здзівілася, ведаючы гэтага цыркача, але Маркава ганарліва падціснула вусны і скамянела тварам. «І вы, пані, проша наверх!» — пакланіўся ёй Каратай, падхапіў пад руку Аню, падміргнуў мне, і мы пайшлі. Зіна і Наташа былі ўжо там. Вялікі пакой — не ведаю, хто быў ягоным гаспадаром на тую ноч, — гудзеў і віраваў. Ложкі рассцягвалі ўздоўж сценаў, маленькі столік пасунулі на сярэдзіну, на ім ужо была разаслана газета і насыпана розных прысмакаў: красаваліся залатыя цыбуліны і рубінавыя яблыкі, цьмяным срэбрам свяцілася сухая рыбіна, нехта нават прыцягнуў каўбасы. Тоўста парэзалі хлеб і ўжо адкаркоўвалі бутэльку віна. Шклянак на ўсіх не хапала, таму перадавалі адно аднаму: дзяўчаты ледзь краналі вуснамі, хлопцы апракідвалі ў адзін глыток. Шум, гоман, крык — весела, ажно галава гудзе і нібыта нешта звонку ўліваецца ў цябе п'яным вясёлым паветрам.

Сказаць папраўдзе, я не помню, пра што гаварылі на з'ездзе. Не тое каб зараз не помніла — і тады, ужо ўвечары, забылася. Адчуванні толькі памятаю: нейкі непаўторны ўздым, ажно беглі мурашкі па скуры і калацілася сэрца. Здавалася, сусвет закруціўся вакол нас, усё знікла, засталіся толькі мы, тыя, хто сядзеў і непаслухмяна шумеў у халоднай зале Інбелкульта. З трыбуны прамаўляў, усё папраўляючы скупым, асцярожным жэстам русявыя кольцы валасоў, Міхась Чарот, зачытваў тэлеграмы, выкрыкваючы прозвішчы адрасантаў, натхнёны і ўсхваляваны Толька Ажгірэй, гукалі нешта трэніраванымі галасамі сур'ёзныя невядомыя мужчыны, а нам было весела сядзець на перадапошнім радзе і перасмейвацца з хлопцамі. Труса, Глебку, Каратая, маладзенькага Адамовіча я ведала па тэхнікуме, Шукайлу неяк чула на нейкім вечары, астатніх не ведала, але было так, нібыта ўсе мы знаёмыя.

На з'езд я паехала ад віцебскай філіі: за месяц да гэтага мяне прынялі туды як пісьменніцу. Сказаць папраўдзе, пісьменніца з мяне была тая яшчэ: пяць радкоў у «насценцы» тэхнікума і сшытачак апавяданняў са студэнцкага жыцця, які ў мяне зачыталі аднакурснікі. Але, казалі, той сшытак у кагосьці бачыў Дудар і хваліў тое, што бачыў, і наогул, дзяўчаты ў «Маладняку» збольшага пісалі вершы, а я адна пісала прозай. Як не прыняць?

Але я марыла, яшчэ як вучылася ў Менску. Нашы хлопцы — Каратай і Глебка — паўступалі ў «Маладняк» увесну, на першым курсе, Паўлюк Трус — нашмат раней. Гэта дадало ім і важнасці, і форсу: часцяком яны прыходзілі на заняткі, падпярэзаныя маладняко ўскімі паясамі, плеценымі на слуцкі манер, з даўгімі кутасамі, і гэта было вельмі прыгожа і адразу вылучала іх з агульнай масы студэнцтва нават знешне. Але і калі б не было паясоў, яны былі б не такія, як іншыя: яны ўжо чыталі вершы на

вечарынах, да іх прыходзілі старэйшыя хлопцы з універсітэта, раз-пораз яны прыносілі ў тэхнікум газету, а ў ёй — вершы і подпіс: «Паўлюк Трус» ці «Пятро Глебка». Наташа, якая ўжо пісала вершы сур'ёзна, не жартам (іх нават бачыў Колас і ўважаў яе за паэтку), саромелася запісвацца, за кампанію з ёю баялася і Зіна, хоць наогул Зіна мала чаго баялася. Я тады нікому яшчэ не паказвала сваю пісаніну, нават дзяўчатам, але пацiху ўжо нешта крэмзала. У педтэхнікуме ўсе нешта пацiху крэмзалі.

Мы пасябравалі адразу: спакойная, высокая, паўнаватая залатавалосая Наташа Вішнеўская, маленькая і хуткая, як верабейка, вясёлая Зіна Бандарына і я. Заводзіла ў нас заўсёды Зіна: куды пайсці, з каго пакпіць, з чаго зрабіць сакрэт, за кім паназіраць, каб потым здагадацца. Гэта быў бясконцы феерверк, наша неўгамонная Зіна. Наташа ніколі не брала блізка да сэрца нічога з таго, чым гарэла, захапіўшыся не на жарт, Зіна, але паслухмяна ішла, нават бегла, калі трэба было паспяваць за сяброўкай. Я спачатку верыла ўсім Зініным прыдумкам, покуль разабралася, што ўсё, усё, што Зіна робіць, па чым сумуе і што прыдумвае — усё гэта вясёлая гульня, бліскучы вір жыцця, закручаны Зінай вакол сябе і вакол нас. Тут, у «Бельгіі», Зіна была цалкам у сваёй атмасферы: паветра кіпела, сыпала зоркамі і выбухала бліскавіцамі, усё неслася і мітусілася ў шчаслівай куламесе. Тады ўжо выйшаў артыкул Калантай пра «крылатага Эраса», і Зіна, захапіўшыся ўсім сказаным там, не баялася ніякіх бліскавіц і зорак, асабліва калі сыпаліся яны з хлапечых вачэй.

Я вучылася ўжо ў Віцебскім педтэхнікуме, куды перавялася з МБПТ пасля першага курса, бо бацькам было надта цяжка вучыць мяне ў Менску. Пасля МБПТ у Віцебску было надта сумна. Гэта быў ці не першы год, як Віцебскі настаўніцкі інстытут закрылі, настаўнікаў і студэнтаў перавялі ў БДУ, а на рэштках арганізавалі тэхнікум.

Сказаць папраўдзе, тагачасны Віцебск выглядаў прыгажэй за Менск. Крутыя горкі, з якіх збягалі і на якія ўзбягалі белыя чародкі двухпавярховых камяніц, сталёвая Дзвіна, жоўценькая Лучоса, хуткаплынная Віцьба, стромкія цэрквы над вадой і нейкае асабліва свежае паветра — у Менску такога ніколі не было. У мяне завялося там запаветнае месца — зялёны муражок на беразе Дзвіны ля самага вусця Віцьбы, пад нагамі Успенкі, толькі там, напэўна, я мірылася з Віцебскам. Але ніякая агульная віцебская прыгажосць не магла параўнацца з той прыватнай менскай прыгажосцю, якая пачыналася на рагу сто пятага дома па Савецкай і заканчвалася за два крокі да сто дзявятага. Высокі двухпавярховы будынак на высачэзным, у мой рост, падмурку, ганарлівае «Менскі Белпедтэхнікум», выбітае на пабеленым фасадзе, вокны, якія на другім паверсе ўпрыгожваліся шклянымі аркамі, белая каменная агароджа і зялёны дварок, заўсёды поўны хлопцаў і дзяўчат, каменныя прыступкі і прахалода вестыбюля, вясёлы скрып драўлянай падлогі пад тупатам соцень маладых ног, абскубаныя фар-

баваныя дзверы і зрэзаныя ўшчэнт сталы... Дырэктарам тады ў нас быў Каранеўскі. Бачылі мы яго надта рэдка, бо ён працаваў яшчэ недзе ва ўрадзе і наогул быў чалавекам страшэнна занятым: калі ён прыходзіў у свой кабінет да нас на Савецкую, па лесвіцах тэхнікума пачыналі бегаць туды-сюды то кур'еры ў цывільным, то ваенныя, а то і міліцыянты — па справах да Каранеўскага. Мне падабалася, што ў нас такі дырэктар: было відаць, што чалавек ён з самых высокіх. Аднойчы ён прыйшоў да нас на калёквіум. Вёў дзядзька Кіпель. Ён бываў таксама рэдка, і мы чакалі яго прыходу як свята. А тут адначасова і ён, і дырэктар. Мы ўсхваляваліся, кожнаму хацелася паказацца, асабліва хлопцам. Яны ўскоквалі з-за сталоў, як салдацікі, адказвалі на пытанні гучна і хутка, нават гэта было крыху смешна, бо мы ж ведалі, якія яны звычайна: покуль устане, покуль патыліцу пачэша, покуль скажа што... Асабліва стараўся Каратай: так падскокваў, так рапартаваў з лёту, не зважаючы ўжо ад старання і на сэнс сказанага, ажно Кіпель пачаў усміхацца. «А што, таварыш Каратай, вы ведаеце пра здабычу бурштыну?» — «Бурштын падымаюць з балота і выцярэбліваюць з шалупіння!» — крыкнуў, падскочыўшы, Каратай, і мы ўсе выбухнулі смехам разам з Кіпелем і Каранеўскім. Той ажно зняў акуляры і выціраў вочы насоўкаю — так смяяўся, да слёз. Тое шалупінне потым Каратаю пaміналі цэлы год, а мо і болей.

Наогул смяяліся тады многа. Рагаталі. Сказаць папраўдзе, за ўсё жыццё сваё не чула я такога смеху і рогату, як тады. Прыгажэй за ўсіх смяяўся Паўлюк. Ён быў старэйшы за нас на год, займаліся мы па розных класах, і таму мы на свае вуха ніколі не чулі ягонага знакамітага «А праўда, хлопцы, гэта ж я і не ведаў!». Але ж кожны з нас, каб падкрэсліць чыюсьці цьмянасць ці ўласную недасведчанасць альбо каб проста парагатаць, у пэўнай сітуацыі цягнуў: «А праўда, хлопцы, гэта ж я і не ведаў!»

Чаго толькі не ведаў Трус! Хадзілі легенды, што — нічога. Але ж ён з такой дзіцячай шчырасцю здзіўляўся на занятках, калі адкрываў для сябе чарговую Амерыку, што пачынаў нават гаманіць уголас: «Хлопцы! А то ж я таксама заўважаў! Толькі не ведаў, як называецца!» Усе проста покатам качаліся, і чаму толькі Паўлюк на тое не крыўдаваў?!

Сам ён смяяўся так весела і так заразліва, што пачынаў усміхацца ўвесь клас і нават настаўнік, пачуўшы Труса на калідоры. Навучэнцаў, бывала такое, выпусцяць раней, і яны гамоняць ля акна, і ўсе рагочуць гулам, нізка, а Трус ажно заліваецца высокім і звонкім покатным смехам.

Наогул у тэхнікумаўскім калідоры я яго бачыла толькі ў двух станах: ці заразліва вясёлым, ці незвычайна злосным. Тады ён увесь чарнеў, бы навальнічная хмара, напружваўся, ягоная нізкая, каржакаватая фігура здавалася нават алавянай, вусны сціснутыя, чорныя бровы зведзеныя, крочыць цяжка, здаецца, зараз праломіць падлогу. Толькі кране хто яго, дык пачуе: «От як дам зараз!» Але ўсе рагаталі і з гэтага, бо надта ж сур'ёзна ён абяцаў.

Затое калі Трус чытаў вершы, усе маўчалі, а пасля адбівалі далоні ў апладысментах і крычалі ў захапленні. Любілі яго вельмі. Нам тады падавалася: няма на свеце паэта, лепшага за нашага Паўлюка. Ён выходзіў на сцэну цяжкаватай хадой, станавіўся пасярод, чакаў колькі секунд, хоць усе і так ужо заміралі, і пачынаў чытаць гучна, спакойна, выразна. Нібыта нешта звонку ўваходзіла ў яго, ён станавіўся зусім іншы. Зараз і думкі не магло праляцець, каб пакпіць з яго ці пажартаваць. І ўсё было ў яго так проста, так прыгожа, так чыста, так па-сапраўднаму, што хацелася плакаць. Здаецца, мы часам і плакалі, асабліва тыя з дзяўчат, хто быў цішком закаханы ў Паўлюка. Мы ўсе былі ў яго па чарзе закаханыя, некаторыя нават пісалі яму лісты, але Паўлюк нікому не адказваў нават, а каму ён з радасцю адказаў-бы — тая нічога яму не пісала, але ж хадзіла нос дагары, бо ўсе ведалі, што ён яе любіць, чарнакосую і задзірыстую Маню. Мы яе не надта за гэта любілі, здаецца.

Аднойчы я была ў ягоным пакоі. Дзядзька, у якога ён кватараваў, паехаў на вёску на Каляды разам з жонкай і дзецьмі. І мы заваліліся да Паўлюка ўсёй грамадой: была зіма, мы ўжо здружыліся, старэйшы за нас Трус надта ж сябраваў з нашым Глебкам, а праз Глебку і з намі. Падаў снег, чорныя сцены хацінак вуліцы Прыгожай на Уборках нібыта прыбраліся, пасвяжэлі, з комінаў ішоў кучаравы дым, цяжка дыхалі блішчастыя цягнікі на блізкіх рэйках і выпускалі белую пару, пабрэхвалі сабакі, рыпела пад нагамі сцежачка, і мы смяяліся — гэтым разам нават не з Паўлюка, а проста ад таго, што так хораша. У Паўлюка была гарбата, у мяне — булка, у Каратая — нейкія ліпкія, у паперчыне, але ж надта смачныя ландрынкі, і быў у нас пір гарой сярод даматканых палавічкоў у акуратным Паўлюковым пакойчыку. У яго заўсёды і ўсё было вельмі акуратна.

З цягам часу я добра пасябравала з Паўлюком — мы разам пелі ў хоры Тэраўскага. Паўлюк быў ледзь не самым моцным голасам у хоры: чысты, упэўнены, глыбокі, голас той вёў за сабой увесь хор.

Раней, да высылкі — у тэхнікуме казалі пра гэта шэптам, — дзядзька Тэраўскі быў чалавекам-гарой: цвёрды, высокі, магутны, дзе ні з'явіцца — усе глядзяць толькі на яго. Нікога не баяўся, нічога не саромеўся, цвёрда стаяў на сваім. У нас ён быў ужо, хутчэй, чалавек-уцёс, стомлены і крохкі, пагрызены вятрамі і хвалямі. Але нам, студэнтам, і гэтага было досыць. Калі ён выходзіў перад намі, сканцэнтраваны, падцягнуты, строгі, калі даваў знак рукой — акуратны, стрыманы, можа, ледзь прыкметны, тады, паслухмяны гэтай руцэ, у паветры пачынаў звінець голас, да якога праз хвіліну далучаўся другі, трэці. І вось са сцэны імкне чыстая і моцная плынь, для якой няма берагоў.

Тэраўскі не махаў рукамі, не прытопваў нагамі перад намі, наогул мог сысці і стаяць недзе збоч, мог сядзець недзе ў зале, але мы бачылі ледзь прыкметны рух галавой, які даваў нам пачатак і рытм, і спявалі,

падпарадкоўваючыся ягонай непрыкметнай звонку, але такой адчувальнай энергіі. Гэта на канцэрце. На рэпетыцыях ён часам мог раззлавацца, цяжка і мерна, нібыта чорная хмара, якая не шыбуе маланкамі, але няспынна вуркоча грымотамі. Яго не баяліся: адчувалася, што Тэраўскі злуе не на людзей, а на гук.

Наогул мы ведалі: наш хормайстар адчувае, што трэба рабіць дзеля таго, каб голас гучаў, каб песня лілася, каб душа выказвалася, і гэтая ўпэўненасць і веданне давалі надзею, і мы паслухмяна распяваліся, да ачмурэння выводзілі гамы і былі пры гэтым цалкам упэўненыя, што ўсё гэта на карысць. Няшмат я сустракала на свеце людзей, з якімі было б так спакойна і надзейна, як з Тэраўскім, хоць і быў ён, як казалі, «ужо не той». Навокал наогул было шмат моладзі, шмат людзей сярэдняга веку, але Тэраўскі быў старэйшы за іх усіх, і гэта таксама дадавала яму нашай… не, нават не павагі. Пакланенне? Напэўна, пакланенне. Расказвалі, аднойчы Тэраўскі заступіўся за Александровіча перад Лёсікам, вельмі эмацыйным і жорсткім выкладчыкам, дык і Лёсік з першага ж слова Тэраўскага, сказанага ціхім, але пераканаўчым басам, дараваў Александровічу ўсе злачынствы супраць беларускасці, што наогул было для Лёсіка амаль немагчымым. Спявалі толькі беларускае. Сёння столькі ніхто ўжо не пяе.

«Вярбу», «Дзень беленькі», «Сірацінку», «Міма садзіка», «Сідорку-купчыка» — гэта заўсёды з намі спявала і зала. «Ой, ужо жыта пала», «Сама пайду дарогаю» падпявалі ўжо не ўсе, болей слухалі. Аднойчы нават падышла жанчына — была зіма, а мы пелі жніўныя — і сказала з крыўдаю: «Што ж вы, дзетачкі, пяяце, зіма ж зараз, хіба можна жніўныя?», на што Тэраўскі ўпэўнена прабасіў: «Можна, цётка, а то як жніво прыйдзе, а яны і спець ня ўмеюць».

Тыдзень пачынаўся з газеты: усе выходныя Глебка з Трусам і Каратаем рыхтавалі чарговы нумар «Чырвонага праменя». Як яны вычвараліся! Не шкадавалі нікога: ані нас, ані педагогаў. То, бывае, цэлы нумар — карыкатура: агромністы Тэраўскі дырыжыруе хорам, а ў тым хоры — Колас з сур’ёзным тварам, Байкоў са смешна разяўленым ротам, Бялькевіч з балалайкаю ў нейкай папасе і Піятуховіч у абдымку са сваім векавечным партфелем, і ўсе з рознымі выразамі, але ж разам спяваюць: «А ў садзе, у гародзе слухай нас, дурны народзе». Колас крыўдаваў нават. А на каго крыўдаваць? Падпісана: шаўцы. З каго за жарцікі спытацца?

А то сваіх пачнуць працягваць: Александровіча намалююць у абдымку з нейкімі чарцямі пад Андрэеўскім сцягам, але ж у вышыванцы, і на восем радкоў — эпіграму, такую, што жываты парваць. А то малюнак на ўвесь ліст: стаіць дзяўчына, надта да Ніны Калевіч падобная, апранутая па-гарадскому, у боціках і паліто, побач сялянскі хлопец з парсючкамі і подпіс: «Гаўрушка, брацік, а што эта за звяркі ў цябе?» — «Ах ты, каб цябе, ты ж тых свіней толькі ўчора сваімі рукамі карміла!» Стаім, рагочам, нават калі

не надта смешна — пра сваіх жа!

На вечарах яны звычайна пачыналі свой выступ раптоўна, з падкіндэсам: Глебка, прыкладам, выходзіў на сцэну, Паўлюк адгукаўся з якога-небудзь спартыўнага снарада, што туліўся тут жа, у куце, а Каратай адзываўся наўпрост з натоўпу. Адзін выкрыквае першы радок, другі — за ім, а той, што на сцэне, тады фіналіць пад агульны рогат. Ой, як да слёз рагаталі мы, як хлопцы звонка лупанулі па некаторых, што адмаўляліся вучыцца беларускаю.

Так і ходзіць адным словам
Ад прыдаткаў к дзеясловам,
А як стане акаць-якаць —
Можа портачкі… надзець не тыя! —

з нявінным выглядам скончыў са сцэны Глебка.

А то неяк Паўлюк з Пятром склалі песню. Іншыя хлопцы, асабліва старэйшыя, крывіліся і сплёўвалі скрозь зубы, але мы ўсё роўна вывучылі яе на памяць і пелі па калідорах, як хлопцы ішлі, знарок гучна:

А ў горадзе, у Белпедтэхнікум
Паступіла сямнаццаці год,
Палюбіла тут
Словы светлых дум
І вясёлых дзяўчат карагод.
А на трэці год я пішу ў сяло:
Ой, матуля, не знаю, чаму
За чароўны зірк
Ды за шчырасць слоў
Падарыла я сэрца яму.

Спяваць трэба было на матыў «Кірпічыкаў» і не надта пускаць слязу, нават калі хацелася. Быў час, мы без той песні і дня не пачыналі.

Час разыходзіцца па класах, і нас ужо нясе несупынная хваля: першая — геаграфія, дзядзька Азбукін. Яго таксама называем дзядзькам, хоць і старэйшы ён за нас на якіх сем гадоў. Ён нікога не выклікае адказваць на пытанні, хіба што раз на месяц усе здаюць яму мапу, адшукваючы краіны і гарады, азёры і балоты. У асноўным Азбукін расказвае сам. А цікава! І пра сваё цікава, і пра чужое, і галоўнае, сваё, атрымліваецца, паводле Азбукіна, не горшае за чужое, а часам і лепшае! Ад яго даведваемся і пра дубы на Палессі, і пра азёры пад Мёрамі, і пра горы ля Койданава, а калі ёсць каму што дадаць пра свае мясціны, дык Азбукін бярэ паперу і пачынае хутка-хутка алоўкам занатоўваць і толькі падбадзёрвае студэнта, які ўжо і саромеецца сваёй асабістай важнасці: «Ну-ну, давай! А шырыня ракі? А курганы ці ёсць? А капаць спрабавалі? А ўвесну вада стаіць?» А часам усё ж рагочам — і дзядзька Азбукін з намі. Асабліва калі ў Каратая настрой падурэць — во ўжо дзе цыркач! Аднойчы надыктоўваў Азбукіну гісторыю

сваіх Прусаў: «І запішыце, дзядзечку, Пруссы, з двума „с“, адно ад прусакоў, адно ад Прусіі. У нас там што прусаў, што прусакоў куча й горба, мех і торба! І прусы ўсе па-свойму, па-прусачынаму, да сёння гергечуць, па-нашаму — ані слоўца! Пішыце, так і ёсць, акурат пад Слуцкам — і прусы!» Пакуль Азбукін сцяміў, што Каратай проста дурэе...

Высыпаемся ў калідор — перапынак! То там, то тут — выбухі смеху. Божа, каб вы гэта бачылі: бедната страшная, хто ў чым адзеты, хто ў чым абуты, але ж форсу! Асабліва старэйшыя, якія ўжо і працуюць недзе, і друкуюцца за ганарары — такія фацэтныя, абутак блішчыць, каўнерык бялее, галава высока, прыгажосць. Мы ўсе ўвесь час закаханыя, кожны дзень — у кагосьці іншага. Раманаў сур'ёзных пакуль няма, але ж шугануць можа кожны дзень, кожную хвіліну, ва ўсіх такое ў сэрцах трымціць — вось-вось загарыцца.

Цяпер — Колас. Тут не балуе ніхто, нават Каратай. Проста неяк не атрымліваецца. Дзядзька Колас суровы, да таго ж шпаркі, няма калі дух перавесці: то пішаш, то адказваеш, то сказы складаеш, а то й сачыненне дасць якое. Наташа, Глебка і Каратай у такіх выпадках пішуць і здаюць вершы. Акрамя іх, ніхто не асмельваецца, хоць дзядзька Колас заўсёды чытае іх вельмі ўважліва, часам нават падбадзёрвае і забірае аўтараў у паэтычны гурток. Шмат хто з нашых хоча таксама да яго ў гурток, але ж страшна паказваць сваё, ды яшчэ каму! Хоць ведаем жа, што Наташу ў педтэхнікум менавіта Колас запрасіў, калі Наташына мама паказала яму дачыныя вершы, ну дык і баяцца не трэба, але ж!

Ад Коласа выходзім, ледзь не аціраючы сёмага поту — цяжка! А ля акна — старэйшыя. У цэнтры — Паўлюк: «Пятро! Хадзі сюды!» — гукае нашага Глебку. Ну і мы за ім, вядома ж. «Заўтра канцэрт, будзем песню нашу спяваць!» А-а-а-а! Мы нават вішчым. Глебка наш давольны, расчырванеўся, ажно нібы вышэйшы ростам, важны, стаіць ля Паўлюка, пазірае на нас звысоку. Але ж і заняткі зараз па тэме: Дрэйзін, гісторыя музыкі.

Пачынае з нябачанай яшчэ глыбіні: ад грэкаў! Бач ты, і музыка ў іх была! Калі Азбукін і Кіпель казалі пра сваё, хоць як знаёмае, дык Дрэйзін адкрываў нам зусім невядомыя рэчы, дадаючы звесткі і з літаратуры, і з гісторыі. Але ж і ён кожны распавед заканчвае нашым беларускім. Ад яго ўпершыню чую пра беларусаў-народнікаў: калі пасля студэнцкіх хваляванняў за царом яшчэ пасадзілі ў турму, яны сталі аб'ядноўвацца і спяваць свае песні, каб неяк пратрымацца ў камеры. Грузіны сваё пяюць, рускія — сваё, украінцы — сваё, а беларусы маўчаць, бо свайго не ведаюць. «Ну, дзядзька Дрэйзін, — жартуе Глебка, — цяпер мы ў турме, калі што, будзем ужо ведаць, што спяваць». Дрэйзін камянее тварам, а мы рагочам. Якія турмы! Пасля Дрэйзіна — Круталевіч, дзядзька Алесь, матэматыка. Наташа з Зінай змяняюцца з твару — ай, бяда-горанька! Яны з матэматыкай не сябруюць. Да таго ж ніхто не даруе ім бясконцых памылак — будуць кпіць увесь час,

тым больш што і Круталевіч падлівае алею ў агонь: надта ж ён не любіць тых, хто не любіць матэматыку. Яшчэ ў кастрычніку наш дзядзька Алесь ездзіў у Маскву на чэмпіянат па шашках, дык з тае пары аўтарытэт ягоны такі высокі, што не любіць матэматыку — проста злачынства. Таму Бандарына з Вішнеўскай нема бядуюць, а мы зноў рагочам. У мяне з матэматыкай атрымліваецца.

Хораша нам у тэхнікуме, але ж толькі на першым паверсе! На другі — анігадкі! Там пануюць старэйшыя. Нам, маляўкам, ходу туды няма. Дзяўчаты і так не сунуць носу нават на лесвіцу, а хлопцы раз-пораз парушаюць мяжу, і тады іх ловяць, цягнуць у пусты клас і «ставяць банькі». З тых банек яны вылятаюць ускудлачаныя, чырвоныя, злыя, далятаюць да лесвіцы, нібыта іх нехта б'е ў спіну, але ж па лесвіцы спускаюцца як мага павольней, тым больш што мы стаім і глядзім вялікімі вачыма: што было?! Аднойчы на другі паверх, сціскаючы кулакі, падняліся Каратай, Глебка і Паўлюк. Пачалася страшэнная валтузня, паляцелі крэслы, нешта звінела і падала. На другі паверх пабеглі дарослыя. Шаўцы нашы спусціліся моцна пабітыя, але, здаецца, непераможаныя.

Гэта ўсё — спачатку, увосень, узімку. Вясной мы ўжо зусім асвойталіся, пачуваемся вальней. Дрэйзіна хлопцы ўжо не слухаюць, хто піша вершы, хто цішком чытае ці піша рамантычны ліст, Наташа з Зінай перапісваюць матэматыку са сшытка Серады, нават дзядзька Колас ужо не такі суровы, тым больш што ў нас шмат хто ўжо паэт: выступае на тэхнікумаўскіх вечарынах, друкуецца ў газетах і таксама піша сачыненні ў вершах. Паэтаў дзядзька Колас шануе і ставіцца паблажліва.

Увесь час вечарыны, сустрэчы, хтосьці прыязджае да нас ці мы збіраемся грамадой у клубе. Увесь час нехта чытае вершы: ці то ў калідоры на падаконніку, ці то ў аўдыторыі, ці то ў двары. Ёсць вершы, якія не чытаюць уголас — тады з ліста: Паўлюк, прыкладам, саромеецца чытаць пра каханне. Падыдзе, паглядзіць з-пад ілба: «Глянь!» — падсуне ліст, спісаны прыгожым, цвёрдым почыркам. Покуль чытаеш, стаіць узбоч, паглядвае, сочыць за рэакцыяй. Бачыць, што верш прачытаны, — падыходзіць, моўчкі забірае свой верш і адразу пачынае пра што іншае, пра рэпетыцыю ці пра надвор'е.

«Паўлючок, пачакай, ды я ж хацела...» — «О, трэба ісці, ладна, потым скажаш» — і збягае, пачырванеўшы. Яму ўсё яшчэ падабаецца наша Маня, чарнявая дзяўчына з кармазінавымі вуснамі і блакітнымі вачыма. Сама Маня нешта верціць хвастом, а мы дык праз адну ўздыхаем па Паўлюку, але ж нам ён вершаў не прысвячае.

Акрамя стыхійных чытанняў кожнае суботы, у зале педтэхнікума вечар: выступ на палітычную тэму, а пасля яго літаратурная частка. Памаленьку чытаюць і нашыя хлопцы, але нам слухаць іх не так ужо і цікава, бо заўсёды выступае нехта сапраўды знакаміты. Увосень прыязджае з Масквы Дубоў-

ка — мы ўсе ведаем яго, чыталі «Строму», але пабачым упершыню. Народу набіваецца поўна, клуб стогне і рыпіць. Невялічкая сцэна, цемнавата, адна слабенькая лямпачка, гул. Раптам — выгукі: Дубоўка! Праз натоўп праціскваецца паэт: высачэзны, шыракаплечы, такі даўгі, ажно сутуліцца, але ўсё роўна галавой падпірае столь. Становіцца пасярод сцэны — свабодна, вольна, прыгожа. Шапка русых валасоў, далікатная ўсмешка, сінія вочы з-пад крыху ссунутых да пераносся, нібыта напружаных броваў. Зала доўга не супакойваецца, Дубоўка падымае руку — дайце ж сказаць! Нарэшце цішыня.

Дубоўка чытае гучна, выразна, пасылаючы словы адначасова кожнаму слухачу з сотні — па-маскоўску. Бачна, што ён дасведчаны выступоўца. Грасіруе, неяк незвычайна вымаўляючы «р». Вершы незвычайныя: гэта не Паўлюкова прыгожая мелодыя, не скарагаворка Глебкі, кожны радок — нечаканасць, здзіўленне, навіна. Так у нас ніхто не піша, але ж адчуваецца, што менавіта гэта — вершы новага дня. І ў зале расце хваляванне, бо кожнае Дубоўкава слова выклікае спачатку здзіўленне, потым — пратэст, а потым — радасць. Мы пляскаем у далоні, адбіваючы іх дашчэнту, нашы хлопцы, Каратай і Глебка, глядзяць на сцэну ў нейкім дзіцячым захапленні і з прыхаванай рэўнасцю.

Слухалі Чарота — самага папулярнага тады. Нам ён падабаўся болей за Купалу, болей за Дубоўку, болей за Крапіву. Чарот быў тады зусім яшчэ малады і вельмі прыгожы: высокі, тонкі, кучаравы, з пранізлівым позіркам і тонкімі рысамі адухоўленага твару. Ягоныя фотаздымкі — вялікія вочы, даўгія валасы, пяшчотныя вусны — віселі шмат у каго ў хаце, і некаторыя думалі, што надпіс «М. Чарот» чытаецца як «Марыля Чарот». Чытаў ён напеўна, падвышаючы голас на канцы радкоў, але час ад часу, дзе было трэба па аўтарскай задуме, пачынаў рубіць радок, нібыта ставячы кропкі пасля кожнага слова. Гэта агаломшвала. Не ўсе мы разумелі сэнс Чаротавых вершаў, ай, папраўдзе — нічога амаль не разумелі, пыталіся, ён тлумачыў, але ўсё роўна было не надта зразумела і ад таго — добра. Залы, у якіх чытаў Чарот, былі заўсёды паўнюткія. Аднойчы быў у нас і Дудар. Я крыху спазнілася, і месца мне дасталося зусім дрэннае — ля ўваходу, сярод спазніўшыхся, за спінамі хлопцаў з трэцяга курса. Былі б побач нашы — яны выцягнулі б мяне наперад, але яны ўсе цішком сядзелі ля імправізаванай сцэны і ўратаваць мяне не маглі. Таму Дудара я і не бачыла, толькі чула: мяккі высокі голас, душэўны, з прышэптам. І нічога не зварухнулася ўва мне тады.

Найчасцей за ўсё хадзілі да Глебкі на Мацвееўскую, цераз чыгунку, у старэнькія драўляныя дамкі. Іншы раз за хлопцамі ўвязваліся і мы з Зінай. Глебка кватараваў у цёткі з ягонай Вялікай Усы, якая калісь выйшла замуж у Менск за прыгожага вусатага чыгуначніка (Глебка жартаваў: «Дзеўка з Усы пайшла за вусы»). Цяпер гэты чыгуначнік, агромністы дзядзька, раз-пораз заходзіў у пакой, дзе нас набівалася бітма, сядаў за

стол і пачынаў пытацца: «Ну, што. Знача, вучыцеся, так. І што кажуць вам там? Ага. Знача, кажуць, па-нашаму цяпер усё. Ну?» Хлопцы пачыналі сыпаць жартамі, вусы яго дрыжэлі, ён ціха пасмейваўся, потым выбухаў сіплым рогатам, махаў рукой і сыходзіў у нетры хаты. У Глебкі заўсёды быў вэрхал і бардак, на стале маглі стаяць побач з талеркамі латаныя чаравікі, а на ложку гарой ляжаць кніжкі і новыя блішчастыя боты, і ён, здаецца, так і падаў спаць, выпрастаўшыся сярод гэтае гары. У Пётры ніколі нічога не было паесці, пілі кіпень, калі быў — з цукрам, прыносілі нешта з сабой, але часам Глебка быў толькі што са сваёй вёскі, і тады можна было паласавацца: мама ягоная пекла надта смачны хлеб, а яшчэ давала з сабой і каўбасы, і грыбоў. Спрачаліся, чыталі вершы, пляскалі ў далоні кожнаму, хто рыфмаваў хоць бы радок, а болей за ўсё рагаталі, а яшчэ спявалі, бо Глебка і Трус былі заядлыя спевакі, дый і ўсе любілі падцягнуць.

## РЭДАКЦЫЯ. «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

Калідор цёмны, сыры, летам тут добра, а зараз лістапад, рукі і ногі стыгнуць адразу, але ты зазірні ў пакой. А ў любы зазірні, няма розніцы, ў які — у кожным ажно горача. Ці ў той, у якім трашчыць машынка і нейкі хлопец, прымасціўшыся на стале, дыктуе дзяўчыне тэрміновае ў нумар; ці ў той, за якім гвалт і рогат, і папіросны дым клубамі пад столь; ці ў той, дзе за шурпатымі сталамі, заваленымі вузкімі стужкамі жоўтай паперы, сядзяць, унурыўшыся ў газетную паласу, сур'ёзныя дзядзькі; ці во сюды, дзе стаіць ля акна такі самы шурпаты, як і астатнія, стол, ля яго крэсла, і на тым крэсле моцна сядзіць высокі стромкі кучаравы хлопец з вострымі рысамі сур'ёзнага твару і ўпартымі чорнымі вачыма. Ён бесперапынку смаліць, на падаконніку чакае яго таўшчэзны чорны партфель, во зараз ён дачытае паперчыну, чыркане на ёй візу — і памкне ў ЦК.

— Таварыш, гэта браць мы не будзем, — не выпускаючы папіросы, ціха, але цвёрда кажа ён маладзёну ў кажушку, працягваючы паперку. — Хлопцы ўсё слушна сказалі табе. Не падыдзе. Няма чаго ногі біць. Я табе насценгазета ці што? Зразумей, таварыш, цэнтральная газета. На ўсю рэспубліку выходзім. Тут якасць павінна быць. Давай да вас карэспандэнта пашлю, няхай вывучыць вашае пытанне, разбярэцца, напіша як след, але тое, што ты прынёс, узяць не магу.

Не, відаць, не будзе візы.

— Таварыш Чарот, ячэйка прыслала да вас, сход быў, рашылі тамака, трэба надрукаваць, казалі...

— Таварыш, ты адцягваеш мяне ад спраў. Ідзі ў карэспандэнцкі аддзел, аддай хлопцам, няхай нешта робяць з гэтага.

Устае, вокамгненна накідвае шынель. Партфель ужо ў руцэ.

— У трэцім пакоі запытайся Пашковіча, няхай паглядзіць.

— Сказалі яны, заўтра каб у нумары... — цягне пакрыўджана.

— Сказаў, Пашковічу аддай.

Дзверы разнасцежыў, нецярпліва чакае. Маладзён, панылa ўздыхаючы, выходзіць. Пашковіч яшчэ нейкі. Зноў прасі, тлумач.

Дзверы моцна грукаюць — скразняк.

— Міхась, куды? — з пакоя насупраць кудлатая галава.

— У ЦК, потым Інбелкульт, сёння не вярнуся ўжо. Нумар ужо на машыне, чакайце тут. Кіруй без мяне да заўтра.

— А, дык з'езд жа сёння?

— Сёння, ну. Усё, няма мяне.

І пайшоў цвёрда сырым цёмным калідорам праз цыгарэтны дым і грукат машынак.

З прыступак сыходзіць таксама цвёрда, хоць іншы раз хочацца саскочыць цераз чатыры адразу на брук, але ж — галоўны рэдактар. Трэба прымушаць сябе не скакаць цераз прыступкі. Справа сур'ёзная. Адна, дзве, тры, чатыры. Адчуць кожную падэшвай. Вуліца прыцярушана лістападаўскім снегам і пасля рэдакцыі б'е ў нос свежым марозным пахам.

Гэта ягоны горад. Не Рудзенск, хоць там калыска. Не Маладзечна, нягледзячы на семінарыю. Не Смаленск, адкуль вера і партыя. Гэты горад — ягоны. За пяць гадоў угруз у Менск па самую макаўку. Дый горад гэты яго таксама любіць: вітае гарачымі воплескамі на сцэнах рабочых клубаў, цісне руку ў халодных кабінетах, глядзіць чорнымі бліскучымі вачыма з цемры начной вуліцы. Аня, ганарліўка, а будзеш мая.

Мо і не каханне гэта — упёрся. Прыгожая, гордая, тонкія пальцы. З тых, хто звысоку паглядаюць на даматканыя світкі і нагуталіненыя боты. За польскім часам гэткія паненкі круцілі з афіцэрамі, смяяліся ўголас у Аляксандраўскім скверы, моршчылі носікі, мінаючы рамізнікаў. Цяпер паглядае на яго чорнымі вочкамі, перабірае карункі на спадніцы тонкімі пальчыкамі. Аніны вочы свідруюць душу і там, у рэдакцыі: зачапіла, і не на жарт. І каб хто! Не таварышка яму, не паплечніца, дзяўчо, прыгажуня, шляхцянка ад насочкаў да грабеньчыка, але ж не какетуе, не фігуруе, глядзіць толькі вільготнымі вачыма. Не толькі на яго. А будзеш — мая.

І цягне жылы ўспамін — Алеся. Аня гарачая, вострая, яркая, Алеся — мяккая, круглавокая, уся з адценняў, такая родная і свая ў занятым палякамі Менску. «Я не на вас гляджу, на кашулю вашую,

нам для хору патрэбная, мо прадасце?» — «Прадаць не магу, бо іншай не маю, а як падабаецца, бярыце разам з кашуляю і мяне, я ж і спяваць умею». Паглядзела на яго строга, паціснула плячыма, павяла. Толькі дзеля яе хадзіў паўсюль: і да Тэраўскага, і ў «Хатку». Удзень адпускала, удзень круціла і падымала над брукам рамантыка супраціву: у чыгуначнае дэпо з антыпольскімі лістоўкамі, адтуль да сувязнога з раскладам руху эшалонаў, адтуль па вуліцах, углядаючыся ў твары і пагоны афіцэраў, адтуль у непрыметную хатку Татарскай слабады, дзе ў напаўразбуранай адрынцы стаіць зацярушаная сенам паверх покрыўкі машынка, на якой будуць надрукаваныя новыя лістоўкі. Але як толькі шарэе, пачынае цягнуць тугою — па Алесі. Год хадзіў навокал, мучыўся, баяўся, нічога ў жыцці не баяўся — баяўся толькі Алесі, але яна не давала надзеі ніякай: ані ўсмешкі ласкавай, ані слоўца. Усе бачылі, што Чарот ажно падае за той Алесяй, бачыла і яна, але — нічога. І як сабраліся на Свіслачы паліць вогнішча ў купальскую ноч, пастанавіў злавіць яе, як скокне цераз агонь, а значыцца, патрабаваць свайго пацалунку. Стаў за дрэвам. Яна разбеглася, скокнула, смелая, прыгожая, скочыў і ён са сваёй засады — і яна апынулася ў ягоных абдымках. Ажно зайшлося ўсё ўнутры, як сціснуў яе прагнымі рукамі. І яна моўчкі, раз'юшана адбілася ад яго і пайшла — не пабегла — назад, да дзяўчат. Не аддала законнага пацалунка. Агаломшаны, разгублены, пaглядаў на яе потым, адчайна п'ючы з хлопцамі, а як пад раніцу пабеглі дзяўчаты купацца, прабраўся хмыззём і глядзеў, як распранулася яна, засталася ў адной белай кашулі, увайшла ў ваду і паплыла белай стронгаю між серабрыстых каменьчыкаў, што свяціліся пад месяцам.

Аддаў яе проста, ані слова не сказаў услед. Як паказвалі ў Маскве «На Купалле» — шалёны поспех, прыёмы, узнагароды, банкеты, выступы, галава кругам ад славы, ад словаў, ад вышыні тых, хто ціснуў руку і гаварыў прыязна, — на хвіліну нейкую выпусціў яе з поля зроку. Два дні не бачыў яе, а на трэці прыбег у гасцініцу Жэнька Рамановіч: «Міхась! Алеся замуж ідзе!» Кінуўся ў інтэрнат, дзе атабарыўся хор, але дзе там — няма Алесі. Праз два дні заручыны. Пастпрэд Мароз. Дыпламат, высокага палёту птушка.

Але ж годзе. Мінула, прайшло. Не пра тое зараз.

Месяц, як ён на пасадзе рэдактара. А здаецца, ці не ўчора выклікалі ў ЦК для гутаркі. Яны з Гартным толькі вярнуліся з Нямеччыны, яшчэ нічога не паспелі ў Менску зразумець, нічога не паспелі пачуць, зарыентавацца. Думаў, так сабе клічуць, пра Германію запытацца, навіны дачуць з першых вуснаў. Ну, спачатку, натуральна, пыталіся: што, як, становішча, перспектывы. Потым асцярожная

гутарка: ну добра, паэт, ну так, «Маладняк», а можа, нешта больш сур'ёзнае? Мы тут параіліся...

А ён жа нічога не бачыў і нічога не чытаў: ані таго артыкула Трамповіча, праз які паляцела долу галава рэдактара Шыпілы, ані адказу рэдакцыі, нават прозвішча адказнага рэдактара на апошняй старонцы «Савецкай Беларусі» неяк не заўважыў, а там пяць дзён ужо «часова выконвае абавязкі А. Самахвалаў». «Мы падумалі, Міхась Сямёнавіч, што вы як камуніст, як чалавек, добра вядомы людзям, чалавек, якому давярае чытач, як чалавек, які добра разумее, што, размаўляючы з людзьмі са старонак газеты, трэба быць асцярожным і памяркоўным... Нічога, мы падвучым... Нічога, мы дапаможам... Не хвалюйцеся, вам заўсёды будзе з кім параіцца...» Адтуль да Язэпа Адамовіча, дамоў — справа неадкладная. Там, нібы сонца, усміхаецца Адамовічава Зося, накрывае на стол, мільгаюць яе пяшчотныя поўныя рукі: «Частуйся, таварыш Чарот, справы пачакаюць!» Накрыла і пайшла. Мужчынскія справы, а Зося, хоць і пры пасадзе, але зараз сыходзіць, нібыта маючы справы. «Няма чаго тут думаць, Міхась, трэба брацца. Тут, разумееш, палітыка».

Прыгожая ў яго Зося! Дзіва што Маякоўскі быў закаханы ў яе, як жыла ў Маскве. Такіх прыгожых болей і не сустракаў, здаецца: вочы нібы азёры ў сонечнае надвор'е, зіхацяць цёплым пераліўным святлом. Мяккая ўся, пяшчотная, усміхаецца адкрыта, таксама сонечна. Прыгожая.

А які ўсё ж час!.. Свой. Ці думалася калісь, што будзем гаспадарыць у часе? Усё робім сваімі рукамі. Як толькі ты моцны і ведаеш, чаго хочаш, дык увесь свет перад табой. Краіна будзе такой, якой мы яе пабудуем. Трэба толькі ў шапку не спаць і чужакоў своечасова па лапах біць. І — слова. Слова сваё ўзмацняць і трымаць надзейна. Каб не думалі, што будуць памыкаць намі, што зноў беларуса заганяць пад венік. Масква — яна, вядома ж, Масква. Але і мы тут не зломкі.

І без Масквы свае справы варочаем. Літаратуру ўзяць. З анічога, з кален, з трох балоначак «Нашай нівы», з худзенькага таго «Смыка беларускага» — а як хлынула, якой хваляй пайшло! «Прыйшоў Чарот, за ім семсот» — заўсёды ўсміхаецца, калі чуе гэтую прымаўку. Зразумела, не семсот, можа, і не пяцьсот, пра якія сёння на з'ездзе трэба сказаць, але ж усё роўна: шэсць хлопцаў два гады таму проста прыдумалі самі для сябе «Маладняк» — якая махіна сёння! На ўсю Беларусь. І ніякай Масквы не пыталіся.

А газета? Чорт яе ведае, як яна робіцца, але ж робіцца! Так паглядзець — сядзяць хлопцы, могуць і на сталах, точаць зубы аб знаёмых, калі-нікалі лошыцкае віно наліваюць, цягаюць туды-сюды жоўтыя

даўгія стужкі паперы, рагочуць, спрачаюцца, смаляць, а кожны дзень газета. І нішто сабе такая. На ўсю краіну, як што, гамонка ідзе.

А вось зойдзеш калі – нібыта і ціша ў рэдакцыі. Сталы, на іх паперы вэрхалам, за імі – людзі. Вось Пашковіч унурыўся ў жоўтыя стужкі, нешта вычытвае, а можа, так, праглядае, бавіць час. Побач – Каплан. У таго праца кіпіць, ажно, здаецца, дымам пойдзе зараз: тут ён алоўкам угрызаецца ў паперчыну, тут ужо глядзіць на нейкага хлопца, які матэрыялізаваўся аднекуль з шэрым сшыткам у руках, тут ускочыў і цвёрдымі крокамі пратупаў у машбюро, тут вяртаецца адтуль з празрыстай паперай, па якой фіялетавымі літарамі бяжыць ужо заўтрашні нумар, і зноў аловак ірве паперу, бо і тут не тое, і там не так. Трэці стол – тут схіліў галаву Дудар. Рэдка пабачыш хлопца: ён усё ў бягах ці ў хадзе – не можа сядзець на месцы чалавек, трэба хадзіць, хоць бы па калідоры. Артыкул які, дык будзе дзень па Менску кругі наварочваць, верш – па Савецкай прабяжыцца да Свіслачы і назад, нататку – можна і па калідоры выхадзіць, але каб не сядзець толькі. А як трэба з кім сустрэцца, селькара прыняць ці ў рэдактара на нарадзе, дык усё круціцца, падскоквае, а то і пасвіствае, нібыта і не слухае зусім. «Таварыш Дайлідовіч, а ну сціхні!» Тады сціхне, глядзіць, вачыма паслухмяна міргае, але праз хвіліну – за сваё. Толька Вольны тут жа, часцей за ўсё на падаконніку, у Дудара за спінай. Гэты кожную хвіліну напагатове: як што языком перабраць ды прыпячатаць. Няма такога, каб паўз Вольнага якаясь навіна прайшла і цэлаю выйшла. Перакруціць, перайначыць, рогат у рэдакцыі стаіць – на вуліцы чуваць. Але яго, Чарота, слухаюцца. Зайсці, зірнуць толькі. Парадак.

Ад каго пачуў пра сябе – Міхась Вялікі? То добра. Аня, мо за тое і глядзіць.

А мо за тое, што цягнецца за ім памятка: гэта ж ён, Чарот, збіраў паўстанскія атрады супраць палякаў на Рудзеншчыне, гэта ж ён выходзіў адзін на адзін з польскай дыфензівай тут, у Менску, гэта ж яго, Міхася Кудзельку, шукалі па менскіх дварах узброеныя да зубоў «канаркі». Эх, якая была маладосць! Баявая! Туманяцца вочы дзяўчат, як нехта распавядае ім пра Міхася Чарота, а сам герой сядзіць побач і махае толькі рукой на апавядальніка: досыць ужо, пакінь, што там...

Пакрысе абрастае газета людзьмі. Толька Ажгірэй-Вольны, у гэтага зуб востры, пяро хвацкае, каго заўгодна ўгрызе. Такіх трэба пад рукой трымаць, без іх газета не жыве. Мо як паэт Вольны лепей бы ў рыфму і не пісаў, але журналіст з яго добры і таварыш вясёлы. Дудар хоць і ляпае языком направа і налева, ніякай палітыкі не разумее, але ж таксама каштоўны кадр: калі ўжо піша, дык

па справе. Каплан – той наогул надзейны, як зубр, на яго і газету пакінуць не страшна. Дубоўка добра, што заходзіць, і добра, што ў Маскву з'язджае своечасова. Гэты ўсё пад сябе падамне, дай толькі волю яму. Неяк быў сеў у рэдакцыі з Вольным, Бабарэкам і Дударом і абмяркоўваў склад рэдакцыі: каго памяняць, каго пакінуць. Сур'ёзна, як усё ў яго. Адкуль такі хвацкі? Яшчэ тады, у Маскве, у Пастпрэдстве заўважаны быў: малады, даўганогі, галавой пад столь, гаспадаром пачуваецца, нават Мароз, як нішто, да яго: «Уладзік, а тут давай... а гэта як... а гэта падкажы...»

Але ж людзі – то людзі, і тыя людзі, і вышэй – таксама. Хлопцаў яшчэ прышчучыць можна, а вось тыя, хто вышэй, – тут трэба асцярожна. Шахматы, не інакш, пралічваеш тры хады наперад. Не трэба спяшацца, хлопцы, не трэба крыкаў і пырскання слінай, так справы не робяцца. Усюды людзі, да кожнага патрэбны падыход. Ага, скажы ім такое – будуць рукамі махаць, гаманіць: «Русацяпства! За партфель прадаўся!» А як што здарыцца, бягуць да яго, аднаго разу ажно ў Маскву начным матанулі: Міхась, дапамажы, ціснулі артыкул, а ўвечары ўжо Васілевіч у рэдакцыі бушаваў. І так, калі паглядзець, Васілевіч – наркам гандлю, няма ў яго права па рэдакцыях шумець, а глядзі ж ты. Не ўсё так проста, хлопцы, тут трэба спакайней.

Пагардліва сплёўваюць за спінай, як шчанюкі, пазвягваюць, іншы раз з жалем глядзяць, маўляў, за партфель прадаўся. А партфель – таксама рэч патрэбная. Шмат зробіш, седзячы на падаконні і пагардліва сплёўваючы. Кожны пляце свой венцер на сваю рыбу. За вялікай рыбай з вудай не ходзяць. Там, дзе вырашаюцца пытанні, не сядзяць на падаконнях. Гэта ім падаецца, што яны – сіла і будуць рабіць тое, што захочуць. Добра, вядома ж, няхай падаецца, але маладое гэтае, дурное, неабдуманае няхай у «Маладняку» выплёскваюць, а што яны могуць разумець сапраўды ў тым, што адбываецца.

З аднаго боку, пліты тэктанічныя рухаюцца, перасоўваюцца матэрыкі. Геапалітыка. З другога – вельмі важна зараз воля аднаго, канкрэтнага чалавека, які бярэ на сябе адказнасць. БССР, калі паглядзець з пазіцый чалавечай біяграфіі, стварылі тры чалавекі. КП(б)Б – два. Звычайныя людзі, якія ў гэтыя дні, як упершыню стваралася незалежная дзяржава, можа, хварэлі жыватом ці зуб у каго цягнула. Але яны апынуліся ў радку, які пісала гісторыя, і здолелі зарыфмаваць другі радок па-свойму раней за іншых. Знайсці адпаведнае слова. Сказаць адпаведным людзям. Рашэнне – як верш. Яно шмат ад чаго залежыць, шмат чым жывіцца, шмат адкуль расце, але мала хто ўмее ў адным апошнім напружанні зрабіць з гэтага ўсяго справу. А гэтыя і вершы так пішуць – горлам: э-ге-гей, рэвалюцыя,

чырвоны сцяг, паскакалі па касцях. Сам так пісаў. Крык адзін, а не роздум. А ўсё ж добра з імі. Зараз у Інбелкульце — забыцца на ўсё: на Аню, на Алесю, на Васілевіча, на рэдакцыю, кінуць са сцэны ў залу звонкія радкі, слухаць дыханне натоўпу, глядзець на твары, хоць бы на гадзіну якую не думаць пра ўсе гэтыя мае шахматы. Ці не пайсці з імі ў «Бельгію» ўвечары, га?

## ГОРАД. ПРАВАДНАЯ

Вуліца Праваднная выцягнулася стромкай стужкай уздоўж рэек тэхнічнай веткі, што злучае Лібава-Роменскую і Маскоўска-Брэсцкую чыгункі. Гэта менская ўскраіна: цераз вуліцу Маскоўскую — Уборкі і лес. Затое пераскочыў Лібава-Роменскую — і ты ў цэнтры, дзесяць хвілін, калі не надта спяшацца, да Захар'еўскай. Гэта калі табе па нейкай патрэбе ў горад — у гімназію, прыкладам, ці ў гандлёвыя рады патаўчыся. Калі ж такой патрэбы няма, Праваднная — цэлы свет, асабліва калі табе дзесяць гадоў.

У чатырнаццатым, перад вайной, дамы тут стаялі рэдка, але грунтоўна — пры гародах, у садах. Народ жыў не тое каб багата, але сыта: шасталі куры, рохкалі парсючкі, уздыхалі гладкія каровы. У падпамосцях — бочкі з салёнымі агуркамі і грыбамі. Над печчу — каўбаса. Насельніцтва — спрэс чыгуначнікі, людзі пры грошах і працы. Жонкі ў іх мажныя, суровыя, дзеці чысценькія, за гарадскіх.

Ад Праваднной да Маскоўскай цягнуцца завулкі, сцежкі, вузенькія праходы між плотаў, і калі ты, прыкладам, Зверабой, а Толька — Чынгачгук, то вы можаце пераследаваць адзін аднаго з ранку да самага вечара, асабліва калі твая маці не трымае гусей, а значыцца, ты пакуль што вольны ад абавязкаў пастушка. Калі пераскочыць цераз Маскоўскую, зазяваўшыся на якія паўгадзіны на коней, калёсы і далёкія паравозы, будзе Францысканскае балота, на якім у густым зарасніку стаіць буданчык з чароту, а ў ім — драўлянае ружжо, лук са стрэламі і наогул усё, што належыць мецъ Зверабою і Чынгачгуку.

Пятнаццаты дом — ледзь не самы вялікі на Праваднной, на тры кватэры, кожная з асобным уваходам, з вялікай печчу і прасторным, высокім гарышчам, на якім гаспадыні сушаць бялізну і складаюць старое, але нібыта патрэбнае яшчэ ў гаспадарцы ламачча. У першай кватэры — Лізнеўскія. Гэтая будыніна — іх хлеб і будучыня. Стары Лізнеўскі, якога акурат мінулай зімой звезлі ўжо на могілкі, будаваў з далёкім разлікам: каб можна было здаваць вялікія, добра падагнаныя пад сямейныя патрэбы пакоі заможным, моцным сем'ям, а не

рэзаць будыніну на кавалачкі і валтузіцца потым з кватаранцкай галотай. Самі Лізнеўскія з пакалення ў пакаленне заўсёды былі адразу пажылымі, маўклівымі людзьмі з жорсткімі, нават аскетычнымі характарамі. Бывалі ў іх і дзеці, але яны ніколі не шумелі, не бегалі, неяк хутка выраслалі і адразу, мінаючы маладосць, станавіліся старымі, бралі сабе гэткіх жа жонак ці мужоў, і таму ў пятнаццатым доме на Праваднай заўсёды было добранадзейна, ціха, дысцыплінавана і заможна. Гародаў сваім кватарантам Лізнеўскія не дазвалялі, хіба плашку пад цыбулю, але худобу трымаць у акуратных, пагабляваных хлеўчуках можна было, і нават куры хадзілі па тым лужку, што ў іншых умовах меўся б стаць гародам.

Дайлідовічы пасяліліся на Праваднай у трынаццатым годзе. У трэцяй кватэры ўжо жылі — таксама чыгуначнікі, прыгожы малады дзядзька з жонкай і малымі, а з другой — толькі-толькі выехала сям'я, якой не ставала грошай аплачваць гэткі палац. У Дайлідовічаў грошы былі. Яны выкарасквaліся з галечы і нэндзы амаль дзесяць год і, здаецца, нарэшце выкараскаліся. Сам гаспадар, якога ўсе спакон веку, з маладых яшчэ гадоў, звалі Станіслававічам, ціхі і ветлівы чалавек, якраз уладкаваўся ў кантору Маскоўскай чыгункі, гаспадыня, прыгожая, высокая і ладная жанчына, была цяжарнаю, чакала другое дзіця. Старэйшы, спрытны і вёрткі, бы верабей, хлапчук, круціўся ля маці і ўдаваў бы перад старой Лізнеўскай пай-хлопчыка, каб не хітрушчыя вочы. Нават неяк трывожна стала Лізнеўскай, але чаму — цяжка зразумець. Добрая сям'я, прыстойныя людзі. А што вочы хітрушчыя — то бывае. Ну, Іванаўна, пойдам, пакажу кватэру. Рэчы гэта ўсе, што з сабою? А, падвода будзе, то добра, бо мэблі не дамо.

Ну, хадземце, там якраз чыста прыбрана, ужо чакалі.

Яна ўжо «Іванаўна», а як пачынала свой шлях да нармальнага жытла, дык яшчэ была Волькай. А ну нічога. Яшчэ дзесяць гадоў — і ў мяне будзе свой дом.

Ля ўвахода, пад акном, расце маладзенькая тапола, цераз сцежку — дворык, два хлеўчыкі, праход паміж імі — і ладны лапік здзірванелай зямлі, прыгожы лужок. Тут было б добра бульбы пасадзіць, але яна ўжо ведае, што нельга. Па баках — кусты смароды, вішняк, яблынькі, то, значыць, будзе дзецям ягады парваць. Па прыступках — тры, невысокія, моцныя — падымаецца ў прахалоду вялікага драўлянага дома.

— Во тут, адразу направа, бач, у асобны пакой уваход. Ён дык невялікі, але акно ў двор, ціха. Грэцца — грубка, во дзверцы, тут, у калідоры, дык цёпла будзе і там, і пры ўваходзе. Глядзі, Іванаўна, падпамосце — адразу тут, пад нагамі, асцярожна, асабліва каб

падшыванец твой не ўваліўся. Зараз налева – тут асноўная кватэра. Тут вялікі пакой, во печ табе, хочаш – вары ў ёй, хочаш – ляжы на чаранку. А тут во, налева, маленькі. Гэты на вуліцу вокнамі, крыху шумнейшы. Як вы тут размесціцеся, мне ўжо няважна, але каб цішыня, Іванаўна, пастарайцеся, і чыстата.

Воля акідвае поглядам пакой. Яна ўжо бачыць: тут машынка стане, нават і манекену будзе месца, тут – стол той вялікі, што з самай Талі за імі едзе, тут куфры, і яе дзявочы куфар, з дому яшчэ, у маленькім пакойчыку покуль будуць разам, потым аддадуць дзіцяці, а ў асобны пакой Шурка няхай засяляецца, бо хутка ж вучыцца будзе, трэба хлопцу ўжо і месца сваё. Годзе па кутах бадзяцца, будзем жыць.

Да сёння насіла іх па Беларусі нібы ветрам. З роднай Талі павёз яе муж на Палессе ў арандатары: там зямля, там сытней. Але не затрымаліся, пажылі толькі некалькі гадоў у Навасёлках, адчайна выгрызаючы кавалачак зямлі ў кустоўя, якое ім у арэнду тую, каб яна правалілася, далі. Разваленую хатку на выселках, дзе нарадзіўся Шурка, яна ўспамінала з жахам: у гародзе жылі вужы, з блізкага балота хмарай ляцелі камары, увесну, ажно да самай Сёмухі, стаяла ў градах вада, і рукі, якімі кожны дзень драла з зямлі пырнік, зводзіла сутаргай. Толькі на Прыпяці, як пойдзеш з бялізнай, крыху адціскала ад сэрца, і яна тады ціхенька плакала ад прыгажосці ракі і шкадавання да сябе. Паехаць у Навасёлкі – гэта было адзінае рашэнне, цалкам прынятае гаспадаром сям'і. Пасля Навасёлак рашэнні прымала толькі Воля.

Яна нават не ведала раней, што так умее: сказала – зрабіла. Гэта ўжо як з'явіўся муж і сынок, Мішка. Сынок гэты там і памёр – прыгожы хлопчык з сур'ёзнымі вачаняткамі. Худы быў, еў мала, і першая ж хвароба цалкам згрызла яго. Яна тады вырашыла: у мяне ўсе будуць добра есці.

Іншы раз яна адчувала сабе не чалавекам – паравозам, які будзе імчаць наперад, нават калі навальніца, завіруха, полымя ці вада. Для паравоза галоўнае – рэйкі. Воля заўсёды ведала, чаго яна хоча. Сытасці, цяпла, прыгожага адзення для ўсіх.

З Навасёлак яна выцягнула сям'ю ў Таль: вёска вялікая, мо дзе ўдасца знайсці працу. Шурка ўжо бегае, рукі крыху развязаў. Алесь, бацька, уладкаваўся ў краме прадаўцом: чалавек разумны, падлік пісьмо ведае, да таго ж прышлы, напавер нікому даваць не будзе, узялі яго. Воля пайшла па камяніцах: каму прасці, каму прасаваць, нічога не баялася, ніякай працы. Жылі, капейчыны дарэмна з кішэні не вымалі, складалі грошык да грошыка. З горада прывезла Воля сабе манекен і калодкі і стала шыць складаныя сукенкі і простыя

абутак. Хутка цесна стала ім у Талі: бедная вёска, бруд, сум. Аднаму Шурку воля: гусей-парсючкоў няма, пасвіць не трэба, з раніцы да ночы гойсай па ваколіцах, цераз мост у чырвоны бор ці залаты асіннік. Там, у Талі, наладзіўся Шурка сям'ю карміць — цягаць з празрыстай глыбакаватай рачулкі тоўсценькіх верхаводак. Але ж і навару з такой дапамогі... Жылі, як і ўся Таль, бедна. Воля заўсёды ведала, што такога не хоча, і цярпення не мела скарацца. Селі на цягнік аднаго разу. Гэта ўжо ў іх чамаданы два былі і Волін куфар, у якім і наткана, і нашыта, мелі ўжо нешта за душой і за пазухай загорнутыя ў ручнік кацярынкі. Покуль іх яшчэ за секунду пералічыш, раскінуўшы невялікім, на далонь, веерам, але ўсё ж.

Прыехалі ў Мар'іну Горку. І тут Алесь-большы пайшоў да крамы, і тут узялі. Спрытны і сумленны прадавец заўсёды патрэбны, асабліва калі тавар — віно і гарэлка. Побач — вакзал, кантора. Чыгуначнікі — людзі заможныя, паважаныя, чыстыя, асабліва хто пры канторы. Воля, беручы замовы на шыццё ад гаспадынь чыстых дамкоў ля чыгункі, усё прыглядалася: спраўна, добрае жыццё. Гэта табе не хмызняк драць голымі рукамі па калена ў вадзе. Кожны вечар пачала гутарку заводзіць. Муж пахмурнеў: ён дык і ў Навасёлках жыў бы. Жывецца ж добра, знялі пакой вялікі, не ў хаце ўжо, камяніца, што табе? Але Воля не з тых, хто спыняецца. Яна хоча сабе і сыну лепшай долі.

Гэта яе генеральная лінія, якую яна бачыла з таго дня, як стала жонкай: за ёй сям'я павінна быць сытая, апранутая-абутая і ў цяпле. Што б там ні было. Яна ўстае на світанку, хоць няма ў яе худобы гнаць у поле, але як толькі крыху развіднее ў хаце, яна мые, чысціць, беліць, шые, цыруе, прасуе, бяжыць на рынак прадаць нашытае, потым да гаспадынек, з якімі дамова: адной прасцінак нашыць, другой сыну вышыванку. У Волі залатыя рукі: яна і вышывае, і вяжа, і пляце. Хутка, як з'язджала адна сям'я ад вакзала, набыла ў іх машыну «Зінгер» — сапраўдную, нямецкую, цяжкую, золатам блішчаць узоры па баках і фірмовыя жабкі скачуць. Яшчэ шпарчэй пайшло ў Волі шыццё: сукенкі, кашулі, штаны — усё яна ўмее. Нейкі сакрэт ведае, каб села па фігуры. Ходзяць да яе гаспадыні, цяпер ужо не так і хутка пералічыць тое, што закручана ў ручнік. Увечары — ля печы: нагатаваць, каб было на ўвесь дзень. Заўсёды ў яе ў чыгунах закрашана, заўсёды да таўчонікаў — сала ці каўбаса, яна выпнецца з сябе, каб толькі было сыта і цёпла. Яна ведае, што гэта яе справа, і яна ў яе атрымліваецца, і ёй добра. Мужчыны яе, Алесь-большы і малы Шурка, супраць яе слова не скажуць, бо ведаюць, што сям'я на ёй трымаецца. Слова яе — закон. «Волька-грэнадзёр!» — пасмейваецца гаспадыня, у якой жывуць: як набудуць новыя боцікі Волі,

дык яны нават не шнуруюцца, бо моцная нага, у фабрычныя халяўкі не лезе.

І неяк само абярнулася, дачулася: у менскую кантору набіраюць служачых. Узялі ліст ад крамніка, маўляў, Аляксандр Станіслававіч Дайлідовіч, работнік добры, адказны, сумленны. Нанялі падводы. Да Менска недалёка, коньмі даедзем.

Так апынуліся на Правадной.

Шурка адразу ўнурыўся ў свой пакой. Бегае па перыметры ў вялікім хваляванні, не можа спыніцца. Маё! Цэлы мой дом! Тут пастаўлю стол, тут крэсла. Не, во тут. Ці не стол. Тут змайструю будан, буду ў ім жыць. Ды чорт яго ведае, як валодаць цэлым уласным сваім пакоем, калі табе дзевяць гадоў! За сценкай – тупаценне, рыпенне, грукат, мама нешта шоргае, ставіць, цягне. «Шурка!» – то фурманка ўжо, пэўна, прыйшла! Рэчы забіраць!

О, як добра памятае ён той дзень, у які сустрэў яго Менск і падараваў адразу цэлы пакой у пятнаццатым доме на Правадной. Адусюль, любым, у любы час – толькі сюды цягне. Нават заплюшчыўшы вочы, нават не памятаючы сябе. Тут – крэпасць і гавань, свой сусвет. Пад акном – высокі ўжо, магутны, на тры ствалы клён, па сцяне – кніжныя паліцы, да столі забітыя кніжкамі, у куце, ля грубкі, ложак, ля яго – спінкай да кніжак – крэсла, стол. Паліцы бацька пазбіваў сам, як вярнуліся з эвакуацыі, бо ўсе грошы свае, якія траплялі ў рукі, траціў сын ужо на кніжкі, а ставіць жа трэба куды.

Тады, як пачалося менскае жыццё, мама пачула на вуліцы, што чыгунка дае грошы на навучанне дзецям служачых. І бацьку пасылала, і сама, апрануўшы прыгожую сваю, шляхетную сукенку з вялікім каўняром і гладкай серабрыстай брошкай, хадзіла некуды, і нарэшце грошы далі, і ён трымаў экзамены ў гімназію Фальковіча і Зубакіна. Мама ў хваляванні хадзіла па двары, усё прыціскала рукі да расчырванелага твару. Суседзі – дзядзька Уладзь і цётка Ядзя – прыбеглі з нейкім пачастункам, мама ўсплёснула рукамі, кінулася ў дом, і вось ужо гудзе пагулянка, і падкручвае вусы задаволены бацька, і нават герою дня Шурку, які вытрымаў экзамен, наліваюць кілішак агрэставага віна.

Да гімназіі бегчы з паўгадзіны. Пад Заходнім чыгуначным мастом, паўз Чырвоны касцёл, па Захар’еўскай – і там, за Аляксандраўскім скверам, на рагу Скобелеўскай і Магазіннай сустрэне высокая шэрая мураванка. У ёй прахалодны вестыбюль, высокія лесвіцы з паліраванымі парэнчамі, вялікія халодныя класы з шурпатымі сталамі і агромністыя вокны, праз якія буяе лістота ці слепіць вочы снежны акіян. З гімназіі дарога даўжэйшая: забегчы на Губернатарскую, з форсам прайсціся паўз другую, казённую

гімназію, адвярнуўшы знарок шынель, каб відаць было белую падкладку — у тых форма прасцейшая, чымся ў Зубакіна. А то яшчэ падкрасціся да Марыінскай гімназіі на Падгорнай і, калі вокны расчыненыя, крыкнуць дурным голасам: «Марыінкі — смажаныя свінкі!» — і несціся ветрам, бо як зловяць, то рады не дасі. Адтуль ва ўвесь дых — на вакзал, пашнураваць між паравозаў, пазырыць на цягнікі, якія прыходзяць з Лібавы, а там ужо можна і дамоў. З Маскоўскай шмыгануць у Шкляны завулак, крыху прабегчы агародамі і — дома. Пачуўшы шоргат каменьчыкаў на сцежцы, у акно глядзіць мама, і амаль немагчыма праскочыць паўз яе, але калі ўдаецца даць нырца ў свой пакой незаўважаным — гэта асаблівае шчасце.

Калі ўжо ў дваццатым мама ўсвядоміла нарэшце, што стос кацярынак, якія яна збірала ледзь не ўсё жыццё, за якія і шыла, і мыла, і цыравала, і начэй не спала, пераўтварыўся ў рэзаную паперу і што мара пра ўласны дом, здаецца, памерла назаўсёды, Шурка вельмі ўзрадаваўся. Значыць, тут, на Правадной, ён будзе ўсё сваё жыццё.

Ніколі нідзе не заставаўся ночыць, калі ў Менску, толькі сюды, ногі самі вядуць. Хоць з хлопцамі дзе ні заседзішся. Як у Полацку жыў — ажно калені выкручвала, як хацелася ўстаць і пешшу сысці па рэйках, бо калі тупаць па любых беларускіх рэйках ад краю да цэнтра — усё адно апынешся на Праваднай. Аднаго разу толькі здарылася, ночыў быў у «Бельгіі», але там… Там… Ну, то іншае было.

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

І вось я ў Віцебску, і страшэнна сумую па педтэхнікуме.

Не ставала людзей, не ставала выкладчыкаў, не ставала горада, вельмі не ставала хору. Я садзілася на сваім муражку, і калі побач не мылі бялізну і не было дзяцей, спявала, але ж адной спяваць сумна, нават больш сумна, чым маўчаць. Увесну ў мяне нарэшце з'явілася сяброўка, Рыўка Бяркові́ч, яна была такая самая непрыкаяная, як я, і мы ўжо хадзілі разам, шпацыравалі на Успенскай горцы і пад ёй, блукалі ўздоўж Віцьбы і сядзелі пад клёнамі ў гарадскіх дворыках. Рыўка жыла ў чырвоным дамку на Сувораўскай, ля сінагогі, і нам абедзвюм падабалася хадзіць уверх і ўніз па гэтай вуліцы, дзелячы на дваіх весялосць, сум і тугу. Рыўка навучыла мяне спяваць на ідыш, і мы часта пялі разам на нашым муражку і «Штэрндл», і «Майн штэтл», і «Векулам мекаблім».

Менавіта тады, апынуўшыся ў Віцебску, я раптам адчула тое адрознае, што ў нас было і за што педтэхнікум потым і зачынілі. Тады, на першым курсе, для мяне гэта было цалкам натуральна: беларускіх настаўнікаў

вучылі выкладаць у беларускіх школах. Нічога дзіўнага, што гэта павінна быць па-беларуску. Потым ужо я наноў успамінала і празмерную жорсткасць дзядзькі Лёсіка, які не дазваляў ані слоўца супроць беларускага, і доўгія, нібыта не па тэме, развагі дзядзькі Коласа пра старажытнасць мовы і даўнасць літаратуры, і апантанасць Кіпеля, які любую гутарку збочваў да беларушчыны. Тады я ўважала гэта за натуральны ход адукацыйнага працэсу, а ў Віцебску зразумела: гэта была пазіцыя, якую трэба было трымаць, і яны трымалі яе моцна ўсім калектывам. Я адчувала, што мяне дасыта паілі шчаслівай маладой беларушчынай, і цяпер пакутавала не толькі ад адзіноты, але яшчэ ад таго, што крыніца маёй цікавасці да вучобы знікла. У віцебскім педтэхнікуме выкладалі педагогіку, гісторыю, рускую літаратуру, і мне падавалася, што пасля смачнай ежы нам даюць пагрызці косткі. Лягчэй станавілася побач з Рыўкай: яна шмат расказвала мне пра сваё, і ад гэтага чамусьці станавілася лягчэй.

Але не толькі гэта, натуральна. Я сумавала па Глебку і Каратаю, па Наташы і Зіне, па Паўлюку, па нашых спевах, па хоры, па вуліцы Мацвееўскай, па драўлянай педтэхнікумаўскай падлозе. Яшчэ хацелася на менскія вуліцы, якія тады падаваліся гразкімі і шэрымі, а цяпер — утульнымі і таемнымі.

З гэтай нуды я і пацягнулася ў віцебскую філію. Паспела я пабыць толькі на двух яе пасяджэннях: на першым мяне прынялі ў склад, на другім — абралі дэлегаткай у Менск. Сход быў важны, на сцяне павесілі самаробныя плакаты з пералікам маладнякоўскіх публікацый і дыяграмы, якія адлюстроўвалі багатую культурніцкую працу філіі, і з дыяграм тых выходзіла, што філія рабіла ці не болей за ўвесь Інбелкульт. Пачалі абмяркоўваць дэлегатаў. У мяне перарываўся дых, так хацелася паехаць, але я, вядома ж, не спадзявалася, зусім не спадзявалася, і раптам! Ніхто з нашых дзядзькоў чамусьці не хацеў цягнуцца ў сталіцу, і аднагалосна было вырашана, што калі «Маладняк», дык дарогу маладым. І я паехала.

А потым была «Бельгія», і гэтае трывожнае свята, і Дудар. Ад самага пачатку, калі дзверы гасцініцы зачыніліся за намі і стары дамок затросся ад магутнай маладосці, мне ўсё падавалася, што я выпадкам тут, што зараз прыйдзе нехта дарослы і строгі і пагоніць нас адсюль, у кожным разе дзяўчат.

Але ўсё ж яно пачалося яшчэ раней, у зале Інбелкульта: гэты пах свежасці навокал, гэты подых халоднага ветру, прадчуванне навальніцы. Ён скочыў на сцэну, малады, прыгожы, высокі, увесь нейкі зграбны. Усё ў ягоным абліччы пасавала адно да аднаго: круглы твар, плечы, ганарліва і павольна разгорнутыя, так што ён нават здаваўся шыракаплечым, крыху палінялая, але добра адпрасаваная гімнасцёрка, падпярэзаная маладняКоўскім поясам з кутасамі, упэўненыя жэсты, цвёрдая постаць на крыху расстаўленых нагах… Ён прамаўляў нягучна, мякка, неяк душэўна,

па-сяброўску, і цёплая хваля ішла ад яго. З кожным сказаным словам ён нібы разыходзіўся, заводзіўся, голас гучнеў, уздымаўся ўвысь і раптам выплёскваўся на залу. Яшчэ ў Віцебску на філіі нехта смяяўся: ніводная дзяўчына не вытрымае прамовы Дудара. Пяць хвілін, у лепшым выпадку шэсць, — і пачынаюцца запісачкі ў прэзідыум (і далей пісклявым голасам): «Таварыш Дудар, дазвольце пазнаёміцца!»

Я пратрымалася, здаецца, дзве.

Мне стала важна не страціць яго з вачэй, бачыць, куды ён сеў, як сядзіць, як слухае. Наташа тузгала мяне, нешта пыталася Зіна, на нашым радзе ўпотай рагаталі, і Глебка раздаваў асобным гарэзам штурханцы, а ў мяне стыгла пад каленкамі. Ён сядзеў у прэзідыуме і ўвесь час жыў: паварочваўся, нахіляў галаву, адкідваўся на спінку крэсла, прыжмурваўся, перакладаў рукі — не, гэта была не мітусня, гэта было жыццё цераз край, якое струменіла чыстай цёплай плынню на мяне. Ён падышоў да нас адразу ў перапынку. «А вы, таварыш, адкуль? Я вас не ведаю. Віцебск? Ага. Знача, вас прыслалі. Гэта правільна».

Усе ведалі: ён — з тых самых шасці, з якіх усё і пачалося. Дудар, Вольны, Пушча, Бабарэка, Александровіч, Чарот. Гэта ведалі, як легенду, як самы галоўны міф: як сабраліся яны ў КІМе, як пры святле свечкі вырашылі стварыць арганізацыю, як пайшлі ў ЦК і як ім адразу, з першага слова, далі карт-бланш: давайце, хлопцы, рабіце. У Віцебску і Полацку, дзе Дудар, выехаўшы на паўгода, стварыў філіі, яго не называлі інакш, як «найперапаважаны Дудар». Зараз гэты найперапаважаны стаяў проста перада мной і, не адводзячы вачэй, глядзеў з усмешкай.

Ён не вярнуўся ў прэзідыум пасля перапынку і сеў з намі, і ў «Бельгію» таксама пайшоў, хоць туды пацягнуўся толькі сапраўды маладняк, а генералітэт, выпіўшы па чарцы, разышоўся па кватэрах і дамах. Нават Чарот, які, здавалася, зусім было ўжо сабраўся застацца з маладымі, і той пасля трэцяй адвітаўся і сышоў.

І вось я сядзела ў «Бельгіі», у вялікім пакоі на другім паверсе, і, калі грамада сціхала, каб згуртаваць келіхі, слухала, як грукае недзе незачыненая фортачка. Хлопцы выпівалі, гаманілі, часам успыхвалі кароткія, але жорсткія спрэчкі, дзяўчаты паволі гайдаліся на хвалях вечара, а я глядзела на Дудара. Паглядаў і ён на мяне, сеў побач, а потым паклікаў пагутарыць на калідор і там ужо моцна і горача пацалаваў.

І ўсё абрынулася тады, і стаіла дыханне «Бельгія», і надзейна зачыніла ўсе дзверы, акрамя адной, той, за якой пачыналася гарачая цемра чамусьці пустога пакоя, дзе стаяў нешырокі ложак, дзе гайдаліся ў такт чалавечай жарсці хвалі ўзораў на сценах, дзе ў паветры разліваліся пахі кахання і поту і дзе клаліся на столь сінія квадраты месяцовага водсвету.

Прачнулася я — яшчэ было цёмна. У дзесяць адкрываўся другі дзень з’езда. Час яшчэ быў. Але Дудар раптам падхапіўся. Мне чамусьці было

сорамна расплюшчваць вочы, я пастаралася, каб ён не заўважыў, што я не сплю. Ціха-ціха ён апрануўся. Падышоў, пастаяў ля ложка. Ціха павярнуўся. І выйшаў. Раптам стала вельмі страшна, ад усяго, але найперш — а як хто прыйдзе? Наогул, чаму наогул ніхто не прыйшоў? Гэты нумар, чый ён? Дудар адсюль, з Менска, у яго не магло быць нумара ў «Бельгіі»! А божачкі ж мае! Я падхапілася, сабралася, здаецца, у хвіліну і выбегла на вуліцу. Можа, нехта мяне і бачыў, я ж баялася падняць вочы — крый божа каго пабачыць!

Патроху днела. Двор «Бельгіі», шэры, непрыгожы, у шчаціннi голага рэдкага кустоўя, з бруднымі лужынамі, упрыгожваў толькі глог — багаты, раскошны куст з гронкамі чырвоных ягад. Я стаяла ля прыступак, не ведаючы, што мне рабіць, як ісці ў свой нумар, не ведаючы, што там адбываецца. Нікога не было: пэўна, усе яшчэ спалі. Пакрысе мінулая ноч выходзіла з мяне, каб вырасці побач у вялікае п'янкае воблака і ахутаць зараз звонку, замгліць вочы немагчымым успамінам, падпаўзці пад каленкі і варочацца там тужлівым пачуццём... Грукала фортка недзе ў «Бельгіі», і ўсё цела маё ныла шчасцем, сорамам, тугой і самотай.

Ён так і не прыйшоў.

Цягнік на Віцебск адыходзіў толькі ўвечары, і я дзень праседзела на вакзале. На з'езд ісці не ставала сіл. Было страшна, сорамна і было вельмі важна пабачыць яго, каб гэтак перастала быць. Бліжэй да вечара я ўжо так атупела ад слёз і марных надзей — вось, зараз, зразумее, кіне ўсё, прыбяжыць, абдыме, — што проста сядзела і глядзела перад сабой. Адлічвала хвіліны: ну вось, зараз скончылася пасяджэнне, і ён ужо бяжыць мяне шукаць. Бегчы дзесяць хвілін. Мо затрымалі. Мо з кімсьці гутарыць. Мо не можа адшукаць мяне. Выходжу на цэнтральную плошчу, стаю. Нікога няма.

Я прыехала дамоў і першыя тыдні наогул не адчувала сябе. Жыла механічна, нешта, пэўна, ела і піла, неяк апраналася, напэўна, былі дні, і яны змяняліся начамі, але я нібыта гарэла ў вогнішчы «Бельгіі», то ў выратавальна гарачым, то ў пякельна пакутным. Гэта было тое самае, немагчымае, несумяшчальнае, што так усхвалявала мяне ў ягоным твары і ягоных стомленых вачах. Ягонае каханне — і ягоны сыход, ягоная пяшчота — і ягонае імгненнае забыццё. Мне рабілася то горача, то холадна, і ўрэшце я захварэла, а калі крыху ачуняла, то зразумела, што я больш не хачу ані тэхнікума, ані «Маладняка». Анічогенька. Мы з Рыўкай блукалі па віцебскіх вуліцах пасля пастылых заняткаў, часам спявалі, калі не было надта марозна, сядзелі ў яе катушку ля грубкі, і цёця Фаня прыносіла нам найсмачнейшы ў свеце земелах.

# РЭДАКЦЫЯ. «БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА»

— І што яны пішуць вам усё! Кожны дзень нашу, ніяк не паранoccurrence! І як жа багата ў іх, ты пабач, паперы той, дзе яны яе ў той вёсцы бяруць! — прычытае стары паштальён, як высыпае сумку на рэдактарскі стол.

— І не кажыце, дзядзечка! Пэўна, уся вёска ўжо і паліць кінула, уся папера на вершы цяпер ідзе, самакрутку скруціць няма з чаго! — спагадліваківае галавой рэдактар. — А нам цяперака во чытай.

— Дык мо што талковае пішуць? Ёсцека хаця пра што пачытаць?

— Ды не заўсёды, дзядзечка. Але ж парадак такі. Напісаў нехта — нехта ж і прачытаць павінен.

— То так, таварыш, то так. Ладна, мне яшчэ тры лесвіцы абысці, і туды ж пішуць. Усе пішуць. Пісьменныя сталі, пабач.

Гэты дыялог паўтараецца кожны працоўны дзень, расце і стос лістоў у рэдакцыі «Беларускай вёскі». Ні ў адну газету столькі не пішуць, колькі сюды. Перад з’ездам спецыяльна падлічылі: за дзесяць месяцаў 1925 года — тысяча сто трыццаць вершаў ад ста васьмідзесяці пяці паэтаў! Гэта толькі вершаў, а яшчэ ж даюць прозай! Выраб літаратурнай прадукцыі ў краіне пастаўлены як след, што і казаць!

— Сядай чытаць, Кузьма! Няйначай сёння знойдзецца ў гэтай гары новы Трус!

— Ну ты закінуў, брат. Трус у нас адзін, нам другога не трэба.

— Ці будзе ён сёння?

— Павінен, я ж чакаю.

І праўда, дзверы расчыняюцца... Не, уваходзіць пакуль яшчэ толькі кур’ер — прывезлі паперы з ЦК. Але ўжо чуваць з першага паверха: рагоча! Залівaецца, ажно ўся рэдакцыя пачынае ўсміхацца. Значыцца, ідзе Паўлюк, і ў добрым гуморы.

Дзверы зараз ужо расчыняюцца для Паўлюка.

— Дзень добры ў хату, таварышы! — Паўлюк малады, свежы, румяны з лістападаўскага марозу. — Ці прымаеце паэтаў сёння?

— Паэтаў у нас тут багата, а Трус такі адзін, заходзь, Паўлюк, — раскрывае рукі, нібыта для абдымкаў, Чорны.

Праз паўгадзіны тут будзе дым каромыслам, бітма народу, крык, рогат і гамана. Чорны адчыніць фортку, і праз яе на вуліцу будзе выплёсквацца і дым, і воклічы, і смех. «Беларуская вёска» займае два пакойчыкі, а людзі едуць адусюль і з самай рознай патрэбай: і паскардзіцца, і пахваліцца, і запытацца, куды паехаць па дакументы, і, вядома ж, дастаць з-пад пахі скамечаны сшытачак, увесь

спісаны чорнымі няўклюднымі літарамі і шчодра перасыпаны табакай. Чорны кладзе сшытачкі да лістоў, прынесеных зранку паштальёнам, і ласкава глядзіць на аўтара:

— Пачытаем, таварыш.

І ён сапраўды чытае. Часцей за ўсё цяжка ўздыхаючы, сціскаючы прыгожыя вусны ў нітку: «Ай, крэмзалы, ай, ліха на іх...» Але іншым разам раптам збярэцца ўвесь, падцягнецца, пачынае закідваць з ілба назад свой багаты кучаравы чуб: «Во дае! Не, вы паглядзіце! О то пісьменнік!» Калі аднойчы выцягнуў з рэдакцыйнай пошты ліст маладога тады яшчэ, невядомага зусім нікому Васіля Каваля, з паўгадзіны бегаў з пакойчыка ў пакойчык і паказваў кожнаму, каго спатыкаў: «А? Як пішуць у вёсках у нас?!» Нібыта і не перагартаў да таго процьму лістоў ад крэмзалаў.

Але чытаць становіцца ўсё цяжэй: навокал жудасная куламеса. Трус ніколі не вытрымлівае такога пекла — сыходзіць на лесвіцу, да акна, кладзецца там жыватом на шырачэзны падаконнік і піша.

Няможна трываць гэтакі тлум і рэдактару.

— Таварышы! — ціхім сваім голасам пытаецца ўтаймаваць рэдакцыю Чорны. — Таварышы, ці не схадзілі б вы паглядзець, як там Паўлюк! Мо спіць ужо? А ён мне вінны ў нумар дваццаць радкоў. Схадзілі б вы, таварышы, усе разам да Паўлюка!

Аднойчы ён так прасіўся, а Паўлюк сядзеў акурат побач, ледзь не пад локцем рэдактара. Рагаталі тады, ажно слёзы цяклі.

Апоўдні пад вокны рэдакцыі прыходзіць катрыншчык. Катрынка ягоная, як і трэба, гундзіць толькі дзве песні, але Чорны страшэнна яе любіць і адразу сунецца ў акно, хоць і холадна. Катрыншчык іграе апошнія дні — зімой у яго бяскорміца. Чорны, здаецца, не заўважае холаду, слухае абапёршыся на падаконнік, уважліва, ківае галавой, потым пасылае каго вынесці катрыншчыку рубель. Пасярод канцэрта з другога паверха высоўваецца галава саслужачага Петрыкевіча, і ён крычыць плаксівым голасам: «Мне на вас у ГПУ скардзіцца? Што вы працаваць перашкаджаеце? Развялі тут музыку!» Чорны тады пасылае ўніз яшчэ кагосьці з трыма рублямі, і катрыншчык выконвае свой рэпертуар тройчы згодна з купленымі квіткамі. З другога паверха бяжыць на рэдакцыйны трэці саслужачы Петрыкевіч, але хіба ж ты прабярэшся да рэдактарскага стала ў такім дыме і гвалце? З лаянкаю імчыць назад. Рэдакцыя рагоча.

Апоўдні рэдактар выпраўляецца абедаць: «Паўлюк! Максім! Гайда ў „Еўропу“!»

Трус і Лужанін паспяваюць збегчы з трэцяга паверха хутчэй за свайго рэдактара, каб пабачыць галоўны ягоны фокус: як ён павесіць свой кіёк загнутым канцом на балясіну сходаў і штурхане

яго ўніз. Грукочучы акутым канцом па сходах, кіёк спрытна едзе па пралётах, а Чорны імчыць за ім і абавязкова – абавязкова! – падхоплівае яго ў самым канцы. Колькі ні спрабавалі хлопцы – ні ў кога так не атрымліваецца. Да «Еўропы» шпацыруюць не спяшаючыся: праца газетная патрабуе прагулкі. На Чорным добры фабрычны палітон, навюткая кепка, пальчаткі. На Паўлюку – худзенькі, але спраўны кажух. Горш за ўсіх Лужаніну: не напрацаваў яшчэ на добрую вопратку.

У рэстаране замаўляюць абед.

– Тут покуль дачакаешся, раман напісаць можна, – хітра прымружвае вочы Чорны. – Прыкладам, пра звычайны гарадскі двор. Яго абступілі дамы навокал, вялікія і маленькія, і шмат людзей жыве ў тых дамох. Раніцай у двор прыходзіць катрыншчык з марской свінкай. Катрыншчык грае, а свінка цягне паперчынкі з прароцтвамі для ўдзячных слухачоў.

Паўлюк сядае вальней і падпірае шчаку рукой у чаканні працягу.

– Асабліва любяць катрыншчыка са свінкай два маладзёны. Адзін жыве ў высокім доме ля калонкі, завецца Паўлюк, – тут Чорны паказвае пальцам на сябе, – і піша вершы. Другі здымае пакойчык у невялікім дамку насупраць.

– Завуць яго Кузьма, – летуценна працягвае Трус і паказвае пальцам у свае грудзі, – і піша ён прозаю.

– Так, ён піша прозаю, – працягвае Чорны. – Яны вельмі падобныя адзін да аднаго, кучаравыя, невысокага росту, толькі адзін бялявы, – зноў палец тыцкае ў чарнявага Труса, – а другі чарнявы. Хлопцы яны добрыя і пішуць добра, але ні таго, ні другога не хоча друкаваць пракляты Цэнтразыхер.

– Цэнтразыхер?! – здзіўлена лыпае вачыма Паўлюк.

– Так, Цэнтразыхер. Ну ты ж ведаеш, што за гадская контра той Цэнтразыхер.

Паўлюк, давячыся смехам, ківае галавой.

– Гэты Цэнтразыхер, хаця і галоўны па друку, але ж і вершы, і прозу ненавідзіць. А ўжо Паўлюка і Кузьму наогул здаў бы ў ГПУ – і дуды вобземлю. А тут шчэ катрыншчык! Музыку катрынкі Цэнтразыхер наогул не выносіць.

Паўлюк пасмейваецца з кожным словам усё галасней. Чорны гразіцца яму пальцам і мяняе настрой расповеду.

– Але ж катрыншчык стары, яму цяжка хадзіць з катрынкаю. Аднойчы ён прыходзіць у двор са стосам квіткоў – латарэя. Хто выцягне шчаслівую паперку, таму аддасць ён катрынку і свінку. Кузьма і Паўлюк высыпаюць з кішэняў усе грошы, бяруць і ў Каратая, – нарэшце Чорны бярэ ў гульню маладзенькага, зачараванага

палётам Кузьмовай фантазіі Лужаніна. — Усе квіткі прададзеныя, застаўся адзін. «Давай мне!» — крычыць са сваіх дзвярэй Цэнтразыхер. Даюць і яму паперку. Свінка цягне нумар. «Выйграў! — крычыць Цэнтразыхер. — Мая катрынка цяпер! У агонь яе!» Але перад тым, як спаліць катрынку, вырашае Цэнтразыхер даць развітальны абед і запрашае туды сваіх ворагаў — Кузьму і Паўлюка. Засмучаныя, няшчасныя, ідуць на абед Кузьма і Паўлюк. Сядзяць за сталом моўчкі, не ядуць, не п'юць. Адзін Цэнтразыхер наварочвае катлеты, якія наляпіла ягоная руплівая жонка. «Што госцейкі мае не п'юць? Ці не зайграць мне ім на катрынцы? А ну-ка, дзе мая свінка?» Агледзеліся — свінкі няма. Дзе свінка? Пабеглі па хаце шукаць і бачаць: на кухні, на калодцы, ляжыць пярэсценькая шкурка. Закалола жонка Цэнтразыхера свінку, наляпіла з яе катлет.

Трус даўно ўжо сядзіць пахмурны: некуды не туды звярнуў Кузьма ў сваёй гісторыі. Чорны тое бачыць і пачынае выварочваць на іншую сцежку.

— Плача Цэнтразыхер: гвалт як шкада яму маленькую свінку. Каменнае ягонае сэрца мякчэе, дабрэе. «Іграйце мне, хлопцы, на катрынцы, мо суцешыцца маё сэрца». Нічога не робіць Цэнтразыхер, толькі слухае катрынку і плача. Сыходзіць ягоная жонка, звальняюць яго з пасады, прадае ён рэчы з хаты за пляшку гарэлкі. І аднойчы збіраецца ён ісці па гарадах іграць на катрынцы, зарабляць на годныя памінкі па няшчаснай жывёліне. Бярэ ён у таварышы Паўлюка і Кузьму, і так ходзяць яны з горада ў горад — Цэнтразыхер з катрынкаю, Кузьма і Паўлюк з шапкаю. І праз месяц спраўляюць па пярэсценькай жывёлінцы памінкі — такія, каб перад людзьмі не сорамна. Прыносяць боршч, падаюць і другое. Хлопцы моўчкі пачынаюць есці.

— От заўсёды так з табой, Кузьма. Дрындушку нейкую выштукуеш, а разважаць над ёй трэба. І ўсіх шкада. Асабліва таго Цэнтразыхера, чорт яго бяры.

Чорны пасмейваецца.

## ГОРАД. КАМСАМОЛЬСКАЯ

Калі запытацца ў цёткі, якая некуды шыбуе ранішняй падснежанай вуліцай, дзе тут клуб па Камсамольскай, яна без страху спыніцца, прымружыць вочы, паглядзіць праз цябе некуды і перапытае: «На Камсамольскай?» Цяпер яна ўжо пільна ўглядаецца ў твой крыху збянтэжаны твар і падказвае: «Мо на Багадзельнай?

Дык во яна, уніз пабегла». — «Багадзельная мо і пабегла, а нам на Камсамольскую, якая — памкнулася!» — можна весела адказаць той цётцы і пайсці далей, аглядаючы кожны дом у пошуках клуба. Калі ты не тутэйшы, а, прыкладам, з Полацка ў камандзіроўку ці з Пухавіч на курсы, дык, не спытаўшы, раніцой клуб знайсці цяжка. Гэта менская моладзь дойдзе з заплюшчанымі вачыма, але зараз на вуліцы толькі ты, бо цягнік прыйшоў а пятай, толькі ты ды цётка. І навошта табе, чалавеча, у такі час нейкі клуб? Разгледзіць цябе і запомніць. Падлетак яшчэ зусім, у пацёрханым кажушку, смешнай троху будзёнаўцы, цяжкіх стаптаных ботах. Камсамолец, бач.

Пэўна, камсамольскага на гэтай вуліцы — толькі ён, гэты смешны хлапчук, ды КІМ, той самы клуб. У астатнім яна сапраўды пакуль яшчэ Багадзельная, звычайная вуліца губернскага горада. На паўквартала — жаночы манастыр, і хутка зазвоняць званы, і пасля службы пабягуць некуды манашкі, ахінаючыся чорнымі хусцінкамі. Празрыстае паветра агульнай малітвы перальецца цераз манастырскую сцяну і пацячэ па вуліцы ўздоўж цесных, прылепленых адна да адной крамак, велізарных дзвярэй купецкіх складоў, парэпаных камяніц з чыгуннымі карункамі балконаў і невялічкай сінагогі. Тут гэтая малітоўная плынь спыніцца на хвіліну і пацячэ ўніз, да самай Нямігі, каб паплысці хваляй праз цесныя вулачкі за гарадскія муры і далей праз прыцярушаныя палеткі.

Як зазвоняць, дык адчыніцца брама на шырокі двор багадзельні, і ў тым двары будуць ужо сядзець на лавачках анямелыя дзядулі і бабулі, для якіх не існуе і ніколі не будзе існаваць вуліцы Камсамольскай.

Самая раніца, яшчэ цёмна. Сапраўды, і собіла ж яму ў такі час ісці да клуба! Але ж агледзеўся, увечары будзе прасцей. Таму зараз проста можна прайсціся па той Камсамольскай — ці то Багадзельнай? — уніз, а там, здаецца, якраз выскачыць да Нямігі і павярнуць на Верхні горад.

Тут брудна, пад нагамі кісне восеньская гліна, растаптаная цяжкімі ботамі і раз’езджаная рознакаліберными коламі. Забрацца наверх па гары, з якой пакрысе сплывае ўся дзённая гісторыя Верхняга горада, — цяжкая справа. Адтуль уніз — лягчэй: зранку, пакуль не змясілі нагамі, можна нават пакаціцца па падмёрзлай коўзанцы, падклаўшы пад зад нешта зручнае. Але ўніз ён ужо з’ехаў — і зараз караскаецца наверх, упіраючыся ботамі ў жоўтыя кусцікі травы. Там, наверсе, тлум і мітусня: брамы заезных двароў ужо расчынены, з іх выязджаюць, у іх заязджаюць, нехта стаіць акурат пасярод дарогі не ў стане вырашыць, куды рушыць, крычаць мужыкі, перасмейваюцца і агрызаюцца маладыя хлопцы.

Кожны двор па звычцы абслугоўвае адны і тыя навакольныя вёскі. Сюды едуць з Рудзенска, сюды — з Пухавіч, а вунь там спыняюцца цімкавіцкія і скварцоўскія. Тлум, бруд, мухі, коні, пахне кіслымі кажухамі і гноем, усё варушыцца і расцякаецца ўздоўж Свіслачы ажно да прыватных агародаў, і разбрыдаюцца людзі чорнымі цуркамі на Нямігу, у Татарскую слабаду, на Пярэспу, а хто смялейшы — дык і махане паўз муры Святога Тамаша ў Губернатарскі сад шоргаць вясковымі ботамі па гарадскім бруку.

Менск лістападаўскай раніцай шэры, абабраны, камяніцы ўсе падмоклыя, падпрысеўшыя. Нават тыя, якія пабудаваны па-сталічнаму, даўно ўжо страцілі надворны глянец і ўмайстраваліся па вуліцах па-свойску, па-хатняму. У Аляксандраўскім скверы тоўстай румянай бабай сядзіць цагляная воданапорная вежа, на Захар'еўскай стаяць лужыны. «От паглядзіш, цётка, зрэжам мы гэты Менск да муроў і паставім новы, будзе сонцам блішчэць!» — звонка абяцаюць на Камсамольскай. «Бач, шпаркія якія. Зрэжуць яны», — стомлена маўчаць у адказ на Багадзельнай.

Яны тут гужуюць ужо гады два, тыя камсамольцы. Ёсць ідэйныя — галасістыя, упартыя, злыя. Ёсць цікаўныя: сядзяць, маўчаць, але вочы паблісквають. Ёсць асцярожныя: спачатку трэба разглядзець як след. Дзяўчаты, калі ходзяць сюды, дык пераважна тыя, што бойкія і гаваркія, вясковую дзяўчыну сюды не зацягнеш — сорам. У камсамольцаў гэтых, кажуць, і дзяўчаты агульныя, і вяселляў не бывае. Вунь, бач? Ідзе тая, у чырвонай хустачцы, з хлопцамі, то да аднаго прытуліцца, то да другога. Калі раптам стрэне такую кампанію якая запозненая манашка — хуценька перабягае вуліцу і шпарчэй бяжыць да надзейных муроў.

Два гады таму, калі КІМ толькі-толькі адкрыўся, Багадзельная варожа сачыла праз прымружаныя вокны: а ну, хто такія? І прыцмоквала языком па дварах: ат, чортавы дзеці. Адны шчаняты, цюцькі, ці то працы дома не маюць, басцяюцца па горадзе, ці то зусім паадракаліся нармальнага жыцця. Пасу б ім бацькавага, ды, відаць, і бацькі няма, бо дзе тое бачыў ты, каб пры жывым бацьку такое во выраблялі. Неяк папрыносілі нават з дома абразы, паскладалі на зямлю і нешта крычалі над імі. Тых абразоў не магла дараваць ім Багадзельная ніколі.

А ў самім КІМе добра. Як дасі туды нырца з сырой і непрытульнай Багадзельнай — нібыта апынаешся ў іншым свеце, які водарыць гуталінам, дажджом і агурком. Вялікая сцэна, на якой стаіць разбіты, але бадзёры раяль, шэрагі калечаных, але жывых яшчэ крэслаў, на раялі — старасвецкі падсвечнік. Бывае, хто сядзе і няўмелымі пальцамі тое-сёе зайграе, тады абступаюць раяль колам — слухаюць, а

як могуць, то і спяваюць. Са сцэны ў розныя бакі – калідорчыкамі да пакойчыкаў. Пакойчыкі ўсе цесненькія, бедныя, але ўтульныя, цёпла ў іх. Дзе змаглі, чырвоным пацягнута замоклая з восені сцяна, пакрыты, як абрусам, стол. Дзе газнічкі, дзе свечкі, пасядуць навокал, рогат, спевы, спрэчкі, гудзе КІМ, нібы вулей.

А бывае – спектакль. Напрыклад, Галубок з «галубянятамі», вандроўны тэатр! О! Тады і Багадзельная, крэхчучы і жагнаючыся, робіць перапынак у сваёй глухой нянавісці да Камсамольскай і цягнецца ў КІМ.

Зала паўнюткая. Кашляюць, бубняць, раз-пораз выбухае смех, узносіцца пад столь голас якогась жартаўніка, і зноў рагочуць, перагукаюцца, плююць семкі. «Э, таварыш, вы ж у ціятры, не плюйцеся на пол!» – «А куды ж пляваць мне, галубка мая, хіба ў кішэню табе?» – «Га-га-га!» От якія жарты, і словы ўсё культурныя, бруднай лаянкі нізавошта не пачуеш, сталіца! За сцэнай таксама хвалянне, гучна бегаюць, таксама кашляюць, бубняць, нешта цяжкое цягаюць, кулісы ходзяць ходырам. Трапечуцца па кутах газнічкі, сцэна пачынаецца паласой святла, але глыбіня яе патанае ў цемры. «Ну пачынай ужо, гэй!» – крычаць з залы самыя нецярплівыя. З-за правай кулісы высоўваецца галава: «А ну ціхайця! Артысты рыхтуюцца!» Праз дзесяць хвілін чаканне становіцца нясцерпным, але і на сцэне ўжо адчуваецца трывожнае прыбыццё падзеі. Секунда – і на цэнтр сцэны выходзіць высокі, статны, прыгажэнны мужчына ў вышыванцы.

«А-а-а-а-а! Галубо-о-о-о-ок!» – гудзе зала, пачынаюцца воплескі. Галубок стаіць, усміхаецца, чакае. Нарэшце падымае руку.

– Шаноўная публіка! Сёння вы пабачыце «Ганку» – гісторыю шчаслівага кахання і чорнай здрады. Уявіце сабе багаты маёнтак: ён стаіць вось тут. У ім жыве палкоўнік, палкоўніца і выхаванец іхні, студэнт Васіль. Насупраць – ля той кулісы, пабачце, панове, дзе стаіць нібыта плот – уявіце сабе маленькі дамок, у ім жыве Ганка, прыгожая сялянская дзяўчына. Пасярод, – Галубок шырока абводзіць вакол сябе рукамі, – будзе вуліца. Адсуньцеся крыху ад сцэны, панове, і – пачынаем!

І яны пачынаюць.

І шаноўная публіка то смяецца, то плача, то злуецца, то ўздыхае, але ніводнай хвіліны не сумуе, бо што ж гэта, людцы, робіцца, калі такое на свеце дзеецца! Як жа марыць Ганка пра свайго Васіля, як жа кахае Васіль сваю Ганку, і трэба ж, каб злыдоцце сусветнае ўзбурылася супроць іх! Баба гэтая праклятая, палкоўніца, павуцінне сваё пляце, нажыцца на дзяўчыне плануе. А-а-а-а-а, пабачце, то ж палюбоўнік яе! А-а-а, якое пуза, га-га-га-га! А з-пад пуза, глядзі,

матляецца нешта, ага-га-га-га! І чым саланейшыя жарты са сцэны, тым весялей рагоча зала.

Але хвіліна – і зноў зажурыліся дзяўчаты, прыціхлі хлопцы. Ідзе за нялюбага прыгожая Ганка, чорным-чорна бядуе Васіль. І калі Ганка, нарадзіўшы ад нялюбага дзіця, кідаецца ў пятлю, пачынае зала ўсхліпваць і пакашліваць, і звініць цішыня, і задзьмувае са шчылінаў у вокнах сцюдзёны вецер.

І вось артысты разам на сцэне, стомленыя, спустошаныя, апусціўшы рукі, стаяць перад натоўпам, а натоўп плешча ў ладкі, крычыць, выбухае падзякамі. Нехта выскоквае, каб сунуць у рукі артыстам жоўтых антонавак ці нават шмат сала, нехта – проста абняць Ганку з Васілём, змахнуўшы рукавом слязу. Усіх любіш і ўсіх шкадуеш потым да самага ранку, як сходзіш на спектакль да Галубка, і кладзешся спаць стомлены, наплакаўшыся над чорнай доляй чалавечай, але і шчаслівы – проста так.

Аднаго разу, праўда, было, як паказвалі «Ганку», скочыла на сцэну дзяўчо – маленькае, чорненькае, усхваляванае, бы каўка. Зала якраз падбіралася рагатаць, бо палкоўніца масцілася з палюбоўнікам на вузкую лаву і ніяк не магла прыладзіцца.

— Што ж гэта, таварышы, з чаго мы смяёмся? Хіба ж гэта культура, таварышы? Хіба ж гэта смех? Гэта ж сорам, таварышы! Такія словы і такі нізкі жарт – няўжо так будзем мы выхоўваць новага чалавека?

– Камсамолка, мабыць, – зашапталіся ў зале незадаволена, але ціха.

Сапсавала спектакль, каўка. Але ж нешта такое было ў ёй – страшна казаць напоперак. Дый наогул, скажаш што, а раптам... Зала прыціхла, незадаволеная, разгубленая. Палкоўніца з лавы ўстала, палюбоўнік сеў, крэхча, круціць вус.

Што рабіць? А невядома! Зала пачынае ціха гудзець. З'яўляецца Галубок – ён у грыме, у касцюме, сам пан палкоўнік.

— Шаноўная публіка! Бачыце, як горача асуджае нашая моладзь бабу-палкоўніцу! Дык і мы ж супраць яе! Во якая агідная, нават лава яе, нягодніцу, не трымае! Малойца, Верачка, так яе, тую буржуазную бабу!

Зала плешча ў ладкі, палюбоўнік бокам знікае са сцэны, палкоўніца выцірае фартухам лаву, нібыта нічога сабе, прыбіраецца проста, Вера, расчырванеўшыся, але цвёрдым крокам сыходзіць за кулісы. Там яе чакаюць дзяўчаты, і зараз яны праз усю залу кіруюцца да выхада. Спектакль, крыху забуксаваўшы, рушыць пакрысе далей.

Веру Харужую Галубок ведае: палымяная барацьбітка за пралетарскае мастацтва, чыстае і светлае. Раз-пораз граміць Галубка

з «галубянятамі» ў камсамольскім друку. Крыху злуецца Галубок, але ж любіць гэтую каўку: дзяўчо, малое, дурное, што яна разумее ў законах сцэны і ў тым, што трэба працоўнаму чалавеку, каб цікава было глядзець на сцэну, але ж чыстае, палымянае дзяўчо. Праўда, колькі месяцаў не відаць Веры: шапталіся, што атрымала нейкае камсамольскае заданне ды з'ехала. Гарачая дзеўка, такім толькі заданні і давай. Вось з'ехала – і болей ніхто сярод спектакля на сцэну не прыгае. І знікла нешта. Нейкая драматургія часу.

Але часцей у КІМе – камсамольскія вечарыны. Чытанні, выступы паэтаў, дыспуты, суды, а то проста – збяруцца, рагочуць, нехта іграе на старым разбітым фартэпіяна, якое з усіх бакоў абступаюць тады сціхлыя хлопцы і дзяўчаты і слухаюць, нават калі гэты нехта іграе двума пальцамі.

Тут, у КІМе, у лістападзе дваццаць трэцяга абвесцілі «Маладняк» – той самы, які ўсю ноч гудзеў і выбухаў рогатам у «Бельгіі»: шасцёра хлапцоў з вельмі сур'ёзнымі намерамі занурыліся ў цемнаваты пакойчык за сцэнай і там, у папяросным дыме і холадзе, дагаварыліся ісці ў ЦК – аб'яўляцца. Дарэчы, кажуць, гэта строгая Вера Харужая аднойчы сказала: «Што вы, хлопцы, ходзіце самапасам, арганізуйцеся ўжо, колькі можна па адным бадзяцца?» І Вольны, які слухаўся Веру ў кожным слове, сабраў сяброў і стварыў «Маладняк». Хоць не, не так было! Было так: Міхась Чарот напісаў верш «Маладняк», і маладыя хлопцы-паэты вырашылі сабрацца разам і стварыць арганізацыю якраз пад такой красамоўнай назвай. Але ж і гэта не так! Так было: Алесь Дудар аднойчы вырашыў, што паэтам на Беларусі трэба ўжо займець сваю арганізацыю, бо літаратура – справа сур'ёзная, а сур'ёзныя справы патрабуюць адпаведнага афармлення, дык давайце ж, хлопцы... Ат, разбяры іх, як яны зрабілі той «Маладняк», але сёння амаль у кожным буйным горадзе – філія, і кніжкі выдаюцца, і вечарыны па мястэчках праводзяцца, і пяцьсот, кажуць, паэтаў набралі, дык справы закруціліся сапраўды. Ажно во з'езд. Гэта трэба колькі і часу вольнага, і імпэту. Горад не вёска. Што тут толькі не адбываецца, покуль там сяўба, жніво, дажынкі, зажынкі і гэтак па коле.

Адсюль да сённяшняй штаб-кватэры «Маладняка» на Рэвалюцыйнай – мо дваццаць крокаў усяго.

# ГОРАД. ПРАВАДНАЯ

Тое, што ты дома, адчуваецца ў той момант, калі з Маскоўскай даеш нырца ў любы с завулкаў — найперш, вядома ж, у Шкляны, але можна і мінуць яго, і шмыгнуць у наступны — тут кожная сцежка вядзе дамоў. Маскоўская — каменная, шырокая, але адразу ж за аркамі, у дварах цагляных гмахаў, пачынаецца мітусня драўляных дамкоў. Тут, і ў Шкляным завулку, і на Кандуктарскай, і на Каралінскім, і на Праваднной дамы стаяць разняволена, то адхінаючыся ад вуліцы, то высоўваючыся на яе палісадамі. Няроўныя межы гародаў, вялікія сады, неўладкаваныя пусткі, нагрувашчванне нейкіх дошак і камення там, дзе калісь стаяў нейкі дом ці будзе яшчэ стаяць — гэтая менская ўскраіна нібыта жыве на чамаданах, дарма што з трох бакоў агароджана рэйкамі. Кожны каменьчык тут свой, кожная сцежка жыве і тваім следам. Заўважаеш нават быллё ў пляме святла: о, учора яшчэ тут хісталіся тры сухастоіны, сёння ўжо адна, значыцца, дзве выламалі нейкія падшыванцы.

Праз сад — яблыні, вішні, грушы-спасаўкі, тры невялічкія градачкі, укрытыя снегам, — да свайго ганка. У Галубка акенца свеціцца жоўтым, на іхняй кухні таксама запалілі газніцу: мама, пэўна, шые, бацька габлюе, Жэнька мо кніжку якую мусоліць. А во як не шумець, ціха шмыгануць спачатку да сябе — і зайсці спакваля, нібыта зранку тут. От Жэнька запішчыць!

Хлопец ціха ўздымаецца на ганак, адразу за ўваходнымі дзвярыма лёгка штурхае дзверы ў пакойчык. Ані гуку. Прычыняе за сабой дзверы, скідае кажух. Цёпла: мама з самай раніцы, пэўна, тапіла ягоную грубку. Эх, зараз картоплі з гурком, каўбасы з цыбуляй цёртай! Святло не запальвае, каб не ўбачылі, але яго і не трэба, бо ўсё ў пакоі гэтым вядомае і сваё. Адразу ля дзвярэй — акно, на падаконніку розная дробязь навалам, у куце — цвікі для адзення. Распрануўся, зрабіў два крокі — і ты ля стала. Стол вялікі, масіўны, за ім і пісаць, і ў карты гуляць, і закуску паставіць — усё зручна. Бацькава праца, на вякі зробленая. Два крэслы, таксама крэпкія, нібы багатырскія коні. У куце процій акна, ля грубкі — ложак, таксама самаробны, бацька габляваў спецыяльна для сына з даўгіх дошак, каб таму ногі не курчыць. І галоўнае — паліцы: высокія, пад столь, і даўгія, на ўсю сцяну. Кніжкі. Цьмяна свецяцца ў месяцовым святле срэбныя літары на храбцінках. У яго іх ужо болей як у казлоўскай чытальні. І сёння здабыў — зборнік навелаў «Паўднёвая і Карыбская Амерыка». Эх, пашанцавала. Асцярожна кладзе здабытак на стол. На кухні маці падымаецца з-за стала

да печы: «Шурка прыйшоў, вячэраць будзе. Адзін сёння». — «Які Шурка, мама?! Ціха ж, дзверы нават не ляскалі!» —»Ды чую ўжо, прыйшоў, распранаецца. Прыбірай кніжкі, Жэнька, будзем брата карміць». — «А-а-а-а, дык ён такі! Напужаць хоча, ведаю! Ну я зараз яму падстрою!» — і Жэнька кідаецца за печ хавацца ў засаду. Бацька, не кідаючы працы, прыслухоўваецца: няўжо сапраўды так ціха прыйшоў? А то ж звычайна гоман, смех, крык, грамадой валяцца ў той пакой, маладыя, шумныя, галодныя, маці толькі і паспявае цягаць з печы. Усё ім — свята. Пісьменнікі, бач.

Раптам дзверы расчыняюцца:

— Добры вечар у хату, людзі добрыя! — стаіць на парозе, усміхаецца, яшчэ расчырванеўшыся з марозу, але ўжо па-хатняму.

— А-ёй, Шурка, а як жа гэта ты прыйшоў, а мы і не чулі?! — усплёсквае рукамі маці і кідаецца да сына.

Бацька іранічна ківае галавой. Пястунчык мамчын, ну што ні кажы, а будзе кожны раз нейкі цырк усчынаць следам за ім.

Раптам з печы Шурку на плечы валіцца нешта калматае, страшнае, укручанае ў ручнікі:

— У-у-у-у-у! Задзяру-у-у-у!

Пачынаецца валтузня, піск, віск, рогат. Нарэшце Жэня пераможаная, рукі скручаныя за спінай, узятая ў палон, падкінутая амаль пад столь, боўтае нагамі.

— Дзеці, а ну цыц! За стол! — камандуе маці.

Ядуць весела, бо галодны і крыху, здаецца, падвыпіўшы, а таму гаманкі Шурка задае тон, забаўляючы бяседу дзівоснай гутаркай.

— А сёння ў рэдакцыю сам Горкі прыязджаў! А давайце, кажа, сюды гэтага вашага Дудара! Мы яго ў Маскву забіраем, будзе там у нас галоўным паэтам!

Жэнька раскрывае рот і вылуплівае вочы, лыжка ў яе ў руках так і застывае:

— Брэшаш...

— Чаго брашу! Так і сказаў. Падышоў да мяне, ляпае па плячы: ну, Дудар, збірай манаткі...

Бацька хмыкае:

— Так і сказаў — «манаткі»?

— Ага. Так і сказаў. Я кажу яму: «Вы, Ляксей Максімыч, пачакайце крыху, я ў бацькі адпрашуся, бо не пусціць жа». А ён мне: «Спытайся, Дудар, спытайся, ды скажы Аляксандру Станіслававічу, што надта Горкі просіць, не жыццё ў Маскве без Дудара! Няхай вучыць нас беларускай мове, а то мы тут гібеем усе ў расейшчыне сваёй...»

Жэня азіраецца навокал:

— Татачку, што, ён і цябе ведае?

Шурка пачынае рагатаць. Маці ўсміхаецца. Бацька ківае галавой.

— І не стоміцца ж язык твой, сыне, малаціць розную бздуру. Хоць бы раз сур'ёзнае што расказаў.

На зэдліку ля печы пыхкае ўжо самавар. У Дайлідовічаў апошнім часам вячэраюць багата, не спяшаючыся, з гарбатай, з коржыкамі. Шурка добра зарабляе, кожны месяц маці пяцьдзясят рублёў на стол кладзе, яшчэ столькі на кніжкі выдаткуе і столькі ж на гулянку спускае. Малады, няхай гуляе. Мы напрацаваліся, дык няхай яны пажывуць.

— Шурка, Шурка! Мне сачыненне на тры старонкі пісаць задалі! А я не ведаю, што! Памажы, га?

— Ат, вучаніца! Сорам! А сама што?

— Дык сама напішу, ты падкажы толькі!

— Ладна, сёння я добры, памагу, знача, давай, што там у цябе...

— І нямецкая, Шурка, і нямецкаю! І нямецкую памажы!

— О-о-о, дык ты зусім сапсавалася, сястрычка, усё табе дапамажы! Ці не надумалася ты гусі дамоў прынесці, а?

Памалу сцішваецца ўсё. Сапе над сшыткам Жэня, хуценька кладзе на старонку свае і братавы думкі ўперамешку. Скончыў справы бацька, прыбірае са стала маці. За сцяной крэхча ложак: то Шурка нарэшце ўзбурыўся на свае дошкі, утульней мосціцца. Чытаць, пэўна, будзе зноў да раніцы.

О, гэтыя ночы кніжных хлопчыкаў! Цёплае кола жоўтага святла, якое кладзецца на шурпатую старонку і калышацца на стале; утульныя абдымкі твайго на памяць вывучанага пакоя; бліскучая цемра, якая глядзіцца ў тваё акно; ціхае рыпенне дома, у якім пакрысе засынаюць дзённыя клопаты. І вось дом зусім сціхае, толькі асцярожна прабіраецца пад полам мыш ды ўздыхае на гарышчы нястрашны, з дзяцінства знаёмы прывід. Паміж гэтымі вокладкамі правальваешся з галавой, і ён расце ўнутры, гэты свет новай кнігі, расце, мацнее, і ты сам не заўважаеш, як усё навокал становіцца іншым, нават пах, нават адчуванне цвёрдых дошак. І ён разгортваецца перад табой, гэты свет, і ты ў ім гаспадаром, і жанчыны цвітуць табой убачаным румянцам, і мужчыны ўсміхаюцца тваёй усмешкай, і коцяцца па драўляных сталах хрусткія качаны капусты, і водарыць кіндза, і з размаху востры мачэтэ рэжа пакуль што галіны з сакавітых паўднёвых дрэваў, а хутка — хутка галовы ворагаў пакоцяцца качанамі па драўлянай палубе твайго галіёна... Адчайныя абарванцы, бунтары і смельчакі, ганарыстыя красуні, няўмольныя ворагі і зялёнае малахітавае мора пад кілем... Паспытаўшы такога, навучыўшыся гаспадарыць цэлым светам, ці знойдзеш што лепшае? Ноч за сяброўскай гутаркай, ноч з палкай жанчынаю — не тое, бо ты

не гаспадарыш у тых начах, а толькі гасцюеш, дзівячыся нагодзе, у бясконцым чаканні нечаканасцяў. Паўсюль чакае цябе цень расчаравання, акрамя добрай кнігі.

Ніколі не будзе ў цябе сябра, лепшага за кнігу. Адной толькі кнізе нічога не трэба ад цябе, і аддаецца яна ўся цалкам, без хітрыкаў і без разлікаў. Так аддавалася яму Наста тады ў «Бельгіі» — адзіная, пэўна, з усіх за ўсё жыццё. І ён прачытаў яе, як кнігу. І яшчэ, і яшчэ. Але ж не бясконца.

Наташа — не тое. Яна не кніга, не, не з гэтай метафары дзяўчо. З ёю ніколі не будзеш гаспадаром. Яна вабіць, і хвалюе, і сыходзіць, яе трэба даганяць, за ёю трэба бегчы, ёю немагчыма валодаць, але ж як хочацца, каб скарылася! З ёю трывожна і балюча. І чаму ён так упёрся ў яе? Звычайная справа, зусім звычайная. А вось і ён патрапіў.

Ускочыў, забегаў па пакоі. Каб збіць хваляванне, прыціснуўся ілбом да акна. Таполя шапаціць лісцем у месяцовым святле. Так трэба, каб для кожнай душэўнай мітусні была побач свая таполя ў месяцовым святле. Ці не ў Скота яна так шапацела? Ці гэта Купрын? Дакладна недзе было.

Але ж як добра, што зараз ён адзін і няма побач нікога. Каб спатоліць прагу да жаночага цела і жаночай пяшчоты, шмат ёсць магчымасцяў. А быць гаспадаром самому сабе і свайму свету — толькі адна.

## РЭДАКЦЫЯ. «МАЛАДНЯК»

Дваццаць шосты набіраў ход. Студзень, цяжкі, марозны непаварацень, пыхкаў белай парай паравозаў, хрумсцеў падталым снегам і ціха шапацеў мёрзлым веццем у сінія вечары. Тыя два тыдні, у якія зазвінела раптам іхняе з Наташай каханне, наогул зліліся ў адзін даўгі бясконцы дзень, і толькі напрыканцы атрымалася вынырнуць з тых гарачых, дзіва што студзеньскіх тыдняў, дыхнуць калючым паветрам, азірнуцца навокал. Нібыта нехта шыбануў з вядра сцюдзёнай вадой тады — толькі войкнуць, заплюшчыць вочы і слухаць, аслупянеўшы, як бяжыць па целе бясконцае войска золатам падкаваных мурашак. Не пісаў нічога, нічога не чытаў, сябе не памятаў.

— Слухай, браце, ты б на Рэвалюцыйную носа паказаў ці што? Прапаў зусім, мо з-пад спадніцы ўжо і выцарапацца час? Два нумары нічога ў часопіс не даваў, Чарот сварыцца, што газету закінуў, ты нам гэтак пралетарскую літаратуру абрынеш, дачакаемся, — бурчэў

Толька, прыйшоўшы неяк увечары на Праваднную. — Дзе тут келіхі ў цябе, раней жа тут стаялі. Прыбраў ужо, ты пабач. Не, брат, гэта ты нешта не тое прыдумаў. Давай-ка, падстаўляй, вінцо з самае Лошыцы, агрэставае, мо і на смак забыўся ўжо?

Шурка шчасліва жмурыцца, усміхаецца сам сабе, круціць галавой. Забыўся, чорт, зусім забыўся, якая ж любімая гэта сволач, Вольны, ах ты, гіцаль дарагі мой, дай жа ж абдыму. І праўда, прапаў быў за Наташай, з хлопцамі два тыдні не бачыўся нават, не тое каб словам перакінуцца.

— Ад Чарота табе сыходзіць, брат, час ужо: маюць на цябе планы нашыя генералы. Пушчы зараз часу няма сакратарстваваць на «Маладняку», сам разумееш: маладая жоначка, часу вольнага з вераб'іную дзюбку. Маю згоду Вольнага, то бок мяне, ага, Чарот не супраць, дык збірай манаткі, хоць і горка мне будзе без цябе ў рэдакцыі. Сам таксама не затрымаюся — пайду на ганарары. Другую цікавасць маю, брат, але покуль не скажу. Але справа тут такая яшчэ. Слухай вушамі зараз, не прапускай. Шурка. Тут у «Маладняку» рэцэнзія нейкая выйшла на Дубоўкаў зборнік, чуў? На «Credo». Такая злюшчая рэцэнзія. Не сяброўская нейкая, ну. Нейкі Я. Ч. падпісаўся быў, а? Па вушах бачу, што чуў. І ўчора ў «Савецкай Беларусі» таксама ж... Ці не той самы Я. Ч. падпісацца забыўся, але спляжыць «Credo» не забыўся. А?

Шурка маўчыць.

— Ну, не хочаш казаць, як хочаш. Я толькі хацеў сказаць, Шурка, ты як пабачыш таго Я. Ч., ну, выпадкам, дзе-небудзь у краме ці там дзе ў лазні, Шурка, дык перадай, што па вушах гэтых атрымае ён няблага. Такія рэчы, скажы яму, акуратней трэба рабіць. Бо і Дубоўка не з тых, хто такое даруе, і Я. Ч. не з тых, хто павінен быў так выстаўляцца. А яшчэ скажы яму, Шурка, што асабіста я, Анатоль Ажгірэй, а па-простаму Толька Вольны, яго вельмі па гэтым пытанні не падтрымліваю, але бараніць ад усіх буду. Ясна? Так і перадай.

Шурка маўчыць, міргае і глядзіць на Тольку. Тую газетную зацемку пра абмеркаванне Дубоўкавага зборніка ён закінуў у агульны стос, падрыхтаваны для чацвёртай паласы, яшчэ напрыканцы снежня. Звычайная зацемка. Ну, рэзкаватая крыху, мо дзе і крыўдная, але ж у апошнім абзацы дадзены і адваротны пункт гледжання, маўляў, нармальны зборнік. Што такога? Рэцэнзія ў «Маладняку» — то канешне... Гэта скандал, на тое і разлічана было тады. А сёння... Неяк і забыўся быў. Знача, выйшла гэта ўсё.

Тады, пасля з'езда, калі размаўляў з Гартным пра надта моцны ўплыў Дубоўкі, пра тое, што ён прыязджае з Масквы і пачуваецца тут генералам, што Уладзіку пляваць на тое, што тут ідзе праца,

робіцца літаратура, цяжка робіцца, без грошай і без падмурка (гэта табе не Масква з Піцерам, дзе за спінай тысячы гадоў культурніцкай справы, гэта Менск, тут і беларускую не ў кожнай хаце пачуеш, тут людзі зубамі грызуць сваю ніву), а ён, бач, як на парад, прыехаў – і камандаваць, ані павагі, ані ведання свайго месца, – калі Шурку ўсё гэта тлумачыў Гартны, ён цалкам адчуваў ягоную праўду, і калі зацемку пісаў, адчуваў, і калі ў газету нёс, адчуваў, і калі рэцэнзію складаў, адчуваў, а зараз не адчуваў.

Па спіне бяжыць непрыемны халадок. Так, знача. Скандал, знача. Вольны без справы не казаў бы. Ну, то назад не адступлюся ўжо.

— А якая афіцыянтачка ў «Еўропе» цяпер, у-у-у-у! Вочкі чорненькія, зубкі беленькія, гляне – ажно жарам дзьме. Не тое, што раней, лялькі нейкія: кранеш якую – адзін парцалян, – як заўсёды, крута мяняе кірунак гутаркі Вольны.

— Толька, патлумач ты мне, што там у Дубоўкі з Гартным? Чаму Цішка так уз’еўся на яго? Хіба толькі за тое, што Дубоўка такі ўплывовы?

Вольны паглядае на Дудара з усмешкай. Вастрыць зуб аб агульных знаёмых – гэта яны любяць абодва. Асабліва калі ёсць аб каго – каб фактура, сюжэт, каб маштаб канфлікту. Жылуновіч і Дубоўка, безумоўна, маштаб.

— Дык ты раней спытаўся б, Шурка. Да таго яшчэ, як рэцэнзіі пісаць. Гм. Ты не быў, а мы ўсе, слухай, ажно раты паразявілі, як Дубоўка кройнуў па Гартным на дыспуце. І як сыпане: «эстэтычныя вартасці», «праблема ўспрымання», «псіхалогія мастацтва» – ахаха-ха! Ты б пабачыў, як зелянеў Жылуновіч! А што ён адкажа? Ён і словаў такіх не ведае. Дый хто б адказаў яму, га? Ты хіба, каб хоць бы часам з-пад спадніцы Наталчынай да людзей выходзіў, брат ты мой. Чуў, дарэчы, як Чарот злаваўся: на з’ездзе аднаго Дубоўку толькі і слухалі. Як распачне гутарку, дык адразу і зразумела, хто тут рэй вядзе, а хто партфель ля пуза трымае.

— А што я адказаў бы? Ён правільна ўсё кажа, Дубоўка.

— Адкуль ведаеш? – хітра прыжмурваецца Вольны. – Ты ж не чуў!

— Дык ведаю. Ён заўсёды ўсё правільна гаворыць.

— Нейкі ты, брат, сёння некрытычны.

— Я проста з ім згодны.

— А, ну так. Хіба што па творчых пытаннях у вас, як я разумею, нязгода, а наконт эстэтычных вартасцяў – тут згода. Ну, за згоду тады давай! Ды больш пляснi, вінчык гэтым разам вы-дат-ны! Вось ты згодны, а Гартны нязгодны, але сказаць нічога не можа, бо з чым нязгодны – не разумее, ну! Што разумны той Дубоўка надта – з тым нязгодны! Што з Масквы прыязджае гады ў рады і камандуе тут,

як і што пісаць, – і з гэтым нязгодны! Што дзядзька Цішка, бач ты, крывёй і потам рэспубліку вось гэтымі кавальскімі рукамі пабудаваў, а такія пісакі панаедуць і раптам – гоп! – і ў дамкі.

— Цесная, бач, Беларусь. Двум паэтам не разысціся.

— Дык каб толькі двум, ды каб толькі паэтам. Як ні павярніся, камусьці ды замінаеш.

У пакоі цёпла: мама ў калідоры падкідае і падкідае ў грубку. Сын дома сёння, хай адагрэецца, два тыдні па вуліцах бадзяўся, невядома дзе да ночы цягаўся, сам не свой. Наташа тая – дзевачка прыгожая, добрая, але ж хлопец галаву сваю страціў зусім, не еў, не піў, нібы ў гарачцы, прыбяжыць, дзяўбане нешта, зваліцца спаць, а зранку ўжо імчыць прысуху сваю з Ляхаўкі на Савецкую праводзіць... От выгадавала хлопца, што цяля: добры, паслухмяны пры дзеўках... А тая дзеўка справу сваю ведае, кіруе: туды вядзі, сюды вядзі... Добра, Толька зараз прыйшоў, мо асядзе крыху каламуць гэтая...

— А во, хлопчыкі, Толічак, капусты пакаштуйце, каўбаскі...

— Вольга Іванаўна! Дарагая вы наша! Мммм! Як я жыў без вашае капусты?! – Вольны хапае талерку, уцягвае пах, закідвае сваю прыгожую галаву і заплюшчвае вочы ад задавальнення. – А ты як без такой капусты жыў, га?

— Ды хопіць ужо, ну! Давай еш і да хлопцаў пайшлі. Якраз сёмая гадзіна, зараз Александровіч падцягнецца. Хто там яшчэ зараз прыходзіць?

— О! Вольга Іванаўна! Пабачце! Да хлопцаў збіраецца! Да хлопцаў! Ці даўно вы такое бачылі?!

— Сціхні, кажу табе! Мам, я позна сёння тады.

— Чакацьму! Агрэст забяру! Вольга Іванаўна, Станіслававічу маё прывітанне!

На вуліцы – хоць іголкі збірай: поўня залівае вуліцу сінім святлом. Хлопцы хаваюць рукі ў кішэні і абодва аднолькава пасцепваюцца ў кажушках на марознай вуліцы пасля гарачага пакоя.

— Слухай, Шурка... А тое дзяўчо, памятаеш? Маладняковачка тая з Віцебска, ну, у «Бельгіі» тады... Наста ці як яе? А яна што? З ёй ты як?

Шурка маўчыць. Усміхаецца, міргае.

— Ну, як знаеш. Я што... Успомнілася проста. Вочы такія...

— Не ведаю я, Толька, нічога. Было тады, і ўсё. Чакаў яе на з’ездзе на другі дзень, у прэзідыум ажно не сеў, каб не прапусціць, як прыйдзе. Яна не прыйшла. Надта я для яе папсаваны, разумееш. Уночы не саромеўся, і наогул так усё выйшла неяк... Харошая яна. А я жыву, як жывецца, ты ж ведаеш. Сам так жывеш.

— Ой, жыву, браце! Тая Ганя чарнавокая з «Еўропы» — які ж агонь! Жыццё, здаецца, аддаў бы! А як выйду з «Еўропы», дык думаю, за што аддаваць... Ды годзе, праўда, як будзе сабе, асабліва ж розніцы няма, якая з іх. Лепей паслухай, што ў «Маладняку» зараз робіцца, бо прыйдзем, а ты палітычнага становішча не разумееш. Шчэ ўхілішся.

Яны ўжо перамахнулі Шкляны завулак і рушаць уздоўж Маскоўскай. Абапал дарогі гурбы, паўз іх цягнуцца глыбока пратаптаныя сцежкі, Вольны, невысокі, імклівы, размашыста крочыць наперадзе, махае рукамі і крыкам дакладае Дудару становішча ў «Маладняку». Дудар, заклаўшы рукі ў кішэні, угнуўшы галаву, прыслухоўваецца і ледзь паспявае за сябрам, не заўсёды патрапляючы ў ягоны дробны і шпаркі след сваімі даўгімі нагамі. Яны так з дзяцінства ходзяць: Ажгірэй — жвавая сталёвая іголка, Дайлідовіч — даўгая трывалая нітка.

Снег пад нагамі рыпіць. Нырца пад Заходні мост, па якім якраз цягнецца цяжкі таварняк, выпускаючы пару і набіраючы ход.

— А Бабарэка ходзіць незадаволены! — крычыць Толька і ўзмахвае рукамі.

Чаму Бабарэка незадаволены — гэта тоне ў грукаце і гуле, але Шурка і так ведае: незадаволены невысокай якасцю літаратурнай прадукцыі, чым жа яшчэ. Такія шпакі, пабач! Ён ім яшчэ ў дваццаць чацвёртым з Полацка пісаў: не трэба цягнуць у філіі рознае пакідзішча, абы толькі два словы па-беларуску звязваюць, не трэба адкрываць філіі дзеля таго, каб проста адкрыць філіі, не! У адказ — адны толькі кіраўнічыя лозунгі. Працуй, Дудар, што за соплі? Цягні ўсіх у «Маладняк», хто ўмее правільна «ч» вымаўляць і звонка «дзекае»! А вершам навучым! Цяпер яны незадаволены якасцю літаратурнай прадукцыі? А то ж!

Дудар адчувае, як унутры ўздымаецца глухое раздражненне, але ў гэты момант Вольны, неяк асабліва шырока ўзмахнуўшы рукамі і ўзбрыкнуўшы адной нагой, падае наўзнак у снежнае месіва. Хто б не скарыстаў такі выпадак! У тое ж імгненне ў Тольку, які ў нечаканай разгубленасці ляжыць на снезе, шырока раскінуўшы рукі, ляціць снежны камячына. Маланкавы рух, падсечка — і на снег ляціць ужо Дудар, не ўтрымаўшыся на даўгіх нагах.

Яны ляжаць у стоптаных гурбах рудаватага снегу, над імі раскашуе сіняе менскае неба ў зялёных зорках.

— А ў «Еўропе» шампанскае сёння наліваюць?

— Шчэ як наліваюць!

— Столькі камандзіраў развялося, Толька. Усё жыццё жывеш — пад казырок бярэш. Нават з бабай.

— А ты не бяры, тае бяды.

— Ну і не буду.

— Ну і правільна, — і Вольны, вокамгненна падхапіўшыся, зараджае ў сябра агромністай снежкай.

У Інбелкульце, як з вуліцы зайсці, цёпла і вогла, адразу ахоплівае шчаслівае і трывожнае пачуццё. З-за прыкрытых дзвярэй даносіцца ляскат друкарак, гучныя галасы — не разабраць, што канкрэтна кажуць, але адусюль сваё: мякка пасвістваe «с», звініць «зь» і «дз», напрыканцы сказаў інтанацыя паволі ўздымаецца ўверх, словаў не чуваць, але музыка гаворкі — свая. Па калідоры разносіцца гулкае рэха — гэта нехта з некім спрачаецца ля акна ў калідоры, выпускаючы папяросны дым у фортку. Па лесвіцы бегам на другі паверх, адразу направа — дзверы ў рэдакцыю адчыненыя, з іх паўзе густы дым і чуецца страшэнны гоман, які раптам выбухае рогатам. З агульнага гвалту вылучаецца высокі, асабліва заразлівы смех.

— І Паўлюк тут! Даўно яго, чарцяку, не бачыў! Слухай, я ўсіх даўно не бачыў! Ці не з «Бельгіі»!

Вольны пасміхаецца, не паспяваючы нічога адказаць, бо яны ўжо прыйшлі, і грамада выбухае насустрач:

— О-о-о-о!

Ніякіх сходаў ці пасяджэнняў сёння няма, часопіс ужо здалі, генералітэт — Чарот, Зарэцкі, Пушча, Бабарэка — у такія дні амаль не бывае, таму хлопцы тут проста бавяць час: гамоняць, перакідваюцца навінамі, згадваюць апошнія плёткі, а калі папраўдзе, то, пэўна, нібы пчолы, адчуваюць свой рой, прыглядаюцца, ці сапраўды разам, дакранаюцца плячыма, паціскаюць рукі, глядзяць у вочы, пасміхаюцца — так, тут, разам, не адзін. Здаецца, спраў асаблівых няма, але гэта насамрэч галоўная справа — прыйсці і адчуць сябе ў гэтым віры, у гэтым перакрыжаванні чужых сусветаў, кожны з якіх неадменна падобны да твайго. Гэты вір такі зразумелы і такі родны, што вось, зараз, трэба толькі ўздыхнуць на поўныя грудзі — і ты адчуеш, што ён разгортваецца навокал па тваіх законах. Частка і цэлае, выканаўца і творца, адзін з усіх і сам увесь — ты нібыта апынуўся ў нейкім спрадвечным моры. Адкуль выйшла ўсё і куды ўсё вернецца. Так адчувае тое, што тут адбываецца, Дудар, і таму зараз ён шчасліва цісне працягнутыя яму рукі, безупынна міргае і адказвае на воклічы нешта няўцямнае, няважна што, абы дадаць свой голас да агульнага гоману. Ён абавязкова скончыцца хутка вершамі, гэты гоман, можа, Паўлюковымі, можа, Петрусёвымі, гэтыя самыя нецярплівыя, і яму захацелася наўпрост зараз нешта такое кінуць у паветра, няхай толькі чатыры радкі, але каб усё навокал завіравала ў ягоным рытме, і словы падкаціліся да горла гарачым комам, і стала цесна ў грудзях.

Нехта моцна ляскае па спіне:

— Ну здароў, браце!

Александровіч! Ці то вярнуўся зусім з Калінінશчыны, ці то прыехаў на пабыўку.

— Навін для цябе — куча і горба, мех і торба! У такім раі апынуўся, ты такога не бачыў яшчэ! За бацюхнам нашым Алесем Фамічом па-беларуску хіба толькі качкі ў нас не крэкчуць, і тыя ўжо за падручнікі селі! Як прыедзеш, вяртацца не захочаш — такая ў нас там Беларусь настала! Як той казаў, і сонца па-беларуску ўстае, і рэчка па-беларуску бяжыць. Як Адамовіча сюды перавялі б ды крыху ўлады далі, дык і Менск зарыпеў бы па-нашаму ўвесь, да самых Татарскіх агародаў!

— А дзе Адамовіч сам?

— Ды там пакуль, справы, бач, нявыкрутка, няма калі тут раз'язджаць. То я вярнуўся, а там ля яго месца вольнае.

— Дык а ты чаго з таго раю збег?

— Не збег, браце, справы тут маю.

Александровіч заўсёды мае справы там, дзе цяплей і сытней. Колькі ведае Андрэя, столькі ён такі. Але ўсё роўна свой, што ты з яго возьмеш, вясёлы, на прыдумку якую здатны, чорт з ім, няхай жыве як можа, мо і праўда махнуць у Калінінશчыну Алесю Фамічу пад бок? Наташа хіба толькі...

За ўвесь вечар толькі зараз успамінае Наташу і нецярпліва міргае, трасе галавой: пасля, пасля.

— Дык а што наогул Адамовіч кажа?

— Што кажа — я табе і за вечар не перакажу. Заўтра прыйду да цябе — пагамонім. Ты ж у Чарота зараз?

— У яго, але, пэўна, сыду сюды, на «Маладняк». Прыходзь, Чарот на вучобе ў Маскве, у нас ціха, будзе час пагаманіць.

— Ледзь праціснуўся да цябе, Дуглас Фэрбенкс, далібог! — парасліхаўшы хлопцаў, кідаецца да Дудара Валька Маракоў. Бачыць яго шалёна прыемна: зусім яшчэ падлетак, твар нібыта свеціцца ружовым знутры, у блакітных вачах — бясконцая любоў і захапленне таварышам. — Я вершаў табе хацеў прынесці, напісалася там нешта, але ж патрабуецца рука майстра.

— Сам ужо майстра, нават не разгортвай! У «Маладняку» потым прачытаю, з ліста, аддавай на машыну адразу, скажы, я глядзеў.

Навакольны гоман раптам становіцца нібыта ўпарадкаваным, падобным да гулу блізкага цягніка, хлопцы мімаволі прыслухоўваюцца, падымаюць галовы. На падаконнік, каб быць крыху вышэй, ускоквае Глебка, сядае, ледзь прыхіліўшыся прамой спінай да халоднай шыбы.

Вее вецер — лёгкі подых,
На дарозе снежны пыл.
Перажытага не шкода,
Маладым бы толькі быць!
Ды не ўмелі, мусіць, вочы
Зберагчы агонь жывы…
Помню толькі стан дзявочы,
Мурaжныя паплавы…

Слухаюць па-рознаму. Трус, утаропіўшыся ў свае шырокія, пасялянску моцныя рукі, ціха ківае галавой у такт вершаванаму радку. Лужанін раз-пораз ківае ў адказ на «снежны пыл» ці «муражныя паплавы». Вольны, хітра ўсміхаючыся, неўпрыкмет пацёпвае плячыма. На твары Маракова лёгка чытаецца нецярпенне: здаецца, ён скочыць на падаконнік адразу пасля Глебкі, бо зараз атрымлівае відавочны доказ і сваёй паэтычнай вартасці, бо не горш, а нават і лепш! Недзе ў куце, прыткнуўшыся да сцяны, глядзіць некуды ўнутр сябе Якімовіч: здаецца, Глебку ён зусім не чуе. Александровіч слухае ўважліва, накшталт школьнага настаўніка, незадаволена крывіцца ці то сам сабе, ці то ацэньваючы які радок. Але цішыня.

Вольны цішком штурхае Дудара і хутка шэпча: «Чуеш, Шурка? То ж твой перапеў! Толькі паслухай: рытм – адно ў адно: „За акном маім абрывы, а на дне іх пыльны брук…“ Твой памер узяў!» Дудар часта міргае ў разгубленасці, адбівае рукой некалькі тактаў услед за Глебкам і нахіляецца да Вольнага: «Дык мы наогул абодва спісалі, ды шчэ ў каго! „Буря мглою небо кроет“ – чуў такое? Памятаеш, чыё?» Вольны пачынае душыцца смехам, Глебка з падаконніка кідае на іх разгублены позірк. «Калі ўжо сваім голасам спяваць пачнём, а, Толька?» – «А так што, не сваім? У алфавіце трыццаць літар, ці колькі іх там, у вершы пяць памераў, як ні пішы, штонебудзь у гэтым сэнсе паўторыцца. Гэта ж не голас, гэта… ну, не ведаю. Ноты. Голас – то мова». – «Не так проста». – «Так проста. Не калупайся ў носе – кроў пацячэ. Ты пішы, галоўнае, твая справа невялікая, як паэт – дык складай вершы сваёй мовай, нешта і выйдзе». На іх шыкаюць, штурхаюць. Нарэшце Глебка саскоквае, Трус паціскае яму руку, Лужанін ляпае па плячы і сам узбіраецца на месца выступоўцы, кідаючы Маракову: «Піянеры – апасля!» Блакітныя вочы Маракова становяцца шэрымі ад імгненнай крыўды. Ён сціскае зубы, вусны крывяцца і ледзь не дрыжаць, але пакуль ён прыхінаецца да сцяны і слухае разам з усімі.

«Гэты мацнейшы ўсё ж будзе», – шэпча Дудару Вольны. Той паціскае плячыма. «Абодва – пад Дубоўку. Ён быў?» – «Не, як са з'езда

паехаў, так пакуль не прыязджаў. Здаецца, у красавіку абяцаўся». Дудар моўчкі ківае.

Праз гадзіну, спатоліўшы маладнякоўскую прагу, выкульваюцца грамадой на вуліцу. На вуліцы пуста: а дзявятай зімовы Менск хаваецца па дамах, і толькі моладзь перабягае ад будыніны да будыніны. На рагу Рэвалюцыйнай і Камсамольскай спыняюцца, паціскаюць адзін аднаму рукі, ляпаюць па спінах, разыходзяцца: частка накіроўваецца да Глебкі на Мацвееўскую, частка рушыць за Дударом і Вольным наверх да Савецкай. Куды ісці, пакуль не ведаюць, мо ў «Акварыум»? Ці ў «Еўропу»? Ці да кагосьці, хто мае асобны пакойчык у цэнтры, і можна скінуцца па капейчыне на няхітрую закуску? У гэтых сур'ёзных разважаннях паварочваюць нарэшце на Савецкую і сутыкаюцца з купкай дзяўчат. Дык то ж нашы! Наташа, Зіна, Жэня. Гарачай хваляй абдае Шурку з макаўкі да пятак: за два тыдні прывык да яе, блізкай, хатняй, сваёй, якая прытулілася пад ягонай пахай, а тут, на вуліцы, яна нібыта зноў далёкая, зноў чужая, такая, якую трэба наноў прыручыць. «Наташка...» — выдыхае шчасліва, цягнецца прытуліць і адначасова заўважае, як усміхаецца Вольны і як халодна, варожа глядзіць Наташа. Адступае — у немым здзіўленні. Наташа глядзіць перад сабою, халодна ківае Вальку, Якімовічу і Вольнаму, абмінае Дудара і крочыць паўз хлопцаў. Дудар высока падымае галаву, але твар ягоны гарыць, нібы пасля аплявухі. Зіна, вінавата ўсміхаючыся і цёпла паціскаючы працягнутую ёй Толікаву руку, шэпча яму: «Ён павінен быў сёння прыйсці і не прыйшоў, дык во што парабілася, бач? Злюшчая — страшна!» Жэня аглядае хлопцаў і, не пабачыўшы сярод іх Лужаніна, уздыхае з нейкай нават палёгкай: няёмка быць шчаслівай побач з раззлаванай сяброўкай, якую пакрыўдзіў каханак. «Хлопцы, заўтра ж будзеце ў „Маладняку"? Я хацела вершаў прынесці!» — адчайна і прымірэнча звініць галасок Зіны. «Будзем, Зіначка, прыходзь! Добрых дзяўчат мы заўсёды чакаем! — галасна абяцае ёй Вольны, штурхае Дудара і аб'яўляе: У «Акварыум!» Потым сілком нагінае галаву вышэйшага ростам сябра і з пагрозай шэпча яму ў вуха: «Толькі паспрабуй пабегчы за ёй!»

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Так прайшло чатыры месяцы, а ў сакавіку мяне адшукаў Лазар Каплан. Ён кіраваў цяпер віцебскай філіяй, быў поўны задору і збіраў сяброў, якія былі зусім разбегліся, па ўсім горадзе. Я пайшла. Пасяджэнні праходзілі

раз на тыдзень па пятніцах, і першае з іх было такое ўтульнае, хатняе... Успомніўся Белпедтэхнікум, Глебка з Каратаем, Наташа з Зінай, бялявы Антосік Адамовіч — усё, што, здаецца, спалена было ў сэрцы несупыннымі ўспамінамі пра «Бельгію», раптам аказалася жывым і цёплым, і я ўпершыню за апошнія месяцы адчула сябе нібыта шчаслівай. На другое пасяджэнне я ўжо бегла. Была таксама пятніца, 12 сакавіка. У Менску ішоў працэс лістападаўцаў, і кіраўніцтва ўчора яшчэ абвясціла, што сёння будзе пасяджэнне па гэтым працэсе і з Менска прыедзе чалавек, які адпаведна патлумачыць нам сутнасць справы і нашу маладнякоўскую пазіцыю па ім. Пасяджэнне абяцала быць сур'ёзным, а мне было весела ўпершыню за доўгі час. Каплан спазняўся, бо паехаў на вакзал сустракаць менскага чалавека, і мы, зусім як некалі ў Белпедтэхнікуме, пачалі перакідвацца жартачкамі. На калідоры пачуліся галасы, дзверы адчыніліся, увайшоў Каплан, і з ім — Дудар.

Ён быў дужа вясёлы, усім паціснуў рукі, і мне таксама, і неяк доўга міргаў, перш чым пачаць гутарку, проста і душэўна прамаўляў пра здраднікаў, контррэвалюцыю і наш пратэст, і калі вочы ягоныя спыняліся на мне, голас гучаў асабліва пераканаўча.

— Мы павінны, таварышы, пільна сачыць, каб у нашых шэрагах не пладзіліся такія вось Лістапады, якія толькі і чакаюць... — угаворваў ён мяне сваім нягучным, з прышэптам голасам, нібыта я першая была ў небяспецы.

Калі пасяджэнне нібыта ўжо скончылася, хлопцы не разыходзіліся — яны абступілі менскага госця, пачалася гамана. Я ціхенька прабралася да дзвярэй і выскачыла на калідор.

— Таварыш Нарутовіч! Наста! Пачакайце!

Дудар выбег з пакоя і зараз крычаў на ўвесь калідор. Я спынілася. Ён таксама стаў. Свет з адчыненых дзвярэй абягаў ягоную постаць, і я не бачыла твару, не бачыла, як ён міргае ці ўсміхаецца, бачыла толькі абрысы — высокі, стромкі, з крыху разведзенымі ўбакі рукамі.

Падбег.

— Наста. Ну даруй мне. Я тады... Неяк я не падумаў тады. Падумаў, ты прачнешся, прыйдзеш на з'езд, там перастрэну цябе, дамовімся пра ўсё, я чакаў, праўда, я не падумаў, што павінен быў вярнуцца ў «Бельгію», даруй мне, чуеш? Ну, вось дай толькі зараз хлопцаў хуценька раскідаю, пачакай, я ўсё патлумачу табе...

Хлопцаў ён раскідаў і сапраўды вельмі хутка, яны нават абразіліся, бо з «найперапаважаным Дударом» ім хацелася, вядома ж, добранька выпіць.

Яны яшчэ спрабавалі зацягнуць яго да дзядзькі Зэліка, які трымаў на рагу Савецкай і Замкавай невялічкую піўнушку, але ён смехам адмовіўся, і хлопцы нарэшце адчапіліся, пайшоўшы да Зэліка звычайнай, хоць і крыху пакрыўджанай кампаніяй.

— Ну, Наста, цяпер вядзі мяне. Каплан сказаў, за чыгункай мая кватэра, Полацкая, два. Вядзі мяне, я ўвесь твой. Калі не адмовішся ўзяць, Наста.

Я яшчэ забегла да Рыўкі, раскудзеленая, зацалаваная, папярэдзіла яе, што нібыта начую тут, потым заскочыла дадому, крыкнуўшы з сенцаў, што сыходжу да Рыўкі, абы толькі ніхто не пабачыў мяне, шалёную. Алесь чакаў мяне ля веснічак і лавіў у абдымкі. Як мы знайшлі тую кватэру? Здаецца, ішлі да яе дзве гадзіны. Назаўтра я прабегла гэты ж шлях ад дома да чыгункі за пятнаццаць хвілін — цераз гнуткі мост, праз шэрую Дзвіну, паўз рэйкі.

Ён прабыў тады ў Віцебску тры дні.

Я зараз думаю: а ці елі мы? Пэўна, елі, дакладна — пілі ваду, бо я запомніла, як прыгожа ён п'е. Наогул ён усё рабіў прыгожа: распальваў печ, захінаў фіранкі, гасіў святло, адчыняў дзверы, заскокваў у хату з халоднай вуліцы. Ніколі потым у жыцці я не бачыла такога зграбнага, адпаведнага ў кожным сваім руху чалавека.

— Гэта ўсё дзядзька Галубок, — смяяўся Шурка, з задавальненнем, як сыты кот, міргаючы. — Каб ты ведала, як ён ганяў нас, каб у лявонісе ніводная рука не боўталася без таго, каб не быць чаму-небудзь паралельнай.

Пра Галубка ён расказваў шмат. Я, вядома ж, за педтэхнікумаўскім часам бывала ў «Беларускай хатцы», у КІМе, у «Акварыуме», бачыла і «Суд», і «Плытагонаў», бачыла і дзядзьку Галубка па-за сцэнай, ён раз-пораз заходзіў у тэхнікум да Тэраўскага. Гэта быў высокі, падцягнуты, з бездакорнай паставай чалавек. Сівізна і ўсмешлівыя шэрыя вочы, цвёрдыя, добра акрэсленыя вусны — ён нават не падаваўся старым, і адчувалася, што ў яго можа закахацца і маладзічка. Сапраўды, у іх было нешта аднолькавае — у Дудара і ў Галубка, у Міхася Чарота — нейкія вельмі дакладныя рухі, асэнсаваныя і прыгожыя. Ніколі не матляліся ў разгубленасці іхныя рукі, не рабілі някрутKіх выпадаў ногі, у якім бы стане ні знаходзіўся гаспадар тых рук і ног.

Дудар прабыў у тэатры з Галубком паўтара года. Сусед па Праваднай, вясёлы чыгуначнік з Лібава-Роменскай, дзядзька Галубок неяк запрапанаваў яму, яшчэ падлетку: «А што ты боўтаешся, хлопча, без справы па горадзе? У школу ты нібыта не ходзіш, як я пагляджу, на працу таксама, дык давай да нас у тэатр!»

Гэтае вандроўнае жыццё, бесклапотнае, але ж насычанае, здаецца, было створана для таго, каб ім жыў Дудар. Прачнуцца на досвітку недзе ў чужым свіране ці пад стогам, выйсці на зялёную траву. Павытрасаць з валасоў залатую салому, набраць прыгаршчы сярэбранай вады і лінуць яе ў твар. Азірнуцца: устаюць, падцягваюцца хлопцы, рогат, жарты, зноў рогат... З хаты вышкрабаюцца дзяўчаты, а адна з іх толькі-толькі збегла ад яго, з гарачых ягоных абдымкаў, і ў косах яе блытаецца салома таго ж залатога адцення. Падысці, выцягнуць з чорнай касы жоўтую саломінку, зазірнуць у вочы, у якіх яшчэ не згас той самы агонь.

І шкада было мне, што гэта была не я.

Ён заўсёды лёгка і з асалодай хадзіў пешшу. Аднойчы, расказваў, прыйшоў у Менск з Пухавіч. Паехаў па справах тэатра ў Пухавічы, не разлічыў з грашыма, вяртацца — а грошай няма набыць квіток, і ён проста пайшоў па рэйках. Семдзесят вёрст! Ды што Пухавічы. Падчас вандровак з Галубком хадзілі яны заўсёды пешшу, калі былі калёсы, дык на іх ехалі дзяўчаты і дэкарацыі, хлопцы ж ішлі пехатой і лесам, і полем, і лугам, і берагам. А калі не было калёс — часцей не было, — цягнулі касцюмы і дэкарацыі на плячах.

Выступалі ўсюды. Было, што ў хляве: гледачы размяшчаліся на саломе ў вялікім памяшканні, дзе да вайны трымалі коней, а акцёры выходзілі з катушка, у якім рохкалі парсючкі.

«Пабач, Таня, як твае гусі граюць! А вой, які важны, ты глядзі, на сцэну палез!» — крычалі бабы, заліваючыся смехам, і гусі задаволена гергеталі.

А то Галубок убачыць прыгожы муражок ля аселіцы: «Хлопцы! А ну давай сюды! Во тут будзе сцэна, тут сядуць людзі, тут аркестр! Во гэтая бярозка якраз, а з таго свіранчыка будзе Гэлька выходзіць...»

Ежу куплялі на тое, што заробяць за спектакль, а то і заробкі давалі — смачным, спектаклі заўсёды даваліся з аншлагамі, таму і ежы было поўна. Дудар казаў, ніколі потым так не еў, і да гэтага — таксама.

Усе галубкоўцы павінны былі ўмець тры рэчы абавязкова і дзве — калі пашэнціць. Першыя тры — чыста размаўляць беларускаю, спяваць і танчыць. Дзве дадатковыя — пераўвасабляцца ў герояў п'есы і імправізаваць. Дудар умеў тры першыя. Пераўвасобіцца ў яго ніколі не атрымлівалася: ён у кожнай ролі іграў развясёлага шалапута, гэткага вясковага жартаўніка-бесклапотніка — ні за кій ні за цям. Калі ў п'есе такі трапляўся, дык Галубок без ваганняў даваў ролю Дудару. Але ж здаралася такое нячаста, таму Дудар рабіў, што ўмеў: спяваў у хоры, выходзіў у масоўцы, а ўжо што да танцаў, дык без яго ніводная лявоніха не складвалася. І ў падэспані, і ў «Юрачку», і ў «Мяцеліцы», і тым больш у «Дударыках» не было яму роўных. Усё тая ж маладая, цераз край, шчырасць і бесклапотнасць чыталіся ў ягоных рухах і ягонай усмешцы, у тым вясёлым адчаі, з якім ён выгрукваў рытм, калі было па чым грукаць.

Ён прабыў у Віцебску тры дні. Я толькі аднойчы збегала дадому, нешта спешна схлусіла, і, думаю, мне ніхто не паверыў, але не было такой сілы, якая б спыніла мяне ці пакінула дома, і мама гэта, пэўна, зразумела. Апошні дзень усё валілася ў мяне з рук, і калі Дудар хадзіў у горад па справах, а я чакала яго, то зноў плакала. Ён прыйшоў і даў мне за сплаканыя вочы вялікага прачуханца, абяцаючы прыязджаць, пісаць, кахаць, а як скончыцца навучальны год і я разлічуся з тэхнікумам — забраць да сябе ў Менск. Я пайшла з ім на вакзал і ад адчаю нават не саромелася, калі ён абдымаў мяне і цалаваў наўпрост на вакзале каля цягніка, і было яшчэ светла, і гэта мог бачыць хто заўгодна і расказаць маці, але ўжо ніхто не быў мне камандзірам, акрамя Дудара.

Ён прыехаў праз тры, здаецца, тыдні. Мама з'ехала да сваякоў на вёску, і ён жыў два дні ў мяне. Нікога не баялася я зусім — ані суседзяў, ані маму. «Як жа ў цябе антонаўкамі пахне, — усё дзівіўся ён, — нібы ў садзе! Наста, што ты зрабіла са сваім пакоем? Як пад яблыняй ляжу!» Яму падабалася ўсё: і сцены, якія мы з мамай увосень, яшчэ да «Бельгіі», начыста выбелілі, і партрэты Купалы і Багдановіча, якія віселі над сталом, і круглае люстэрка ў драўлянай раме, і акуратна складзеныя мае кніжкі. «Якая ж ты студэнтка ў мяне, Настачка! Мо і я пайду павучуся, таксама так во кніжкі буду раскладваць, сур'ёзны буду чалавек!» Узяўся нават за англійскі падручнік і з паўгадзіны з вельмі засяроджаным выглядам гартаў ягоныя старонкі, але ж адклаў з такім трагічным тварам, што я да вечара смяялася. А потым, як было ўжо цёмна, ён раптам дастаў з-пад ложка, са свайго партфеля, чырвоную кніжку: «А давай я табе, студэнтачка мая, пачытаю крыху», — і пачаў чытаць па-французску. Ох, я рот ажно разявіла! І слова сказаць не магу! Стаю, паветра хапаю! А ён чытае, прыгожа, шпарка, выразна, грасіруе — і ўпотай, аднымі вачыма, смяецца. Тады ж і Гейнэ чытаў мне — на памяць, па-нямецку. Ускочыў, стаў пасярод пакоя, дэкламаваў гучна, кожнае слова нібы праз кропку. Думаю, яму было весела паказацца перада мной такім, якім ён насамрэч марыў быць — кніжным хлопчыкам, паліглотам, старанным вучнем, які хацеў бы, каб ім ганарыліся. Я ім ганарылася, вядома ж.

Увечары мы пайшлі з ім да Зэліка, узяўшы з сабою Рыўку, а потым блукалі па хмызняку па берагах Віцьбы, і Дудар, падвыпіўшы і ад таго яшчэ больш вясёлы, смяшыў нас, ажно мы плакалі ад смеху. Рыўку прывялі мы дадому ў глыбокую ноч, і цёця Фаня строга глядзела на мяне чорнымі вачыма, але ўсміхалася майму спадарожніку.

А потым я чакала, чакала, чакала, а ён не ехаў, не ехаў, не ехаў.

## ГОРАД. МАСКВА

Гэта заўсёды адбываецца ўночы: пупышка раптам лопаецца, і з яе павольна, няспешна, але няўмольна разгортваецца ліст. Яшчэ ўвечары ты ішоў празрыстай вуліцай, дзе скрозь чорнае вецце глядзела на цябе белае хрусткае неба, а раніцой за цяжкімі дзвярыма пад'езда цябе раптам сустракае зялёнае трымценне і ашаламляльны пах нованароджанай лістоты.

Тут, на Малой Грузінскай, лісце так і водарыла – ашаламляльна. Ужо на Чырвонай Прэсні – не тое, а тут – галава кругам. І таму гэты высачэзны, даўгарукі і даўганогі, шыракаплечы, але смешна расчулены і агаломшаны вясной малады велікан стаяў зараз у двары

пяціпавярховай будыніны і на поўныя грудзі дыхаў маскоўскім прахалодным паветрам.

Покуль ніхто не бачыць, ён мог дазволіць сабе пабыць сентыментальным – у іншыя хвіліны саромеўся. Ніхто не бачыў і не ведаў, што і сляза можа пабегчы і капнуць з носа – ад вершаванага радка, ад няхітрага пейзажыка за акном цягніка. Сябры пасмейваліся з ягонай прывычкі паўсюль вазіць за сабой і прыладжваць на сцены любога прытулку малюначак у таннай рамачцы – бярозкі і поле, а ён часам, як глядзеў на тыя бярозкі, адчуваў, як сляза казыча вока. На людзях, вядома ж, стрымліваўся. Апошнім часам хіба даў сабе слабіну – з Настай Маркавай. Смешным стаў. Як атрымаў агульны фотаздымак са з'езда, дык закінуў яго куды глыбей сярод папер: рассуроплены нейкі, слабы зусім, з дзіцячай усмешкай, хіліцца да яе, а яна – бачна, усё бачна! – адхіляецца ад яго, імкнецца адсунуцца як надалей.

Але ж вясна! Усё яна загоіць, асабліва калі лекаваць трэба прыгожага дваццаціпяцігадовага хлопца пасярод Масквы.

Гэтую дарогу Дубоўка мог прайсці з заплюшчанымі вачыма. Чаму так адбывалася, што ўсё ягонае маскоўскае жыццё закручвалася вакол менавіта гэтай восі? Па Малай Грузінскай уверх, паўз чырвоныя муры касцёла, старэнькія камянічкі і драўляныя сядзібкі здавён тутэйшых жыхароў, налева на Прэсню, на якой ужо дыхае каменным пылам працоўны горад, адтуль на Кудрынскую і, мінаючы славутую чэхаўскую «шкатулку», дзе ўсяго толькі трыццаць гадоў таму прымаў хворых гэты доктар, даеш нырца на Малую Мікіцкую. І праз колькі крокаў – жоўты будынак былога Прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе РСФСР, будынак ягонага шчаслівага юнацтва.

А калі выскачыць з будынка і адразу, нікуды не збочыўшы, махануць праз Скарацінскі завулак – тры хвіліны хады, – апынешся на Паварской. Тут, у «асабняку Растовых», яшчэ два гады таму шумеў маладымі галасамі Брусаўскі інстытут. І гэта таксама будынак ягонага шчаслівага юнацтва.

То была нібыта струна, нацягнутая паміж гэтымі двума пунктамі маскоўскай прасторы, – ягоны звычайны дзень.

Зранку ледзь не бегам – з Грузінаў на Нікіцкую: а восьмай пачынае ўжо разгортваць дзяржаўную дзейнасць Міхась Мароз. Ён жыве наўпрост у будынку прадстаўніцтва, таму на працу не спазняецца ніколі. Невысокі, хударлявы, з дробнымі вострымі рысамі прыгожага, акуратна выразанага твару, ён з раніцы ўжо ў тым невялікім пакойчыку, дзе ідзе адміністрацыйная праца, прымаюцца высокія госці, складаюцца дакументы, чакае перапраўкі на Менск чарговы тэрмінова патрэбны маладой Беларусі груз ці сядзіць які студэнт

з-пад Барысава, якому трэба знайсці месца ў Ціміразеўцы ці наогул дзе заўгодна, там, дзе хапае магчымасцяў Міхася Мароза.

— Уладзік? – не падымаючы галавы ад нейкай паперчыны, якую ён вывучае з лупай, голасна пытаецца Мароз, пачуўшы ў калідоры крокі. – Уладзік, тэрмінова трэба разбірацца з паўпрэдствам Туркестана. Я не ведаю, ці ноту пратэстную якую скласці ім, ці так пайсці прачуханца даць? Ты браму нашую бачыў? Ага! Слупа як не было – у пыл знеслі! То ж яны развалілі, як камеру дэзынфекцыі вывозілі! Пяцьдзясят чырвонцаў хачу ад іх атрымаць, Уладзік, як бы нам гэта аформіць? Столькі рабілася маштабнага, а памятаецца найперш каменны слуп, разбіты паўпрэдствам Туркестана ці дзесяць вёдзер піва, якія замовілі на той банкет, на якім Мароз заручыўся з Алесяй Александровіч.

І ўвесь дзень, не падымаючы галавы, у рытме, бязлітасна зададзеным нястомным Марозам, – паперы, паперы, тэлеграмы, дэпешы, загады, ноты, лісты...

А пятай хутка складае неапрацаваныя паперы ў акуратны стос, цісне руку Марозу:

— Усё, дзядзька Міхась, на сёння скончыў, дазволь адбыць на вучобу!

— Давай, Уладзік, вучыся, – не падымаючы галавы ад чарговай інструкцыі з Менска, адказвае на поціск Мароз. – Калі ўжо я, слухай, да сваёй вучобы дабяруся? Мо нас з Юшкевічам выключылі ўжо з таго МДУ, покуль я тут паўнамоцна прадстаўляю суверэнную рэспубліку?! Пошту забяры, закінеш, як будзе нагода!

Скарацінскі завулак вузкі, імклівы, нібы штурхае ў спіну, па ім не бяжыш нават – ляціш, хвіліна, дзве, тры – направа, чыгунны пераплёт расчыненых ушыркі варотаў, белыя калоны і шэрыя сцены паўкругам – інстытут. У кабінеце Брусава святло – Валер Якаўлевіч сёння тут, значыцца, усе будуць хадзіць па калідорах шпарчэй і сядзець на семінарах цішэй у чаканні: а раптам зойдзе. Дзяўчаты, што перабягаюць на перапынку з класа ў клас, глядзяцца ў цёмныя шыбы: а як выйдзе Брусаў, ці добра прычасаная? З настаўніцкага пакоя выбягае Адаліс, тонкая, стромкая, усхваляваная. Без Брусава яе кожны штурхане: ага, цягне паўсюль палюбоўніцу. Як Брусаў тут, дык і на яе, на яе – на першую, падае водсвет агульнай любові да Майстра. Уладкавацца за цеснай партаю – і аддацца таму, што тут робіцца: вершаваным памерам, англійскім плюсквамперфектам, гістарычнай паэтыцы і жанравым эксперыментам мінізінгераў. Сапраўднае жыццё, жыццё літар і старонак.

Ягонае юнацтва было такое шчаслівае, што, далібог, няўзнак чакалася, калі ж папросяць разлічыцца.

Два гады мінула, і цяпер ён ідзе далей, стрымліваючы крыху хаду ля былога прадстаўніцтва і мімаволі заглядаючы ў вокны: падаецца, у другім пакоі, там, дзе крыху адхінута фіранка, бялее ў цемры пакоя акуратны чуб Міхася Мароза.

Чым далей, тым шырэйшая вуліца, тым мацнейшы свяжак. Малая Мікіцкая, наліваючыся халодным паветрам да самых краёў, імкне да Цвярскога бульвара, які сёння з раніцы патанае ў пяшчотным зялёным лісці. Дрэвы на Цвярскім выцягнулі поўныя, налітыя сокамі галіны, і на іх, як на матуліных руках, гайдаецца маскоўская вясна. Птушкі, адурэўшы ад шчасця, не шчабечуць нават — гарлапаняць на ўсё сваё птушынае горла, гудуць машыны, звіняць трамваі, і ўжо зіхацяць наперадзе нясцерпным яркім золатам макаўкі крамлёўскіх сабораў. Масква — горад яму па плячы, па ягоным маладым разгоне.

У Менску цесна, менскія вуліцы нечакана сканчаюцца, як толькі ён разахвочваецца па іх ісці, як толькі набірае свой звычайны маскоўскі тэмп. У Менску ён пачуваецца крыху Гуліверам, а тут людзі яму ўпоравень.

Падыходзячы да Крамля, звыклым рухам дастае з унутранай кішэні пропуск. Чырвонаармеец на ўваходзе кідае позіркам: праходзь. Тыя, хто вартуе даўно, яго ўжо пазнаюць, ледзь кранаючы позіркам кардонку пропуска. Шмат прыкметнага народу ў Крамлі, але і ён прыкметны. Тут, у Крамлі, у самым эпіцэнтры новабудоўлі, ён адчувае сябе на сваім месцы. І паветра хапае, і прасторы.

Чацвёрты паверх, вокны на раку. Рэдакцыя «Весніка ЦВК». Усё, што ідзе адсюль, з самага сэрца новага часу, у Менск, ідзе ў ягоным перакладзе.

Гэта вялікі пакой, на шэсць сталоў — тут працуюць над перакладамі законаў адказныя рэдактары з шасці савецкіх рэспублік. Папяросны дым, маскоўскі гул, які мкне ў адчыненыя вокны, стракат «ундэрвудаў» з-за перагародкі — там машбюро. Беларускі стол найбліжэйшы да акна. Прыйшлося крутануцца, каб у беларусаў было гэтае пачэснае месца. Ну хоць бы тут, але выгадалі.

«Чакай, Уладзік, трэба ўсё спакойна рабіць. Завіхайся, але не спяшайся. Зараз дадзім тэлеграму нашым у Менск. Покуль на пошту, покуль з пошты, паастылі троху, супакоіліся, можна і сесці паразважаць. Тут і адказ прыйдзе. Чалавек прыедзе. Покуль цягнік, покуль трамвай — пытанне і саспее. Тут яго можна ўжо і за жабры ўзяць», — астуджваў звычайна ягоны гнеў дыпламатычны Мароз. А ў Дубоўкі ажно дыханне займала, як чуў: камусьці з бюджэту тры часткі нарэзалі, Беларусі — адну. Кагосьці на перамовы два дні чакалі, за Беларусь — прадстаўніка ад РСФСР узялі. Ніводную з рэспублік, здаецца, так не зневажаюць. «Не так, Міхась, не так! Украінцы тэлеграм

у Кіеў не дасылаюць, а калі і дасылаюць, дык іхная пошта чамусьці ў тры разы хутчэйшая за нашую! Чаму яны ўжо ўсё ведаюць у тую хвіліну, як ты толькі збіраешся раіцца? Можа, проста не баяцца? Міхась, ну давай грукнем кулаком, ты ж паўпрэд, паўнамоцны, чорт яго бяры, прадстаўнік! Паўнамоцны! А твае паўнамоцтвы толькі вагонаў з селядцом і тычуцца — з якой станцыі забраць, на якую станцыю адправіць!» Мароз цямнее з твару, але спакойна адказвае: «Грукаў такі адзін, дык сёння ў аўтаноміі паперкі па-руску падпісвае. Гэта палітыка, таварыш Дубоўка, а не школьны клас. Украінцамі мне не тыкай, за імі Сеч, Мазепа і тысячагадовая гісторыя...» — «А за намі?! За мной Капіевіч, Будны, Касцюшка і Каліноўскі, чаму за табой, Міхась, нікога няма?!» Мароз пасміхаецца. «Ты рамантык, таварыш Дубоўка. Няма пра што і казаць. Сечу і Мазепу кожны рускі шавініст ведае. Капіевіча твайго нават я першы раз чую. Каму ты тут лікбез будзеш навешваць? Хто яго слухаць будзе, вось якое пытанне ты павінен сам сабе паставіць, і паставіць рубам, таварыш Дубоўка. Тут пакуль што, дарагі ты мой беларус, наогул незразумела, за што гэта табе зямлі і волі адсыпалі. Шчаслівы выпадак. Так што пакланіся ў ножкі таварышам Жылуновічу з Чарвяковым і сядай давай, зрабі мне справаздачу па канцылярыі ў двух экзэмплярах».

А і брэшаш, таварыш Мароз. Па-свойму павернем усё роўна. Усё залежыць ад чалавека, які возьмецца. Каб меней было такіх асцярожных паўнамоцных, туды іх, прадстаўнікоў і болей гарластых рамантыкаў, мелі б зараз роўны з астатнімі голас. А не пописк нейкі. У кожным разе тут, у «Весніку», беларусы займаюць самае выгоднае месца, першымі атрымліваюць прэсу, першымі замаўляюць алоўкі і паперу. І рэдактар самы прадстаўнічы і самы паўнамоцны — у іх. Сапраўды, як заходзіш у рэдакцыю — найперш заўважаеш Дубоўку. Заўсёды бездакорна апрануты, як з голкі зняты, малады, прыгожы, але пры гэтым увесь нейкі грунтоўны, адразу бачна: гэты сусвет збудаваны пад ягоныя меркі. Сядзіць ён за сталом трывала і надзейна, і рэчы, здаецца, толькі і чакаюць, каб яму спатрэбіцца: ёмка кладзецца ў руку прэс-пап'е, скача ў пальцы з падстаўкі завостраны аловак, сама падсоўваецца патрэбная паперчына. Ён спраўна і прыгожа смаліць, і попел з папяросы злятае роўненька ў шкляную попельніцу, адпраўлены туды акуратнай пстрычкай. Беларускі рэдактар заўсёды прыветна ўсміхаецца кожнаму, хто звернецца да яго, і ў блакітных вачах уключаюцца агеньчыкі зацікаўленасці і ўвагі. Спытайцеся ў дзяўчат з машбюро, да якога з рэдактароў яны лётаюць дазнацца ўдакладненняў, аднесці гатовыя копіі ці папрасіць лішні аловачак. Здаецца, усё крамлёўскае машбюро працуе на Беларусь.

Ну, палова.

Праца захоплівае яго з галавой. Тэрміналогіі амаль няма — не мовай жа Статута Літоўскага савецкія законы перакладаць, хоць і адтуль нешта бярэцца. На кожнай старонцы — з дзясятак выпадкаў, калі трэба ці то наватвор уводзіць, ці то лацінскі адпаведнік шукаць, ці то надаваць новае значэнне свайму існаму слову. Закон — кожнае слова важыць на кілаграмы. Як у вершы. Гэта не лёгенькі пераклад, калі тэкст ляціць сам сабою, гэта за кожным словам у слоўнік, у другі, у трэці, у падшыўкі: а як там зараз у Менску з такімі тэмамі спраўляюцца? Сваімі рукамі лепіш сваю мову, і яна пад тваім алоўкам набывае скульптурныя рысы. Не адрэзаць лішняга, на пакінуць непатрэбнага. Каб звінела і спявала, нават у «Весніку ЦВК».

Невядома, што яго тут больш за ўсё трымае: «Веснік», вуліцы, будынак паўпрэдства, Паварская, пагалоўна закаханае ў яго машбюро? У Менску — сябры, Адам з Язэпам, «Маладняк», адчуванне ўласнай моцы, на галаву вышэйшы за... не, не за ўсіх, але высока. Тут, у Маскве, асабліва не высунешся — не станеш побач з Маякоўскім ці Ясеніным, дый мова мая — для сваіх. Па-руску пісаць — не. Аднойчы спрабаваў, у Брусава, нейкае заданне, не вершы — альбомныя дрындушкі атрымліваюцца. Аднекуль з'яўляецца мяшчанскі драбязглівы тон, літаратуршчына... Не адчувае меры, калі па-руску. Перабірае. Не верш — хахламская шкатулка. Калі па-свойму — нібы звон гудзе, хоць камертонам правярай. Не фальшывіць. Але як прыедзе ў Менск — не тое. Размаху няма, ці што. Ані ў працы, ані ў гулянцы. Быў павеяў вецер, халодны, свежы, прадзьмуў увесь Менск скразняком, як арганізаваўся «Маладняк», нават сюды далецеў ягоны павеў і скалыхнуў маскоўскія фіранкі. Дубоўка прыехаў у Менск упершыню ў дваццаць чацвёртым — упершыню! — і апынуўся акурат у эпіцэнтры падзей. Здавалася, ад самай Камароўкі да Добрых Мысле́й імкне праз Менск празрыстая няўхільная халодная хваля. Лёгка дыхалася. Ён насіўся тады па Савецкай маскоўскімі крокамі, абы паспець: з ЦК у рэдакцыю «Беларускага піянера», адтуль — у Наркамат асветы, адтуль — у Інбелкульт, адтуль — на выступ на Камсамольскую, адтуль — зноў на Рэвалюцыйную. Сэрца заходзілася ад нейкай дурной юнацкай радасці: тут, сваё! У хлопцаў закахаўся адразу: чарнавокі ціхі Адам, разумнік, брат, з якім столькі бясконцых гадзін перагаворана пра ўсё і не скончана; троху цельпукаваты і знешне, і па характары Язэп, якога імклівая думка сяброў як і дагоніць, то апошняга, але які першым разумее твой настрой і тваю трывогу; пахмурны, маўклівы заўсёды, як скарпіён, трапны ў сваіх заўвагах і назіраннях Кандрат; вясёлы і дурны ў сваёй весялосці, як маладое шчаня ўранні на двары, Дудар; ганарлівы, амбітны, заўсёды крыху

нос дагары, Чарот. Купала, акружаны маладымі, часцяком вясёлы, а калі і змрочны, маўклівы, за дзень слова не скажа. Тады ажно ірвалася знутры: «Свае! Родныя!»

Спакутаваў у Маскве і па слове сваім, і па інтанацыі, і па людзях тутэйшых: кожны няхай і ляпае цябе па плячы, але адчуваецца: закрыты. Мае нешта ўнутры недатыкальнае. Ніколі не зразумееш, што там, глыбока, пад знешнім хваляваннем. Аднойчы быў у пакойчыку Дудара, ішлі туды выпіваць-закусваць, але як зайшоў – аслупянеў: тры паліцы цесных шэрагаў кніг, якія і ў Маскве не заўсёды знойдзеш, французы, немцы у арыгінале! «Твае?» – «Мае, а што?» – «Чытаеш?» – «Не, так гляджу. Малюнкі там...» Пагартаў. Усе кніжкі – і рускія, і нямецкія, і французскія – з алоўкам прачытаныя. Вось табе і дурное шчаня. Улетку неяк з Адамам сядзелі ля Свіслачы на мурагу. Спёка. Скінуў кашулю, Адам таксама. Павярнуўся, пацягнуўся за нечым – і ў вочы Дубоўку кінуліся чырвоныя хвастатыя шнары на Адамавай спіне. «Што гэта ў цябе, браце?» – «Ды так». – «Не, гэта не так, я ж бачу». – «У польскім палоне быў. Зоркі рэзалі». У маскоўскай кампаніі пра зоркі сказалі б адразу, за першым яшчэ келіхам. Гэты ж маўчаў.

Дубоўку тады сустракалі ў Менску з бясконцым захапленнем. Слова скажаш – чуваць, як адгукнулася. Публіка на выступах, не шкадуючы далоняў, пляскае, што б ты там ні сказаў. А як выйдзеш, станеш, пачнеш верш – па-маскоўску, тэатралізавана, з адпаведным жэстам – няма больш удзячнай публікі, як менская. Так, як Дубоўка, чытаць ніхто не ўмеў, хоць і чыталі хлопцы па-свойму палымяна, асабліва Чарот. Потым паабвыкліся, сталі ўспрымаць яго як дадзенасць, не публіка – свае, але гэты водсвет першапачатковага захаплення доўга асвятляў ягоныя менскія дні. Тады толькі і чакаў, як выдасца вольны дзень ці два ў маскоўскім калаўроце, – і шыбаваў на Беларускі вакзал, дзесяць хвілін пехам з Грузінаў, каб скочыць у цягнік і паімчаць у Менск. На Беларусь. Думалася тады – дадому.

Але як пабыў там трохі, як апала першапачатковае захапленне яго – імі і іхняе – ім, дык стала неяк блага.

Асабліва раздражняў Гартны. Адсутнасцю таленту, няздарнасцю, але ж – імкненнем да літаратурнай улады. Нават з твару агіду выклікаў: круглы ўвесь, губасты, рыхлы. І можна было б мірыцца і з няздарнасцю, і з тварам, але ж як не даравáў Гартны Дубоўку маскоўскага правалу, дык колькі Дубоўка ў Менск ні прыязджаў – абавязкова на Гартнага напорваўся. То цэнтральны друк перакрые, то зборнік заверне.

А то! Тады, як разам выступалі: Дубоўку – авацыі, Гартнаму – недаўменныя пляскані. Хто такое даруе?

А шчэ Дудар. Спачатку падабаўся яму – маладой упартасцю, хвацкасцю, талентам, прыродным, не напрацаваным, а дадзеным аднекуль звыш. Так, спачатку падабаўся, потым злёгку раздражняў, а з цягам часу дык наогул выклікаў ледзь не лютую нянавісць. Упартасць абярнулася ўпёртасцю, хвацкасць – хамствам, талент – пустазвонствам. Рыфмач, не болей за тое, але ж форсу! Але ж нахабства! Наогул ён увасабляў сабой самае, здаецца, дрэннае, што можна было знайсці ў «Маладняку»: варты на капейку, а цэннік вісіць на мільён. І па кожнай падзеі мае, пабач, сваё меркаванне, і не саступае ні на крок. Прамы, як рэйка. Як абмяркоўвалі Дубоўкаў зборнік «Credo», дык шмат хто наваліўся на кніжку. Вядома ж, бязглуздага, крыўднага, дурнога нагаварылі – спаць не мог, але ж Дудар быў крыўднейшы за ўсіх, бо тон! Смаркач, за спінай ледзь не парафіяльная школа, пераймальнік, ані слова свайго – то Ясенін, то Ціханаў за радком стаяць, пасміхаюцца, але туды ж! Крытык! Той хамскі артыкульчык у «Савецкай Беларусі» ён ніколі яму не даруе – як і псеўданім. Сорам быў падпісвацца сваім імем. Не можа параўнацца ў вершы, дык б'е хлуснёй пад псеўданімам. І пэўна ж, не сам прыдумаў – Гартнага паслухаў. Дудар і Гартны – два чалавекі, якія псавалі Дубоўку ўвесь Менск.

У сакавіку яны неяк сутыкнуліся з Дударом у «Маладняку» – стаялі адзін перад адным у інбелкультаўскім калідоры. Абодва белыя ад нянавісці, Дудар высокі, Дубоўка – шчэ вышэйшы, цадзілі скрозь зубы нешта металічнае, неважнае, але канчатковае: усё, гутаркі скончаны, засталася толькі вайна.

Дый наогул, нават калі без асабістага: бог з ім, няма пра што гаварыць. Тыя хлопцы, што рабілі «Маладняк», забурэлі, панабралі партфеляў, селі на рэдактарскія пасады; тыя, што набеглі ў славутыя «пяцьсот», рыфмавалі праз аднаго «гусі – Беларусі», пачалося нешта павучынае, дробнае, тутэйшае – плёткі, сваркі, зайздросныя падсечкі. У Менску зноў стала цесна. Вуліца, па якой ён імчаў гуліВераўскімі крокамі, скончылася. Ці то ў ЦК заціснулі хлопцаў – на манер Міхася Мароза: пачакайце, хлопцы, перапытайце сто разоў, узгадніце, а пакуль узгадняецца, дык пачакайце. А што такое пачакайце – кісне ж усё, адстойваецца сыроваткай, пакуль чакаеш. Ці то самі такія – звыклыя да вузкага.

Але пачакай жа, Менск! Шчэ пагаворым. Шчэ скаланём. Разварушым.

Даўно ўжо спее ў іх з Адамам думка сысці з «Маладняка». Застацца толькі з тымі, каго паважаеш. Перавесці лікбезаўскі камсамольскі пафас у сапраўдны эстэтычны пошук новага згуртавання. Выкараскацца з-пад палітыкі, патрабаванняў газетных перадавіц,

неабходнасці каментаваць вершамі палітычныя навіны і заняцца тым, чым павінна займацца літаратура. Прымаць толькі найлепшых. Толькі з рэкамендацыямі ўжо прынятых сяброў. Толькі тых, хто сапраўды жыве літаратурай, нікога за вушы не цягнуць, не бегаць за імі, не прымушаць хадзіць на сходы, не гвалтаваць тэорыяй, усё гэта маладнякоўскае глупства выкінуць і забыць. Тыя, хто пойдзе за імі, самі будуць прагнуць сходаў, тэорыі, працы над словам. Выб'ем грошай пад часопіс. І нарэшце будзе літаратура, будзе крытыка, будзе літаратурны працэс. Годзе бегаць у кароткіх штоніках, дзе ў кішэнях дзіркі і па швах прарэхі, баяцца бацькоўскага бізуна і бегаць скардзіцца па кабінетах.

Дубоўка, гучна шаргануўшы крэслам, падымаецца з-за стала і перагінаецца праз падаконнік. Над Масквой шчыруе вясна. Гэтае паветра можна піць поўнымі келіхамі. Хутка на Менск. Даўно так не хацелася дадому.

## ГОРАД. РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ

Ніжні горад усхваляваны: Нямігу бяруць у калектар. Драўляныя насцілы паразабраныя, вуліца дыбарам, пыл, грукат, крык. Абапал непрыгожай раны, у якую пераўтварылася вуліца, прабіраюцца мінакі. Сёлета ў сакавіку Няміга зноў разлівалася, бегла халоднымі ручаямі ў склады і крамы, хліпала пелькаю пад ходнікамі, біла фантанчыкамі з-пад гнілаватых дошак. Здаецца, колькі той ракі, але ж як вясна, дык давай гуляць і сваволіць.

Цяпер яна пацячэ ў калектары — свавольства рэк будзе спынена чалавечай рукой. Не сядзець і не чакаць, покуль ручай стане бядой, — замкнуць у бетон, перамагчы, прымусіць слухацца.

Тыя, хто сёння ідзе на пасяджэнне ЦБ «Маладняка» праз Нямігу, пакорна прыціскаюцца да сценаў і па вузенькай сцежачцы мінаюць разгорнутую да самых вантробаў вуліцу, каб з палёгкай звярнуць на Камсамольскую і адтуль на Рэвалюцыйную.

Абстаноўка тут, у пакойчыку, які Інбелкульт выдзеліў «Маладняку», нервовая. Паветра наэлектрызавана. Раптоўна адчуваецца маштаб той справы, якая рабілася ў «Маладняку», справы, што даўно ўжо сталася звычкай, хатнім клопатам, а тут вунь яно што... На пасяджэнні Цэнтральнага бюро «Маладняка» (далібог, яно часам і пад пляшку віна калісь праходзіла, не раўнуючы як зараз!) — старшыня ІБК Ігнатоўскі, другі сакратар ЦК КП(б)Б Галадзед, наркам асветы Баліцкі, старшыня СНК Язэп Адамовіч, акадэмік Віталь

Сербента, гэта з вышэйшага кіраўніцтва Інбелкульта і рэспублікі. Сакратар акругкама КП(б)Б Акулік, Стасевіч з ім праваруч. Свае: Чарот, Дудар, Зарэцкі, Дубоўка, Пушча, Бабарэка. Усе ведаюць, што зараз будзе адбывацца, акрамя, напэўна, крыху разгубленага Алеся Гурло, які адчувае агульную трывогу, але не разумее, адкуль яна.

Старшынствуе Чарот. Ён усё ніяк не пачне, ціха перамаўляецца то з Баліцкім, то з Галадзедам, а то і проста сядзіць, утаропіўшыся ў стол, пагруквае аловачкам па паперчыне. Нервуецца Зарэцкі, раз-пораз прыгладжваючы валасы далонню. У куце, выставіўшы наперад левае плячо, неяк няёмка на кулявым крэсле прыткнуўся Дудар, глядзіць перад сабой і часта, часцей, як заўсёды, міргае. Дубоўка сядзіць вольна, прыгожа, свабодна паклаўшы на стол правую руку, левую абапёршы на калені, аглядае пакой і ўсміхаецца – толькі гэтая ўсмешка і выдае добра схаванае хваляванне. Пераглядае паперы Бабарэка, раскладаючы лісты па нумарах, акуратна адзначаных у правым верхнім куце. Адкінуўшыся на спінку крэсла, глядзіць у раскрытае акно паверх дахаў Кузьма – ён выглядае самым спакойным у гэтым пакоі.

За вокнамі буяе травень. Дваццаць шостае праз тыдзень лета.

– Ну што ж, таварышы, – ціха, але цвёрда кажа Чарот, – пачнём. Першае пытанне – каштарыс «Маладняка».

Дубоўка, усміхнуўшыся, ківае галавой: што ж, пачаць з арганізацыйных пытанняў – правільная тактыка. Хлопцы маўчаць.

– Да сёння «Маладняк» фактычна лічыўся аўтаномнай секцыяй пры Інбелкульце. Цяпер раптоўна высветлілася, што Інбелкульт прымаць нас на свой баланс не будзе.

– Хм, – перабівае Чарота Адамовіч, – а як у РСФСР і на Украіне тое афармляецца?

– На Украіне і РСФСР пісьменніцкія арганізацыі існуюць незалежна і фінансуюцца наркаматамі.

Адамовіч запытальна глядзіць на Ігнатоўскага.

– Тут нейкая няўвязка, – неахвотна, нібы праз сілу, кажа той. – Я лічу, што трэба ўсё ж каштарыс лічыць пры нашым ІБК і прасіць наркамат грашовых спраў прыняць яго на падрахунак.

Дубоўка, з твару якога не сыходзіць усмешка, здаецца, адзіны сочыць за гэтай гутаркай, пераводзячы вочы з аднаго суразмоўцы на другога, астатнія хлопцы нібыта засяроджаны на сваіх думках.

– Ну, натуральна, «Маладняк» павінен заставацца пры Інбелкульце, – упэўнена кажа Адамовіч.

– Ну дык вы спачатку вырашыце, дзе ён будзе знаходзіцца, «Маладняк» – пры інстытуце ці пры наркамаце асветы. Тады і будзе зразумела, дзе правесці каштарыс.

Адамовіч энергічна, ажно празмерна, ківае галавой:

— А во як будзем зацвярджаць на пасяджэнні Саўнаркама каштарыс Інбелкульта, там і разгледзім. Там і вырашым гэтую няўвязку.

Чарот ківае галавой, адзначае нешта на паперчыне. Усталёўваецца маўчанне, толькі аловак Чарота шаргаціць па вялікім жаўтаватым аркушы.

Нарэшце старшыня падымае галаву.

— Пытанне другое, — ціха, але цвёрда кажа ён, — заява Пушчы, — ён глядзіць на Язэпа, і той ківае галавой, — Бабарэкі, — цяпер глядзіць на Бабарэку, і той таксама ківае, — Кузьмы Чорнага і Крапівы аб выхадзе са складу аб'яднання «Маладняк», а таксама копія ліста, дасланага ў бюро ЦК партыі аб дазволе гэтай групе стварыць новую арганізацыю.

Зараз, калі галоўнае прамоўлена, стала неяк лягчэй, і людзі пачынаюць рухацца на сваіх месцах, аглядацца, пакашліваць, рыхтавацца да спрэчкі. Толькі Дудар і Дубоўка застаюцца нерухомымі: адзін — міргаючы, другі — усміхаючыся.

— У лісце, які дасланы групай маладнякоўцаў у ЦК, ёсць няпраўдзівыя факты. Я лічу патрэбным... — тут Зарэцкі перапыняецца і папраўляецца: — Цэнтральнае бюро «Маладняка» лічыць патрэбным даслаць у ЦК ліст з абвяржэннем выкладзеных фактаў.

Дубоўка падымае на Зарэцкага вочы і гучна пытаецца:

— Тры члены Цэнтральнага бюро — Бабарэка, Пушча і Крапіва — выходзяць з аб'яднання, дык ці будзе твая прапанова прапановай усяго бюро?

Зарэцкі замінаецца, але адразу адказвае Чарот:

— Большасць сяброў ЦБ, якія заяў не падавалі, згаджаюцца з прапановай Міхася Зарэцкага.

— Ну так, — прымірэнча пакашлівае Адамовіч. — Тыя, хто застаўся з ЦБ, яны ж маюць права свайго погляду, як маюць яго і тыя, хто выходзіць... Так што вырашае простая большасць...

— Усе маюць права заставацца ці выходзіць, — уступае ў гутарку Акулік. — Прысутнасць усіх таварышаў на сягоняшнім пасяджэнні якраз і кажа пра тое, што ўсе — і тыя, і другія — разумеюць важнасць пастаўленых пытанняў.

— Такім чынам, я зачытаю ліст Цэнтральнага бюро, — кажа Зарэцкі. Ён чытае, і становіцца чамусьці няёмка. «У лісце згаданыя словы Андрэя Александровіча, нібыта сказаныя на адрас Язэпа Пушчы: „Мы вас знішчым". Заяўляем, што Александровіч згаданых словаў не гаварыў і гаварыць не мог, бо хто такія „мы" і каго „вас", калі мы з'яўляемся членамі адной арганізацыі. У лісце сказана, што ад „Савецкай Беларусі" адагнаныя маладыя паэты Серада, Глебка

і Лужанін, што няпраўда, бо і Глебка, і Лужанін друкуюцца на старонках «Савецкай Беларусі» гэтаксама часта, як і іншыя. У лісце даводзіцца, быццам бы Алесь Дудар спецыялізаваўся на выступленнях супроць Дубоўкі, хаця Алесь Дудар супроць Дубоўкі асабіста нічога не мае і меў на мэце разгляд выключна ягонай творчасці». Ігнатоўскі глядзіць у пол, Сербента разглядае свае пазногці.

— Я думаў, таварышы, тут будуць спрэчкі па літаратурных пытаннях, аб новых літаратурных планах, але іх няма, – заўважае Баліцкі. – Можа, таварышы вусна, без лістоў акрэсляць нам свае разыходжанні? Менавіта літаратурныя?

— Але яшчэ да планаў літаратурных ёсць неадпаведнасці, дзядзька Баліцкі, – горача ўступае Пушча. – Таварыш Зарэцкі маніць у сваім адказе ад самага пачатку. Ён пачынае з таго, што «Маладняк» – літаратурная арганізацыя, але ж пленум ЦБ вырашыў, што «Маладняк» – арганізацыя прасветная. Прасветная! А ці была прасвета? Ці выконваў «Маладняк» дырэктывы ЦБ? Не! Такога не было! Я ведаю, што пастановы не выконваліся, не склікаўся другі пленум, не выдаваліся зборнікі, якія планаваліся рэдакцыйнай камісіяй, творчасць маладнякоўцаў не паляпшалася. А мы жадаем паляпшаць сваю творчасць.

— Аднак трое з таварышаў, якія падалі заяву, і Дубоўка, які падаў сваю заяву раней, самі ўваходзілі ў кіраўніцтва «Маладняка»! – не вытрымлівае і падвышае голас Чарот. – Якія прэтэнзіі могуць быць у кіраўніцтва да кіраўніцтва? Да саміх сябе, атрымліваецца?

Пушча густа чырванее і, здаецца, збіраецца падскочыць з аргументамі, але Дубоўка мякка кладзе руку яму на плячо. Становіцца цяжка дыхаць. Акулік, уважліва ўглядаючыся ў дыскутантаў, пытаецца ў Пушчы:

— Якім чынам вы збіраецеся паляпшаць творчасць у межах новага аб’яднання?

Але адказвае Дубоўка:

— У працу новага аб’яднання мы будзем уцягваць толькі тых, хто дасць нешта каштоўнае беларускай літаратуры.

Акулік пасміхаецца і пытаецца зноў:

— Вось гэта і трэба абмяркоўваць, а не лісты. Я думаў, што выйшаўшыя таварышы ўтвораць вузкі гурток, а тут таварыш Дубоўка кажа, што яны будуць некага ўцягваць, то бок паглыбляць раскол у пісьменніцкім асяроддзі. Дык якім чынам вы будзеце паляпшаць літаратурную прадукцыю, пашыраючыся? Адукоўваць маладых? Чытаць даклады і лекцыі? Самаадукацыя? Вечары і выступы? Дык тое метады «Маладняка». Лепшых метадаў я не бачыў і пакуль не пачуў. Калі іх няма, ці ёсць аб’ектыўная, а не суб’ектыўная прычы-

на выхаду? Вы павінны разумець, што раскол – гэта палітычная справа. Гэта будзе адчувальны ўдар па справе, якую мы агулам робім. Рабілі.

— Так, хлопцы, сапраўды, пра лісты давайце потым, – кладзе на стол шырокую руку Адамовіч. – Ці нельга было б згартаваць тыя канцы, якія разышліся? Усё ж калі гэта была б адна арганізацыя, то і партыі было б лягчэй кіраваць.

— Я прапаную даць слова Адаму Бабарэку, – перанакіроўвае гутарку Дубоўка, – для развіцця нашых тэзісаў. З іх будзе зразумела, што згартаваць паміж намі ўжо нічога нельга.

Адам устае, аглядае аўдыторыю. Ён хвалюецца, але звычка ўніверсітэцкага выкладчыка канцэнтравацца перад вялікай колькасцю слухачоў бярэ сваё.

— Пісьменнік ідзе з мас. Пісьменнік, а не літаратура. Літаратуру твораць адзінкі, якія выйшлі з мас.

Ён кажа далей, ціхі і кволы голас ягоны мацнее. Звычайна Бабарэка пачынае здалёк, вядзе сваю думку праз усе акалічнасці і выключэнні, і непадрыхтаваныя слухачы страчваюць нітку аповеду (студэнты, якія празвалі Адама «Гераклітам Цёмным», страчваюць яе найперш), але сёння Адам кажа коратка, ёміста, акуратна, так, што разумее кожны, так, што немагчыма адарвацца.

— Узровень мастацтва залежыць ад узроўню пісьменніка. Матэрыял для творчасці павінен быць пралетарскі, але пісьменнік павінен быць такім, каб стаць вышэй за буржуазнага пісьменніка. Няможна прыйсці ад сахі, ад касы і стварыць сапраўднае мастацтва, якое будзе вартым свайго народа. Пісьменнік – гэта эліта грамадства. Але не проста названы элітаю, як мяркуюць некаторыя нашы маладнякоўскія правадыры, а той, хто стаўся элітаю дзякуючы сваёй адукацыі, таленту, несупыннай працы над сабой і над сваімі магчымасцямі.

Дубоўка адкрыта любуецца Бабарэкам, на твары ягоным з’яўляецца дзіўны выраз супакою і нават пяшчоты. Шчасліва ўсміхаецца Кузьма. Глядзіць перад сабой у задуменні Зарэцкі. Нават Дудар на імгненне забыўся і прагна слухае Бабарэку ў тым захапленні, у якім слухаў калісь у дзявятай чыгуначнай школе Пятра Макавеева, улюбёнага свайго настаўніка.

— Што мы маем сёння? Без мітынгоўшчыны, лозунгаў, узаемных абвінавачанняў. Вершы – так, маем. Побытавыя малюнкі замест эпічнай прозы – так, маем. У зародку драматургію. Прыйшоў час займацца непасрэдна мастацтвам, развіваць тое, што маем, а не бегаць па рэспубліцы ў пошуках людзей, якія ледзь-ледзь складаюць літары ў словы. Яны не дадуць нам драматургіі – іх трэба

спачатку навучыць пісаць без памылак. А час ідзе. Мастацтва трэба ствараць.

Ён кажа, і кожны з літаратараў – і з тых, што выходзяць, і з тых, што застаюцца, – адчувае, што праўда за Адамам.

– Мы лічым, што найбольш кваліфікаванай групе пісьменнікаў зараз трэба засесці за акадэмічную працу і заняцца культурай мовы, стварэннем жыццёвай сымболікі, распрацоўкай эстэтычных пытанняў мастацтва, тым, чаго яшчэ ніколі не ведала беларуская літаратура.

Адам садзіцца. Усе маўчаць. Калі б хто мог угледзецца ў твар Дудара, у ягоныя неспакойныя вочы, то ўбачыў бы, што ў іх застыгла збянтэжанасць.

– Кгм... Ну... – Акулік перарывае агульнае маўчанне, – ці спрабавалі вы дыскутаваць гэтае разыходжанне ў «Маладняку»?

– На жаль, у выступленні Бабарэкі не было ніякіх разыходжанняў, якія мы маглі б дыскутаваць ці паставіць на пасяджэннях раней, – уступае Зарэцкі. – У сваім аглядзе таварыш Бабарэка даў ідэалістычную карціну, ідэалістычна-філасофскі погляд на літаратуру, сімпатычны, але надта тэарэтызаваны. Прычыны расколу – разрыў групы таварышаў з рэчаіснасцю. Што ж. Іх адыход дасць магчымасць «Маладняку» аздаравіцца.

Ігнатоўскі цяжка падымаецца з крэсла і падыходзіць да акна.

– Я не бачу ў вас прынцыповага разыходжання. Я бачу тут шчагалянне сваімі пакутамі групы, якая надзела на сябе цярновы вянец, і групу, якая такога вянца не надзявала. Прычыны расколу не ў ідэалогіі, не ў тэорыі. Але я не бачу іншага выйсця для вас, хлопцы, як толькі разысціся, – нечакана проста, па-бацькоўску дагаворвае ён і выходзіць з пакоя.

Акулік б’е рукой па стале:

– Мы шукаем прынцыповыя разыходжанні, а іх няма. Так, таварыш Бабарэка ўсё казаў правільна, але я не разумею, нашто разыходзіцца, каб рабіць тое, што трэба. Калі адносіны паміж «Маладняком» і выйшаўшаю групаю не надта рэзкія, я прапанаваў бы прыняць усе меры для таго, каб сысціся і працягваць разам упартую працу над пралетарскай культурай. Мы павінны быць разам. Мы не можам кідаць без сваёй увагі, сваёй дапамогі тых, хто слабейшы.

Нарэшце да гутаркі далучаецца і Галадзед:

– Я бачу, бачу, што творыцца няшчасце. Паблытаны формы і метады працы, ды ўсё тут у вас паблытана. Я скажу проста, хлопцы: вы палаяліся адзін з адным і на гэтым грунце ствараеце новую арганізацыю. Прынцыповых разыходжанняў у вас няма, я гэта выразна

бачу. Палітасветай займацца зараз нікому не трэба, і «Маладняку» найперш. Вучыцца трэба, расці трэба, ўсім— і маладнякоўцам, і ўсім. Крытыка – так, крытыка павінна быць не асабістая, а здаровая, сталая крытыка, толькі на такой крытыцы можа развівацца мозг. Ніхто з вас не давёў прынцыповых разыходжанняў, а калі іх няма, дык... У вас адна справа, адзін корань, я не бачу патрэбы разыходзіцца.

— Але гэта літаратура, а не палітыка, – павольна, цвёрда кажа Дубоўка. – Тут нельга, пішучы нервамі, трымаць сужыццё з тым, з кім не згаджаешся. З кім зусім не згаджаешся.

Словы ягоныя падаюць каменнем. Усе разам чамусьці паварочваюцца ў бок Дудара. Той падымае галаву – і вытрымлівае гэтыя позіркі.

— Што ж. Тады пастанавілі, – злосна і стомлена кажа Чарот. – Заяву прыняць да ведама. Прашу членаў ЦБ прагаласаваць за ліст Зарэцкага. За? Чарот, Александровіч, Дудар, Зарэцкі. Супраць? А вы што, таварышы?

— Мы з Язэпам не галасуем, – спакойна адказвае Бабарэка, – бо не лічым болей сябе членамі ЦБ.

Чарот паціскае плячыма, збірае паперы са стала і выходзіць. Разыходзяцца ўсе. Застаецца толькі Дудар. Ён стаіць пасярод пакоя і глядзіць у акно паверх дахаў. Там, за дахамі, за Пярэспай, у вечаровай смузе сінее далёкі лес.

## ЦЯГНІК. ХАРКАЎ – МІНВОДЫ

— Я б ехаў месяц, далібог. Ці два. Куды можна ехаць два месяцы, Міхась? Ва Уладзівасток? Меней? Тады як працягнуць рэйкі кругасветнай чыгункі, камандзіруйце мяне, я дам хоць дзесяць рэпартажаў, ды што там, пяцьдзясят, з кожнага прыпынку, што скажаце, толькі каб камандзіроўка была мая.

Зарэцкі пасмейваецца. Звычайна нешматслоўны Шурка, як трохі падап'е, робіцца надта гаваркім і мянціць ужо тады, мянціць языком з непрывычкі, як той прастадушны чалавек, які ўмее маўчаць, але не ўмее гаварыць. Адказваць не хочацца – хочацца слухаць, пасмейвацца, гайдацца на цыратовай канапе мяккага вагона. Гэта Дудар дамогся, каб білеты бралі менавіта ў мяккі. «А што, кіраўнікоў у нас паменела, грошай паболела, чаму ж беларускім пралетарскім пісьменнікам не праехацца да санаторыя ў мяккім? А то скурчышся ў цвёрдым, ногі нікуды не лезуць, галавой у вушак б'ешся, ці то зайсці, ці то выйсці, ані пагаманіць, ані паспаць табе.

Для чаго ж рэвалюцыя была? Каб пралетарыі па цвёрдых вагонах туліліся? Бяры мяккі, Міхась!» Ён і ўзяў, а і праўда. З паўночы, ад самага Харкава, праседзелі ў вагоне-рэстаране, удвух, з дарагім віном. Зараз Дудар ляжыць на канапе насупраць, заклаўшы рукі за галаву, вальготна выцягнуўшы даўгія ногі, і філасофствуе. Зарэцкі любіць, калі таварыш ягоны ў такім дураслівым настроі.

— Вось чаму, Міхась, як прыязджаеш да ўкраінцаў, дык абавязкова адчуваеш: моц? Моц, і рух, і гул. А як прыязджаеш у Менск, дык адно толькі: піск, і ціск, і віск. Як зверху нехта паднацісне адразу ўсе па кутах, шаптацца, зліцца, цярпець і слухацца. Дык ім і смешна, бач, націскаць. Прыйшоў раніцой, сеў у кабінеце, пачухаў патыліцу, у носе калупнуў — сумна! А, паднацісну! І рукой — тыц! І адразу запішчэлі! Па кутах пабеглі! Гы! Нічога, цяпер можна і паперкі перакладаць — настрой паправіўся. А як троху ўніз — зноў: тыц! Бач, пішчаць! Бягуць! Гы-гы-гы!

— Ды іх таксама паднаціскаюць, ты проста не бачыш. Добра ў гасцях: хата прыбрана, смецце па кутах схавана. А дома ўсё навідавоку.

— Іх, можа, і паднаціскаюць, але яны па кутах не бегаюць. Пабач, якія яны ходзяць — гаспадарамі. Чуў, як Хвылявы Галану ў твар кінуў, маўляў, геть від Москви, стаяў і стаяць буду на тым, і нічога вы са мной не зробіце! І слушна ж кажа, Міхась, трэба бегчы ад Масквы, ад гэтага рабскага пакланення перад яе культурай, якім мы ўсе наскрозь прасякнуты, наскрозь.

Зарэцкі незадаволена моршчыцца. Менавіта зараз і менавіта тут, у гэтым мяккім вагоне, не хочацца нічога: ані пра Маскву, ані пра рабскае пакланенне. Ну як гэта ў Дудара атрымліваецца: у адну хвіліну пераскочыць з кругасветных камандзіровак на харкаўскія ўражанні і адтуль з усёй дурной сілы на свой любімы мазоль.

— Не кіпяціся, Шурка. Плюнь. Давай зараз не будзем.

— Давай.

— Разумееш, не трэба кіпяціцца. Проста рабі сваё. Ну што ты ўсё мітынгуеш?

— Няпраўда твая, Міхась! З мітынгаў рэвалюцыя пачалася. Маўчы і рабі, наступны крок — сядзі і пішчы. Слова, Міхась, вялікая сіла.

— Ну добра, добра, твая праўда.

Яны маўчаць. Вагон пагойдваецца на стыках. Ад самага Харкава ў купэ яны ўдвух. Воля! Адзін аднаго ведаюць як аблупленых, давяраюць — як самім сабе. Шчэ з тых дзён, як разам вандравалі з Галубком, як імчалі цераз зімовы лес на санях ад зграі ваўкоў і Зарэцкі раптам выцягнуў аднекуль свой армейскі рэвальвер і, перакуліўшыся цераз сяброў, учапіўся ў спінку і пачаў цэліць у важака.

— Ведаеш, Міхась, ад чаго сумна? Ад хуткаплыннасці. Я зараз амаль шчаслівы. А цягнік імчыць, і час імчыць, і калі памножыць іхнія хуткасці, дык вынясе мяне з гэтага шчасця ў два разы хутчэй. Навошта ўсё, калі і яно сыдзе. Не разумею. А застанецца што? Я амаль нічога не памятаю з таго, што было. Можа, толькі як загараешся, калі раптам адчуваеш жанчыну – усю, як яна ёсць. Гэта памятаю. Вось гэты момант, калі ўнутры па ўсіх нервах прабягае агонь і агнём тым займаецца сэрца. Ух, амаль кожны такі момант памятаю. Дзяўчат не памятаю, а момант гэты – кожны.

— Хм. А я – не. Ад таго хочацца перажыць наноў. Здаецца, усё жыццё складзена з таго, што імчыш за гэтым во момантам. Чакаеш, шукаеш, спадзяешся, бачыш, гарыш, бярэш – і як пустата. І ўсё трэба наноў. Іх усё больш, а ты ўсё роўна не памятаеш, і мкнеш, і кідаешся ва ўсё гэта з галавой, а потым усё роўна пустата. Разумееш?

— Не ведаю. Пэўна, не разумею. Калі ёсць ад каго загарацца, мне не пуста.

— А ёсць?

— Ёсць.

Зноў маўчаць, кожны аб сваім.

— Міхась...

— М...

— Я зараз запытаюся... А ты скажы, як адчуваеш.

— Ну...

— Калі б усё не так выйшла з «Маладняком»... Ну, калі б неяк па-чалавечы, не з выклікам, не ў сварку, не так, як атрымалася, а каб па-добраму... Ты ва «Узвышша» заяву падаў бы? Ты б хацеў быць з імі?

Зарэцкі маўчыць.

— Маўчыш. Тады, у траўні, я таксама не падаў бы. А сёння падаў бы. Яны маюць рацыю, разумееш? Толькі ў мяне ніхто заяву тую не возьме.

Дудар падскоквае, садзіцца – прамы, падабраны, злы.

— Ты разумееш, што яны зрабілі? Яны мяне, цябе, Чарота выкраслілі проста. Гэтае «Узвышша», што ж, прыгожа прыдумана, добра, па-сапраўднаму, ажно дых захоплівае, ніколі тут такога не было, па-маскоўску, далібог. Гэта нібыта зроблена ў імя літаратуры, у імя развіцця і прагрэсу, але, Міхась, як такое можна было з намі зрабіць? Мы ж з імі побач, поплеч, усе за адно – за наша, за сваё. Ну так, можа, «Маладняк» стаў пасмешышчам: каго мы туды бралі, каго прымалі – за галаву бярэшся! З тых векапомных пяцісот колькі паэтаў? Колькі пісьменнікаў? Такіх, каб зубы не балелі чытаць? Трыццаць? Мо і трыццаці няма. Усё гэта так, яны тут маюць

рацыю цалкам, але чаму так нізка? З намі так навошта? Я гэтага не зразумею ніяк. Хіба мы нешта ім зрабілі благое? Усё разам, усё талакой. Ну было там рознае: адзін сказаў, другі адказаў, ну крыўда. Усё разумею, але каб так…

Зарэцкі моўчкі глядзіць у паліраваную столь мяккага вагона.

— Чаму, Міхась, яны сабе гэта дазволілі? Пакуль мы вазіліся з філіямі, з планамі, з выступамі, з вечарынамі… Ведаеш, я да сёння не магу дараваць Пушчы Полацка. Калі я сядзеў там сем месяцаў, гібеў, слінай пырскаў у рэдакцыі, агітуючы за беларусізацыю, сухія коркі грыз, бо грошай — вобмаль, адзін, у гэтым балоце, у гэтай дрыгве, сярод людзей, якім усё гэта… — ён брудна лаецца. — А я, дурань, кніжкі ім стосамі раздаваў! Ці на цыгаркі яны іх спускалі, ці ў печы распальвалі, але пазабіраюць, назад не вяртаюць, і каб чыталі — ну не бачыў я, Міхась! Сем месяцаў біўся з імі, па дапамогу на Менск пісаў, а Пушча мне: «Не трэба саплей! Працуй! Усе занятыя, ніхто прыехаць не можа!» Ды ў такім тоне… Як Дубоўка з Кандратам у Воршу паехалі філію збіраць, дык яны тры дні ў гасцініцы балявалі, самі нумар часопіса склалі, псеўданімаў панаставілі і справаздачу далі: «Аршанская філія працуе!» А я сем месяцаў бегаў, як цуцык, па Полацку, каб нешта сабраць, дурань. Трэ было таксама самому часопіс скласці! Што, я не склаў бы?

— Слухай, Шурка, ну ты ўсё ж лягчэй, — Зарэцкі таксама падымаецца. — У Воршы — добрая філія. Ганчарыка Дубоўка з Кандратам знайшлі. Падрыхтавалі. Ён добрых хлопцаў набраў. Адтуль Кляшторны прыехаў, Каваль.

— Ну дык і з Полацка вунь таксама панаехала. А Каваль з Магілёўскай філіі, а не з Аршанскай. Дык што, ты не згодны са мной, Міхась?

Зарэцкі зноў кладзецца на канапу, закідвае рукі за галаву.

— Шмат крыўды ў цябе, Шурка. У мяне яна мо таксама ёсць, тая крыўда. Але я рады, што не кінуў хлопцаў, не аддзяліўся ад іх, не паставіў сябе вышэй за іншых. Так, наблыталі шмат з «Маладняком». Будзем разблытваць. Як па мне, гэта лепш, чым задзіраць нос і аб’яўляць сябе больш таленавітым, чымся іншыя. Мне, Шурка, не сорамна ані перад табой, ані перад хлопцамі, ані перад Адамам ці Дубоўкам. Я раблю сваю справу. І ты робіш. Я, ведаеш, не люблю розных выкрутасаў сам перад сабой. Я люблю ўнутры мець для сябе простую праўду.

— Простую праўду… Ці ёсць яна, Міхась? Яны ж таксама думаюць, што за імі — простая праўда.

Дудар падае на цырату, зноў закідвае рукі за галаву. Зарэцкі пачынае ціха смяяцца.

— Ты ж сам, Шурка, паўгадзіны таму хацеў, каб у Менску былі моц, шум і гул, як у Кіеве. А як і шум і гул распачаліся, дык адразу крыўдаваць. Крыўдлівыя мы надта. Працы багата, часу няма слёзы ліць.

— Крэмень ты, а не чалавек, Зарэцкі. Па кожным пытанні маеш строгую думку без ухілаў. За гэта цябе люблю. Гэта таму, што ты камуністы?

— Мо і таму.

Яны зноў маўчаць, але ўжо па-іншаму. Дудар адчувае, як поўніцца ягонае сэрца бязмежнай радасцю ад таго, што ён едзе, што едзе ў Кіславодск, што едзе з Зарэцкім, што існуе на свеце такі чалавек, як гэты высокі стройны хлопец з цесна самкнёнымі строгімі вуснамі і сур'ёзным позіркам светлых шэрых вачэй. Раптам чамусьці ўспамінаецца, як неяк разам пайшлі на кватэру да адной артысткі, шмат пілі, гаманілі, дзяўчаты глядзелі вільготнымі вачыма, туліліся ўсё цясней; успамінаецца, што пачалося потым — дзікае, нястрыманае, жывёльнае, і як пабачыў нібыта ў тумане, знікаючы з тонкай, гарачай дзяўчынай у парнай цемры пакоя, як прагна цалуе ў калідоры сваю абранку Зарэцкі, прыціснуўшы яе да сцяны, прыгваздаўшы раскінутыя ўшыркі дзявочыя рукі моцнымі далонямі з тонкімі сталёвымі пальцамі.

# ГОРАД. ЕСЕНТУКІ – КІСЛАВОДСК

Калі ёсць на свеце рай, дык вакзал у ім павінны быць такім, якім ёсць вакзал у Есентуках.

Пыхаюць парай цягнікі на падыходзе да платформы, цяжка круцяцца працавітыя колы, плыве над горадам нізкі, працяглы гудок: ту-у-у-у-ут! Мітусяцца стомленыя доўгай дарогай жанчыны, выкульваючыся з вагонаў з клункамі, парасонікамі, сабачкамі і малымі дзецьмі. Адсопваюцца тоўстыя, памятыя ў цягніку дзядзькі ў белых баваўняных нагавіцах і парусінавых пантоплях. І ўсё ж гэта рай: лёгкі, нібыта папяровы навес над гарачай платформай, нерухомае, густа зялёнае лакіраванае лісце і лялечны, карамельны вакзал з марцыпанавымі вежамі, шакаладным дахам і ледзянцовымі шыбамі ў акуратна выразаных акенцах. Два маладыя хлопцы, якія выскачылі з мяккага вагона на белы ад паўдзённага сонца перон, стаяць, задраўшы галовы, і разглядаюць бліщчастыя вакзальныя шпілі, голкі якіх ледзь заўважыш на празрыстым распечаным небе, і здаецца, што неба працятае тымі голкамі наскрозь.

— А і спёка ж тут, а? Жнівень, амаль верасень! Але шпарыць!

— Каўказ, Шурка! Эх, костачкі выпарым!

Дудар разбягаецца па платформе, з-пад ягоных ног з шумам узнімаюцца цяжкія вакзальныя галубы, і ён аглушальна свішча, так, што абарочваюцца і жонкі з дзецьмі, і пузатыя дзядзькі, і міліцыянер ля брамы. Зарэцкі, апускаючы галаву, употай смяецца, падхоплівае валізу і рушыць паўз вакзал на гарачы пляц, які з трох бакоў абступаюць маладыя ліпы і акацыі. Тут яго даганяе таварыш.

Пытаюцца дарогі. Вузкімі вулачкамі, што водараць нечым садкім і салодкім, крочаць туды, дзе над зялёным морам уздымаюцца белыя баранчыкі жоўтай вежы былой дачы Зіміна — санаторыя «Арлінае гняздо».

Трохпавярховая камяніца, багата аздобленая порцікамі, калонамі, балкончыкамі, мансардамі, паўкруглымі і вузкімі прамавугольнымі вокнамі, з масіўнай вежай справа і прыгожым трохкутным франтонам злева, паўстае раптоўна ў канцы вулачкі, забудаванай дачамі. Усе дачы прыгожыя, модныя, нібы дзяўчаты з тых, што набываюць духмянае мыла ў дарагіх крамах на Савецкай, але ж дача Зіміна найпрыгажэйшая з ўсіх. Яе можна чытаць, як кнігу — столькі рознага, супярэчлівага і нечаканага напісана каменнем, дрэвам, шклом і тынкоўкай на яе фасадах. Дудар абцягвае кашулю, запраўленую пад пас, Зарэцкі правярае, ці не заламіўся дзе каўнер: зайсці ў гэткі будынак хочацца прыгожа.

Ля ўвахода за шурпатым сталом іх сустракае маладзенькая дзяўчына ў светлай сукенцы. Прымае дакументы, выпісвае паперкі на медыцынскі агляд, збегаўшы некуды, нясе ключы ад нумара. Невядома, дзе там зараз той белагвардзеец Зімін, але на бліжэйшыя тры тыдні гэтыя пыльныя, але надта прыгожыя ветлівыя хлопцы тут таксама гаспадары. Дзяўчына ў адказ на неабавязковыя заляцанні круглатварага маладзёна, які неяк смешна, незвычайна міргае пяшчотнымі вачыма, гарэзліва ўсміхаецца абодвум. Дудар цішком штурхае Зарэцкага ў бок. Той моўчкі і сур'ёзна распісваецца ў кнізе, і толькі ў кутку ягоных вуснаў ледзь прыкметна дрыжыць усмешка.

Кінуўшы рэчы ў невялічкім нумары, у якім памясціліся толькі два ложкі, такі ж шурпаты, як і ўнізе, стол, дзве дыхтоўныя табурэткі і вялікая, дарэвалюцыйная яшчэ, чырвонага дрэва шафа, у якой, мабыць, паручнік Зімін трымаў парадны мундзір, новыя блішчастыя боты і паляўнічую стрэльбу, яны спускаюцца ўніз — да дактароў.

— Имя? Отчество? Фамилия? — ціхім, асаблівым, доктарскім голасам пытаецца Дудара доктарка, прыгожая дагледжаная жанчына.

— Дайлидович Александр Александрович.

Ягонае рускае «ч» падкрэслена мяккае, «е» – падкрэслена закрытае, адразу чуваць: гэтая мова для яго нязвыклая.

– Откуда?

– Минск, объединение поэтов и писателей «Молодняк».

– Белорусы у нас есть, вам будет не одиноко. Ваш Якуб Колас у нас сейчас отдыхает, – перапісваючы нешта з менскіх папер, паведамляе доктарка.

– А нам с красивыми девушками веселее, чем с Якубом Коласом. Вот если бы вы сегодня вечером согласились показать город молодому белорусскому поэту, вот тогда, пожалуй, ему не было бы одиноко.

Доктарка глядзіць на Дудара з-пад акуляраў строга і сурова.

– На что жалуетесь? Подымите рубашку. Язык покажите. Снимите верхнюю одежду, лягте на кушетку. Здесь стучу – болит? Здесь?

– Здесь болит! – сядае, паказвае на сэрца.

– Ой, ну почему вы все шутите одни и те же шутки? – моршчыцца доктарка.

– Я не шучу.

– Александр Александрович, я назначу вам воду № 20 и стол № 5.

– Воля ваша. Вы ранили поэта в самое сердце. Это лечится водой № 20?

Яна нарэшце падымае вочы на нахабніка і бачыць, што ён проста дуркуе ад маладых невычэрпных сіл. Глядзець на яго без усмешкі немагчыма, і яна, натуральна, усміхаецца.

– Нейкія дзяўчаты тут незгаворлівыя, – скардзіцца Дудар па дарозе ў сталоўку Зарэцкаму. – Затое Колас тут адпачывае. Тры тыдні без дзяўчат, але з Коласам. Як табе такая перспектыва?

– Колас? Адкуль ведаеш?

– Доктарка сказала. Я, кажа, Шурка, пайшла б з табою пасля работы ў кіно, ды толькі баюся, як гэта ўспрыме ваш выбітны паэт Якуб Колас. Ці не будзе ён супраць.

– Што ты вярзеш? – здзіўляецца Зарэцкі.

– Так і сказала, уяві сабе! Застрашыў тут усіх.

Яны заходзяць і адразу праз усю сталовую залу упіраюцца вачыма ў Коласа, які абедае за дальнім сталом ля высокага паўкруглага акна. Той таксама бачыць іх і ківае, вітаючыся. За сталом ён зусім адзін, і Дудар с Зарэцкім, не пераглядаючыся, рушаць да дзядзькі Якуба.

Поціскі рук, вітанне. Афіцыянтка прыносіць меню: пакуль не аформленыя дакументы, есці будуць за свае.

– З Менска? Што чуваць? – пытаецца Колас.

– Дык даўно адтуль, дзядзька Якуб, – з гатоўнасцю кідаецца ў расповед Дудар. – У Бахмачы параселі на Харкаў і затрымаліся

там з хлопцамі, Хвылявы якраз быў, Ёгансен. Адкрылі Дом літаратара, далі імя Элан-Блакітнага.

— Што так? Нікога больш таленавітага не знайшлі?

Дудар цямнее з твару, але Зарэцкі, зразумеўшы небяспеку, штурхае яго пад сталом нагой.

— Дык у Харкаве што чуваць?

— Працуюць, дзядзька Якуб, — пераймае гутарку Зарэцкі, покуль Дудар, унурыўшыся ў талерку, сярдзіта сёрбае салянку. — Самі ведаеце, няпроста. Адзін аднаму дагадзі паспрабуй, я ўжо не кажу пра крытыкаў і гэтак далей. Не скажаш, каб надта весяліліся, але працуюць. Кніжкі выдаюць. Магчымасці ў іх, вядома ж, не раўнуючы з нашымі: і паліграфія, і наклады.

— Пра вас пыталіся, — раптоўна адрываецца ад салянкі Дудар.

Зарэцкі кашляе, папярхнуўшыся.

— І што пыталіся?

— А пыталіся, ці праўда, што нашыя класікі зусім не маюць вагі сярод маладых? Як гэта, пыталіся, гэтак нельга, бо пакаленні ў літаратуры павінны пераймаць адно ў аднаго, а не ў рожкі брацца. Вось, кажуць, Колас ваш, народны, па сутнасці, паэт, а дзе павага да яго? Дзе юбілей? Дзе здравіцы ў газетах? Я ім кажу: лухта, таварышы. Калі і былі якія ўхілы ў нас па гэтым пытанні, то сёння ўсё ў нас выпраўлена і рушыць ва ўсхваленым партыяй і літпрацэсам кірунку.

Б’е, падшыванец, пад самы дых. Колас нават не можа як след раззлавацца — разгублена дапівае гарбату, слухае паспешлівыя, нібыта вінаватыя расповеды пра Менск, якімі сыпле Зарэцкі.

З’язджаў сюды, нібыта хаваючыся: у Менску цяжка. Ці будуць адзначаць дваццацігадовы юбілей творчай дзейнасці, так і не вырашана, ці будзе ён гэткім жа розгаласным, як Купалаў, — наўрад ці. Толькі-толькі скончылася пакута гэтая, працэс лістападаўцаў, па якім Колас праходзіў сведкам. Не забыцца, як ішоў вобшук, як плакала ціха ў куце Марыйка і як афіцэр марудна, са з’едлівай усмешкай на прыгожым твары даставаў з кабуры рэвальвер, прыстаўляў яму да ілба і шыпеў: «Да сцяны пастаўлю, грамадзянін паэт». Нібыта перапіску з Лістападам шукалі, а на справе здзекаваліся. Якая перапіска? Разам на курсах выкладалі, усё. Але хіба скажаш ім. Зараз гэты тут, у санаторыі, а б’е ў балючае, не саромеецца... Шчанюк. Адно памятае Шурку Колас яшчэ хлапчуком, сямнаццаць гадоў, светлы прыгожы твар, разумныя вочы, хуткае пяро. Найлепшы вучань у ягоным паэтычным гуртку быў, рытмы і памеры лавіў імгненна. Пакрыўдзіўся з-за Элана. Ладна. Свой хлопец усё ж. Малады. Ладна. Без рэвальвера, і за тое шчыра дзякуем.

Дзіўны твар у Коласа. Ён не злуецца, не крыўдуе. Ён цалкам разгублены. Дзіўны, нібыта дзіцячы твар. Ніколі такога не бачыў Дудар у свайго былога настаўніка, з якім па маладнякоўскай завядзёнцы весела сварыўся апошнія тры гады. Рука ледзь дрыжыць, слабая, нібыта старэчая. Гарачая хваля спачування раптам залівае Шуркаў твар чырванню.

Ён падымаецца, гучна адкінуўшы табурэтку, і, не развітваючыся, наогул не гледзячы навокал, ідзе да выхада.

— Даруйце яму, дзядзька Колас. Яму па-свойму нялёгка. Усім нялёгка.

Колас маўчыць.

Назаўтра на сняданак зноў збіраюцца разам. Тры беларускія паэты на ўвесь санаторый — як сесці асобна? Дудар перабольшана вясёлы, шуткуе, дурэе за сталом.

— Буду тэлеграму даваць у Менск, каб грошай высылалі, далібог. Дарагое жыццё ў Есентуках! Шампанскае — дорага, басейны — дорага, павы — дорага, а без паваў і басейнаў што мы тут рабіць будзем? Беларусу адпачыць без шампанскага — то немагчыма. Дый назад выбірацца неяк трэба будзе — на мяккі ўжо не хапае. Думаю аэрапланам паляцець — хутка, без перашкод, як дыктуе нам савецкая навука і тэхніка!

Зарэцкі з гатоўнасцю пасміхаецца, Колас паглядае скептычна. Раніца відавочна не клеіцца. Дудар пакрысе згасае, пахмурнее, пачынае ўважліва, старанна есці.

— Пэўна, у Кіславодск паеду заўтра, — кажа ён задуменна. — Там дзяўчаты, кажуць, весялейшыя.

І праўда, назаўтра Дудара ўжо нідзе не відаць. Зарэцкі, паціскаючы плячыма, дае справаздачу маладзічцы ўнізе: «З'ехаў у Кіславодск. Вернецца-вернецца, не хвалюйцеся, за нумар заплачана, значыцца, вернецца».

Зарэцкаму, можа, і вальней аднаму ў нумары: пакрысе разгойдваецца праца над раманам, перарваная доўгім падарожжам і першымі днямі на новым месцы. У вялікі тэкст цяжка ўваходзіць пасля перапынку: ён супраціўляецца, не пускае, усё нібыта чужое, варожае, нейкай чужой, нязграбнай мовай напісанае, і трэба прымушаць сябе па абзацы, па два на дзень усё ж пісаць, праз сілу, праз немач. І зараз справа нарэшце патроху ідзе, і адзінота Зарэцкаму на шчасце, але ўсё ж свідруе трывога за таварыша. Пабаяўся кожны дзень бачыцца з Коласам. І сабе даравацъ не можа, і перад тым не можа выбачыцца. Эх, Шурка, хлапчук яшчэ зусім, а жыве дарослым жыццём. Непрыкаяны нейкі. Добры чалавек, і паэта здольны, зусім нават добры паэта, мала такіх у нас, а трымаць сябе не ўмее, берагоў

не бачыць. Так і з Вішнеўскай было: то прытуліцца, ажно сябе не памятае, то збягае, ані слова не кажучы. Змарнаваў дзяўчыну зусім і сябе змарнаваў. Палкі вельмі і надта заўзяты.

А шчэ гэтая гісторыя з Ганяй, Толькавай жонкай, якую Вольны ў «Акварыуме» знайшоў ды адразу, як была, з фартухам афіцыянткі і ўзяў у жонкі. Якая ж непрыгожая гісторыя, і трэба ж было ў яе і Шурку ўмазацца! Цягалі тую Ганю, як Тольку яна надакучыла, туды й сюды, паілі, па кватэрах нейкіх вадзілі, цiскалі, адзін аднаму перадавалі. Як так? Нібыта людзі іх не бачаць, нібыта сораму няма зусім. Толька ладна – той расчараваўся. Шурка там як апынуўся? Шкадаваў яе, пэўна, а там як шкадаваў, дык і не стрымаўся. Увесь травень спаганіў на Ганю тую, Вішнеўская ад яго зусім адвярнулася. От жа чалавеча, дзе твая галава на плячах?

Колас таксама думае пра Дудара. Раней спадзяваўся: вырасце паэт з хлопца. А ці вырасце? Ці растуць паэты на такім во няпэўным грунце? «Учора быў Дудар і Зарэцкі. Прыглядаюся да Д. і знаходжу яго ўсё больш і больш малацэнным хлопцам. Прыехаў сюды ў мяккім вагоне за казённыя грошы, назад збіраўся ляцець на аэраплане, ды, мусіць, выляціць у трубу, бо ўжо атакуе Менск, каб прыслалі грошы. Не лечыцца, а так сабе разгульвае – то ў Кіславодск, то ў Есентукі. Яму прыпісалі ваду № 20. Гэта самая звычайная вада, такая вось, як у калодзежы пана Юзафа. І ніякай хваробы ў яго няма. Дур адзін. Ну, піў многа, і вочы ў яго міргаюць, як у старога. Учора ўжо пераехаў у Кіславодск. Швэндаецца хлопец, як прусак пад шпалерамі пана Юзафа» – так піша ўвечары жонцы ў Менск.

Іншае хацеў быў напісаць, пра сябе, аднак іншае – нельга. А Шурка блукае кіславодскімі вулачкамі, караценькімі, кручанымі.

Сюды, на кіславодскую пошту, кінуў Толька Вольны тэлеграфам дзесяць рублёў. Палова гэтых грошай – вузенькі пакойчык у драўляным хляўчуку, кволай прыбудовачцы да старэнькай камяніцы. Палова – салодкае хатняе віно, хлеб, салёная кілька і памідоры. Ён зусім адзін і нечакана шчаслівы гэтым, хоць з дзяцінства цяжка трывае адзіноту. Усё надта заблыталася апошнім часам у галаве, і ён блукае вулачкамі, гасячы хадой унутраную трывогу і разблытваючы сваё жыццё, нібыта разуменне кіславодскага ландшафту дапамагае неяк зразумець, зарыфмаваўшы, куламесу ўнутры.

Здаецца, усё ідзе як найлепш. Тое, што хацеў, спраўджваецца, здзяйсняецца. Неяк замялася з Ганяй, здаецца, неяк сцішыўся ў гулянках, кніжкі пайшлі: у гэтым годзе адна, зараз будзе другая. Наташа была даравала, зараз зноў крыўдуе, але тое ўжо лягчэй, і Наста ўсё ж грэе – успамінам, надзеяй, спадзяваннем. Але ва ўсім чамусьці стаў праглядаць адваротны, непажаданы бок. Зарэцкі

кажа: «У кожнай рэчы, Шурка, не два бакі, а значна болей. Адценні шукай, брат, у іх сэнс». А ён бачыць два. Добры і благі. З Наташай не складваецца ніяк. Яна добрая, прыгожая, побач з ёй нікне ўсё і застаецца толькі пяшчота, толькі любоў, але адначасова становіцца страшна, што так будзе заўсёды: нічога ў жыцці і толькі Наташа. Яна зацягвае, патрабуе, злуецца, калі толькі адрываецца ад яе. Але што цяпер? Ганю ці даруе яна яму?

Зусім іншая Наста. Яна не трымае, зусім. Мо каб трымала, каб патрабавала, было б лепш, і ён бы пазбавіўся Наташынай варажбы. Побач з Настай не горача – светла і празрыста, як у асеннім садзе, калі саспявае антонаўка і падае на прагрэтую апошнім сонцам траву. Але як яна не трымае, дык неяк яно і не трымаецца. Мо непатрэбны ёй? Мо яе каханне – толькі імгненне? І як жа хочацца ўжо, каб нехта кахаў напоўніцу – такога, які ёсць.

Колькі было раней дзяўчат – ніводная не заставалася ў сэрцы далей чым на вечар. А гэтыя абедзве рвуць сэрца напалам, і каб жа неяк аказаліся яны адной дзяўчынай, у якой – усё. Каб чакала дома. Каб прытуліць і адчуць: назаўсёды мая, уся, як ёсць, з якой можна быць такім, як ёсць. Адусюль патрабуюць быць інакшым: сур’ёзным, разважлівым, ці вытрыманым, ці разумным, ці спагадлівым, ці спакойным, не кіпяціцца, не спяшацца. І Наташа – каб быў паслухмяны, і Наста – каб быў настойлівы, а ён іншы, і нікому такі, як ёсць, непрыдатны. Толькі на Праваднoй рады яму ўсялякаму. І ён раптам шырока ўсміхаецца, успомніўшы Жэньку і маму.

Яно так і пішацца – на разлом. Раней пісалася сэрцам, зараз – нервамі. Дубоўка так кажа: «Пішам нервамі». Тут балюча думаць нават. Баліць, пячэ, цячэ глюзам – проста ад думкі. Ён, Дубоўка, ніколі яго, Дудара, за роўнага сабе і не лічыў. Так, маладое, борзае. Гэта відавочна зараз. Як сорамна, як балюча ўспамінаць свае лісты з Полацка – яму аднаму, са скаргамі, з просьбамі. Пісаў як сябру, як чалавеку, які зразумее. Зараз ён раптам бачыць тыя лісты нібыта зверху, Дубоўкавымі вачыма – шчанячае скавытанне. Несур’ёзнае, смешнае. Асабліва яму смешна, Дубоўку. Масквіч, брусаўскі выхаванец, з Маякоўскім і Ясеніным ручкаўся. А тут хто? Якісь Дудар. Ад таго, якім недарэчным, ліліпуцкім бачыцца ён сам сабе праз Дубоўкавы прызмы, крыўдай апякае ўсё знутры.

Раптоўна вулачка выводзіць яго да рынку. Гоман, пахі, аскомістыя і салодкія, вераб’інае цвырканне над галавой і пад нагамі на імгненне агаломшваюць і ратуюць ад здрадніцкага камяка ў горле, гатовага, здаецца, лопнуць слязьмі. Ён з гатовасцю акунаецца ў гэты рэзрух, ідзе па радах, усміхаецца вясёлым чарнавокім жанчынам, нешта адказвае на жартачкі маладзенькіх дзяўчат, доўга, удумліва

нюхае закрасы з рук старога татарына. Ля багатых, золатам аздобленых хустак спыняецца, выбіраючы: маме — аквамарынавую, у зялёныя і залатыя зоры, Жэньцы — нябесны блакіт у маленькія кветачкі, Наташы — смарагдавую, з залатым змеем па беражку, для Насты — мядовую, празрыстую на сонцы. Доўга стаіць пад натхнёны спеў гандляркі: чужая, але ж такая прыгожая гаворка, каменьчыкамі перакочваецца над рынкам. Не купляе нічога.

Рынак гамоніць на сваёй мове. Голас кожнага нітуецца з галасам іншага, змешваюцца акцэнты, выгукі, смех. Розныя рынкі гамоняць па-свойму. Эх, апынуцца б на рынку з «Чэрава Парыжа» Заля — удасканаліць сваю кніжную французскую, вывучаную па падручніках і любоўных раманах. Тую таўсценную, перагартаную стакроць «Les Voleurs d'or» par Celeste de Chabrillan* ён і сёння можа адкрыць, каб адчуць тое самае хваляванне. Шчыры Мапасан, феерычны Дадэ, суровы Франс — ягоная французская гартавалася між гэтых вокладак. Пасля казлоўскай гімназіі жыўцом на ёй, пэўна, і не размаўляў. З кім?

Па-нямецку — здаралася: аднойчы ля Чырвонага касцёла перастрэўся з Фрыдай Аўгустаўнай, якая выкладала нямецкую ў Фальковіча. Яна яго, натуральна, не пазнала спачатку, а ён яе, вядома ж, пазнаў, хоць і была гэта не тая высокая, неверагодна прамая, заўсёды бездакорна апранутая ў строгія сукенкі з высокім каўнерам маладая жанчына, а сівая ўжо старая. Ёсць жанчыны, што старэюць імгненна і неадменна. Ён кінуўся да яе і павітаўся па-нямецку: «Guten Tag, Frida Augustowna! Erinnern Sie vielleicht an mich nicht, ich bin Ihr Schüeler!»**. Яна, пасвятлеўшы тварам, уважліва ўгледзелася ў яго, нібыта пазнала, абняла з матчынай ласкаю, і яны размаўлялі з паўгадзіны: Фрыда Аўгустаўна — з усмешкай, ставячы граматычна правільныя пытанні, вымагаючы ад яго вывучаных некалі канструкцый, ён — спатыкаючыся, часам блытаючы нямецкую з французскай. Потым ішоў — нібы галаву пад калонку падставіў, і ветрам свежым яе абдзімала. Успомнілася шмат. Яго наогул вельмі любілі настаўнікі паўсюль — і ў Фальковіча, і ў Казлове. Покуль малы быў, паслухмяны, стараўся надта. Зараз не тое. Вунь з Коласам як выйшла.

Гэтую думку Шурка, раззлаваўшыся імгненна, адкідае. Адсыпае з кішэні медзякоў, бярэ газетны кулёк з пражанымі семкамі. Уратавальная гамана рынку ахінае яго зноў. З дзяцінства любіць Шурка

* «Рабаўнікі золата» Сэлесты дэ Шабрыян (*фр.*).

** Дабрыдзень, Фрыда Аўгустаўна! Вы, можа, не пазнаяце мяне, я ваш колішні вучань! (*ням.*).

слухаць моўную мешань: шырокую, голасную — на казлоўскім базары, імклівую і дробную — на ялцінскім, звонкую, з подсвістам мяккага, але гучнага «сь» — дома на Суражскім, на Нямізе любіць слухаць Верхні горад, у якім мяккая беларуская перасыпана рабрыстымі каменьчыкамі ідыша.

Ля брамы стаіць фатограф. На глухую сцяну камяніцы нацягнуў ён дэкарацыю: сіняе неба, далёкі домік з прысадамі, такі маленькі, што апынаецца ён пад пузам вялізнага драўлянага каня. Раней трэба было ўстаўляць галаву ў дзірку дэкарацыі, зараз рэквізіт ускладніўся. Фатограф выдае ахвотным чорную манішку, чаркеску, папаху, нават шаблю і прапануе ўскараскацца на спіну жывёліне. Сядзець на кані нязручна, папаха падае, манішка лезе з чаркескі, і замест дзіцячага задавальнення атрымліваюцца адно няёмкасць і расчараванне. Але Шурка запісвае фатографу адрас свайго хляўчука і абяцае прыйсці заўтра па здымкі.

Толькі сястрычцы і можна даслаць такі здымак. Дашлю.

У фатографа кліентаў — хоць махалам махай. Кожнаму хочацца з шабляй на кані ў папасе. З чым стаяць менскаму фатографу? Іншым разам бачыў: стаяць з дрэнна намаляванымі пальмамі, папугаямі, неграмі. Бачыў у дзяцінстве неяк — з мядзведзем. Чужое, чужое ўсё.

Адно толькі ёсць у яго жыцці трывалае, за што трымаецца. Часам дзіўна нават. Людзі грунтуюцца на поглядах, прынцыпах, добрым веданні благога і добрага, людзі будуюць жыццё, разумеючы, як трэба дзейнічаць сёння, а як заўтра. Ён такога ніколі не ўмеў, бо не разумеў сапраўды, што ды як. Сёння падаецца правільным адно, заўтра — зусім іншае. Нават, бывае, у адным артыкуле: покуль дзясяты абзац напісаў, ужо ў свой першы не верыш. Бабарэка смяецца з гэтага, але што смяяцца? Добра, калі ты ведаеш усё жалезна. А калі не?

І адно толькі. Зямля і мова. Яшчэ як у Казлове быў, адчуў аднойчы і назаўсёды, што такое свае, сваё, што такое зямля, якая гаворыць праз людзей. З мамай аднойчы пайшлі па дапамогу бежанцам, быў нейкі беларускі камітэт, раздавалі вопратку, і шмат было там народу, і ўсе гаманілі беларускай. Ажно ў носе зашчыпала, як адчуў раптам, што ўвесь гэты год быў пасярод чужых, пасярод чужога: гэтага грэблівага мяккага «ч», рэзкага, як змяіны пошып, «с». А зараз хвалі сваёй мовы калыхалі пяшчотна і ласкава, перасыпаліся далікатным смехам вусатых мужыкоў, хвацкім жарцікам хлопцаў, смелым адказам дзяўчат — свае. Так стала раптам добра і шчасліва, што выбег на вуліцу аддыхацца ад нязнанага раней унутранага хвалявання.

Як вандравалі з Галубком, усю яе нагамі змерыў, родную, пек-

ную, спакутаваную. Часам адчувалася такая любасць і пяшчота, як да дзяўчыны, хіба што дзяўчаты, кожная і заўсёды, былі са сваімі прычэпкамі да яго, а зямля – не. Проста ляжала перад ім, прыгожая, любая, жаданая, у чаканні ягонага закаханага позірку. Яму падабалася, як пісаў пра зямлю Зарэцкі: вось так, як пра прагную каханку. Якая ж падобная да гэтай зямлі была Наста ў сваім даверлівым чаканні! Паеду да яе.

І нікога не мог любіць так, як хацелася. Наташу – горача і палка, але каб не страціць сваёй свабоды, Насту – пяшчотна і аддана, але каб не прымаць складаных рашэнняў, краіну сваю – моцна і ўпарта, і каб не зважаць на маскоўскае разуменне таго, як гэта рабіць. Любоў вымагае абмежаванняў. Хіба гэтак павінна быць?

Ён і не заўважыў, як выйшаў з рынку і амаль дабег у рытме ўсхваляваных думак да сваёй вуліцы. Веснічкі былі расчыненыя, па двары некуды заклапочана бегла гаспадыня. Ля хлеўчыка стаяў высокі хлапец у добрым, сталічнага крою, шэрым гарнітуры. Імгненне разгубленасці – і пазнаў. Зарэцкі.

– Ледзь знайшоў. Ну ты, брат, хаваешся. Давай, паказвай свой прытулак паэтычных летуценняў. Забраць цябе прыехаў. Дзядзька Якуб учора памкнуў на Менск, дык Лідачка хвалюецца, што канцэнтрацыя беларусаў у «Арліным гняздзе» рэзка падае ніжэй за норму.

– Што за Лідачка?

– О, брат, што за Лідачка. Найлепшая Лідачка ў Есентуках, а мабыць, і на ўсім Каўказе. Увечары пазнаёмлю. Збірайся, цягнік праз тры гадзіны. Нешта мне неспакойна, як ты тут адзін. Разам прыехалі – разам ваду № 20 піць павінны.

Дудар шчасліва пасміхаецца, глядзіць у насмешлівы твар сябра, міргаючы. І праўда, здзяцінеў зусім – збягаць у Кіславодск.

Уночы яны ўжо п’юць салодкае кіславодскае віно на балкончыку былой дачы Зіміна.

– Ты адчуваеш, Міхась, як ціснe? Памятаеш, як здымалі Шыпілу з рэдактараў у кастрычніку? Артыкул той Трамповіча памятаеш, праўда? Пасля якога Шыпілу знялі, а Чарота паставілі, – Дудар нібыта працягвае тую няскончаную размову ў вагоне.

Зарэцкі моўчкі ківае.

– Але ж там слова ў слова праўда, Міхась! Зарэцкі ківае зноў.

– З тога артыкула слова не выкінеш, якi ён справядлівы. І пра тое, як нішчылі нас стагоддзямі; і пра тое, як карчавалі адукацыю; і пра тое, што мы з вёсак павыйшаўшы і шмат чаго не ведаем і не ўмеем, але рабіць культуру сваю мусім; і пра тое, што даводзіцца запрашаць да сябе чужых, а хіба ж чужы будзе так любіць нашу зямлю, як я, як ты? Хто тады загадаў зняць Шыпілу за гэты арты-

кул, Міхась?

— Я не ведаю, Шурка, далібог. Ты так пытаешся, нібыта гэта я быў.

— Не, я так, раптам ты ведаеш. Дык я не скажу, што Чарот горшы за Шыпілу, не, можа, і лепшы, але і за ім сочаць, разумееш? Хто? Хто вырашае на нашай зямлі, як нам яе любіць? Хто пільнуе з Масквы? Кнорын?

Зарэцкі цямнее з твару.

— Я не ведаю, Шурка, ці сапраўды пільнуе хто з Масквы, ці сочаць нашы, але партыя павінна трымаць пад кантролем і нацыянальнае пытанне — як найважнейшае. Усе мы людзі, усе памыляемся, але мы не можам не верыць партыі, бо гэта яна, а не асобныя людзі будуе новае жыццё. Калі мы нешта не разумеем, дык гэта мы нешта не разумеем, а не партыя. То ж сіла, разумееш, супольнасць. Я так мяркую: калі нехта вырашае нешта асобна — такому трэба даваць па руках. Але калі вырашае партыя — не чалавек, разумееш? — дык з гэтым трэба лічыцца. Шыпілу здымаў не адзін чалавек — яго здымала партыя. Значыць, артыкул Трамповіча ідэйна дрэнны.

— Тады патлумач мне як камуністы, што ў ім дрэннага для партыі?

Зарэцкі ўстае, бярэ са стала бутэльку, акраец хлеба, ківае Дудару, каб узяў кілішкі, і выходзіць з балкончыка ў хол другога паверха. Да пакоя яны ідуць моўчкі, і Зарэцкі зачыняе дзверы на ключ.

— Можа быць, Шурка, мы нечага не ведаем. Я добра ведаю, што абяцаў рэспублікам Ленін. Што абяцае зараз партыя без яго, я не ведаю. Мо яны покуль не сказалі, мо я недачуў. Трэба запытацца ў Дубоўкі, можа, яму там у Крамлі чуваць. Але я думаю, што з Трамповічам і Шыпілам разабраліся тутэйшыя, свае і, мабыць, перагнулі палку. А мабыць, мы нечага пакуль не ведаем і палка гнецца якраз так, як і павінна.

— Во патлумачыў дык патлумачыў, браце, ажно зайздрасць бярэ. Як жыць у свеце такіх тлумачэнняў? Што ні зрабі, дык патрапіш альбо пад перагнутую палку, альбо пад тую, якая, здаецца, гнецца ў патрэбным напрамку, а можа, і не. Чаму ўсё так няпроста, скажы мне? Навошта столькі туману? Мне здаецца, няма нічога прасцейшага: тут Беларусь, тут спакон веку жывуць беларусы, яны павінны гаспадарыць на сваёй зямлі і ў сваёй культуры. Кропка! Дзеля чаго ўсё гэта здабывалася тады? Дзеля чаго цярпелі? Каб зноў прыйшоў маскаль ці лях і падмяў усё, як дваццаць гадоў таму? Я не разумею, што гэта за палітэсы такія, Міхась, чаму мы не можам нарэшце жыць сваім жыццём? Чым мы ўжо сёння ім усім абавязаны? Ажно

ў грудзях пячэ, як думаю, ад таго, што не разумею.

Яны маўчаць. Полымя свечкі калыхаецца ў віне глыбокім рубінавым водсветам.

— Дык а што пра Лідачку? – раптам пытаецца Дудар.

— Ай, нішто. Забудзься, – чамусьці раззлавана адказвае Зарэцкі.

# ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Наташа пісала мне і раней. Кожны раз яе лісты, светлыя і простыя, прыходзілі не ў час, і я іх праглядала, радавалася і забывала, і толькі лёгкі праменьчык святла некаторы час мігцеў недзе ў куточку паўсядзённых пачуццяў. Гэтым разам я схапілася за яе ліст, як за выратаванне — у цемры адчаю мне было вельмі страшна. Тое, што яна ў Менску, у «Маладняку», побач з Дударом, сустракаецца ў рэдакцыях, абнадзейвала, і я спадзявалася, што яна хоць слоўцам успомніць яго і мне стане больш зразумела, што парабілася ў Менску і чаму Алесь прыехаў апошні раз такім чужым. Наташа пісала колькі словаў пра «Узвышша», зусім мала, зусім нічога, я толькі асэнсавала, што ў «Маладняку» праблемы і што, пэўна, Дудар іх вельмі перажывае. На імгненне стала лягчэй. Але ў наступным абзацы Наташа пераходзіла да асабістага.

Яна пісала, што ў яе «раман», што ўсё пачалося на Новы год, які яны разам сустракалі з «Маладняком», і ўранні яны ішлі з Дударом па менскіх вуліцах, і быў мароз. Пісала, што яны надта сварыліся адпачатку, покуль яна прывыкла, які ён насамрэч, і што маглі не гутарыць і месяц, і два (ах, дык вось яно, маё сакавіцкае шчасце!), і што цяпер Дудар нарэшце прапанаваў ёй запісацца, але яны пасварыліся зноў, і ён з'ехаў у Есентукі адзін, а абяцаўся з ёю, але яна яго ведае ўжо: прыедзе і зноў прыбяжыць, і будзе кленчыць і прасіць даравать яму, і зноў настойваць на шлюбе, і яна пакуль думае, і, вядома ж, гэта не зусім той чалавек, які выглядае на ідэальнага мужа, і што мама, хутчэй за ўсё, будзе супраць, але ён такі настойлівы і такі закаханы, што яна не можа яму адмовіць.

Пісала, што ў траўні здарылася вельмі паганая гісторыя з жонкай Толіка Вольнага. Ён ажаніўся раптоўна з афіцыянткай, было шумнае вяселле, хлопцы паўпіваліся, яна тады моцна пасварылася з Дударом, а як Толіку праз колькі тыдняў з жонкай сваёю стала сумна (а як не стане сумна, калі тая Ганька ані слоўца не скажа — адны вочы ды грудзі), дык пачаў ён бегаць ад яе. Тая ў слёзы, а хлопцы суцяшаць, па кіно вадзіць, на гулі з сабой браць. І Дудар — таксама. Вадзіў тую Ганю ў кіно, абдымаў за плечы ў Аляксандраўскім скверы, а то, казалі, і ночыў у яе, як Толік зусім збег. Сцягалі яе — страшна паглядзець. Выставіў Ганю Толька з хаты, дык зараз

пад «Акварыумам» стаіць, кліентаў чакае. Праз тое хацела наогул ніколі болей з абодвума не знацца, але Дудара яна ўсё ж плануе перавыхаваць, бо ўсё адно прыцягнецца, дый харошы ён па задуме, толькі што сапсаваны. А яна ведае, як выправіць. Зараз з'ехаў, пісала Наташа.

Так балела ў грудзях, такі страшны ком адчаю і болю стаяў ля сэрца, так ціснуў на мяне знутры. Хацелася выплакаць яго, неяк ці то выкашляць, ці то званітаваць, але ад слёз і ад кашлю ён рос і ціснуў страшней. І нават калі я перастала ўжо раўці бялугаю, ком застаўся. Цяпер я плакала радзей, але лёгка, дзе заўгодна: пасярод вуліцы, у гутарцы з людзьмі, у краме, паўсюль, дзе заспявала мяне думка пра тое, што ж ён зрабіў са мной. Тыя дні і тыя ночы, якія мы правялі разам, яны ніяк не стасаваліся з тым, што адбывалася. Гэта было ўсё тое ж немагчымае, невытлумачальнае, незразумелае пачуццё несумяшчальнасці, якое я перажывала тады, у «Бельгіі», калі глядзела на ягоны твар, на тое, як ён міргае. Часам я думала, што гатовая ўжо не плакаць, што гатовая яму даруваць, але глыбіня майго неразумення, майго гора была такая, што я не магла з яго вынырнуць, ад яго адарвацца, як некалі — ад яго вачэй.

Другі раз ён кідаў мяне. Як так? Вось у такім напаўшалёным стане мяне падабраў Зільбер. Я бачыла Лазара Зільбера і раней на пасяджэннях віцебскай філіі: ён прыходзіў «паглядзець». Сам працаваў у «Віцебскім рабочым» загадчыкам аддзела. Я даўно не хадзіла на пасяджэнні філіі, але аднаго разу мы перастрэліся на вуліцы. Крыху перамовіліся. У яго былі білеты ў тэатр, я пайшла. Праводзіў дадому. Зільбер быў значна старэйшы за мяне, ажно на дванаццаць гадоў, і мама разгублена маўчала спачатку, але пасля таго, як уся вуліца і мама следам была непрыемна ўражаныя маімі надта вольнымі адносінамі з «тым хлопцам з Менска», ураўнаважаны, спакойны, дзядзька ўжо, Зільбер выклікаў пэўны давер. Ён прыйшоў да нас разы тры, а на чацвёрты — з вінам і букетам. Я пагадзілася.

Лазар быў вельмі харошым чалавекам. Вельмі. Адно толькі: я яго ніяк не магла палюбіць. Перад ім я ўвесь час адчувала ўласную віну. Гэтая віна нават грэла нас абодвух: я была так удзячна яму за выратаванне, так вінавата перад ім у сваёй нелюбові і паўсядзённых думках пра другога, што маё шкадаванне можна было прыняць за любоў і часам нават жарсць. Ён, здаецца, усё разумеў.

Тая восень дваццаць шостага года была вельмі доўгая — ажно да Каляд не было снегу і марозаў, і дрэвы стаялі ўсе ў золаце. Сухія, крохкія лісты шаргацелі на чорным вецці, пакрысе абляталі, і залатая прыгажосць слалася дыванамі, мружыла аблокамі вакол стромкіх ствалоў. Ад гэтай пекнаты было светла і сумна, хацелася выплёскваць пачуцці на паперу, але нічога не пісалася, і словы стаялі камяком у горле. У гэткую восень хараша чыталіся вершы Дубоўкі, мне заўсёды падавалася, што ў ягоных вершах

чуецца сухі і празрысты шоргат асенняга золата. Я перачытала «Строму», потым «Credo», потым «Кіпарысы», потым ператрэсла ўсе «Маладнякі», пакуль там яшчэ можна было сустрэць нешта Дубоўкава. Радкі клаліся на душу, нібыта рыфмаваліся з усімі незавершанымі унутры словамі. Але ж хацелася іншага, большага. Хацелася, каб гэты залаты шоргат нарэшце пераўтварыўся ў буру, у дождж, у завею, толькі б скранулася з месца ягонае залатое нерухомае павуцінне. Мы яшчэ не чыталі ані «Налі», ані ўзвышаўскіх вершаў, да іх яшчэ было далёка, але ж яны ўжо пісаліся, якраз у гэты час — тое, чаго хацелася.

І так выйшла, што маё жаданне пісаць вылілася на паперу лістом да Дубоўкі.

Я напісала на адрас Інбелкульта: Менск, Рэвалюцыйная, 21. Раней пісала б на «Маладняк», зараз зусім невядома было, куды пісаць. З Інбелкульта, вырашыла я, дакладна павінны пераслаць у Маскву. Пісала, што паэзія ўсё ж павінна быць іншай, бо жыццё навокал — гэтая залатая пекната і прыгажосць — ніштo побач з дабром і ліхам, якія трывае звычайны чалавек, унутры якога і цемра, і залатая надзея ходзяць поруч. Пісала, што няма вялікай радасці апісваць туманы, над ставам дым нібы з балеі, імжу і склізоту, бо звонку мы іх і так бачым, а ці разумеем мы сябе знутры? І хто, як не паэт, распавядзе нам пра гэта, назаве словамі тую страшную сутаргу, якая не дае спаць уночы? Мне хацелася збавення ад свайго болю, і здавалася, я па праву патрабавала яе ад наймацнейшага паэта сваёй зямлі.

А вось зваротны адрас не напісала. Па-першае, пабаялася Дудара: Віцебск, маё імя на канверце, не, няхай ён не пабачыць. Па-другое, не хацелася абцяжарваць Дубоўку адказам. Заклеіла і кінула ў скрыню.

Мы жылі на Замкавай, дакладней, цяпер яна называлася вуліцай Троцкага, але ніхто яе так не называў. Толькі Замкавая. Тут у Зільбера быў невялікі пакойчык у камуналцы. З адзінага акна пакоя заўсёды была відаць Дзвіна, яе то аксамітная шэрая, то бліскучая сталёвая спіна, яе павольная і спакойная постаць, адкінутая рука Віцьбы і пяшчотная падпаха — наш з Рыўкай муражок. Я цвёрда вырашыла не вяртацца ў тэхнікум, і Лазар асцярожна разважаў пры мне, дзе б жонцы далей павучыцца: ці то ў новаадкрытым педінстытуце, ці то паехаць у Менск, тым больш што яго даўно і настойліва запрашалі ў рэдакцыю часопіса «Штэрн», які тады якраз уваходзіў у свой росквіт.

# ГОРАД. ДОЖДЖ

Яны вярнуліся з Кіславодска ў самую непагадзь: ліў дождж, Менск раскіснуў, пад нагамі хліпала рудая гліна, вуліцы пераўтварыліся ў гразкую калатушу, якая ўзбівалася ажно ў пену. Шэры, стары, аблуплены горад цярпліва мок пад дажджом і моўчкі трываў. Праваднaя таксама разлезлася, па вуліцы беглі мутныя чырвоныя ручаі, ад чорных хат патыхала сырасцю. Але дома было цёпла, тапілася і печ, і грубка, мама круціла зразы, на прыпечку падыходзілі коржыкі. Яго чакалі.

Жэнька выплясвае нейкія дзікія танцы, надзеўшы на сябе адразу ўсе падарункі: і бірузовыя маністы, і хустачку ў зорачкі, і капялюшык з кветкай. Бацька задаволена круціць вус над ядлоўцавай люлькай і пачкам сапраўднай каўказскай табакі. Белы парцалянавы піцейнік, размаляваны птушкамі, ужо пастаўлены на палічку. «А што я піць з яго буду, сынок? Хіба для прыгажосці – то я згодная», – радуецца маці. Адкаркавалі з бацькам тое самае салодкае кіславодскае – нейкім незразумелым чынам адна бутэлька перажыла іх з Зарэцкім вяртанне і даехала да Праваднай.

І нарэшце – нырца ў свой пакой. Няма на свеце месца лепшага, далібог. Драўляны старасвецкі ложак, рыпучы, але з дзяцінства знаёмы кожнай дошчачкай. Стол, змайстраваны некалі бацькам. Таго ж паходжання крэпкае, надзейнае крэсла і за спінай паліцы да самае столі. Жыццё можна правесці, нікуды не выходзячы.

Ён падае на ложак і закідвае рукі за галаву.

Усё, заўтра – за справы. Разабрацца з маладнякоўскімі паперамі. Прэсу прагледзець – за тры тыдні тут усё, што хочаш, магло адбыцца. Зразумець сваё становішча ў часопісе. Пачаць складаць зборнік – у лістападзе па плане ў друк, а ён яшчэ і не браўся. Сіл столькі – здаецца, заўтра, як казачны волат, раскідае ўсё па паліцах, якія, здаецца, адбудаваліся ў галаве, і пачне новае, правільнае, прыгожае жыццё. Яму амаль дваццаць два – тры месяцы засталося. Самы час перагарнуць старонку.

Успамінаецца рознае. Жоўтая сцяжына між жыта, дзяўчаты з рэквізітам пыляць на калёсах далёка ўперадзе, а яны – пяцёра хлопцаў і сам дзядзька Галубок – шчыруюць пехам, і сонца, і спёка, і кашуля ў Галубка цямнее на спіне ад поту, але ён ідзе і насвіствае, і недзе наперадзе дыхае прахалодай возера.

Хата ўспамінаецца на Набярэжнай, хадзіў туды калісьці. Брудна, смурод, цесныя катушкі, у кожнай – зашмальцаваны страшны ложак, рукамыйнік і жанчына. Хадзіў туды да адной – неяк аднойчы

трапіў, а потым шкада яе стала, звычайная маладая дзяўчына, са сваімі дзявочымі думкамі, проста у такім месцы. Каб узяў тады ды выцягнуў яе, ды завёз у якую вёску, каб домік быў у яе, садок, каб мог прыязджаць да яе калі з Менска і ісці ў спёку праз жыта. Хадзіў да яе на Ленінскую, у той бруд і распусту, і чуў, як за сцяной бясконца рыпелі спружыны пад цяжкімі целамі без кахання і радасці, грошы ёй даваў, але з хаты той не забраў.

Сход успамінаецца травеньскі, як адыходзіла «Узвышша», як сядзеў агаломшаны, як рота не мог раскрыць, сказаць хоць нешта — абараніць «Маладняк» свой, які і ягонае дзіця таксама. Такое бывала заўсёды якраз тады, калі, здаецца, і трэба было нешта сказаць такое хвосткае, правільнае, разумнае, але раптам усе словы прападалі, каб выплюхнуцца тым самым правільным і разумным ужо ў начную бессань, калі позна ўжо. А тады толькі і мог, што глядзець у нямым здзіўленні на Дубоўку, прыгожага, моцнага, на пальцы, якія нервова згіналі паперчыну — напалам, шчэ напалам, шчэ напалам.

Раптам успамінаецца, як выйшаў у «Савецкай Беларусі» першы ягоны верш — і гэхнула сэрца, калі пабачыў у нумары праз тыдзень пасля таго, як даслаў ліст, чатыры слупкі чорненькіх, нібыта чужых радкоў і ўверсе над імі ў разрадку — Алесь Дудар. Калацілася сэрца так, што, здаецца, сам увесь хадзіў ходырам, ледзь утрымаўся на нагах, рукі сталі халоднымі і драўлянымі, пальцы сашчапіліся, старонку перагарнуць не можа, так і стаіць пасярод вуліцы і глядзіць, утаропіўшыся, у гэтыя літары.

І зноў Галубок успамінаецца, сцэна. Ён кідае ў залу — ай, ды якая там зала, свіран, лавы ў шэраг, на іх бітма народу ў пярэстай, палетняму простай вопратцы — кідае ў гэтую залу асабліва ўдалую рэпліку, і зала рагоча, і мкне з гэтай залы да яго хваля такой любові і ўдзячнасці, што хочацца заплюшчыць вочы.

Дзяўчына ўспамінаецца — як яе звалі? Усё тады было ў п’яным тумане: і ад віна, і ад дурных маладых сіл, ажно не разбярэш, бывае, з чаго ж так водзіць цябе, з чаго так падкідае, ці то моцнага перабраў, ці то закахаўся. Дык з тых часоў і ўспамінаецца яна, безыменная цяпер, але і ва ўспамінах нават манкая, цёплая, з усмешкай здзеклівай у куточку вуснаў, ён ляжыць галавою на яе каленях, яна перабірае ягоныя валасы і ціхенька пяе:

> Ой, у полі крынічанька, відна дно, відна дно.
> Нігдзе ж майго п’янічанька не відно, не відно.
> Ой, пайду я дарогаю бегучы, бегучы,
> Ці не ўгледжу п’янічанькі, ідучы, ідучы.
> А мой горкі п’янічанька з карчмы йдзе.
> На бок сваю галованьку ён нясе.

Ой, што ж ты, мая мілая, думала,
Як на гэту гібку кладку ступала.
Я думала, мой міленькі, утануць,
Каб з табою, мой міленькі, мне не жыць.

Устае перад вачыма Белпедтэхнікум, маладое ўсё, гаманкое, прыгожае, закаханае, здаецца, толькі ў яго – і водгук, словамі, дыханнем, пачуццём – на вершы, якія лятуць, нібы зусім чужыя ўжо, не свае, над галовамі, над чырвонымі хусткамі, над горадам, над ракой.

І той мурог, на якім з Наташай сядзелі неяк да зары.

Ой, што ж ты, мая мілая, думала,
Як на гэту гібку кладку ступала.

І ўсё навокал тоне раптам у гарачым, невыносным жаданні: дзе ж яна, які ж ён дурань, чаму ён яшчэ не ля яе.

– Мам, я ў горад!

– Шурка! Куды? Дождж!

Так, дождж лье, як з цэбра, і Шурка ў хвіліну прамакае да ніткі, але ідзе, амаль бяжыць: праз Шкляны завулак, мокрай, бліскучай ў свеце ліхтароў Маскоўскай, пад Заходні мост, праз двары і паўз «Бельгію» – на Савецкую, уздоўж састылых камяніц, паснулых крамаў, па калена ў вадзе і гліне, паўз шэры, трывожны Аляксандраўскі сад, у якім гэтаксама мокне ў несупынным хваравітым натхненні чыгунная лебедзь і яе змарнелы пастушок. За Юбілейным домам, на якім вільготным бляскам зіхацяць маскоўскія макаўкі, праз сцяну дажджу ўжо бачныя белыя муры і чорныя вачніцы Белпедтэхнікума і, нарэшце, там, перад самым Цэнтральным паркам, на беразе неспакойнай, успухлай Свіслачы – камянічка інтэрната. Шурка занырвае ў дзверы, на драўляную шурпатую падлогу з яго цякуць ручаі. Старая вахцёрка, усплёснуўшы рукамі, бяжыць за анучаю. У тры скокі ён на другім паверсе. Грукаецца ў пакойчык – і адразу, нібы чакала, адчыняе Наташа.

Наташа войкае ад нечаканасці і шалёнай радасці, што ён, што дзеля яе, што дождж і што глядзяць на яе ягоныя вочы, і, забыўшыся, што пасварыліся, што пакрыўдзілася не на жыццё, а на смерць, не паспяваючы зрабіць якога-небудзь строгага выхаваўчага выгляду, кідаецца яму на шыю, і яе тонкая сукенка адразу ўбірае ўвесь менскі дождж з ягонага паліто.

# РЭДАКЦЫЯ. «МАЛАДНЯК»

— А гэта што яшчэ такое?! – Дудар, разгублена міргаючы, разглядае паштоўку: на ёй намаляваныя галапузыя чалавечкі і буйным, выразным почыркам напісана бруднае слоўца. – Гэта што, поштай, адкрыта ішло на адрас «Маладняка»?! Гэта чыя творчасць?

— А, брат, то ж мы ўжо ўсёй рэдакцыяй рагаталі, – усміхаецца Сярожа Гесэн.

Ён пакрысе здае справы новай рэдкалегіі і зараз корпаецца ў шуфлядах, дзе ў вялікім гармідары можна адшукаць яшчэ не такое.

— Рагаталі?! – Дудар ажно бялее. – То бок у рэдакцыю ўсебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў прыходзіць такое во, а мы рагочам?! Праз усю краіну поштай, адкрыта, без канверта, на адрас «Маладняка» – гэта жартачкі?!

— Ну, ты, мо крыху лягчэй, таварыш Дудар, – зводзіць вусны ў нітку Гесэн. – Мы тут не школьнікі, ты нам не дырэктар заўвагі ў кандуіт пісаць. Няма часу кожную бздуру разглядаць на такім сур'ёзе, як ты тут прапануеш. Мо па кожнай «ё...най мацеры» будзем сходы склікаць ды вымовы выносіць?

— З-за такой неадказнай пазіцыі, таварыш Гесэн, мы потым і маем расколы ў арганізацыі і папрокі, што скаціліся з літаратурнага аб'яднання да рэспубліканскай памыйкі. Вы сабе ўяўляеце такую паштоўку ў рэдакцыі «Полымя»? Ці, можа, ва «Узвышшы»?

— А што ва «Узвышшы», вунь Дубоўка тут таксама сярод адрасатаў.

— Дык наш карэспандэнт да таго ж не ведае, каму ў «Маладняку» пісаць? Гэтак у нас справы абстаяць у філіях... панабіралі...

— Дык то ж Відук, дэлегат з'езда, што значыцца «панабіралі»? Вы на каго збіраецеся віну ўскласці, таварыш Дудар?

Дудар з прыкрасцю махае рукой. Грэбліва бярэ паштоўку, углядаецца ў літары.

«Здарова, Дудары, Зарэцкія, Дубоўкі і розныя там шмэндрыкі! Чорт яго ведае, чаму, але мне хочацца... (не чаго-небудзь дрэннага хочацца) перакінуцца з вамі параю слаўцоў. Дрэнна толькі тое, што „глас вопиющий в пустыне“. Нічога такога ў Расоне маёй няма. Жывём ды хлеб жуём, пра Менск часта ўспамінаю... Усё глупства к ё...най мацеры бу-у-у-у-ух! Амінь. Бывайце. Астаюся сукін сын Відук». На штампе: 17 верасня. Яны з Зарэцкім шчэ ў Есентуках былі.

— А пачыналася ўсё зусім бязвінна, – пасмейваецца Гесэн. – Во, глядзі, якая была адпачатку.

«Добрага дня, Маладняк! Але ж вы, халера на вас, добрыя парасяты. Каторая пара нічога нават не адказалі! Вось дак сувязь з адзіночкамі! Здарава. А я ўжо трэцяе пішу. Мне здаецца, каб штонебудзь ад „Маладняка“ атрымаў, дак бы, чорт ведае, колькі радасці было. Відук». На штампе 23 жніўня. Перад самым іх з Зарэцкім ад’ездам.

— Дапяклі хлопца непавагай і маўчаннем, а цяпер і не вылаяцца, адразу ўсыплюць. І каб самі былі анёлы, дык не. Дзе там. Ці ты, таварыш Дудар, мацюгоў мо не карыстаеш?

Дудар маўчыць, сцяўшы зубы. Унутры ўдымаецца бура. Разагнаць к чортавай мацеры ўвесь гэты «Маладняк» з ягонымі літаратарамі, рэдактарамі, філіямі і філійцамі, шуфлядамі і сталамі. Пераўтварылі ў бардак. Ён цяжка, злосна міргае, вейкі наліваюцца свінцом.

— А ты ж мо не чуў, Шурка! — заўважыўшы той свінец, спрабуе ўратаваць сітуацыю Гесэн. — Што было, покуль вы там пузы на сонцы грэлі! Дубоўка — чуеш? — прыляцеў з Масквы, зборнік у дзяржвыд здаць. А Гартны — хоп! — і забараніў. Покуль я жывы, кажа, дык Дубоўка на Беларусі друкавацца не будзе. І з кабінета — на калідор, ляснуўшы дзвярыма. Дык Дубоўка — чуеш, Шурка? — дык Дубоўка шуфляду стала ягонага адкрыў і насраў туды, пакуль Гартны па калідоры бегаў.

Ад нечаканасці Дудар выбухае смехам, але ў тую самую хвіліну твар ягоны залівае чырвань: от жа гад маскоўскі! Крамлёўская завядзёнка: у шуфляду беларусу навáліць!

На калідоры чуюцца крокі, гучнагалосае вітанне, нехта нешта бубніць, ціха, але ўпэўнена, другі гучна, бадзёра адказвае. Адчыняюцца дзверы. Зарэцкі і Маракоў.

— Зранку — і ўжо на працы, — паціскае рукі Гесэну і Дудару Зарэцкі. Маракоў мінае Гесэна, да Дудара кідаецца з абдымкамі.

— А што ўжо суровы такі, Шурка? — Зарэцкі весела смяецца. — Пакуль нас не было, нехта ўхіліўся ад пралетарскай лініі? Шукайла прызначаны наркамам асветы? Чарвякоў забыўся на беларускую? Пушча папрасіўся назад у «Маладняк»?

Маракоў паціраe рукі ад задавальнення — які прыдатны для жартаў ланцужок! — і адразу ж працягвае:

— Гэта ён шчэ не ведае, што Глебка з Трусом цяперака важнейшыя за Купалу з Коласам, бо іх партрэты па трыццаць капеек у «Дзяшовай кнізе», а Коласа з Купалам — па дваццаць.

— Глебкі з Трусом партрэты? — стомлена здзіўляецца Дудар.

— Дык а што! Чым яны горшыя? На трыццаць капеек, думаеш, не напісалі шчэ? З кожнага?

Зарэцкі, ціха смеючыся, мосціцца за вольны стол.

— Дык што скажаш, Алесь Аляксандравіч? Вакацыі скончаны. Што рабіць будзем?

— А што рабіць? За працу трэба брацца. Мае прапановы такія: шостага збіраем ЦБ. Праводзім перавыбары. Другое. Рыхтуемся да пераўліку. Вымесці з арганізацыі ўсе «мёртвыя душы» і такіх во пісак таксама, пачысціць філіі, каб засталіся толькі здаровыя літаратурныя сілы. Прапаную распрацаваць новыя білеты для сяброў і выдаць іх на беларускай і французскай мовах.

Зарэцкі падымае галаву ў нямым здзіўленні.

— А што ты здзіўляешся? — гарачыцца Дудар. — Як бы я запрапанаваў выдаваць білеты па-нашаму і па-расійску, не дзівіла б цябе гэта? І нікога б не дзівіла. А мы дададзім французскую. Я зраблю.

Зарэцкі ў задуменні абводзіць вачыма пакой:

— Сумняваюся, каб прапусцілі такое, Шурка. Але задума твая вартая. Далёка сягаеш. Малойца.

Ён зноў ківае галавой, нешта адзначае алоўкам. Дудар працягвае, адбіваючы кожны пункт далонню па стале:

— Перагледзець склад кіраўнікоў філій, праверыць праграмы, планы, што зроблена. Мяняць нашу часопіс да лепшага. І трэба, я лічу, выпрацаваць лінію адносна «Узвышша», спыніць хістанні хлопцаў, вызначыцца, куды ідзём і як будзем трымаць удар.

Маракоў падымае бровы на прыгожым твары:

— А што за ўдар? Нехта ўжо б'ецца?

— Не б'ецца, але будзе, — з задавальненнем каментуе Зарэцкі.

— Усё, Валька, сядай, бяры аловак, пішы. Тым больш цябе тычыцца адна важная навіна. Збірайся — наступным тыднем вы са Звонакам камандзіраваныя на працу ў Полацак. Будзеце там падымаць філію.

Дудар выбухае смехам і доўга не можа спыніцца, Маракоў жаласна міргае вачыма.

— За што?!

— Не за што, а чаму. Вы маладыя, бадзёрыя, дуры ў вас — на тры Полацкі хопіць, дзяўчаты вас любяць, дык паедзеце, троху папрацуеце, чым тут галубоў ганяць.

— Калі мы галубоў ганялі?! — ажно падскоквае з-за стала Маракоў.

— То метафара, таварыш паэт. Усё. Збірайся, кажу. Марусі сваёй не забудзься сказаць.

— Якой Марусі?

— А хто яна? Лена? Ці Анечка?

— Ну, і Лена ёсць, і Анечка...

— Во ўсім і скажы.

Дудар выцірае вочы, насмяяўшыся да слёз.

— А ты, Шурка, асабліва не смейся. Твая задача — як след папрацаваць з маладымі таварышамі, патлумачыць, што да чаго ў тым Полацку, даць адрасы для сувязі. Ты ж там у нас першапачынальнік, табе і рыхтаваць.

— Добра, Міхась, зробім. А з гэтым во кадрам што рашаць будзем? Якраз адтуль, з тых краёў, — падае Дудар Зарэцкаму паштоўкі Відука.

Зарэцкі бярэ іх, прыжмурваецца, каб прачытаць. Выгляд ягоны робіцца сур'ёзным, ён адкладае паперчыны і дапытліва глядзіць на Дудара.

— Ты што думаеш?

— Я думаю, такое недапушчальна, калі мы плануем бачыць нармальны, працаздольны «Маладняк» як паважаную літаратурную арганізацыю. Думаю, выключыць.

— Вось і дакладзеш на ЦБ, таварыш Дудар. Па тваёй прапанове і вырашым. Да шостага рыхтуйся.

І як гэта ў яго атрымліваецца, у Зарэцкага? Колькі ведае яго, столькі дзівіцца. У яго ж унутры — віхуры і навальніцы. А звонку — камень-чалавек.

Да Дудара, гучна цягнучы крэсла па абшарпаных дошках, пад'язджае Маракоў. Ён глядзіць на сябра вялікімі блакітнымі вачыма, у якіх стаяць сум і журба, і шэпча:

— Шурка! Шурка, уратуй мяне ад Полацка! Сам жа ведаеш, якое там жыццё! Ты ж сам ногі адтуль ледзь вынес! Ну, пагутары ты з Зарэцкім, з Чаротам, ну!

— Я пагутару, Валька, але ты гэта дарма. Зараз там іншае жыццё. Паедзеце са Звонакам разам, то ж не так, як я, ваўком, адзін на ўвесь павет. Падымеце газету, філію. Дзяўчаты там — агонь, — прымірэнча шэпча Дудар.

— Што ж ты збег тады? Я ж памятаю, як расказваў, што ледзь не звар'яцеў там за восем месяцаў.

— Дык то даўно было, Валька. Цяпер Полацак палепшаў.

— Ага, кажы. Ну, не хочаш, як хочаш. Няма ад каго дапамогі чакаць, відаць. Ты цяпер ад нашых трывог далёка. Сакратар, бач.

— Ды не, я пагутару.

— Дык пагутары.

Зарэцкі, не падымаючы вачэй ад паперы, ціха каментуе:

— У яго нічога не атрымаецца, Валька. Вашыя кандыдатуры ўчора ўзгоднены ў ЦК.

Маракоў ціха бурчыць сабе пад нос:

— Узгоднены... А запытацца ў людзей?

— А хто тут у каго пытаецца, Валька? Камсамол сказаў: трэба. Маракоў адказаў: ёсць! Вунь у Дудара, думаеш, шмат хто пытаўся? У Александровіча? Усё, досыць, не адвяртай мне сакратара ад працы. Наогул, Валька, нешта ты заседзеўся, ці не час табе на працу, га? Мабыць, не выйдзе ж без цябе чарговы нумар «Піянера Беларусі», а ну бягом у рэдакцыю!

Ружовашчокі Валька, які часам вельмі саромеецца сваёй сакратарскай пасады ў такім несур'ёзным часопісе, набычыўшыся, выскоквае за дзверы, кінуўшы ўмольны позірк на Дудара.

— Ну праўда ж, Міхась, сямнаццаць гадоў хлопцу, куды яго ў Полацк...

— А табе колькі было?

— Ну, колькі было — усе мае...

— Дык і ўсё. Не прасі. Няхай едзе. Тут папсуецца ў сваім «Піянеры Беларусі», з Ленамі ды Анечкамі.

— А што, праўда ці што — у самім ЦК Вальку ўзгаднялі?

— Ды якое ЦК, кінься. То я так, каб словаў менш было. Звонак просіцца: дайце каго мне ў памагатыя. Вальку, кажа, дайце, няхай троху Полацк ускалыхне. Вось і ўсё табе ЦК. Не пра тое хацеў я з табой, Шурка.

— Ну, давай, кажы. І Зарэцкі кажа.

— Такія справы, Шурка, што мы зараз зусім засталіся з голым азадкам на «Маладняку». Ну, вершы хіба так-сяк пішуцца, ты, Александровіч, во Валька, шчэ хто з маладых, гэтага дабра хапае. З прозы хто? Я? Каваль шчэ хіба. А з крытыкай, Шурка, дрэнна зусім. Бабарэка, Дубоўка, Пушча, Чорны — во хто нашы крытыкі маладнякоўскія былі. Нікога цяпер няма. Зараз часопіс рабіць — што паставім? Тут не тое што тэкстаў, тут людзей няма, якія хаць бы два словы маглі скласці ў рад, каб на крытыку падобна было. А нам такое зараз гвалт як патрэбна, бо пабачыш — будзе наступ. Тое, што яны казалі пра «Маладняк» тады на сходзе, яно ж нікуды не сышло, яно ж кіпіць унутры, патрабуе выхаду, дый трэба будзе ім неяк сваё згуртаванне выводзіць, тлумачыць, адасабляцца, бо як жа ж — адышлі, значыцца, нязгодныя, значыцца, там дрэнна, а тут добра. Чым адкажам? У лістападаўскі «Маладняк» трэба добрая, грунтоўная крытыка, і не абы-каго, Шурка. Трэба паказаць, што мы ёсць, што мы моцныя, што ў нас ёсць зубы.

— Ну я, здаецца, разумею, пра што гаворка, Міхась. Добра разумею нават.

— Так, аб гэтае. Абодва маўчаць.

— Я так не магу. Седзячы вырашаць. Пайду прайдуся, — Дудар з грукатам адкідвае стул, ускоквае на ногі.

— Ну дык канешне. Ідзі прайдзіся, — Зарэцкі з гатоўнасцю ківае галавой.

— Дык то ж... — пачынае Дудар.

Зарэцкі, не даслухаўшы, але зразумеўшы, зноў моўчкі і з гатоўнасцю ківае.

Больш за ўсё цэніць Дудар вось такія хвіліны з Зарэцкім — калі словаў не трэба і языком мянціць няма чаго.

Ён выходзіць з будыніны на вуліцу і некалькі імгненняў стаіць у разгубленасці, заклаўшы рукі ў кішэні. Нарэшце вырашае: направа. Рэвалюцыйная, яшчэ сырая і шэрая пасля ўчарашняга дажджу, збягае ўніз паўз кляштарныя муры да мокрай, няўтульнай плошчы. Яшчэ раз направа, уверх па Леніна, пакідаючы злева белую, манкую «Еўропу», і направа — па Савецкай, дзе гамоніць службовы Менск, з'едліва звягае конка, перабягаюць вуліцу суровыя мужчыны ў галіфэ са скуранымі партфелямі ў руках, і зноў направа — на Камсамольскую, дзе глядзіць на яго, прымружыўшы вокны, Дом камсамола КІМ.

Унутры ўздымаецца нейкае радаснае і трывожнае хваляванне, як калісь у Казлове, калі ў вулічнай бойцы з Васькам Корныхам ён раптам зразумеў, што сёння перамога будзе не Васькава. У руках тады адчуваліся нібыта спружыны, кулакі наліваліся свінцовай моцай, ногі магніціліся да зямлі і кожны рух рабіўся такім дакладным, што замест злосці, крыўды ці абурэння адчувалася адна толькі асалода ад таго, што адбывалася бойка, і не абы з кім, а з непераможным Корныхам. Цікава, дзе ён зараз, той Корных, адчайная галава. Мо і нежывы ўжо дзе.

«Не магу і не здамся, не магу і не здамся, не магу і не здамся...» — гэтыя словы неадвязна круцяцца ў галаве, прыпадаючы націскам на крок. «Не магу і не здамся... Будзе сонца са мною...» — ён ідзе мерна, павольна, шырока, каб не збіць гэты анапест надта шпаркай хадой. «Заімжыць пазалотай легкакрылая песня... не магу і не здамся... будзе сонца са мною...» — падымаецца ў сэрцы жаданне бойкі, бо ўпэўнены ў сабе, як ніколі, не той дурной маладой упэўненасцю, якая нараджаецца ў няведанні і безадказнасці, а нейкай новай, бо чуе спружыны мускулаў, моц кулакоў. Не магу і не здамся. І будзе жыццё туліцца да мяне, як Наташа ўчора тулілася, пераможаная, паслухмяная, забыўшыся на пыху сваю і на крыўду.

«І не будзе самотна, і не будзе мне цесна... І не будзе самотна, і не будзе мне цесна...» Радкі выцясняюць абрыўкі думак і ўспамінаў, і верш апаноўвае яго наўсцяж. Каторы раз ужо праплывае праваруч элегантная «Еўропа», каторы раз дзілінькае над вухам конка, а ён усё наматвае кругі, не заўважаючы ўжо наваколля:

І праз вецер заходні, і праз вецер і слоту
Пахне днём і вясною.
Не магу і не здамся… Будзе ў песнях яснота,
Будзе сонца са мною.
Заімжыць пазалотай лёгкакрылая песня
І не будзе самотна, і не будзе мне цесна —
Пахне днём і вясною.

І калі нарэшце крыху адпускае ўнутры гэтая нечаканая, але знаёмая напруга, выплеснуўшыся ў страфу, ён паварочвае на Рэвалюцыйную да Інбелкульта, падымаецца на другі паверх і, не здымаючы паліто, садзіцца за стол, моўчкі дастае аловак і пачынае нізаць акуратныя літары на роўныя радкі.

Дудар не заўважае нават, што на падаконніку ў маладнякоўскім пакойчыку сядзіць ужо Вольны, і яны з Зарэцкім з цікавасцю і ўсмешкай глядзяць на яго, і што Толька паслухмяна чакае, вядома, каб гэты даўганогі запісаў тое, што выхадзіў, але як толькі ён падыме галаву – эх, лупануць бы яго амаль народжаным жартам!

– Дык ты што, Шурка… Паслалі па гаршкі, а прыехаў з парасём… Ты пра што хадзіў думаць? Мы як дамаўляліся? – спыніўшы Вольнага рухам рукі, пытаецца сурова Зарэцкі.

Дудар шырока ўсміхаецца і міргае ў адказ.

– Толька, здарова, – цягне ён праз стол руку Вольнаму.

– Здарова-здарова, таварыш Бялінскі.

– Бялінскія ў нас усе цяпер на ўзвышшах, Толька. Мы ж людзі простыя, мы ў глыбінях. Куды нам...

– Дык цябе як цяпер нам зваць? Там на ўзвышшах Бялінскія, а ў нас будзе – Глыбіньскі?

– Ну чаму ж Глыбіньскі… Глыбіньскі – то ў Варшаве, пэўна, будзе. У нас яшчэ прасцей. Няхай Глыбоцкі.

Вольны крыху паварочвае галаву, нібыта скрыпач, які слухае камертон.

– Глыбоцкі… Крытыка Глыбоцкага… Глыбоцкі лічыць… Глыбоцкі заўважыў… Ну… Здаецца, гучыць!

– Нейкае зыбучае… плаўкае… – адмоўна качае галавой Зарэцкі. – Цвёрдасці замала.

– Дык імя дадамо, цвёрдага, – адкідваецца на спінку крэсла Дудар. – Будзе – Тодар. Моцна?

– Тодар – моцна.

– Тодар Глыбоцкі. А?

– Пойдзе. Дык ты што, не толькі вершыкі можаш, а, брат? Не дарэмна, значыцца, ходнікі на Савецкай ботамі шморгаў? Ат, які

залаты працаўнік, сказаў — зрабіў, і крытыка «Маладняку» здабыў, і шчэ наверх верш склаў!

Дудар шчасліва смяецца.

## ГОРАД. СВІСЛАЧ

Было, Купала гукаў: на рыбалку. «Як Дудара пабачыце з Мараковым, то перадайце, няхай зараз збіраюцца і сюды — едам!» Сыходзіліся тады ўсе: і Александровіч, і Чарот, і Лужанін, і Дудар з Мараковым, натуральна. Бралі рамізнікаў, ехалі на ўскраіну, да апошніх дамкоў Татарскай слабады, далей доўга ішлі берагам — да самай Банцараўшчыны. Спыняліся ў хваёвым ляску, што прыткнуўся ля самай ракі. «А нам дзядзька Азбукін казаў, што людзі тут жылі ўжо паўтары тысячы гадоў таму! Тут во, акурат дзе мы стаім, на гэтым самым месцы! Тут як пакапацца, і вёску, пэўна, можна знайсці!» — натхнёна прамаўляе Валька. «Вёску, Валька, у нас паўсюль можна знайсці, нават капацца не трэба», — пасмейваецца Александровіч. «А ну, — ласкава спыняе Александровіча Купала, — ты нам, Валеры, раскажы пра Азбукіна. Што за вёска?» — і Валька чырванее, махае рукой і абяцае дакладаць па пытанні Банцараўшчыны наступным разам. Свіслач тут ціхая, шэрая, занятая сабой, да яе берага не падабрацца — гразка. А ў бары, крыху вышэй, утульна, водарыць смалой, прэлай ігліцай і грыбамі. Покуль туды-сюды — ужо і прыцемак. Насеклі лапак, паклалі высачэзны і шырокі насціл, нацягалі дроваў, запалілі вогнішча. Паразматвалі вузельчыкі: сала, цыбуля, хлеб, сухая і цвёрдая, чорная ажно каўбаса. Лошыцкае віно, здаецца, агрэст, у Купалы — беленькая. Расклалі вогнішча, паселі: хто на лапкі, хто на бярвенне — каму як зручна. Побач з дзядзькам Янкам звычайна гутарка ідзе крыху цішэй, чым, прыкладам, у «Маладняку», і жартуюць неяк больш прыстойна, і кпяць адзін з аднаго дабрэй. А тут, сярод хвояў, чамусьці зусім сціхаюць. Гарэлку выпілі адразу і зараз пакрысе пацягваюць віно смакуючы — надта ўдалае, мяккае, саладкаватае. Сядзяць моўчкі, толькі Купала з Чаротам нешта ціха абмяркоўваюць. Пайшоў хадзіць між хвоямі Дудар, падкідваючы нагой ігліцу. Спусціўся да Свіслачы, прыхапіўшы з сабой шклянку з лошыцкім, Маракоў і там прымасціўся на каранях высачэзнай вярбы. Лужанін з Александровічам адкінуліся на насціле, раскінуўшы рукі, глядзяць у высокае зорнае неба. Вуды забыліся ў горадзе, дый не надта клапаціліся пра тыя вуды. Ціха-ціха плёхае шэрай хваляй у грузкія берагі Свіслач, дыхае вільгаццю і холадам.

Гэтае яе дыханне адчуваецца на вуліцы Гарбарнай, у даўгім, на дванаццаць акон, драўляным доме пад нумарам васямнаццаць, што стаіць на моцным падмурку недалёка ад ракі. Жанчыны з васямнаццатага дома ходзяць мыць бялізну ў Свіслач да самай зімы і вяртаюцца ў хаты, шморгаючы насамі, з чырвонымі рукамі і белымі ад холаду шчокамі, але ад бялізны ідзе такі свежы ледзяны водар, што, адагрэўшыся ля печак, яны пачуваюцца усё ж задаволенымі. Тая бялізна ўжо развешана на гарышчы пад высокім дахам, і свіслацкая вільгаць стаіць тут ледзь заўважным, мяккім туманам. У Ані і Адама Бабарэкаў тут утульная, цёплая, бо ўсярэдзіне кватэра на тры пакоі. Адам ва ўніверсітэце, а Аня завіхаецца ў хаце. Сёння дарагія госці: едзе Уладзік Дубоўка з Масквы, збяруцца хлопцы — Кандрат, Кузьма, Язэп будзе са Стасяй, Глебка. Адам загадаў сцяліць белы абрус — хоча, каб было свята. Уладзік прыязджае вечаровым паштовым з Масквы — і адразу сюды, на Гарбарную, ягонай маскоўскай хадой гэта дзесяць хвілін, і яго трэба накарміць. Адам адмыслова бегаў учора на рынак па сушаныя баравікі для Уладзіка — надта ж паважае Дубоўка гэты грыб! І як не паважаць: мажныя, ганарлівыя, з шакаладнымі шапачкамі на тоўстых, пругкіх ножках. Калі пайсці па беразе Свіслачы, пераадольваючы багністыя лагчынкі, сыпучыя стромы і перапляценні таўшчэзных каранёў, выйдзеш да светлых хваёвых бароў за Пярэспай, дзе ў раўчуках гурбачкамі растуць якраз такія.

Вільгаццю і холадам цягне ад Свіслачы і прадзімае двары на Гандлёвай, двары, азяблыя і ўлетку, бо ніколі не прасыхаюць муры тутэйшых камяніц, а з гліны, якая ліпне да галёшаў, ніколі не знікае вада. Свераноўскія жывуць у невялікай камянічцы, якая нясмела падступаецца амаль да самай вады, і ўвосень тут надта халодна: Рэня хутаецца ў шарсцяны плед, у яе халодныя-халодныя рукі. Як нікога са старэйшых Свераноўскіх няма дома, можна сесці з ёю зусім побач — і грэць тонкія пальчыкі ў сваіх руках. Кузьма прыходзіць сюды не часта — звычайна невялічкая кватэрка на Гандлёва-Набярэжнай бітма забітая людзьмі, і яны з Рэняй-Рыўкай сустракаюцца ў горадзе, ідуць у кіно ці гуляюць па беразе Свіслачы да Гарадскога саду, але, калі атрымліваецца, Кузьма дужа любіць сядзець у гэтым чысценькім пакойчыку, у якім ля акна стаіць старое піяніна з парцалянавай пастушкай на крышцы і стосам старых нот. «Кузёмка, мо пойдзем куды?» — пытаецца ціха Рэня. «Пасядзім», — ціха адказвае Кузьма. Яму падаецца, што толькі тут, ля Рэні, ля акна, што глядзіць на шэрую раку, пад ганарлівым і насмешлівым позіркам гэтай пастушкі — чаму? — ён становіцца сабой, ціхім, павольным, нібыта зачараваным хлопцам, які можа ўтаропіцца ў адну кропку

і праседзець так некалькі гадзін. Рэня дазваляе і ціха-ціха сядзіць побач, таксама глядзіць некуды і не адымае пальцаў. Яна зусім іншая, як манкая і сапсаваная Іда, іншая, як гарачая, дзе ні крані — узвіецца ці то каханнем, ці то крыўдай, — Люба. Рыўка зусім іншая, ціхая і спакойная, як цімкавіцкае неба, як восеньская Свіслач, як гэты пакой. На акне — чысценькія белыя фіранкі, на стале — вязаная сурвэта. Такія — толькі яшчэ прыгажэйшыя — ткала ягоная мама, Гліцэра Парыбкава, найлепшая ткалля-сурвэтніца ў цімкавіцкім наваколлі. Сёння ён — а як жа не хочацца! — павінен сыходзіць раней: у Адама будуць усе хлопцы, едзе Уладзік, з лета першы раз, калі сур'ёзна, у поўным складзе збіраецца «Узвышша».

Кузьма выходзіць са двара, кідае погляд на белыя фіранкі ў любым акне. Колькі крокаў па рудой гліне Гандлёвай вуліцы — і наверх, па Пралетарскай, да Адама на Гарбарную, зноў да Свіслачы, якая ціха-ціха плыве адтуль, адкуль ён прыйшоў, і пракладае свой шлях да васямнаццатага дома па Гарбарнай у абход, агінаючы горку. Ён думае пра хлопцаў, пра Глебку, якога хутка ўбачыць, пра Паўлюка, якога не бачыў ужо некалькі тыдняў і з якім раптам апынуўся па розныя бакі барыкад, пра свайго дзеда Фэльку, зацятага каталіка, і свайго ж дзеда Міхася, ваяўнічага праваслаўнага, якія пад старасць жылі ўжо на адной печы іх дома і кожныя Каляды ваявалі на той печы за дванаццатую страву на стале. Думае Кузьма пра тое, дзе праходзяць разоры па чалавечых лёсах, па простым, паўсядзённым жыцці, якое раптам становіцца няўтульным і халодным, і што без барыкад чамусьці не бывае жыцця і не бывае лёсаў, хіба там, ля пастушкі, ля Рэні, ля стала, накрытага белай сурвэтай.

А на тым беразе Свіслачы, спадзістым і грузкім, крыху вышэй, у халодным пакоі камяніцы на Старажоўскай, за пісьмовым сталом сядзіць, скурчыўшыся над паперамі, немалады ўжо чалавек. Ён нічога не піша. Ён цяжка паклаў рукі на паперы, шырока расставіўшы локці, амаль лёг грудзьмі на паверхню, апусціў галаву. Не становіцца лягчэй. Не становіцца. Цяжка было ў Есентуках, цяжка ў цягніку, цяжка ў Менску. Жыццё здаецца прамарнаваным, сэрца — высмактаным. Колькі імпэту было. Як заходзіў з гарачага, сонцам апаленага праспекта ў зялёную прахалоду Белпедтэхнікума, як спынялі дзяўчаты і хлопцы, пыталіся, спрачаліся пра ўчорашні ўрок, уваходзіў у клас, сядаў за стол і глядзеў у гэтыя вочы, шэрыя, сінія, чорныя, вясёлыя і сумныя, цікаўныя і летуценныя, але заўсёды прыязныя, вочы, якія свяціліся любоўю і павагай. Дзе зараз тыя вочы? Далі народнага. Ён спадзяваўся, што стане лягчэй. Але не становіцца. А можа, гэта толькі сёння так падаецца, бо вільгаццю і холадам дыхае Свіслач. Пайшоў быў да Купалы, але той з'ехаў на рыбалку,

набраўшы, як заўсёды, мех маладзёнаў з сабой і забыўшыся на вуды. «Заўтра будзе ехаць з рыбалкі, заедзе на рынак, прывязе тады ўжо рыбы мой рыбак», – пасмейваецца Уладзя. Хіба тое смешна?

Колас цяжка ўстае. Некалькі хвілін разгублена стаіць пасярод пакоя. Дома ціха, нікога няма. Уратавальная адзінота. Падыходзіць да шафы і дастае скрыпку.

Ціха. З акна цягне вільготным холадам. Ён прыціскае да падбароддзя інструмент, некалькі разоў асцярожна кранае струны смычком. Слухае, ці ідзе гук. Гук ідзе. І тады ён павольна, з пачуццём, цягне па струнах паслухмяны смычок і пачынае напаўголасу, разам за скрыпкай, напяваць трапар:

Колеснице гонителя фараоня погрузи
чудотворяй иногда…

Ужо амаль цёмна, у пакоі трапечацца святло газнічкі, цішыня становіцца густой і цягучай, і ў ёй нават нібыта след застаецца ад самотнага, але паступова мацнеючага спеву:

Моисейский жезл, крестообразно поразив
и разделив море,
Израиля же беглеца, пешеходца спасе,
песнь Богови воспевающа.

У суседнім пакоі чуваць крокі. Мо падалося? Азіраецца. Дзверы ў ягоны кабінет расчыненыя. На парозе, застыўшы ў немым здзіўленні, стаіць Уладзік Дубоўка, а з ім невядомы малады хлапец.

– Дзядзька Якуб... – пачынае Дубоўка, і ў яго раптам перахоплівае голас. Вочы набрыняюць нечаканай вільгаццю.

– Хлопчыкі, – раптам бездапаможна кажа Колас. – Вы ж толькі нікому... Нікому, добра?

Дубоўка хутка-хутка матляе галавой. Маладзён побач з ім таксама разгублены.

– Я толькі з цягніка, Канстанцін Міхайлавіч. Ішоў з прапановаю да вас, але бачу, не ў час. Даруйце мне. Гэта Мікола Равенскі, ён кампазітар...

Колас паціскае руку Равенскаму, прыабдымае за плечы Дубоўку. Той, высачэзны, пад столь прысадзістай хаткі, па-дзіцячы разгублены.

– Мы пойдзем, Канстанцін Міхайлавіч. Ці можна заўтра зайсці?

– Заходзь, Валодзя. І вы, калі справы ёсць, заходзьце, – стомлена ківае Равенскаму Колас.

Дубоўка з Равенскім ціха выходзяць і моўчкі шыбуюць цераз масток на той бераг Свіслачы, каб зрэзаць шлях і вузкімі сцежкамі выскачыць на Гарбарную, дзе ў васямнаццатым доме даўно чака-

юць ужо хлопцы, і на стале пасцелены белы абрус, і Аня то дастане з печы мачанку, то паставіць назад у чаканні Уладзіка, а Бабарэка, падміргваючы Глебку, цішком адшчыпвае з-пад сподка кавалачкі ад тоўстых бліноў.

Свіслач плыве, дыхае вільготна — паўз Татарскую слабаду, міма Купалавага дамка, міма Коласавай хаты, пад акенцам Свераноўскіх, паўз Ляхаўку — і мінае Лошыцу, і ціхенька мкне праз лясы, несучы з сабой ў дальнія палі цішыню і спакой таго тысячагадовага прытулку, дзе на высокім насціле, укрыўшыся хто чым, спяць ужо хлопцы, якія нарэшце ўгаварылі ўвесь лошыцкі агрэст, і толькі адзін з іх, маўклівы, самотны, з тонкімі рысамі прыгожага твару, здаецца, старэйшы за астатніх — у цемры тое не надта бачна — і толькі ён адзін сядзіць ля вогнішча і нешта шэпча сабе, і раз-пораз уважліва прыслухоўваецца да гэтага, падобнага на песню шэпту.

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Мне, здаецца, было ўжо зусім няблага: унутры мяне свет набыў нарэшце надзейны грунт і выразныя абрысы.

Мне было цяжка прызнавацца самой сабе ва ўсім гэтым, але калі я адрынула розныя забабоны і дзіцячыя ўяўленні пра каханне і адносіны мужчын і жанчын і нарэшце сфармулявала для сябе свае пачуцці і планы на жыццё, то ўздыхнула з палёгкай. Мне стала зразумела: я не змагу разлюбіць Дудара. Выходзіла так, што толькі думкі пра яго, успаміны пра яго, клопат пра яго, вось такі, недатыкальны, пусты, уяўны, але ж менавіта клопат і менавіта пра яго, паўсядзённыя думкі пра тое, каб усё ў яго было добра, складалі тую частку майго ўнутранага жыцця, якая давала сілы на ўсё астатняе. Я змірылася з тым, што ён не мой, я нават перастала пакутаваць, калі атрымлівала Наташыны лісты, наадварот, яны былі мне цікавыя, бо расказвалі пра яго. Два словы, тры, не болей, але пра яго. Наташына жыццё, яе трывогі і пытанні таксама сталі мне цікавымі, бо гэта былі тыя ж пытанні, якія разам з ёй вырашаў Дудар. Я ўяўляла, што жыву ягоным жыццём, ведаю тое, што ведае ён, хвалююся аб тым, аб чым хвалюецца ён. Хутка я навучылася нават спрачацца з ім, асабліва калі распачалася кампанія супраць узвышаўцаў і Дудар пачаў выступаць як Тодар Глыбоцкі. Тое, што Тодар Глыбоцкі — гэта ён, я зразумела з першага сказа: так шчыра расперазацца мог толькі Дудар з ягонай дзіцячай непасрэднасцю і няўменнем думаць пра наступствы. Лазар, калі прыносіў менскія газеты, спачатку пасмейваўся, а потым злосна лаяўся, чытаючы артыкулы Глыбоцкага, я ж ціха радавалася: мы пра яго размаўляем.

— Ну ты паслухай, мянціць языком што на малатарні... І такі ж таленавіты, паганец, але ж як паварочвае... Ну я не ведаю, навошта ён робіць гэта, Наста, га? А мне толькі радасна, што Лазар у мяне пытаецца, навошта «гэта» Дудар. У Віцебску не адбывалася нічога. Гэта разумелася асабліва выразна, калі мы глядзелі газеты: Лазар — цалкам, я — толькі апошнюю старонку, дзе мільгалі культурныя навіны, маленькія квадрацікі «У „Маладняку“ і «У Інбелкульце», афішы кіно і дзе часам друкавалі абвесткі пра тое, хто і які дакумент згубіў. Чамусьці мне падабалася чытаць гэтыя бясконцыя спісы — быццам хадзіць па менскіх вуліцах, дыхаць вільготным паветрам і бачыць вакол сябе занятых і заклапочаных людзей. У Менску ішлі прэм'еры, збіраліся сходы, ставіліся спектаклі, уздымаліся крытычныя буры, ствараліся і распадаліся літаратурныя групоўкі . У Віцебску не адбывалася нічога. Нават беларусізацыі — натхнення і абурэння, спрэчак і сварак, усяго гэтага жывога жыцця — тут не было. Былі маленькія паўсядзённыя гутарачкі, сварачкі, пытаннечкі, увечары мы з Лазарам абавязкова гулялі па беразе Дзвіны, а ў нядзелю хадзілі на рынак. «Настачка, ды і Менск гэтак жыве», — пасмейваўся Лазар, а я ўсё чытала апошнюю старонку і ўяўляла сябе ў Менску. Успаміналa клуб КІМ, халодны, цёмны, але сагрэты дыханнем юнакоў і юначак, і над шэрым полем старых шынеляў, кажушкоў, палітонаў — апраналіся хто як! — чырвонымі макавымі галоўкамі хустачкі камсамолак. Успаміналa сквер за тэатрам і фантан з хлопчыкам, і жабак — Каратай хлябтаў ваду з іх раскрытых вуснаў і казаў потым, што зараз усе жабкі павінны пераўтварыцца ў прынцэс, бо ён іх пацалаваў. І «Бельгію» ўспаміналa.

У лістападзе Лазар паехаў на Акадэмічную канферэнцыю ў Менск. Ён быў дэлегатам ад «Маладняка»: тады здарыўся нейкі скандал з запрашэннямі, менскія філійцы і частка кіраўніцтва, з імі і Дудар (здаецца, ён быў завадатарам гэтай гісторыі), адмовіліся ад удзелу, бо арганізатары своечасова не забяспечылі ЦБ запрашальнымі білетамі, і Лазар паехаў з міратворчай місіяй — яго выклікалі ледзь не тэлеграмай. Водблескі менскіх навальніц у нашым віцебскім пакойчыку хвалявалі маё сэрца, напэўна, болей, чым яны хвалявалі сэрца Дудара — ён у такой калатнечы заўсёды пачуваўся як найлепш. Лазар таксама любіў такія падзеі — неяк падбіраўся, станавіўся асабліва арганізаваным, падцягнутым і бадзёрым. Я засталася адна. Снегу ўсё не было, бясконцыя лістападаўскія дажджы скончыліся, золата дрэваў пакрысе атрасалася, але ціха, павольна, не так, як заўсёды. Цяпер я гуляла адна, і гэта было добра.

Лазар вярнуўся праз тыдзень, усхваляваны, натхнёны. Расказваў пра канферэнцыю, пра даклады, пра гасцей, пра пражскага студэнта Жылку, які піша добрыя вершы і рэдагуе ў Празе беларускі часопіс, пра Ластоўскага, які прыехаў з Коўна і якога Лазар, ягоны гарачы прыхільнік, бачыў упершыню, зачытваў свае запісы, разбіраў і перапісваў на асобныя аркушы

законспектаванае, шкадаваў, што не мог быць на кожнай секцыі і пачуць усе спрэчкі. Зачыніўшы дзверы, распавядаў, што на адкрыцці канферэнцыі вывесілі бела-чырвона-белы сцяг, а чырвоных сцягоў не было, што ніводнага разу не ўзгадалі Леніна і Сталіна, што зусім не казалі пра камуністычную партыю, дый наогул — што вынеслі і прытулілі ў калідоры ў цёмны кут бюст Леніна. «Чаму вынеслі Леніна?» — здзівілася я і нават пакрыўдзілася. «Ну а якое дачыненне ён мае да Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу?» — адказаў пытаннем Лазар, і я разгубілася.

Напэўна, гэта і быў той момант, калі я ўпершыню адчула, што ўсё гэта неяк падзяляецца, расшчапляецца на два сусветы: рэвалюцыя і Беларусь. Ніколі мы не задумваліся пра гэта ў Белпедтэхнікуме, бо ўсё гэта ішло разам, у адной натхняльнай спружыне, было надзейна знітавана і пераплецена: Ленін, рэвалюцыя, перамога, мір, воля, краіна, радзіма. Яно супала: нашае юнацтва, жаданне пераменаў, прага «людзьмі звацца» перад добра апранутымі багатымі дзяўчатамі і хлопчыкамі, раптоўнае прызнанне мовы, якую раней на ўроках нам бязлітасна выпраўлялі настаўнікі, патрабуючы адказаў на рускай, а зараз мы самі рыхтаваліся выкладаць на мове сваёй… Лазар не надта ахвотна гутарыў са мной пра гэтыя два сусветы, якія раптоўна пачалі ўва мне разыходзіцца па розныя бакі, а я стала ўспамінаць тыя сакавіцкія дні, калі побач быў Дудар, і ягоныя словы, якія тады я прапускала міма вушэй, бо чакала і запаміналa зусім іншае. А зараз успомніла, як ён казаў: «Я шчэ ў Казлове зразумеў, што мы іншыя, як яны». І яшчэ: «Цяжка жыць сваім розумам, калі ты ім ніколі не жыў, і чалавеку цяжка, і зямлі. А чужы за цябе ніколі не пражыве, будзе на сябе цягнуць». І яшчэ: «Я не ведаю, як гэта, Наста, але я зямлю гэтую нібыта як дзяўчыну люблю». І яшчэ казаў: «Мы скончымся, Наста, а яна застанецца».

Тут, у нерухомым і павольным Віцебску, у баку ад грамадскага жыцця, з адной толькі апошняй старонкай «Савецкай Беларусі», у пакойчыку з вокнамі на Дзвіну, у мамінай хаце, на маміным двары, у Рыўкі, усё было так, як заўсёды, як з нараджэння, як даўней, так — і не так, лепш, вядома ж, але зараз чамусьці гэта стала падавацца проста натуральнай хадой рэчаў, а не палітычным зломам. Як гэта патлумачыць? Мы елі, пілі, чыталі, кладліся спаць, як людзі і дваццаць год таму, пры цары, і сто гадоў таму, і тысячу. Я любіла іншага — зусім як Таццяна ў Пушкіна. «Но я другому отдана…» «А счастье было так возможно…» Жыццё аказвалася іншым — больш простым, адвечным. Што трэба чалавеку? Мне? Ён, ягоныя абдымкі. Я стала думаць пра дзіця, але каб нарадзіць яго ў каханні. Усё, што мне балела і што шчымела ціхай радасцю, гэтаксама балела і шчымела кожнай дзяўчыне ўсе мільёны гадоў, колькі жылі людзі. Так думалася мне ў тым лістападзе. А ў снежні нарэшце наляцеў халодны вецер, дрэвы раптоўна, за адну ноч, згалелі, і лёг глыбокі снег.

# ЛІСТЫ І ДАКЛАДЫ

Дарагія таварышы!

Шлём вам усім па самым нізкім паклоне і жадаем вам жыць «многія лета»...

Па-першае, сьпяшаемся сказаць, што Маракоў ужо не гаворыць «загіну», а кажа «будзем жыць да самай смерці, а там х... памрэм». Гэта адзін плюс. Прыстроіўся Маракоў падхадзяшча, дзякуючы добраму нaціску па ўсіх інстанцыях. Канечне не абышлося без змагяньня з Карандзейчыкам, які хацеў падставіць нагу, як і заўсёды, і я (Звонак, як бачым) і Маракоў пабегалі ў Акругком і назад і г. д. Цяпер покуль што Маракоў выкладае ў вячэрняй школе і з 15 лістапада будзе працаваць у газеце. Не абышлося без таго каб мы не сапсавалі па кілёграму крыві. Жмуд Карандзей, маць яго прабабушку, усімі сіламі стараўся, каб не прыняць Маракова, але Баль даў яму добрую бучу і прагнаў з кабінету — сьмеху было на сто проц., разам з гэтым уляцела і Сямашку, які покуль што заняў падлізьніцкую пазіцыю, але ну іх к чорту. «Мы жылі, жывём і будзем жыць», як сказаў найперапаважаны тав. Дудар.

Жывём у адной хаце калектывам цэлым, «стойлам Пегаса», сьпяваем песьні і пасылаем усіх русацяпаў к е... м... Рыхтуемся да вечара, рыхтуем літаратурны дадатак да газэты і г. д. Пішам вершы. Між іншым у абодвух самы лепшы настрой і Маракоў ня каецца, што паехаў у град Полацак, думае жаніцца разам са мной на ўмовах агульнага карыстаньня, чаго і вам жадаем. Шукаем кватэры з добрымі дзяўчатамі і «да паможа нам Божа». Спім на адным дзіване і пад галаву кладзем маладнякоўскую кніжыцу, дабы «і ныне, і прысно памятаць аб вас». Ніяк не можам забыцца на «прелести» Туміловіча і нявіннасць Бобрыка. Маракоў скора заробіць аліменты і «да паможа яму божа» і Звонак. «Воскрешению» Звонака з мёртвых, г. зн. з Менску былі б надзвычайна рады, як Маракоў и прыбліжаныя, так и сам Звонак (я, значыць), які застаў яго ў становішчы сьлёзным і разьбітымі, яко гаршкі, надзеямі. Піць і ня думаем... і ня мысьлім... ні-ні... Захоўваем у гэтых адносінах чыстату і нявіннасць, чаго і вам усім жадаем, асабліва Туміловічу, Бобрыку і раданачальніку Дудару.

Пакуль што бывайце і не забывайце велікамучанікаў і ізгнаннікаў:

Валерыя Маракова
і Алеся Звонака.

10/11—26 г. Горад Полацак.

* * *

*Секретно*

В политической жизни Белоруссии резко бросается в глаза непомерно большая роль так называемых культурных сил — академики, поэты, филологи и прочие деятели белорусской культуры. Характерно, что в происходившей в недавное время (1926—27 гг.) внутри партии групповой борьбе отдельные групы пытались заручиться, в целях укрепления своего авторитета, поддержкой подобных деятелей. Выходило так, что настоящими руководителями в Советской Белорусии могли быть лишь те, кого признают настоящие стопроцентные белорусы (в значительной части бывшие эмигранты и деятели антисоветских мелкобуржуазных правительств).

В настоящее время значение этих корифеев науки и искусства несколько упало, однако и до сих пор носятся с ними больше, чем надо, преувеличивая их значение и сами создавая им популярность. До какой степени доходило стремление потрафить вкусам «отцов белорусской культуры» — достаточно указать на случай с академической конференцией по белорусскому правописанию в ноябре 1926 года.

Конференция имела огромное политическое значение — были приглашены ученые Западной Белоруссии, а также представители других стран — Польши, Латвии и т. д. (случайно забыли лишь пригласить Академию Наук СССР). Зал заседаний был декорирован в день открытия национальными цветами (белый-красный-белый), флаг СССР отсутствовал, а портрет Ленина даже сняли, чтобы не мешать академической работе. Наркомпрос тов. Балицкий произнес речь, в которой ни разу не упомянул о роли компартии в создании БССР и развитии белорусской культуры, объясняя это впоследствии тем, что с собравшимися буржуазными профессорами не стоит на такие темы разговаривать. В тон наркому президент Института белорусской культуры тов. Игнатовский вспомнил лозунг поэта Богушевича (начало XIX века): «не покидайте нашего белорусского языка, иначе погибнете» и по сему вопросу продолжил: «работая над родным языком и только на родном языке, белорусские поэты разбудили великое национальное белорусское движение, которое привело к организации белорусской государственности и сегодняшней академической конференции».

*Доклад Комисии ЦКК ВКП(б) под руководством В.П. Затонского, раздел «Наблюдения и замечания из области национальной идеологии».*

# ГОРАД. ГАСЦІНІЦА «ЕЎРОПА»

Гэта цяпер яны заходзяць сюды гаспадарамі: парцье падхопліваецца з месца і бяжыць прымаць паліто, з залы выглядаюць афіцыянткі з радаснымі ўсмешкамі, адміністратар подбегам праз усю залу бяжыць да ўвахода на балкончык — ці вольны іхні столік? Тое, што сёння нехта атрымаў ганарар, бачна праз шкляныя дзверы яшчэ з вуліцы: паэты рушаць шумнай грамадой, сярод цёмных палітонаў святлеюць кажушкі і капялюшыкі дзяўчат. Будзе гулянка, а гуляюць паэты з ганарараў шырока!

А калісь Шурка з Толькам імчалі сюды пасля ўрокаў і прагульваліся ля ўвахода ў чаканні, пакуль адвернецца куды тоўсты важны швейцар, тады як найхутчэй трэба шаснуць у шкляныя дзверы і імчаць да ліфта: ускочыць, імгненна націснуць на кнопку шостага паверха і, стойваючы дыханне (толькі і чуваць, як грукоча сэрца), чакаць, покуль зачыняюцца аўтаматычныя дзверы і пад нагамі задрыжыць падлога. Едзеш уверх, а ў жываце нешта адрываецца і падае ўніз, а потым — у-у-у-у-у-і-і-і-і-і! — адразу падкатвае пад горла. Душыць смех, калоціцца сэрца, блішчаць люстры на сценах кабіны, нябачаным дзівам мільгаюць пад столлю маленькія электрычныя лямпачкі, і нарэшце немагчыма стрымлівацца — і яны рагочуць уголас, такія малыя яны і мурзатыя, але пераможныя ў гэтым высачэзным люстры. На гэты смех бяжыць ужо ўнізе швейцар, каб паставіць нагу паміж дзвярыма, сунуць руку ў блішчастую кабіну і выцягнуць за шкіркі на божы свет двух падшыванцаў у чорнай форме з блакітным кантам — то, значыцца, з Фальковіча і Зубакіна, бо калі набягуць з чырвоным, дык то з мужчынскай гімназіі. Няма рады з гэтымі гімназістамі, далібог, але ён усё роўна пасміхаецца ў вусы, як бачыць: яны нясуцца на ўвесь дух праз пляц, каб знікнуць у лабірынтах Верхняга горада. Форму паапраналі, а карысці?

Бацька калісь хадзіў сюды, у «Еўропу», у бібліятэку Фрумкіна і прыносіў Шурку кніжкі, а потым сюды стаў хадзіць ён сам. Бібліятэкі ўжо не было, але ў букіністычным аддзеле вялікай кнігарні, якую адкрылі ў «Еўропе», можна было сустрэць кнігі са знаёмым штампам. Адсюль у яго Alfred de Musset, яшчэ нехта з французаў і немцаў. У кнігарні «Еўропы» яго добра ведалі і пакідалі з кожнага прывозу, які бываў у іх раз на месяц, маскоўскія цікавосткі. З ганарараў ён гуляў тут не менш шырока, чым увечары з хлопцамі на балкончыку гасцініцы. Той вузенькі ашклёны балкончык, які выходзіў на былую Губернатарскую, быў аддзелены ад агульнай залы цяжкімі тоўстымі парцьерамі з залатымі ламбрэкенамі. Стаялі тут вузкі, але даўгі і моцны дубовы стол, крэслы з высокімі спінкамі і невялікі столік з чыстымі попельніцамі

і келіхамі. Як паўсюль у «Еўропе», было электрычнае асвятленне ў гнуткіх бронзавых бра на сцяне. Гэтае ўбранне, праўда, крыху пашарпалася з тых часоў, калі яны бегалі сюды катацца ў ліфтах, а з рэстарана Саўлевіча (жыццё новае, Толька, а назвы старыя, старыя, прычапіліся да языка і не адліпнуць аніяк!) раз-пораз вывальваліся то занадта вясёлыя афіцэры, то дзяўчаты з густым туманам у вачах, то тоўстыя дзядзькі з засаленымі ўсмешкамі. Тады не было, а зараз было, што і лямпачкі не гарэлі ні адна, і тады дзяўчаты прыносілі на балкончык газнічку. Было, што і абрус быў у плямах, і абшэўкі ў афіцыянтак рудыя ад бруду, і шампанскае цёплае. Аднойчы, як уваходзілі ў дзверы, насустрач сыпанулі смяротна перапуджаныя пацукі. Дый ліфт цяпер гудзеў не кожны дзень, і ў кутах ягоных часцяком стаяла рудая смуродная лужына. Але балкончык быў балкончыкам, і парцьеры, пыльныя і цяжкія, надзейна закрывалі ад цікаўных.

Яны з Вольным сядзяць на балкончыку з абеду.

— Мне з мінулага нічога не шкада, Толька. Усё будзе ў нас таксама — прыгожае і смачнае. Шкада ліфта толькі. Такі быў ліфт. Нешта раней у ім не сцалі.

— Працоўны чалавек, Шурка. Непрывыкшы да культуры. Адкуль яму ведаць, што рабіць у ліфце? Адзін, дзверы зачыненыя, едзеш, прыемна. Ну як не пасцаць? На тое мы з табой ёсць — культуру яму даць. Патлумачыць пра ўборныя.

— М?

— Ну так, а што ты думаў, навошта ты ёсць як паэта? Дакладацца пра васількі? Ён і без цябе бачыць тыя васількі. Нашто ты яму ў пытанні васількоў. Ты яго навучы ў ліфце ездзіць. Я, брат, зараз пра кіно шмат думаю. Найважнейшае з мастацтваў! Праз два тыдні будзеш глядзець «Лясную быль» — от гэта сіла, Шурка!

— І дзе там пра ўборныя?

— Што ты чэпішся? Уборныя — гэта наступства агульнай культуры. Ясенін як сказаў?

— Я ругаюсь и буду упорно
Проклинать вас хоть тысячи лет,
Потому что хочу в уборную,
А уборных в России нет.

Ліфтаў пры цары панабудавалі, а сцаць дзе? Таму ёсць перагібы. Але разумееш, Шурка, якія маем зараз магчымасці вырашаць гэтае пытанне? Нават кіно!

Дудар смяецца і махае рукой.

— Не, Шурка, кіно — гэта... Гэта — я, не ведаю, як сказаць табе, што гэта. Вось верш — гэта толькі словы. Песня — словы і музыка. А кіно — гэта ўсё. І жэст, і позірк, і малюнак, і хвоі гамоняць — усё адразу.

— Такі кампот.

— Ну і кампот. Што ты крывішся, Шурка? Сам жа з кіно быў не вылазіў!

— Ды я думаю проста, што за ўсё мы, беларусы, хапаемся, а нічога добра да канца не робім. Што, у нас ужо тэатр добры, дык за кіно бярэмся? Ані тэхнікі, ані людзей, ані грошай, а туды ж. Зноў на Маскву паедзеце грошай і людзей прасіць? Дык што будзе то за кіно? Маскоўскае? І толькі напісана, што беларускае. Я не веру ў беларускае кіно, Толька. У амерыканскае веру, а ў беларускае покуль не. Што, у «Свінапасе» ці то ў «Лясной былі» беларусы іграюць? Жукаў, Краўчанка – нашы? У нас акцёраў не знайшлося, каб у кіно па Чаротавай аповесці сыграць?

— Затое там Чарвякоў і Кнорын іграюць, ніштo сабе акйёры.

— Во і праўда. Рукі на ўсе штукі. Няма іншых беларускіх акцёраў, як Кнорын і Чарвякоў.

— Ну дык, Шурка, і я ж пра тое. Каб кіно было нашым, дык трэба ж ісці ў яго! Рабіць яго беларускімі рукамі. Я пайду.

— Ідзі, вядома ж. Паглядзім шчэ, што за такое атрымалася ў вас кіно. На прэм'еру кантрамарку каб расстараўся.

— А то ж! За гэта і давай.

Яны куляюць чаркі і неадкладна наліваюць па новай.

З-за парцьеры з'яўляецца троху перапуджаны твар афіцыянткі. Яна нічога не кажа, але ж неяк напружана паглядае. З залы даносіцца гамана, парцьера дрыгаецца, паўзе – і на балкончык увальваецца кампанія.

Маладыя сёння гулялі за Тодзікаў ганарар – з паўгадзіны таму Кляшторны, разгублена ўсміхаючыся, стаяў на драўляным тратуары Савецкай, вецер гнаў калючую замець, лёгенькае паліто Кляшторнага, на якім не хапала гузікаў, збіралася, здаецца, неадкладна збегчы ад свайго гаспадара і ляцець па Савецкай уніз. Тодзік трымаў у руках мятыя пяцірублёўкі, нібыта не разумеючы, што з імі рабіць. Падумаўшы, палову ён сяк-так запіхаў у кішэню, а на другую палову якраз паспеў Глебка.

— Тодзік, ты што стаіш тут, як бяроза пры дарозе? – дзівіцца ён.

— Ды во... ганарар атрымаў... дык у кішэні цесна... – сумна пасміхаецца Кляшторны.

— Тае бяды, Тодзік! Толькі што бачыў на Камсамольскай Бобрыка з Якімовічам, у «Маладняку» Зіначка сядзела, зараз гукнем іх – і на балкончык!

Пачуўшы імя Зіны, Кляшторны раптам святлее тварам, але становіцца зусім разгубленым.

— Ну во, я ж кажу! — пабачыўшы тую змену, штурхае яго ў бок Камсамольскай Глебка.

Нібыта чакалі, аднекуль вырастаюць Бобрык з Якімовічам, а на пачатку вуліцы ўжо бялее тоненькая фігурка Зіны. Яе белыя кудзеркі, што выбіваюцца з-пад пуховай хусткі, ляцяць вакол усмешлівага тварыка снежнай замеццю.

— Зіна! — крычыць на ўсю Камсамольскую Глебка, і яна, пабачыўшы, паскарае крокі.

— Ой, хлопчыкі, а давайце шчэ па Жэню сходзім! Яна пакуль у «Маладняку», але збіралася сыходзіць! Там недзе і Каратай сноўдае па Рэвалюцыйнай, ці то ў рэдакцыю, ці то з яе, пойдзем пабачым!

Як заўсёды ў такія хвіліны, адразу знаходзяцца ўсе: і сур'ёзная Жэня, і няўрымслівы Каратай, на самым рагу Рэвалюцыйнай спыняюць Наташу Вішнеўскую. Грамада рушыць да «Еўропы», парцье падхопліваецца з месца і бяжыць прымаць паліто, з залы выглядаюць афіцыянткі з радаснымі ўсмешкамі, нехта неабазнаны подбегам праз усю залу бяжыць да ўвахода на балкончык — ці вольны іхні столік?

Цяпер яны ўсе разгубленыя: і тыя, хто сядзеў, і тыя, хто толькі ўвайшоў. Глебка падціскае вусны і бялее з твару: з Дударом ён не вітаецца пасля «Фальшы камертонаў», таго самага артыкула ў «Маладняку», дзе Глыбоцкі так несправядліва абгаўкаў «Узвышша». Вочы Каратая прымружваюцца, на твар набягае саркастычная ўсмешка: ён памятае «Мярзаўца» і рыхтуецца адплаціць Дудару за «камертоны». У Наташы перахоплівае дыханне, і яна ўзбурана аглядваецца на Зіну: спецыяльна арганізавала ці што?! Вольны і Дудар цяжка падымаюцца з-за стала, павольна, бо добра хмельныя ўжо, збіраюць закуску. Вольны прыбірае ў кішэню недапітую бутэльку.

— Пайшлі, Толька, — злосна, голасна кажа Дудар. Ён пазбягае поглядам Наташы, але глядзіць прама ў вочы Глебку, і на твар ягоны набягае непрыемная ўсмешка.

— Не, хлопцы, сядайце з намі! — раптам цвёрда кажа Кляшторны.

Ніхто не адказвае. Каратай ажно раскачваецца, як перад бойкай, мружыць злыя вочы, пагардлівай усмешкай праводзячы Дудара і Вольнага, якія моўчкі выходзяць за парцьеру і рушаць праз залу.

Кляшторны паціскае плячыма:

— Ну так дык так, хлопцы. Сядайма. Што бярэм? Каньяк, віно, шампанскае?

— Усё бярэм, брат, — адказвае Глебка, і гулянка пачынаецца.

Мала-памалу разыходзіцца ўсеагульнае напружанне: Наташа адчайна глытае шампанскае, Зіна ціхенька сядзіць побач з Тодзікам, які не зводзіць з яе пяшчотных, ажно бліскучых ад раптоўнай шчаслівай слязы, вачэй, Жэня сур'ёзна і нават строга нешта шэпча

на вуха Каратаю. Глебка кідае на розныя бакі заўвагі і жарцікі, стараючыся ўцягнуць кожнага ў сяброўскую гаворку – няма чалавека, спраўнейшага ў сумнай кампаніі, як Глебка, нейкім незвычайным чынам закруціць ён вакол сябе лёгкую, іскрыстую замець гаманы. Вось ужо пасміхаецца Вішнеўская, падхоплівае ланцужок узаемных кпінчакаў Зіна, не забывае падліваць дзяўчатам шампанскае Тодзік, і вечар, ледзь не сапсаваны, становіцца на рэйкі і імчыць у снежную ласкавую менскую ноч.

Крыху не дайшоўшы да павароту на Савецкую, да каменнай сцяны прыхінуліся двое.

— Нешта не ўцяміў я, Шурка, з чаго гэта мы сышлі, а не яны? – пытаецца Вольны, аціраючы рукавом горлачка бутэлькі і перадаючы яе Дудару. – З чаго гэта мы зараз дапіваем з табой на вуліцы, а не Каратай з Глебкам, га?

Дудар каўтае з бутэлькі і шумна выдыхае.

— Дзяўчаты там былі. Яна была. Няхай сядзяць.

— А, дык ты рыцар. Ну добра, рыцар. Даставай тады з кішэні, што там засталося ў цябе з'есці.

Дудар дастае кавалак лімона, змяты, у дробках, працягвае Вольнаму.

— Смаката, брат. Як у рэстаране, – і Толька моршчыцца, трасе галавой. – Уй, Маскву відаць. Пайшлі, Шурка, па дамах. Нешта абрыдала ўсё.

Дудар моўчкі ківае, і яны, крыху гайдаючыся, рушаць па драўляных тратуарах Савецкай уніз.

У «Еўропе» балююць. Дзяўчаты, крыху пасядзеўшы, развітваюцца і збягаюць – хлопцы разышліся не на жарт. За Жэняй, хутка развітаўшыся, сыходзіць Лужанін. Тодзікаў ганарар даўно скончыўся, зараз гуляюць на Глебкавы.

Яны застаюцца ўдвух: Тодзік і Глебка. Ім добра. Тодзік наогул не любіць гутаркі, ён можа гадзінамі маўчаць пасярод бяседы, гайдаючы нагой і сумна ўтаропіўшыся ў малюнак абруса, калі такі маецца, а Глебка ў любой кампаніі прыдатны, бо калі трэба маўчаць, ён са шчырым пачуццём і невымоўнай лёгкасцю маўчыць, а калі трэба размаўляць – вельмі лёгка і ў такт размаўляе. Зараз абодва маўчаць, і ім добра.

— Слухай, Пятро, зараз бабу прывяду, – раптам шэпча яму Кляшторны.

— Нашто табе тая баба? – здзіўляецца Глебка.

— Весялей, – коратка адказвае Тодзік.

Яго няма хвілін дзесяць. Глебка ўжо збіраецца сыходзіць, але з-за парцьеры раптам з'яўляецца Кляшторны.

— Няма. Яны ж выходзяць а восьмай. А зараз сем.

— Дык ты што, вулічную хацеў сюды цягнуць? — зноў здзіўляецца Глебка.

Кляшторны моўчкі ківае галавой і дастае з кішэні бутэльку віна.

— А Зіна?

Тодзік пяшчотна ўсміхаецца.

— То Зіна. А то баба.

Глебка ківае. Апошнюю бутэльку яны выпіваюць моўчкі.

## КІНО. «КУЛЬТУРА»

Пасля цэлага тыдня моцных маразоў нарэшце крыху адлягло, і сёння на вуліцы калядная казка: гурбы снегу, між якіх уюцца падталыя сінія сцежкі, дыяментавыя ўборы дрэваў, праз якія глядзіць хрупкая графіка вецця, не яркае, але ж сонца, і ціхі, толькі для сярэбранага перазвону галінак, ветрык.

— Каляды, Жэнька, гэта ўсё глупства, — наварочвае з раніцы мамчыны бліны Дудар. — Во сёння прэм'ера першага беларускага кіно, во гэта свята. А Каляды — на злом.

— А яшчэ тваё нараджэнне пазаўчора — свята, — кажа Жэнька.

— Во і гэта. Пралетарскі паэт нарадзіўся — чым не радасць, праўда, мам?

Вольга Іванаўна нічога не адказвае: нітка ніяк не трапляе ў вушка іголкі, і чым далей гэты блюзнер дражніцца, тым горш ідзе ў яе справа.

— Тым больш што гэта Пілсудскага Каляды, Жэнька. Шчэ мамчыны можна разгледзець як свята мясцовага маштабу. Але забабоны буржуазнай Польшчы — гэта зусім нам не трэба, — збаўляе абароты Шурка.

Жэнька асцярожна, каб не пабачыла мамка, пасміхаецца.

— Але ж добра, трэба адпраўляцца мне ў паход. Бывай, Жэнька, чакай мяне і глядзі, каб ніякіх варожых уплываў!

Жэнька трасе галавой.

Па белых, хрусткіх завулках, па шэрай ад людзей і коней Маскоўскай, пад Заходнім мостам, там цеснымі, у велізарных сумётах дварамі — на Валадарскага, у кіно.

На Валадарскага ля ўвахода ў «Культуру», што адкрылася зусім нядаўна ў былой харальнай сінагозе, натоўп. Білетаў у продажы не было: на прэм'еру першага беларускага кіно пускаюць толькі па запрашэннях, але людзі ўсё роўна падыходзяць — а раптам прапусцяць.

Паглядзець вельмі хочацца! Па-першае, то ж наша, беларускае кіно. Пабач! Шчэ ўчора – галота і басота, а сёння здымаем сваё кіно, што тыя амерыканцы. Па-другое, то ж Чаротаў «Свінапас»: яго і ў часопісе зачытвалі да дзірак, а каб жа кіно паглядзець! Па-трэцяе, усё беларускае кіраўніцтва ў гэтым кіно – іграюць самі сябе. Вы такое чулі? Як гэта не ўбачыць? І не заўтра, не паслязаўтра, а каб сёння! Праз натоўп праціскаюцца шчаслíўчыкі з запрашэннямі. «Таварышы, таварышы, крыху прыміце ўлева, дайце прабрацца аўтару, не патрапіць на прэм'еру, як можна?» – прыкрыквае Вольны на грамадзян, што шчыльна сталі ля дзвярэй. Ён абдымае за талію Чарота і асцярожна падштурхоўвае яго праз натоўп, за імі шчэміцца Дудар. «Маладняк» амаль увесь ужо ўнутры – Толька расстараўся з запрашэннямі.

Да ўвахода пад'язджаюць машыны: Чарвякоў, Адамовіч, Кнорын, Галадзед – усё кіраўніцтва рэспублікі. «Граждане, освободите проход!» Грамадзяне паслухмяна расступаюцца, і важныя госці, падняўшыся па прыступках, знікаюць за дзвярыма.

У зале тлум, цесна, халодна, але ўжо вільготна ад пары. Першы шэраг вольны – чакаюць кіраўніцтва, далей віруе публіка: запрашэнняў, здаецца, выдалі значна болей, чым ёсць месцаў. Зала ўсхвалявана гудзе, раз-пораз усчынаюцца апладысменты. Дудар з Зарэцкім пераглядаюцца: адно ў адно галубкоўскія прэм'еры ў галодным да культуры дваццаць першым.

Але вось і высокія госці. Зала выбухае апладысментамі. Кнорын, падняўшы каўнер, прабіраецца на месца, Адамовіч і Чарвякоў, усміхаючыся, паціскаюць працягнутыя з усіх бакоў рукі, таму прасоўваюцца да сцэны павольна. Нарэшце селі. На сцэну, перамахнуўшы цераз рампу, выскоквае высокі, шыракаплечы, з даўгой чорнай, бы ў абрэка, барадой Шукевіч-Траццякоў і пачынае нешта прамаўляць. Нічога не чуваць, але зала паступова супакойваецца, сцішваецца, людзі перастаюць круціцца і падскокваць, і заднія шэрагі нарэшце пачынаюць бачыць экран. Тушаць святло. У зале цішыня, і ў гэтай цішыні пачынае стракатаць апарат.

На шэрым, шурпатым фоне ўзнікаюць белыя літары: «Лесная быль». Літары дрыжаць, пераскокваюць з месца на месца ў такт стракатанню, і гледачы стойваюць дыханне. Пачалося! Кадр змяняецца: «Производство Белгоскино». Наступны: «Режиссер Юрий Тарич. Оператор Д. Шлюгейт». «1 часть». «Лес шумит». «Тяжелые и радостные дни 1921 года». «Недоброе на Белоруссии. Слезами исходят березы...»

На гэтым кадры раптам у апошніх шэрагах чуецца ўзбураны выкрык, з грукатам адсоўваецца крэсла, са свайго месца рыўком падымаецца высокі малады хлопец – і пачынае прабірацца да выхаду. Ён замінае глядзець, на яго шыкаюць, але ён, не зважаючы,

хутка, няўмольна мкне з залы. Толька, побач з якім засталося вольнае крэсла, з усмешкай ківае галавой, Чарот, не спускаючы вачэй з экрана, шэптам брудна лаецца і сціскае зубы. Ат, смаркач. І тут дэманстрацыя. Зарэцкі разгублена глядзіць на пустое крэсла, потым на Тольку. Той зноў пасміхаецца.

Дудар выскоквае на вуліцу, збягае па прыступках. Ён чакае напружана, адчувае спінай: зараз за ім гэтаксама выскачыць Александровіч, Зарэцкі, Маракоў. Хто-небудзь хоць бы! Няўжо сцерпяць?! Няўжо ён адзін? Не выдужаўшы чакання, азіраецца. Нікога.

Ён амаль бяжыць па Валадарскага ўніз, на Нямігу, не заўважаючы нічога навокал, твар ягоны перакошаны, і па шчоках раптоўна пачынаюць каціцца злыя слёзы. Няўжо адзін? А навошта тады ўсё? Навошта гэты «Маладняк», нашто сходы, філіі, даклады пра Скарыну, нашто часопісы – усё тады нашто? Полацак пракляты, галадоўкі, беганіна па гэтым непрытульным, аблупленым горадзе, покуль абяжыш усіх гэтых, б..., маладнякоўцаў, каб сход быў, каб пра літаратуру пагаварыць. Навошта гэта было?! Як былі быдлам, так і засталіся – з мовай сваёй, з Беларуссю. І бачыў жа на афішы: па-руску напісана, але думаў чамусьці, што проста афіша. Сцэнар Чарота. «Слезами исходят березы». Што ён прыдумаў сабе? Чаму ўпёрся? Ну па-руску, ну? Што? Чаму слёзы? Глупства! Як гэта ўсё дробязна, плытка, усё, што адбываецца, пра што думаеш, марыш, за што б'ешся, як смешна – адыход «Узвышша», будуць цяпер рабіць беларускую літаратуру! Аха-ха-ха! Не, гэта мы будзем! Мы важнейшыя, спраўнейшыя, мы пераможам! Каму? Важданіна! Надзьмуліся, важныя – мы робім беларускую культуру! Паэты! К ё...най мацеры паэты! Каму трэба? Нашто?

Як тады, увесну, у красавіку, пляжылі яго ўсе, Бабарэка пачаў, маўляў, «ёсць паэты, адмежаваныя ад свету сцяной, такі паэта – Дудар, разбяжыцца і галавой у сцяну – бац! Паляжыць, паплача ціхенька і зноў біцца!». Ажно дыханне спынялася тады, ускочыў, нешта крычаў, і каб хто, каб адзін заступіўся. Зарэцкі хоць бы... Толька... Ад іншых не чакаў, але гэтыя... І Пушча, той Пушча, з якім разам рабілі «Маладняк», які столькі разоў пісаў ухвальныя рэцэнзіі, гэты самы Пушча сказаў голасам школьнага настаўніка: «Дудар, пакінь! Што ты стаіш і крычыш, як звяглівы сабачка!» І як ад вялікай крыўды, што была большая за яго ў тысячы разоў, даў слабіну і выскачыў на балкон – ніхто не пайшоў за ім. Ніхто. Так і тырчэў над Рэвалюцыйнай на тым халодным балконе, покуль усе не разышліся, як апошняе пакідзішча. Болей такім слабым яны не пабачаць яго, не. Ён прабег ужо наскрозь Нямігу, выскачыў за Татарскія агароды, на белую цаліну, далей, за лясок, і тут толькі спыніўся. У распахнуты

кажух пасыпаў дробны, злы снег. Навалілася стома. Дурань. Чаму ж такі дурань? Пуста, блага – туга. Сядзеў бы зараз, глядзеў бы кіно.

Што ж ніяк не атрымліваецца жыццё?

Яму ўжо дваццаць два, а жыццё не атрымліваецца.

Раптам ён зусім ясна разумее: адзіны чалавек, які сёння выйшаў бы разам з ім з «Культуры», – Дубоўка. Гэты б выйшаў. Спакойна, прыгожа і неадменна. І гэта не выглядала б на істэрычную выхадку, як ён ужо глядзеў на сябе зараз, у Дубоўкі гэта было б сапраўдным пратэстам.

Не, ён не адступіцца, і вайну з «Узвышшам» не спыніць, ніколі, не. Ён ім не даруе. Таго балкона не даруе.

Дудар крочыць па дарозе назад у Менск, сунуўшы рукі ў кішэні. Набраў свой звычайны тэмп, у якім вальней думаецца. Чорт з імі, з Толькам і Валькам. З балконам. З Пушчай. І з гэтым кіно.

Адзін, значыць, адзін. Але маўчаць ён не будзе. Тэатраў наад-крывалі, кіно панарабілі для таго толькі, каб везці сюды чужое. Не будзе так. Трэба гутарыць з Толькам, трэба вучыць сваіх рэжысёраў, сцэнарыстаў, трэба званіць ва ўсе бомы, трэба патрабаваць: беларус-кае – на сцэну, сваё – на экран. Дзеля гэтага рэвалюцыя рабілася, дзеля гэтага гінулі людзі ў бойцы з турмой народаў. Ленін сказаў: права народаў на самавызначэнне. Нехта тут, у Менску, адчуў сябе вышэйшым за Леніна. Нічога. Трэба толькі не маўчаць. І нікога не шкадаваць. І маскоўскі ўплыў гарачым жалезам выпальваць.

Гартны кажа: калі даць Дубоўку волю, ён усіх падамне пад сябе. Гэта так. Ён моцны і ўпарты. Яму ёсць, што сказаць. І Бабарэку ёсць. І Чорнаму ёсць. Пушчы – няма, Жылку – няма, а гэтым ёсць. Гэта шчасце, вядома ж, што яны з'явіліся ў літаратуры. Але вайна не спыніцца. Яны не будуць з Масквы дыктаваць нам, што і як рабіць. Нават яны не будуць. Гаспадарыць на сваёй зямлі будуць тыя, хто на ёй жыве, хто глытае гэтую ваду і назірае гэтае неба кожны дзень, а не куляецца ў маскоўскім масле з налепкаю «белорусский сыр».

«У думках я на Беларусь малюся...» – піша Дубоўка. А што ж у думках, брат? Што ж у думках? Прыязджай сюды – маліся тут! З маскоўскіх муроў добра табе маліцца. А тут – як тут. Тут не Масква. І тут мы будзем весці рэй.

А што, каб ён жыў тут?

З падворка вылятае шчанючок і пачынае страшэнна брахаць, кідаючыся пад ногі. Ён захліпаецца віскам, дрыжыць, перабірае маленькімі лапкамі, у вачах – страх і злосць.

— Ах ты, цуцык, – садзіцца Дудар на кукішкі. – Што лямантуеш? Баішся? Баішся, брат. Дык сядзі дома і не бойся, чаму на дарогу ляціш?

Сабачанё не сунімаецца, і Дудар, пасміхнуўшыся, крочыць далей, не азіраючыся ўжо на ягоны віск. Гэтак і Дубоўка ў Менск прыехаў, што ж. Закон прыроды. Кожны бароніць свой двор.

Зноў накатвае жаль да самога сябе. Адзін. Той, з кім хацеў бы стаяць поплеч, – і той вораг. Пра Дубоўку... супраць яго шмат хто думае тут, а ў бойку выпіналі аднаго Дудара. Сядзяць і пазіраюць. Як сёння ў кіно.

І як тады, калі адышло «Узвышша». Чарот адразу нібыта забыўся на «Маладняк»: прыходзіў гады ў рады, падпісваў пратаколы чырвоным алоўкам, глядзеў навокал неяк раскідана і сыходзіў. Зарэцкі абмяжоўваўся агульнымі парадамі. Толька наогул рэдка заходзіў – ужо тады вабіла яго кіно. Валька? Да ну. Несур'ёзна. Адзін Дудар сядзеў, пісаў па філіях загады і парады, інструкцыі і адказы ўсё лета, ажно пакуль не з'ехаў у Есентукі. А што тая пісаніна... У філіях разгубленасць, бо сышлі самыя-самыя... Ганчарык з Горак прывёз плётку: нібыта выйшаўшыя сыходзілі не з «Маладняка», а ад Дудара. Ён вінаваты, знача.

Зноў пячэ пад сэрцам. Горка. Што ж. Няхай адзін. Усё адно не здамся.

Унутры ные, як заўсёды бывае, калі нараджаюцца радкі. Яны сыплюцца нібыта самі сабой, падаюць камянямі на мёрзлую зямлю:

> Я не знаю, што будзе заўтра:
> Мне сягоння — апошняй мяжой...

Кожнае слова, выплаўленае з гарачага волава крыўды і тугі, падае цяжкай застыглай кропляй:

> Дні стаяць сталёваю вартай
> Паміж будучынай і мной.

Ажно становіцца лягчэй, як выходзіць знутры ўсё тое, што запеклася горыччу:

> Знаю толькі — будзе другое,
> Заквітнеюць другія дні…
> Сённяшняе ўсё і дарагое
> Непатрэбным стане другім.

Нехта штурхае яго, нехта над самым вухам лаецца, вуліца паўнюткая людзьмі, вечар, людна, ён не заўважае нікога, напружана ловіць рыфмы, якія саслізваюць некуды і знікаюць у падсвядомасці.

> Можа, заўтра будуць смяяцца,
> Можа, будуць смяяцца з паэта…
> Зарастуць дарогі рутай-мятай,
> Зарастуць дарогі белым цветам.

Здаецца нават, што зараз упадзе: усе пачуцці дня разам пакідаюць і сплываюць разам з апошнімі радкамі, якія ўзнікаюць самі сабой:

Гэтак кніга — адкрылі і закрылі,
Прачыталі — дый зноў на паліцу…
Бачу Будучыну з сінімі крыламі,
Стану і буду ёй маліцца.

Вусны шэпчуць, ратуючы радкі ад імгненнага забыцця, механічна, толькі каб захавалася, хоць бы малюнак, мелодыя. Потым, калі што, ён дагоніць яго, выцягне з паветра, не страціць бы толькі рытм і паслядоўнасць гукаў. З Маскоўскай – у Шкляны завулак, перамахнуць цераз плот, агародамі, вузенькай шэрай сцежкай – да свайго ганка. Усё. Дома. Тут не возьмеце. Па-мойму будзе.

# ГОРАД. ДЗЯДЗЬКА ЯНКА

За рэчкай на Савецкай сярод высокіх таполяў стаіць прысадзісты домік. У адной палове яго жыве бабулька: яна памятае яшчэ і памочніка кантралёра Лібава-Роменскай чыгункі Пятра Васільевіча Румянцава, і жонку ягоную Волечку, і ўсіх да апошняга дэлегатаў I з'езда РСДРП. У другой палове працуе музей – першы і адзіны пакуль што менскі музей. Ля ягонай брамкі стаяць мужчына і жанчына.

Яна трымаецца рукой за весніцы – ці то выйшла, ці то вяртаецца адкуль. Ён абапёрся на фабрычны кіёк з разной ручкай. Абое ўсміхаюцца адно аднаму, і па ўсім відаць, што гутарка ідзе вельмі шляхетная.

— Дык што, Францішка Людвігаўна, ружы раскрываеце ўжо?

— Раскрыла, даражэнькі мой, раскрыла. Я гэтым годам іх толькі лапікам усцяліла, снегу добра было, дык было ім цёпла.

— То я і бачу, што вольна ўжо ў вас у садзіку, дыхае ўсё.

— А як не дыхаць, Іван Дамінікавіч, і мы дыхаем, і яны дыхаюць, ветрык сёння які, пі – не нап'ешся.

— Powietrze jest jak szampan*, Францішка Людвігаўна.

— Ach, młodzieńcze, teraz słyszę w nim zapach waleriany**.

Паветра і сапраўды можна піць з крышталёвага келіха: у ім шмат абяцанняў на будучыню.

---

* Паветра як шампанскае (*польск.*).

** То вам маладым, а мне яно патыхае валяр'янкай (*польск.*).

— Пэўна, паводка сёлета будзе вялікая, што вашыя музейныя кажуць?

— А што яны скажуць, Іван Дамінікавіч, яны толькі тады ратунку крычаць, як вада пад вокны стане. Пакрысе падымаю, што магу, на паліцы, сварацца, але… tolerują*.

— Уладзіслава Францаўна просіць вас, каб перабіраліся да нас, як вада будзе.

— Дык яна ж і ў вас будзе, даражэнькія мае. Але перадайце шаноўнай Уладзечцы, што ўвесну сяду ў łódź i będę odwiedzać**.

Абое смяюцца.

— А вы прагуляцца?

— Так, пані Францішка, крыху выпіць такога паветра – як не вып’еш, нібы і не жыў.

І яна ківае галавой, і смяецца, і доўга яшчэ глядзіць услед.

Ён падымаецца на мост і лёгкай хадою крочыць цераз Свіслач. Дашчаны тратуар гайдаецца і парыпвае пад нагамі, бягуць хвалі, паветра гайдае водар блізкай вясны. З Купалам вітаюцца: радасна, з абавязковай шчырай усмешкай. Ён адказвае тым жа. Ля кагосьці спыніцца, каб абмяняцца ветлівымі словамі, камусьці толькі кіўне галавой. На рагу Савецкай і былой Паліцэйскай раптам яго абкружае чародка маладых дзяўчат – студэнткі тэхнікума. Покуль кожнай скажаш прыемнае слоўца!

Сёння ёсць настрой. Мо ад таго, што паветра сапраўды водарыць шампанскім, мо, ад таго, што пагаманіў з былой гаспадыняй, у якой так добра жылося ў зялёным доміку пад высокімі таполямі, а мо ад таго, што ўранні нарэшце выплеснуўся верш, які тры дні не даваў спакою. Ягоныя вершы звычайна спеюць доўга, ныюць недзе ўнутры, і тады немагчыма ані спаць, ані гаманіць. Ходзіць тады, хворы, маўклівы, злы, бо тузгаюць, кратаюць, торгаюць, каму толькі хочацца, а хочацца ўсім.

А сёння не тое. Сёння ёсць настрой.

Сакавіцкае сонейка ўжо лашчыць у спіну сапраўдным цяплом, і ён ідзе павольна, тым больш што вуліца пачынае караскацца ўгору. Зараз цераз дворык возьме ўправа, дойдзе амаль да Садовай і там у паўпадвальчыку возьме найсмачнейшага піва. Э-э-э, не. Гэта будзе, як пойдзе назад.

Але і ў рэдакцыю зараз не пойдзе. Вітаючыся з мінакамі, крэпка абапіраючыся на кіёк, падымаецца ён угору і зварочвае на Энгельса. Мінуе муры Святога Тамаша, і тут чуе слабы, але выразны ўжо

* Трываюць (*польск.*).

** Сяду ў човен і буду ў вас госцяй (*польск.*).

шум Ніжняга горада — вось толькі перасекчы плошчу і спусціцца Школьнай уніз.

Сёння хочацца сюды, у гаману і тлум: пад нагамі весела цмокае сакавіцкі бруд, дзесь іржуць коні, рагочуць мужыкі, пранізліва крычаць гандляркі. З людскога натоўпу ўверх, у празрыстае веснавое неба ірвуцца з бруднай зямлі аглоблі сялянскіх калёсаў, на якіх багатым упрыгожаннем вісяць вязанкі цыбулі, даўгія ніткі сушаных грыбоў, гірлянды кубкаў і крынак, узятых за вушкі, каралі з абаранкаў, залатыя самародкі кумпякоў. Адсюль жыве Менск, з гэтага тлумнага месца: адсюль нясуць у камяніцы белы тварог і чырвонае мяса, серабрыстую рыбу і зусім раннюю, невядома як узгадаваную на Татарскіх агародах зяляніну. Усяго багата на рынку апошнім часам: выправіўся беларус, упрогся, адбудаваўся троху пасля войнаў. Зноў рыкаюць кароўкі па хлявах, рохкаюць парсючкі, шумна ўздыхае цяглавіты конь. Кожнай раніцы цягнуцца калёсы з Малінаўкі, са Ждановіч, са Шчомысліцы — вёска вязе свае сялянскія здабыткі гораду. А як жа пляжылі Чарвякова, калі год таму на з’ездзе, здаецца, Саветаў бяссменны наш старшыня ЦВК сказаў: «Багацей, селянін, здабывай больш багацця, і чым больш ты будзеш багаты, тым больш багата будзе наша Савецкая рабоча-сялянская дзяржава». Так жа яно і ёсць. Багацее селянін, багацее вёска, сыцее горад, мацнее краіна. Усё ж нешта не тое з тым парадкам, пры якім нельга багацець.

Купалу пазнаюць. Аднеквайся ці не, а без кольца каўбасы, без кавалка жоўтага масла, без залатой вязанкі цыбулі не сыдзеш. Ён доўга стаіць ля воза з гарлачыкамі. Гарлача яму не трэба, вясковага побыту ён не любіць і ў дом не нясе, але паглядзець, памацаць, палагодзіць сытыя бачыны гарлачыкаў сёння надта хочацца. Яны цёплыя, нагрэтыя сонцам, гатовыя прымаць у сябе ці сырадой, ці квас.

З гасцінцамі сыходзіць Купала з рынку. Яшчэ ля «Еўропы» адчуваецца дыханне кірмашу — парное, кіславатае. Купала нават пераходзіць на другі бок вуліцы, да маленькіх камянічак, да чаднай сталоўкі, што прымае без разбору ў сваім цёмным чэраве ўсіх, каму не па кішэні былы рэстаран Саўлевіча. Але з кожным крокам горад бярэ сваё — і на Савецкай ужо рынку не чуваць зусім.

Хлопцы нашы вёскі ўжо зусім не ведаюць, думае Купала. Гарадскія. Александровіч, Дудар, мо і снапоў ніводнага разу на воз не кідалі. Дубоўка кідаў, але забыўся ўжо, пэўна. Ды ён і сам гарадскі чалавек — рукі да зямлі зусім няздатныя. Хіба толькі ружы — іх і прапалоць прыемна. Як тое ў Чарота было? Ружы поле — ручкі коле. Зусім сапсаваўся хлопец. Здатны быў паэт, моцны — увесь на пасады сышоў. Партфель у рукі — тады давольны. А харошы хлопец,

сардэчны. Каб не газета з'ела яго ўшчэнт — вырас бы ў такога паэта, што свету не сорамна было б паказаць.

І Александровіч за ім. Гэтаму таксама, здаецца, толькі прыбытак з вершаў падавай. Халодныя вершы, механічна складзеныя. Каб так сказаць, дык і нічога, але перачытваць не хочацца.

Не тое ў Дудара. Гарачы хлопец. Ён ды шчэ Маракоў выплёскваюцца, як ёсць. Думкі мо і мала, але сэрца колькі. З імі і таварышаваць лёгка — усё бачна ў іх на твары ў тую ж хвіліну, дзе крыўда, дзе любоў. Хацелі б — не схлусілі, бо не ўмеюць. Як дзеці. Купала нават усміхаецца сам сабе — любіць іх, гэтых двух, як сыноў. Шчэ Уладзік Дубоўка. Але да таго не бацькоўскія пачуцці — братнія. Роўня. А мо і вышэй.

Заірку Азгура любіць таксама, Глебку. Маладзенькія зусім, але сур'ёзныя: з такой гатоўнасцю кідаюцца разважаць пра паэзію, пра мастацтва, пра ролю паэта ў новым жыцці. І не каб пакрасавацца — сапраўды, бачна, пра тое думаюць. Гэта як Адам Бабарэка: здаецца, ён ніколі не думае пра каўбасу і цыбулю, толькі пра мастацкі вобраз і мелодыку верша. Валька Маракоў дык з твару сыходзіць, як на дыспуце трэба Адама паслухаць: столькі тут навукі, што ў Валькавай галаве робіцца тлумна. Невук, адным словам. Але надзейны грунт пад Бабарэкам, моцная думка ягоная. За такімі будучыня. Гэта ўжо, брат мой, навука, а не гульня.

Шчэ двух такіх маем: Чорнага і Дубоўку. То ўжо літаратура высокая. Тут нават і ён, Купала, гатовы саступіць сваё месца. Гэта ж за колькі гадоў так разгарнуліся, што такіх хлапцоў далі — Адама, Кузьму, Уладзіка? Шчэ пятнаццаць гадоў таму колькі іх было ў нас? Светлай памяці Сярожа Палуян, нябожчык Максім? Вось і ўся літаратурная моладзь. Але ж як імкліва ўсё, у якіх жудасных варунках. Але ж расце, буяе. Беларусу толькі дай крышачку волі глынуць, глыточак толькі — і ён запражэцца і будзе араць сваю ніву, сцінуўшы зубы, цягнуць плуг праз каменне і гліну. Хто гэта распавядаў, як Паўлюк Трус малым зямлю араў? Цягне плуг за канём, а як паварочваць ды трэба перакінуць прыладу з раллі ў раллю, дзе конь не пацягне, дык спрабаваў рукамі. А што тыя ручанькі ў дзесяць гадоў? Садзіўся і плакаў, а потым уставаў — і ўсё ж цягнуў. Гэтак яны і цягнуць зараз, маладыя, неадукаваныя што за плячыма? Гэта не Брусаў, не Маякоўскі, за якімі тысяча гадоў літаратуры і ўся расейская адукацыя. Што ў нашых? Дырэктар з замусоленай кніжкай без вокладкі, школка ў беднай хаце, настаўніцкая семінарыя ды яны з Коласам.

Хіба перасварацца між сабой — во тое дрэнна. Зараз ужо як завеш да сябе ці куды на рыбалку, дык пільнуй, каб Дудара з Дубоўкам разам не пазваць, каб Трус з Лужаніным не перасекліся. Усе з гонарам, усе з пазіцыяй, бач. Паэты, эмацыйны народ.

Дарэмна Цішка гуляе на гэтым. Здаецца, гэта ён нацкаваў Шурку Дудара на Дубоўку. Яны ж адзін аднаго не шкадуюць, лупяць зараз наводмаш. Нібыта няма каму іх лупіць. А там, пэўна, прыглядаюцца, рукі паціраюць наверсе. Чакаюць, покуль гэтыя ваякі самі адзін аднаго збаёдаюць. Ёсць такое за беларусамі: ворага не дачакацца, жыццё адзін аднаму сапсаваць, рагамі ўперціся адзін супраць аднаго і не саступіць ані кроку. Усё ж яны ў сваю маладосць былі мудрэйшыя ці што, хоць і бывае ў іх з Коласам якая неспадзяванка, але ж далей таварыскага застолля не ідзе. Усё вырашаецца за добрай чаркай. Нашто гэты крык і віск у газетах адзін на аднаго падымаць? Хіба не знойдзецца каму яго падняць? Тут трэба адзін за аднаго стаяць, сваіх трымацца, разам адбівацца, бо куды ні кінь – няма тых, хто перажываў бы за беларуса. Толькі і глядзяць, каб тутэйшыя адзін аднаго перагрызлі, а на зямельку ахвочыя знойдуцца, з якога боку ні павярніся.

Ён зусім ужо засумаваў за гэтымі думкамі – дзе і падзеўся ранішні веснавы настрой? Цяжка ўздыхнуўшы, спыняецца ля воданапорнай вежы. У «Полымя» зайсці? Ці адразу ў паўпадвальчык?

— Дзядзька Янка! Дабрыдзень, даражэнькі! – нехта імчыць праз сквер кудлатым шчанём. Маракоў.

— Як ты ў пору мне, Валька, – усміхаецца яму насустрач Купала. – Якраз думаю, куды гасцінцы прыладзіць, а? Мо дапаможаш?

— Тое задача няпростая, дзядзька Янка, але ж мы яе зараз у хвіліну вырашым! Мы тут з хлопцамі піва... Ды што я? Якое піва? Мы тут з хлопцамі пасяджэнне арганізавалі пра будучыню пралетарскай літаратуры, дык нам востра не хапае аргументаў!

— Ну дык во табе аргументы, а праз гадзінку, як будзеце шчэ засядаць, дык прапаную перанесці ваш сход у падвальчык. Пастаршынствую.

Валька прымае шчодрыя дары, радасна ківае галавой і імчыць назад да фантана. Там Купала, прымружыўшы вочы, заўважае Тодзіка Кляшторнага і, здаецца, Янку Бобрыка, шчэ пара маладзёнаў, не надта яму знаёмых. Засядаюць, бач. Лепей хай ля фантана засядаюць, чым будуць свару на ўсю рэспубліку ўсчынаць па газетах. Трэба Шурку таму падказаць ці што: ты ж будзь разумнейшы, спыніся. Адну ж справу робіце. Але калі ж Дудар спыняўся? Упарты такі, нягнуткі. Як чыгуначная рэйка. Як упрэцца – нікога не слухае. Вось і рабі што хочаш.

Купала зусім ужо вырашыў перагаварыць пра гэта з Гартным, але ў рэдакцыі раптам увесь ягоны роздум падаўся глупствам. Цішка сядзіць, зарыўшыся носам у паперы, як заўсёды, заняты, не толькі рукамі і вачыма, але і думкамі, адказвае каротка, пытаецца скупа.

Прыйшлі паперы з Галоўліта, з выдавецтва тэлефануюць наконт грошай, ля кабінета сядзіць, пагрукваючы нагой ад нецярпення, кур'ер з ЦК. Купала махае рукой і ідзе ў аддзел. Тут ужо сядзіць за сталом з вечнай сваёй вінаватай усмешкай Бядуля: Купала, уваходзячы, перарывае нейкі даўгі і падрабязны расповед, які Бядуля вядзе з Алесем Гурло, і той, як заўсёды, спачувальна ківае галавой. Што яму ні раскажы, ён будзе спачувальна ківаць. Харошы чалавек Алесь Гурло. Што ён рабіў, калі штурмавалі Зімні? Удзельнік жа, штурмаваў жа, бач. Ніколі не атрымлівалася ў Купалы гэта сабе ўявіць.

# ПРЭСА

## Крытыка крытыкаў

Да літаратурнага расколу было гэтак. Спатыкаюцца двое.

Першы:

— Вы надзвычайны паэта!

— Гэта чаму? – шчыра дзівіўся другі.

— Ну, ведаеце, – даводзіў першы, – пішаце вы прыгожа. Зноў жа почырк у вас гэткі вытрыманы, буйны.

— І вы добры крытык, – на камплімэнт адказваў камплімэнтам другі паэта.

— Ну? – дзівіўся ў сваю чаргу крытык.

— Сапраўды, – даводзіў другі. – Пішаце вы добра! Зноў жа, валасы ў вас гэтакія паэтычныя. Словам, вы вялікі крытык.

Пасля літаратурнага расколу бывае вось як. Спатыкаюцца двое.

Першы:

— Дурань ты, а не паэта!

Другі:

— Гэта за што ты?

Першы:

— Так сабе!

Другі (падумаўшы):

— І ты дурань, а не крытык! Я разумею паэтаў...

Людзі спрачаюцца і ў пылу спрэчак могуць лаяць адзін аднаго, як толькі могуць, але мне цікава, куды глядзіць рэдакцыя, якая змяшчае гэткую лаянку.

Выйшаў № 3 двухтыднёвага літаратурнага дадатку да «Беларускай вёскі» – «Чырвоны сейбіт».

У аддзеле бібліяграфіі гэтага часопіса напісана рэцэнзія на зборнік Дудара «І залацісьцей, і сталёвей».

Вось што з гэтага выйшла.

У Дудара першы верш у зборніку пачынаецца словамі:

Усё прайшло…
І сьледу больш няма —
І мяцежны шлях, і перазвоны…

Гэты ж самы верш Дудара канчаецца наступнымі словамі:

Знаем: намі пройдзеных пуцін
Не забыць, ня зьнішчыць, не закрэсліць.
Не спыняцца, а далей ісьці
Да жыцьця, да радасьці і песьні.

Нібы ніякай контррэвалюцыі тут і няма, але «пад мікраскоп», аб якім піша Крапіва ў гэтым жа нумары, і «з свае высознай вышкі» рэцэнзент бачыць у гэтым вершы другое і, выхапіўшы з верша тры радкі, філёзофствуе: «Дасягненьняў за дзевяць год сацыялістычнага будаўніцтва ён (Дудар Ал.) не заўважае».

У сумленных людзей гэткая сістэма выдзёргваньня паасобных радкоў называецца падтасоўкаю. Называць гэткую падтасоўку рэцэнзіяй з боку «Беларускай вёскі» – безумоўная памылка.

І далей у Дудара ёсць верш, які пачынаецца гэтакімі радкамі:

Рым і Эляда заснулі ў палёце гадоў і стагоддзяў.
Мохам спавіты Акропаль, руінаю стаў Капітолі.
Мірна гандлююць алівай патомкі Гамэраў і Брутаў…

Выхапіўшы з гэтага верша ўжо не пачатак, а самы апошні радок: «Шкода, што Рым і Эляда заснулі ў тумане стагоддзяў» – Рэцэнзент думае: «Урэшцэ Дудар даходзіць да таго, што шкадуе, чаму зьмяняюцца эпохі, шкадуе, чаму зьнікае старое...»

Казьма Пруткоў некалі сказаў: «Ня кожны кравец разумее ў мастацтве».

З гэтага сказу зусім не выходзіць тое, што я хацеў сказаць некаторым крытыкам.

Дарэчы, калі я ўжо закрануў «Чырвоны сейбіт», дык я хацеў бы запытацца ў аўтара перадавіцы Шукевіча-Трацякова, як трэба разумець наступныя радкі з яго артыкула: «Затое ён (Якуб Колас) адбіў жыцьцё селяніна ад нараджэньня да сьмерці ня горш, чым Шылер у „Ліцьве Званы“, Пушкін у „Евгении Онегине“, чым „Калевала“, „Адысея“».

Яшчэ адна вынаходка на фронце сусветнае крытыкі. Пушкін, па Шукевічу-Трацякову, у «Евгении Онегине» адбіў жыццё селяніна ад нараджэння да смерці.

Таварыш Шукевіч-Трацякоў! І вы гэта ўсур'ёз?

І потым калі пісаць ужо пра «Сейбіт», дык што зноў жа значаць наступныя радкі з артыкула Бабарэкі: «Паэта кажа, што супярэчнасьці – гэта плод непаразуменьня, цемнаты і „пячаці“, якая наложана на адвечную існасьць людскога імкненьня разнастайнымі формамі вырашэньня гэтай існасьці і формы азначэньня яе». Што гэта значыць, Бабарэка, і як селянін здолее гэта зразумець?

Што датычыцца мяне, дык я думаю, што тут нечага не хапае. Сам жа Бабарэка некалі пісаў, што мозг чалавека – гэта капельмайстар. Баюся, што тут гэтага капельмайстара і не хапае.

Нарэшце, хачу кончыць паэзіяй. Дзеля гэтага спасылаюся на верш Грамыкі з гэтага нумара «Сейбіта».

На крыўду ты вачэй не плюшчыў,
А праўду нёс у свой творчы клунак,
І ад старонак пушчы цёмных
Ідзе нейкі цёплы дух пазёмны.

Ідзе, дык, можа, ён ідзе, але сапраўды «чыжолы» дух.

А ўсё гэта выходзіць ад таго, што «капельмайстары» загружаны. Трэба аслабіць.

*Алёша*

*«Савецкая Беларусь», № 276, снежань 1926 г.*

## З «Камуніката» беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша»

Мы вельмі рады, што самы факт утварэньня нашай групы дапамог «Маладняку» ў сэнсе інтэлектуальнага развіцьця яго членаў. Гэта відаць хоць бы з таго, што ў дэклярацыі «Маладняка», агалошанай 28 лістапада 1926 г., з’явіліся такія словы як «сэцэсыявісты», «філёзофскі сэксуалізм» і інш. Мы будзем яшчэ больш рады, калі паасобныя члены «Маладняка» навучацца лёгічна мысліць. Пры гэтым канкрэтна маем на ўвазе Ал. Дудара, «На парозе чацвёртага году», дзе ён кажа: «Мы ня можам напэўна сказаць, ці выхаваныя „Маладняком“ і ня ўсвоіўшыя маладнякоўскага выхаваньня сябры „Узвышша“ ўтрымацца перад markup розьнымі ўплывамі».

Гэта месца падкрэслена аўтарам. Значыцца, ён думаў, калі пісаў. І, паводле нашай думкі, думаў няўдала – нелёгічна.

Сапраўды, калі людзі выхаваны кім-небудзь, значыцца – яны ўсвоілі выхаваньне. Калі яны не ўсвоілі выхаваньне, значыцца – яны не выхаваны Ал. Дударом.

Мы нічога не маем супроць памянёнага таварыша, які, не выхаваўшыся сам, зьбіраецца выхоўваць другіх. Але ўсё ж, не маючы

нічога супроць яго, мусім напомніць, што чатыры члены нашага згуртаваньня самі былі членамі ЦБ «Маладняка» да свайго выхаду адтуль, што адзін з гэтых чатырох на працягу паўгода стаяў на чале «Маладняка», другі кіраваў выхаваўчым, а пасьля крытычнадаследчым аддзелам, а трэці ўвесь час быў літсакратаром. Выходзіць, што ня нас выхоўвалі, а мы выхоўвалі. Але мы ня трымаемся таго няправільнага погляду, што літаратурная група можа выхоўваць паасобных членаў. Яна можа толькі канцэнтраваць і накіроўваць творчую думку і працу выхаваных у навучальных інстытуцыях людзей па шляху разьвіцьця і ўзбагачэньня літаратуры. Дзеля гэтага і ўважаем, што сваім выхаваньнем мы абавязаны жыцьцю і беларускай культуры, а не Ал. Дудару.

*Літаратурна-мастацкае згуртаваньне «Узвышша»*
*«Савецкая Беларусь», № 285, 15 снежня 1926 г.*

## З артыкула «Вельмі многа слоў» (у адказ на «Камунікат»)

Па-першае, мы лічым, што навучальныя ўстановы маюць на мэце галоўным чынам адукацыю і што выхаваньне і ёсць не што іншае, як накіроўваньне творчых сіл людзей па таму ці іншаму шляху.

Па-другое, мы гатовы згадзіцца з тым, што ніякая літаратурная група, хаця б яна звалася нават згуртаваньнем, ня можа выхоўваць паасобных членаў. Але мы сумняваемся ў тым, каб два-тры чалавекі маглі выхоўваць велізарную арганізацыю, якая раскінула свае філіі і гурткі па ўсёй рэспубліцы і па-за межамі яе – арганізацыю масавую. Занадта цяжкая праца для трох чалавек – падарвацца можна. З гэтым, нам здаецца, згодзіцца кожны чалавек, граматнасьць якога ідзе далей за літару «а».

Але ў гэтай самаўпэўненай з’яве «згуртаваньня» цікава не яе банапартысцкая хадульнасьць, а тыя вывады, якія самі напрашваюцца, ня гледзячы на заяву аб нявыключэньні «актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцьці кожнага з пісьменьнікаў як члена прафсаюзу, як удзельніка савецкага будаўніцтва праз месца сваёй службы». Нам вядомы гэты «актыўны ўдзел праз месца сваёй службы». Гэты актыўны ўдзел у большасьці выпадкаў абмяжоўваецца акуратнай працаю ад 9-й і да 4-й гадзіны, своечасоваю ўплатаю сяброўскіх узносаў і г. д. А вы б «без выключэньняў» пайшлі б у рабочы клюб, паехалі б у вёску, ад сучаснага жыцьця якой вы адарваліся. Гэта добрая школа, грамадзяне з літаратурна-мастацкага згуртаваньня! «Маладняк» гэта робіць, і ў выніку сваёй працы мае да трыццаці

сяброў, творы якіх прадыктаваны самім жыцьцём, сапраўдным, не надуманым, якія не крычаць аб сабе, але творы якіх можна сьмела параўнаць па мастацкасьці з творамі любога з сяброў «згуртаваньня».

Перад нашаю маладою літаратурай ляжаць два шляхі. Першы — гэта шлях будаваньня беларускай клясавай пралетарскай літаратуры, шлях «Маладняка», які прагаласіў сваю платформу ў сваёй дэклярацыі і, ня ў прыклад іншым, падмацаваў яе творчасьцю сваіх сяброў у паасобных зборніках, у часопісі «Маладняк», «Сталёвы ўзлёт» і інш. На гэтым шляху перад намі паўстае ў першую чаргу задача арганізацыі сур'ёзнай марксысцкай крытыкі, у агні якой загартаваліся б расткі беларускай пралетарскай літаратуры. На гэтым шляху беларуская літаратура забясьпечана сталым прытокам новых здаровых сьвежых сіл, выйшаўшых з рабоча-сялянскіх мас. На гэтым шляху стаіць зараз беларуская літаратура. Наўрад ці будзе мець хоць якое значэньне другі шлях, шлях «Узвышша». Гэта блытаны, нявыразны шлях замыканьня, хадульных фраз і асабістых склок.

*Тодар Глыбоцкі*

*«Савецкая Беларусь», № 293, 25 снежня 1926 г.*

# ГОРАД. ПОЛАЦАК – ВІЦЕБСК

Дайшло да таго, што ён прачынаўся раніцой і не ведаў адразу, ці то яны пасварыліся, ці то наноў памірыліся. Потым ужо, расчухаўшыся троху, успамінаў: не, сёння да Наташы нельга, бо надта крыўдуе. Ці наадварот: сёння ўвечары іду да яе. Ужо не трымцела, не гуло, не гарэла ўнутры, часам ныла толькі, бо такой, як яна, у свеце ўсё адно не было. Прыгожай, велічнай, уладарнай. Характарам яна вельмі нагадвала ягоную маці, толькі была ўжо зусім цяперашняя, смелая, распаволеная, нетаропкая, з неспрацаванымі, пяшчотнымі рукамі.

Дзяўчат навокал было шмат, якіх пажадаеш толькі: чарнявых, бялявых, худзенькіх, крэпенькіх, смяшлівых, слязлівых, закаханых, непрыступных, на любы густ і любы настрой. Аддаваліся яны лёгка, аднолькава ўпіраліся адпачатку і адное і тое казалі потым, адзін час нават цікава было: ці будзе наступная гэткай самай, як папярэдняя, і яна была такая самая. Ён спрабаваў з імі з некаторымі гутарыць — не атрымлівалася. Шчабяталі, як птушкі, ціўкалі сваё. Сыходзіў уночы, ціха, каб не развітвацца, не тлумачыцца, каб пакінуць унутры нешта такое... мімалётнае... той самы момант, калі сэрца раптам

схоплівалася саломай ад таго, што ён ужо ведаў, якая яна пад сукенкаю, яшчэ тую сукенку не зняўшы. І ніколі не памыляўся, якой яна там уся будзе, акрамя толькі Наташы і Насты. Гэтых не ўгадаў.

Гутарыць атрымлівалася з Тамарай. Хадзіў да яе іншы раз у маленькі смуродны катушок у вялікім драўляным доме на Фабрыцыуса. Яна даўно ўжо займалася сараматным сваім рамяством, але была яшчэ на ягоны густ прыгожая. Асабліва багатымі былі каштанавыя, з прозалаццю валасы. Яна стаяла часам і ля «Еўропы», і ён іншы раз браў яе за стол, калі быў адзін ці з Толькам, карміў, паіў, нават падымаўся быў з ёю ў нумар, каб крыху пабавілася яна ў ванне, паглядзела на сябе ў багатае люстра, папесцілася на чыстым. Было, нават, проста ляжалі побач і размаўлялі. Яна была добра старэйшая за яго, памятала і вайну, і немцаў, і палякаў, памятала, як сустракалі кветкамі Пілсудскага, шмат ушыркі бачыла тады – і шмат углыб бачыла зараз. Ён нават, было, расказваў ёй нешта пра сваё, паэтава і газетнае, яна ўважліва слухала і двума-трыма трапнымі словамі расстаўляла кропкі над «і». «Адкуль ты так добра ведаеш людзей?» – запытаўся неяк. Тамара весела засмяялася: «Паяб... ся з маё – і ты будзеш ведаць».

Яна звала яго Сашам і замілавальна раўнавала, калі выпівала крыху:

– Ты ж глядзі, ні да каго з нашых не хадзі, Саша, толькі да мяне. Я чыстая, да доктара хаджу, ад мяне можаш потым і да харошых дзяўчат туліцца, а ад іншых няможна – ад іх якой хочаш заразы набярэшся.

Аднойчы спытала жартам:

– А ты б са мной распісаўся? – і весела засмяялася, як пабачыла на імгненне застыглы ягоны твар. – Дурны хлопчык, папраўдзе задумаўся!

У яе была дачка, жыла на вёсцы, ён аднойчы бачыў яе: Тамара ішла з ёю па Савецкай, прыгожая, чысценькая, з таўшчэзнай каштанавай касой, абернутай высока вакол галавы, і дзяўчынка такая ж – свежая, прыбраная ў святочнае. Тамара пабачыла яго і аднымі вачыма толькі паказала: «Не падыходзь». І яму стала не па сабе: нібыта гэта ён, а не яна, быў парыяй у гэтым бліскучым жыцці.

Тамару ён таксама ўгадаў тады, першы раз, хоць і быў моцна выпіўшы. Угадаў нават, што яна не ўмее шчабятаць.

У сакавіку яны з Чаротам выехалі ў акругі. Полацак, Віцебск, Ворша, Магілёў – беларуская кругасветка. Чароту страшна карцела збегчы з горада, на нейкі тыдзень забыцца і на газету, і на жонку, і на ЦК – на ўсё. «Ты там, Шурка, камандуй, а я буду сур'ёзна паглядаць і падпісвацца», – неяк жаласна папрасіў ён, наліваючы

першы кілішак. Дудар матануў галавой: згода. «Ты малады, а мне нейк збрыдала ўсё». Ён п'янеў вельмі хутка, звычайна сур'ёзны, падцягнуты твар ягоны распусціўся, паплыў, азыз. «У мяне настаўнік быў... Ну як настаўнік... Хлопец адзін... Рыхтаваў мяне ў семінарыю. Мяне ж не бралі, ты ведаеш, бо бядак, грошай не было, увосень у лапцях прыехаў, світка падраная. Ён без грошай цэлы год рыхтаваў мяне... паверыў... Дзе ён зараз? Нават і не падумаў: знайсці яго, выцягнуць, дапамагчы... Мог бы, разумееш, мог бы – і ў райкам яго, на цёплае месца нейкае... Забыў». «Нашто жывём, а, Шурка? Я не ведаю. Вершы... Не. Шалупонь. Не хачу. Яны просяць: дай, дай, выдадзім том, два тамы. А мне нецікава, Шурка, усё, нецікава. Газет кіну ім нейкіх, што дома ляжаць, разбірайцеся. Табе шчэ цікава гэта ўсё, мне – не. Што яны вырашаюць? Нічога. Дзяўчаты пішчаць толькі, ці разумеюць яны хаця слоўца? А... Што там разумець. Бздура адна, Шурка, і маё, і тваё, і ўсіх. А... Ніхто нічога не вырашае. Ціснуць зверху, Шурка, так, што галава лопаецца. Але ж і правільна. Вораг не спіць. І мы павінны... Павінны, Шурка. А што думаеш? Вось ты маўчыш. Маўчы. Ты маўчы. Бо я камуніст, і калі ты не змаўчыш, дык я абавязаны буду пайсці ў ГПУ, і я пайду. І кожны пойдзе». – «Я не пайду», – раптам сказаў Дудар. «І ты пойдзеш, – супакоіў яго Чарот. – Але галоўнае, Шурка, што сябры твае пойдуць. А ты толькі языком направа-налева малоціш. Малаці-малаці. Умалот будзе. Сапрэеш яшчэ бліны пекці». Маўчалі доўга, моўчкі пілі. «Пасплю я, Шурка», – нарэшце абазваўся Чарот і, не здымаючы ботаў, лёг. Дудар яшчэ доўга сядзеў у купэ, цадзіў астатак каньяку, утаропіўшыся ў чорнае акно, і час ад часу нізка-нізка апускаў галаву, нібы стаміўшыся трымаць яе.

Полацак быў такім жа, як два гады таму. Дудара ажно перасмыкнула, калі яны ранкам выгрузіліся з вагона на драўляную платформу: ну і глухмень. Чарот, крыху крывячы прыпухлы з цяжкай раніцы твар, агледзеўся: «Ну давай, вядзі, першапачынальнік, дзе тут што. У рэдакцыю, пэўна, спярша – ці ў акругкам? Айда ў акругкам».

У акругкаме маленькі вяртлявы чалавечак доўга і радасна трос руку Чароту, ласкава ціснуў далонь Дудару, наліваў, падміргнуўшы, тры чарачкі і потым, запрасіўшы дарагіх госцікаў за даўгі, пакрыты чырвоным стол, пытаўся: «Калі, каго і куды сабраць для вас?» Потым ішлі ў рэдакцыю «Чырвонай Полаччыны» кіслымі рудымі вуліцамі, заляпаўшыся па калена густой глінай. Ля старой Сафіі, з якой зусім сышла некалі белая тынкоўка, пастаялі над Дзвіной: тут было добра, вольна і спакойна.

Чырвонай цэглы камяніца, крэпкая, ладная, упрыгожаная ляпнінаю, але сырая і ёдкая ўнутры, драўляная лесвіца на другі паверх,

голы па сценах, але завалены на сталах і крэслах пакой — здаецца, гэтыя самыя паперы ляжалі тут і тады.

Гаспадарыў у рэдакцыі малады, але хвацкі Броўка: на пачатку лютага прыняў адразу пасаду адказнага сакратара «Полаччыны» і маладнякоўскую філію і моцна ўзяўся за справу. Нават Чарот пасвятлеў вачыма і павёў з Броўкам змястоўную гутарку, і так ладна, па сутнасці, так у кропку адказваў гэты, адразу бачна, учэпісты і хвосткі хлапец, што Дудар ажно прысвістнуў сам сабе: во рэжа, далёка пойдзе.

Броўка быў на год маладзейшы за Дудара, але выглядаў старэйшым, асабліва тут, у гэтых дэкарацыях, якія памяталі яшчэ ўзрыўнога, брыклівага, эмацыйнага тэхсакратара Шурку Дайлідовіча, што ў роспачы ляпаў дзвярыма і лупіў паперамі па стале падчас жорсткіх спрэчак пра беларусізацыю. За плячыма Броўкі было ўжо сакратарства ў камсамольскай ячэйцы, старшынства ў сельсавеце, праца ў акругкаме ЛКСМБ, і ён выглядаў нават мацнейшым за Тольку Вольнага, таксама зацятага камсамольца. Усё было ў яго ў парадку, у таго Броўкі: і паперы, і думкі, і планы на светлую будучыню, і вершы ягоныя, якія акуратна выходзілі ў газеце і некалькі разоў друкаваліся ўжо і ў Менску, былі такія самыя — надзейна зробленыя па зразумелых правілах. Высакаваты, зграбны ў жэстах, з правільнымі рысамі дакладна акрэсленага твару, сталёвага колеру вачыма, Броўка нават гарбату гасцям падаў, не зрабіўшы ніводнага лішняга руху: дастаў шклянкі, сыпануў ліста, аднекуль з-за спіны дастаў чайнік ужо з кіпнем, акуратна наліў роўна па рысκі і паставіў на табурэт, на сярэдзіну, каробку з наколатым загадзя цукрам. Два гады таму ані цукру, ані кіпню тут не вадзілася.

Гэтаксама роўненька, ледзь не шыхтам, прыйшлі і філійцы. Усе маладыя, усе сур'ёзныя, усе са сталёвым водбліскам дзвінскай вады у вачах. Дудар зноў ціхенька прысвістнуў: ён ніколі не сустракаў тут, у Полацку, такіх хлопцаў. Іх і ў Менску было няшмат. Ён успомніў лютаўскі сход менскай філіі: крыху разгублены, павольны ў словах Бобрык, які ніяк не мог адшукаць словаў напачатку, падвыпіўшыя Тодзік Кляшторны з Валькам у куце вярхом на крэслах, Туміловіч і Звонак з бясконцымі кпінамі па адрасе небаракі-старшыні, Каваль на падаконніку — і ягоны летуценны погляд па-над галовамі хлопцаў некуды ў столь. Там сядзела багема — тут працаўнікі. Ён адчуў укол чорнай, пякельнай зайздрасці: ці не таму яны тут такія, што Броўка ў іх такі? Ды не, дудкі. Проста час такі. І «Маладняк» ужо такі: вядомая арганізацыя, усерэспубліканскае аб'яднанне. А менчукі разбэсціліся — пры грошах, пры сваім выдавецтве, пры рэдакцыях, якія іх пястуюць і раздурваюць.

Увечары рабілі даклады: Чарот — пра «Маладняк», Дудар — пра сучасную ўкраінскую літаратуру. У халоднай зале ў першым шэрагу сядзелі філійцы, на астатніх крэслах сумавалі студэнты ляснога тэхнікума і некалькі вясёлых, хіба не падпітых мужыкоў з фабрыкі — гвардыя, нашкрэбаная па засеках старшынёй акругкама. Броўка ўважліва слухаў і пазначаў нешта ў акуратным тоўстым сшытку, філійцы не зводзілі з дакладчыкаў уважлівых вачэй. Студэнты раз-пораз скептычна пасміхаліся, дзяўчаты паглядалі на выступоўцаў з-пад веек. Пасля даклада Дудара ўскочыла сур'ёзнае, вельмі бойкае дзяўчо — і пасыпаліся пытанні, і Дудар, ласкава пасміхаючыся ёй насустрач, раптам успомніў Веру Харужую, і тое, як любіў яе Толька, і тое, як раптам знікла яна, каб знайсціся ў польскай турме. Цягнік на Віцебск адыходзіў уночы, і яны яшчэ пасядзелі ў рэдакцыі за бутэлькай ядранай самагонкі, з багатай закускай, арганізаванай усюдысным Броўкам: сыр з кменам, капуста, сала, каўбаса, хатні пышны і духмяны хлеб. Ён і да гутаркі быў прыдатны, гэты Броўка: вясёлы, шчодры на смех і жарт. «Ох, далёка пойдзе», — любуючыся ім, зноў падумаў Дудар. Яму часам хацелася быць такім — правільным, адпаведным, спакойным.

Праўда, было і непрыемнае. Пасярод бяседы Броўка раптам спыніўся: «Дарэчы! Што сказаць хацеў, таварышы кіраўнікі. Улетку ад вас было даслана распараджэнне праводзіць на філіях заняткі па тэорыі мовы і літаратуры згодна з матэрыяламі, якія будуць абавязкова дасланы на наступным тыдні?» — ён скончыў з запытальнай інтанацыяй, і хмяльны ўжо Чарот сцвярджальна трасянуў галавой. Дудар адчуў, як пад каленямі прабег непрыемны халадок. «Дык тыя матэрыялы, таварышы, дасылаліся ці не? Не магу выканаць вашае даручэнне, пакуль не атрымаю». У голасе ягоным выразна чуўся асцярожны, але ж свядомы здзек. Дудар прымружыў вочы, каб не міргаць зараз і не выглядаць бездапаможным. Гэта была ягоная ідэя — разаслаць матэрыялы па філіях для арганізацыі тэарэтычных заняткаў. Яны з Толькам напісалі тады, пасля адыходу «Узвышша», некалькі дзясяткаў амбітных пастаноў і інструкцый для філій, ратуючы свой «Маладняк», але потым надышло лета, імпэт неяк сышоў, інструкцыі падаліся глупствам, тэарэтычныя заняткі — манілаўшчынай, і ніхто ніякіх матэрыялаў, вядома ж, філіям не паслаў. Ён зрэдку ўспамінаў тыя матэрыялы і тую ідэю, і калі ўспамінаў — адразу адчуваў той самы халадок пад каленямі. «Няўжо я не здатны на тое, каб зрабіць лепей за Дубоўку?» — абавязкова думаў ён тады і сам сабе тлумачыў: «То не я, то ў філіях. Каму там весці гэтыя заняткі? Каму іх там слухаць?»

Таму развітваўся ён з Броўкам халодна.

У Віцебск прыехалі на золку. Бліскучыя рэйкі блыталіся ў промнях ранішняга сонца і разбягаліся ўдалечыні. Чарот, дзелавіты і сабраны, крочыў наперад па Вакзальнай да Дзвіны — на яе беразе стаяў дамок, дзе жыў стары, з маладзечанскай семінарыі яшчэ, Чаротаў сябра. Дудар паадстаў, смакуючы вокам пярэстую, у карунках рознакаляровых шыльдачак вуліцу: ён не быў тут амаль год. Гэткім жа надвор'ем у мінулым сакавіку прыязджаў ён сюды ў філію і жыў тры дні з Настай, а праз два тыдні ездзіў ужо проста да яе, у яе чысценькі, белы пакойчык, які водарыў антонаўкай, недзе там, на гары за ракой. Унутры заныла: яго ўжо даўно ніхто не адбымаў так, як абдымаюць у жарсці толькі народжанага кахання. Захацелася ў гарачыню жаночага ложка, у пяшчоту абдымкаў, забыцца зусім і на ўсё, адчуць сябе цэнтрам яе сусвету — як тады. Зноў з'явілася знаёмае здзіўленне: чаму ён не ля яе? Што шукае?

Сядзелі ў дамку за сталом, снедалі яечняй з бледна-зялёнай цыбуляй, якую кемлівы гаспадар выганяў на першым веснавым сонцы ў вазонах, пілі кіслае малако, і пад сяброўскую гамонку Дудар усе выразней адчуваў, як цягнула ўнутры ўсе жылы чаканнем і жаданнем.

І Віцебск толькі раз'ядаў гэтую раптоўную рану: калючай соллю апошняга снегу ля вады, сцюдзёнымі празрыстымі крыгамі на Дзвіне, вострымі вежамі касцёла за вакзалам, нясцерпным бляскам залатых купалоў на Успенскай гары. Яны з Чаротам крочылі праз мост да акругкама, і відаць было злева, як бяжыць да магутнай Дзвіны порсткая Віцьба, як імкне да яе, з якім шчаслівым усхліпам кідаецца ёй у абдымкі.

Ажно цяжка было сядзець на месцы, і ён спачатку стаў ля сцяны, калі Чарот, здзіўлена паглядаючы на таварыша, адкрыў пасяджэнне філіі, а потым ціха выйшаў у калідор і спусціўся ў двор, пахадзіў там па ўтаптанай сцежцы, выглянуў на вуліцу, вярнуўся, падняўся на другі паверх і ля самых дзвярэй пакоя зноў развярнуўся і збег уніз, і выбег на вуліцу, і з такім нечаканым болем пачаў углядацца ў празрыстае паветра, у мінакоў, у брамкі камяніц і літары шыльдаў, што пабачыў Насту. Нібыта вымаліў яе ў горада, які неахвотна саткаў з шэрага свайго неба і чорных дрэваў кволую постаць, шэрыя вочы і русыя валасы пад квяцістай хусткай.

Закружылася нават галава.

— Наста, — ціха гукнуў ён.

І па тым, як расхіснуліся вочы, як сутаргава перахапілі канцы хусткі тонкія пальцы, зразумеў з шалёнай радасцю: шчэ кахае.

Потым яны стаялі ў нейкім двары недалёка ад Гогалеўскай, ён трымаў яе за руку і ў роспачы перабіраў тоненькія пальчыкі.

— Што ж ты так... — чамусьці сказаў ён, разумеючы, што не яна гэтаму віной, а яна маўчала, нібыта прымаючы на сябе ягоную віну. Маўчанне яе было невыноснае для яго: ну сказала б, што пакрыўдзілася страшна, што зразумела: ён не кахае, ён не вернецца; што дачулася пра Наташу, вядома ж, дачулася, яны ж сябравалі; што плакала, што была ў адчаі, што сам, дурань, вінаваты, што «ненавіджу цябе». Але яна маўчала, таму што — ён гэта адчуваў — шкадавала і яго, і ягонага палкага жадання, якое трымцела ў ягоным голасе і ягоных пальцах, і не аднімала сваёй рукі, але і пацалаваць сябе не дала — адхіснулася ў страху, нібы ён замахнуўся на яе, а не схіліўся да яе вуснаў.

— А каб я тады прыехаў, летам, за мяне пайшла б?

Нашто ён гэта спытаў? Нібыта слова гэтае ўпала само, калі сэрца ахапіла абцугамі ледзяная крыўда разумення, што не будзе, не будзе яго болей ніхто абдымаць так, як калісь абдымала яна.

І тады Наста вырвала сваю руку з ягонай і пабегла прэч. Ён хвіліну пастаяў у разгубленасці, выскачыў за ёй на вуліцу і пабачыў толькі, як ужо далёка ўнізе вуліцы, што падала стромай з высокага ўзгорка, мільгае квяцістая хустка. Наста бегла шпарка, не спыняючыся і не сцішваючы бег.

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Лісты ад Наташы прыходзілі рэдка, да таго ж блыталіся недзе ў дарозе, пазнейшае прыходзіла раней, ранейшае — пазней, і я ўжо не разумела, як існуюць яны, Наташа і Дудар, зараз: разам ці паасобку. Яны мірыліся і сварыліся, сыходзіліся і разыходзіліся, цяжка было зразумець, чаму адбывалася і першае, і другое, і я перастала нават старацца. Здаецца, я думала пра яго ўвесь час, але цяпер ён быў нерухомы, такі, якім ён быў ля мяне. Я туга спавіла яго ў свае ўспаміны і люляла ў сэрцы з ціхай радасцю, бо спадзявалася хутка бачыць яго часцей.

Лазар пакрысе збіраўся ў Менск, я рыхтавалася паступаць у БДУ.

Тыя хлопцы, якіх я памятала па БПТ, уваходзілі ў сваю моц: я чытала іх у менскіх часопісах і радавалася. Яны былі ўсё тыя ж: грунтоўны, каржакаваты, але такі пяшчотны ўнутры Паўлюк, вясёлы і нескладаны Каратай, які цяпер падпісваўся як Лужанін, парывісты Глебка, асцярожны ў словах і думках Сярожка Серада, цяпер — Сяргей Дарожны. Усё той жа быў бліскучы, ганарлівы і ранімы Дубоўка, усё той жа сур’ёзны і задумлівы Бабарэка. Яны былі ўсё тыя ж, але і іншыя — не тыя маладыя, ад смеласці і вядомасці сваёй ашалеўшыя хлопцы, што грудзямі кідаліся ў любую бойку,

крычалі на ўвесь свет пра сваю неабсяжную смеласць і гатоўнасць памерці за што заўгодна, але найперш за рэвалюцыю, гэта былі ўжо мужчыны, што крыху зведалі ўжо і каханне, і здрады, і сяброўства, і зайздрасці. Мне падабалася ўяўляць, якія яны сталі цяпер. Ці смяецца гэтаксама Паўлючок, ці прападаюць за ім гэтаксама нашыя дзяўчаты, а то, можа, прытулілася якая і п'е поўна ягонай гарачыні? Ці такі ж смешны і летуценны Пеця Глебка: як задумаецца, дык забудзе падцiскаць ніжнюю губу, і яна папаўзе ўніз, і ўвесь ён робіцца тады, як маленькі пакрыўджаны хлопчык? Пэўна, Пятро цяпер болей сумуе і часцей маўчыць.

З вялікім натхненнем чыталі мы з Лазарам першы нумар «Узвышша». Ён быў складзены так, як складаў свае лекцыі Адам Бабарэка: грунтоўна, глыбока, з сэнсам і густам у кожным слове. Было бачна, як стараліся хлопцы адпавядаць свайму статута і як яны яму адпавядалі. Нават Лужанін глядзеўся тут глыбокім філосафам, і гэта было так нечакана, што я чытала ягоныя вершы, па-добраму ўсміхаючыся. Плакаць хацелася ад апавядання Чорнага, ад таго, як трапна і хараша пісаў гэты дзіўны, незразумелы мне чалавек. За тэарэтычны аддзел «Узвышша» я засела ўжо з алоўкам і сшыткам — падкрэсліваць і выпісваць, і далёка не ўсё разумела. «Няўжо гэта беларусы здолелі такое скласці, а найперш напісаць? Дык ё і ў нас літаратура, якую свету паказаць не сорамна!» — з задавальненнем выгукваў Лазар, перагортваючы той зачытаны ўжо, аскетычна і густоўна аформлены нумар.

Першы нумар «Маладняка» я чытала пасля «Узвышша», хоць выйшаў ён раней. Дудар быў у ім ужо рэдактарам. Я ўяўляла, з якой рэўнасцю ён павінен быў чакаць першы нумар адышоўшых і з якім стараннем складаць першы ў годзе нумар «свайго» часопіса, каб даказаць, што не горшы. І ажно плакаць хацелася мне, бо ён быў горшы, той нумар. А яшчэ хацелася плакаць, калі пабачыла ў ім Наташын верш і стала ўяўляць, як яна прыносіла яго ў рэдакцыю: калі яны былі тады ў свары, дык, пэўна, стаяла перад ім з выглядам каралевы, прыгожая, велічная, уладарная, а ён міргаў сваімі безабароннымі вачыма і шукаў, што сказаць, а калі не... Акрамя Дудара, рэдактарамі значыліся яшчэ Чарот і Зарэцкі, але ж я ведала, што Чарот быў надта заняты, а Зарэцкі рэдагаваў яшчэ і «Полымя», дык праца ўся была толькі на Дудару, і адказ ён трымаў перад сабой толькі. У гэтым нумары быў яшчэ артыкул пра беларусаў-перасяленцаў у Сібір і на Далёкі Усход, і я раптоўна ўявіла, як жыла б з ім далёка-далёка, у Сібіры, пасярод лесу і толькі ўдваіх, як снег заносіў бы маленькі шэранькі дамок па самыя стрэхі, і як страляла б весела печка, і як гуло б у коміне, і была б у нас пярэстая, з лапікаў пашытая коўдра, і як вісела б над печчу вяндліна і каўбаса, а ў дзежках стаялі б агуркі і капуста, і як у святле газнічкі залаціліся б па сценах на кніжных паліцах тоўстыя тамы, і тыднямі нікуды немагчыма было б выйсці праз тую сібірскую завею...

А ў першым «Полымі» яны ўсе яшчэ былі разам: і Пушча, які ўжо быў з Дубоўкам, і Александровіч, які заўсёды быў з Дударом, і дзядзька Колас, які не любіў абодвух, і Паўлюк, які кідаўся паміж усімі гэтымі людзьмі і часопісамі...

Яны там жылі сваім маладым, бурлівым і складаным жыццём, і мы тут, на ўскрайку сусвету, таксама жылі іх жыццём, толькі пераплаўленым ужо ў радкі і рыфмы. Гэты шлях — ад іх сэрца праз тую паперу, на якой яны пісалі, праз друкарскую машыну, праз старонку часопіса — хваляваў мяне не меней за змест іх вершаў і апавяданняў.

Не было толькі Дударова — ані вершаў, ані крытыкі.

Я ўяўляла, як ён піша. Як сядзіць за сталом. Як кладзе рукі. Ці ёсць у яго любімы аловак, зручнае пяро? Ці засыхае ў чарніліцы чарніла? Я думала, што, натуральна, засыхае, бо здараецца, што ён не піша нічога тыднямі, толькі, можа, на працы, а дома — не, і тады ён ідзе па атрамант да сястрычкі, бо ў запас не набывае. Ці піша тады ўжо алоўкам — у яго ёсць, напэўна, і сіні, і чорны, і чырвоны. У мяне была цыдулка, якую ён напісаў мне тады, як быў у Віцебску: я бегала дамоў, а ён пайшоў хадзіць па горадзе, бо не любіў быць адзін у незнаёмых пакоях. «Пахаджу і прыйду. Не баяцца, не плакаць, чакаць. Алесь». Круглы, прыгожы, старанны, вельмі чытэльны почырк. Такім пішуць, як сядзяць за сталом роўненька, цвёрда паклаўшы локці на стол. Ніколі не бачыла, як ён гэта робіць. Вельмі хацелася пабачыць.

Затое бачыла, як чытае — то ўжо ў наступны ягоны прыезд. Лежачы, узбіўшы пад галаву што прыйшлося, трымаючы кнігу дзвюма рукамі. Яго тады нават гукаць трэба было некалькі разоў, бо з першага не чуў, а адгукаўся разгублена, марудна падымаў на цябе вочы, у якіх жыў яшчэ той, кніжны свет. І як добра было ляжаць тады, прыткнуўшыся да ягонага пляча, і слухаць, як спакойна, мерна ён дыхае, і ціхенька гукаць шэптам: «Шурка...»

Неяк зайшла гутарка пра жанчын, якія гандлююць сабой. Пачалася з Мапасана, з перакладу: ён чытаў яго на французскай, я — па-руску, і выходзіла, што па-французску «Пышка» была напісана куды больш вольна і сапраўдна. А потым ён горача, нібыта я спрачалася з ім, расказваў, якія яны насамрэч няшчасныя і што яны бываюць куды лепшыя за хатніх дзяўчат, што сярод іх сустракаюцца жанчыны вялікага сэрца. Потым я прачытала пра гэта ў ягоным «Спатканні» ў «Полымі» і ажно спынілася з перахопленым дыханнем, як яно прайшло з кнігі Мапасана праз мяне, праз той шчаслівы дзень — і ў ягонае апавяданне, якое я ў адзіноце чытала.

Усё гэта я ўяўляла зімой 1927 года, люляючы розныя малюнкі з успамінаў і летуценняў у сваім сэрцы, і мне ўсё падавалася, што не стае нейкай дробязі, нейкага апошняга майго намагання, каб малюнкі сталіся жыццём. А ў сакавіку раптоўна сустрэла яго, нібыта вымаліла ў прасторы.

Ён склаўся з шэрага віцебскага паветра, з калючай солі апошняга снегу, з празрыстых дзвінскіх крыг, з вежаў касцёла Святой Барбары — высокі, стромкі, шэравокі, увесь нейкі ўзнерваваны, нацягнуты, як струна, і зусім сапраўдны. Не памятаю, куды ішла тады, здаецца, проста ішла, нават не думала ні пра што і пачула, як нехта зусім побач сказаў: «Наста». Абярнулася і пабачыла яго.

І нічога спачатку не было: ані крыўды, ані роспачы, толькі радасць ад таго, што спраўдзілася, што ў мяне атрымалася стварыць яго насамрэч.

А потым была і крыўда, і роспач. Яго ажно хістала ад хвалявання і жадання, і гэта ўсё было мне так знаёма: і гэты нягучны з прышэптам голас, у якім трымцела пяшчота; і гэтыя дотыкі, ад якіх сэрца схоплівалася саломай; і гэтыя вочы, разгубленыя, як у малога хлопчыка, калі я сказала яму, што выйшла замуж і што гэта сур'ёзна. Тое, прыдуманае, заўсёды было шчаслівым і прыгожым, гэтае, сапраўднае, было невыносным ад болю і неадменнасці: я баялася яго, баялася ягоных дотыкаў, ягонага голасу, вачэй, якія цяжка міргалі, баялася, што ўсё пачнецца спачатку і я больш не вытрываю абавязковага ягонага сыходу. І страх быў мацнейшы за радасць.

Мы стаялі ў двары, ён трымаў мае пальцы ў сваіх руках, і столькі гора было ў гэтым усім… У тым, які быў ён, у тым, якой была я. Я зноў адчувала яго ўсяго, цалкам, разумела ўсё ў ім і ўсё даравала, і ўсяго было мне шкада. «Што ж ты так…» — сказаў ён мне, і я адразу ўзяла ягоную віну на сябе, бо ведала, што ён яе не вытрымае.

Не ведаю, колькі б мы так прастаялі, але ён раптам запытаўся — балючае, крыўднае, немагчымае, нават не памятаю што, але ўнутры апякло, як агнём. І толькі таму, што спытаў ён нешта сапраўды страшнае — што? — я здолела вырваць руку і пабегчы.

Я бегла доўга, хутка, ля рэчкі мяне пачало ванітаваць ад калючага паветра, якім перапоўненыя былі спакутаваныя бегам лёгкія, а потым я ледзь дабралася, нібы ратуючыся з начнога кашмару, да Рыўкі і доўга плакала ў маленькім гарачым яе пакойчыку, уткнуўшыся ў мяккае і цёплае сяброўчына плячо.

# ГОРАД. КВАТЭРА

Збіраюцца па-сяброўску найчасцей у Александровіча. Кватэра ў яго вялікая, на два пакоі і нават з кухняй у трохпавярховіку на Валадарскага. Адзін з пакояў, маленькі, цёмны, не надта ўтульны, выкарыстоўваецца як спальня і адначасова працоўны кабінет: там стаіць вузкі даўгі ложак, стол і кульгавае крэсла, на падлозе ў стосах ляжаць кніжкі. У другім, большым, ладзіцца тады халасцяцкі

стол: акраец хлеба, кус сала, цыбуліна, сухая рыба. П'юць звычайна гарэлку — віно лічыцца ў гэтым доме за пястоту. Нізенькі, чарнявы, чарнабровы Александровіч — чалавек моцны ў мэтах і ўпарты ў іх ажыццяўленні. Ён выцерабіўся ў вялікі свет з такой галечы і нэндзы, з такога чорнага і беднага завулка на Пярэспе, што сённяшняе сваё жыццё імкнецца арганізаваць як мага крапчэй. У большым пакоі стаіць у яго ўжо вялікі буфет-трохкутнік, і ў ім — стограмовыя чарачкі з залатым паяском. Болей багацця Андрэй пакуль не нажыў, але нажыве, тут ніхто не ў сумненні. Тую гісторыю, як малым яшчэ, шаснаццацігадовым, Александровіч прынёс вершы ў «Беларускую вёску» і Чорны, паглядзеўшы на ягоныя рваныя-перарваныя чаравікі, выдаў яму ганарар наперад, каб боты сабе набыў, раз-пораз успамінаюць, покуль гаспадар вызваляе падпаясаныя золатам чарачкі з трохкутніка.

Іншы раз тут жартуюць: бяры, Андрэю, паперу — пратакол будзем пісаць. Сапраўды, як збяруцца тут разам Гесэн, Адамовіч, Баліцкі з Ільючонкам, Змітро Прышчэпаў, Міхась Мароз, што даўно вярнуўся з Масквы і зараз кіруе справамі ў СНК, — няйначай партыйная нарада. А як спатрэбіцца, можна і маладнякоўскі сход запісаць: Дудар, Зарэцкі, Вольны, акрамя Чарота, які заходзіць сюды дужа рэдка, усё Цэнтральнае бюро ў зборы. Ці само сабою так склалася, што балююць тут адны толькі камуністы і пісьменнікі, ці гэта Андрэй так расстараўся, невядома, але жартуюць і так: «У БССР як з паэтамі не параюцца, дык законаў не прымаюць».

Рэдка тут п'юць так, як у «Еўропе», напоўніцу — тут, хутчэй, для разгону сяброўскай гутаркі. Болей гуляюць у карты ды ганяюць туды-сюды навіны, агульнавядомыя і закулісныя. Толіку Вольнаму тут самае рыбнае месца: адсюль ён нератам цягае тэмы для сваіх фельетонаў.

Валаводзіць, як заўсёды, Алесь Фаміч. «Гэта той Адамовіч, які злы», — кпяць з яго, параўноўваючы са старшынёй СНК, таксама Адамовічам, але Язэпам. Язэп Адамовіч — круглатвары, усмешлівы, з пышнымі «будзёнаўскімі» вусамі — сапраўды выглядае дабрэйшым, асабліва звонку, асабліва калі побач з ім ажно свеціцца сваім спелым хараством ягоная Зося Шамардзіна. Алесь Фаміч іншы. Выцягнуты, нібы берасцяны твар, маленькія пранізлівыя вочы, сцягнутыя ў нітку вусны, якія калі і разыходзяцца ва ўсмешку, дык толькі ў саркастычную. Гаворыць ён заўсёды шмат, часцяком гучна, а калі спрачаецца, нават пераходзіць на крык ці, наадварот, пачынае казаць спецыяльна павольна, ціха і падкрэслена па-руску.

Але ў гэтым коле на рускую ён ніколі не пераходзіць.

— Алесь Фаміч, а ці чуў ты, што Адамовіча нашага з СНК здымаюць?

Нехта прысвіствае: во гэта навіна! Язэпа Адамовіча, камуніста з камуністаў, беларуса з беларусаў, які здаваўся непахісным тут, на гэтым месцы... Але большасць Александровічавых гасцей не дзівяцца: чуткі пра страшэнны канфлікт саўнаркамаўскага старшыні Адамовіча з першым сакратаром ЦК КПБ Крыніцкім шастаюць па горадзе даўно.

— Аднаго з двух будуць здымаць, тут пытанняў няма, цярпець гэтую свару няма ўжо сіл. Але як здымуць, то менавіта яго, безумоўна. Бо ён за беларусаў, а Крыніцкі супраць. Так што ёсць што казаць, няма чаго слухаць. То пытанне некалькіх тыдняў. Але і Крыніцкі доўга не пратрывае, пабачыце.

— А Сянкевіч казаў... — пачынае Толька.

— Сянкевіч... Той Сянкевіч, каб вы ведалі, у шостым годзе ў Амерыку эміграваў. Там былі ягоныя ўніверсітэты — швацкая фабрыка і дрэваапрацоўка. Цяпер дацэнт БДУ. Колькі ў тым БДУ такіх дацэнтаў з фабрычнай адукацыяй, каб хто падлічыў. Дык тое, што ён казаў, мае адпаведную вагу. Швацкую.

— Сянкевіч — свой, ты яго не чапай, — бурчыць Баліцкі, углядаючыся ў свае карты.

— А я што ж, хіба супраць? Свой, вядома ж, свой, родны, як адвернешся толькі — клісцірную трубку ў зад, каб добра праср...ся. Доктар, анягож.

— Ну бывае, дык тое партыйныя патрэбы, Алесь Фаміч, за чалавекам нагляд павінны быць, нельга спускаць памылак, бо так страцім усё, дзеля чаго столькі народу палегла, — кладучы карту і запытальна гледзячы на іншых, кажа Баліцкі.

— Партыйныя патрэбы ў клісцірных трубках мне вядомыя, таварыш Баліцкі. Я хоць і не з дактароў, але ж у партыйнай медыцыне што-ніштo разумею. Толькі падаецца мне, не дацэнтская гэта справа, а так няхай сабе. А тое сабраліся наверсе — адзін чалавечы доктар, другі свінячы — і кіраваць. Нібыта гэта проста так.

Адамовіч — невычэрпная крыніца пікантных эпізодаў з мінулага паасобных людзей, і асабліва — з мінулага партыйных кіраўнікоў. Чым горш ставіцца да кагосьці Адамовіч, тым смачнейшыя выкопваюцца эпізоды, часам пераўтвараючыся ў анекдоты.

— А наш цяперашні першы? Ну, Кнорын, як хто... З ватовай фабрыкі. Ён жа рабочым працаваў у Лігатнэ, чулі? За Рыгай ажно. Яно і правільна: сваіх ватовых фабрык у нас тут няма, дык дзе кіраўнікоў будзем расціць? Гэта ж дзе вы бачылі, каб беларусам беларус кіраваў? Няможна. Асабліва калі без ватовай адукацыі.

Ільючонак пакашлівае — гэта ўжо такі ўзровень, дзе падтрымліваць жартачкі небяспечна. Вільгельм Кнорын, першы сакратар КПБ, сапраўды не свой — шкадункаў не будзе, як што.

— Дык ведаю, Пятро, што і тут сярод нас сачкам, можа, які сядзіць, — адказвае Алесь Фаміч на тое Ільючонкава пакашліванне. — Усё адсочыць, паслухае, гарэлкі з намі сербане, а потым паперу Піляру на стол. То ж цікава пабачыць, ляжа ці не ляжа ў ГПУ такая цыдулка, а? Тады будзем ведаць, ці ёсць хто сярод нас.

— А я б тады за сталом бы не сядзеў і анцімоніі не разводзіў бы, каб ведаў, што са мной разам тут сачкамы сядзяць, — закіпае раптам Дудар. — Ты б, Алесь Фаміч, мо і прытрымаў язык, бо ўсіх разам зараз абразіў.

— А ты даруй, таварыш Дудар, — нечакана спакойна, прымірэнча адказвае Адамовіч. З Дударом сварыцца яму не хочацца, дый наогул сварыцца не надта выпадае. — Лішняга сказаў. Забудзься.

Дудар таксама нечакана спакойна ківае.

— А што сачкамы, Алесь Фаміч? Згодна з патрабаваннямі партыйнай дысцыпліны кожны камуніст павінен пайсці да таварыша Піляра, як пачуе ці прачытае што не тое, — падлівае алею ў агонь сціхлай было гутаркі Вольны. — Вунь таварыш Чарот усім направа і налева кажа, што пойдзе і будзе дакладацца, калі якая справа наўскасяк. Дый хіба вы не хадзілі?

— Хлопцы, хопіць, — падымаецца з-за стала Прышчэпаў. — Не псуйце вечар. Андрэй, налівай, бо не ядуць! Пазакрывай ім раты гарэлкай ці што.

— Я наогул лічу, што хай бы хутчэй з намі ўсімі разабраліся б, — ціха, але з надрывам раптоўна кажа Адамовіч. — Я вунь сабе расейскую граматыку набыў. Вучу. Хутка ўсім нам нашы беларускія раты пазакрываюць.

Некаторы час усе маўчаць. Бывае так, што ніяк не складзецца вечар. Але пакрысе гутарка разганяецца весялейшая. Прышчэпаў, узяўшы Вольнага за каўнер, высвятляе ў Толькі, якімі шляхамі пойдзе беларускае кіно. Ільючонак, неяк смешна, па-дзіцячы чырванеючы, прызнаецца Дудару, што выдае папулярную кніжку пра жыццё малпаў. «Ну дык павінны ж дзеці ведаць сваіх продкаў!» — кажа ён, і пачынаецца агульны вясёлы жарт вакол жыцця малпаў. Адамовіч смяецца разам з усімі, але вочы ў яго застаюцца халоднымі. «Банкет пасярод чумы», — шэпча ён Дудару. Той, усё яшчэ смеючыся, ківае.

— А нешта ж і праўда цяжэй стала, — кажа ўжо на вуліцы Дудар Зарэцкаму. — Ты заўважаеш, Міхась? Здавалася, няма ўжо куды цяжэй, а яно псуецца. Мне падаецца, Міхась, што яны там нагуляліся

ўжо з намі і зараз будуць кубікі па скрынях складаць. Покуль ім камуністы нашыя былі патрэбныя, покуль падтрымкі народнае чакалі, давалі нам і беларусізацыю, і адукацыю, і выдавецтва, а зараз як зачапіліся ды карані пусцілі, дык павыкідаюць на злом. Я дык і да сёння не ведаю, што такога здарылася з Аляхновічам, за што яго пасадзілі. Гэта ўжо дрэнна патыхае, Міхась. Для нас усіх вельмі дрэнна.

— Як пасадзілі, то, пэўна, за справу, Шурка. Там разбяруцца.

— Дзіўнае гаворыш. А як не разбяруцца? Спакойны дзядзька, неблагі драматург, памятаеш, гралі ягонае ў Галубка. Які з яго польскі шпіён? А нашто, кажуць, ён з Вільні сюды ехаў, як не са шпіёнскімі мэтамі? А я не разумею, Зарэцкі: што, атрымліваецца, тыя, хто з буржуазнай Вільні да нас едуць, не могуць зрабіць гэта ад чыстага сэрца? Таму што ў нас тут як-ніяк, але сваё: і Інбелкульт, і горад расце. Зарэцкі, гэта ж цалкам натуральна, што яны едуць да нас. Як ні цяжка тут, а ўсё лепей, чымся там. Чаму Аляхновіч шпіён? Не магу зразумець. Хаця і ліста ў ягоную абарону не падпісваў. Бо сапраўды не ведаю, можа, і так, можа, і вораг ён нам. Але і без таго, Міхась. Сумна неяк. «Няма сталёвасці і арфазвоннасці». Добра Дубоўка сказаў.

— Добра сказана, так. Дубоўка ўсё ж сур'ёзны паэт.

— Сур'ёзны. Да таго ж Масква. Усё, ад чаго нам будзе заўтра чхацца, яму ўжо казыча. Я не ведаю нічога, Міхась, але адчуваю: цісне. Трэба неяк варушыцца ці што. Нельга сядзець па завуголлях і пырскаць атрутай, як Адамовіч. Трэба ўголас казаць, што мы, беларусы, свайго не аддамо.

— А хто ў цябе тое сваё забірае, Шурка? Ты Адамовіча слухай і адразу дзялі на тры. Ці на чатыры. Працуйма спакойна, і ўсё будзе ў нас.

— Не ведаю, Міхась. Ніводнага разу шчэ такога не было, каб беларуса не надурылі. Аніводная ўлада.

— Наша не надурыць, Шурка.

— Ну добра, калі так. Не верыць у гэта цяжка. Але раней неяк сапраўды весялей было. Увесь дзень, падавалася, сонцам заліты. Сэрца ажно з грудзей выскоквала, так хацелася хутчэй, каб усё пановаму зайграла. А зараз неяк і задумаешся: а што — па-новаму?

— Дык то ты вырас проста, Шурка, — смяецца Зарэцкі. — Не ўсё ж табе шчанём радасным скакаць.

— Ну няхай так, — ён доўга маўчыць. — Я, Міхась, надумаў тут адно. Хачу з Наташай выраш ыць. Запісацца з ёй хачу. Сям'ёй з ёй жыць.

— О, то справа, брат! — разводзіць Зарэцкі рукамі ў здзіўленні.

— А яна як?

— Яна, напэўна, супраць будзе.

Зарэцкі ад нечаканасці прысядае і ўголас смяецца. Колькі яшчэ ідуць да Заходняга моста, столькі ён рагоча і выцірае слёзы.

## ГОРАД. АЛЯКСАНДРАЎСКІ СКВЕР

Яшчэ як вярнуўся з Віцебска, вырашыў ісці да Наташы. Ён адчуваў, што яму трэба было б разабрацца ў тым, што адбывалася ў ягоным, як гэта называла Тамара, «асабістым жыцці». Трэба было б сесці і падумаць, чым была для яго Наста, бо яна, аказалася, сапраўды нечым важным для яго ўсё ж была; сесці і падумаць, што для яго Наташа, але ён баяўся нават пачынаць у гэтым разбірацца. Усё было паблытана тут, пераплецена, знітавана: і «Бельгія», і Наста, і гарачая хваля імгненнага жадання, якое мкнула яго да яе, і тая шалёна прыгожая ноч з ёю, такой іншай, такой непадобнай да ўсіх, і той няўцямны, незразумелы дзень, у які ён чакаў яе і баяўся, што яна прыйдзе і ён не будзе ведаць, што з ёю рабіць, і гэты ж самы вечар, у які першы раз паглядзела на яго сваім асаблівым поглядам Вішнеўская, і п'яны снежань ля яе, і брама, і мёрзлае вецце, якое, здавалася, ціхенька цілінькала срэбнымі бомамі, калі ён у казачнай цішы цалаваў яе ўпершыню, і гэтая пакута, якая пачалася амаль адразу, з яе бясконцымі крыўдамі і ягонымі бясконцымі вінаватасцямі перад ёю, і жаданне быць каханым Настай, і Віцебск у сакавіку, і Віцебск у красавіку, і закаханая, адчайна рашучая Наста, гатовая дзеля яго на ўсё, і ўсеўладная Наташа ў траўні, і дождж тады, як ён вярнуўся з Кіславодска...

Як жа ўсе накінуліся на зборнік, на «Залацісцей і сталёвей», ягоны найлепшы, дзе ён нарэшце і сам канчаткова зразумеў, што паэт і не горшы за іншых. На вокладцы — сам прыдумаў! — дзве дзяўчыны, што прыслаLніліся спінамі да выявы парусніка. Зроблена нібыта выцінанка: дзяўчыны нібыта аднолькавыя, але таму, што абрысы. Насамрэч розныя яны. Вокладка тая была ягоным прызнаннем, адчайнай шчырасцю, і ён глядзеў на тую вокладку потым і шкадаваў нават, як асмеліўся выплюхнуць на людзі, пакласці на прылаўкі кнігарняў сваё самае балючае, адзінае «сваё», нічыё болей, самае запаветнае — Насту і Наташу. «У чырвані лагчыны сталі дзве дзяўчыны, розныя аблічча, і абедзве клічуць...» Нікому справы не было да гэтай шчырасці. Дурань. Наташа тады за гэтае крыўдавала доўга — за «абедзвюх». А Наста ці бачыла? А як бачыла — ці паверыла? Каб бачыла і паверыла, замуж за іншага не ішла б.

Годзе! Яму хутка дваццаць тры.

Ён іх усё лічыць, свае гады. Шаснаццаць – першы верш у газеце. Першая спазнаная жанчына – на гарышчы старой хаты ва Уборках, гарачая, умелая, прыгожая. І яму – шаснаццаць. Сямнаццаць – вандроўкі з тэатрам. Дзяўчаты-акцёркі, смелыя, смяшлівыя, лёгкія. Маладыя ўдовы па вёсках: яшчэ спектакль не скончыўся, а яна ўжо глядзіць з натоўпу, а як пасадзяць частаваць за сталы – і яна тут, побач, з хмельнаю чарай, з тугімі грудзямі пад бялюткай кашуляй. Дзевятнаццаць – ён ужо сур'ёзны чалавек, загадчык аддзела ў «Савецкай Беларусі», але ж, божа мой, як жыў ён тыя гады, імёнаў сваіх каханак не запамінаў. «Асабістае жыццё» пералічана на гады. А колькі іх будзе яшчэ, тых гадоў? Ясеніну было трыццаць, як сігануў у пятлю. Ягоныя, Шуркавы дваццаць тры – немалы тэрмін. Трэба мацаць ужо і берагі.

Шэры золак. Ён ходзіць па пакоі ад акна да кніжных паліц, падсунуўшы крэсла пад стол, каб не перашкаджала хадзе. Чатыры крокі – акно, чатыры – паліцы. Разабраны ложак, збіты трывожным сном. Яна не пагодзіцца. А як яна не пагодзіцца, то жыццё паляціць у пекла. Болей у яго нікога няма.

Ціхенька рыпяць дзверы, і ў пакой прабіраецца Жэнька – кудлатая, цёплая, спрасоння. Ён раскрывае абдымкі, і дзяўчо кідаецца яму на шыю. «А я чую, ты ходзіш, ходзіш, ходзіш... Знача, нешта здарылася ў цябе... Што ты ходзіш, братка?» – мармыча яна яму ў вуха, і смешна ад гэтага цёплага мармытання, што казыча шэю. Як нікога няма... Жэнька ёсць.

— Я хаджу, бо думаю пра адну дзяўчыну, – шчыра кажа ён малой на вуха.

Жэнька радасна раскрывае вочы:

— Пра мяне?!

Шурка смяецца.

— Пра цябе, сястрычка. Якая ты ў мяне прыгожанькая, добранькая, разумненькая. Хлопцы ўжо заглядаюцца, пэўне?

Жэнька з узбураным воклічам вырываецца з ягоных рук і адскоквае.

— Ладна, ладна, знача, не буду, хадзі назад, вожык ты малы...

Жэнька – ягоная выхаванка. Колькі вошкаўся з ёй у Казлове, покуль мама хадзіла па чужых дварах мыць і прасаваць: падкіне на гершкі – і на вуліцу, на рэчку, у гарадскі сад. Жэнька была тоўсценькая, цяжэнькая, учэпістая, абхопіць шыю – ажно душыць. Як вярталіся ў Менск, на сваю Праватную, да бацькі, Жэнька ўсё пыталася, раскрыўшы агромністыя вочы: «У мяне будзе свой пакой? А ты мяне ў свой пускаць будзеш? Я цябе буду!» – «А я цябе не буду, як будзеш дрэнна паводзіць сябе!» – строга казаў ён,

і Жэнька ціхай мышкай сядзела ў куце бруднага, смуроднага вагона, якім дабіраліся дадому. Як трэба было ісці ёй у школу, строга загадаў: «Ніякай дзявятай. Не школа – дур адзін. Пойдзе ва ўзорную беларускую пры БПТ». Туды і пайшла. Зараз вырасце – адправіць яе вучыцца на агранома. Беларусі патрэбныя добрыя аграномы.

— Люблю дзяўчыну адну, Жэнька, – кажа ён, трымаючы ў руках яе поўненькую, дзіцячую яшчэ ручку. Яны ўжо забраліся на ложак і сядзяць поплеч, абапёршыся спінамі на гарачую грубку.

Жэнька, спахмурнеўшы, маўчыць.

— Ты што, скрыўдавала? – здзіўляецца ён.

— Ты мяне любі, – хмура адказвае Жэнька, і ён радасна смяецца.

— Дурноцце… Як жа я цябе не люблю… Цябе найперш.

— Шурка… – Жэнька раптам утыкаецца яму ў грудзі і, не стрымаўшыся, ўсхліпвае. – Мяне мамка вылаяла. І прутом перацягнула. Во, – яна паказвае чырвоны шнар на белай ручцы.

Шурка абдымае яе і суцяшальна гладзіць па галаве. Мамка можа. Яшчэ як.

— Ты цярпі, Жэнька. Мы без яе прападзем.

Як быў зусім малы, здаралася дужа плакаць ад матчынай суровасці, але ад яе ж гартавалася і ўпартасць. Мамка потым кінула і біцца, бо і рука ўжо забаліць, і злосць пройдзе, а Шурка ўпрэцца і стаіць на сваім. Яшчэ і горш зробіць. Неяк так і атрымалася: дзе б'юць – там упіраецца, дзе не б'юць – нават і ўпёрціся няма ў што. Як з Настай. Дзевачка ж ты мая, што ж ты так! Вострым шкадаваннем раптам разлілася роспач па ёй, па страчанай, гарачай хваляй абдаў успамін пра «Бельгію». Яна любіла б яго, як любіць Жэнька – бясконца і ні за што. Чаму не трымаў?

— Як у школе ў цябе, вожык?

— Нармальна. Пяцёркі.

— Малайчынка. Вучыся, Жэнька, за гэтым будучыня.

— А сам?

— А што сам? І я пайду. Увосень буду ва ўніверсітэт аднаўляцца, мо адразу на другі курс возьмуць. Я ж быў вучыўся, як ты малая была, ды кінуў, дурань, дзеля Галубка.

— Дзядзька Галубок харошы. Я таксама з ім сышла б вандраваць.

— Шчэ чаго не хапала! Вучыся давай!

Ён сціскае Жэньчыну руку. Усё. Тое, што мінула, – тое мінула. Час брацца за сваё жыццё.

Да Наташы ён ідзе, нават не надта спяшаючыся, у смак разглядаючы ранішні горад. Унутры ўсё раптам стала цвёрдым і непахісным, і сэрца поўніцца радасцю за самога сябе.

А Менск расце. Як вынырнуць з цесных абдымкаў Шклянога ці Малочнага завулкаў і выпрастацца на Маскоўскую – адразу адчуеш подых новага горада. Свежым ветрам цягне з-пад Заходняга моста, па якім, цяжка дыхаючы, паўзуць гружаныя цягнікі. Здаецца, нічога асабліва новага, але б'юць сваі насупраць Чырвонага касцёла, разбіраюць старыя хаткі ля «Бельгіі». Сама «Бельгія» яшчэ трывае. Раней падавалася моцнай, добра пастаўленай, а цяпер яна неяк прыгорбілася, аб'ехала, глядзіць падазрона. Хутка, пэўна, пойдзе пад знос і яна. Вунь тая фортка, якая білася тады, уночы, і да сёння адкрытая, нібыта асцярожна, праз фортку толькі, дыхае «Бельгія» паветрам новага жыцця. Бывай, «Бельгія»...

Як сышлося яно ўсё... «Бельгія», Наста, «Маладняк» – усё сплывае некуды, нібыта адрываецца ад кантынента востраў і цяпер дрэйфуе самастойна. Гэта было ягоным жыццём, а зараз становіцца нібыта апавяданнем пра жыццё, сюжэтам, які абавязкова мае канец. Няўжо і «Маладняк» загіне? Усё цяжэй становіцца трымаць яго, распаўзаецца, збягае, не трымае ўдару, хіба толькі Броўка. Але і той. Надта гаспадарлівы, практык. Маладыя хлопцы гатовыя толькі браць ад яго: выдаваць зборнікі, патрабаваць заробкаў, фанабэрыцца сваім паэцтвам. Хто чытае цяпер лекцыі? Хто шукае новых людзей? На філіі ехаць – зноў старыя, усё тыя ж. Маладыя не хочуць. З паўгода ўжо спрабуе нешта выставіць супраць «Узвышша» – і нічога няма, кожны нумар часопіса ледзь збіраецца. Крытычны аддзел раздзьмулі, абы толькі марку трымаць. А ўсё раскол. І ладна, каб толькі «Узвышша», але ж бунтуе Шукайла, пагражае выхадам і новай арганізацыяй. І чорт яго бяры, таго Шукайлу, няма чаго шкадаваць, але ж хлопцы пацягнуцца на выхад, а яны пацягнуцца, бо кожнаму хочацца адчуць сябе вышэйшым за іншых, паскакаўшы на «Маладняку». Вось што нарабілі яны, а не новае мастацтва пабудавалі. А можа, і правільна. Прайшло і прайшло. І бывай, «Маладняк».

Ён спыняецца нават, ужо на рагу Савецкай і Энгельса. Нядзеля, людзей на вуліцы шмат, у Аляксандраўскім скверы – натоўп, людзі ракою плывуць па алеях, віруюць ля фантана, хвалямі б'юцца аб былую капліцу. Сакавіцкае сонца высмажвае дрэвы, выбельвае твары, настырнымі промнямі расшпільвае гузікі на мужчынскіх паліто, нібыта ўмелая, спрактыкаваная каханка. Горад жыве, гамоніць, абуджаецца – хутка зялёная вясна.

Цяпер ідзе цішэй. Трэба падабраць словы. Апошнія тыдні яны з Наташаю амаль не бачыліся, у рэдакцыі сустракаліся прахалодна, але якое гэта зараз мае значэнне. Усё тое, што было раней. Ён цяпер зусім іншы. Не будзе цяпер гулянак, не будзе выпадковых

дзяўчат, не будзе несправўджаных абяцанак – усяго таго, на што яна крыўдавала, не будзе. І адступнога шляху не будзе таксама. Яна апошняя ягоная надзея на новае жыццё. Возьме яго і будзе трымаць. Яна паверыць.

Людскія хвалі выплюхваюцца са сквера на Савецкую, б'юцца ў сцены Юбілейнага дома. Воданапорная вежа стаіць пасярод гэтага мора старым, дасведчаным маяком: яшчэ як з Толькам бегалі сюды малымі, усё марылі прабрацца ўсярэдзіну і паглядзець, што там, але ніяк не маглі знайсці якую дзірку, каб нырнуць туды, хоць і абмацалі кожную цаглінку. Ён нават азіраецца ля белай з золатам будыніны педтэхнікума: стаіць надзейна вежа.

Наташы, вядома ж, у інтэрнаце няма – пэўна, порскнула некуды гуляць з сяброўкамі. «Не-не, яна не з'ехала, тут, сынок, тут, во толькі-толькі тут была», – суцяшае яго цётка, якая адмывае да бляску вокны ля ўвахода. Што ж. Ля сцяны хлеўчука, што вытыркаецца з прыватнага ўжо падвор'я на двор інтэрната, накідана нейкага ламачча, і Дудар, зладзіўшы нешта накшталт лавы, мосціцца чакаць. Міма ідуць дзяўчаты, пасміхаюцца, нешта шэпчуць адна адной, часам чапляюць жарцікам прыгожага хлопца, ён, жартуючы, адказвае, але на далейшае разводзіць рукамі: усё, дзяўчаты, маладосць мінула. Словы падбіраюцца цяжка. Нават, здаецца, выбудуецца добры сказ, але праз хвіліну ўжо падаецца пошласцю і глупствам. Гнілыя ўсё словы! Кахаю? Люблю? Давай запішамся? Разам праз усё жыццё? Што ні скажы – не тое. Спадзяюся на цябе? Ты – мая надзея? Без цябе не атрымліваецца? Як жа можна сказаць усё тое, што так добра разумеецца і ўсведамляецца ўнутры? А яшчэ паэт. Знайсці простае, лепшае. Эх, колькі разоў людзі казалі ўсё гэта. Папсавалі словы. «Помніш зіму і марозы, браму і мёрзлае вецце?» Найлепшае ягонае пра каханне. Аніводнага штампа. Калі былі тая зіма і тое вецце? Паўтара года ўжо, як туляецца ён вакол Наташы. Бедная, колькі яна цярпела ад яго самага рознага. Ці прыме? Становіцца раптам ажно холадна – а як не прыме?

Наташа вяртаецца ўвечары. Ужо цягне пранізлівым холадам з ракі і чырванеюць далёкія муры горада. Ён устае насустрач ёй. Дзень мінуў, ён і не заўважыў. Азірнуўшыся на Зіну, Наташа пакідае сяброўак і скіроўваецца да сцяны хлеўчука.

— Я прыйшоў да цябе, Наташа, – міргаючы бездапаможна, усміхаючыся, кажа ён. На такога немагчыма крыўдаваць.

— Доўга чакаў? – пытаецца Наташа.

— Не памятаю. Доўга.

Наташа маўчыць.

— Мне трэба сказаць табе. Толькі не тут. Пойдзем са мной?

Наташа аглядаецца на сяброВак, тыя, зразумеўшы, смяюцца і бягуць у інтэрнат.

Яны ідуць моўчкі. Падымаюцца ў горку. Наперадзе ўжо відаць чырвоная воданапорная вежа. Сквер амаль пусты.

— Я не ведаю, як сказаць, Наташа. Думаў сёння ўвесь дзень. Не толькі сёння — даўно думаў. Я буду іншы, Наташа. Буду правільны. Я буду ўсё рабіць, як ты скажаш.

Наталька маўчыць, і ён у адчаі, часта-часта міргаючы, кажа нарэшце:

— Наташа, будзь са мной. Назаўсёды.

Яна нарэшце падымае сваю прыгожую, велічную галаву і глядзіць яму прама ў вочы:

— Буду.

Гэта заўтра ўжо яна скажа, што трэба скончыць тэхнікум, што бацька не дасць дазвол, покуль яна не давучыцца, што трэба ехаць у Пясочнае, і яны туды паедуць разам, да дзеда, строгага і суровага дырэктара пясочанскай школы. И будзе шмат і клопату, і турбот, і трывогі: а раптам перадумае, а раптам ён сарвецца — і ўсё скончыцца. А сёння яна проста кажа: буду. І ён доўга пяшчотна цалуе яе — валасы, скроні, вочы, вусны — у чорным цені чырвонай вежы на рагу Аляксандраўскага сквера.

## ІНБЕЛКУЛЬТ. «МАЛАДНЯК»

— Ну што, таварышы, пачнем, «помолясь».

«Таварышы» выбухаюць смехам: у Чарота сёння відавочна добры настрой, такім яго даўно не бачылі. Каспяровіч, дуркуючы, зацягвае густым басам:

— Гос-по-ду по-мо-о-о-о-о-лім-са-а-а-а-а-а... Зноў рагочуць.

— Міхась, як там далей, а ну? Прафесійна падцягні! — падначваюць Зарэцкага, у якога за плячыма і духоўнае вучылішча, і два гады духоўнай семінарыі. Той, сцяўшы вусны ў суровую нітку, бялее тварам.

Чарот, заўважыўшы тое, імгненна становіцца сур'ёзным.

— Так, годзе іржаць, хлопцы. Да справы. Першым пытаннем — даклад таварышаў Чарота і Дудара аб паездцы ў філіі. Дакладчык — Чарот, таму, не адкладаючы, пачну.

Ён расказвае пра паездку бадзёра і натхнёна: «Пераўлік, які павінен ачысціць шэрагі „Маладняка“ ад выпадковых таварышаў, мае станоўчае значэнне... Філіі звяртаюць увагу на выхаванне сяброў,

на іх вытрыманасць... Праца арганізавана... Сур’ёзныя хлопцы... Аўтарытэт філій расце...» Дудар, схіліўшы галаву, ківае ў такт Чаротавай гаворцы. Усё правільна, Міхась. Філіямі ўратуемся. Во такімі, як Броўка, гаспадарлівымі, з разлікам.

Ён ведае, што другім пытаннем будзе разглядацца справа менскай філіі. Ды, здаецца, усе ведаюць: у ЦБ паступіла калектыўная заява, па якой «старыя» перакінуліся ўжо словамі на тыдні. Трэба асадзіць. Дык вельмі добра зараз менавіта такі пачатак — бадзёры, грунтоўны. Будзе адкуль урэзаць па малых сапляках.

Урэзаць па сапляках збіраецца найперш Александровіч. Але і ён, Дудар, маўчаць не будзе. Тое, што старэйшыя рабілі сваімі рукамі тры гады запар, гэтыя шчанюкі збіраюцца разваліць за месяц. Трэба, як той казаў, біць па руках. Мо таму і настрой такі ва ўсіх падвышана вясёлы, акрамя, натуральна, Бобрыка, які будзе зараз дакладацца як кіраўнік менскай філіі. Зараз атрымае на арэхі. Бо нарэшце ўзяліся за арганізацыю, за выхаванне не толькі літаратурнае, але і чалавечае. Зарэцкі толькі нервуецца. Ён не любіць публічных лупцовак. Але нічога. Крапчэй будуць. Асабліва Валька Маракоў. Гэтаму даўно трэба як след пад хвост насыпаць.

— Даклад таварыша Чарота прыняць да ведама. Хто за? — абвяшчае нязменны сакратар пасяджэнняў ЦБ Сташэўскі. — Пастанавілі аднагалосна: прыняць да ведама. Ну, зараз пытанне другое. Даклад таварыша Бобрыка. Калі ласка, таварыш Бобрык. Дакладайцеся.

Бобрык, малады прыгожы хлопец, заўважна нервуецца. Але кідаецца ў бой з такім імпэтам, што Дудар мімаволі ўсміхаецца: а нічога такія паўстанцы.

— Пасля абрання бюро філіі быў распрацаваны план яе работы, затым пачалася праца па ягоным выкананні, — голас Бобрыка мацнее з кожным сказам. — Праводзіліся сходы, разглядаліся творы маладнякоўцаў, ставіліся даклады на агульныя тэмы. Аднойчы толькі быў перабой, як Дудар не мог зрабіць даклад у прызначаны яму дзень.

Дудар ледзь не падскоквае на сваім месцы. Ах ты, гаўнюк! Ужо Дудар табе працаваць замінае! Ажно перахоплівае дыханне ад вясёлага і злога здзіўлення: ну нахабы! Але ж чакацьму, пакуль ні слова.

Бобрык працягвае:

— Адбыліся два пасяджэнні бюро філіі. Першае — арганізацыйнае, другое — аб пытанні па матэрыяльным становішчы сяброў менскай філіі. Хлопцы ледзь не жабруюць. Ганарары з камарову дзюбу. Пэнсій «Маладняк» не дае, на працу не ўладкоўвае. Няма на што апранацца, набываць кніжкі, паперу. Што казаць пра ежу.

Маладыя паэты галадуюць, бывае, дзень ядуць сухую рыбіну. Незабяспечанасць матэрыяльная з'яўляецца прычынай песімістычных настрояў, роспачы, разгулаў. Мы просім... Просім ЦБ выдаць пяць стыпендый сябрам менскай філіі.

З-за стала павольна падымаецца Александровіч. Зусім невысокі, ён умее ў такія хвіліны выглядаць ледзь не Гуліверам.

— Дык значыць... – ціха кажа ён. – Значыць, таварыш Бобрык, на кніжкі нашым хлопцам грошай не хапае, а на разгулы з прычыны роспачы хапае? Я правільна зразумеў вас?

Бобрык глядзіць з выклікам і, складаючы паперку папалам, і яшчэ раз папалам, і яшчэ раз папалам, адказвае:

— Так.

— А, ну бывае. Нават магу сказаць, што добра ўяўляю, як усе наяўныя грошы трацяцца не на кніжкі, а на гулянку, а як гулянка добрая, то на досвітку прыходзіць галеча. Нават з «Еўропы» выйсці не паспееш. Ты не смейся, таварыш Каспяровіч, так яно і ёсць. Самі жабравалі, дык ведаем. Але, таварыш Бобрык, што можа зрабіць у гэтым выпадку ЦБ «Маладняка»? Стаць на Савецкай і трымаць сяброў менскай філіі за белыя рукі, як яны скіруюцца ў рэстаран? Умовы для вашай працы, таварыш Бобрык, былі створаны добрыя. Быў вызначаны платны кіраўнік філіі. Быў? Быў. Во які сыты. Значыцца, не адной сухой рыбінай кормішся. І гэты платны кіраўнік, таварышы, здолеў сабраць толькі адно пасяджэнне! Адно! Бо арганізацыйнае збіраецца адразу пасля абрання кіраўніка. За што атрымлівае плату наш кіраўнік? Але і гэта ладна. Цяпер да нашых галодных філійцаў-жабракоў. Маракоў. Двойчы быў уладкаваны намі на працу: у Полацак і ў Клімавічы. Не падышло.

— Але папярэдняе ЦБ давала працу маладнякоўцам у Інбелкульце! – горача ўсклікае Бобрык.

— Маракова на працу ў Інбелкульт? Ці, можа, вы, таварыш Бобрык, гатовыя да працы ў Інбелкульце? Ці, можа, таварыш Кляшторны гатовы прамяняць балкончык у «Еўропе» на кабінет у хоць якой камісіі Інбелкульта?

— Яны таму такой працы хочуць, што рабіць яе не змогуць, – уступае Каспяровіч. – Абы нічога не рабіць.

— Ну, паэтава праца – таксама праца, – падае голас Дудар. – Але ж і з гэтай працай менская філія спраўляецца дрэнна. Упадніцкія настроі ў творчасці Маракова і Кляшторнага паглыбляюцца і заходзяць як няможна далёка. Пра настроі ў творчасці таварыша Бобрыка наогул сказаць складана, бо творчасці гэтай нешта зусім не бачна. Ці зрабіла нешта філія ў плане выхавання сваіх сяброў?

Цяжка падымаецца Чарот. Ну, зараз будзе залп бранябойным.

— У лісце, які падпісалі сем сяброў менскай філіі... не будзем пералічваць, яны нам вядомыя... у гэтым лісце сказана, што старэйшыя... старэйшыя... Таварыш Бобрык, вы з якога года?
— Пятага, — гучна, але ўжо гледзячы ў падлогу, адказвае той.
— Пятага. Дудар — чацвёртага. Так. Значыцца, старэйшыя, — Чарот выразна глядзіць на Дудара, — крыўдзяць маленькіх. То бок маладзейшых. Затрымліваюць зборнікі. Плацяць па 15 капеек за радок. І, значыцца, умовы склаліся такія, што разам са старэйшымі працаваць болей немагчыма. Во як. А зараз адвернемся ад памянёнага ліста, які з'яўляецца красамоўным узорам творчасці нашых маладых таварышаў, і паглядзім на дакументы ЦБ. У апошні час у выдавецтва адпраўлены зборнікі выключна маладых. На днях забіраем зборнік Кляшторнага. За яго ён атрымаў 210 рублёў. Каб мы плацілі яму па 15 капеек за радок, дык, мабыць, выдалі б двухтомнік. Здадзены ў друк зборнік Каваля, сплачана аўтару 245 рублёў. У крамах ужо ляжыць зборнік Маракова. У рэдкалегіі на разглядзе знаходзяцца зборнікі зноў жа Кляшторнага, Маракова, Бандарынай і іншых (калектыўны), зноў Маракова — асобны. Ані маіх, ані Дударовых зборнікаў у рэдкалегіі няма. Да друку прыняты зборнік Звонака, у якім я асабіста правіў слабыя вершы. Ганарары. Кляшторнаму плацім 30 капеек за радок, Кавалю — 70 рублёў за аркуш. За кожны аркуш, за кожны радок! Але палова матэрыялу ў гэтых зборніках ужо друкавалася ў часопісе і аплачвалася ганарарам, мы можам плаціць цяпер толькі палову ад першай аплаты, але парушаем гэтае правіла на карысць аўтараў. І яны, пабачце, на такіх умовах умудраюцца грызці з раніцы да вечара сухую рыбіну! Жабраваць! Гібець у п'янках! Усё, што можа рабіць Цэнтральнае бюро ў межах сваіх магчымасцяў, яно для вас робіць.
— Але, Міхась, калі хлопцы адчулі, што іх кінулі, што няма ім увагі і дапамогі, дык то, можа, гэта ўсё ж віна ЦБ? — уступае ў спрэчку Зарэцкі.
— Але, Міхась, можа, «Маладняк» не дзіцячы садок? — з'едліва парыруе Чарот. — І мы не павінны паблажліва ставіцца да паэтачванства, якое квітнее ў менскай філіі. Захапіўшыся сваімі «талентамі», страціўшы адчуванне калектыву, і Маракоў, і Кляшторны дазвалялі сабе неэтычныя выказванні на адрас іншых маладнякоўцаў. Хто памятае, які скандал падняў Маракоў, калі пры пераўліку атрымаў нумар сяброўскага білета не ў першай дзясятцы, а з «нейкімі там калінінцамі»? Мы толькі што прыехалі з філій, і я вам скажу, што гэта «нейкія там менскія», а не калінінцы, палачане і гэтак далей. Група пісьменнікаў, якая падпісала ліст, паставіла на першае месца свае асабістыя інтарэсы. Таму я прапаную, — голас Чарота

становіцца халодным і металічным, – прапаную: таварышаў Кляшторнага, Звонака, Маракова, Туміловіча, Плаўніка, Бобрыка і Каваля, падпісаўшых ліст, з аб’яднання выключыць.

Бобрык бялее з твару, але глядзіць злосна.

— Справу кожнага, хто вырашыць вярнуцца ў аб’яднанне і падасць адпаведную заяву, ЦБ будзе разглядаць паасобна, – рэжа Чарот. – Часовым кіраўніком філіі назначаецца Андрэй Александровіч. Прашу, таварышы, галасаваць. За. Ага. Супраць. Так. Адным голасам «супраць» – прымаецца.

Зарэцкі, які галасаваў супраць, паціскае плячыма.

Бобрык стаіць пасярод пакоя, разгублена азіраючыся. Чарот збірае паперы і, развітаўшыся з Каспяровічам і Александровічам за руку, выходзіць на калідор, і вось ужо чутны ягоныя шпаркія крокі – пэўна, ёсць яшчэ справы. Ціха, незаўважна знікае Сташэўскі.

— Ты, Янка, толькі ў рожкі не бярыся і хлопцам скажы. Падасце заявы на аднаўленне, разгледзім, ну, прапясочым крыху, але возьмем назад, – прымірэнча кажа Зарэцкі.

— Александровіч не возьме, – злосна кажа Бобрык.

— Ну, ён у ЦБ не адзін, – кладзе яму руку на плячо Зарэцкі. – Вернецеся, будзеце працаваць. Ну, крыху заеліся, насы пазадзіралі. Трэба было шчоўкнуць.

— Шчоўкнулі дык шчоўкнулі, ажно паадрывалі, – крывіцца Бобрык.

— Нічога, адрастуць. То ж насы, а не нешта іншае, больш важнае, – суцяшае Дудар. – Пайшлі, Янка, падлечым троху твой пашчоўканы нос.

Раптоўна ён успамінае, што абяцаўся Наташы сёння быць і да таго не піць.

— Хоць не, браце. То іншым разам. Сёння справы ў мяне.

Зарэцкі са здзіўленнем глядзіць на таварыша.

— Ну справы, сказаў жа. Трэба быць сям-там.

Зарэцкі падымае бровы яшчэ вышэй і раптам б’е сабе рукой па ілбе.

— Дык гэта што, значыцца? Пагадзілася?

Дудар імгненна чырванее, але не можа стрымаць усмешкі.

— Дык гэта таму ты такі строгі стаў, брат! – рагоча Зарэцкі. – Глядзі, жагнацца і пляваться будзеш, як пойдзеш паўз «Еўропу» наступным разам! Бач, як крута ўзяла Наташа ў абарот!

Бобрык расхінае вочы.

— Вішнеўская?

— А то ты не ведаеш! Нарэшце абкруціла хлопца.

— Нічога яна не абкруціла, я сам, — зусім па-дзіцячы кажа Дудар, заплікнуўшы партфель і паправіўшы роўна гальштук. — Бывайце тады, хлопцы. Вальку і Кавалю ад мяне прывітанне перадайце. Няхай не плачуць, а лепей зойдуць заўтра да мяне на Правадную, пагамонім. Зарэцкі і Бобрык паціскаюць яму руку, і Дудар сыходзіць. Упершыню з гэтага пакоя ён сыходзіць без сяброўскага працягу. Так, упершыню за чатыры гады.

## ЦЯГНІК. МАСКВА – ІРКУЦК

У ліпені яны з Толькам узялі і паехалі ў Сібір.

У «Маладняку» далі яму адпачынак. Наташа з'ехала на канікулы ў Пясочнае да бацькоў. Дудар быў з'ездзіў туды на тыдзень і ледзь вытрываў: вёску ён надта не любіў. І хоць хата дырэктара пясочанскай чатырохгодкі была, можа, і чысцейшая за матчыну кухню на Правадной, дзе кожны дзень варылася свінням і жарылася-парылася сям'і і бясконцым ягоным гасцям, але вясковая цішыня, бессаромныя вочы суседзяў, аднолькавасць гэтых празрыстых вечароў, якія яны праводзілі, гуляючы сцежкай паўз жыта да лесу і назад, — усё гэта дужа нудзіла. Наташа побач з бацькамі была прахалодная, дазваляла хіба толькі да рукі дакрануцца і тое так, каб ніхто, крый божа, не пабачыў, у пуню да яго, дзе добрым надвор'ем паслалі жаніху, не прыходзіла, бо надта баялася дзеда і бацькі, і з'язджаў ён з Пясочнага з відавочнай радасцю. Наталька нават крыху пакрыўдзілася. «Любая мая, не крыўдуй! Ну гарадскі я чалавек! Дый ты сама такая ж! Перабудзеш месяц, покуль мы з Толькам злётаем туды-сюды — і пабачымся, усё жыццё наперадзе ў нас!» — суцяшаў яе, а сам ажно трымцеў чаканнем дарогі.

Праз увесь 1927 год газеты, асабліва «Звязда», шмат пісалі пра беларускіх перасяленцаў у Сібіры і на Байкале, і яны з Толькам загарэліся паехаць да іх.

— Ты ўяві толькі, Шурка, яны ж там як закансерваваныя! Беларусы, якіх не кранула ані нямецкая, ані польская вайна! — узбуджана прамаўляе Толька, седзячы ў яго на Правадной. — Мы з табой усё там разведаем, а потым я вазьму кіношнікаў, нагрузімся па самыя вушы — і паімчым да іх з камерамі! Ты ўяві, Шурка, ты толькі ўяві, якімі мы іх пабачым! Толькі нікому, чуеш? Бо палова Інбелкульта рыне за намі следам! А мы з табой цішком.

Дудар радасна пасміхаецца. Толькава ідэя грэе яго ад самага пачатку: апошнім часам жыццё да таго ўсталявалася, што ажно

моташна. Усё зразумела, прадказальна, правільна. Кожны вечар – справаздача ў Наташы: не быў, не хадзіў, не піў. Кожная раніца – у белай адпрасаванай кашулі, пры гальштуку, у рэдакцыі. Здаецца, усё жыццё марыў так жыць, але нешта бярэ нуда.

Дадала яшчэ і Наста. Той травеньскі нумар «Узвышша», у якім пераможна выйшлі Дубоўкавы «Кругі», імгненна зачытаныя беларусамі ажно да дзірак, працяў яго наскрозь. Тая Наста Нарутавічанка з паэмы – ён адразу зразумеў, што гэта яна, Наста Нарутовіч. Яе думкі, яе стыль, хоць і перароблены ў верш. Сур'ёзная, зацятая, з мужчынскімі думкамі ў прыгожай дзявочай галаве. Акрамя яе, не было такіх дзяўчат у «Маладняку», а тое, што пісала маладнякоўка, падрыхтаваная ў літаратуры, абазнаная ў ёй, – гэта было адразу відаць. Значыцца, напісала Дубоўку. Не яму, а Дубоўку. З Дударом, значыцца, цалавалася, яму аддавалася, гарачыя словы шаптала, плакала ў роспачы, як з'язджаў, сустракала, ажно хістаючыся ад шчасця, а лісты пісала, значыцца, Дубоўку. Пра мэты паэзіі, пра чалавека ў вершы. Кім ён, Дудар, быў тады для яе? Каханкам адно толькі? З кім пра вершы гутарыць немагчыма? Ён памятаў, як аднойчы зайшла ў іх гаворка такая, вакол вершаў, памятаў, што яна тады казала яму, гэта з ім яна такая была, чаму ж яму не пісала? Не надта добры ён для яе быў паэт? Дубоўка, атрымліваецца, лепшы? Тады ён зразумеў нарэшце, за што так біўся ён з Дубоўкам, захапляючыся ягонымі вершамі, разумеючы маштаб ягонай постаці. Сваім існаваннем, сваім абаяннем, маскоўскасцю сваёй, сілай і імпэтам ён нібыта адмаўляў астатнім у існаванні. Існаваць можна было толькі ў арбіце ягонага прыцягнення і ніяк інакш. У параўнанні з ім, масквічом – ах, ах, у Крамлі працуе, з Маякоўскім ручкаецца! – яны, сярмяжныя, тутэйшыя, выглядалі зломкамі ўсе. Нават у тым, як Дубоўка выходзіў на сцэну, упэўнены ў сабе, упэўнены, што лепшы за іншых, што адзін толькі ён і ведае, як правільна, бо вучыўся ў Брусава, бо з Ясеніным гарбату піў, нават у гэтым была неадменнасць. І немагчыма было не паддацца, немагчыма было не глядзець на яго, як на бога, сапраўды. Вось і Наста... Яна ж кахала яго, Дудара, ён гэта ведаў, не мог падманвацца, кахала яго, а сур'ёзна ўспрымала Дубоўку. Нават яна. Што казаць пра хлопцаў. Тыя, хто гарланіў Дубоўку хваласпевы, хто цытаваў направа і налева, хто глядзеў на яго ўлюбёнымі вачыма, атрымлівалі месца побач, на астатніх глядзеў ён з вышыні гуліввераўскага свайго росту. Чым былі таленавіцейшыя за Дудара Лужанін і Глебка? Ды нічым.

І ён не ведаў, якія там асабістыя рахункі былі ў Гартнага да Дубоўкі, што ён цкаваў яго на кожным кроку і пакляўся не друкаваць ніводнага ягонага слова, але ён, Дудар, ненавідзеў яго, Уладзіка,

менавіта за гэта. За тое, што ён прысабечыў паэтычную праўду. За тое, што выкрэсліваў усіх, хто гэтай праўдзе не адпавядаў. І яшчэ — за Полацак. І за Насту, за гэты яе ліст, і за паэму гэтую, бліскучую настолькі, што балела ў вачах.

А тут нарэшце — вялікая справа! Палёгка пасля тыдняў, калі гарэў ва ўласнай нянавісці. Можа, яны стануць для сібірскіх беларусаў ўратаваннем — вестунамі з Радзімы, якая цяпер жыве і квітнее, узняўшыся з ваеннага попелу. Думкі пра Сібір унутры прымаюць характар газетнай перадавіцы, але ён нават не заўважае гэтага, бо ў сэрцы пануе святочны настрой. Тым больш што і Толька, куляючы ўжо другую шклянку агрэставага віна, прамаўляе не горш за «Савецкую Беларусь».

— Яны ж там, Шурка, нікому не патрэбныя. Ты думаеш, яны там уладам патрэбныя? Рускім? Шчэ чаго. Думаю, гаруюць яны там моцна. Што тая Сібір? Да яе, можа, і савецкая ўлада не дабралася. Ані свету, ані газет. Ты мапу глядзеў? Гэта ж немаведама дзе, Шурка. Ані табе беларусізацыі, ані школы, ані ўніверсітэта, ані кіно.

— Асабліва кіно.

— Асабліва кіно, Шурка!

— Не, я згодзен з табой, вядома ж. Сам, як гляджу, асабліва амерыканскае, выходжу як зачараваны. Хаця, ведаеш, ад кніжак мне лепш. Кіно, разумееш, гэта ўсё чужое. Нехта іншы за цябе прыдумаў, уявіў, акцёраў падабраў. А я, як кніжку чытаю, сам сабе ўсё гэта ўяўляю. Я сам сабе кіно.

— Ну, у тваіх здольнасцях, браце, я не сумняюся. Але ты такі адзін. Ну, не адзін. Шчэ з дзясятак. А кіно, брат, для ўсіх.

Ніяк не супакоіцца Вольны са сваім кіно. Здаецца, ужо год — ці колькі? — уцягнуты ён у справы Белдзяржкіно, а захапленне і зараз — як у першы дзень. Ажно зайздросна. Пэўна, так і ў Дубоўкі з Бабарэкам з іх «Узвышшам»: год прайшоў, а яны ўсё такія ж апантаныя, як у першы дзень. А ён у «Маладняку» стаў адчуваць сябе там нібыта чужым — як стары адчувае сябе госцем ва ўласнай хаце побач з падрослымі дзецьмі і з іх жонкамі-мужамі. Ходзіць толькі, кратае сцены рукамі, кожнае бервяно тутэйшае памятае, як яно дрэвам расло, а чужы.

Збіраліся доўга, у смак. Перакладвалі туды-сюды рэчы, якія ўзяць з сабой, хоць што браць: змену бялізны ды колькі чыстых нататнікаў, астатняе — кніжкі. Але раіліся, кожны адкладаў дома тую бялізну і нататнікі асобна, цягалі з Інбелкульта стосы літаратуры і думалі: то на Байкал. Яшчэ ўзялі па невялічкай чарачцы, каб у запасе свая была. Каньяк. Ну, як у буфеце не будзе раптам. Сухой, ажно каменнай каўбасы, закручанай у газету. Такая куды

хочаш даедзе. Нешта ўжо і замнога атрымліваецца. Чамаданамі павязём.

Бегалі па камітэтах, па рэдакцыях, перастрэслі краязнаўчую камісію Інбелкульта – ніхто нічога не ведае пра тамтэйшых беларусаў! Колькі іх, дзе яны, як дабірацца? Хто адказны? Праз каго шукаць? Пастанавілі ехаць да Іркуцка, а там пытацца. Заадно было заслухана і аднагалосна прынята рашэнне заскочыць на Байкал і паглядзець на яго хоць бы адным вокам.

І нарэшце выехалі.

— Усё, Толька, чорт, налівай. Не магу, як смажыць! Покуль у Менску быў, дык нешта трымала, а зараз – усё! Ты б так паспрабаваў жыць, як я жыў! Давай, без гутарак залішніх, – і Дудар, асабліва часта міргаючы, куляе запаветную чарку.

Вольны пачынае рагатаць, б'ючы сябе па каленках далонямі:

— О-о-о-о, прыпякло хлопца! Развязаўся наш жаніх! Дык мо ў вагон-рэстаран пойдзем?

— Ды пачакай ты. Туды таксама пойдзем. Давай – за Байкал.

І калі спытаць, што яны абодва памятаюць пра тыя чацвёра сутак, што едуць праз усю Беларусь, выходзяць у Маскве, на Беларускім вакзале, амаль у непрытомнасці ўжо грузяцца ў «сібірскі экспрэс», займаюць там купэ ў спальным вагоне і бяруць кірунак на Іркуцк, дык яны наўрад ці раскажуць. І вагон-рэстаран, і вясёлая цётка ў белым фартуху ў ім, з якой уночы гарланілі «Вярбу», і малады хлопец-татарын за столікам, якому ўдвух убівалі ў галаву беларусізацыю, і вусаты селянін з хітрай усмешкай, якому прамаўлялі за камсамол, і асабліва вясёлы перагон Балезіно – Перм, калі ўвесь рэстаран, здаецца, згрудзіўся вакол іх стала і гамерычна рагатаў, а Вольнага ажно несла з салёнымі, крэпкімі жартамі, і чарнавокія строгія дзяўчаты на вакзале ў Цюмені, дзе цягнік адпачываў ажно дзве гадзіны і дзе нарэшце можна было пастаяць на цвёрдай зямлі – усё неслася перад вачыма ў жудаснай куламесе, і лёгка, свабодна, ажно да віску шчаслівa было ўнутры.

На станцыю Іланскую прыехалі раніцой. Спадарожнікі, якія ціха туліліся ў купэ на верхніх лавах ажно ад самага Ачынска, асцярожна развіталіся і сышлі, і Шурка з Толькам ускочылі разам, ускудлачаныя, зхуднелыя, і глядзелі ў акно невідушчымі вачамі.

— Усё, Толька, я здаволіўся. Болей не хачу. Сёння, прынамсі. Чорт, ці не праехалі мы свой прыпынак?

— Не маглі, – Толька энергічна матляе галавой і моршчыцца. – Шчэ ў Бурмакіне падарунак купляў Ніначцы, каб сачыла за намі і ў Іркуцку ссадзіла. Там усё адно апошняя станцыя, але ж падарунак хацелася ёй падараваць.

— Якой Ніначцы?

— Ды пайшоў ты. Як у Ноўгарадзе на вакзале лез цалавацца да яе – не памятаеш ужо? Нашая праваднiца, ну.

— Цалавацца лез? – Шурка запускае пальцы ў спутаныя валасы і сціскае галаву. – І яна што? Далася?

— Ды не.

— Шкада.

Да Тайшэта яны адлёжваюцца. Прыгожая Ніначка ў беласнежнай кашулі, у якой цесна высокім грудзям, ласкава пасміхаючыся, прыносіць гарбату і ваду, клапатліва прыбіраецца на стале.

— Ніна, ці не крыўдуеце вы на мяне? – бярэ Шурка яе за руку.

Ніна весела смяецца.

— Я уже даже ваш язык выучила и не обижаюсь.

Дудар у захапленні глядзіць на Вольнага:

— Ты пабач, Толька, якія дзяўчаты едуць з намі ад самай Масквы! Забіраем вас з сабой у Менск!

— А как же Наташа? – гарэзліва пытаецца Ніна, і Дудар адпускае яе руку, моцна зажмурваецца і адкідаецца на сцяну купэ. Усё выпаліў як ёсць. От жа язык. Вольны рагоча і прысёрбвае салодкую гарбату.

— У нас тут вчера у двоих чемоданы обчистили, – збіраючы броўкі над пераноссем, паведамляе Ніна. – Вы, может, проверили б чемоданы. Не пропало ли что?

— Ох, Ніна, калі яны і сунулі нос у нашыя чамаданы, дык у той момант і высунулі! У нас там адны толькі беларускія кніжкі! Але ж я шчэ ў першы дзень у вагоне-рэстаране паведаміў: маўляў, два чамаданы кніжак вязём! Беларускіх! Дык тыя зладзеі, пэўна, плакалі ўвечары, нас шкадуючы, – рагоча Вольны.

За вокнамі купэ тайга. Сонца ўжо высока і мільгае нясцерпным святлом праз хвоі і лістоту.

— Глядзі, Толька, нібыта як нашыя лясы. Хіба што ў нас такія... кудлаценькія, ніжэй троху, а іхні лес стромкі, уверх выцягнуты. Бачыш? І колеры. У нас жа лес не зялёны, ён і светлы, ажно жоўты, і аксамітавы, і малахітавы, і цёмны, ажно сіні, а тут зялёны, дый годзе.

— А я дык пра другое думаю, Шурка. Ты пабач, які лес. Як яны ўгрызліся ў яго? Што чыгунку праклалі ажно? Я, ведаеш, сам фізічнай працы не люблю, але ж калі такое бачу – у мяне такі гонар, Шурка, за чалавека, за тое, што ён можа... У такім лесе адно дрэва паваліць – праца, а тут жа валілі тысячы... Працоўны чалавек – усё ж багацце найвышэйшае. Гэта табе не вершыкі папісваць.

— Ну, ведаеш... Дрэва паваліць кожны можа, а вершыкі папісваць – не кожны. Чалавеку трэба быць на сваім месцы, я так лічу.

Як нарадзіўся паэтам – трэба пісаць, а не дрэвы валіць. Мы не меней робім. І таксама ўгрызаемся. Во як угрызліся ад самага Менска. Галава трашчыць.

— Ладна-ладна, не круці тады галавой сваёй, якая баліць ад вершаў, таварыш паэт, празаік і крытык. Ты-ж у нас, зразумела, пралетар. Тры фронты сабой закрываеш. Слухай, а што, як нам шчэ для падлеткаў папрацаваць? Ці ёсць у нас што для дзяцей годнае? Каб прыгоды, каб цікава і па-нашаму, а?

— Толькі не сёння.

Вольны ківае галавой:

— Добра, не сёння. Заўтра?

Дудар са стогнам валіцца на паліцу:

— Пашкадуй, Вольны, дай троху памаўчаць. Галава гудзе. Як на дрэвы за акном гляджу, дык яны колам круцяцца, па небе бягуць...

— Ну то памаўчы, памаўчы, хлопча. Таксама трэба. Бо як даедзем – моцна прамаўляцца будзем.

Дзень ратуюцца гарбатай, на станцыі Зіма Ніначка прыносіць чыстай крынічнай вады, якую прадае ля цягніка маленькая дзяўчынка. Ваду каўтаюць прагна, ажно яна бяжыць па падбароддзях, блытаецца ў чатырохдзённым шчаціnні, збягае за каўняры.

— Слухай, Вольны, якія ж мы з табой брудныя і смярдзючыя едзем! – раптам схопліваецца Дудар. – Зараз бы ў лазню якую... ці ў возера сігануць!

— Хоць бы пагаліцца, – пагаджаецца Толька.

І калі яны спыняюцца ў Тыраці і Ніначка паведамляе, падміргваючы: «Будем пропускать почтовый и два скорых из Иркутска, часа четыре простоим», – выходзяць з вагона і, крыху агледзеўшыся, накіроўваюцца да дамка ля станцыі. Там хуценька дамаўляюцца з жанчынай, якая выходзіць ім насустрач, і, распрануўшыся да пояса, у смак абліваюцца на двары калодзежнай вадой, фыркаюць і смяюцца, круцяць у руках мыльны корань, які выдае ім смяшлівая прыгожая гаспадыня, спрабуюць намыліць ім галаву, зноў абліваюцца і рагочуць на шчасце двум малым хлапчукам, якія сочаць з-за дрывотні за вясёлымі дзядзькамі. Дзядзькі гэтыя, памыўшыся і пагаліўшыся ля прыладжанага да слупка люстэрка, хапаюць па два вядры і адпраўляюцца ў блізкі калодзеж прынесці гаспадыньцы вады, а потым нарэшце заўважаюць і хлапчукоў, і ўжо праз паўгадзіны малыя браты маюць кожны вялікі індзейскі лук, зладжаны з палкі і абрыўка вяроўчыны, і па тры стралы, з вострымі дзюбамі і рассечанымі хвастамі – каб лацвей упіраліся ў вяроўчыну. Шмат якіх таямніц далёкага Францысканскага балота паспелі б раскрыць ім вясёлыя беларусы з пыльнага, стомленага цягніка, што

спыніўся на Тыраці, калі б не праімчаўся, разрываючы ліпеньскую спёку, хуткі з Іркуцка, калі б не залямантавала, размахваючы рукамі, Ніначка і калі б не загудзеў пакутна і цяжка стомлены паравоз. У вагон Шурка з Толькам ужо ўскоквалі на хаду, і з захапленнем глядзела на іх, спрытных і прыгожых, усхваляваных прыгодай, клапатлівая Ніна.

На досвітку прыбылі ў Іркуцк.

## ГОРАД. ІРКУЦК

— Як мы туды патрапім? А я табе зараз скажу як. Пайшлі! — і Вольны, сунуўшы рукі ў кішэні, упэўненай хадой скіроўваецца з вакзала на шырокую вуліцу.

Навокал дыхае вялікі горад. Высокія, дыхтоўна складзеныя, упрыгожаныя каменнай разьбой камяніцы, магутныя муры храмаў, калоны ля высокіх дзвярэй былых прысутных месцаў.

— Здаецца, такі край свету, а пабач ты, — дзівіцца Шурка і круціць галавой на ўсе бакі.

— Сам ты край свету. Свет круглы. Дзе ў яго той край, — бурчыць Вольны. — То наш Менск — край свету. Далібог, Шурка, калі-небудзь, як зусім новае пойдзе жыццё, зруйнуем яго зусім і на месцы ўсіх гэтых няміг і пярэспаў пабудуем Горад Сонца. Вялікі, прыгожы, з шырокімі праспектамі і каб асфальт. А то ўспомніць, дык сэрца баліць: шпакоўні нейкія паналеплены, катух, а не горад. Сквер гэты чахлы пасярод, аблуплены Тамаш — і да самых Татарскіх адна шурпатая галота. Цьфу. Тут, пабач, як дагледжана. Але і ў нас будзе. У іх тут, пэўне ж, ані немцаў, ані палякаў, ані Суворава не было. Як у Хрыста за пазухай. Чаго не будавацца.

— Я такім шчэ Казлоў памятаю, дзе мы ў бежанстве былі. Такі самы крэпкі, магутны. У нас няма такіх гарадоў. У нас неяк больш сціпла будуюцца. Востранька так. А тут кругла. Дык а ідзём мы куды?

— Ды на рынак. Як тут беларусы ё, дык яны і тут з раніцы сваю цыбулю і глечыкі прывязуць прадаваць, пабачыш.

— Дык адкуль ведаеш, дзе тут рынак?

— А я яго адчуваю.

І праўда, ужо чутны гоман кірмашу, іржанне коней, смех, гутарка — і з-за вялікай камяніцы раптоўна адкрываецца плошча. З усіх бакоў абступаюць яе высокія, у два-тры паверхі, дамы, пасярод яе — драўляныя насцілы, на іх ужо ходзяць гаспадыні, тыя, што не

песцяцца ў ложках ажно да сонца, а ўстаюць яшчэ ў прыцемках, каб усё паспець.

Абапал насцілу стаяць павозкі. Іх пакуль няшмат. Ягады, зялёнае пер'е цыбулі, кроп, сушаная рыба, пух і пер'е на падушкі, крыху пааскубаныя, з зімы яшчэ не прададзеныя вавёрчыны і лісіныя шкуркі, за імі — малако і тварог.

Раптам у агульнай гамане чутно скорагаворкай:

— Малачко ад брыклівай кароўкі, каб дзеткі раслі лоўкі!

Вольны штурхае Дудара ў бок:

— Нашы!

— Ды чую сам! — шырока ўсміхаецца Дудар. Цвёрдае, смачнае «ч», нібыта прыпраўленае смятанай, вільготнае «дз» коцяцца па ранішняй плошчы рознакаляровымі мячыкамі. От гэты Вольны, чарцяка. Нідзе ён не прападзе.

І сапраўды, то нашы. Тры вазы — са Смаленшчыны, вёскі за сто кіламетраў ад Іркуцка, па сібірскіх адлегласцях — зусім блізка. Першы дзень гандлююць малаком і тварагом, якія вязуць хутка, абярнуўшы белыя тварожныя кругі ў чысты лён, абсыпаўшы соллю і закідаўшы леташнім сенам. Потым тры дні — палатном, ручнікамі, крынкамі, сурвэтамі, што за даўгія месяцы наткалі-нашылі майстрыхі. Акрамя летняга гандлю, яшчэ выбіраюцца на рынак увесну — з каўбасамі, салам, вяндлінай, прадаюць за ўсё сяло, потым дзеляць грошы паміж аднавяскоўцамі, забіраючы гандлярам добры працэнт. Як пачакаеце тры дні — гайда да нас у Смаленшчыну, хлопцы! Там у нас — самая Беларусь. Але цяпер вы распавядайце. Як там дома? Вы дык менскія, гэта зразумела, але мо што чулі пра скварцоўскіх, то пад Баранавічамі? А я з Віцебска, дык мо што пра віцебскіх? А такога Яўхіма Краўца з Мар'інай Горкі не ведаеце? То бацька мой.

Гамоняць доўга. Пра калгасы і хутары, Прышчэпава і Баліцкага, Яўхіма Краўца з Рудзенска (не, гэта не той!) і гандаль на Ніжнім рынку, пра кошты і нэпманаў, пра беларусізацыю і ўніверсітэт, цэрквы і школы. Сібірскія беларусы распытваюць асцярожна, прыглядаюцца, стрымана пасмейваюцца, потым становяцца смялейшымі.

— Не, мы тут у калгас не пайшлі. Паасобку пакуль. Усё ж сваё — гэта сваё. Не за тым ехалі тысячы кіламетраў, каб зямлю гэтую ў агульны кацёл скідаць. Я ж яе сваімі рукамі карчаваў, у дачок пальцы не разгіналіся, як асот і пыр'е з цаліны цягалі. Не, хлопчыкі, нас пакуль не ціснуць, дык мы і не ціснемся. Во пабач, сырок які. Беленькі, тлусты. Гэта таму, што кароўка — свая. Бярыце, частуйцеся яшчэ, хлопчыкі.

— А што школу беларускую, дык то было б добра, а як жа. Бо нашы час сядзяць як нямыя, саромеюцца настаўніку што сказаць, бо ён сварыцца, як не па-руску, няправільна.

— Які там інспектар! Га-га-га! Мы тут самі сабе інспектары! А то праўда, хлопцы, паехалі б з намі, пабачылі б, як жывём – самі сабе гаспадарым. Не надта яно багата, вядома ж, і зямля цяжкаватая, зарастае – гвалт, усё роўна, хлопцы, рабіць трэба, без работы яно ж як...

— А колькі грошай на білет аддалі? Ого... І паехаў бы, але ж дзе ўзяць... ды карову на каго на такі час пакінуць, парсючкоў... Эх...

— Не, камсамола няма ў нас. Неяк чытальню адкрылі, прыслалі камсамольца, а потым і закрылі, бо які ж малады ды гарадскі вытрымае, ад нас да іхняга... як гэта... да якога райкама тры дні коньмі, два тыдні пехам. Потым да Яўхіма перанеслі, у яго цяпер нібыта чытальня, і таблічка вісіць, так. Толькі кніжкі парасцягалі. А беларускіх кніжак возьмем! Гарун быў у мяне, дык усёй вёскай якім ужо кругам чытаем... Паловы старонак няма.

— То вам тады ў Новасібірск трэба. Там нашых шчэ болей, як тут. Тут раскідана па тайзе: дзе мы, а дзе Култук, а дзе Тургенеўка, а дзе Лідзінск... У Лідзінску ўсе – з Ліды, таму так назвалі. У нас – з-пад Смаленска, віцебскія во ёсць, з Лепеля сям'я, таму Смаленшчына, а хутар іхні – Віцебскі. А Шаманка – дык тое ўжо тутэйшая назва, але жывуць нашы ўсё адно ў той Шаманцы, далёка, праўда, кіламетраў дзвесце адсюль. Дык добра, каб па шашы, а то ж тайгою. Увосень ці ўвесну не дабярэшся нават коньмі.

— Як у Новасібірск прыедзеце, дык ідзіце да таварыша Бойкі. Што за ён, не ведаю, але пісала мне сястра з Бальшарэчкі, што ёсць такі, адказвае за беларусаў. Наш нейкі хлопец – Бойка.

— На Байкал? Дык то вы садзіцеся на Іркуцку-Сарціровачным і там па кругабайкалцы – туды і назад. Прыгожа, так. Я-та сам не ездзіў на той Байкал, але з Тургенеўкі швагер мой быў, казаў: ёсць што глянуць і рыбы шмат. Ну, рыбы і ў нас шмат. А там на кругабайкальскай яе вунь сын робіць – тунэлі б'юць у гарах. Паўгода там, паўгода дома, і заробак нішто сабе.

Слова за слова – бяжыць час. Бліжэй да абеду, калі малочнае ўжо прадалі і можна крыху адпачыць, бо цяпер ужо нічога не скісне, а як скісне, дык не ў цябе, у гэты блаславёны час, пакінуўшы ля вазоў жанчын, мужчыны адпраўляюцца прайсціся па горадзе. Доўга шукаюць, як спусціцца да Ангары: высокі бераг, стромы, унізе – бясконцыя бярвенні і дошкі, выкінутыя магутнай ракой з лесасплаўных плытоў. Вольны з захапленнем глядзіць на раку:

— Якая спіна, Шурка, ты толькі паглядзі, якая ў яе спіна, колькі яна на сябе нясе! Як тая казачная рыбіна!

Нарэшце знаходзяць і спуск – ля былога інстытута. Тут, пад серабрысценькімі, зусім нібыта беларускімі вербачкамі знаходзяць месца пасядзець. Ангара плешча зусім побач, і Толька, не стрымаўшыся, скідае боты і ступае ў ваду.

— А-а-а-а! – крычыць ён у захапленні. – Лёд, Шурка! Лёд! Ажно ногі пячэ! А якая празрыстая, ты паглядзі, бачна ўсё! А чысценькая! Я ў нашу Свіслач нагу баюся паставіць, каб на якое гаўно не стаць, а тут, ты пабач!

Шурка незадаволена моршчыцца: ну нашто ўжо ганіць тут перад чужымі сваё?

Мужыкі, нібыта пачуўшы ягоную думку, ківаюць галовамі:

— Бывае, хлопча, і гаўно, але ж сваё. Гэтая рака бязлітасная, колькіх з'ела, колькі загубіла. Празрыстая вада, але злая. Ладна, хлопцы, давайце от... Нашай, беларускай сібірскай, кедравай... Што, не каштавалі шчэ такой? Добрая рэч. Толькі закусвайце. Во сыру баба паклала, з кменам. Ну, давайце. За Менск наш давайце.

І бяжыць па целе крэпкая, ажно слёзы шыбе, духмяная кедраўка, ад якой празрыста і лёгка становіцца ў галаве, халодна пад каленкамі і цёпла ў сэрцы.

# ПРЭСА І ДАКУМЕНТЫ

Председателю
Центрального исполнительного комитета Белоруссии
Копии: Генеральному секретарю ЦК ВКП(б)
Председателю Совета народных комиссаров
Народному комиссару Просвещения
А. Дудара, Ан. Вольного

В июле и августе с. г. мы по командировке Наркомпроса БССР и редакции газеты «Савецкая Беларусь» совершили путешествие в Сибирь и на Дальний Восток для ознакомления с жизнью белорусов-переселенцев в этих краях.

Не получив никаких сведений по этому вопросу ни в Инбелкульте, ни в других учреждениях, мы направились непосредственно в краевой центр Сибири – Новосибирск. Там, в краевой национальной комиссии, также полных сведений о местах расселения белорусов не нашлось. Не нашлось и точных цифр белорусского населения в Сибири. По тем же сведениям, которые удалось найти, сведениям, безусловно, неполным, что было признано и секретарем

нацкомиссии, состав белорусского населения в Сибири определяется в следующих цифрах: 428 700 человек.

Сведения о количестве белорусов по Красноярскому и Иркутскому округам мы получить не смогли. Не могли получить никаких сведений и у уполномоченного наркома земледелия Белоруссии в Сибири гр. Бойко, которого невозможно найти в его учреждении, где он бывает только эпизодически.

Большинство переселенцев живет здесь лет по 20, но, несмотря на это, они сохранили и язык, и одежду, и обычаи почти в полной чистоте.

Работа среди национальных меньшинств в Сибири поставлена хорошо только в отношении малых национальностей, как немцы – 80 000, латыши – 60 000, мордовцы – 70 000 и др. Они имеют свои секции при комиссии нацменьшинств краевого ОНО, имеют свои газеты и довольно густую сеть школ. В отношении же белорусов, украинцев, поляков и евреев существует мнение, что среди них не нужно проводить никакой культурной работы на их языке, потому что, «живя среди русских, они вполне усвоили русский язык», как сказал делегат татарин на сибирском совещании нацменьшинств.

По официальным сведениям краевого ОНО, на всю Сибирь насчитывается 10 белорусских школ – почти на 1/2 миллиона населения. В отдельности две школы должны были располагаться недалеко одна от другой в Болотинском районе Томского округа – поселок Большеречье и поселок Березовка, куда мы и направились. Но, отъехав от железной дороги и прибыв в поселок Большеречье и поселок Березовка, мы убедились, что обе школы, отмеченные комиссией как белорусские, в действительности белорусские только на бумаге, также преподавание в упомянутых школах ведется исключительно на русском языке. Между тем крестьяне этих деревень, с их слов, очень хорошо отнеслись бы к школе на своем родном языке. Посетив эти школы в глуши Сибири и не увидев там ничего белорусского, мы позволяем себе сделать вывод о том, что и 8 оставшихся белорусских школ в Сибири не очень-то стремятся к удовлетворению потребностей белорусского крестьянства.

Белорусские сельсоветы, которые, по данным все той же (краевой) нацкомиссии, существуют в очень многих районах, являются белорусскими только по наименованию по причине отсутствия всякой возможности в пределах Сибири готовить людей грамотных по-белорусски.

В связи со всем вышеуказанным необходимо, по нашему мнению, провести следующие мероприятия:

1. Принять меры к расширению сети белорусских школ и политпросветительских учреждений в Сибири и на Дальнем Востоке.

2. Для того, чтобы дать возможность белорусской молодежи и дальше получать образование на родном языке, принять меры к организации белорусских отделений при техникумах и рабфаках Новосибирска.

3. Для управления всеми школами и политпросветительскими учреждениями на белорусском языке добиться включения в смету краевого ОНО постоянной должности белорусского школьного инспектора.

4. Обеспечить белорусское население литературой на родном языке.

В заключение мы высказываем большую благодарность правительству, которое доставило нам возможность использовать время нашего летнего отдыха для такого важного дела, как ознакомление с жизнью белорусов-переселенцев, и мы надеемся, что правительство обратит внимание на те мысли, которые сложились у нас в результате нашего путешествия.

*Ал. Дудар*
*Ан. Вольный, август 1927, Минск.*

## На Байкале

Вузкая даліна Ангары выводзіць цягнік да Байкалу. Байкал зьяўляецца перад вачыма як бы зьнянацку, з-за крутога павароту, з-за высокай сіняй гары. З нецярплівасьцю чакаем, калі можна будзе поўным вокам глянуць на праслаўленае возера. Тут яго часамі называюць нават морам. Ды і песьня яшчэ ёсьць, старая вастрожная песьня пра «славное море, священный Байкал».

Станцыя Байкал. На самым беразе, над крутым абрывам, прытуліліся маленечкія вакзальныя будынкі. Тут жа прыстань, і недалёка ад яе паўстае з вады вялічэзнаю скалою паравы паром «Байкал». Цяпер ён у адстаўцы, яго дапамога непатрэбна, а ня так даўно, калі яшчэ не было кругабайкальскай чыгункі, гэты асілак браў на свае плечы цэлы састаў цягніка і перавозіў праз «мора». У ранішнім празрыстым паветры горы другога берагу здаюцца зусім блізкімі. Але да іх больш як 50 кілёмэтраў і ехаць туды трэба чуць ня суткі.

І вось паволі, асьцярожненька папоўз цягнік па вузенькай істужцы паміж вадой і гранітнымі кручамі. Шмат сіл, відаць, трэба было патраціць, шмат сродкаў, каб адваяваць ад возера і яго гранітных

вартаўнікоў гэту вузенькую вілаватую палоску зямлі.

Дзень сонечны, прыгожы, а вада ў возеры празрыстая, як шкло: так і сьвецяцца праз яе зялёныя каменьні вапняковага дна. І вада ад гэтага прымае мяккі, бліскучы аквамарынавы колер. Усё возера, і паветра над ім, і дальнія горы паўднёвага берагу – усё зьліваецца ў адзін тон, усё падзёрнута сінім колерам. І бадай што зусім згладжваюцца лініі ў гэтай аквамарынавай урачыстасьці.

Ніколі не даруе стары Байкал гэтай палоскі, адабранай ад яго. І часамі вышэй узьнімаюцца яго хвалі, і адрываюць ад фантастычна завітай надбярэжнай сьцежкі вялізныя кавалкі. Тады рэха перамогі разносіцца паміж гор, прабягае тунэлі і разьліваецца над вялікім водным прасторам. Небяспечна хадзіць цягнікам над Байкалам: то дарогу размые, то засыпле абвалам тунэль, то яшчэ якое няшчасьце можа здарыцца. Таму паволі ідзе цягнік і яшчэ болей затрымлівае ход на спусках і, наогул, цягнецца ў два разы больш, чым па звычайнай дарозе.

Налева возера, направа горы. Але ня ўсюды горы свабодна прапускаюць чыгунку па беразе: мясьцінамі крэпка тупаюць гранітныя асілкі ў ваду: і тут дапамагалі электрычныя сьвёрлы, дынаміт.

І так, адрываючы з вялікім трудом камень за каменем, стальлю і дынамітам прасьвярлілі людзі 79 тунэляў і галерэй у недаступных байкальскіх сьценах.

Вышэй паднімаецца сонца, але яшчэ сіней ад гэтага вада і паўднёвы бераг. Толькі ясьнейшымі робяцца лініі, і здаецца, што там па ўсім беразе разьмясьціліся дзясяткі чаўноў пад парусамі – гэта бялеюць праломы ў гарах. А паміж імі цяжкімі цёмнымі патокамі спускаецца да возера лес. Паўднёвы бераг, здаецца, зусім не кратаецца з месца. І з гэтага боку канца няма крутым заваротам і аб’ездам. Цягнік ідзе па крутым абрыве, над самаю вадою: вось-вось, здаецца, сарвецца і зачарпне халоднай і празрыстай байкальскай вады... А вось і сьляды нядаўнага абвалу. Мэтры на чатыры ўніз разьмяталіся груды размытай зямлі і каменьняў, валяюцца шпалы. Тут цягнік ідзе поступам заморанай клячы (ва ўсякім выпадку не хутчэй). На штабелях новых шпал унізе стаяць рамонтныя рабочыя.

– Ці няма газэты, – гукаюць яны ў адчыненыя вокны вагонаў. Адтуль ляціць некалькі газэт. Прагна хапаюцца за іх хлопцы: ня дзень і ня два павінны яны прабыць у гэтай глушы сам-насам з возерам ды глухімі гарамі, што дамоклавым мячом навісьлі над безабароннаю чыгункай. І толькі гэтыя выпадковыя газэты даюць магчымасьць даведацца, што робіцца на сьвеце, куды кіруецца жыцьцё.

Зноў крутыя завароты, тунэлі, галярэі. Вось над самаю вадою павісла тонкая стройная скала: яна так напамінае чуць-чуць нахіленую фігуру чалавека, які пільна ўглядаецца ў возера, нібы жадаючы нешта там знайсьці.

Разьезд Шарыжалгай. Тры-чатыры ўбогія будыначкі на вузенькім каменным выступе. Над імі высокая гара, пакрытая густым лесам. З боку возера гара гладка абсечана, і, як нядаўна залечаныя раны, выступаюць з яе адросткі яе гранітнага касьцяка. Ад самага разьезду узысьці на яе немагчыма – адвесная сьцяна, вышынёю ня менш як 15 мэтраў, не дазваляе аб гэтым і падумаць.

Мы павінны прайсьці каля кілёмэтра, каб знайсьці месца, адкуль лягчэй пачаць пад'ём. Чуць прыметная сьцежачка крута завіваецца між дрэваў, вострых каменьняў, часам зусім прападае яна і тады трэба ісьці наўгад, пакуль зноў ня вынырне яна ў сухой і калючай траве. Асыпаюцца з-пад ног дробныя каменьчыкі і зь лёгкім стукам скачуць уніз па сьцежцы. Лес гусьцее. Праз шырокія прарэзы лісьця сінее Байкал і ледзь-ледзь прасачываюцца сонечныя праменьні.

Пад'ём на гару займае каля двух гадзін. На верхавіне лесу ўжо няма. На поўнач горы робяцца ўсё ясьней і ясьней і паступова пераходзяць у раўніну.

Але Байкал! Адсюль, з вышыні, так добра відаць усе тыя завароты і зломы, якія робіць круты бераг. Сінія акруглыя бухтачкі і вузенькія, але бурлівыя горныя рачулкі. Уздоўж берагу белымі іскрамі узьлятаюць шыракакрылыя чайкі. Блакітная паверхня возера зіхаціць срэбранымі жылкамі – аж воку балюча робіцца глядзець. Недзе там, за дальняй гарой схаваўся апошні дымок нашага цягніка.

Вечар чорнымі ценямі выпаўзае з-пад гор на Байкал, вільготны вецярок разьбіўся аб скалы і сьціх. Мы сядзім у будцы чыгуначнага вартаўніка і як зачарованыя слухаем бясконцыя апавяданьні пра возера.

— Вы не глядзіце, што яно сьмірнае такое... Часам, як разгуляецца, дык сьвету не відаць...

Вартаўнік – стары ўжо чалавек, шмат пажыў тут, шмат бачыў.

— Жывучы тут, можна цэлае багацьце набыць, асабліва рыбакам. Ды каб яшчэ справу як сьлед наладзіць. А то прападае ўся наша рыба байкальская.

Позна ўвечары пачынае павялічвацца вецярок. З сухім хрустам набягаюць на бераг хвалі штораз дужэйшыя. На грэбнях іх замільгалі «бараньчыкі».

— Будзе заўтра навальніца, – кажа стары.

Мы з недавер'ем глянулі на чыстае неба, усыпанае зоркамі.

* * *

Раніцою пачынае Байкал мяняць свой колер. На густа-чорнай паверхні распаўзаюцца шэрыя цені – сьвятлей, сьвятлей... Яшчэ некалькі гадзін – і зноў загарэўся стары Байкал аквамарынам. Ясны такі дзень, сонечны... Выкупацца б.

— Э, не! Ня варта, – папярэджвае нас стары. – Тут купацца няможна: вада як лёд – апякае проста. Таму, мабыць, і чыстая такая вада ў ім... холад ачышчае...

З жалем адыходзім ад берагу...

* * *

Вось і адыходзіць наш цягнік. Толькі пад вечар пад'язджаем да Сьлюдзянкі – станцыі, якая заканчывае вучастак тунэляў і выводзіць чыгунку на больш вольны прастор.

А вось Танхой і, нарэшце, Мысавая, апошняя станцыя на Байкале. Адгэтуль пазнаём, што праўду казаў нам учора стары вартаўнік...

Над паўночным берагам назьбіраліся грамоздкія масыўныя хмары. Няма ім канца. Чорныя. І толькі прасьветы заходняга неба і вострыя зыгзагі маланкі ствараюць малюнак незвычайнай дзікай прыгожасьці. Гэтыя пачарнелыя горы і хмары над імі як разьвітыя, ускудлачаныя кудры. Перавага чорнай фарбы, але скампанавана на дзіва ў аптымістычным пляне. Вось як бывае, калі маладая, жвавая, вясёлая дзяўчына надзене жалобу. Хай уся яна будзе ў чорным, хай сьлёзы ліюцца з вачэй – але праз усё гэта нібы маланка час ад часу пранясецца водбліск маладосьці і жыцьцярадаснасьці.

Красна сонейка ўзыдзе,
Раса высахне…

Дзіўны малюнак. І зь нейкім жалем адрываліся мы ад яго і пільна лавілі ў начной цемры апошнія ўсплёскі навальніцы там, за Байкалам.

*Алесь Дудар г. Верхнеўдзінск*

*«Савецкая Беларусь», № 233, 13 кастрычніка 1927 г.*

# ГОРАД. ЖНІВЕНЬ

У жніўні крыху адпускае вечная мітусня і трывога і Менск нарэшце падае на бераг ракі і там расплываецца здобнай, сытай дзяжой. Пад шчодрым, ласкавым сонцам чырванеюць сцены кляштараў і сабораў. Паблісквае шпіль на касцёльнай браме. Залаты водсвет

кладзецца на сівую галаву Святога Тамаша. З белых, шляхетна абшарпаных дамкоў, з іх бязбоязна распахнутых вокнаў і дзвярэй выплёскваецца на вуліцу прыватнае жыццё: сушыцца бялізна, на ўслончыках гаспадыні вяжуць цыбулю ці скрабуць рыбу, гаспадары, уладкаваўшыся дзе ў цяньку, збіваюць табурэты ці што там яшчэ трэба паправіць. Па вуліцах пралятаюць рамізнікі на сытых, ад'еўшыхся за лета конях і кіпяць у фурманках белыя карункі лёгкіх жаночых сукенак з бурбалкамі модных мужчынскіх капелюшоў. У каго не стае на фурманку – шпацыруе па садзе ці скверы ў насалодзе ад нязлога, пяшчотнага сонца.

Шчыруе рынак. Тут цяпер ёсць усё. Налітыя сонцам, ажно празрыстыя ад гарачага соку яблыкі, тоўстыя гарбузы, шыпастыя, крэпенькія агуркі, аранжавая морква, ладная, прыемна ўзважыць у далоні, роўненькая бульбачка. Рохкаюць парсючкі; ну так, лепей, вядома ж, вясной, але, даражэнькая, накідаеце ім саломкі на зіму паболей, дык па вясне будзе ў вас ужо ладны кабанчык. Залатымі каралямі апаясвае аглоблі вазоў сплеценая ў косы цыбуля: от урадзіла ў гэтым годзе, дзякуй Богу, самая малая – з кулак. А гаршкоў, а гарлачоў! А талерак самых розных, шляхетных і простых! А палатна, беленага і нябеленага!

Вольга Іванаўна сёння прыехала конкай сюды ажно са сваёй Правадной, не блізкі свет, але ж хочацца прыцаніцца і да палотнаў, і да нітак, і паглядзець кошты на гародніну, мо папрасіла б Шурку занесці дадому які мех гуркоў, можна ўжо і прысаліць троху, бо хутка ж адыдуць. З апошняга ганарару за кніжку Шурка паклаў дваццаць рублёў Жэні, сто – ёй, дык зараз сям'я пачуваецца вальней.

Жэнька скакала, ажно ледзь столь галавой не прабіла: о, якая яна зараз багачка! І яна пойдзе на Савецкую і набудзе сабе прыгожага, нарэзанага квадрацікамі мыла, і парфуму, і панчохі! І бліскучую сумачку! «Такія сумачкі толькі ў прастытутак!» – адрэзаў Шурка, як пачуў Жэньчыны летуценні. Дык засталася без сумачкі. Але мыла і панчохаў набрала ажно ў запас.

Бадзяецца па рынку адзінокі, крыху разгублены ў сваёй жнівеньскай адзіноце Каратай: тут, у людской куламесе, неяк спакайней. Каб хто пабачыў са сваіх, які ён зараз ціхі, дык не паверыў бы. Трэба ў вёску ўсё ж забурыцца, хоць на два тыдні. Там мо весялей. Хлопцы параз'ехаліся хто куды. Паўлюк – па пуцёўцы ў Крым, а там паедзе ў Гомель, хоць мог жа, мог застацца ў Менску па маладнякоўскай лініі, але ж не, заўпарціўся, матануў чорт ведама куды, што яму той Гомель. Пэўна, Туравец апракінула. Маня. Нібыта адзіная тая Маня на свеце. Нібыта свет на ёй клінам сышоўся. А мо і не Туравец, колькі іх там вілося вакол яго. Глебка сядзіць-летуе ў сваёй

Усе, ды не проста Усе – Вялікай Усе. Велічэзнай Усе. Найвялікшай Усе. Хутка прыедзе ўжо, бо паступае ж у БДУ. Апошні курс будзе ўжо без іх, дарагіх таварышаў, Паўлюка і Петрака. Ладна, некалі ж трэба і павучыцца, не ўсё зубы скаліць з хлопцамі. Але ж і сумна без іх, і адзінота, і асабліва неяк няўтульна, як думае пра Дубоўку з Адамам, пра Антося Адамовіча, асабліва пра Антося. Малы, але ж спрытнюга такі, убіўся да Дубоўкі ў ласку, дык дазваляе сабе занадта. А можа, і мае рацыю ён: слабаватыя вершы дае ва «Узвышша» Максім Лужанін, «в миру» Алесь Каратай. Трэба падцягнуцца, бо да зуброў не дастацца, але ж і горш за «Маладняк» усё ж ён не апускаецца. Пасярэдзіне недзе. Няхай так пакуль.

Забег сюды і Вольны. Збіраецца ў Ленінград, на кінастудыю. Ёсць у планах сцэнар, нават фільм ужо нібыта бачыць, зняты па гэтым сцэнары, троху падвучыцца – і можна брацца. Эх, як рукі чэшуцца! Во гэта ўзяць, на далонь сала, на паўдалоні мяса. У Піцеры такога не будзе, факт. Пасля дарогі, пасля Байкала і Ангары, пасля Іркуцка немагчыма глядзець на гэты горад. Глухмень. Во рынак хіба толькі, і тое не тое. Як бы ўзяцца за яго, растрэсці так, каб усё, усё навокал загуло, забегала, пайшло разам з часам? Пакуль што адчуваецца, што яны толькі з хлопцамі ваду каламуцяць, а краіна як жыла, так і жыве, бы тая Мар'іна Горка ягонага дзяцінства. На пачатку дваццатых неяк было дзьмухнула скразняком – і знікла. Жыццё тут цячэ, як Свіслач – млявая, брудная, снулая. Раптам успомнілася Харужая – парывістая, хуткая, шэравокая. Як бы яна зараз тут жыла? Сярод гэтага склізкага нэпа, сярод купчыкаў ды субчыкаў? Як бы глядзела на рамізнікаў, што катаюць паненак і паночкаў па Захар'еўскай? Зусім не пераносіла яна гэтае драбнюсенькае менскае мяшчанства, што лезе зараз з усіх дзірак. Успомніўся вечар у КІМе: яны, зусім маладыя яшчэ, Шурка, хлапчук зусім, на шчочках пух, у шэрай кашульцы, нагавіцы на каленях пузыром, ён у армейскім шчэ галіфэ, Чарот пры гарнітуры ўжо, але гарнітур вялікі яму, падае з пляча, Зарэцкі ў шынялі і будзёнаўцы – паэты, ліха іх бяры, рыхтуюцца на сцэну, хто з вершам, хто з прамоваю. І Харужая – нізенькая, крэпенькая, натхнёная ўся, ажно свеціцца. «Толік!» – пабачыла яго, падбегла і пры ўсіх, не саромеючыся, уткнулася галавой яму ў грудзі. Засумавала, маленькая. Які быў час! Жыць хацелася. Зараз таксама хочацца, але чамусьці не тут. Вера, Вера… І цябе вынесла адсюль жаданне руху, чаканне вялікай справы. Ці думала ты, дзяўчо, што так будзе, што паабрываюць твае крыльцы і прышпіляць на гады ў чорнай камеры? Не зберaглі малую. А самі во… Сала купляем. Калі і адчуваў перад кім віну сваю – заўсёды, і тады, як прачынаўся ва ўскудлачаным ложку з праклятаю тою Ганяй, абрыдлай, нявернай,

пустою і нецікаваю, і тады, як збягаў ад яе ў Харкаў, і тады, як бачыў яе, Ганьку, сцёўганую ўжо, здзёртую, сапсаваную вуліцай, – калі і адчуваў перад кім сваю віну, дык не перад Ганькай гэтай, а перад Верай. Яна яго такога не ведала. Яна яго любіла іншым. А ён – вось такі. Цікава, што было б, калі б Вера тады была тут. Ратавала б Ганьку, дадому ўзяла б, на працу прыстроіла – гэта дакладна. Але каб Вера была тут, такога і не здарылася б. Заўсёды памятаў бы ён, што можа сустрэць яе халодны, прамы, асуджальны позірк. Думкі гэтыя ўшчэнт злуюць Вольнага, і ён злосна плюе ў шэры пыл гарачай вуліцы. Рэдка ўспамінае Веру, але як успомніць, дык абавязкова рассыропіцца. Што тут казаць. Неяк не клеіцца ўсё.

Цяжка тупае, ідучы з рынку, Аня Бабарэка. Адам не дазваляе хадзіць сюды адной, бо не стрымаецца, накупіцца, а несці складана і сумку, і жывот. Але сёння не стрымалася – ціхенька збегла, покуль Адам зашыўся з паперамі ў кабінеце. Так хацелася ўсё вырашыць самой: і калі ісці, і куды ісці, і што набываць. А зараз шкадуе. Каб хоць сказала, што пойдзе прайсціся на рынак, дык ён бы, агледзеўшыся, дачуўшыся, што жонкі няма, пабег бы сустракаць, а так куды пабяжыш. Добра, як муж клапатлівы, вырвешся з-пад апекі – і адразу ж хочацца назад. Аня ажно ўсміхаецца пасярод вуліцы: ці думала, што такога хлопца дастане, дабрыні і пяшчоты – нібыта ў ласкавай маткі. І да сям'і горнецца: неяк з Крыма, з санаторыя, збег, паімчаў дадому. «Не магу без цябе», – кажа. Ціхі, ветлівы з усімі, уважлівы, слухае так, здаецца, увесь аддаецца табе і тваім словам, і не толькі з ёю – з усімі. Як ён, такое цялятка ласкавае, цярпеў катаванні ў польскай турме? Як яго наогул можна было пальцам крануць тым палякам, такога спакойнага, прыгожага? Летам як здыме пінжак, дык скрозь кашулю свецяцца зоркі, што рэзалі на ягонай спіне польскія жаўнеры. Хлопчык мой, як ты вытрываў? Ён такі, яе Адам: звонку– мяккі, унутры – сталёвы.

Яна ідзе, унурыўшыся ў свае думкі, і раптам чуе: «А вось яна, згуба мая!» Адам. Стаіць, смяецца. Пабачыў, што няма, здагадаўся, куды пацягнулася, вылічыў, якім шляхам пойдзе, і пайшоў сустракаць. З палёгкай аддае яму Аня цяжкія торбы, і цяпер яны ідуць разам – уніз, да Гарбарнай, туды, дзе прахалодай дыхае ціхая Свіслач. «Каб ты ведала, Аньця, што мы з Уладзікам задумалі! То бок ён задумаў, ну а я ўжо на падхваце, ты ж ведаеш! От бузацёр усё ж ён, светлая галава! Літары, Аня, будзем уводзіць літары, ты толькі ўяві сабе: змяняць алфавіт! Часопіс свой будзем імі друкаваць! Гэта ж... гэта ж якая справа, Аня! Памацней за Скарыну! Як ты пайшла, дык адкрыў ліст Уладзікаў, а ён там і піша». Ён увесь ажно свеціцца сваёй радасцю, і Аня ўсміхаецца: якія смешныя яны, хлопцы. Літары,

часопіс... З такім жа захапленнем гуляюцца малыя ў двары барака на Гарбарнай. Цікава, якім ён будзе бацькам? От нагуляецца з сынам, як будзе сын. «Анечка, там і Марыля ягоная табе прыпісачку зрабіла, дык ты ж адкажы ёй. Уяві сабе: дапякла яна Уладзіка, каб паліць кінуў! І не паліць! Ты можаш паверыць у гэта? Каб Дубоўка – і не паліў, я паверыць не магу! От тая Марылька! Ніколі не думаў, што на такога, як Дубоўка, можна знайсці ўкарот, але пабач ты!» – пасмейваецца Адам. Любіць ён сябра свайго – вочы пяшчотай свецяцца. Колькі любові ў гэтым чалавеку – толькі дзівавацца. Усім хапае. «От паехалі б з табой да іх у Маскву, але ўжо неяк потым».

Купаліха па рыначных радах ходзіць доўга, у смак. Нарэшце ў яе свая сядзіба, свой дамок ля Свіслачы, зялёная брамка, кветнікі, прахалодная веранда, пакоі, некаторыя – прасторныя, некаторыя – утульныя. Янка марыць разгарнуць сваю маленькую ружовую алею на будучы год яшчэ далей, але ружы зараз тут не знойдзеш, гэта ўжо пад восень, зараз – лілеі, белыя, пурпуровыя, аранжавыя. Лілеі з ружамі – нечакана, але прыгожа. Яна ўжо нагледзела сабе гэтыя шыкоўныя кветкі, і гандлярка зараз укручвае пакупку, каб зручна было несці, але покуль можна пахадзіць, таго-сяго пашукаць. Дом новы, шмат чаго трэба. Найперш, вядома ж, па крамах, але і палатна на бялізну, і ручнікоў, і кветак – гэтага ў краме не дастанеш. Божа, ці думала яна калі? Ці ёсць што агульнае ў той віленскай гімназістцы, стромкай і рамантычнай, з гэтай кабетай, гаспадыняй вялікай сядзібы? Купаліха. Цёця Уладзя. Іначай не называюць. Ці падабаецца гэта ёй? Пэўна, падабаецца. Падабаецца, натуральна. У яе натура такая, неўтаймоўная: яна павінна быць гаспадыняю.

Але з якім непрыемным пачуццём глядзела ўчора на Мядзёлку. Амаль равесніца, а зусім іншая. Едзе выкладаць у Горкі, дык заходзіла развітацца, была не адна, разам з Александровічам і Дударом. Што яна цягаецца з маладымі? Гадоў на пятнаццаць старэйшая за іх, а як роўня трымаецца. І выглядае: худзенькая, празрыстая, буйныя кудзеркі абапал скроняў, рамантычная прыгажунька. Як хаты няма, няма сям'і на руках, дык можна быць такой летуценніцай. Глядзець на Мядзёлку, можа, прыемна, а непрыемна адчуваць сябе цяжкой, непаваротлівай побач з ёй. Янка падцягнуты, стройны, высмажаны жыццём, яна пры ім – калабком. Ці кахае так, як раней? А тую? Не дарэмна ж прыходзіла, ласкава паглядала. З маладзёнамі. Пабач, маўляў, якая я. Спытацца – засмяе ці раззлуецца. Аднак глупства ўсё. Янка за сваёй цёцяй Уладзяй як за высокім мурам. Яна ягоная моц. Пайсці забраць лілеі.

Берагам рынку, крыху зачапіўшы толькі позіркам крайнія вазы, спяшаецца некуды Алесь Адамовіч. Сёння выходны, але ці бываюць

яны, выходныя, калі ты — загадчык аддзела друку ЦК. Учора ўвечары перадалі яму з Вільні ліпеньскі нумар «Беларускай культуры» з вершам якогасьці Янкі Крывічаніна, нібыта дасланым з Мінска. Моцны верш! Такі паэт, такога ўзроўню аўтар тут не можа быць незаўважным, гэта прафесіянал. За плячыма ў яго, і гэта бачна, не адзін год паэтычнай працы, не адна тона паэтычнай прадукцыі. Чарот? Сумнеўна. Нават не. Надта антыбальшавіцкі. Чарот усё ж камуніст. Дудар? Гэты можа, але ён не слаў бы ў Вільню, чытаў бы тут па піўнушках, не вытрымаўшы канспірацыі. Дубоўка. Вельмі падобна да Дубоўкі. Хіба што той у Маскве. Але што яму перашкодзіла б напісаць, што шле верш з Менска? Можа, Радзевіч перавёз у Вільню, яны з Дубоўкам сябруюць. А малойца! Урэзаў дык урэзаў, што скажаш.

На нашым карку торг спраўляе смела
Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,
І наша змучанае катам цела
Штогодна новай кроіцца мяжой.
Масква сусвету вушы прашумела
Пра самавызначэнне аж да зор.
Смаленск дзе? Невель? Гомель дзе падзела?
Стварыла гомельскі ганебны калідор.

«Пра самавызначэнне аж да зор». Хвостка. Наводмаш. Дубоўка, болей няма каму. Ёсцека сілы ў хлопцаў. Як бы нам крыху сваёй улады, як бы нам паменей Масквы, паставілі б краіну на ногі. На свае, беларускія ногі. А то як мокрае гарыць — з гэтай беларусізацыяй, ліха яе бяры. Дэкарацыя, а не беларусізацыя. Хлопцы завіхаюцца, бегаюць, лекцыі, кніжкі, даклады, «Маладняк», «Узвышша», і ўсё так сур'ёзна ў іх, усё з такімі драмамі і трагедыямі, а за гэтым усім назірае нехта... Нехта... Вядома хто. Вочы ягоныя тут: Кнорын, Крыніцкі. Халоднае, каменнае. Задушыць у момант.

І ніяк не выйдзе з радоў Кузьма. З раніцы зайшоў па яблыкі — і ўсё ніяк не выйдзе. Сёння прыехалі на рынак Фэлька і Сцяпан Парыбкі, далёкая і няпамятная ўжо, але ж радня ягоная па матцы, дык гадзіны са дзве стаяў з імі, покуль не даведаўся, як і што ў Цімкавічах, як маецца бацька, што з хатай, хто арэ і хто жне. Ажно перабіў хлопцам гандаль, дык адышоў у бок, а там кабета маладая з гаршкамі, вясёлая, галасістая, языкатая, дык слухаў яе, нібы салаўя, забыўшыся, усміхаўся шчыра, ва ўсе зубы, шчаслівы. А як распрадалася кабета, дык пайшоў выбіраць цыбулю, і не так выбіраў, як гутарыў і слухаў, з ім жартаваў, а каму спачуваў. Ля бульбы стаяў мо з гадзіну, бо ўзяліся дзядзькі распавядаць яму, адкуль зараз бульбу на развод возяць і што жоўтая выводзіцца патроху, а белая добра расце. Ля

старога ў шынялі садзіцца на кукішкі — той прадае рваныя, без вокладак кніжкі — і доўга гартае крохкія старонкі, з хваляваннем пазнаючы буйныя літары «Матчынага дару» Гаруна і лацінку Багушэвіча. Заплаціўшы падвойны кошт і ўзяўшы кнігі для кагосьці, хто шчэ не мае, бо ў самога дома па дзве гэткіх самых, ідзе да вазоў з абаранкамі. Там самыя вясёлыя гандляркі.

А ўвечары ляжа сіні водсвет на белыя гарадскія муры, загарыцца чырванню захад, пацягнуцца дадому сялянскія фурманкі, каму ехаць недалёка, а каму далёка — параскладваюцца на беразе Свіслачы наўпрост ля вазоў і пад вазамі. Сыдуцца ля вогнішча — і пачнуцца гутаркі: і пра тое, як за немцамі пакутавалі, і пра тое, як за палякамі цярпелі, і — цішэй ужо — як пачынае бальшавік ціснуць, а ўсяго толькі і хочацца, каб далі абяцанай зямлі і нябачанага спакою, ды і ўсё.

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Напрыканцы жніўня мы з Лазарам прыехалі ў Менск. Ад «Штэрна» далі яму пакойчык у трохпакаёўцы на Даўгабродскай, але пажылі мы там нядоўга: пакойчык быў сыры, цёмны, страшны. Зусім хутка мы знялі прыватную кватэру, праўдзівей, паўдома ў Омскім завулку: драўляны зялёненькі дамок з белымі ліштвамі, маленькім садзікам з трох яблынек і чатырох вішанек, асобнымі ўваходамі для гаспадароў і кватарантаў, з маленькай верандачкай-куханькай у арандаванай палове і двума невялікімі пакойчыкамі. У тым дамку былі тоненькія, кволыя сцены, старэнькі, латаны-пералатаны дах, але новая, адразу пасля адыходу палякаў перасланая падлога і маленькая, але вельмі спрытная печка. Яна імгненна раскачагарвалася, у яе акуратным, утульным чэраўцы адразу ж пачынала гудзець полымя, беленыя сценкі награваліся, ажно немагчыма было дакрануцца, а потым да самай раніцы асцярожна і сквапна аддавала яна пакою сваё ўтульнае цяпло.

Менск быў ужо зусім не той. І людзі не тыя. Усё тое, па чым я так сумавала ў Віцебску, знікла і адсюль. Ніхто ўжо так не рагатаў на вуліцах, не заўважна было, каб нехта, як мы калісьці, бадзяўся па горадзе гуртам без яўных мэтаў. Па вуліцах бегалі нейкія важныя, нахмураныя людзі з паперамі і вялікімі партфелямі пад пахамі, з'явіліся машыны, пазнікалі фурманкі. Што засталося, дык то вечная менская гразюка, па якой без галёшаў адважваўся хадзіць адзін толькі Дудар.

«Столькі гразі цягне ў хату, хоць лапатку адпары, не ведаю, як адмыць. І ходзіць жа ў гарнітуры, у добрым паліто, у гальштуку — і ляп-ляп па

лужынах, як толькі не ўгваздаецца», — паскардзілася аднойчы Наташа, і мяне накрыла з галавой хваля пяшчотнага цяпла. Гэта было так падобна на яго — хадзіць па Менску без галёшаў.

Я не паспела пабачыцца з Зінай: за некалькі дзён да майго прыезду яна з'ехала ў Сібір, пакінуўшы для мяне цыдулку ў Наташы. «Лячу немаведама куды, сяброўчачка мая, дрыжаць мае крыльцы, але так будзе лепей, там я патрэбная болей, чым тут, але баюся, доўга не вытрымаю, таму хутка абдымуся з табой». Наташа казала, што з'ехала наша Зіна ад рознай амурнай блытаніны ў сваім жыцці, пакінуўшы нясконачаным тэхнікум і няўцешным Тодзіка Кляшторнага, якога я шчэ не бачыла жыўцом, але ўжо добра ўяўляла па Наташыных лістах і ягоных паэтычных публікацыях у часопісах. Да Наташы я хадзіла ў інтэрнат, куды яна вярнулася з вёскі перад пачаткам вучобы — ёй заставаўся апошні курс у БПТ. Яна ўжо была іншая, не такая, якой я памятала яе. Спакойная, мажная, нейкая вельмі дарослая, усміхалася яна стоенай, няпростай усмешкай, і мне было балюча глядзець на яе, бо я бачыла за той усмешкай грунт і ўпэўненасць, якія дае жанчыне толькі мужчына, бязмежна закаханы ў яе. «Пасядзі яшчэ, зараз прыйдзе Шурка, пабачыш яго, які ён стаў цяпер! Сур'ёзны, у гарнітуры, не п'е, ажно з твару пасвятлеў!» — запрапанавала Наташа, і я, падскочыўшы і наскора развітаўшыся, пабегла наўкруг, цераз мост, па тым беразе Свіслачы, і зноў цераз мост, і там па Бакунінскай паднялася на рынак, каб толькі не перастрэцца з Дударом, які мог ісці да яе па Савецкай.

На рынку супакоілася крыху сярод вечаровага хуткага, таннага ўжо гандлю, стомленых гандляроў, пабітых гаршкоў і змятай, патрэсканай гародніны. Стала пуста і роспачна: што ж, жыццё ў мяне такое, не надта вясёлае. З тым і пайшла дадому — зноў кругам, каб не сустрэцца з імі, як пойдуць гуляць. І покуль ішла, змірылася зусім. Ну не даваць жа кругаля па Менску кожны дзень.

Я чытала ўжо рэцэнзію Дудара на «Кругі», у якой ён збэсціў Дубоўку і разам з ім — мяне, абазваўшы «прыдумкай» і зблытаўшы (зблытаўшы?) імя: «ліст нейкай Ганны Нарутовіч». Я зразумела ўсё: і ягоную нянавісць, і тую свядомую блытаніну. Наогул усё ў гэтай гісторыі — і тое, што я невядома чаму напісала гэты праклянты ліст, і тое, што Уладзік уставіў яго ў сваю паэму, усяго толькі «збеларусіўшы» мяне да «Насты Нарутавічанкі» і пераказаўшы змест вершам, і тое, што Дудар зразумеў адразу, хто пісаў гэты ліст, і ўзненавідзеў ягоную адрасатку, — усё цягнула ўнутры мяне невыносным жалем і шкадаваннем. Я хацела б, каб нічога гэтага не было.

Я адчувала сябе мячыкам, што перакідваюць адзін аднаму лютыя ворагі, якія вымушаны рабіць выгляд, нібыта проста гуляюць. Мячык не вінаваты, што ён пругкі і прыдатны для біцця. Але яны не маглі спыніцца, гэтыя раззлаваныя хлопчыкі, якія не бачылі навокал нічога, акрамя ўласнай нянавісці. Чаму, думалася мне, яму не хапіла рашучасці для любові да мяне,

затое хапіла яе для нянавісці? Чаму, думалася мне, ніхто не пашкадаваў простага чалавека, ні ў чым не віннага, чаму яны адразу, удвух, ухапіліся за такую прыдатную магчымасць зрабіць адзін аднаму балюча — праз мяне?

За што яны наогул так ненавідзелі адзін аднаго?

Дудара я разумела лепш. Тут, на Беларусі, ім было нясоладка. Нэндза, галадоўкі, капейкі ў ганарар, чытач, не гатовы да паэзіі, просты, зусім непадрыхтаваны... То не Масква табе, не Піцер, не Харкаў нават — маленечкі свет, межы якога ціснеш, разрываеш сваімі рукамі. І тут прыязджае маскоўскі хлопчык, пястунчык. Усе дзяўчаты: ах! Усе хлопцы: ого! А што — ах, што — ого? Хто, акрамя двух-трох хлопцаў, сапраўды разумеў, што такога рабіў Дубоўка, чым ён лепшы за астатніх? Але ўсе: і Вольны, і Зарэцкі, і Чарот — выбралі тактыку чакання, як гэта ў нас водзіцца. Схаваць дулю ў кішэню — і ўсміхацца ў твар. І толькі Дудар — бо такі характар у яго — кінуўся апантана ў бой. Тодара Глыбоцкага шмат хто ганіў, але ж кожны ўпотай радаваўся: эх, дае жару, шчоўкне па носе маскоўскага фацэта! Ах, я стала б з ім побач. Але не было месца дзяўчыне ў гэтай жорсткай гульні. Нас не бралі. Аднойчы я сказала Лазару: я хацела б напісаць крытычны артыкул, падкажы, хто б яго ўзяў. Ён па-добраму пасмяяўся і сказаў мне: лепей не сунься, Настачка, не дзявочая то справа.

Я разумела Дудара і баялася сустрэць яго, бо здагадвалася, што не дараваў і што не даруе.

І ён не дараваў. Мы пабачыліся на другі дзень пасля пачатку заняткаў у БДУ. Я стаяла ў калідоры, зусім адна — у першы дзень мною шчэ апекаваўся колішні дарагі мой тэхнікумаўскі таварыш Петрусёк Глебка, але сёння яго чамусьці не было, а сяброўак сярод дзяўчат у мяне пакуль не завялося. Я стаяла ў цесным калідорчыку сутарэння, дзе ў педфака былі аўдыторыі, і ў апошні клас — не разысціся, не схавацца, не збегчы — ішоў Дудар. Яго не было сярод маіх аднакурснікаў: ён аднавіўся адразу на другі курс, у іх заняткі былі побач, таму пагроза сядзець у адной аўдыторыі нас мінала, але калідорчыкі... Ён пабачыў мяне, спыніўся... Прымружыў вочы — яны нават не міргалі зараз. І проста прайшоў міма, акуратна прыціснуўшыся да сцяны плячом, каб не дакрануцца.

Ну што ж. Некаторы час мы зусім не бачыліся: ці то ён не надта хадзіў на заняткі, ці то прымаў меры, каб не сустрэцца. Крыўды ў мяне на яго не было — толькі адчай і пакора. А ўзімку — быў снежань, самы пачатак, марозны, з гурбамі і сумётамі, і ля былога Камергерскага вучылішча, дзе займаўся педфак, раскаталі вялікія коўзанкі — вось нейк тады я ішла на заняткі і ўпала на той коўзанцы. Было зусім цёмна і зусім рана, нікога побач, упала я балюча, крыўдна, і так захацелася раптам плакаць, што я нават не адразу сабралася ўставаць. Так і ляжала на лёдзе, як куль. І тады нехта дужы, незаўважны ў снежаньскай цемры вуліцы, падскочыў да мяне, падняў на ногі, клапатліва абабіў снег з кажушка, са спадніцы, з ка-

ленак — і выпрастаўся перада мной ва ўвесь свой рост. «Не падай болей, глядзі пад ногі, Наста», — сказаў толькі, зміргнуўшы, і пайшоў у будынак такой знаёмай мне хадой: рукі ў кішэнях, разгорнутыя свабодна плечы, левае крыху ніжэйшае за правае, і высока паднятая галава.

З таго дня мне стала спакайней. І Дудар чамусьці стаў трапляцца ў калідорах часцей — стрымана вітаўся, аднойчы перадаў ад Наташы нейкае пісямко.

Вучыцца падабалася. Нават вельмі. У калідорах і аўдыторыях было цішэй і неяк сур'ёзней, чым калісь у тэхнікуме: ніхто не гайсаў па класе, не перакідваўся папяровымі шарыкамі, не дурэў на лекцыях — толькі пёры рыпелі ды галовы гнуліся ніжэй да сталоў. Адно толькі, як да Глебкі забягаў Каратай, які яшчэ давучваўся ў тэхнікуме, дык усчыналіся на калідоры валтузня і смех. «А Ігнатоўскі спыняе мяне на прыступках і пытаецца: „А вы, Каратай, куды сабраліся? Ваш курс на практыцы зараз?“ А яму, не змаргнуўшы: „А я, дзядзька Ігнатоўскі, па падручнік прыйшоў!“ — „А, дык тады ідзі, ідзі, вядома ж!“ А падручнік — гэта ведаеш, што такое? Дзяўчына, якая пагодзіцца са мной пад ручку прайсці!» — і рагочуць на ўвесь калідор.

А то шапталіся: «Зарэцкі, Зарэцкі ідзе!» Яго сапраўды было відаць здалёк: высокі, стромкі, у даўгім, добра пашытым палітоне, дарагім капелюшы. Студэнты збольшага апраналіся хто ўва што: сялянскія кажушкі і паўкажушкі, палітончыкі, перашытыя з шынялёў, але сустракаліся ўжо дзяўчаты ў футрачках. Асабліва вылучаліся пісьменнікі: яны атрымлівалі ганарары, усе працавалі па газетах і часопісах і выглядалі сапраўднымі прыгажунамі. Нават Глебка да зімы начапурыўся — набыў сабе шэры фабрычны палітон, капялюш, як у Зарэцкага, абавязковы кій з разной ручкай і нават пальчаткі. Каратай, як пабачыў яго ўпершыню ў такім фацэтным строі на вуліцы, ажно заплакаў ад смеху.

Зарэцкага тады чыталі ўзахлёб. Ён пісаў смела, з жарсцю, кранаў смелыя тэмы, ягоны «Голы звер» зачытваўся да дзірак, асобныя старонкі перапісвалі ад рукі. Тады ён яшчэ не вучыўся — прыглядаўся да ўніверсітэта, заходзіў да Дудара па справах, і гэта была падзея на ўвесь дзень: Зарэцкі быў! Я таксама выбягала паглядзець на яго і заўсёды пужалася сталёвага холаду ягоных строгіх шэрых вачэй. Зусім іншымі былі шэрыя вочы Дудара — цёплыя, з агеньчыкамі.

Разам з Дударом на другім курсе вучыўся Кляшторны. Я пабачыла яго ў першы ж дзень заняткаў і адразу здагадалася, што гэта ён. Высокі, хударлявы, вельмі дзіўна апрануты, у неахайным, з чужых плячэй гарнітуры, жаўтаватай кашулі і ў смешных, нібыта лыжных, жоўтых ботах, ён ішоў па калідоры і глядзеў некуды ў столь. Русая ягоная чупрына калыхалася над прыгожым ілбом, вусны склаліся ў трагічны паўмесяц, і нібыта прыліпла да іх пагаслая папяроска. Я ўявіла сябе побач з гэтым абарваным П'еро нашу весялушку Зіну — і адразу паверыла, што ўсё паміж імі было, але ўсё

было складана. Пэўна, яна вельмі яго шкадавала, Зіна, добрая душа. У гэтую ж аўдыторыю следам за Тодзікам зайшоў і Крапіва — таксама высокі, але ў дарагім строі, бліשчастых лакерках і з выразам нейкай усеагульнай пагарды на твары. Заўсёды баялася яго. Прыходзіў да іх трэцякурснік Александровіч — нізенькі, чорненькі, як жук. Ягоная сястра, Алеся, была вышэйшая за яго на цэлую галаву.

Са мной на адным курсе вучыўся Глебка, ліслівец і залётнік Пеця Звонак, які потым узяў сабе даволі дзіўны псеўданім: застаўся Звонакам, але стаў замест Пеці Алесем. Вучыўся яшчэ смешны і добры рабацініст Макар Шалаеў, які даволі хутка стаў друкавацца як крытык Шалай, белабрысы, вясёлы Янка Скрыган-Відук, якога я памятала з «Бельгіі», і Ядзя Бяганская — з ёй мы сябравалі. Я бывала ў Ядзі дома, у вялікім прыгожым драўляным доме ў самым пачатку вуліцы Розы Люксембург, былой Мацвееўскай. Дзве Ядзіны сястры, прыгожая, белазубая Ніначка і ўсмешлівая Галя, дый сама Ядзя прываблівалі да сябе хлопцаў, нібыта ліпнёвыя кветкі прываблiваюць пчол. У іх заўсёды таўкліся Глебка з Каратаем, заходзіў Кузьма Чорны, стаяў смех і рогат, потым, як стане цішэй, Ядзя садзілася за піяніна. І Глебка, і Чорны добра спявалі, Ядзя заўсёды брала да іх барытонаў другі голас, падпявала і я — шчаслівыя былі вечары.

Але тое ўвечары — днём былі заняткі.

Самыя любімыя — у Барычэўскага. Ён чытаў нам паэтыку — і як чытаў! Прыгожы, з тонкімі рысамі шляхетнага твару, падцягнуты, невысокі — і таму ў шыкоўных туфлях на высокіх абцасах. Ён прамаўляў на чысцюткай беларускай мове, але мова ягоная была зусім не такая, якую мы чулі на вуліцы і ад бацькоў. Акуратна пабудаваныя сказы, дакладныя, кожнае на сваім месцы, словы, ахайныя, заўсёды глыбокія параўнанні. Ніколі не сказаў Барычэўскі жартам, ніколі не пусціў у гутарку вуліцу — мова ягоная была адмытая да бляску і апранутая ў дарагі фабрычны строй. Ён неяк так умеў расказаць пра эпас, лірыку і драму, пра санет і тэрцыну, што здавалася — веды гэтыя сапраўды самыя важныя на зямлі. Бездакорна ветлівы Барычэўскі быў такі ідэальны, што хацелася, каб увесь свет навокал быў пабудаваны на ягоны ўзор. Казалі, ён закончыў нашу класічную гімназію ў Менску, паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт і атрымаў там залаты медаль за выпускное сачыненне, а потым стаў адным з першых нашых прафесараў. Вельмі любілі мы семінарыі па беларускай літаратуры Адама Бабарэкі. Гэта было зусім іншае, як Барычэўскі: ягоныя лекцыі падаваліся мне россыпам важкіх залатых шарыкаў, якія з мяккім грукатам сыпаліся на нас, ззяючы сонечнымі зайчыкамі. А лекцыі Бабарэкі нагадвалі даўгую-даўгую кудзелю, якую прадуць маўклівыя казачныя мойры на нястомных бліскучых прасніцах. Бабарэка прамаўляў ціха, ледзь нахіліўшы галаву на бок, часта задумваўся, трымаў паўзу, падбіраючы лепшыя словы і дакладныя аргументы, і хлопцы за апошнімі сталамі, страціўшы ніць ягоных разважанняў,

пляваліся і шыпелі: «Ну, далібог, Геракліт Цьмяны». Але ж лекцыі не прагульвалі: было зразумела, што трэба хадзіць. «Мне ён нагадвае Іісуса, і я нават уяўляю яго ўкрыжаваным», — прашаптаў неяк Каратай, якога Глебка зазваў на лекцыю паслухаць Бабарэку. Да таго ж на гэтым семінарыі мы вывучалі, апрача знаёмых і любімых Купалы і Коласа, і Дудара, і Крапіву, і Зарэцкага, і маіх тэхнікумаўскіх таварышаў — Труса і Антосіка Адамовіча. Аднойчы аналізавалі Глебкаў верш, і Петрусёк наш сядзеў ажно малінавы ад задавальнення і хвалявання.

Гісторыю Расіі нам чытаў сам Пічэта.

Такіх людзей, як наш Пічэта, ніхто з нас раней ніколі не бачыў. Хоць мы ўсё ж пабачылі шмат сапраўдных вучоных — і Лёсіка, і Ігнатоўскага, і Дрэйзіна, але ўсе яны былі свае, зразумелыя дзядзькі. Лёгка можна было ўявіць, як яны, зняўшы гарнітуры і апрануўшыся ў хатняе, выносяць з дома дываны на снег ці, прыкладам, п'юць піва. Нічога такога нельга было ўявіць пра Пічэту. Ён быў зусім іншы.

Заўсёды прыгожа, дарага, выкшталцона апрануты, заўсёды падкрэслена ветлівы, ён, здавалася, не зусім чалавек. Не верылася, каб ён мог, як простыя людзі, хварэць на жывот, ці цалаваць жонку, ці чхаць. Мы ведалі, што ягоны бацька быў рэктарам духоўнай семінарыі на Украіне, і са здзіўленнем, без жарту, дзяліліся паміж сабой: гэта во як у мяне, прыкладам, бацька чыгуначнік, дык і я хачу быць чыгуначнікам. А ў яго бацька — рэктар. Калі Пічэта дазваляў сабе эмоцыі, дык гэты былі толькі высокія эмоцыі. Аднойчы ён прыйшоў на лекцыю незвычайна ўзбуджаны — паколькі такое не здаралася ніколі, усе адразу заўважылі. Ён стаў за кафедру, памаўчаў, стрымліваючы дыханне. «Мне... Мне трэба было... Прыйшла поштай кніга — грэчаская. Я думаў, я ўжо зусім усё забыў. Але не! Прачытаў! Усю першую старонку прачытаў! Помню!» Памятаю, мы былі так агаломшаны і ягоным станам, і гэтым тлумачэннем, што некалькі секунд разгублена маўчалі, а потым пачалі шалёна пляскаць, адбіваючы далоні, і Пічэта заўсміхаўся, паправіў гальштук — і прыгожым жэстам прыгожай рукі спыніў нас і распачаў лекцыю.

Аднойчы бачылі яго раз'юшаным. Ішоў экзамен. Адказвалі мы, натуральна, па-рознаму, і рэакцыю прафесара лавілі па нейкіх нязначных зменах на ягоным шляхетным, нібыта выразаным з сандалавага дрэва, твары: вось ледзь-ледзь сышліся бровы, вось знікла змурачка, вось зайгралі агеньчыкі ў вачах, а вось крышачку, амаль незаўважна папоўз уніз куточак вуснаў... Што сказала яму дзяўчына, якая адказвала тады, ніхто не пачуў, але Пічэта падскочыў, пабег да дзвярэй, адкрыў іх адным махам і крыкнуў па-руску: «Как вы смеете приходить ко мне с такими знаниями! Немедленно подите прочь!» Гэтае «подите прочь» мы потым іншым разам паўтаралі між сабой з нейкай нават пабожнасцю.

Ён размаўляў па-беларуску з невялікім акцэнтам, празмерна выдзяляючы «дз» і крышачку змякчаючы «р». У яго была прыгожая руская мова, не

надта добра, але даволі бегла размаўляў ён польскаю, ведаў французскую, нямецкую, грэчаскую і лаціну, прыводзіў нам прыклады з чэшскай, але прыгажэй за ўсё гучала ў яго ўкраінская. Аднойчы мы пачулі, як ён спявае. Імжыла, ён стаяў пад брыльком на ўніверсітэцкім ганку ў чаканні і, адстукваючы кійком такт, ціха мармытаў: «И шумыць, и гудэ, дрибэн дождык идэ».

Нікога са студэнтаў ён ніколі не шкадаваў. Заданні даваў гіганцкія, і неяк на семінары адна дзяўчына, запісваючы чарговае даручэнне ягонае, заплакала наўпрост перад ім. За два гады, якія чытаў нам свае курсы Пічэта, я толькі аднойчы чула, як ён кагосьці пахваліў, але гэта была свядомая ягоная пазіцыя: «Будзьце скваплнымі ў адзнаках, не мяркуйце катэгарычна ані ў благі, ані ў добры бок, бо кожная катэгарычная думка — памылковая». Асабліва стагналі ягоныя аспіранты, якія хадзілі да яго не толькі ў будні, але і па нядзелях: у 11:00 дома ў яго пачыналіся «пічэтнікі». Аспіранты стагналі, а я марыла, што скончу асноўны курс і папрашуся да яго ў аспірантуру, хоць ніводнай дзяўчыны, якую узялі б на такую пачэсную пасаду, я не ведала тады.

Мовазнаўства ў нас чытаў Бузук. Якраз тады ён завяршаў працу над знакамітай сваёй «Лінгвістычнай геаграфіяй Беларусі», і мы некалькі разоў усім курсам перакладвалі, парадкуючы, мільёны картак, на якія былі выпісаны словы, слоўцы, славечкі, сабраныя Бузуком і ягонымі вучнямі немаведама дзе — па ўсёй Беларусі, па ўсіх магчымых кніжках. Мы ведалі, што Бузук друкуецца і як пісьменнік у «Маладняку», хай і пад псеўданімам, псеўданім той — П. Росіч — мы імгненна вылічылі.

Былі і такія, якіх ніхто не любіў. У нас пакуль нічога не выкладаў Воўк-Левановіч, але з гутарак на калідорах мы ўжо ведалі, што старшакурснікі распачалі супраць яго сапраўдную вайну і нават адмаўляліся здаваць яму залікі і экзамены.

Не надта любілі мы, невукі, і Піятуховіча, які быў тады нашым дэканам: было відаць, што лекцыі па беларускім фальклоры яму перашкаджаюць у бясконцых ягоных навуковых і гаспадарчых справах, і ён чытаў іх неахайна, подбегам, а іншы раз, казалі, і не вычытваў курс. Аднак сачыць за ім на калідорах было цікава: ён быў хуткі, жвавы, не хадзіў, а бегаў, і паўсюль насіў цяжкі тоўсты партфель, у якім, як казалі, ляжаць неверагодныя архіўныя адкрыцці нашага дэкана, якія толькі трэба знайсці час апублікаваць.

Наогул, жыццё тады гуло і віравала ў сценах былога Камергерскага вучылішча, у тых некалькіх пакойчыках, якія займаў педфак (чатыры ў сутарэнні, пяць на другім паверсе і актавая зала), выходзіла насценгазета, бясконца адкрываліся і закрываліся нейкія сходы, дыспуты, ставіліся па-за асноўным працэсам даклады, але не было ўжо той прагі да іншых людзей, да чужых вершаў і чужых думак, як на маім першым курсе БПТ. Ці, можа, гэта я сталела і мае ўласныя перажыванні былі цяпер мне даражэйшыя за перажыванні іншых.

# РЭДАКЦЫЯ. «МАЛАДНЯК»

У кастрычніку ён здаў справы «Маладняка» Мурашку.

Вельмі хацелася ўзяцца сур'ёзна за вучобу. Тады, у дваццаць трэцім, калі Дудар паступіў на першы курс этнолага-лінгвістычнага, БДУ нагадваў, хутчэй, гульню ва ўніверсітэт. Далібог, у Фальковіча і Зубакіна справа была пастаўлена на куды больш надзейныя рэйкі. Нават у казлоўскай гімназіі, з якой разам перажывалі і бежанства, і часовы ўрад, і Кастрычнік, было больш парадку. Тут жа панаваў страшны бардак. Раскладу заняткаў амаль не было, прыходзіў, хто мог, і чытаў, што лічыў патрэбным. Асабліва смешным падаваўся тады нейкі малады хлопец з буржуазнай бародкай, у дарагім строі, з выразам пагарды на твары: дацэнт невядома якіх навук, ён распачаў лекцыю з хваласпеву сабе, а працягнуў няўцямнымі разважаннямі на неабавязковыя тэмы. Хоць яны і здавалі яму залік, немагчыма было ўспомніць ні ягонае імя, ні нават прадмет, які ён вёў.

Але нават Пічэта і Замоцін тады, на дурны малады розум, здаваліся нуднымі. Што за глупства: прачытаць манаграфію і пераказаць яе сцісла на пяць старонак? Гэтае заданне, якое даваў Пічэта кожнаму студэнту, а потым правяраў, строга і ўважліва, выклікала ў Дудара абурэнне. Ажно ванітавала ад гэтых заданняў. А сёння — сёння ўжо хацелася браць манаграфіі і пераказваць іх сцісла. І пераказваць менавіта Пічэту.

Наогул гэты пажылы ўкраінец, высокі і падцягнуты, з халёным і пародзістым абліччам, прыгожымі рукамі і скупымі жэстамі, вельмі падабаўся яму яшчэ і за тое, што акуратна і старанна размаўляў па-беларуску і заўсёды падымаў у неўразуменні брыво, калі чуў у дачыненні да беларускіх ведаў рускую гаворку.

Вельмі хацелася ўзяцца нарэшце сур'ёзна за тэорыю літаратуры — і абавязкова з Барычэўскім. І хоць Барычэўскі закончыў тую мужчынскую гімназію, да якой у іх з Толькам яшчэ з часоў Фальковіча і Зубакіна было пагардлівае стаўленне, трэба было прызнацца, што спецыялістам ён быў недасягальным.

Але з першых самых лекцый энтузіязму троху паменела. І не праз выкладчыкаў, ён ужо ўмеў падзяляць вартасць ведаў і асобу таго, хто іх нясе. Надта няўтульна было ў аўдыторыях. Іншы раз адчувалася сапраўдная варожасць — да ягонай вопраткі, да манеры паводзіць сябе, натуральна, да мовы. «Слухай, Зарэцкі, а мы ж для іх пішам. Гэта ж яны — нашы чытачы», — сказаў неяк Міхасю, які толькі раздумваў, каб на наступны год ўзяцца за навуку. «А з чаго ты ду-

маў, што яны інакшыя?» – здзівіўся Зарэцкі. «А не ведаю, – таксама здзівіўся самому сабе Дудар. – Неяк усё ж выступы, разумееш, сцэна ці па раёнах даклады і вершы, удзячная публіка, дзяўчаты, апладысменты... Адарваліся мы ад народа, я так разумею. Учора адзін сказаў: „Разговаривай со мной по-русски, я вашего деревенского языка не понимаю“. Ледзь стрымаўся, каб не заляпіць якую поўху». Зарэцкі нічога не сказаў, толькі кіўнуў галавой.

Такое памяталася яшчэ з Полацка, з «Красного пахаря», які ў межах беларусізацыі даваў артыкулам беларускія загалоўкі і пакідаў рускі тэкст. Шурка ажно пырскаў слінай у тлумачэннях, нашто беларусізаваць «Красный пахарь» і чаму даваць беларускія загалоўкі – гэта горш, чым не даваць нічога. Спачатку ад аго адбіваліся жартамі, а потым зненавідзелі. Ён прыходзіў у гэтую пастылую рэдакцыю – малады, жаўтароты, дваццаці не было – раз'юшаным пеўнем, і ўжо з раніцы яго сустракалі стомленымі, непрыязнымі позіркамі.

«Ты, хлопча, пакінь крычаць, – сказаў яму аднойчы пажылы, сівы ўжо кур'ер. – Што ты тыцкаеш нам сваю беларусізацыю, як той жупел? Усяго і жадання ў нас – каб хлеб быў і не чапаў ніхто. Газета выходзіць? Выходзіць. Грошы плацяць крыху? Плацяць. Не каламуць ты ваду. Дай пажыць».

Тое самае было зараз, толькі прайшлі ўжо гады і не полацкая гліна была пад нагамі, а сталічны брук. Іншы раз накатвала такая нуда... Ішоў да Наташы, сядзеў у яе ў пакоі, сумны, злы, маўклівы, яна крыўдавала. Тады, выбачыўшыся, сыходзіў і кружыў па свіслацкіх мастах з аднаго на другі, мерыў нагамі Чырванасцяжную вуліцу. Разпораз спатыкаў там Макавеева, свайго старога настаўніка з апошняй школы, чыгуначнай сямігодкі, якую кінуў, бо, акрамя Макавеева, слухаць там не было каго. Стаялі з ім: Макавееў, гледзячы на свайго любімага вучня добрымі, уважлівымі вачыма, нешта пытаўся, а потым, дачакаўшыся ягонага кароткага адказу, павольна ціхім голасам расказваў што-небудзь з «былых часоў» – часта не да справы, але заўсёды хацелася яго слухаць, троху адступала нуда. «У нашым жыцці наогул няшмат сэнсу, Саша, і тым не менш гэта адзіны ў свеце асэнсаваны занятак – тое, што вы робіце. Літаратура. Такі парадокс. Бо ўсё загіне, а яна застанецца. Людзі перастануць разумець карціны і забудуцца на музыку, а слова будзе жыць, – сказаў ён аднойчы, заўважыўшы і зразумеўшы чорную тугу ў ягоных вачах. – Таму вы пішыце. Нават цяпер пішыце. Што заўгодна, для сябе, на чарнавік. У вас талент, вам нельга маўчаць. Памятайце пра бясплодную смакоўніцу».

Стаяць старому было цяжка, і яны развітваліся, і Макавееў ішоў дадому (жыў ля самай былой семінарыі, дзе выкладаў калісь), а Дудар, колькі можна было, усё аглядаўся на яго і тады, як стары

знікаў у кляновай пацярусе, ішоў назад да Наташы, зноў садзіўся ў кут, дачакаўшыся, покуль выйдуць дзяўчаты, і ныў: «Наташка, ну калі ўжо? Хачу забраць цябе зусім». Здавалася, гэта толькі і дапаможа. Наташа рабіла строгі выгляд і казала: «Увесну, Алесь. Дзед сказаў – увесну». Вярталіся дзяўчаты, пачыналі дэманстратыўна пазяхаць, і ён ішоў дадому, але па дарозе збочваў на Камсамольскую, у маленькі шынок, і браў там піва і сядзеў, смурны і маўклівы, покуль гаспадар, маленькі, чарнавокі, вёрткі чалавечак, тысячу разоў выбачыўшыся на ўсе лады, не паведамляў, што закрываецца. Чамусьці не было нікога з хлопцаў: Толька з'ехаў у Ленінград на кінастудыю, Зарэцкі мала выходзіў з дома, заняты новым раманам, Валька некуды прапаў – мо акруціла якая Маруся ці Ніна і трымала ля сябе. І ўжо зусім цёмна крочыў на сваю Правадную і спецыяльна праходзіў па Інтэрнацыянальнай, паўз Інбелкульт. Не грэла ўжо. Толькі цягнула ўнутры раздражненнем.

Як зразумела, як проста падавалася ўсё раней! Здавалася, толькі гукні – і вось яно, новае жыццё. І будзе ўсё правільна, і шчасліва, і прыгожа – толькі выбрацца з нэндзы, толькі распачаць жыць. На чырвоных тканінах пісаліся такія правільныя, такія доўгачаканыя словы. Здавалася, калі яны, тыя словы, знойдзены, чалавек кіне хварэць, бедаваць і грызці зубамі каменную зямлю, і ўсе стануць адзін аднаму братамі, і пачнецца жыццё, і будзе беларус чалавекам звацца, і зажыве як у казцы. І мова ягоная, прыгожая і мяккая, загучыць не толькі ў чорных хатах – загучыць у залах і ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях. А выходзіла, што з усяго новага жыцця людзям хацелася хлеба толькі і спакою, скокаў і віна, а мовы не хацелася. І Беларусі ніякай не хацелася.

«Што ты ходзіш, сынка, нейкі пагубляны? Мо здарылася што? Мо на працы? Ва ўніверсітэце?» – усё пыталася маці, і ён нават злаваўся і сыходзіў да сябе, перакусіўшы прыхапкам, без апетыту. Калі атрымлівалася праваліцца ў нейкую кніжку, правальваўся цалкам, адчайна, засынаў з ёй, але атрымлівалася такое рэдка. Часцей глядзеў у літары, а думаў пра сваё. Пра тое, што столькі высілкаў – дарма і ўсё – дарма, а рабіць няма чаго, бо болей ён нічога не ўмее і нічога болей не любіць рабіць.

Перасталі прыходзіць вершы. Садзіўся і пісаў, механічна складаючы радкі ў строфы. Словы клаліся адно за адным, паслухмяна, з гатоўнасцю і нават з задавальненнем, як кладзецца вулічная жанчына пад прыгожага цвярозага хлопца, але не было ў гэтым ані таямніцы, ані сэнсу. Так ён скончыў «Байкал», паэму, якую пачаў пісаць яшчэ ў цягніку і якая рвалася тады з яго так, ажно садніла сэрца. А потым накаціла нуда, і дапісваў яе, ледзь трываючы, проста ўжо каб

паставіць якую кропку і аддаць у часопіс. Аддаваў ужо ў «Полымя». Хоць і «Маладняку» бракавала матэрыялаў, але аддаў туды.

А ў кастрычніку прыехаў Толька. Як заўсёды, бадзёры, вясёлы, нібыта спружына ў ім, навюткая і туга заведзеная, не ведала ані стомы, ані іржы. «Не калупайся ў носе, Дудар, кроў пацячэ! – засмяяўся ён, пабачыўшы панылы настрой сябра. – Правільна робіш, што паціху адрываеш сябе ад „Маладняка“. Трэба рухацца, нельга сядзець увесь час на адной лаве – срака прыліпне! Я тут, браце, наноў падумаў, памятаеш, казаў табе летам: а ці не ўзяцца нам за дзяцей? Што ты глядзіш на мяне? А! А-ха-ха-ха! Не, ты не зразумеў! Напісаць для дзяцей! Такога каб напісаць – ух! Во як мы з табой па балоце тваім гайсалі, памятаеш? Каб усё было: і прыгоды, і небяспека, і барацьба, і перамога. Я дам сюжэт, я зараз у сюжэтах – геній, навучыўся, брат, ажно з-пад пяра дым ідзе, вы з Андрэем дамалюеце характары...» – «З Александровічам?» – «З ім, Шурка, з ім! І не крывіся мне. Александровіч – то сіла, брат, ён нам гэта ўсё міталем у выдавецтва прапхне, як алеем падмажа!»

Але покуль да дзяцей, увязаліся ў скандал. Пайшлі тады разам – ён, Толька, Александровіч – у БДТ на прэм’еру «Каля тэрасы». П’еса Грамыкі, навукоўца, які выкладаў геалогію і мінералогію ў Белпедтэхнікуме, якога можна было сустрэць і на педфаку, дзе ён таксама нешта чытаў, нечакана аказалася вельмі моцнай, па-сапраўднаму сучаснай, вострай, з глыбокай думкай. І ніякага прымітыву, ніякага заляцання да публікі, а галоўнае ж – сваё, роднае, на тутэйшым грунце гадаванае. І яшчэ падабалася: нарэшце на сцэне не было крынак і ручнікоў, паноў і паўпанкаў, пастухоў і гусляроў і ўсяго гэтага этнаграфічнага, абрыдлага, нібыта беларус – гэта вёска, гарлач і гарэлка. У антракце сустрэлі наркама Баліцкага – той ажно свяціўся: «А здорава зроблена, а, хлопцы?» І так радасна было ўсім, і з такой святой крыўдай успомнілі, як ганяць і бэсцяць у «Звяздзе» БДТ розныя Фрыды і Асьмовы, што тут жа вырашылі напісаць адкрыты ліст у падтрымку беларускага тэатра.

Дадому Дудар ажно бег, і гарачыя, хвосткія радкі складаліся самі, ірваліся на паперу. Літаральна за дзесяць хвілін выплеснуўся ліст, а з раніцы яго ўжо падпісалі Толька і Александровіч. «Толькі давай, брат, пачакаем крыху, як „Звязда“ звягне, а яна звягне. Тут і мы».

І «Звязда» звягнула літаральна праз дзень пасля прэм’еры, і яны з Толькам пайшлі да Адамовіча – падпісваць ліст. Падпісаў і ён, адправіў іх да Цвікевіча, падпісаў і Цвікевіч, і прысутны пры ім нечакана Ластоўскі. Яшчэ схадзілі да Зарэцкага, які ляжаў хворы, але, яны былі ўпэўненыя, не дараваў бы, як не зайшлі б да яго. І Зарэцкі, не ўстаючы з ложка, паставіў і свой подпіс. Якраз у рэдакцыі

не было Чарота, і ліст праскочыў рэдактуру Каплана, ані разу не скамечыўшыся.

А назаўтра Каплан ужо скокаў у начны хуткі на Маскву і імчаў да Чарота параіцца і прасіць паратунку, бо ўзняўся страшэнны гвалт і лямант, і толькі званкі Чарота адратавалі падпісантаў ад жорсткай гутаркі ў ЦК. Замест яе быў артыкул Васілевіча «Трэба біць па руках», і па руках іх усіх дабрэнна налупцавалі. Але нудна ў тыя дні не было зусім. Было злосна і весела.

Тады ён і здаў справы Мурашку. Ані Чарот, ані Зарэцкі ўжо амаль не з'яўляліся ў «Маладняку», Дудар быў апошнім са «старых», хто яшчэ мільгаў у рэдакцыі. Але цяпер сыходзіў і ён. Паціскаючы яму руку, Мурашка сказаў: «Што ж, цяпер наша чарга трымаць гэтую справу». І ажно сціснула сэрца абцугамі. Справа будзе жыць далей, але без яго. Як гэта?

Ніхто амаль не заўважыў тады, што Дудар пакінуў часопіс: якраз грымела літаратурна-мастацкая камуна, якую зладзіў гэты enfants terrible* Шукайла і куды пабеглі з «Маладняка» вечна незадаволеныя Атава, Прыбыткоўскі і Гародня, куды прыбіўся Відук і куды цалкам нечакана пайшоў разважлівы і практычны Броўка. Шукайла неадкладна здабыў грошы на свой часопіс, гразіўся пераплюнуць «Узвышша» і мець падпісчыкаў нават у Маскве. Тут жа ўтварыўся «Пробліск», куды сыпанулі непрыкаяныя і калісь пакрыўджаныя «старымі» Туміловіч, Бобрык і астатнія мінчукі. Карацей, было аб каго пачасаць языкі і без таго, каб заўважыць, што ў пераліку адказных рэдактараў «Маладняка» паменшала на адно імя. І хоць ягонае імя ўсё ж было не з тых, якія знікаюць незаўважна, але зараз было не да яго. Ён яшчэ зайшоў аднойчы ў рэдакцыю – сур'ёзны, сабраны, у светлым строі, у пінжаку, зашпіленым на ўсе гузікі. Былі Барашка і Платон Галавач. Паціснуў кожнаму руку, сеў за вольны стол. «Ты выбачай, Дудар, сёння ўвечары хочам сабраць рэдкалегію, дык рыхтуюся зараз, часу няма!» – перапрашаючы, сказаў Галавач, і Дудар кіўнуў і рукой дадаў: займайся, маўляў, я тут па сваіх справах. І доўга сядзеў за сталом моўчкі, перабіраючы ў памяці ўсё, што было ў гэтым пакоі, і добрага, і благога. Потым паадчыняў шуфлядкі: ці не забыўся тут на свае паперы. Галавач сядзеў, унурыўшыся ў рукапіс, Барашка то выбягаў, то вяртаўся, і нарэшце заставацца стала зусім няёмка – і ён сышоў.

І пакрысе выкараскаўся са сваёй нуды: заняліся з Андрэем і Толькам аповесцю, якую, захлёбваючыся, напісалі за два тыдні, а потым патроху апрацоўвалі, перакідаючы з партфеля ў партфель, ажно да

* Жудаснае дзіця (*фр.*)

самай вясны, па прапанове дзядзькі Цішкі склаў кніжку сваёй крытыкі на ўзор украінскага зборніка Андрэя Хвілі і нарэшце дамогся ад Наташы, каб назвала дзень, у які яны пойдуць і запішуцца.

Недзе ў гэтыя дні, спазняючыся на лекцыю Барычэўскага, ён пачуў раптам у аўдыторыі педфака голас Насты. Хутчэй за ўсё, яна рабіла нейкі даклад, бо казала гучна, складна, было зразумела, што рыхтавалася. Ён заслухаўся ажно – як проста і прыгожа яна казала. Яе беларуская мова была зусім гарадская, у ёй не было непатрэбных «сакавітых» нагрувашчанняў, але не было і русізмаў, і кожнае слова стаяла на сваім месцы, і яна ведала вартасць кожнага з гэтых словаў. Ніколі ён не чуў, каб нехта з дзяўчат так спакойна і ўпэўнена абыходзілася з навуковым словам, хіба Вера Харужая некалі так спакойна, па-гаспадарску абыходзілася са словам агітацыйным. І ён раптам адчуў, што зусім не крыўдуе на яе, дый на Дубоўку болей не крыўдуе. Адпусціла ўсё за адным скрыпам.

Навокал было неспакойна. Прыходзіў да яго неяк прыцемкам на Праўдную Прышчэпаў – адзін, з пляшкай гарэлкі. Яны сябравалі, але адзін ён ніколі не заходзіў – ці з Ільючонкам, ці з Шастаковым. Сустракаліся ў Александровіча, а тут прыйшоў адзін, папрасіў зачыніць дзверы. «Табе аднаму, атрымліваецца, веру, Дудар. Няма з кім пагутарыць нават. Адамовіча – і таго баюся. Няхай матка не ідзе сюды, прынясі сам чаго закусіць і не кажы, хто ў цябе, пасядзім ціха ўдвух давай». Спачатку пілі моўчкі, а потым Прышчэпаў цяжка і важка, падбіраючы словы, сказаў: «Не дадуць яны нам рабіць тое, што мы пажадаем, Дудар. Не дадуць. Мы тут хваста распушылі, крылы расправілі, маўляў, Беларусь – чырвоная Данія, хутары, вольнае землеўладанне. Хлеба, солі, зямлі, волі. Ага. Кішэні падстаўляй, заўтра з мехам прыходзь. Хутары. Усё, брат. Перадалі тут абазнаныя людзі. Рыхтуемся ўсіх у калгасы. Калектывізацыя. На днях будзе артыкул Сталіна. Супроць яго ніхто не пойдзе. Вось так». Маўчалі яшчэ. Дудар ведаў, натуральна, праграму Прышчэпава наконт Беларусі – чырвонай Даніі, але ніколі не паглыбляўся: ён не любіў вёску і не цікавіўся ёю, хіба памінаў благім словам памятную з дзяцінства Таль і добрым – пастаральныя вёсачкі, у якіх бываў з галубкоўцамі. І зараз ён не надта добра разумеў, што благога ў калгасах і што за звер такі – калектывізацыя, але тое, што беларусам не дадуць вырашаць свае зямельныя справы так, як яны палічаць патрэбным, абуджала ўнутры цяжкую, як і настрой Прышчэпава, нянавісць. «Мае дні ў наркамаце злічоныя ўжо. Пабыў наркамам земляробства – і бывай, Зміцер, збірай чамаданы. Хацелася нешта зрабіць. А дулю табе, – і ён брудна лаяўся, усё больш п’янеючы. – Але я буду змагацца, брат. Не-е-е-е, не за Данію. Я за

імі пайду. Як скажуць, буду рабіць. Счакаю. А мо і выкруціцца неяк па-нашаму. За Сталіным пайду. Бо інакш нічога зусім не будзе, брат. Прышлюць з Масквы якога Дзмітрыя замест Змітра — і будзе тады зусім нам усім голая бручка». І ўжо як дапілі і Прышчэпаў цяжка падняўся, сказаў наўпрост у твар Дудару: «Ведаю, што ты не сачкам. Але вось стаю перад табой і баюся, што здасі». Дудар моўчкі паматаў галавой. «Ну то глядзі, — уздыхнуў Прышчэпаў, — бо адзін усё гэта думаць не магу, а каму расказаць — страшна. А ты сам такі, як і я. Цябе таксама здадуць, вось пабачыш. Толькі не я».

Дудара здзівіла, што Прышчэпаў баяўся гутарыць з Адамовічам. Каго заўгодна можна было лічыць сачкамам, але толькі не Алеся Фаміча. Праз увесь год Адамовіч, зусім асмялеўшы, друкаваў у «Беларускай вёсцы» грунтоўныя, хоць і асцярожныя артыкулы пра гаспадарчую самабытнасць Беларусі, прапагандуючы, па сутнасці, «чырвоную Данію» Прышчэпава, дый наогул быў зацятым ворагам маскоўскага ўплыву. Каму і навошта ён мог здаваць Прышчэпава, калі сам быў такі самы і яшчэ горшы? Тады ўжо і самога сябе трэба было лічыць шпіёнам. Можа, і я шпіён? Можа, кожнае слова нашае запісвае нехта і нясе ў ГПУ, дык чым мы тады лепшыя за сачкамаў? Вынік адзін.

Атрымлівалася так, что Масква не выпускала іх, нягледзячы на рэвалюцыю, на беларускую ўладу, на беларусізацыю, усё заставалася, як пры цары. З аднаго боку дыхала ненажэрная Варшава, з другога — векавечная прагная Масква. Сышоў Ленін — і кола зарыпела, пакацілася зноў: праглынуць, скарыць, паставіць на калені, адабраць голас, каб знямелі — назаўсёды ўжо. Укласці ў нямыя вусны сваю мову. Няўжо праўда? Няўжо не рыпнемся нават? Няўжо ўсё дарэмна? Зноў і зноў задаваўся ён гэтым праклятым пытаннем, але цяпер унутры мацнела жаданне змагацца. Падабраць тыя простыя словы і сказы, з якіх усе і ўсё зразумеюць і пойдуць за імі. Каб ва ўніверсітэцкіх калідорах беларускага ўніверсітэта размаўлялі па-беларуску. На вуліцах. У кіно. Чаму так не было? Яму падавалася: гэта так натуральна — размаўляць па-свойму. Нашто яны, як шпакі, пераймалі чужое, адмаўляючыся ад свайго? Ён зноў і зноў успамінаў грэблівыя выразы на тварах хлопцаў і дзяўчат у аўдыторыях педфака: «Мы не понимаем, говорите, пожалуйста, по-русски». Гэта былі не тыя шчырыя вясковыя дзяўчаты, якія адбівалі далонькі на вечарынах у дваццаць пятым годзе. Гэта былі гарадскія, прыгожа апранутыя, спырсканыя парфумай прыгажуні, якія слухалі Вярцінскага і чыталі Шкапскую. Чаму гэтыя былі не з імі? А што, калі яны былі адныя і тыя, але абралі Шкапскую, а не Чарота, не яго, не Зарэцкага? Чаму манерны масквіч Дубоўка быў

ім даражэйшы за свайго Дудара? Адказаў не было, але нараджаліся злосць і жаданне змагацца. Што зробяць з ім сачкамы? Што ён робіць благога? Не агітуе супроць партыі, не змагаецца з уладай, усім сэрцам падтрымліваючы яе, сваю ўладу і партыю, жадаючы аднаго толькі – беларускага на Беларусі.

Ён спрабаваў пагутарыць пра гэта з Наташай – яна глядзела здзіўлена і непрыхільна. І праўда, хіба трэба было абцяжарваць яе гэтым? Прыгожая, спакойная, пяшчотная – як ён чакаў яе побач. Хутчэй бы ішла вясна.

## ГОРАД. ЛАЗНІ ПЛАЎСКАГА

У рэдакцыі «Полымя» прахалодна і ціха, кожны заняты сваёй справай, і калі заводзіцца гутарка, дык абавязкова няспешная. Праўда, гэта пакуль не набегла маладых: з таго часу, як у «Полымя» перайшлі маладнякоўцы, цішыні ў рэдакцыі паменела, а жартаў паболела.

— А вы прыходзьце, хлопцы, у чацвер да Плаўскага. Прыкладам, а пятай. Гэта мой час у іх, яны ведаюць, нават запісвацца не трэба. Памыемся, а потым да мяне, пасядзім. Ды ведаю я, Шурка, што ты ў сваю чыгуначную па білетах ходзіш, але ж не пашкадуй ужо для добрай кампаніі рубля, падтрымай грамаду.

Дудар пасміхаецца і ківае: згода, дзядзька Янка. Новая чыгуначная лазня ля Брэсцкага вакзала, куды ён ходзіць па суботах па бацькоўскім білеце бясплатна, – то ж проста памыцца. Ані парыльні, ані кампаніі, хоць і без таго добра: адшуравацца за тыдзень у гарачай вадзе, якую лі – ажно залівайся. Але ж лазні Плаўскага – зусім іншы каленкор. Колькі ім гадоў, тым лазням? Сто? Там яшчэ сустракаюцца лазеншчыкі, якія парылі грамадзян за царом, і вы паспытайцеся ў іх, які пар бываў у даўнія часы. Усё, кажуць яны, мяняецца да лепшага, але ж пар – да горшага. Ды добра, што ёсць яшчэ лазеншчыкі, якія разумеюць, што да чаго ў лазні. І найлепшыя з іх – у Плаўскага.

— Мы яго там разам адмыем да немаўлячага стану, бо жэніцца ж хутка, трэба як след паскрэбці хлопца. Як такога адпраўляць, непаскрэбенага? Нявесту спужае, – сур’ёзна дадае Вольны.

— Ды ў яго нявеста ўжо пужаная, здаецца, чаго толькі за жаніхом сваім не бачыла, – пасмейваецца Купала. – Мо як адмыем, дык не пазнае? Верне назад?

Усе рагочуць.

— Гэтая верне! Абы-што браць не будзе! – выкрыквае Маракоў.

— Годзе, хлопцы, нешта не туды вас нясе, – перапыняе Дудар.

Як Валька бярэцца жартаваць, дык трэба дужа сачыць: меры не ведае, асабліва што тычыцца дзяўчат.

— Ды не хвалюйся, не пакрыўдзім мы тваю Натальку, – прымірэнча ляпае яго па плячы Толька. – Ты і без нас такую задачу агораеш.

Дудар ссоўвае бровы, значыцца, пачынае злавацца. Пабачыўшы тое, Вольны падае астатнім знак: годзе, і праўда, а то ж, самі ведаеце, узарвецца.

– Дык у чацвер чакаю вас тады, хлопчыкі. Чарота бярыце, Валька, і ты каб быў, Барашачку Іларыка не забудзьцеся. Хто там яшчэ? Зарэцкаму скажыце, што і ягамосця просім завітаць, няхай з суседам прыходзіць, даўно я Гурло не бачыў.

Добра з Купалам у «Полымі». Зусім інакш, як у «Савецкай Беларусі», інакш, як у «Маладняку». Небяспечны жарт спыняецца, рогат сціхае. Няма ніякай спешкі, усё «чынна-высакародна»: вітанне, гутаркі, абмеркаванне тэм і матэрыялаў, інтэлігентныя спрэчкі па філасофскіх пытаннях, выкшталцоныя жарты, развітанне, іншы раз нават лёгкі паклон. Ніхто не падвышае голасу, не ўзрываецца, не шоргае крэсламі, а калі праскочыць незадавальненне ці нязгода – толькі рысы твару камянеюць ды ўсмешка становіцца крываватай. Цікава, у «Нашай ніве» тады, у мінулым беларускім жыцці, калі ўсе яны, сённяшнія старыя, былі маладыя, таксама гэтак «чынна і высакародна» было? Ці гучна і выбухова, як спачатку ў «Маладняку»? Ці імклівa, імпэтна, як у Чаротавай «Савецкай Беларусі»? Не верыцца, каб Купала мог скакаць на падаконнік дзе-небудзь у Вільні і крычаць адтуль вершы, як гэта скрозь рабілася на Рэвалюцыйнай, 15.

А ў чацвер яны ідуць да Плаўскага.

Двухпавярховыя лазні на самым беразе Свіслачы, ля Паліцэйскага моста, былыя лазні Плаўскага, а зараз лазня № 1 па вуліцы Кастрычніцкай, пэўна, не лепшая ў горадзе, але толькі ў гэтай грамадскай лазні засталася сапраўдная парыльня і толькі тут за дадатковы паўрубель цябе выпарыць той самы лазеншчык Ляксеіч, што памятае яшчэ апошняга менскага губернатара Друцкога-Сакалінскага: «А маладзенькі быў! Самы малады ў імперыі – наш быў, менскі, не жарты! Два разы быў тут у нас. Лазню скублі два дні перад тым, кожны кут з пяском аддзіралі. Чакалі. А ён такі быў. Просты. З народам хацеў бліжэй. Тады, вядома ж, абы-каго не пускалі, як ён быў. Народ, вядома, добра, калі народ, але акуратна трэба, меру ведаць. Харошыя людзі мыліся тады з ім. Як сеў, памятаю, на палок, ажно дошкі прагнуліся. Мажны быў чалавек. Зараз такіх не пабачыш. Агаладалі нешта ўсе».

Венікі прадаюцца наўпрост ля лазні: тут сядзіць сівенькі стары на перакуленай скрыні, і на дзвюх жардзінах, прыткнутых да сцяны, развешаны ягоны тавар. Венікі, на першы погляд, зусім аднолькавыя, бярозавыя, але з правай жардзіны каштуюць сорак капеек, а з левай – семдзесят. «Гэты, сынок, на два разы, а гэты – на чатыры». Кожны раз бровы на Толькавым твары паўзуць уверх, і ён выгукае: «Але ж яны аднолькавыя, дзядзька! Глядзі, і перавязаныя аднолькава!» – і бярэ два: адзін за сорак, другі за семдзесят. І кожны раз той, што за сорак, развальваецца проста ў руках пасля двух заходаў у парыльню, а той, што за семдзесят, трывае ўсе чатыры. «То адзіны сумленны гандляр у Менску, хлопцы, я вам кажу! Ніводнага разу не падмануў!» – дзівіцца Толька, адкідаючы ў кут ламачча сасцёбанага веніка за сорак.

Душна, парна, горача, хораша. Шыпіць вада на камянях, узрываецца парай, шыбае распаленай хваляй, якая коціцца па парыльні, працінаючы да самых касцей. «Ах ты ж, зараза, як жжэ, не схавацца, як ад Сянкевіча!» – стогне Вольны, і ўся парыльня рагоча. «А во я табе зараз Бэндэ нападдам!» – прапануе Зарэцкі і плёхае на камяні з паўконаўкі халоднай вады. «Пад Бэндэ венічкам, венічкам! Покуль не сплыло, сцебаніце! Яно тады хвашчэй б'е!» – камандуе Толька. «А во мы цябе зараз Кундзішам, Кундзішам! Па ўзвышшах!» – рагоча Чарот, і Ляксеіч, пасміхаючыся, бярэцца за Вольнага – адхвастаць як след жартаўніка. «А дай-ка, Ляксеіч, па ўзвышшах – дык і я дадам!» – падскоквае Маракоў.

Купала ціха пасмейваецца. Яны з Дударом сядзяць на самым версе, амаль пад столлю, у чаканні, покуль гарачыня стане зусім нясцерпнай і можна будзе выскачыць у мыльню і выліць на сябе з паўвядра халоднай вады. «От гэты Вольны, языкаты хлопец. А дарэмна ўсё ж да „Узвышша" чэпіцца». – «Усё, дзядзька Янка, я на выхад, не магу болей!» – кідае Дудар і выскоквае за дзверы. «Гэта хто там ужо пакінуў акопы? Што за дэзерціры? А! Гэта таварыш Глыбоцкі! Яму ў гэтай парыльні рабіць няма чаго, ён бы ў якой маскоўскай лазенцы венічкам на іншых замахнуўся б!» – крычыць яму ўслед Толька, і зноў усчынаецца рогат, і зноў з бацькоўскім дакорам на расчырванелым твары пасмейваецца Купала.

Выпарыўшыся, мыюцца доўга, у смак. «А што гэта, хлопцы, у Горках такое парабілася? Нешта я ў „Звяздзе" чытаў, вы там дыспут сарвалі ці што?» – пытаецца раптам Толька. «Што ў цябе, Вольны, сёння ў адным месцы свярбіць? Не даеш спакойна людзям адпачыць! – незадаволена пытаецца Зарэцкі, засяроджана намыльваючыся. – Болей не возьмем цябе з сабой – адзін клопат». – «Не чытай „Звязды", Толька, не крыўдзі таварыша Кудзельку», – радзіць

Маракоў. «Годзе табе, Анатолі Іўсцінавіч, людзей каламуціць, — строга кажа Купала. — А то здадзім цябе назад Ляксеічу ў парыльню і скажам тры скуры з цябе зняць». — «Трох ужо не будзе, дзядзька Янка, адна засталася, і тая латаная», — б'е адбой Вольны. «Дык мы латаную здымем тады — пойдзеш як ёсць, зусім голы», — страшыць Купала. «Тады і будзе з мяне нарэшце сапраўдны пралетарскі фельетаніст!» — завяршае Вольны, і ўсе зноў рагочуць.

Нікому не хочацца ўспамінаць, як тыдзень таму ездзілі на дыспут у Горкі.

Сабраліся ад «Полымя» — Гартны з Купалам і новапрынятая моладзь: Александровіч, Грамыка, Зарэцкі і Дудар. Ехалі цяжка, цягнік ледзь плёўся, спыняўся паміж станцыямі, а за Воршай загруз у снезе і дзве гадзіны чакаў, покуль разграбуць рэйкі. На станцыю Пагодзіна прыцягнуліся з раніцы.

Ля заснежанай панылай будыніны вакзала чакалі дзве падводы ад Горацкай акадэміі, мурзатыя худыя коні і суровыя фурманшчыкі пры іх. «Хоць бы саломы кінулі на калёсы, я ўжо не кажу пра што іншае, — з раздражненнем заўважыў Гартны. — А дзе хто з акадэміі? Хто сустракае нас?» Фурманшчыкі паціснулі плячыма.

Купала, у добрым дарагім палітоне, фабрычнага пашыву нагавіцах, стаяў побач з падводамі, не асмельваючыся ўскочыць на шэрыя, прыцярушаныя снегам дошкі. Крывіўся Зарэцкі. Міргаючы, пасміхаўся злой усмешкай Дудар. Во табе і прыехалі ў Горкі знакамітыя менскія літаратары. А наце, атрымайце. Абструкцыя цэлая.

Ад вакзала бяжыць маладзенькі хлопец — здаецца, Гаўрук. Ага, ён. Прыслалі смаркача сустракаць Гартнага з Купалам. «Выбачайце, таварышы, крыху прыпазніўся! Рэктар сёння якраз у Менску, вы адтуль, ён туды, такая неспадзяванка...» — «А дзе ж Максім Іванавіч Гарэцкі, які нас сюды запрасіў? Таксама крыху спазняецца?» — скрозь зубы працадзіў Гартны. «У таварыша Гарэцкага заняткі, ён у акадэміі, не прыехаў, але ж паслаў мяне». Усе разгубленыя. Адчуваецца, як у кожным прыехаўшым падымаецца чорная, блаславёная бессанню і стомай крыўда.

А ў горадзе панаваў амаль святочны настрой: Купала! Жылуновіч! Зарэцкі! Дудар! Горацкае студэнцтва з дзвюх гадзін ужо штурмавала драмтэатр, каб заняць найлепшае месца і не прапусціць ані слоўца ў дыспуце «Куды ідзе беларуская літаратура», анансаваным на афішах. На першым шэрагу ўжо размясцілася мясцовая філія «Маладняка»: хоць менскія таварышы ўжо ў іншай арганізацыі, а ўсё ж нешта парадзяць, усё ж дадуць веры і моцы — свае ж, пралетарскія пісьменнікі!

Між тым таварышы, якія павінны былі даць веры і моцы, стаялі на цэнтральнай плошчы ў самым кепскім з настрояў: ані кватэры, ані гасцініцы ім падрыхтавана не было. Пятнаццаць хвілін узмоклы Гаўрук бегаў па плошчы і нарэшце прыбег радасны, ускалмачаны: «Таварыш Гартны, таварыш Купала! Ёсць кватэра для вас!»

—«А астатнія?» – спытаўся дзядзька Янка, у якога ўжо нават вусны скрывіліся ад крыўды. «Астатнія пачакаюць няхай. То Горкі, у нас няма столькі кватэр у наём! Можна зайсці да мяне на гарбату, у мяне пакойчык на ўскраіне!»

Першым не вытрымаў Дудар: смачна сплюнуўшы пад ногі Гаўруку, развярнуўся і пашыбаваў па плошчы. Гартны махнуў Гаўруку: вядзі. «Трэба ж хоць бы твар апаласнуць. І вы, хлопцы, пакуль з намі. Зараз будзем вырашаць».

Тым часам у тэатры пачалося хваляванне: дзе пісьменнікі? Дзе дыспут? Дзе хоць бы хто-небудзь? Кіраўнік горацкай філіі Ганчарык выбег з тэатра і паімчаў да вакзала: мо там што ведаюць? На прылеглай да плошчы вуліцы праз акно ўбачыў Дудара: сядзіць у шынку за півам. Заскочыў у роспачы: што? як? чаму? «Нічога не ведаю, дзе ўсе, не ведаю таксама, мо і прыдуць да вас, прынамсі я не збіраюся». Падвыпіўшы ўжо, злы, як чорт. Што парабілася?

Шукалі іх па ўсіх Горках, зноў пабеглі да Дудара. Прасілі, гразіліся, ледзь не плакалі. Нарэшце той – зусім п'яны ўжо – здаўся: пайшлі, завяду. Прыйшлі. Угаворвалі, прасілі – не. Гартны адмовіўся цвёрда: як мы вам тут непатрэбныя, ніякага выступу не будзе. Да вас прыехалі не проста пісьменнікі – да вас прыехаў член урада Жылуновіч. Гэта што за стаўленне? Ідзіце і не прасіце нават.

Дамоў з'ехалі, як толькі ішоў цягнік. Гартны прыехаў на вакзал з той самай кватэры – не выйшаў з яе, покуль не далі падводу на вакзал. За Купалам прыбегла Мядзёлка – і забрала яго да сябе адпачыць ды падсілкавацца. Александровіч з Зарэцкім, адшукаўшы Дудара, далучыліся да сябра і грузіліся ў цягнік ужо «добранькімі». А потым усчаўся скандал, раздзьмуты «Звяздой»: пралетарскія пісьменнікі праявілі фанабэрыстасць! Паказалі буржуазную шляхетнасць! Зганьбілі гледачоў, якія дзве гадзіны праседзелі ў тэатры, чакаючы гасцей! Сарвалі дыспут!

Але ж і папсаваў Толька лазню! Ужо як апранаюцца ў чыстае – у кожнага унутры варочаецца нешта непрыемнае ад гэтых успамінаў. І немагчыма патлумачыць, чаму ўспамін не адпускае, чаму ад яго так неадчэпна непрыемна, чаму не атрымліваецца, як раней, адкінуць благое і радавацца добрай кампаніі і што наогул такое сядзіць у сэрцы, якое стала такім чуллівым да неасцярожных жартаў.

Яшчэ пастаялі разам на вуліцы, покуль агінаць лазню і крочыць да Купалавай хаты, бо кожны стараўся супакоіць непрыемную хвалю ўнутры і кожны бачыў, што сябар робіць тое самае. «Зарэцкі, ты пра Горкі думаеш?» — на ўсялякі выпадак, каб спраўдзіць здагадку, запытаўся Дудар. Зарэцкі моўчкі кіўнуў.

Свіслач, заледзянелая, ціхая, нябачная, ледзь чутна дыхала побач.

— Ну што ж, хлопцы, — Купала ўздыхнуў ці то з палёгкай, ці то з сумам. — А ўсё ж пайшлі да мяне. Уладзіслава Францаўна счакаецца.

Адсюль да Купалавай хаты вузенькім завулкам паміж драўляных дамкоў — з дзясятак крокаў. Завулачак, які бяжыць ад лазняў Плаўскага, упіраецца акурат у браму сядзібкі Стэфана Луцкевіча — малодшага брата тых самых Луцкевічаў. Праз два двары ад сядзібкі ў бок Пралетарскай — знаёмая кожнаму беларускаму пісьменніку таполя: палова камля — на вуліцы, палова — на двары. Круглая клумба перад домам спіць пад глыбокім снегам, ружовыя алеі абапал увахода ўкрытыя лапнікам, па сценах уецца калючы, абляцелы на зіму цёрн. Гэты дом кожны з іх ведае, як свой, і кожны ўваходзіць сюды з непрыкметным амаль, але ўсё ж хваляваннем.

Стол у Купалы заўсёды па-беларуску багаты: каўбаса, вяндліна, капуста з журавінамі, салёныя агуркі, грузды, яечня са шкваркай, хатняя локшына, бульба. Ніякага лошыцкага — толькі гарэлка і каньяк. Але балявання сёння няма — ціхая гутарка. Нават Вольны суцішыўся і за сталом больш маўчыць ды шмат п’е, упоравень з Чаротам, які даўно ўжо амаль не гутарыць за сталамі, дзе ёсць выпіўка. Гаворка ціха бяжыць. Пра ўсё, амаль не баючыся: у доме ўсе свае. Хіба размаўляюць цішэй, чым звычайна, ды Купала, зайшоўшы ў кабінет, кладзе на тэлефон вялікую падушку. Пра Грамаду, Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага. Вось-вось распачнецца суд над Грамадой, і Заходняя Беларусь застанецца зусім без абаронцаў беларускага інтарэсу ў Польшчы. Пра калгасы: няўжо і праўда ёсць у іх такая патрэба і ці пойдзе селянін туды. Пра «Звязду» маскоўскага халуя Асьмова і Чаротаву «Савецкую Беларусь», у якой ён трымае ўсё ж беларускую лінію. Амаль шэптам — пра спрэчкі паміж нацыяналкамуністамі і прышлымі кіраўнікамі, пра Язэпа Адамовіча, якога з’еў Крыніцкі, і пра Зосю Шамардзіну, якая зараз з Язэпам у Маскве: ці бачыцца з Маякоўскім? Пра «Маладняк», які гібее на вачах проста, страціўшы апошніх, хоць, здаецца, не павінна арганізацыя гібець ад сыходу з яе людзей — кожнаму ёсць замена. І арганізацыя, яна мацнейшая за асобу, але як не засталося ў «Маладняку» анікога з першапачынальнікаў, дык неяк і згас «Маладняк». Што ж тады атрымліваецца — ён жыў асобамі, а не калектывам? Не

можа быць. Значыцца, хлопцы недапрацоўваюць. Пра «Узвышша»: а ўсё ж проза вельмі добрая ў іх, і крытычны аддзел годны, трэба і нам запрашаць і навуку, і замежнікаў, але з паэзіі – адзін Дубоўка, астатнія – так, драбяза. Пра Шукайлу: ды ладна вам, хлопцы, які з Шукайлы паэт? Пра беларускае кіно: Толька, гэта добра, што Беларусь здымае кіно, але што, скажы, у ім беларускага? Пра Украіну: яны ж такія, як мы, але чаму ў іх неяк жывей? Пра будучыню: ці будзе яна нашай?

– Я вашых «Тутэйшых» ім не дарую, дзядзька Янка, – сціскае кулакі Дудар. Ён сёння п'янее цяжкім злым ап'яненнем, у вачах стаяць слёзы. – Не дарую ім. І трэцяга тома вашага з п'есай гэтай, забароненага, з друкарскай машыны знятага, не дарую. Маўчу, але не дарую. Гэта нашая ўлада была, нашая рэвалюцыя, наша краіна. Яны прыйшлі і надзелі нам ярмо, не горшае за царскае. Але мусім маўчаць, інакш і тое, што маем, адбяруць. А я не буду маўчаць.

– Цішэй, цішэй, Шурка. Гарачы ты надта. Не бывае такога, каб лес секлі – і трэска не ляцела. Будуецца краіна. Той, хто ўмее яе будаваць, ведае, пэўна, як гэта робіцца. Пэўна, «Тутэйшыя» – не надта надзейны падмурак. А ў нас шляху іншага няма. Нам ані з'язджаць няма куды, ані бегчы. Тут наша зямля. Трэба трываць.

– Дык трываем – і маем што? Нашых кніг наборы рассыпаюцца. Нашых – не рускіх. Ва ўніверсітэце слова беларускага на калідоры не пачуеш, як мы з Александровічам на заняткі не прыйдзем. Мо памыліліся мы, дзядзька Янка? Чакалі сабе, беларусам волі, а прычакалі гасцей на сваю галаву.

– Ты толькі болей ні з кім не гутары так, Шурка, па-бацькоўску прашу цябе. Запомніў? Трывай. Што можам, мы робім. Але з уладаю нашай трэба жыць у згодзе, бо без яе не будзе нават таго, што маем сёння. Усё ж і кнігі выходзяць, і спектаклі ставяцца. Усё будзе ў свой час. За царом таксама не верылі, што прычакаем волі, але ж прычакалі.

– Ці воля гэта, дзядзька Янка?

– Мо так яна і выглядае, тая воля. Адкуль ведаць нам, Шурка? Хіба ж мы яе бачылі?

Дудар рыўком устае і ледзь не падае наўзнак. З грукатам коціцца крэсла. Ён хапаецца рукамі за стальніцу, і пальцы ягоныя ажно бялеюць ад намагання ўтрымаць цяжкое, раптоўна непаслухмянае, набрынялае гарэлкаю цела. Ён моцна зажмурвае вочы і стаіць, хістаючыся, трымаецца за стол, і па чыста выгаленых шчоках ягоных бягуць п'яныя злыя слёзы.

# ГОРАД. КРЭМЛЬ

Іншы раз падаецца, так схапіў бы галаву рукамі, так сціснуў бы скроні – лопнула б. І можа, туды і дарога ёй, той галаве. Нельга расслабляцца, нельга траціць разуменне сітуацыі, нельга рассуропліваца. А яна ўсяго не ўмяшчае ўжо.

У Маскве трывожна. У Крамлі трывожна. Дубоўка не ўсё разумее, бо не ўсё заўважае і не ўсё ведае, але яно адчуваецца: напружаная цішыня ў калідорах, азвярэлы бой ундэрвудаў праз зачыненыя дзверы. На дзясятую гадавіну Кастрычніка па Маскве ішлі дзве дэманстрацыі: сталінская і трацкісцкая. Кідалі камяні адзін у аднаго, дзе раптоўна перасекліся некалькі груп, крычалі, біліся. Цяпер ідуць масавыя выключэнні з партыі, арышты, плануецца маштабная чыстка, людзі на вуліцах і ў калідорах глядзяць з-пад ілба, на ўваходзе ў Крэмльператрасаюць кожнага. Трацкістаў загадана знішчыць. Нязгодных трываць больш не будуць.

Час нянавісці. І тут, і на Беларусі. Кожнае супрацьстаянне імгненна разрастаецца ў смяротную бойку. У момант кожны адчувае гатоўнасць перагрызці іншаму горла.

Ён і сам часам адчувае: як развярнуўся б, як трасянуў бы за каўнер Гартнага ці Дудара, каб ажно пасыпалася з іх усё тое дурноцце, уся тая гніль, якая лезе з іх бясконца. А так успомніць – нармальныя ж людзі былі. Дайлідовіч, як пабачыў яго ўпершыню ў Менску, у рэдакцыі, у дваццаць чацвёртым, малады зусім, яшчэ рукі такія, па-дзіцячаму пухлыя, вусны яркія, як у дзяўчыны. Колькі яму тады было? Гадоў дваццаць. Вочы гэтыя смешныя, усё міргае, як спуджаны хлопчык. Глядзі, які вырас. Шчанюк.

Кузьма кажа, ратуйце сябе ад нянавісці, нянавісць спапяляе знутры, ад нянавісці чарнеюць сэрцы. Кузьма – рамантык і гуманіст. Ён сапраўды ратуе сябе ад нянавісці, іншы раз падаецца, гэта становіцца ягонай самамэтай. Усё што заўгодна, але каб не зненавідзець. Так было з Ідай, першай Кузьмовай жонкай, ад якой Кузьма ледзь не палез у пятлю, так было з Гартным, з якім ручкаецца і да сёння, нягледзячы ані на што, з усімі. І што з таго? Іда гуляла направа і налева, прагульвала Кузьмовы падарункі, Гартны брэша сабакам. Якой карысці з Кузьмовай любові да ўсіх? Але тое, што нянавісць спараджае толькі нянавісць, – тут Кузьма мае рацыю.

І вырвацца ніяк з Масквы ў Менск да Адама, да сваіх хлапцоў, сесці, пагаманіць, адчуць хоць бы там, на Гарбарнай, цішу і супакой. Нельга ніяк. Непрыемна з’яўляцца там, небяспечна пакідаць кабінет тут. Усё дыхае небяспекай. Але і справу трэба рабіць. Сесці

і нэндзіць — не дачакаюцца. Яшчэ пабачым, хто каго. Нядаўна гутарыў у Маскве з Сянкевічам — свой чалавек, з ім можна наладзіць кантакт. Галадзед таксама на нашым баку. Кнорын — гэты не свой, але і з ім трэба наводзіць масты, праз яго шмат што можна вырашыць.

Трэба не губляць асцярожнасці і развагі, пралічваць наступствы і гнуць сваю лінію. Хацелася б, натуральна, каб без залішняга шуму, але ж як не гаўкнуць у адказ, калі там заліваюцца, звягаюць, пырскаюць слінай. Але ж не спыняцца, ісці наперад. Найперш — часопіс. Як бы там ні было з хлопцамі, са слабымі вершамі, з мізэрнасцю прафесійнай крытыкі — гнуць сваю лінію. «Маладняк» гібее, а зараз, з адыходам Зарэцкага і Чарота, згібее зусім. Ды што там, і Дайлідовіч зрэдку нешта даваў у той «Маладняк», а зараз не будзе, і застанецца адзін рызыкоўны хлапчук Маракоў, які хоць нешта рыфмуе. Астатнія не вартыя ўвагі зусім. «Узвышша» марку трымае — не сорамна. Мо на Украіне нават такога няма. Мо і тут, у Маскве, такі не кожны.

Па-другое, згуртаванне. Трымацца адзін аднаго! Язэп з'ехаў у Ленінград — значыцца, падтрымліваць Язэпа. На Фэльку Купцэвіча пайшоў накат — значыцца, бараніць Фэльку. Кандрата забылі ўключыць у анталогію — бараніць Кандрата. Трымаць маладых — Глебку, Лужаніна, — каб не раскісалі там побач з маладнякоўцамі, каб не вошкаліся са слабакамі кшталту Труса, не цягнулі ў згуртаванне прыяцеляў па выпіўках. З пяшчотай падумаў: там у нас Адам. Адам не прадасць і ўсё зробіць правільна.

Па-трэцяе, мова. Не спыняцца, баронячы і ўдасканальваючы яе. Творчасць — ды чорт з ёю, калі ўжо так, калі сволач Гартны перакрыў шлях да выдання, ліха яго бяры, але мова. Трэба, каб яна стала мовай высокай культуры, мовай навукі, мовай высокай палітыкі. Тут нават праца ягоная ў Крамлі над перакладам зводаў законаў — самая што ні на ёсць беларуская справа. Наноў жа пішацца юрыдычная тэрміналогія ўся, не мовай жа Статута савецкую ўладу перакладаць!

Але ж як з ёю цяжка, з гэтай уладай — не так, не так проста і прыгожа ўсё, як здавалася некалі на Малой Мікіцкай, як летуцелася калісьці ў Брусаўскім інстытуце. Нехта ўскрывае лісты. Ад Адама прыходзяць у неахайна заклееных канвертах, мятыя. Адам піша, і Дубоўкавы ідуць надарваныя. Чытаюць. Ворагаў знайшлі. То, пэўна, з Менска пагалоска, той заказ на чытанне. Што ж так складана, так злосна, так няпроста будуецца новае жыццё? Столькі крыві, столькі нянавісці. Нядаўна было ў Лявоннага: «Столькі злосці — куды ж яе дзець». Вось Лявонны яшчэ — расце паэт. Трэба будзе прыглядзецца.

Дома, на Малой Грузінскай, таксама няпроста.

Трэба, даўно трэба сыходзіць на кватэру ім з Марылькай: цесна, тлумна, цяжка ёй і яму цяжка. Марылька строгая, зацятая, трымаецца паасобку, з маткаю не-не ды зачэпяцца, з сястрою Тасяй нават, бывае, злым словам перакінуцца. Ён увесь дзень на працы, а яна з урокаў прыйдзе – і там адна, усім чужая. Нідзе няма людзям паразумення. Хіба толькі ўночы, калі нікога не відаць, калі ўдваіх і калі кахаеш. Надзейны сябар ягоная Марылька, трэба ратаваць яе.

Самому ці ўратавацца? Нідзе няма супакою. Хутка нікому нідзе не будзе. Мяркуючы па ўсім, Сталін канчаткова перамагае, а ён дужа жорсткі і шкадаваць не будзе нікога. Шэптам, пра тое кажуць шэптам, і не ў кабінетах – у кабінетах ані! У кабінетах нават позіркамі нельга перакінуцца. Пра гэта кажуць шэптам на вуліцы, далей ад Краснай плошчы, толькі самым надзейным сябрам. А лепей і не казаць. Так, як ён распраўляецца зараз з тымі, хто ладзіў апазіцыйную дэманстрацыю, чужымі рукамі, рукамі памагатых і рукамі ўсяго пралетарыяту… Як сталася так, што «вся власть Советам» на лозунгах пераўтварылася ў «Смерць ворагам народа»?.. Што сказаў бы сёння Брусаў, як пабачыў бы гэтае свята нянавісці і звярынай жорсткасці? І ўсё гэта жыве ў чалавеку. «И вас, кто меня уничтожит, встречаю приветственным гимном». Рамантыка. Зараз успамінаецца – з жалем, з пяшчотай, з нудою: Валерый Якаўлевіч, усё не так. Наогул той час успамінаецца з нудой: калі ж яно пайшло ўсё не туды? Калі гэтая казка Брусаўскага інстытута, казка сотні маладых паэтаў, розных і нязгодных адно з адным, пераўтварылася ў татальны ВАПП? Ды што там: як здарылася, што гэты задзірысты, імпэтны «Маладняк» спарадзіў тое, што спарадзіў? Дзе, у якім месцы памыліліся? Што сказаў бы сёння на тое таварыш Міхась Мароз? Пэўна, Дубоўка і сам сёння не стаў бы пытацца пра такія небяспечныя рэчы ў таварыша Міхася Мароза.

Іншы раз думаеш: хлопцы, што ж вы там, у Менску, тузгаецеся плячыма на сваіх брудных вуліцах, месіце рудую гліну на Нямізе, дыхаеце бясконцымі міязмамі сцёкаў на Ляхаўцы, але ж думаеце, што вы нешта вырашаеце, што вы – фігуры, што вам дадуць картбланш рабіць жыццё сваімі рукамі? Не дадуць. Адсюль, з Масквы, не дадуць. Чарот стаў такі важны, такі надзьмуты, вялікі, пабач ты, паэт. Неблагім быў хлопцам, вельмі таленавітым нават, але прадаўся за партфель, за пасаду, пісаць кінуў зусім, а дарэмна. Партфель выб'юць з рук ягоных у хвіліну. Верш застанецца. Мова застанецца. Культура. Усё.

Зноў і зноў шліфуе стары верш свой, дастане з ніжняй шуфляды, закладзены паміж працоўнымі запісамі, закіданы чарнавымі

паперамі, але абавязковы тут, як талісман, перачытвае, часам слова зменіць, часам верне назад:

Часіна ды з сокам рабіны,
Качаеш мяне ў чарнабыллі.
На дзіды, на востры шыпшыннік
Ці сэрца, ці дух мой узбілі.
Калышуцца скаргі і моўкнуць,
Разносяцца разам пялёсткі.
Не хоча Ўладзімір Дубоўка
Спяваць пад зазубраны лёскат.
Пачаў — хай канчаюць другія,
Шляхі — адшукаю сабе я.
Загіну — няхай і загіну,
Мне гімнамі будуць завеі.

Больш за ўсё любіць менавіта гэтае – сустракацца з вершамі наноў. Яны і пішуцца ў яго доўга, ніколі на хаду, заўсёды ва ўнутранай цішы. Складае іх, габлюе, як вырвуцца з сэрца, апрацоўвае гадзінамі, праліччвае словы выпадковыя і трапныя, уважліва адсочвае чаргаванне зычных і галосных, дабіваецца празрыстасці радка і пластыкі думкі. Здаецца, кожнае слова ўзважана, устаўлена – шчоўк! – у сваё, адпаведнае месца, але кожны раз, сустрэўшыся з ім наноў, бачыш: можна лепш. І круціш. Асцярожна, па літары або з размахам, адразу страфу ці паўтары. Потым па слоўцы – назад. Ад таго верш атрымліваецца важкі, трымаць яго ў руках – не патвора. Гэты верш з найлепшых. У кожным разе, эмоцыя ў ім не на адзін дзень.

Адам піша, зараз у Менску пісьменнікаў пачынаюць выганяць па вёсках – агітаваць за калгасы, пісаць пра шчасце калектывізацыі. Ані нагой у Менск. І хоць чакае Адам, і хоць нешта такое казаў Галадзед – ані нагой. Днямі на Цвярской перастрэў Зосю Шамардзіну. Ах, гэтыя вочы, гэтая ямачка на шчочцы, мілая Зося. Загаварылі пра Менск. Ажно перасмыкнула Зосю. «Не, Уладзік, гэта не мой горад. Там душна». Яе Адамовіч зараз загадвае тут, у Маскве, цукровай прамысловасцю – гэта пасля таго, як узначальваў беларускі СНК. Вось табе і кошт беларускай пасады. Язэп Восіпавіч Салодкі. Ну-ну.

## ВЁСКА. ТАЛЬ

– Я не паеду, Міхась, – матае галавой Дудар. – У мяне лекцыі, семінары, я не паеду. Нецікава мне. Я ў той Талі жыў, потым быў

жа год таму, няма мне чаго там рабіць. Ты ж ведаеш, я наогул вёску не люблю. Мужыкі, зямля, гаспадарка – не, Міхась. Ты там будзеш над прыгажосцю зямліцы-парадзіхі ўздыхаць, Прышчэпаў над сваімі балотамі і каналамі мурлыкаць, а я што? Дый Наташа ў мяне, толькі запісаліся, не паеду я.

— Сапсаваўся ты, Шурка. Як так – не цікава? Зараз уздымецца ўсё дагары нагамі, стагоддзі прымусовай працы на зямлі, як гібеў мужык на палетках, як спіну крукам гнуў, а зараз агулам будуць гаспадарыць, весела, у лад, хіба ж не цікава? Які момант!

— Не, Зарэцкі, не цікава. Не ўгаворвай, упёрся я, ведаеш сам, не саступлю.

— Ведаю, анягож. Ладна, студэнт. Сядзі ля жоначкі сваёй. Мядовы месяц, звер я ці што, хіба не разумею. Тады раскажаш мне, якой ты бачыў тую Таль – каб можна было параўнаць. З вершаў тваіх памятаю хіба што: «Ўсё помню я... І цьмяны бор... І мост, і пруд паміж чаротаў... О, як прайсці з такой журбой скрозь сівер люты, стынь і слоту...» – гэта ж пра Таль?

— Пра яе. Але то верш, а так, Міхась, бруд і галеча тая Таль. Смурод, натха. У мамкі, памятаю, пальцы не разгіналіся, як з агарода прыходзіла. Пазногці чорныя, не адмыць. Як быў там летась, пайшоў з дзеўкамі ўвечары пасядзець, за руку якую возьмеш, а яна чорная ўся, у цыпках нейкіх. У гарадской дзевачкі пальчыкі – цукар.

— Табе ўсё пальчыкі.

— Мне галоўнае – пальчыкі. У мяне во цурубалкі нейкія, а не пальцы. А ў яе тоненькія, акуратныя, пазногцікі беленькія, нібы паліраваныя...

— Ясна, Шурка. Таварыш з цябе зараз ніякі. Браць з сабой не будзем.

Дудар смяецца. Яшчэ месяца няма, як перанёс Наташыны рэчы да сябе на Правадную. Да экзаменаў у тэхнікуме два месяцы, потым высяляцца з інтэрната – і куды? І такім аргументам біўся з яе дзедам і бацькамі, каб аддалі дзяўчыну. А ён жаніх багаты – пры пасадзе, пры пакоі ў горадзе. Здаецца, зусім сучасная дзяўчына Наташа, але тут так слухалася матку – дзіва. А мо не надта хацела ісці. Гэта ж колькі? Паўтара года цягнулася іх гісторыя. І сам вінаваты, і яна ўпарцілася, але ж зараз спраўдзілася – ужо не мараю, не летуценнем, жыццём: вось тое, што было патрэбна яму. А ўсё ж і добра тое, што выгуляўся сам, ажно ванітавала ўжо ад гуляў. Усё добра. Усё, як ідзе, добра. Цяпер нарэшце будзе як след.

Зарэцкі ўпотай пасміхаецца. На лацкане Дударова пінжака – бутаньерка: вішнёвая галінка з ружовымі пупышкамі. Пэўна, Наташа пастаралася. Ходзяць абое сур'ёзныя, такія дарослыя, Шурка ажно

свеціцца знутры, Вішнеўская пасміхаецца патаемна. У яе прыгожая, крыху распусная ўсмешка. Дудар, пэўна, і не бачыць той распусты, але яна ёсць. Ёй нібыта адчыніліся дзверы ў нейкі свет, пра які яна марыла, але якога баялася. А цяпер адчувае сваю ўладу: над мужчынам, над лёсам ягоным, над жыццём. І мала ёй будзе аднаго Дудара – па гэтай усмешцы бачна. Але трымаецца каралеваю, і ён побач з ёй – рыцарам. Кніжны хлопчык, які добра засвоіў урокі. Нядаўна гэты блазан, Рыгорка Казак, гукнуў Дудару, што ішоў з Вішнеўскай: «Здароў, сперматазоід!» – і адляцеў метраў мо на пяць, злавіўшы Шуркаву аплявушыну. Наташы тое спадабалася надта, і яна зноў усміхалася гэтай новай сваёй усмешкай.

Значыцца, паедуць без Дудара. Наогул выправіліся ўдвух: Зарэцкі і наркам земляробства Прышчэпаў.

На Случчыну выехалі напрыканцы красавіка: яшчэ Свіслач не вярнулася ў берагі, яшчэ калыхалася пад нагамі глеба на Гандлёвай, яшчэ немагчыма было прайсці па Гарбарнай, каб не згубіць галёшаў, а яны ўжо садзіліся ў цягнік на Бабруйск, каб адтуль дзе машынаю, дзе калёсамі, а дзе і пехам аб'ехаць вёскі, у якіх згодна са снежаньскімі партыйнымі пастановамі павінны былі распачынацца калгасы.

Цягнік марудзіў. Толькі выехалі з Менска, а павольная хада машыны ўжо збрыдала. «Здаецца, выскачыў бы і побач з цягнікам пайшоў», – цвёрда, зусім не летуценна кажа Зарэцкі, нібыта і праўда зараз устане з месца і выйдзе ў тамбур, адчыніць дзверы і лёгка, адным крокам, саскочыць у сівую леташнюю траву. «Ды што табе не сядзіцца, едзь ды едзь, усёй справы. Находзімся шчэ, – гудзе Прышчэпаў, – і навяслуемся. Ніжэй Талі, думаю, давядзецца лодку браць ды плысці: паводка зараз, на чорта нам колы ды машыны. Ёсць месцы, дзе не працуе прагрэс». Зарэцкі нават не можа стрымаць шырачэзнай шчаслівай усмешкі, зусім дзіцячай: як з'ехаў з бацькоўскай хаты, лодкаю не плаваў.

Яны у купэ ўдвух – наркам земляробства ў плацкартах не вандруе. Дый Зарэцкі ад плацкартнай дэмакратыі паадвык – не па статусе. «А я сёння сярод людзей патоўкся б, – задуменна кажа Прышчэпаў. – Цікава мне пачуць, што кажуць наконт снежаньскага пленума. Хадзіў быў на Верхні рынак, дык не тое каб спрачаліся ці абмяркоўвалі. Маўчаць. Гарадскія развважаюць, артыкулы пішуць, пастановы прымаюць таксама ж гарадскія. Хто там у ЦК з вёскі? Няма нікога. Вось каб туды сялян пусціць, ці былі б такія пастановы? У нас што дрэнна – людзі маўчаць. Кожны закусіць вус і чакае, покуль вецер некуды падзьме. Ты мо чуў што, Міхась?» Зарэцкі ведае, што з Прышчэпавым можна быць цалкам шчырым, і Прышчэпаў ведае, што Зарэцкі не сачкам.

Але ўсё роўна Зарэцкі доўга думае, перш чым адказаць.

— Я рознае чуў, Змітро Фёдаравіч. І многа думаў. Людзі, як я чуў, не надта рады. Але партыя, як я думаю, усё ж мае рацыю. Колькі будзе гібець чалавек на зямлі? Зямля наша, што тут казаць, цяжкая. То недарод, то недахоп, а то зноў. Разам жа і трактар набудзеш, і сена, і фураж. Разам спраўней.

— Вось і ты так кажаш. Папсаваны ўжо горадам ты, Зарэцкі. Але ж гэта чалавек на зямлі. Ён на ёй не гібее — ён жыве на ёй. Зямлі і волі прасілі людзі, за імі і пайшлі — за зямлёй і за воляй. Калі зямля свая, дык і воля ёсць. Калгас — то няволя. Ані зямлі, ані волі. Так, атрымліваецца. Я ж не так думаю, Міхась. Я думаю так: мо рускаму чалавеку і не хочацца гаспадарыць самому, мо яму сапраўды лягчэй грамадой араць ды сеяць, грамадой жаць. Беларус не такі. Ты лепей дай яму зямлі паболей ды субсідыю дай на трактар — ён сам, адзін табе такія палі ўзарэ, што ніякі калгас не ўгоніцца.

— Дык тое ўласніцтва самае сапраўднае, Змітро Фёдаравіч. Кулакоў хочаш вырошчваць.

— Не, не кулакоў. Кулак — то іншае, Міхась. Ты ж таксама чалавек гарадскі. Адкуль ведаць табе, хто такі кулак? Кулак — гэта перакупшчык, так на вёсцы звалі таго, хто перакупляе танна, перапрадае дорага. Кулакі мне самому не даспадобы. Я гаспадара хачу вырошчваць. Ды не вырошчваць нават — волю яму даць. Ты пабач, якім апошнім часам падняўся селянін, як пабагацеў за нэпам. Паглядзі рынак: усяго!

— Ага, і рукі ў дзяўчат чорныя, пазногці садраныя, — успамінае Дудара Зарэцкі.

— А ў калгасе, Міхась, яны нагамі працаваць будуць, дзяўчаты твае? Таксама ж рукамі!

Зарэцкі пацiскае плячыма. Прышчэпаў — апантаны чалавек. Ён сваімі балотамі і хутарамі захоплены, як Толька — кінастудыяй. Ён як і пачуе што, дык толькі тое, што будзе працаваць на ягоную тэорыю. Яно, вядома ж, прыгожа гучыць: Беларусь — чырвоная Данія. З самай паездкі той леташняй, як ездзілі з Купалам і Жылуновічам у Нямеччыну і Чэхію, сапраўды ў захапленні, як там жыве селянін. Але ж, між тым, такое жыццё — гэта, здаецца, поўная супрацьлегласць таму, дзеля чаго ў кастрычніку падымаўся народ. Ці, можа, прамахнуліся з прыватнай уласнасцю і чалавек усё ж прагне яе, асабліва селянін?

— А ты сам падумай, — нібыта пачуўшы ягоныя думкі, працягвае Прышчэпаў. — Абяцалі ж: зямлю — сялянам, фабрыкі — рабочым. Народ за гэтым і пайшоў, таму і падняўся. Хто тады мог уразумець, што зямля будзе калгасам, а фабрыкі — дзяржаве? Чалавек, які тыя

лозунгі чытаў, які ім верыў, – то ж яшчэ стары быў чалавек, з тымі шчэ мазгамі, дарэвалюцыйнымі, Міхась. Ён тыя лозунгі толькі так і разумеў: мне дадуць зямлю, мне дадуць фабрыку. Мо яно і добра будзе некалі потым – калгас. Але з цяперашнім селянінам нельга так. Для яго зямля, свой шнур, свая кароўка – святое. На гэтым ім трэба будаваць гаспадарку, Міхась, на гэтым ягоным пачуцці. Дай яму – ну хоць бы ў арэнду на сто гадоў – хутар і грошай на трактар, і ён да скону не забудзе ласку тваю. І будзе ў нас лепей нават за Данію.

— Дык ты што, супраць Масквы хочаш ісці? – не вытрымлівае Зарэцкі.

— А чаму мы адразу думаем, што гэта супраць? Вы ж з Дударом якраз пра тое кажаце – толькі пра сваё, пра літаратуру. Пра самабытнасць нашу, пра свой шлях. Чаму гэта павінна ўспрымацца як супраціў, Міхась? Краіна Саветаў – гэта ж не ўсе пляшуць пад маскоўскую дудку. Гэта супрацоўніцтва, свабодны саюз братоў, я так гэта разумею. А мы ўсё прагінаемся, усё спяшаемся выканаць і перавыканаць, прагнуцца па звычцы. Таксама шчэ «тыя» людзі мы. Уладу ўспрымаем як тую, царскую. Баімся сказаць сваё слова.

Зарэцкі маўчыць.

— Усё нам Масква вінаватая, Міхась. А самі вінаватыя найперш. Бяры і рабі, толькі ўзваж, патлумач, расплануй, з народам абмяркуй, наверсе патлумач. А мы ўсё азіраемся, зверху загаду чакаем. Мо смялей трэба?

Зарэцкі ўсё маўчыць, але цяпер і Прышчэпаў маўчыць. Чамусьці апошняя фраза павісае ў паветры, і абодвум становіцца неяк няёмка за яе.

Прышчэпаў уздыхае:

— Ладна, таварыш пісьменнік. У нас з табой якраз наперадзе ўсё гэта. Во пагутарым з людзьмі. Што скажуць. Крэпка трэба думаць, добра пытацца.

Колькі ехаць да таго Бабруйска, але ўсё яшчэ далёка – цягнік ледзь ідзе. Замарудзіўшыся адпачатку, прапускае цяпер састаў за саставам, стаіць на станцыях і між імі. За вокнамі шэрая пакуль што, нібыта нясмелая, нібыта сарамлівая вясна, але недзе там, куды яны едуць, яна ўжо гоніць агромністыя крыгі, ламае платы і загарадкі, усеўладна залівае агароды і сцежкі і дыхае ў вокны кволых хацінак холадам, трывогай і абяцаннем.

Начуюць у Бабруйску, у сакратара акругкама. Ягоная жонка, усхваляваная, расчырванелая, збірае на стол, сам сакратар, паціраючы рукі, не хавае радасці: менскія госці, ды шчэ якія! Прышчэпаў дасціпна жартуе, сыпле кампліментамі гаспадыньцы, але, нягледзячы на цёплую, сямейную амаль, вячэру, ніякіх гутарак пра

калгасы не распачынае.

— Заўтра дам вам чалавека ў праважатыя. Праедзе з вамі, куды скажаце, усім дапаможа. Гатовы быў і сёння ўжо з вамі выязджаць, але ж куды проці ночы. Хоць ён, Гнеўка, дык і проці ночы паехаў бы.

— Гнеўка! – Прышчэпаў расцвітае ажно. – Гэта ж сябрук мой! Па Інбелкульце ведаю! Балатамі займаецца?

— Ой, займаецца! Так займаецца, хоць ты паратунку крычы. Тут клопату – не балі галава, а яму ўсё меліярацыя, кідай усё і бярыся за балоты.

Прышчэпаў радасна смяецца:

— Наш чалавек таварыш Гнеўка! От навіна дык навіна. Хоць ты спаць не кладзіся.

Але ж кладуцца і на досвітку падымаюцца. Той самы таварыш Гнеўка ўжо чакае на двары, прысеўшы на калоду, і смачна цягае папіроску. Зарэцкі з зайздрасцю глядзіць, як шчыра радуюцца адзін аднаму наркам і праважаты. Нават каханкі, здаецца, так не радуюцца адно аднаму, як гэтыя абодва, таварышы па апантанасці. З кім з таварышаў ён, Зарэцкі, быў бы рады так спаткацца, каб без аніводнае зачэпістае думкі ўнутры? Хіба з Дударом. Хоць і з ім – не. З гэтага моманту Зарэцкі сам-насам: ягоныя спадарожнікі безупынна гудуць пра свае балоты, хутары, землеўладанне, меліярацыю, асушэнне паш і лугоў. Урэшце Зарэцкі перастае прыслухоўвацца і цалкам аддаецца наваколлю. Пісьменніцкае вока чакае ўражанняў, пісьменніцкае вуха гатовае чуць. Зямля, як прагная каханка, ляжыць навокал, дыхае перарывіста, ціхенька ўсхліпвае павевам ветру ад салодкага чакання, узрываецца раптоўна шчаслівым птушыным гоманам, нібы смехам. Хутка, зусім хутка прыйдзе той, хто кране ўпэўнена і ўладна грудзі касагораў, правядзе па гэтым шчодрым целе моцнай рукой і пакіне за сабой першыя разоры, нібы дарожкі на вільготнай скуры, і авалодае, і стоміць безупынным рухам, і пакіне па сабе ў ёй новае неадменнае жыццё.

Паблізу абеду прыязджаюць у Таль.

Вёска непрыемна здзіўляе беднасцю, брудам і насцярожанай цішынёй. Шчэ чакаюць, покуль сыдзе з палеткаў вада, шчэ не сеюць, але ўжо абыходзяць гаспадары свае шнуры і лапіны, дастаюць з-пад павецяў лапаты і капаніцы, ужо раскладзена на дошках бульба, але вузенькія і крывенькія тыя шнуры, зарослыя быльнягом лапікі, іржавыя лапаты, дробная, зусім благая бульбачка. Агароджы чорныя, пахіленыя, хаты мокрыя, непрыбраныя, па дварах вецер ганяе нейкае рыззё.

Заходзяць у крайнюю хату. Дарослых няма. У куце сядзіць падлетак, паглядае сонна на візітантаў, у руках ягоных недаплецены

лапаць. Побач да сцяны ціснецца дзяўчо — малое, мурзатае, нібы з падпечка вылезла. Земляная падлога, газетамі паклееныя сцены на спальнай палове. Зарэцкі пазнае «Беларускую вёску», значыцца, усё ж выпісваюць, чытаюць. Перачытваюць, пэўна, потым адразу са сцяны.

— Дзе бацькі тваe? — пытаецца Гнеўка ў хлопца. Той маўчыць, толькі спуджана пазірае.

— Бацька ў хляве, мамка ў поле пайшла, кароўку павяла і травы парсючку нарваць, — раптам адказвае дзяўчо.

— Дзе ж тая трава шчэ?

— А там ё, — маша малое ўбок. — Доўга ісці.

— Дык добра жывяце, калі кароўка свая і свінчо, — хваліць малую Гнеўка. — А ты, можа, гусі ўжо пасеш?

— Няма гусі. Я бабці Ёжыцы адпасваю за семяно. Петрусёк таксама пасе.

— А сёння што? Свята ў цябе?

— Сёння яна сама пасе.

— Эканоміць, знача. Ну, трымай тады падарунак, — і Гнеўка дастае з кішэні ладны кавалак цукру ў сіняватай паперчыне. З мурзатага тварыка ззяюць шчасцем сінія вочы. — Мамку дачакайся, яна няхай падарунак той прыпарадчыць.

Выходзяць на двор.

— Як было, тое і ёсць, — раптам кажа Зарэцкі. — Я так рос. Нібыта і не было нічога. Нібыта сюды жыццё не дайшло. Хіба шкада ламаць усё гэта?

— Гэта жыццё, Міхась. Тут не ламаць трэба, а думаць крэпка, — адказвае Гнеўка. — Калі кароўка свая і парсючок, значыцца, аднаасобнікі, у калгас не пайшлі. Плацяць падатак. Галеча ў хаце, дзеці за семяно суседзям адпасваюць. Што яны выгадалі? Нічога, здаецца. Аднак трымаюцца за сваё. Селянін не дурны: калі ўпарціцца, значыцца, разумее навошта. Хадзем гаспадара гукнем.

Хлеў і адрына стаяць наводдаль, за агародам, ісці туды даводзіцца праз слоту і няпэўнасць размоклай пашы.

Гаспадар ужо чакае іх, насцярожана ўглядаецца — даўно заўважыў чужых. Вітаюцца. Гнеўка працягвае яму цыгарку, той удзячна ківае, цягнецца да прапанаванага агню, з асалодай зацягваецца. Гутарка атрымліваецца не адразу, але пакрысе разыходзіцца: бачна, госці не з загадамі, а з пытаннямі. Рэдка здараецца.

— Дык што вы адразу да мяне? Вы ў калгас ідзіце. Мая кароўка ўжо траўку шчыпле на муражку, а іхнія па калена ў гноі стаяць. Што, яны пойдуць статку муражок шукаць? Яно ж усё чужое ім, адзін пастух на дваццаць кароў. Сэрца баліць глядзець. Цяжка-то

яно цяжка, але і там цяжка. Тут хоць бы разумееш за што. За сваё. А там? За агульнае? Не, нам тое не трэба.

— А як калгас школу пабудуе, малых, мо, адправіце?

— Мо і адпраўлю. Мо на жыццё лягчэйшае выправяцца.

— Дык знача, хочацца, каб лягчэйшае было?

— Чаго ж не хочацца, таварыш. Яно хочацца. Толькі не так. Так не легчае. Падатак наклалі. Як сплоціш — сабе нічога не застаецца. Што сабе — малым нічога. Каго я кармлю? На каго спіну рву? Я не баюся. Чаго мне баяцца? Я і старшыні казаў: і не агітуй, нагі маёй не будзе ў калгасе, хоць бы і захлынуўся я тым падаткам. Аддаць — аддам, але ўсё астатняе — маё. А яны хочуць, каб у мяне майго не было зусім. І вось яшчэ. У мяне кума ў калгасе. Здала туды кабылку, кароўку. Дык кабылка тая як ідзе паўз свой былы двор, спыняецца і плача. Кабылка, ага. А ўжо як Марусю пабача на вуліцы, дык баіцца, бо дадуць жа бізуна, але ідзе да яе і цягне галаву на плячо. Абедзве стаяць плачуць тады. Во як. Скаціна — яна гаспадарова павінна быць. Яна не можа быць агульная. Няправільна гэта. Трэба не так.

— А як?

— Дык на то вы там у гарадох пастаўлены. Вы і думайце, толькі каб правільна.

Ідуць цераз усю вёску да сельсавета. Вёска даўжэзная, цягнецца на добрыя тры вярсты — і ўся, адзін у адзін, брудная і бедная. Ані камяніцы, ані заўважнай будыніны. Як падняць гэтае ўсё, як перакроіць і вёску, і мужыка? Галеча, нэндза, а пабач, як трымаецца за яе...

— Гэта час такі, таварыш Зарэцкі, — усміхаецца Гнеўка, ўбачыўшы роспач спадарожніка. — Заранняя вясна, самы бруд. Зараз у зялёнае ўбярэцца, падсохне, таполя з бярозаю разгорнецца, вішня зацвіце — не пазнаеце вы тую Таль. Улетку тут добра.

— Каб жа толькі да лета трэба было чакаць... — вырываецца ў Зарэцкага. — Складаная істота — чалавек. І жыве складана. А ўсё хочацца з ім па-простаму... На раз-два.

І колькі яны вандруюць па Любаншчыне пад несупынны гул сяброўскай гаворкі пра балоты і меліярацыю, перабіраюцца з вёскі ў вёску, плывуць лодкай між палескіх выспаў, у якія ператварыліся хутары, брыдуць сцежкай ва ўзножжах пяцісотгадовых дубоў, спрабуюць нагамі дрыготкую грэблю ля самай дрыгвы, ён сумуе па доме і ные душой па гэтай чалавечай складанасці, якая нікім ва ўладзе ніколі не бярэцца ў разлік.

І ўсё звініць у ягоных вушах ненатуральна высокі, перахоплены нейкі голас рабацiністага хлопца, які з пакутлівай цяжкасцю цэдзіць з сябе свой расповед:

— Я батрак. Змалку працаваў на людзях — свае гаспадаркі і ў вочы не бачыў. Ну, вось... паступіў да шляхцянкі да аднае... Багатая была, няма чаго казаць... Усяго ў яе, усякага дабра там повен двор... І дзеці яе ладныя былі. Ну, яшчэ сказаць, старэйшая за мяне... Многа старэйшая... гадоў на дваццаць... Але неяк сышлося... Пажаніліся, значыць... А тады пайшло... Індывідуальны на яе паклалі... Кулачка, тое, другое. Я не звыкшы да гэтага, дый людзі пачалі папікаць... Пайшоў я ў леснікі, кінуў, значыць, яе... Яно б так ужо і было, але прыязджае яна, плача, кажа, што зацяжарыла... Сэрца слабое ў мяне — угаварыла. І вось жылі зноў. Дзіця нарадзілася — дзяўчынка. Прывык я... дый яна такая... падходная. А цяпер высяляцца ёй трэба... Раскулачылі... У калгас, значыць, не прымаюць... Я не аб тым — гэта раз трэба, дык трэба... Вось не ведаю сам, што рабіць... Выходзіць, і я ўжо кулак... Ці мне падацца куды, ці ля яе трымацца, ля жонкі, значыць... Дачкі дужа шкода... Сэрца слабое ў мяне... Прывыкшы да іх... Але я кіну... усё роўна... Хай сабе... Я цэлы век па свету цягаўся... Скрозь батраком быў... Як быццам нелюдзь якая... А цяпер зноў... Дзядзька Чарвякоў! Я кіну іх... Я хачу чалавекам быць... як усе... працаваць... Хай прымуць мяне ў калгас... Хай прымуць мяне ў калгас... А я іх кіну... кіну...

## РЭДАКЦЫЯ. «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

Дваццаць пятага траўня. На вуліцах яшчэ адчуваецца ўчорашняе хваляванне, калі ў адказ на прысуд, вынесены ў Варшаве беларусам-грамадоўцам, паслам сойма Тарашкевічу, Валошыну, Рак-Міхайлоўскаму і Мятле, на менскія вуліцы выйшлі дзясяткі тысяч беларусаў, аб'яднаных нянавісцю да панскай Польшчы і спачуваннем да сваіх.

— 209 гадоў катаргі на 37 падсудных!

— Чатыры беларускія паслы сойма ідуць на катаргу!

— Яны асуджаны, бо беларусы!

Тры месяцы пакутнага судовага працэсу, за якім сачыў увесь свет, тры месяцы газетных перадавіц, з якіх не сыходзілі імёны незаконна арыштаваных паслоў сойма Тарашкевіча, Мятлы, Рак-Міхайлоўскага і Валошына, хлуслівыя паказанні жандараў і паліцэйскіх, гнілая рыторыка абвінаваўцы і ўзнёслыя апошнія словы Тарашкевіча — уся краіна тры месяцы жыла напружаным спачуваннем, чаканнем і нянавісцю, і ў дзень прысуду ўсё гэта лінула на вуліцы. Шчэ і сёння ва ўсіх, хто ўчора быў у пратэстным натоўпе, хто бачыў гэты агульны прыгожы, сапраўды народны ўздым за сваіх пакрыўджаных

братоў, мацней б'ецца сэрца і блішчаць помстай вочы. Шчэ і сёння няма іншых размоваў, як пра Грамаду, братоў-беларусаў на Захадзе, пілсудчыкаў і КПЗБ. Але ўздымаецца і іншая хваля – па кабінетах, рэдакцыях, прыватных кватэрах, на якіх збіраюцца абмеркаваць прысуд Грамадзе блізкія да ўлады камуністы: учора ў ЦК прыйшла тэлеграма з Масквы, каб Менск спыніў пратэсты і падтрымку Грамадзе, бо Масква знаходзіцца ў працэсе падпісання гандлёвай дамовы з Польшчай і дэманстрацыі ў беларускай сталіцы могуць папсаваць усю дыпламатыю.

Чутка пра гэтую тэлеграму з'явілася шчэ ўчора: па вуліцах ужо ішлі людзі, і іх нельга было спыніць, і тыя, да каго чутка даходзіла, спыняліся ў нямым здзіўленні і шырока раскрывалі вочы: што?! Масква забараняе беларусам выказацца ў падтрымку беларускіх рабочых і сялян у панскай Польшчы?! Чаму наогул Масква забараняе беларусам іх беларускія рашэнні?! Да таго ж рашэнні ў падтрымцы сваіх, камуністаў?! Прадае за гандлёвую дамову? Зноў дамаўляецца на беларускіх касцях?!

Яны зранку ў рэдакцыі: Дудар, Вольны, Александровіч. Чарота няма: афіцыйна ў водпуску, але ўсе ведаюць, што тыдзень ужо галоўны рэдактар безупынна п'е горкую. Таму «Савецкай Беларуссю» зараз, у ягоную адсутнасць, кіруе Лазар Каплан – ад пачатку дваццатых правая рука рэдактара Кудзелькі. А шостай раніцы пайшла ў горад сённяшняя газета, цалкам прысвечаная Грамадзе: рабілі ўчора да ночы ўсе разам, каб выплеснуць на яе старонкі ўсё тое, чым жыў, дыхаў і крыўдаваў учора Менск. «Савецкая Беларусь» выйшла з вялікімі фотаздымкамі на першай паласе, з вокладкамі французскіх кніг, прысвечаных Грамадзе, з калажам, прысвечаным асуджаным паслам, з палымянымі вершамі Вольнага, Александровіча і Дудара. Уся – помста, уся – падтрымка, уся – пратэст!

– Таварышы, а гэта вы ці бачылі?! – у рэдакцыю заскоквае незвычайна ўзбуджаны Зарэцкі. – Вы глядзіце толькі!

У ягоных руках «Звязда», якую апошнім часам рэдагуе асцярожны масквіч Іван Асьмоў. На першай паласе сціпленька: пра Грамаду, пра ўчарашні мітынг. Другая паласа – беларуская паўсядзённасць.

– Ах ты ж маскоўская падсцілка, Асьмоў! – цяжка, марудзячы, падымаецца з-за стала Александровіч.

– Значыцца, была ўсё ж тэлеграма. Значыцца, не прыдумаў Алесь Фаміч. А во пабач, Шурка! «Рабочы»! На першай паласе! Во, глядзі: становішча ў Бесарабіі.

– У Бесарабіі?! – на твары Дудара застывае злая ўсмешка.

– У Бесарабіі, Шурка! Бесарабіі спачуваць можна! Грамадзе – нельга! – у Зарэцкага перарываецца голас.

— Значыцца, прадала беларусаў Масква за гандлёвую дамову...

— Што Масква прадала, то не дзіва, але ж свае прадаюць!

— Які Асьмоў табе свой?!

З рук у рукі перадаюць нумар «Звязды».

— Цыганы шумным натоўпам па Бесарабіі качуюць, мацы іх, — Дудар брудна лаецца і выскоквае ў калідор — хадой ад сцяны да сцяны супакоіць унутраны шал. Ад злосці ажно зводзіць зубы.

Унізе стрэлам грукаюць дзверы, і па лесвіцы грымяць крокі: нехта амаль бяжыць сюды, наверх, у рэдакцыю. Дудар бачыць яго першым: гэта сам Сянкевіч, які зараз загадвае аддзелам прапаганды ЦК.

— Дзе Чарот? — грыміць ён, ледзь выскачыўшы ў калідор.

— У водпуску, — сеўшым ад нечаканасці голасам адказвае Дудар.

— У водпуску?! — Сянкевіч рассыпаецца лаянкай. — Хто за яго?!

— А што такое, таварыш Сянкевіч?

— Што такое?! Я вам зараз пакажу, што такое! Хто быў за Чарота?! Хто выпускаў нумар з Грамадой?!

Дудар, уціснуўшыся ў сцяну, маўчыць і хутка міргае. Сянкевіч, зачапіўшы яго плячом, урываецца ў кабінет.

— Каплан?! Ты выпускаў нумар?!

Збялелы ад нечаканасці Каплан падымаецца з-за свайго стала.

— Ты, б..., не атрымаў распараджэнняў? Я пытаюся цябе, ты не атрымліваў тэлефанаграмы ЦК?! Цэнтральны! Камітэт! Партыі! Для цябе гэта ўжо не ўказ?! Ты ўсю рэспубліку вырашыў падставіць, Каплан?! Гэта табе што, прыватная лавачка ці цэнтральная газета савецкай рэспублікі, а, Каплан?! — Сянкевіч ажно задыхаецца, твар ягоны густа чырванее. — Зараз жа збірай рэчы і на выхад, б...! Покуль я здымаю цябе з пасады, але гэта толькі покуль, бо наступная наша з табой сустрэча будзе на партыйнай камісіі ці ў ГПУ! Каб духу твайго тут болей не было!

Дрыжачымі ад нянавісці і страху рукамі Каплан збірае паперы, піхае іх у партфель. Усе прысутныя, скамянеўшы, у імгненным маўклівым атупенні, нават не адводзяць вачэй. Ненатуральна выпрастаўшы спіну, Каплан выходзіць у калідор, і за ім, грукнуўшы дзвярыма так, што пачынае сыпацца тынкоўка, выходзіць Сянкевіч. Дудар заходзіць з калідора і ціха, асцярожна зачыняе за сабой дзверы.

Доўга ўсе маўчаць. Дужа доўга.

— Трэба ісці падымаць Міхася, — упаўшым, нейкім чужым голасам кажа Вольны. — Я зараз прывяду яго, хлопцы, — і сыходзіць, нават збягае на вуліцу.

— Што скажаш, Зарэцкі? — паварочваецца да Зарэцкага Дудар.

Зарэцкі стаіць, счарнеўшы, са зведзенымі ад напругі зубамі.

— Дык памыляецца ці не памыляецца ЦК, Зарэцкі? — зноў пытаецца Дудар.

— Пакінь, Шурка, — кідае Александровіч. — Чым табе Зарэцкі вінаваты?

Зарэцкі нарэшце расціскае зубы і ціха кажа:

— Памыляецца.

І зноў усе маўчаць.

Чарот прыходзіць толькі ў сярэдзіне дня. Ён апухлы, твар ягоны зямлісты і шэры, у вачах — страшэнная нуда. Ён слухае справаздачы, перагортвае нумары газеты за апошнія дні, пераглядае бланкі тэлефанаграм і раз-пораз шэптам, аднымі толькі вуснамі мацюкаецца.

— Рэдактары, б... Шчаннё звяглівае, б...! Дзе мазгі былі, ё...? Няўжо тое самае не маглі, але каб з галавой, каб падумаўшы? Загубяць газету, прыдуркі... Апошняе, што ёсць... Застанецеся са «Звяздой», б...! Не-е-е... Не так нават, маць вашу... За «Зве-ездой» будзеце, са «Зве-ездой»... — ён так гідліва, здзекліва цягне гэтае «е», што балюча дыхаць.

Да Дудара падыходзіць Зарэцкі, ціха штурхае ў плячо: «Пабач, што Александровіч напісаў». На паперы дванаццаць радкоў. Загаловак — «Тэлеграма». Дудар крыху моршчыцца: «Грамады — сюды», «Беларусі — рвуся»... Штучны выраб, наспех зроблена... Дзіўна, што ў вачах Зарэцкага такое захапленне... Абы-што верш. Тут не так трэба ўдарыць... Тут трэба наводмаш біць. Каб рыфма сама клалася, а не падбіралася. Каб з сэрца ірвалася, а не трапляла ў памер. Тады будзе моц.

— Тады будзе моц, — вырываецца ўголас, і Зарэцкі збянтэжана глядзіць на яго. — Нічога, Міхась, то я так. Пайду. Бывай.

Чарот, заўважыўшы Дудара, які накіроўваецца да дзвярэй, ціха гукае:

— Ёсць што ў заўтрашні нумар? Толькі каб без гэтага ўсяго...

— Я аддаў на машынку. Там на чацвёртую паласу, культура, радкоў дваццаць, Міхась, — ціха, з нечаканай пяшчотай адказвае Дудар, адчуўшы раптам, як свой, гэты цяжар, трохгадовы цяжар цэнтральнай газеты, які нясе стары ягоны знаёмец, яшчэ па тэатры Галубка таварыш Міхась Кудзелька.

Чарот ківае.

Свой. Як жа мала нас... І тут, і там. І як жа лёгка прададуць нас за гандлёвую дамову!

І шчэ не паспявае Дудар пераступіць парог, шчэ не паглынае яго цалкам цемра халоднага калідора, як бязлітасна, жорстка пачынае звінець унутры халодным адчаем ямб: «Пасеклі Край наш папалам... Пасеклі Край наш... папалам... Во гэта — вам, а гэта — нам...» І для

чаго?! Для ласкі панскай, той самай, пра якую ўсе вушы адзванілі: панская Польшча, панская Польшча, і што ж? Панская Польшча гандлюе з Масквою, а Беларусь сыходзіць ураздроб і оптам па ніжэйшым кошце! Радкі ірвуцца, кладуцца самі сабою, ён толькі ліхаманкава запісвае на кавалку паперчыны, што заваляўся ў кішэні. Квіток? Чыясьці цыдулка?

Мы не шкадуем мазалёў.
Мы за чужых праклёны роім,
Але без торгу і без слоў
Мы аддаем сваіх герояў.

Не смеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай візы,
Без нас ўсё робяць махляры
Ды міжнародныя падлізы.

Распаўся б камень ад жальбы,
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
З велікапольскімі панамі.

О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні
Такі разлом, туга такая!
І баюць байкі баюны
Северо-Западного края…

Плююць на сонца і на дзень.
О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?
Ім мураўёўскі б гальштук ўздзець,
Нашчадкам мураўёўскім гэтым…

Але яшчэ глушыце кроў.
Гарыць душа і час настане,
Калі з-за поля, з-за бароў
Па-беларуску сонца гляне.

Тады мы ў шэрагах сваіх,
Быць можа, шмат каго не ўбачым.
З тугою ў сэрцы ўспомнім іх,
Але ніколі не заплачам.

А дзень чырвоны зацвіце,
І мы гукнем яму: «Дабрыдзень».
І са шчытом ці на шчыце
Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем.

Не заўважыў, як дайшоў – дабег у такт адчайным радкам! – да дома, ажно здзівіўся раптоўна, пабачыўшы сваю таполю і заўсёды расхрыстаныя родныя дзверы. Ускочыў у пакой, амаль упаў на крэсла, схапіў ліст паперы і пачаў занатоўваць нованароджаны, гарачы яшчэ, трапяткі верш. Тут жа правіў: мяняў слабыя фармулёўкі на жорсткія, мудрагелістыя рыфмы на простыя, каб ажно звінелі. У чатыры праўкі дабіўся, каб усё, без выключэнняў, дыхала помстай і нянавісцю, адчаем і надзеяй.

І кінуўся на ложак, як быў – у пінжаку і ботах. Яшчэ трымцела, цягнула ўнутры гранічным напружаннем, ажно нылі мышцы, тахкала сэрца, біліся пад рэбры стопы ямба. І мы гукнем яму дабрыдзень... І мы гукнем яму дабрыдзень... Радкі шчэ біліся ў вушах, і ён шаптаў, шчэ правяраў іх на гук. І нібыта адчуў раптам: чужы звонкі голас у начной цемры кідаў у натоўп распаленыя жарсцю словы: «Калі з-за поля! З-за бароў! Па-беларуску! Сонца! Гляне!» – і нібыта ўбачыў усхваляваных людзей, і цёмнае зорнае неба, і стромкія сосны навокал, і чамусьці – крыжы.

## ВЁСКА. ДАРАГАНАВА

— А ці ведаеш ты, Адаме, што летась тут, ля Дараганава, Палікарповіч наш стаянку бронзавага веку адкапаў?

— Чытаў, а як жа. Блаславёнае месца! Каб быў зараз які бронзавы век, я б адсюль ані кроку не зрабіў бы! Сядзеў бы на беразе, пільнаваў шчупакоў, Аньця гаршкі б размалёўвала, дзяўчаты вяночкі плялі.

— Ага, і з-за кустоў Гартны – скок! Аддавай сваіх шчупакоў, яны з левымі ўхіламі, мы іх зараз утылізуем! Уратуем цябе ад тваіх лявацкіх шчупакоў! Жывата свайго не шкадуючы!

Бабарэка пасмейваецца. Уладзік ад'еўся на магілёўскай бульбе, пасыцеў, як параўнаць з маскоўскім жыццём, паружавеў з твару. Моцы набраўся, дурэе.

— А добры дом у тутэйшых Дараганаў! Прыгожая камяніца, на вякі. У маіх Манькавічах таксама добрая была панская сядзіба, Друцкія-Любецкія, князь перадапошні, пры якім бацьку майму пальцы адарвала на бровары. Хадзіў я з ім у тую сядзібу. Бацька прасіцца пайшоў, каб за руку сплаціў князь пенсію, а той кажа: «Судзіся са мной». Хоць, здаецца ж, разумны чалавек быў, зямлю сваю любіў, кнігу краязнаўчую выдаў, а сволач. Потым, як жонка ягоная гаспадарыла, яна ў Манькавічах амаль не жыла, дык я лазіў

цішком у іх бібліятэку: улетку адчыняць з раніцы вокны, я падбяруся – скок туды. І чытаю ў фатэлі. Пан, адно слова! Толькі вуха натапыру, каб дачуць, як хто ідзе. Але хто там будзе ў тую бібліятэку хадзіць – хіба вокны ўвечары пазачыняць.

— Дараганы гэтыя няблага гаспадарылі ў кожным разе, Уладзік. Чыгунку працягнулі сюды, лесапільню паставілі. Карысна жылі. Так падумаць, усе яны добрыя людзі былі – грашыма псаваныя толькі. Мо і сапраўды цяжка вырывацца з абдымкаў класавага выхавання?

— Не ведаю, Адаме, мне было няцяжка вырывацца з абдымкаў свайго класавага выхавання. Я, як у бібліятэцы Друцкага-Любецкага сядзеў, дык з першага разу да добрага прызвычаіўся. Думаеш, ты б у камяніцы Дараганавай дрэнна пачуваў сябе? Паглядзі на дзяцей дараганаўскіх. Усе сялянскія сіроты, а як абжыліся ў панскай камяніцы. Мо не ў класах тут справа, а ў нормах, якія наогул пануюць у грамадстве? Лічылася нормай халопа за чалавека не ўважаць.

— Неяк цьмяна ты фармулюеш, Уладзік. У Маркса ямчэй.

— Паглядзеў бы я на Маркса, як ён бы пажыў тыдзень у Дараганава на мясцовым тварагу. Як бы ён фармуляваў, цьмяна ці не цьмяна, – зводзіць Дубоўка гутарку на жарт. Зусім не хочацца сур'ёзных размоў.

Гэта Адам і знайшоў Дараганава, прыгожую, здавён багатую вёску на Пцічы. Яшчэ з царскіх часоў заможна жыло Дараганава. Былы гаспадар сядзібы, Восіп Фёдаравіч, узначальваў Рыжска-Арлоўскую чыгунку, а тут, якраз там, дзе грунтавая дарога па моцным мастку перабягае цераз Пціч, пабудаваў станцыю, працягнуў сорак кіламетраў рэек ад Асіповіч да Старых Дарог і паставіў лесапільню: карабельныя сосны з тутэйшых бароў секліся сотнямі, сплаўляліся Пціччу да Дараганава, пілаваліся тут і грузіліся ў саставы. Усім праца была, грошы вадзіліся ва ўсіх, у самага недалужнага небаракі ў куце за ручніком слупочкамі залатоўкі і нават рублі ў хустачку завернутыя. Дый хаты ставіліся дыхтоўныя, з добрага лесу, якога не шкадаваў Дараган для сваіх.

Дом, які яны здымаюць на тры сям'і (Уладзік з Марыляю, Крапіва з Ленай і Адам з Аняй і дзецьмі), вялікі, добра складзены, на пяць пакояў з кухняй, далібог, сышоў бы за панскую сялібу дзе на Полаччыне. Найвялікшы пакой аддалі Бабарэкам. Там з ранку да вечара ідзе валтузня і стаіць дзіцячы гоман, хоць паасобку і Алеська, і Элька – ціхія, спакойныя дзяўчынкі, але тое да той пары, покуль не сыдуцца разам у спрэчцы, якіх на дзень бывае некалькі дзясяткаў. Добра, што можна вытурыць іх на вуліцу альбо сысці самім. Тут шчодрая, хоць і каціная рыбалка. Тых сібількоў і пячкурыкаў, што дзясяткамі цягае з Пцічы Уладзік, нават чысціць агідна, таму

аддаюць усё мясцовым вусатым насельнікам, увогуле сытым, але да рыбы ласым. Увосень тут, пэўна, касой касі грыбоў, бо нават зараз дзяўчаты раз-пораз прыносяць з прагулак крамяных роўненькіх каласавікоў. Ціша, спакой, і нават камароў яшчэ не надта шмат.

Уладзік прывёз з сабой чарнавікі артыкула пра літары «дз» і «дж». Два гады ўжо муляе яму гэтая ідэя, і нарэшце плануе скончыць: дабіць артыкул, каб камар носа не падтачыў, каб любыя спрэчкі гарантавана вялі б да ягонай перамогі. Тут усё трэба прадбачыць, бо знойдзецца каму слоўца супраць кінуць. Маскоўскія графікі працуюць над малюнкамі літар. Здаецца, ужо гатовыя, трэба толькі забраць і аддаць на ліццё. Нават грошы ўжо ёсць: даў сам Галадзед.

— Адам, з пятага нумара паспрабуем з імі што-нішто надрукаваць?

— Вядома.

— А потым і цалкам, можа, пяройдзем?

— І цалкам пяройдзем.

Дубоўка смяецца. Што за гранітная глыба гэты Адам!..

Ціхі, крыху павольны, разважлівы чалавек, які ніколі не падвышае голасу, ніколі не размахвае рукамі, заўсёды ўважліва слухае, схіліўшы галаву набок, як схіляе яе сур'ёзная, занятая справай лясная птушка — колькі ў ім вернасці, вытрымкі, надзейнасці. На ўсіх яго хапае, такога надзейнага: на Аню, на дачок, на яго, Дубоўку. Аднойчы Лужанін пасля аднаго з пасяджэнняў сказаў ціха: наш Бабарэка падобны да Хрыста, і я часта ўяўляю яго ўкрыжаваным. Лужанін наогул залежны ад біблейскай метафорыкі, і яна часцяком у яго не да месца, але тут ён мае рацыю. Адам — чалавек без недахопаў, і яго сапраўды лёгка ўявіць укрыжаваным, бо ён пойдзе на любую пакуту, калі гэта будзе патрэбна.

Адкуль ён вырас такі? Сын беззямельнага селяніна, з маленства у чорнай галечы, у страшэннай нудзе. Школа за казённы кошт, здзекі аднакласнікаў, семінарыя, і там здзекі, бо ціхі, бо не такі, як усе, бо не плаціць, бо адказвае лепей за ўсіх. Як не зачарсцвеў, не злютаваў? Якое класавае выхаванне атрымаў ён? Які клас дае нам такіх людзей? Паболей бы такіх класаў.

Вунь ён, пабег да сваіх: Аня пагнала малых з хаты на вуліцу, і яны ўжо румзаюць ля плота, не падзяліўшы кацянё. Але хвіліна — і дзяўчаткі ўжо рагочуць ля бацькі. Прысеў на кукішкі, падхапіў абедзвюх на рукі — і бягом па двары. Тыя пішчаць, шчаслівыя. Дзіўны чалавек. Усё ў яго атрымліваецца ідэальна, як правільна, як трэба.

Іншы раз Дубоўка звярае па ім свае ўласныя адчуванні: калі Адам думае гэтаксама, значыцца, верны бярэцца кірунак. Калі Адам

маўчыць, нахіліўшы галаву, і крыху, амаль незаўважна пасміхаецца, значыцца, нешта не тое. Аднойчы — толькі аднойчы! — Адам страшэнна пакрыўдзіўся на яго, на Дубоўку, якога тады несла ў нянавісці і крыўдзе і падавалася, што ён адзін у полі ваяр, а ўсе астатнія, усе, без выняткаў, нечага чакаюць і выгадваюць за ягонай спінай. Ён выліў гэта ўсё на Адама, які завіхаўся там, у Менску, бегаў паміж ЦК і рэдакцыяй, адбіваўся ад Глыбоцкага і Гартнага, цярпеў ва ўніверсітэце, улагоджваў справы з Сянкевічам і Кнорыным — і атрымаў такі во ліст ад крыўдлівага маскоўскага пястунчыка. Тыдзень чакаў ад яго Дубоўка ліста ў адказ і толькі праз тыдзень зразумеў, чаму адказу няма, і гэтае разуменне абрынулася на яго ўсім сваім цяжарам, і ніколі ў жыцці не было яму так за сябе сорамна і так страшна — ні з жанчынамі, ні з калегамі, ні з кіраўнікамі, — як тады, калі ён зразумеў, што можа назаўсёды страціць свайго сябра Адама Бабарэку.

Як жа пашанцавала гэтым дзвюм малым з бацькам! Праз колькі месяцаў будзе бацькам і ён: Марылька пакруглела, ужо не схаваеш нават. Але ці будзе ён такім бацькам?

Зусім іншы Кандрат. Чорт яго ведае, таго Кандрата, які ён наогул і чаго ад яго чакаць. Неблагі, здаецца, таварыш, але веры яму ўнутры неяк няма.

Хоць талентам Крапіва мо памацнейшы за іх усіх будзе. Магчыма, бог няроўна дзеліць: калі каму адсыпае таленту такой мерай, як адсыпана Крапіве, дык іншага чагосьці павінен недакласці. І такога таленту, якога на Беларусі больш няма: лірыкаў досыць, празаікаў досыць — сатырыка больш няма. Ну не Алёшу-Вольнага ды прыблуду Свэна з Кандратам параўноўваць, хоць Вольны часам сёе-тое выбрыквае больш-менш цікавае. Добры літаратурны партрэт Зарэцкага выйшаў днямі, няблага зроблена. Але і гэта не тое, не той узровень. Нават руская літаратура, пэўна, за апошнія сто гадоў не дала паэта-сатырыка такога маштабу, які ёсць у нас Крапіва.

На гэтых «Узвышша» і трымаецца: Адам, Кандрат, Кузьма. Яшчэ Жылка. Астатнія слабейшыя. Але ўсё ж крочаць наперад, стараюцца. Правільна ідзём.

Увечары прыязджаюць менскія госці — Кузьма і Лужанін. Усчынаецца вясёлы шум, усеагульнае хваляванне: Кузьма жартуе, разыгрывае розныя інтэрмедыі, у якія пераўтварыліся пабачаныя ў дарозе абразкі, Лужанін сыпле на ўсе бакі кампліменты дзяўчатам і кпіны хлопцам. Распачынаюць на заўтра шашлыкі. Галоўны ў гэтай справе Дубоўка, яму вядомы нейкі асаблівы спосаб прыгатавання такой выкшталцонай стравы. Высачэзны, шыракаплечы, з русым чубам, які спадае на высокі чысты лоб, становіцца ён ля стала, што даўно

вынесены на двор, і пачынае варажыць над ялавічынай, невядома дзе здабытай Аняй Бабарэкай. І немагчыма не залюбавацца гэтым поварам, прыгожым, дакладным у рухах, вясёлым і ва ўсім таленавітым. І кухар тое ведае болей за ўсіх. Але шашлыкі — панская забава, да таго ж няхуткая, а сёння збіраюцца смажыць сала на мурагу, і дзяўчаты рэжуць тоўстымі шматамі прывезенае Кузьмой сала, бягуць у гародчык па цыбулю, крояць лустамі хлеб, складаюць усё гэта ў кошыкі, абгарнуўшы газетамі і наверх ручніком. Гатова, можна ісці!

На мурагу сядзяць да самай ночы, ўжо і дзеці паснулі, Алеся на руках у мамы, Эля — у таты, ужо і жарты ўсе перажартаваныя, і навіны ўсе абгавораныя, і вершы прачытаныя, і добра сядзіцца ўжо ў цішыні, і Аня заводзіць ціха песню.

Дубоўка з Чорным сядзяць наводшыбе ля самай ракі, паляць, і Кузьма ціха кажа сябру:

— Ты мо верша новага не чытаў. Пабач, што ў Менску пішуць, — і дастае з унутранай, патаемнай кішэні невялікі, у некалькі разоў складзены аркуш. — Асцярожна толькі. Не хачу, каб хто ведаў, што я табе яго прывёз. Хіба Адаму яшчэ сказаў бы, але яго не патурбуеш. Чытай, як бачыш, заўтра ўжо не пакажу.

Дубоўка падымаецца, падыходзіць да вогнішча, бярэ адтуль галінку, якая ледзь цьмее жоўтым агеньчыкам, і вяртаецца да Кузьмы. Такім знаёмым, чытэльным, нібыта паспешлівым Кузьмовым почыркам бягуць па паперы радкі: «Пасеклі Край наш папалам, каб панскай вытаргаваць ласкі...» Дубоўка ў нямым здзіўленні падымае вочы на Чорнага. Той глядзіць на раку. «Вось гэта — вам, а гэта — нам... Няма сумлення ў душах рабскіх...»

Ён чытае доўга, перачытвае, нарэшце акуратна складае аркуш і аддае Чорнаму.

— Хто?

— Дудар.

Дубоўка коратка ківае. Ён так і падумаў. Стылістыка ягоная, Дударова, ягоны дакладна пралічаны радок, ягоныя хвосткія метафары, а галоўнае — ягоная манера лупіць наводмаш, не зважаючы на наступствы.

— Не разлічыў удару. Моцна ўмазаў, але ж аддача з ног саб’е, — ціха, нібыта сам сабе кажа Дубоўка. — Слухай, Кузьма, я даўно ведаю Дудара. Ён мог гэта напісаць ад шчырага сэрца, я веру. Ён зацятым нацдэмам быў з Полацка яшчэ, казалі, што і раней, і ніколі не быў іншым, і гэта праўда. Але час такі, Кузьма, што людзі мяняюцца. Ці не думаеш ты, што гэта — учынак правакатара? Напісаць, распаўсюдзіць — і глядзець, хто і як адрэагуе? Дудар — той проста напісаў

бы, бо дапякло. Але Глыбоцкі, Кузьма, ён мог і справакаваць. Будзь асцярожным з ім. У яго перапісваў?

Чорны адмоўна круціць галавой.

— Гэта добра. Нікому не паказвай. Адаму я сам перакажу, я тэкст запомніў.

Некалькі хвілін яны маўчаць.

— А «За ўсе краі, за ўсе народы свету...», што ў Вільні выйшаў, ты напісаў, Уладзік, — раптам кажа Чорны.

— То — я, — цвёрда кажа Дубоўка. Раней гэта ведаў толькі Адам, цяпер, відаць, не толькі.

— І калі нават тыя, хто лупіць па нас, думаюць тое самае, што і мы, Уладзік, дык ці правільным шляхам ідзе краіна наша? Ці з тымі людзьмі? Калі беларусы агулам адчуваюць, што іх прадаюць? Ураздроб і оптам?

— Не пытайся, Кузьма, пра такое ў мяне, і ні ў кога не пытайся, і нават думаць забудзь. Іншых людзей ва ўладзе ў нас няма. З тымі, што ёсць, трэба гутарыць, тлумачыць, дзе трэба, мо і хітраваць. У нас ёсць свая справа. Як не мы, хто зробіць яе? І я думаю, Кузьма, што нас будуць правакаваць, і будуць сварыць, і будуць дабівацца расколу знутры, і да цябе падыдуць, і да Крапівы, а да Лужаніна — дык да першага. Трэба быць асцярожным і памятаць, што мы павінны трымацца разам. Перасварань — нам канец. Не толькі «Узвышшу». Нам усім. Нехарошыя справы ў Крамлі адносна нацыянальных культурных суверэнітэтаў, Кузьма.

І зноў маўчаць.

— Лісты мае да Адама, ягоныя лісты да мяне... Прыходзяць перлюстраванымі, Кузьма. Будзь асцярожны. Табе трэба пісаць. Як нікому, табе трэба пісаць. Ты гэта памятай. Беражы галаву сваю, залатая яна ў цябе. Верш гэты знішчы.

Чорны моўчкі ківае.

— Хлопцы-ы-ы! Ці хутка? — чуецца голас Марылькі.

— Ці хутка... «Хлопцы, ці хутка?» — спытала Марыля ціхутка... — усміхаецца, падымаючыся, Дубоўка.

Ужо віднее, і па-над Пціччу плыве пухкі ліпеньскі туман.

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Была яшчэ адна падзея. Якраз у дваццаць восьмым, на самым пачатку верасня, мы з Настай Маркавай паехалі ў Маскву. Я ўжо няблага пісала на ідышы, бо ведала нямецкую, дый наогул, я чула ідыш з дзяцінства:

у віцебскіх дварах ён быў зусім сваім, радзей пачуеш беларускую, чымсьці ідыш. Лазар абавязкова вычытваў мае тэксты, я нават нешта спрабавала напісаць мастацкае, невялічкі аповедзік з Рыўчынага дзяцінства, але нават Лазару не паказала — зусім дрэнна.

Але ж мы з Настай паехалі ў Маскву.

Мне было неяк няёмка ад таго, што ў Маскве я збіралася сустрэцца з Дубоўкам. У яго былі нейкія агульныя справы з Зільберам, таму я везла нейкі пакет, да таго ж пасля «Кругоў» мы з ім былі нібыта… ці то сябрамі, ці то таварышамі, не ведаю, як назваць. Карацей, аўтар і ягоная гераіня. Але ж Наста Маркава таксама была адтуль, з Дубоўкавых вершаў, толькі паміж імі даўно ўжо быў той калючы холад, які бывае ў такіх выпадках. Дубоўка быў ужо жанаты, болей за тое ўжо нарадзіўся ў яго з Марыляй Кляўс хлопчык. Спатканне не мела сэнсу. Наста, у кожным разе навідавоку, на яго і не спадзявалася: для яе гэтая гісторыя была не вельмі балючая. Але мне ўсё роўна было няёмка.

Адразу з вакзала Наста паехала па сваіх справах, а я засталася на плошчы ля вакзала, бо мы з Уладзікам дамовіліся сустрэцца праз паўгадзіны пасля прыбыцця цягніка. Зразумела, гэта быў ягоны ход — даць час Налі сысці. Дубоўка наогул быў чалавекам, які заўсёды думаў пра наступствы, нават калі рызыкаваў. Я стаяла на Цвярской, праз мяне кацілася шумлівая, не бачаная яшчэ Масква, а я думала, што Дудар абавязкова прыйшоў бы да самага вагона, і глядзеў бы на былую каханку вясёлымі пяшчотнымі вачыма, і сказаў бы нешта ласкавае, і калі атрымалася б, то і павёў бы да сябе. Ад гэтага мне раптам стала блага, але праз плошчу мне ўжо махаў рукой Уладзік, і я з радасцю кінула думаць пра благое.

Уладзік, высачэзны, прыгажэнны, крочыў праз Цвярскую, нібыта пераступаючы сваімі агромністымі нагамі цераз машыны, людзей, рамізнікаў, гандляроў, як казачны волат. «Ну здароў, Нарутавічанка! — падхапіў мяне на рукі, узняў высока, асцярожна паставіў. — Ці тое, Зільберыха. І собіла ж табе замуж, Нарутавічанка! О, таварыш Зільбер якую перадачу зладзіў, важыць! Усё, зараз — са мной, пакажу табе Маскву, а то прыязджаеце, акрамя гасцініцы сваёй, нічога не бачыце!» І мы пайшлі. Па Грузінскім вале, адтуль на Малую Грузінскую, паўз ягоны дом, які стаяў насупраць чырвонага стромкага касцёла, на Чырвоную Прэсню. А вунь тое кафэ, куды ён павёў мяне, на самым рагу Грузінаў і Прэсні… Выкшталцоны, сталічны кавалер, Уладзік умеў з любога жэста, з любой мізэрнай падзеі зрабіць малюначак, успамін у рамачцы, невялічкі далікатны спектаклік, у якім звычайнае правінцыйнае дзяўчо адчувала сябе каралеўнай — як я ў тым кафэ, з кубкам гарбаткі і міндальным піrожным.

З Прэсні, крыху збочыўшы направа, мы далі нырца на Паварскую — вузенькую, утульную, між прыгожых камяніц, кожная з якіх — гісторыя. «Во, Наста, сэрца маёй Масквы. Уважліва глядзі: гэты двор таптала ўся руская

літаратура дваццатага стагоддзя, ну і мы, беларусы, троху наслядзілі! Тут во Ясенін з Маякоўскім выступалі, на гэтым балкончыку. А тыя вокны бачыш? Там часцей за ўсё вёў семінар Шэнгелі, а вунь тое — зала вялікая. Там і лекцыі чыталіся, і пасяджэнні ладзіліся, там Брусаў любіў ладзіць заняткі — казаў, каб вучыліся асвойваць вялікую прастору. Дыхай, Наста, гэта гістарычнае паветра, тут, у гэтым двары!»

Адразу за Брусаўскім інстытутам («Не прапусці, Наста, тут незаўважны, але важны паварот!») Скарацінскі завулак. Сярод Масквы — ціша і нерухомасць, да шыкоўных камяніц прытуліліся драўляныя хацінкі і разная, нібы карункавая цэркаўка. Хвіліна — і мы выскокваем на Малую Мікіцкую да чыгуннай агароджы жоўтага дамка. «А тут, Наста, рабілася гісторыя. Глядзі, тое акно — пакой самога Міхася Мароза, паўпрэда БССР. Вунь тое — для гасцей было, там і я жыў, і ты магла б, каб было яшчэ жывое паўпрэдства. Эх, Настачка, накрылі б мы табе стол, закацілі банкет, як дамоў прыедзеш, у Алесі Марозіхі запытаешся, як іх тут калісь сустракалі!»

Адтуль уміг, незаўважна — ах! Чырвоныя вежы, залатыя макаўкі, то ж Крэмль! Нібыта на карціне. «А вунь мой працоўны кабінет, Наста. Бачыш, на трэцім паверсе акно адчынена? Там я працую», — і глядзіць, як я адрэагую. У вачах смяшлівыя зорачкі і хлапечая пыха. Дзіцё! Вядома ж, я ахнула і запішчэла.

Доўга яшчэ потым у Менску я ўспамінала тую Уладзікаву Маскву.

Дудар сышоў з універсітэта, і я цяпер яго зусім не бачыла, ані на вуліцах, ані ў рэдакцыі, бо ў «Штэрне» ў яго ніякіх спраў не было. Дзіўна: Менск такі маленькі горад, а мы разміналіся. Мая асабістая гісторыя стала неяк шарэць, адыходзіць на другі план, неяк лакіравацца ўнутры. Я забыла нават ягоны пах, і толькі аднойчы скаланулася ў тэатры, калі ў чарзе па паліто раптам адчула такі знаёмы сухі водар сена і палыну.

А хутка ў «Штэрн» прыехаў Кульбак.

Яго ў нас вельмі чакалі: было вядома, што ён вяртаецца ў Савецкую Беларусь. Для нас ён ужо не быў колішнім менчуком, хоць і жылі тут на Старавіленскай ягоныя сваякі, хоць і ведалі мы, што вершы першага зборнічка пісаў ён тут, у акупаваным палякамі Менску, мільгануўшы на роднай вуліцы на некалькі трывожных месяцаў і з’ехаўшы назад, на захад. Там, у Вільні, набраў ён сваю моц, набыў сваю звонкую славу, і сюды яго чакалі ўжо як сусветную зорку. У нас такіх у Менску не было: старшыня сусветнага яўрэйскага ПЕН-клуба, аўтар не чытаных намі замежных тоўстых часопісаў, віленская легенда. Расказвалі, што на ягоныя лекцыі ў гімназіі набівалася людзей па тры сотні, так, што сядзелі адзін на адным, па дзесяць чалавек на адным падаконніку. Яшчэ расказвалі, што дзяўчаты плачуць гаручымі слязьмі ад шчасця, калі раптам перастрэнуць яго на вуліцы. Гэтаксама распавядалі, як Кульбак ажаніўся: маўляў, была дзяўчына, выхавацелька ў прытулку, гуляла яна з дзецьмі ў Бернардынскім садзе, а па

сцежцы ішоў Кульбак, глянуў на яе, пабачыў яе вочы і абое ўсё зразумелі. Гулялі цяпер ужо ўдваіх па гэтых сцежках, а потым ён раптам з'ехаў у Берлін. Год няма, два няма, прыязджае, а тая Жэня пад белым вэлюмам дома на крэсле сядзіць, замуж выходзіць. Ён з вакзала наўпрост да яе пайшоў, у дом уварваўся, за руку яе ўзяў: я прыехаў за табой, мне пляваць на твайго жаніха, паехалі да рабіна. І такі яны паехалі. Хадзілі самыя розныя легенды пра Кульбака, да таго ж высветлілася, што «Штэрэндл», якую мы з Рыўкай спявалі калісь у маё самотнае віцебскае лета, напісаны самім Кульбакам, дык я чакала ягонага прыезду, як дзеці чакаюць свята.

І аднойчы ён увайшоў у рэдакцыю: высокі, непраўдзіва прыгожы, з капой чорных валасоў, чорнымі пранізлівымі вачыма і капрызнымі вуснамі. Неяк адразу ён стаў зусім свойскім: з нязменным кубкам гарбаты ў тонкай, прыгожай руцэ хадзіў ён па кабінетах, спыняўся ля сталоў, гутарыў з кожным так, нібыта ведаў чалавека з маленства, смяяўся ціхім, але заразлівым смехам і ўважліва, да самага канца слухаў любыя, нават самыя падрабязныя расповеды. Па-руску ён размаўляў з памылкамі, вольна карыстаючыся склонамі і прыназоўнікамі, па-беларуску гутарыў таксама нячыста, але вельмі кранальна, шчодра перасыпаючы смаргонскую гаворку ідышам. Ягоны ідыш гучаў як спеў, паветра напаўнялася мяккім гудам: так чмель гудзе ў ліпеньскую спёку над разамлелым святаяннікам, так грукацяць па гарачым каменні драўляныя колы бацькавых драбінаў, гружаных духмяным сенам. Гэта была хуткая, але роўная гаворка, густая, басавітая, немагчыма прыгожая. Маўчаў Кульбак таксама добра: сядзеў сабе, каўтаў гарбату, глядзеў перад сабой ці ў акно, ці на цябе, а адказваць яму і не трэба было, адно маўчы і адчувай, як праз Кульбака коціцца лета, і час, і вечнасць.

Але амаль адразу Кульбаку стала тут цяжка. Ужо ў лістападзе ён разгублена маўчаў у рэдакцыі, сядзеў ля акна і ўзіраўся ў дрэвы.

Яму — з жонкаю і сынам — далі цесную кватэрку ў старым цагляным будынку побач з новай трамвайнай лініяй. Будыніна ходырам хадзіла ад кожнага руху на вуліцы, дармо што цагляная. Два пакойчыкі, сырыя, цёмныя, вузенькія — Кульбак, раскінуўшы рукі, трымаўся за супрацьлеглыя сцены, ад якіх бясконцым рэхам адбівалася бразгатанне трамвая. Пасярод гэтых харомаў высокі, шыракаплечы Кульбак выглядаў зусім разгубленым. Але ўвесну адбылося незвычайнае: актрыса-камуністка Мішкет Ліберман, якая прыехала з Германіі іграць у габрэйскім тэатры, саступіла Мошэ свой дамок у Омскім завулку: Мошэ, спакутаваны і няшчасны, сам пайшоў да яе прасіць абмену, і тая — нечуванае для Менска! — пагадзілася.

Ледзь не кожны вечар мы хадзілі да Мошэ і Жэні ў Омскі завулак. У дамок вялі прыступачкі — навюткія, саструганыя самім гаспадаром. Перад вокнамі калыхаліся бэз і чаромха. Наводдаль стаяў велічэзны клён, і таму двор у Омскім завулку быў прыгожы і ўвосень. У Кульбакаў быў вельмі

выхаваны, ціхі сынок. Прыгожанькая, ладненькая Жэня гатавала розныя прысмакі, і мы сапраўды адзін час там нібыта жылі — накрывалі сумесныя сталы, часам пілі чырвонае віно, гутарылі, спявалі, гулялі ў шарады, на чатырох, бывала, пісалі нейкія адчайна смешныя вершы на сумесі беларускай і ідыша. Зараз не помню аніводнага.

## ГОРАД. СМЕРЦЬ «МАЛАДНЯКА»

Раздражненне расло. Вар'явала ўсё: выкладчыкі, праграмы, змест семінараў, дрэнная беларуская лекцый, аднакурснікі, пастаянныя сутычкі ў калідорах: «Говорите по-русски, вы же умеете!» Дзяўчаты, якія грэбліва гарталі беларускія зборнікі на семінарскіх занятках у Барычэўскага і закочвалі вочы над кніжачкамі Шкапскай. Хлопцы, якія мазалі валасы гліцэрынам напалам з рыцынай, залізваючы іх за вушы, і нараспеў чыталі Вярцінскага на перапынках. Нават свае раздражнялі: блазан Шукайла, які бясконца баламуціў другі курс, ствараючы «спецгрупы» для паэтаў і прыгажунь і забараняючы наведваць семінары для спецгрупы іншым студэнтам; слабак Відук, які мо і адчуваў нешта прыкрае, але не мог сказаць слова супраць дурня Шукайлы; Броўка з Глебкам, якія хадзілі па калідорах з такім выглядам, нібыта гэта не Пічэта з Піятуховічам, а яны, Броўка з Глебкам, кіравалі тут навучальным працэсам.

Дудар зноў і зноў успамінаў Полацак увесну дваццаць пятага, калі яго, дваццацігадовага смаркача, паслалі саматугам беларусізаваць горад. Успомніў, як крывіліся і моршчыліся дзядзькі ў «Полоцком пахаре» на ягоную беларускую, успомніў, як хіба не біцца кідаліся маладыя хлопцы, калі ён, амаль непрытомны ад злосці, крычаў на ўсю рэдакцыю пасля выхаду чарговага нумара, дзе пад беларускімі загалоўкамі ўсё адно вярсталіся рускамоўныя артыкулы. Успомніў, як пакрысе, літара за літарай, але ж адбіваў ён у тым «Пахаре» беларушчыну, а як плюнуў і з'ехаў, амаль адразу газета стала ўсё ж «Чырвонай Полаччынай». Дык вось тады беларусізацыя ішла значна лягчэй, чым цяпер у БДУ. У кожным разе так здавалася.

Другі курс як-ніяк вытрываў, а зараз зусім стала блага. Пачаў злаваць і дурэць.

Дэманстратыўна разварочваўся ля аўдыторыі, дзе чытаў Воўк-Левановіч, ад якога аднойчы пачуў пра «беларускую як дыялект расійскай», чакаў, покуль гэта стане заўважна як мага большай колькасці людзей, і сыходзіў з семінара, пажадана, каб на вачах самога Левановіча. Чытаў даклад у Барычэўскага па-расейску, акуратна,

штучна акцэнтуючы мяккія «щ» і «ч», і на здзіўлены позірк прафесара адказваў з выклікам: «Хочу быть понятным большинству, товарищ профессор». Гучна выпраўляў русізмы выкладчыкаў на лекцыях. Потым наогул перастаў хадзіць, хіба што да Барычэўскага і на ўводзіны ў нямецкую філалогію. Гэтая дысцыпліна, праўда, чыталася для габрэйскай секцыі, але Вейгнер, невысокі кучаравы чалавек з ласкавым позіркам і пухлымі дзіцячымі далонькамі, дазваляў яму прысутнічаць на занятках. Як ён казаў, «каб усе гэтыя людзі не думалі, што нямецкую мову ў гэтым універсітэце ведаю толькі я». Часам завітваў яшчэ да Піятуховіча: усё ж там можна было нешта пачуць, хоць увогуле ўсё, што ён казаў, было павярхоўна і даўно вядома. Разы два быў у Бузука на гісторыі ўкраінскай літаратуры, але пабачыў, што сам расказаў бы болей і цікавей. Ніколі не хадзіў да Бабарэкі — ну, гэта натуральна. Ігнараваў і рускую літаратуру, якую чытаў Замоцін. Прынцыпова.

Наташа, якая ўвосень паступіла на першы курс, хадзіла на лекцыі дужа акуратна і строга паглядала на яго, калі бачыла ў калідоры, што яму ўжо коле пад пяты. Ён усміхаўся ёй, абдымаў за плечы, цалаваў і сыходзіў. Увечары, стомленая ўжо, раскудзеленая, зусім свая, родная, яна сядзела за сталом, закапаўшыся ў кніжках, і ён масціўся са сваімі паперамі ля падаконніка, каб не перашкаджаць студэнтачцы. У гэтыя хвіліны ён любіў універсітэт.

Папер у яго зараз было шмат, болей, чым калі. Яны грувасціліся па паліцах, на кнігах, на падаконні, падпіралі шуфляды: непрыбранымі ляжалі чарнавікі да выйшаўшай ужо «Марсельезы», кідаліся пад рукі артыкулы для «Літаратурных спраў», якія якраз выходзілі, ляжала высокім стосам будучая «Вежа», якую трэба было здаваць у БДВ, але ўсё ніяк не адпускала, нешта муляла, і ён усё правіў, усё крэсліў, усё гартаў туды-сюды гэты зборнік, здаецца, сталы і добра зроблены, але нейкі ўсё ж не свой, нейкі штучны і чамусьці загадзя нелюбімы — той, у які нельга было ўключыць добрую палову напісанага, што тулілася зараз у ягоным партфелі, баючыся выпаўзці нават на стол. Для «Полымя» пісаў вялікі артыкул пра беларускія казкі (наш адказ «Узвышшу»!), гэта таксама вымагала паперы. Карцела ўзяцца нарэшце і навесці парадкі, што аддаць маці ў печ, а што і датуль не данесці, знішчыўшы ўпотай.

Расло раздражненне, а разам з ім — дзіўнае адчуванне, што ўпёрся ў нейкую сцяну. Што свет спыніўся. Што далей няма куды ісці. Заўтра не абяцала нічога лепшага за сёння. Заўтра наогул не абяцала. Дні стаялі сталёваю вартай паміж будучыняй і ягоным сёння. Ці праўда было ўсё тое, што было? Ці было яно ўсё праўдай?

Не ратавалі і кніжкі. Ён праводзіў у закутку букіністычнай крамы на Валадарскага незлічоныя гадзіны, лазіў па лесвіцы на самы верх,

прыбягаў увечары ў пятніцу да новага прывозу, каб разам з загадчыцай крамы, прыгожай яшчэ саракагадовай жанчынай, разабраць стосы кніг, дапамагчы ёй занесці іх у падсобку і першым убачыць, што ж прыйшло сёння. Ён аддаваў на кнігі ледзь не палову таго, што атрымліваў ганарарамі, і не чытаў іх.

Часта, як не было дома Наташы, ішоў у пусты Жэньчын пакой — малая з верасня вучылася ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Мар'інай Горцы. Гэта было ягонае рашэнне: «Беларусі патрэбныя аграномы, Жэнька. Каб на зямлі працавалася лёгка і радасна. Вось вывучышся, паедзеш у калгас — і ўся зямля будзе цвісці і радзіць па тваім загадзе!» Цяпер яму не ставала Жэнькі, і ён ішоў у яе пакой і, нібы звер, удыхаў знаёмы цёплы пах іх агульнага дзяцінства, які яшчэ жыў тут. Наташа ратавала. Не таму, што хацела ратаваць, не, яна нават, здаецца, не заўважала ягонай дзённай нуды. Наташа спасцігала зараз з ім новае жыццё, патаемнае, цьмянае, тое, якое для яго было ўжо ўздоўж і ўпоперак знаёмым, а для яе — новым, даўно чаканым, запаветным. Для яе нібыта не існавала дня побач з ім — існавала ноч. Удзень яна жыла ўніверсітэтам, сяброўкамі, іншы раз — сваімі вершамі і толькі ўвечары пачынала глядзець на яго доўгім, працяглым, новым сваім поглядам. Гэта і ратавала, і ён аддаваўся ёй і яе жарсці да астатку, каб раніцай зноў апынуцца сам-насам з сабою.

Зусім разладзілася ў яго з Вольным. Яшчэ ў жніўні, як Толька з'ехаў у Гомель здымаць свае «Хвоі гамоняць», узяўшы Чаротаву жонку Аню на галоўную ролю, Дудар зразумеў, што гісторыя гэтая праглыне Тольку з галавой. Яна і праглынула. У верасні Толька і Аня вярнуліся — і нічога ўжо немагчыма было схаваць: ані тое, што Вольны зусім страціў галаву, ані тое, што Аня закахалася мо ўпершыню ў жыцці, ані тое, што ўсё гэта бачыў і разумеў Чарот. І ўсе яны былі ў сваіх каханні і рэўнасці бязмежныя, і ўсе — цалкам няшчасныя. Вольны ледзь не штодзень абедаў у Чарота з віном і гарэлкай, і яны абодва напіваліся да непрытомнасці, і садзілася з імі за стол Аня і таксама піла. Ён некалькі разоў трапляў у гэтую кампанію і не мог вытрымаць, асабліва калі Аня, усё яшчэ прыгожая, усё яшчэ прыцягальная, але ўжо з водсветам бездані на твары, якая часта падсвечвае вочы вулічных жанчын, заводзіла сваім нізкім голасам: «Стаканчики гранёные упали да со стола, а ты, моя красавица, да бросила меня...» — і ў пошлай гэтай рускай песеньцы немагчымым чынам адбівалася іхняя агульная на траіх роспач.

Раней здавалася: шчасце — гэта проста. Для ўсіх, і трэба толькі правільна жыць.

Заставаўся хіба Зарэцкі, з кім можна было гутарыць пра тое, што нудзіць і хвалюе. Нават не гутарыць, бо разумелі адзін аднаго ўжо

з позірку, з жэста. Але Зарэцкі зараз асабліва ўпарта пісаў, і нават калі з'яўляўся на занятках ва ўніверсітэце, сядзеў на іх з адсутным выглядам, і Дудар добра ведаў ягоны гэты выгляд.

Аднойчы яны выйшлі разам з лекцыі Барычэўскага – вялося пра нямецкі «штурм унд дранг», і яны абодва былі ўзрушаныя нечаканай аналогіяй: «А і мы ж, Шурка, перажылі тое самае, і наш пачатак быў такі самы моцны, імпэтны, неадменны і маштабны, і наш «Маладняк», калі паглядзіць на яго без сённяшняй перадузятасці які-небудзь даследчык гадоў праз сто, падасца такім самым прывабным і гэткім самым смелым!» – сказаў Зарэцкі, і ён пагадзіўся. Яны зайшлі ў шашлычную і доўга сядзелі там, нетаропка п'ючы і не п'янеючы, але чамусьці першапачатковае натхненне саступіла месца горычы, адной на двух. «Але ж час такі, Шурка, што мы ўсе прызвычаіліся да злога. Паглядзі, што такое зараз чалавечае жыццё. Плюнь і разатры. Як лёгка мы заклікаем да забойства, з якой бестурботнасцю патрабуем смерці, з якой абыякавасцю мінаем газетныя радкі пра чарговыя расстрэлы. Мо і нас калі-небудзь гэтаксама выкінуць пад якім плотам, і ніхто не пачуе, бо прывыклі мы, Шурка. Я колькі жыву – столькі вакол мяне забіваюць і паміраюць», – казаў Зарэцкі, і было заўважна, што баліць яму яшчэ тое, што ён спрабаваў сфармуляваць ў сваёй «Кветцы пажоўклай». «І я пра тое думаю апошнім часам, Міхась. Думаю, што да ўсяго паганая істота чалавек прывыкае, праўду казаў Горкі. А да забойства прывыкае яшчэ лягчэй, бо звер. І самому нават падаецца, пра сябе: што смерць? Жарт, палёгка. Без шкадавання аддамся ёй. Няма чаго шкадаваць. Мы ворагаў сваіх не шкадуем, і нас не шкадуе ніхто. А ці не шкадаванне адрознівае нас ад звяроў? Мне, бывае, дзіўна так думаць, хоць, здаецца, гэта такая простая думка». – «Дык гэта тое, пра што твае „Хрушчы", Шурка. Ты мо і сам не заўважыў, што напісаў. Я думаю пра твае „Хрушчы" і пра тое, што хрушчы гудзяць, як кулі, і кулі гудзяць, як хрушчы. Смерць стала паўсядзённасцю, яна цяпер увайшла ў пейзаж. І толькі ты напісаў верш, у якім табе шкода ворага. Больш такога верша няма ў нас, Шурка. Дый ты яшчэ адграбеш за яго. У зборнік дакладна не дадуць уключыць». І радасна было ад пахвалы Зарэцкага, і горка.

Аднойчы ў сваёй нудзе ён нават пайшоў да Тамары і праседзеў у яе да ночы, проста праседзеў, абапёршыся спіной на старэнькую вясковую маляванку, якую аднекуль прынесла ягоная даўняя сяброўка ў свой няўтульны, няшчасны пакой. Тамара цыравала панчохі ў куце, раз-пораз паглядаючы на яго з-пад ілба, потым прынесла чайнік і наліла яму гарбаты – чабору са святаяннікам. «Гарэлкі няма?» – спытаўся. Тады наліла гарэлкі.

Так круціла яго ўвесь кастрычнік, а ў лістападзе адпусціла. І ён адчуў, што зноў разумее, куды яму трэбаісці і што трэба рабіць.

На самым пачатку лістапада сабраліся ў «Полымі».

Прыйшоў Васілевіч — ЦК партыі пільнавала літаратараў на самым высокім узроўні. Ці было калі, каб на пасяджэнні ЦБ «Маладняка» прыходзілі сакратары Цэнтральнага камітэта? Хіба тады, як адыходзіла «Узвышша». Ажно рэзанула ўнутры нечаканым успамінам: восень, такі самы лістапад, дваццаць пяты год, пасяджэнне ЦБ перад самым з'ездам, па ўсім горадзе знікла электрычнасць, і яны сядзяць пры газніцы: Бабарэка, Пушча, Зарэцкі, Вольны, Чарот. Яшчэ не было ніякіх адыходаў, яшчэ не было паміж Вольным і Чаротам Ані, а паміж ім і Бабарэкам — Глыбоцкага, і хутка з'езд, і яны вырашаюць, куды размяшчаць філійцаў з акруг, і Толька кідае: «Дык у „Бельгію“! І танна, і побач, і потым можна ўсім пайсці».

Між тым гутарка ішла з карысцю: Зарэцкі звярнуўся да Васілевіча наконт газет.

— Ці лічыце вы правільным, Іван Антонавіч, што нашы газеты не даюць нам выказаць свабодна сваёй думкі? Навошта яны тады існуюць? Атрымліваецца, грамадзяне цэлай рэспублікі ведаюць толькі тое, што лічаць за праўду рэдактары гэтых газет — чатыры чалавекі на мільёны чытачоў! І калі мы, пісьменнікі, болей за тое, былыя супрацоўнікі гэтых рэдакцый не маем магчымасці прамовіць праз газету пра тое, што хвалюе, дык што казаць пра рабочых, пра сялян, пра селькораў, якім перакрываецца шлях да трыбуны?

— Не надта разумею, таварыш Зарэцкі, на што вы крыўдуеце. Хто і калі перакрываў вам шлях да рэдакцыйнай трыбуны? Назавіце прозвішчы, і мы будзем разбірацца.

— Якія прозвішчы я магу вам назваць? — здзівіўся Зарэцкі. — Хіба па сваёй волі адмаўляюць рэдактары? За кожным з іх стаіць той чалавек, прозвішча якога мне невядома.

Ажно горача стала ўнутры ад радасці: добра, рэзка вядзе гутарку Міхась. Дудар ажно выпрастаўся, раўней сеў, азірнуўся па баках: як рэагуюць полымаўцы? Купала, усміхаючыся, нахіліў галаву, нібы прыслухоўваючыся, Колас насупіўся — незадаволены стары. Галубок употай штурхнуў Гурло, які аб нечым задумаўся, і Дудар ужо ўбачыў у самым куточку вуснаў Галубка асаблівую, толькі ягоную рызыкоўную ўсмешку зацятага дваровага байца, які прадчувае дабрэнную свару.

— Асабіста я, таварыш Зарэцкі, нічога не маю супраць, каб вы выказваліся на старонках рэспубліканскіх газет. Якое пытанне вас хвалюе зараз? — нечакана ветліва адказаў Васілевіч.

— А вось хоць бы тэматычны план Белдзяржкіно, які надрукаваны ў цэнтральных газетах. Усе мы бачым, як пачварна, злачынна прадстаўлены там нацыянальны момант. Чаму мы не можам абараніць сваю нацыянальную культуру на сваёй нацыянальнай кінастудыі?

— Чаму ж не можаце, таварыш Зарэцкі? — здзівіўся, тэатральна падымаючы брыво, Васілевіч. — Выказвайцеся. А як будзе які рэдактар супраць, скажыце, што я асабіста даў дазвол.

Свары не атрымалася, наадварот, такі хуткі і нечаканы дазвол на сваю думку, нягледзячы на рэзкі тон Зарэцкага, — у пакоі адчувалася агульная разгубленасць і неразуменне, але адначасова і палёгка. Жылуновіч, кіўнуўшы галавой Васілевічу, працягнуў сход, Дудар і Зарэцкі абмяняліся маланкавымі позіркамі, у якіх абодва чыталі і здзіўленне, і радасць, і запал выказацца неадкладна, і жаданне зрабіць гэта як мага гучней.

— А калі б я хацеў асвятліць становішча ў БДТ, я таксама магу спаслацца на ваш дазвол, Іван Антонавіч? — раптоўна перабіў агульную гутарку Дудар.

Васілевіч прыветна глянуў і на яго.

— Вядома ж, таварыш Дудар. У нас кожны мае права на асабістую думку і на яе выказванне.

Дудар ізноў кінуў позірк на Зарэцкага, і той адказаў ледзь заўважным рухам брыва. Яны не бачылі, з якім здзіўленнем і недаверам аглядаў пакой Галубок: ведаючы становішча ў БДТ, ён цалкам не разумеў такой спагадлівасці сакратара ЦК. Нешта тут было падазронае. Але добра павялі гутарку хлопцы, смела. Можа, яно так і трэба — з напорам, з агнём. Ажно ЦК стушавалася. Гэта ён ужо пастарэў, не наважваецца задаваць вострых пытанняў. «Малайцы, галубкоўцы! — думае з задавальненнем Галубок. — Мае вучні. А то ж».

І яны ўдарылі, абодва.

На артыкул Зарэцкага «Чым пагражае нам Белдзяржкіно» пакрыўдзіўся нават Толька. Зарэцкі лупіў, не гледзячы навокал: «Другое мейсца ў прадмове да пляну такое: „уцягненне літаратурных сіл БССР у літаратурна-культурную творчасць для беларускае кінематаграфіі, так удала распачатае ў мінулым операцыйным годзе, будзе шырока разгорнута ў 1928—29 годзе“. Я нічога не буду гаварыць пра культурныя сілы, а пра літаратурныя скажу, бо гэта мне больш вядома. З усіх гэтых сіл „уцягнулі“ аднаго Анатоля Вольнага, ды і таго так пацягнулі, што ад небаракі асталася адна толькі „сіла“, а ўсё літаратурнае засталося па-за межамі Дзяржкіно. Хто яго ведае, можа, з яго зробяць добрага кінамеханіка». Толька прыбег у рэдакцыю «Савецкай Беларусі» і доўга пыхцеў у калідоры, схапіўшы Дудара за гузік пінжака: «Ну я разумею шчэ, чаму даў гэты пасквіль Чарот.

Чаму не выкрасліў. Я гэта разумею, і сам бы так зрабіў. Але чаму так напісаў Зарэцкі? Які я яму кінамеханік?»

На артыкул Дудара «Даволі анекдотаў» пакрыўдзіўся ўжо ўвесь БДТ-1, а калі праз два дні выйшла ягонае ж «Таптанне на месцы», праціснутае ў друк ледзь не гвалтам, бо «Звязда» катэгарычна адмовілася публікаваць, а Чарот брудна лаяўся і ажно выскокваў з кабінета, ляскаючы дзвярыма, калі Дудар крыкам патрабаваў даць артыкул заўтра ж, бо існуе загад Васілевіча, — скандал выплюхнуўся на вуліцы. Артыкул Дудара цытавалі, пераказвалі, гэты нумар «Савецкай Беларусі» расхапалі літаральна за гадзіну: «Наш тэатр разьвіваўся зусім іншымі шляхамі, чымся ня толькі маскоўскі мастацкі тэатр, але і наогул расійскі. Якраз у тыя самыя гады, калі ў прасторных памяшканьнях мастацкага тэатру праходзілі першыя пробы „Синей птицы“, невялічкія групы маладых беларускіх актораў з вялікімі труднасьцямі рыхтавалі першыя беларускія аднаактоўкі для напалову сямейнай аўдыторыі. А калі, пасьля рэвалюцыі, беларускі тэатр упяршыню стаў на ногі, дык першаю буйнаю яго пастаноўкаю была пастаноўка „На Купальле“, прасякнутая рамантыкай новага жыцьця, што вырастае на руінах цёмнай, прыдушанай, прыгнечанай старой Беларусі. І пасьля гэтая пастаноўкі лінія тэатру доўгі час ішла даволі зразумела і ясна і праца тэатру нібыта накіроўвалася на развіцьцё і паглыбленьне самабытнага беларускага тэатральнага мастацтва. І вось цяпер, ці то сапраўды ад рэпертуарнага голаду, ці то па незадачлівасьці нашага тэатральнага кіраўніцтва БДАТ1 пачынае губляць сваю лінію і мітусіцца, шукаючы дарогі. Заместа таго, каб весці далей лінію ўзмацненьня тэатральнай культуры Беларусі, замест таго, каб паклапаціцца аб набыцьці рэпертуару, які быў бы лёгічна зьвязаны з папярэднім шляхам тэатру і адначасова даваў бы поступ наперад. БДАТ1 затаптаўся на месцы паміж „Мяцежам“, „Верацёнамі“ і „Бронецягнікам“. У пагоне за перастарэлымі навінкамі маскоўскіх тэатраў, БДАТ1 адыйшоў ад сваёй сапраўднай і настойнай задачы. Навошта было ставіць „Бронецягнік“? Для завяршэньня шляху тэатру ад нябыўшых у нас „Чаек“, „Синих птиц“ і „Дней Турбиных“? Ці можа яшчэ па якіх вышэйшых меркаваньнях? Прынамсі мы ніяк не можам знайсьці ключ да вырашэньня гэтага цікавага пытаньня. Ня ведаем і якую карысьць можа прынесьці нам гэты малюнак сялянскай барацьбы ў Сібіры».

«Звязда» давала адказ за адказам, Зарэцкага і Дудара пляжылі ледзь не ў кожным нумары. Гартнаму пазванілі з ЦК з недаўменнымі пытаннямі: пралетарскія пісьменнікі з «Полымя» незадаволеныя пралетарскім тэатрам? Беларускія крытыкі выступаюць супраць культуры братняга расейскага народа? Зарэцкага выклікалі на партбю-

ро. Чарота пацягнулі ў ЦК. Дудара, які не быў нават камсамольцам, пакуль проста пясочылі ў друку.

Цяпер толькі стала зразумела, чаму такі ветлівы і лагодны быў Васілевіч тады, на полымаўскім пасяджэнні. Добрая гульня, Іван Антонавіч.

Але не на такоўскіх папалі.

— Што, праўда не будзеце пісаць прызнанне памылак? – дапытліва зазіраючы ў вочы Дудару, пытаецца Маракоў у піўной.

— Дулю ім з маслам на талерцы, а не прызнанне! Бач, забегалі. Масквы баяцца. Заўтра прачытаюць там, дык па галоўцы, пэўна, не пагладзяць. Пляваць яны хацелі на тэатр, на рэспубліку, ім дупы свае папрыкрываць нашым прызнаннем. А во! – Дудар брудна лаецца. – З голым задам няхай чакаюць маскоўскае лазы.

Ён ужо захмялеў і злы вясёлай, адчайнай злосцю.

— Не буду маўчаць, Валька. І на з'езд на ваш на маладнякоўскі пайду.

Маракоў ажно керхае, захлынуўшыся ад нечаканасці.

— Ты?!

— Мы з Зарэцкім і Александровічам пойдзем. Бо прадасцёся ж ВАПП. Покуль мы былі, ВАПП хоць і сунуўся, але ж па носе атрымліваў. Цераз нас яны прайсці не маглі, а цераз Барашку з Броўкам пройдуць. Прададуць Барашачка і Бровачка «Маладняк» ВАПП за так, як мы не абаронім.

— Яны і так прададуць, Шурка, – круціць галавой Маракоў. – Будзе БелАПП, паўстане на рэштках «Маладняка», усім вядома ўжо.

— Не будзе, як упромся. Самі здаём краіну Маскве, Валька, самі, сваімі рукамі. Трэба толькі стаць разам, паказаць, што не пройдзе – і яно не пройдзе. Што, Сталіну патрэбны той БелАПП? Гэта ж усё свае дуркуюць. Кнорын, Сянкевіч, Васілевіч. Русацяпы чортавы. Паглядзі на ўкраінцаў. І мову бароняць сваю, і тэатр. Таксама цісне іх маскаль, але ж меру разумее. І нас правярае: да якой ступені прагінаемся? Нашто прагінацца, Валька? Няўжо Сталін складае рэпертуар нашым тэатрам? Няўжо ён падпіша прыгавор «Маладняку»? Усё самі. Дык трэба стаць сцяной і сваё адстаяць.

— Сцяной... Каб ля сцяны не стаць потым, Шурка... А мне дык усё адно – што «Маладняк», што БелАПП. Усё гэта літары адны.

— Літары яму. Вось таму вас і пацягнуць, як шчанюкоў, у палонку. Літары. Мы за гэтыя літары сябе не шкадавалі, галодныя, халодныя, з дзіркамі ў кішэнях з ранку да вечара дзеля беларускай літаратуры па краіне гойсалі. Літары яму. Вам усё літары. Вам і «Маладняк» – літары, і «Узвышша» вам – літары. Пыха адна і разлік.

— Пакінь, Шурка, што ты ўсхадзіўся! — чырванее ад крыўды Маракоў.

— А што, не памятаю я, як Тодзік Кляшторны ва «Узвышша» падаўся, толькі каб паэму сваю ў іх надрукаваць, якую «Маладняк» развярнуў? Што, ён, можа, падзяляе Бабарэкаву акавіту? Што, можа, разумее яфетычную тэорыю, як разумее яе Дубоўка? Шчэ Жылка мо троху разумее, бо пражскі студэнт.

— А ты чаго тады не там, калі ты такі разумны, што ўсё разумееш? — падпускае кпінаў Маракоў.

— Я не там, бо я ідэйна не там. Бо мне гэта ўсё якраз не літары. Памятаеш, рагаталі аднойчы, як прыдумвалі ТАВІЗ? Га-га-га, ТАВІЗ, таварыства аматараў выпіць і закусіць. А мне і гэта не літары. Я, можа, у ім адным і знаходжуся, і не п’янка гэта ў мяне, а ідэалогія.

Дудар добра памятаў тую гутарку, хоць і выходзілі тады з Валькам з піўной ужо няцвёрда, хістаючыся. І першы, каго яны з Зарэцкім прыпёрлі ў куце падчас з’езда, быў менавіта Маракоў.

Яны і праўда прыйшлі на з’езд, і нават прамаўлялі. Зарэцкі — агульна, дужа скептычна: «Я ўстрымаюся ад віншаванняў у сувязі з увaходам „Маладняка“ ў ВАПП, бо я зусім не ўпэўнены, што гэта прынясе хоць якую карысць беларускай пралетарскай літаратуры». Дудар — канкрэтна, б’ючы пад дых, у сваёй адпрацаванай ужо манеры Тодара Глыбоцкага, выбіраючы з вершаў маскоўскіх ВАППаўцаў усё самае бруднае, самае гнілое, што павінна было адвярнуць маладнякоўцаў ад ВАПП. Але пытанне сапраўды было вырашана: іх дзіця, іх няшчасны, пабіты ўсімі вятрамі «Маладняк» не меў іншага выйсця, як легчы пад ВАПП.

— Хоць бы назвы не аддайце, хлопцы. Хоць бы назву захавайце, хаця б гэтыя літары, — прасілі яны з Зарэцкім, ужо проста прасілі сваіх таварышаў у калідоры паміж пасяджэннямі фракцый.

І сапраўды, усчаліся спрэчкі, і мінскія філійцы сапраўды сталі сцяной за старую назву «Маладняк» у складзе ВАПП, і фракцыя не здолела вынесці ніякага рашэння, пытанне было вынесена на галасаванне ўсяго з’езда, і толькі тут, за кошт дэлегатаў ад партыйных і камсамольскіх арганізацый, ад расейскага ВАПП, была прынята назва БелАПП. Маладнякоўцы агулам галасавалі супраць. Але — чый жа гэта быў з’езд, хлопцы? — засталіся ў меншасці.

І тут жа, адразу пасля галасавання, па радах белым ветразем пабег лісток, гайдаючыся на хвалях нечай роспачы — і нечай перамогі:

Дол капалі яму далакопы даўно,  
Далакопы чужыя, не нашы:

— Вы падмурак для нас, для сяўбы нашай гной,
Для жывёліны нашае паша…
Самі вінны ва ўсім. Ляжа ганьба на нас;
Наша воля, наш розум і сіла
Хай маўчаць і цяпер, ў гэты дзень, ў гэты час
Над глыбокай і свежай магілай.

Шапталіся: «Дудар... Гэта Дудар...» – хуценька перапісвалі, перадавалі далей, пільнуючы толькі, каб не трапіла ў чужыя рукі.

А потым чорна пілі на кватэры Звонака, да самай раніцы, былы «Маладняк» і з імі Зарэцкі, Александровіч, Дудар, Чарот. З тых шасці, што калісь распачыналі «Маладняк» на Камсамольскай, была толькі палова: Бабарэка і Пушча цяпер узвышаўцы, Толька... З Толькам цяпер зусім заблытана. Невядома, як да Звонака патрапіў і зацяты белаппавец Барашка і чамусьці не сыходзіў, хоць ганьбілі яго страшна, бо ён быў першы, хто агітаваў і выступаў за БелАПП, і таму яго нават спрабавалі ўзяць за каўнер ды выкінуць з хаты. Але ён трываў, і паслухмяна слухаў лаянку, і піў разам з усімі, а пад раніцу прасіў прабачэння і нават плакаў.

## ГОРАД. «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

Назаўтра адлёжваліся, а дваццаць дзявятага ўдзень Дудар, ідучы на заняткі, ля самай «Бельгіі», за Чырвоным касцёлам, раптам перадумаў і павярнуў да Александровіча. Андрэй быў дома, што не здзівіла, і ў яго быў Зарэцкі – гэта ўжо было цікавей.

— О, Шурка, цябе чакалі. На лаўца, як той казаў, і звер бяжыць, – пацірае рукі Александровіч.

— Піць не буду. Шчэ за пазаўчора перад Наташай не адмаліўся.

— Ды не, пакуль не гэта, але ты адмольвай, адмольвай, Шурка, вінаваты баец – то не баец.

— Што яшчэ?

— Ды во мяркуем мы з Міхасём: трэба кідаць універсітэт. Гэта не навука, Шурка. Ды сам ведаеш, – цвёрда кажа Андрэй.

— Ну, ведаю. Але дзе лепш? У Маскве? Ці, як Пушча, у Ленінград падасіся?

— Як дзе? А Кіеў? А Харкаў?

— А-а-а... Ну, то іншая справа. Але я не надта хачу ў Кіеў, калі вы мяне з сабой клічаце. Я па рэспубліках не бегаю, мой дом тут, няхай тыя бегаюць, хто тут чужы.

— А ты не пыхці, пачакай крыху. У БДУ вучобы няма, гэта зразумела. Беларускай вучобы — тым больш. Да таго беларусізацыя правалена. Да таго ненармальнае становішча сярод студэнтаў. Я маю на ўвазе «Кузьню асветы».

— «Фрагменты»? Ну так, мярзотны артыкульчык.

— Карацей, тут справа такая, — перабівае Александровіча Зарэцкі. — Мы вырашылі сысці дэманстратыўна, заявіўшы пратэст супраць правалу беларусізацыі і супраць цкавання пісьменнікаў-беларусаў. Складзем ліст, надрукуем у Чарота. Будзе скандал.

— Я з вамі.

Зарэцкі задаволена ківае.

— Тады заўтра збіраемся ў мяне, потым ідзём у рэдакцыю. Покуль падумаем над фармулёўкамі. Ты куды зараз, Шурка?

— Ды якраз ва ўніверсітэт думаў, дык пайду. Пагляджу, натхнюся на фармулёўкі.

Ён паспеў якраз на семінар Барычэўскага і сеў непрывычна блізка, ля самай кафедры.

Барычэўскі апавядаў пра Гейнэ.

Невысокі, з вузкім тварам, з акуратнымі тонкімі рукамі, шляхетна прыгожы, Барычэўскі заўсёды чытаў цікава. Ягоныя лекцыі нагадвалі геніяльныя імправізацыі: натуральна, яны былі добра прадуманы і заснаваны на энцыклапедычных ведах, але кожны раз Барычэўскі не проста распавядаў — думаў, покуль распавядаў. Было бачна, што ён зноў і зноў задае сам сабе нейкія пытанні, напружана шукае на іх адказаў, фармулюе спрэчныя высновы і правярае на слых тое, што ўжо здаецца даказаным. Дудар адчуў нават рэзкі, балючы ўкол шкадавання: такога Барычэўскага ў Кіеве не знойдзеш. Нікога і нічога тут не шкада, а гэтага — шкада. Да таго ж гаварыў ён на такой выкшталцонай, прыгожай беларускай мове, з лёгкім польскім водсветам, ледзь заўважным, хутчэй у сінтаксісе, чым у слоўнікавым складзе, і ў гэтых вуснах, падмацаваная гэтымі скупымі дакладнымі жэстамі, яна чулася такой шляхетнай, якой, папраўдзе, мала дзе яшчэ была.

Немцаў Барычэўскі асабліва любіў, а Гейнэ любіў найбольш, і таму ягоная імправізацыя была асабліва натхнёная. Ён цытаваў нямецкай, спыняўся, паўтараў радок, прыслухоўваўся, як ён адгукаецца рэхам ва аўдыторыі, даваў падрадкоўны пераклад, тлумачыў тое, што заставалася па-за тэкстам, для недасведчанага чытача, і Дудару здавалася, што гэта і ёсць сапраўднае шчасце — высвятляць узаемадачыненні паміж мовамі, паміж радкамі, паміж адным паэтам і сабою, таксама паэтам. Ён не зводзіў з Барычэўскага напружанага погляду і, здаецца, разумеў яго ў кожнай літары, і Барычэўскі гэта адчуваў, і хутка гаварыў толькі яму, і нібыта на ім зараз правяраў самыя важныя

думкі. Невядома, колькі б гэта працягвалася, так яны захапіліся абодва, але час лекцыі скончыўся, студэнты зашумелі, заляпалі дошкі сталоў, і Барычэўскі, суха развітаўшыся, выйшаў з аўдыторыі. Дудар паспяшаўся за ім, але той ішоў хутка, хутчэй, чым звычайна, і Дудар разумеў чаму. А ля суседняй аўдыторыі стаяла Наста.

Ён даўно яе не бачыў. Здаецца, з той зімы, калі яна ўпала ля ўвахода ў корпус і ён, не паспеўшы нават падумаць ні пра што, кінуўся падымаць яе. Ён неяк забыўся быў пра яе, а тут успомніў, і зноў нахлынула на яго ўсё тое, пра што шкадаваў апошнімі днямі: «Маладняк», «Бельгія», уласная маладосць і імпэт, і сходы ў Інбелкульце, і вершы з падаконніка, і Толька, з якім валяліся ў снежных гурбах пад Заходнім мостам, і нават Полацак, і Дубоўка, яшчэ таварыш, яшчэ сябар, і першы з'езд, і шчаслівы рогат у «Бельгіі», і тая пяшчотная ноч, калі да самага світання ён ведаў, што лепшага за яго няма чалавека на зямлі, і тая неспакойная фортачка, якая грукала і грукала, аддаючыся ветру...

З аўдыторыі хлынулі студэнты, на калідоры, як заўсёды, утварыўся натоўп, і Дудар ужо не бачыў ані Насты, ані Барычэўскага, але добра разумеў, што менавіта гэтых дваіх яму будзе адчайна не хапаць, і чамусьці зараз яны ўвасаблялі сабой універсітэт.

Але дарогі назад у яго не было. Ягонае слова моцнае. Назаўтра з самага ранку быў у Зарэцкага.

Наташа не надта здзівілася, калі ён давёў яе да сквера і пацалаваў, развітваючыся: «Сёння на заняткі не іду, любка мая, ідзі сама, мне да Міхася». У іх толькі па пятніцах і супадалі заняткі па часе, у першага і трэцяга курсаў, але ніколі яшчэ не бывала так, каб яны разам правялі пятніцу. «Хоць бы ўвечары мяне забяры, у мяне ўвечары дыямат», – папрасілася Наташа, і ён кіўнуў: «У дацэнта Выдры? То забяру, канешне, як-жа выйсці ад дацэнта Выдры і ісці па горадзе адной? Гэта ж страшна! А дзе ўдзень будзеш?» – «Удзень збіралася ў бібліятэку, дамоў не пайду, з табой пайду». Ніколі немагчыма было зразумець, якой яна будзе сёння – цёплай ці халоднай, пяшчотнай ці строгай. Сёння была пяшчотная мо ў падзяку за тое, што і ён уночы кахаў яе, знемагаючы ад пяшчоты. Што ж такое была гэтая Наташа? Не любіла яна яго так, як яму хацелася б, але ж як добра было яму з ёй. Ідучы да Зарэцкага, усё дзівіўся сабе і Наташы дзівіўся. Тады, як толькі распачалася гэтая доўгая гісторыя, ёй было сямнаццаць і яна па-дзіцячы ганарылася сваёй уладай над дарослым дваццацігадовым хлопцам, якога яе зайздросныя сяброўкі бачылі ўжо і на сцэне, і ў газеце. Потым, пэўна, напакутавалася яна: і ад таго, што не атрымлівалася, як у рамантычных кніжках, і ад таго, што не атрымлівалася, як у дзявочых летуценнях, і ад таго, што надта цяжкое для разумення

вёў ён жыццё і не хацеў змяняцца. І яна ўсё старалася адбіцца, адысці, адарвацца, але ж вярталася, выбачала, даравала і зноў апыналася побач. Чаму? Яна, пэўна, не любіла яго. Яе не цікавіла ягонае жыццё, яна не хацела ведаць ягоных думак, яна не чытала ягоных вершаў і ягоных артыкулаў, яна не пыталася пра ягонае дзяцінства ці падзеі сённяшняга дня, яна не казала тых абавязковых словаў, якія кажуць закаханыя дзяўчаты, не пыталася пра каханне, але яна згадзілася быць ягонай жонкай, захавала сябе для яго і цяпер вучылася новаму жыццю з ім, а не з кімсьці іншым. Усё, што ён разумеў і не разумеў пра сябе і Наташу, хвалявала яго, як хвалюе ўжо зусім адчуты, але не напісаны пакуль яшчэ, застыглы салодкім напружаннем у горле верш. І яшчэ было адно. Ён дамогся яе: як пастанавіў тады, узімку нованароджанага дваццаць шостага, ля чужой брамы пад сярэбраным мёрзлым веццем — так і здзейсніў. І гэта было ці не самае галоўнае.

Да Зарэцкага прыйшоў зусім размякчэлы — якраз палітычныя лісты пісаць.

Але хлопцы былі ўзвінчаныя, у баявым настроі, і ён хутка таксама прыйшоў у гэты звычайны для сябе настрой, з якім біўся ў тэатральнай дыскусіі, бараніў «Маладняк», з якім наогул рабіў усё значнае ў сваім жыцці.

Сядзелі доўга, бо ўсё разумелі: і тое, што распачнецца пасля ліста, і тое, што трэба будзе адказваць за кожную літару.

«Паважаны рэдактар!

Дазвольце праз Вашу газету давесці да ведама савецкай грамадскасці наступнае:

З нейкага часу ў сценах Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пачалося ўпартае цкаванне беларускіх пісьменнікаў-студэнтаў. Найбольш яскрава гэта кампанія выявілася ў заметцы, змешчанай у № 1 насценгазеты педфака „Кузня асветы“ пад назвай „Фрагменты из жизни 2-го курса литературного отделения“. У гэтай заметцы, прасякнутай тупым мяшчанска-зайздрослівым асцервяненнем, відаць выразны намер скампраметаваць беларускага пісьменніка, узвёўшы на яго самыя бязглуздыя, самыя дзікія абвінавачванні.

Беларускіх пісьменнікаў абвінавачваюць у групавой „замкнутости“, быццам не разумеючы таго, што з першых дзён паступлення ва ўніверсітэт ніводзін студэнт не можа быць аднакава дружным як з тымі, з якімі ён некалькі год працаваў, так і з тымі, якіх ён першы раз бачыць у вочы.

Беларускіх пісьменнікаў абвінавачваюць у „белорусском шовинизме“, не маючы на гэта абсалютна ніякіх падстаў, калі не лічыць таго, што гэтыя пісьменнікі, не ў прыклад іншым, усюды і заўсёды гавораць па-беларуску.

Беларускіх пісьменнікаў абвінавачваюць у тым, што яны чыста апранаюцца, носяць гальштукі, каўнерыкі, капелюшы, акуляры (які злачынны „шык“!), маюць на галаве валасы і ў кішэні насавыя хусцінкі.

Беларускіх пісьменнікаў абліваюць памыямі самай бруднай хуліганскай лаянкі, абзываюць „животными“, раўняючы з „собаками“ і ўжываючы іншыя непрыстойныя ў сценах універсітэта прыёмы.

Гэты шалёны паход раз’юшанай дробнабуржуазнай стыхіі не сустрэў аніякага адпору з боку студэнцкіх грамадскіх арганізацый, а рэдакцыя газеты ў сваёй прыпісцы нават салідарызавалася з гэтай пісулькай і працягнула „кампанію“ ў чарговым нумары газеты. Дзякуючы гэтаму, шкодныя мяшчанскія настроі распаўсюдзіліся як па ўніверсітэту, так і за яго сценамі, зрабіўшы імёны беларускіх пісьменнікаў прадметам зласцівых насмешак і плётак. Усё гэта зрабіла немагчымым для беларускага пісьменніка аставацца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і прымусіла нас з болем у сэрцы пакінуць яго і шукаць магчымасці пашырэння сваёй асветы ў іншых навучальных установах Савецкага Саюза.

Андрэй Александровіч<br>Алесь Дудар<br>Міхась Зарэцкі»

«З болем у сэрцы» — гэта Дудар дадаў ад сябе. Яму ўсё ж хацелася занатаваць у лісце ўчарашні дзень, не сказаўшыся хлопцам. Але яны былі не супраць.

Скончыўшы, накінулі паліто і адправіліся да Чарота. Той быў на месцы — хмуры, цвярозы, нейкі разгублены.

— Здароў, Міхась, — будзёна, зусім звычайна працягнуў руку Александровіч, але Чарот, адказаўшы на поціск, запытальна паглядзеў на хлопцаў. Кожнага ведаў амаль як сябе. З’явіліся не так проста.

— Слухай, Міхась, мы нічога і ніколі не прасілі ад цябе, і ніколі нічога не патрабавалі, — пачынае Дудар.

Брыво Чарота павольна паўзе ўверх.

— Заўсёды слухалі цябе як старэйшага таварыша, ва ўсім радзіліся і падтрымлівалі, што б ты ні рабіў.

Чарот падымаецца з крэсла, закладвае рукі ў кішэні і ў нямым здзіўленні, але ўжо і з нейкім сарказмам глядзіць на Дудара.

— Зрабі нам, Міхась, таварыскую паслугу адзін толькі раз у жыцці, — і з гэтымі словамі, вытрымліваючы позірк Чарота, Дудар працягвае яму ліст.

Той няспешна дастае рукі з кішэняў, бярэ ліст, садзіцца. Чытае. Твар ягоны становіцца сур’ёзным, і ён доўга маўчыць.

— Можа… Я думаю, можа… Можа, не варта гэтага рабіць, хлопцы? Будзе вялікі скандал.

Тады накідваюцца на яго ўтрох, не даючы нават гаварыць. Пераконваюць разам: горача і цвёрда — Дудар, шматслоўна, узвышаючы голас — Александровіч, ціха, па-сяброўску — Зарэцкі. Нарэшце Чарот выклікае сакратара.

— Паслаць у друкарню — у заўтрашні нумар. Няхай там пасунуць крыху на трэцяй паласе што.

Той хутка ківае і знікае. Чаротавых загадаў слухаюцца без лішніх словаў.

— Ну, усё? — запытальна глядзіць Чарот. — Можаце ісці цяпер.

— Не, Міхась, мы тут пабудзем. Давай якіх папер разбяром табе. Лісты давай, вершы з вёскі, што яшчэ? Нарысаў давай на паслязаўтра насыпем, яшчэ на аўторак хопіць.

Чарот хваравіта моршчыцца, з тугой паглядае на тэлефон. Ён у тую ж хвіліну пашкадаваў, што аддаў ліст у друкарню. Яшчэ не позна спыніць. Бо пачнецца заўтра ж і бог ведае чым скончыцца, мо і пагоняць яго нарэшце.

— Хлопцы, мне трэба пазваніць, ідзіце пасядзіце ў аддзеле.

— Не, Міхась, мы не пойдзем, — ціха і цвёрда кажа Зарэцкі, і Чарот зноў моршчыцца, як у несмач.

Яны ходзяць за ім назіркам да самага абеду, да таго часу, пакуль прыходзіць Прышчэпаў і, прачытаўшы ліст, цалкам ухваляе яго.

— Але ж, хлопцы, рэзкавата ўсё ж. Каб не было бяды.

Чарот пры гэтых словах пачынае шэптам лаяцца і махае з прыкрасцю рукой.

Заходзіць яшчэ Алесь Адамовіч, ліст паказваюць і яму, і ў Алеся Фаміча загараюцца вочы злым задаволеным агнём. Зараз, сабраўшыся разам, вырашаюць ісці да Дудара на Правадную — з тым разлікам, што ў радыусе некалькіх кіламетраў вакол Праваднай няма ніякага тэлефона. Рушаць грамадой, і Чарот разам з усімі, і недзе на пачатку Маскоўскай усе раптоўна адчуваюць дурную нейкую, зусім маладую весялосць. Нават Адамовіч смяецца ўголас над жартамі Александровіча, нават Чарот пачынае пасміхацца, і Прышчэпаў паглядае на спадарожнікаў расчуленым, амаль улюбёным поглядам. На Маскоўскай тлум і грукат, кладуць трамвайныя рэйкі, спяшаюцца да маразоў, потым рабочыя сыходзяць на бакавіну, каб даць праход концы, і тая цягнецца ўверх пад Заходні мост і ў горад, туды, дзе ўжо круціцца на каруселі лінатыпа «ліст трох».

# ГОРАД. ПЕДФАК

І назаўтра пасля выхаду «ліста трох» грымнуў той самы скандал, у якім ніхто не сумняваўся.

Атрымалася нават гучней, чым планавалі, бо ліст адразу ж перадрукавала Вільня, а потым і ўся польская прэса пад адпаведнымі, натуральна, загалоўкамі, і стала зразумела, што справа закруцілася не на жарт.

Праз некалькі дзён, пасярод агульных сходаў факультэта з асуджэннем ліста, пасярод новых выпускаў «Кузні асветы», бясконцага злога шуму ў калідорах, усплёскаў дыскусій на лекцыях, праз некалькі дзён у кабінеце Піятуховіча, а потым і ў Пічэты з'явіліся спакойныя людзі, якія садзіліся за сталы і прасілі прынесці дакументы. Гэтыя ж людзі выклікалі паасобных студэнтаў у кабінет дэкана і там размаўлялі, ціха, спакойна, ветліва, але пра што — ніхто з выкліканых не распавядаў. То вялося партыйнае расследаванне, бо з падпісантаў ліста адзін быў камуністам, а другі — кандыдатам у партыю. Адзіны, хто, здаецца, не падпадаў пад кампетэнцыю партыйнага расследавання, быў не камуніст і нават не камсамолец Дудар, але і да ягонай асобы была праяўлена самая пільная ўвага.

— Дык з чаго пачалося, дзяўчаты? — пыталася ўвечары ў інтэрнаце Настава аднакурсніца. — Няўжо яны такое вытварылі толькі з-за насценгазеты?

— Якая насценгазета?.. То ўсё Шукайла закруціў адпачатку.

— А Шукайла ўжо пры чым?

— Ну як пры чым? Хіба ты не памятаеш, як ён увесь курс падзяліў на дзве часткі — разумныя і неразумныя, набраў да сябе ў «разумныя» адных паэтаў і з дзяўчат самых прыгажунь, сказаў, што «будзе складаць з іх букеты», і забараніў астатнім хадзіць з імі на семінары?

— О-о-о-о-о… Які козыр, ты пабач… Шчэ аплявухі не дастаў той Шукайла?

— Дык яму ж, здаецца, і хацелі Снадскі з Іофэ падсвяціць, але пабач, як выйшла: пацэлілі ў Шукайлу, а трапілі ў Дудара…

— Ой, дзяўчаты, ён жа так падабаўся мне, такі прыгожы, такі шляхетны хлопец, ды казалі, можна падысці да яго, ніколі шчэ дзяўчатам не адмаўляў, я з ім да Свіслачы прайшлася б…

— Зараз да іх усіх хіба з перадачамі на Валадарскага хадзіць будуць…

— Язык прыкусі, шчэ сурочыш, дурная…

— Дык а што, Снадскі з Іофэ ці не правыя? Паглядзі ж на пісьменнікаў гэтых, на Глебку нашага хоць бы паглядзі. Фацэт які. З якіх

грошай яны такія модныя? Такога палітона нават у майго швагра няма, а ён у Саўнаркаме вадзіцелем...

— А мне дык Зарэцкі падабаецца, як пабачу дзе – голасу ажно няма... Я ўсе раманы ягоныя перачытала, усе апавяданні, усё-усё, хачу падысці, але ж ён такі...

— Яны жанатыя абодва...

— Дык а з Шукайлам што?

«— А што такому зробіцца... А заўтра сход, і трэба будзе, каб нехта сказаў, будзе ж абмеркаванне, і іх запрасілі, дык, пэўне, будуць біць.

»— Так яны і даліся...

— А што ты супраць сходу зробіш? А будзе так усё, як ячэйка скажа, а ўсе маўчаць будуць...

Пра гэта гавораць і ў Омскім завулку. Наста сама пацягнула Лазара да Кульбакаў, бо зусім не магла сядзець у кватэры з мужам і неадступна думаць пра тое, як маецца зараз Дудар.

— Але ж, Лазар, калі б такое надрукавалі віленскія студэнты ў віленскай газеце, гэта толькі дзень пашумелі б. А ў берлінскай нават не заўважылі б. Нашто раздзьмуваецца такі скандал? – дзівіўся Кульбак. – Я не разумею гэтага вашага звычаю.

— Сацыялістычнае будаўніцтва, Мошэ. Нельга даваць ворагу падымаць галаву.

— Дык якія ж яны ворагі? Яны, здаецца, якраз за сацыялістычнае будаўніцтва: беларусізацыя, этыкет, здаровы сэнс.

— Але нібыта гэта і так ёсць – беларусізацыя, этыкет, здаровы сэнс, а яны сцвярджаюць, што няма.

Кульбак пачынае пасмейвацца.

— Дык, здаецца, гэтага чым болей, тым лепш. Ці не так, Лазар?

— Шчэ не перакаваўся ты, Мошэ, шчэ разважаеш буржуазнымі катэгорыямі. Тут усё проста ў нас. Ёсць лінія – па ёй ідзі. Як саступіў – вораг. Памылка, ухілы, разгром.

Кульбак, раптоўна засумаваўшы, прыхлёбвае гарбату.

— Дык у вас тут цырк... Канатаходцы... Дрэсіраваныя паэты скачуць праз вогненнае кола...

— Мошэ, не драматызуй. Ну, адхвастаюць хлопцаў, напішуць яны прызнанне памылак, надрукуюць у той самай газеце і будуць сабе далей жыць. Не першы раз.

Кульбак доўга маўчыць, і на ягоным твары бачны ход ягонай думкі: як паўзе ўверх брыво, скептычна крывяцца вусны, прымружваюцца вочы, якія ён падымае ўгару...

— Не думаю, Лазар, каб я разумеў такую манеру выхавання беларускіх пісьменнікаў.

Дзяўчаты маўчаць: Жэня ціхенька калыша малога Эльку, які заснуў пад гудзенне нізкага бацькоўскага голасу, Наста круціць у руках абгортку ад шакаладнай, віленскай яшчэ цукеркі, якую дастала для дарагіх гасцей з нейкіх патаемных сховаў сяброўка. Яна ўжо склала яе напалову, і яшчэ напалову, і яшчэ напалову, і яшчэ, і абгортка ператварылася ў маленькае вострае залатое лязо, адпаліраванае нервовымі пальцамі, зараз Наста раскладае яе назад, а потым зноў, і няма ніякага супакою гэтым пальцам і гэтай абгортцы.

Пра гэта гавораць на кватэры Александровіча: тут Зарэцкі, Прышчэпаў, Ільючонак, пазней падыходзіць Адамовіч.

— А як узнерваваліся, ты пабач. Асьмоў ажно са скуры лезе, уся «Звязда» супраць вас працуе, гэта ж ведама, чакаюць, каб прачыталі і ў Маскве, — працягваючы кілішак, каментуе Ільючонак.

— «Звязда» — тое ладна, каб камісія, працуючы, не перапрацоўвала, — задуменна кажа Адамовіч.

— Дык вы мо, Алесь Фаміч, паспрыяеце? Каб не перапрацоўвала? — пытаецца Александровіч без усмешкі.

— Па мне і па самім хутка камісія запрацуе, Андрэй. Апошнія дзянькі ў аддзеле. Думаецца мне так. Адчуваецца. Але дзе змагу — паспрабую. Што ў цябе чуваць, Зарэцкі?

— На бюро выклікаюць. Каб білет не прыйшлося пакласці.

— І што, пакладзеш?

— Не яны мне яго давалі, каб я перад імі яго паклаў. Паглядзім яшчэ.

— Тут жа вам з Шуркам і вашыя выступы пра тэатр адгукнуцца, браце, — ківае галавой Прышчэпаў. — Зусім дрэнныя справы. А шчэ верш гэты, што Шурка ўвесну чытаў быў, пра Грамаду. Чуў, быццам ён ужо лёг на стол да Піляра. Мо цішэй трэба было, хлопцы?..

— Куды ўжо цішэй? — узрываецца Зарэцкі. — Я таксама ў гэтай краіне жыву, я тут нарадзіўся, я за яе Грамадзянскую пратопаў, я будую яе сваімі рукамі. Чаму я павінен сядзець ціха, а ўсялякія Сянкевічы і Васілевічы будуць гарлаць на ўсю Савецкую?! Калі я бачу, што справы ідуць дрэнна, хіба я павінен маўчаць? Чаму ім можна крытыкаваць, а мне няможна? Я пісьменнік. Мая справа — казаць, як і што я бачу.

Прышчэпаў усё ківае галавой і маўчыць. Пра гэта гавораць і на Правадной.

— Чаму ты не сказаў мне, Шурка? — строга пытаецца Наташа.

— Дзевачка мая, не будзем давай. Не хвалюйся, усё будзе добра.

— Я не разумею проста, нашто вы гэта ўсё ўчынілі, скажы мне. Ты збіраешся пакінуць універсітэт?

— Я пакінуў яго ўжо.

— А я?

— А ты — не. Наташа, гэта нашы мужчынскія справы, і я не хацеў бы цябе туды ўмазваць. Лепей не пытайся. На жыццё нам я зараблю, клопату галава.

— Ты такі наравісты.

— Заўсёды такі быў.

Наташа маўчыць.

— Што маўчыш, залатая мая? — садзіцца побач з ёю на ложак Шурка. — Мо ты мяне за тое і кахаеш? Кахаеш, Наташа, скажы? — і ён кранае рукой залатыя яе валасы. — А памятаеш, якая каса ў цябе была?.. Як расплятаў яе на беразе... Распляту, а яна зіхаціць ажно золатам, нібы сонейка спусцілася да мяне... Нашто абрэзала ты касу сваю, Наташа?.. Ці кахаеш ты мяне?

Замест адказу яна кладзе галаву яму на калені і падцягвае свае калені да грудзей, скруціўшыся, як малое дзіця. І ён гладзіць і гладзіць яе па валасах і ціха-ціха спявае, нібы ля калыскі:

Зялёны дубочак,
Шырокі лісточак,
Куды вецер вее,
Туды голля гнуцца…
Куды вецер вее,
Туды голля гнуцца…

— Чаму ты не пяяў раней, Шурка? Ты добра пяеш. Я не чула ніколі раней.

— Што ты ведаеш пра мяне, Наташа? Я так даўно з табою, я ўсё ведаю пра цябе, а ты?

— А я — не...

— Мо ты і не кахаеш мяне, дзевачка мая?

— Спявай яшчэ...

І ён спявае тую даўнюю-даўнюю песню, якую спявалі калісь у Галубка, і ён быў зусім малады, і была Надзейка, прыгожая актрыса, многа старэйшая за яго, але гнуткая, тонкая, зусім маладая целам, і ён закахаўся так, што сэрца гарэла агнём, бы салома, а яна смяялася і ўдзень, калі ён не зводзіў з яе вачэй, і ўночы, калі дазваляла яму ўсё, акрамя толькі пацалункаў у вусны, і калі пасярод спектакля хор распачынаў «Зялёны дубочак», ён выпяваў словы гэтай песні праз перахопленае сутаргай горла:

Сягоння субота,
А заўтра нядзеля.
Чаму ў цябе, хлопча,

Кашуля не бела?
Як жа будзе бела,
Хоць заўтра нядзеля,
Мамка ў мяне стара,
Сястра ў мяне мала.
Мамка ў мяне стара,
Сястра ў мяне мала.
Дзяўчына кахала —
Любіць перастала.

Ён і праўда зусім заняпаў ад гэтай песні, якая раптоўна прыйшла на памяць, якая супадала з ім у кожным слове, і ўжо не спяваў — шаптаў толькі, і навалілася раптам халодная роспач, і шкадаванне да сябе, да свайго жыцця. І Наташа адчула гэтую роспач і адгукнулася, і пашкадавала, і ўзяла ягоную руку ў свае далонькі, і прыціснулася вуснамі.

І ўжо потым, у начной цемры, у бессані, побач з ціхім дыханнем шчаслівай і стомленай Наташы, бязгучна дапяваў ён:

Пераплыву рэчку,
Сяду на брусочку.
Ці не прыйдзе міла
Памыць мне сарочку?

Ён усё ж закончыцца, гэты доўгі і цёмны месяц, гэтая доўгая, невыносная пакута гутарак у ЦК, гэтыя пытанні і адказы, тлумачэнні і допісы, гэты павольны, але несупынны ціск адусюль: з універсітэта, з газет, з кабінетаў, дома, ад сяброў, падпішы, прызнай, надрукуй, скарыся, ты памыліўся, у цябе наперадзе будучыня, ты ламаеш жыццё, ты яшчэ малады, нічога не бачыў. Падпішы — і мы забудзем, на табе столькі ўсяго ўжо вісіць, прызнай — і будзеш жыць спакойна далей, будзеш вучыцца. Падумай, матка твая жыве за твае заробкі, бацька ўжо знямоглы, як не прызнаеш, хто будзе іх карміць? Мы закрыем для цябе ўвесь друк! Ты здаваў у друкарню зборнік? Дык ён яшчэ не на машыне і невядома, ці пойдзе. Прызнай — і ўсё будзе, як раней. А ці разумееце вы, таварыш Дайлідовіч, што выступ ваш на руку толькі нашым ворагам, але ніяк не партыі, якая заўсёды гатовая слухаць вас, прыслухоўвацца, але тады толькі, калі вы гутарыце з намі, а не разводзіце крык на старонках цэнтральнай прэсы. Шурка, у мяне будуць праблемы, Гартны сказаў: не зможа плаціць стыпендыі. А калі мяне адлічаць? Я баюся. Прызнай, сынок! Што парабілася, што вы там усчалі такое? Хоць бы тут ты давучыўся, у цябе сястра, у яе будуць праблемы, сынок, ты заўсёды ўпарціўся, але тут нельга ўжо. Пашкадуй матку старую, бацьку пашкадуй, прызнай, сынок, у цябе жонка, ёй трэба дзетак нараджаць, а ты ўсё мітынгуеш, трэба падпісаць, сынок…

Першым здаўся Александровіч. Яму перакрылі дарогу ў партыю, а павінен жа быў уступаць гэтымі тыднямі, як канчаўся кандыдацкі тэрмін. Няма партбілета – нічога няма. Бывайце, мары аб годным, утульным жыцці, але як вярнуцца на нішчымную Пярэспу ў гнілы, трухлявы бацькоўскі дом? Адразу за ім здаўся і Зарэцкі: яго выключылі з партыі, але паабяцалі аднаўленне за прызнанне памылак у «лісце трох».

Яны прынеслі да Чарота свой ліст з пакаяннем у сераду, 2 студзеня 1929 года.

Чарот сустрэў іх суха, па-дзелавому. Усе ведалі, натуральна, што і яго папацягалі па камісіях і гутарках у ЦК, быў нават званок з Масквы – менавіта датычна Чарота, паўстала пытанне, каб вызваліць таварыша Кудзельку ад выканання рэдактарскіх абавязкаў. Ведалі таксама, што на запытанне камісіі: «Чаму вы не ўзгаднілі друкаванне ліста з ЦК?» – Чарот адказаў: «Бо я ведаў, што не дазволяць, а я хацеў, каб ліст пайшоў у друк, і лічыў яго з'яўленне правільным». Таму зараз Зарэцкі паглядзеў Чароту наўпрост ў вочы з удзячнасцю і паразуменнем, і Чарот нечакана на імгненне змякчыўся і адказаў яму гэткім самым позіркам – даўно, даўно такіх позіркаў паміж імі не было. Александровіч стаяў воддаль – ён сапраўды страшэнна каяўся ўжо ў тым злашчасным лісце.

– Двое толькі? – запытаўся Чарот, і Зарэцкі кіўнуў і зноў паглядзеў Чароту ў вочы, і той зноў адказаў адным толькі позіркам, у якім былі і ўсмешка, і шкадаванне.

– Дудар толькі топіць усіх сваёй пазіцыяй. Упёрся рогам. Яму што, як з гусі вада, – раптоўна кажа Александровіч нейкім не сваім, тонкім і візглівым голасам.

– А што табе Дудар? Ты свае памылкі прызнаў. Ты за Дудара не адказваеш, – спакойна спыняе яго Чарот. – Давайце без істэрыкі. Робім тое, што трэба.

Ён выклікае сакратара, і той, як і тады, без лішніх словаў прымае ўказанне неадкладна паслаць ліст дваіх у друкарню.

«Паважаны тав. рэдактар! Ліст у № 278 газеты „Савецкая Беларусь“, пішучы які мы хацелі толькі паставіць пытаньне аб недапусьцімых выпадах супроць нас у насьценгазеце БДУ, як зараз мы бачым аб'ектыўна супроць нашай волі скарыстоўваецца нашымі класавымі ворагамі. Таму мы лічым сваёй памылкай апублікаваньне гэтага лісту ў друку, а таксама і нашу заяву аб выхадзе з Унівэрсітэту, замест таго каб у сьценах яго разам з партыйнымі і студэнцкімі арганізацыямі весьці барацьбу супроць некаторых ненармальных зьявішч у жыцьці Унівэрсітэту. Мы заўсёды лічылі і лічым, што лінія Камуністычнай партыі і савецкай улады ў нацыянальным

пытанні і практыка яе правядзеньня зьяўляецца адзіна правільнай. Мы лічым, што правільная бальшавісцкая лінія партыі знаходзіць свой поўны адбітак у жыцьці ўніверсітэту, у якім, не гледзячы на паасобныя недахопы, яскрава праводзіцца беларусізацыя. 3-1-1929. Андрэй Александровіч. Міхась Зарэцкі».

А назаўтра, калі газетчыкі ўжо бягуць па вуліцах з пакаяннай «Савецкай Беларуссю», у рэдакцыю прыходзіць Сянкевіч і прыносіць Чароту яшчэ адзін ліст.

Ён напісаны чырвоным чарнілам на акуратным, напалову разрэзаным аркушы, і Чарот добра ведае гэты почырк — круглы, цвёрды, вельмі чытэльны, і нават мяккі знак, які звычайна ў Шуркі выглядае як «т», на гэты раз прапісаны дакладна, нібыта надрукаваны, асобна ад астатніх літар. У адным месцы пяро нават ірванула паперу — і літара свеціцца чырвоным наскрозь.

«Паважаны тав. рэдактар! Прашу змясціць у вашай газеце наступнае: у лісце, пададзеным мною на старонках вашай газеты („Сав. Беларусь“, № 278), супольна з тт. Александровічам і Зарэцкім, меў на ўвазе толькі падкрэсліць некаторыя ненармальнасці жыцця БДУ, якія найбольш адбіліся ў заметцы „Фрагменты“ ў насценгазеце педфаку „Кузьня Асьветы“. Я цалкам далучаюся да заявы тт. Александровіча і Зарэцкага і лічу, што дапусьціў памылку, дэманстрацыйна пакідаючы БДУ, замест таго каб у яго сьценах змагацца з усімі ненармальнасьцямі разам з студэнцкаю грамадскасцю. Я заўсёды лічыў і лічу, што нацыянальная палітыка Камуністычнай партыі з’яўляецца адзінай правільнай і жыцьцёвай, што яскрава адбілася ў значных дасягненьнях беларусізацыі ў нашым універсітэце. 4-1-1929. А. Дудар».

Сянкевіч садзіцца насупраць Чарота і доўга, пранізліва глядзіць на яго.

— Ажно ўпацеў, далібог, покуль выкалаціў з яго гэты ліст, — нечакана па-чалавечы, зусім па-хатняму скардзіцца ён рэдактару. — І ўсё, гад, спрабаваў выслізнуць, неяк па-свойму напісаць, падпусціць свайго. Дык стаў над ім і дыктаваў. Такое зло брала, як быў бы які пісталет з сабой — не стрымаўся б, кажу табе. Во ўжо дзе баран. Даскачацца ён, даўпіраецца. Надта цікавяцца ім таварышы з вуліцы Урыцкага.

Чарот адкідваецца на спінку крэсла і таксама па-хатняму, пачалавечы зусім адказвае Сянкевічу:

— Стаміўся нешта я ад усяго гэтага, таварыш Сянкевіч. Дома ў мяне блага. Тут мне блага. Жыццё пайшло не туды.

Сянкевіч пасміхаецца.

— На тое партыя ў цябе ё, таварыш Кудзелька, каб дапамагчы вярнуцца туды, куды трэба. Прыходзь, прыводзь жонку сваю, яе

сябрука прыводзь, ён таксама добра нам знаёмы. Калектыў дапаможа. Ты з якога года камуніст?

Чарот цяжка ўздыхае.

— З дваццатага.

— А я, лічы, з дзевяцьсот пятага ў партыі.

Ён падымаецца і таксама цяжка ўздыхае.

— Ніхто не абяцаў нам з табою, таварыш Кудзелька, што ўсё гэта будзе проста.

І выходзіць, і доўга яшчэ чуе сумны Чарот ягоныя цвёрдыя, цяжкія і гулкія крокі на калідоры.

## ГОРАД. САКАВІК. ПАВОДКА

З сярэдзіны сакавіка пачало хутка цяплець. Яшчэ ўночы мог ударыць мароз, але ўдзень бязлітаснае сонца паліла і паліла белыя гурбы наздраватага ўжо снегу, серабрыстыя ледзяшы і шэры свіслацкі лёд. Чмякала і рыпела пад нагамі зіма, павісквала пад коламі, шчыпала зранку за шчокі, але ўжо дыхала на поўныя грудзі Свіслач, і з трэскам рваліся па начах гузікі і матузкі яе ледзянога гарсэта.

Удзень між гарадскіх муроў было нават спякотна. Снег на вуліцах і ў дварах Савецкай, Камсамольскай і Урыцкага сплыў імгненна і пабег ручаямі ўніз у Свіслач, і рэчка ўспухала, таўсцела над шэрым, неахайным ужо лёдам, і хваляваліся няпэўныя яе берагі.

Пад Нямізскай вуліцай, у цемры бетоннага калектара, хутка і несупынна расла Няміга: кволы ручай абярнуўся магутнай ракой, раззлаванай сваім злачынным увязненнем, і рака тая плявалася ў бетонныя сцены, грукала ў столь, мацала швы калектара і з ровам імчала да маці сваёй Свіслачы.

А там, наверсе, на вуліцах награваўся навюткі чорны асфальт, пыхалі сонечным жарам каменныя сцены, блішчэлі вітрыны, і хацелася скідаць паліто.

На Савецкай адкрыўся Дом пісьменніка — увесь шэсцьдзесят восьмы дом аддалі цяпер на патрэбы пралетарскай літаратуры. Шэра-зялёная двухпавярховая будыніна з балкончыкам на рагу Савецкай і Камсамольскай, заўважная звонку і нечакана маленькая знутры. Мо яна і не была маленькай, але ад таго, што ў ёй ад самага пачатку бясконца таўкліся людзі, падавалася яна цеснай. З гарачай веснавой вуліцы за некалькі даўгіх каменных прыступак трапляеш у цемнаватае, прахалоднае фае і адтуль — у невялікі пакой насуп-

рацьзалы для пасяджэнняў, дзе стаяць некалькі цыратовых, крыху падраных папярэднімі гаспадарамі канапак, круглы стол, на якім заўсёды ўперамешку ляжаць газеты і часопісы, і два шахматныя столікі з купкай крэслаў ля іх.

На адной з канапак цесна ўселася моладзь: Валька Маракоў, Бобрык, Туміловіч, Казак. Валька наогул, здаецца, тут жыве: як прыходзіць з самай раніцы са свайго Козырава, няблізкі свет, так і боўтаецца да самай ночы, бо хадзіць туды-сюды — ногі саб'еш, кіламетраў дзесяць, пэўна, да дому. На білцы канапкі побач з хлопцамі прымасціўся Тодзік Кляшторны, ягоная русая чупрына звесілася на лоб, пінжак, нейкі асабліва вялікі, з чужога, здаецца, пляча, лёг буйнымі складкамі, задрапіраваўшы ягоную спіну, на нагах у Тодзіка — ядавітага жоўтага колеру лыжныя чаравікі. Тодзік, задуменны, зусім летуценны, глядзіць у столь і гойдае нагой, і жоўты чаравік сноўдае туды-сюды, бы хістальнік. «Што ты робіш, Тодзік?» — пытаецца Валька, якому крыху абрыдла тое хістанне, ад якога хістаецца і канапка. «Вершы думаю», — адказвае Тодзік.

За шахматным столікам прысеў Бядуля. Ён рэдка выбіраецца сюды, але калі выбіраецца, заўсёды садзіцца за шахматны столік, хоць ніхто і не бачыў ніколі, каб ён гуляў. Да яго падсаджваюцца пагаманіць. Іншы раз падыдзе Чорны, задасць якое пытанне на пачатак гутаркі і слухае, слухае, як павольна, падрабязна, з адхіленнямі і сюжэтнымі загагулінамі, распавядае Бядуля: учора Марыя Ісакаўна збіралася варыць фасолевы супчык, і паглядзела ў трохкутнічку, на другой паліцы, бо на першай у нас стаяць кубачкі і кілішкі, хоць добрых гасцей, Кузьма, у нас ужо гадоў дваццаць не было. Дык вось паглядзела яна, а фасолі няма, і тады яна сабралася, а ты ж ведаеш, Кузьма, як збіраецца Марыя Ісакаўна на кірмаш, гэта раман, Кузьма, амаль што мадам Бавары. Дык вось пайшла яна ў пакой, у якім стаіць у нас шафа, а шафа тая, скажу табе, браце, шчэ з Ігумена везеная... — і гудзе, гудзе Бядуля, як сакавіцкі чмель у купцы прымулаў, а Чорны ківае галавой у такт ягонаму гудзенню і жмурыцца ажно ад задавальнення.

З гоманам, які раз-пораз узрываецца смехам, увальваюцца ў дзверы Глебка, Лужанін, Броўка, Трус і Мікола Хведаровіч. Паўлюк толькі-толькі вярнуўся з Гомеля, дзе цэлы год адбываў самастойна накладзеную на сябе схіму — «вывучаў народ», як кажа ён сам. Чорны смяецца, што гэта не Паўлюк вывучаў народ, а народ вывучаў свайго Паўлюка: апынуўшыся за трыста кіламетраў ад Менска, Трус жахнуўся зрусіфікаванай акругай і цэлы год чытаў даклады пра беларускую культуру па Гомельшчыне. Ён пасталеў, і дзіцячая прыпухласць ягоных шчок саступіла месца суровым, нават нейкім жорсткім

абрысам ужо не хлапечага – мужчынскага твару. Паўлюк жыве цяпер разам з Хведаровічам у маленечкім пакойчыку барака ў Шпітальным завулку, акуратна ходзіць на лекцыі ва ўніверсітэт і зусім не п’е.

Затое Глебка з Лужаніным ужо недзе памачылі дзюбы – абодва ў прыўзнятым настроі. У пакоі яны не затрымліваюцца: паручкаўшыся з кожным, знікаюць на цёмнай лесвіцы, якая вядзе ў сутарэнне – там, у сталоўцы, можна прытуліцца за столікам у кутку і працягнуць распачатую ў горадзе гутарку. Праз колькі хвілінаў на той жа лесвіцы знікне і насельніцтва цыратовай канапкі – за столікам у кутку месца звычайна хапае ўсім.

Але канапка не пустуе: зараз побач з ёю распранаецца Купала. Ля яго стаяць ужо Чорны з Бядулем – павітацца, перакінуцца слоўцам. Купала, вядома ж, таксама спусціцца зараз у сутарэнне, і цесна ссунутыя крэслы за столікам у куце з грукатам і шоргатам рассунуцца, каб даць яму месца. Прыйшоў Купала, значыцца, моладзь кіне свае жарты, твары іхнія памякчэюць, нейкім дзівам вернецца на іх вучнёўская сарамлівасць і прыпухласць, і праз два келіхі пачнуцца вершы: хлопцы будуць чытаць, Купала – слухаць і ківаць. Амаль ніколі не скажа благога: ці пасміхнецца сам сабе, ці задаволена кіўне галавой. Таму яму шмат чытаюць.

Наверсе не сціхае людская гамана: забег Толька Вольны. Ён амаль не бывае тут, увесь па вушы ў сваіх кінасправах. Гэтым разам ён некуды цягне Кобеца – высокага, сціплага, не надта зграбнага чалавека. Рыгор Кобец – самы што ні на ёсць пралетар, качагар менскай качагаркі, але ж адчуваецца ў гэтым качагары нешта такое, што хвалюе сваёй глыбока схаванай і нікому не зразумелай праўдай: пра Кобеца амаль ніхто нічога не ведае, адкуль ён узяўся і што з сябе ўяўляе, ён ніколі і нічога не расказвае пра сябе, а ў апавяданнях сваіх выказвае нечаканы кругагляд. Відаць, што за плячыма ягонымі няпростае жыццё. Толька ўсё жартуе, знаходзячы для кожнага з прысутных вясёлае, а часам і кплівае слоўца, і зала Дома пісьменнікаў вось-вось узарвецца агульным рогатам, але на парозе з’яўляецца Чарот, і Толька, хуценька развітаўшыся і коратка паціснуўшы Чаротаву руку, збягае разам з дзіўным сваім спадарожнікам.

Чарот прыходзіць ненадоўга. Здаецца, проста глынуць іншага паветра, чымся тое, у якім ён пакутуе апошні год. Высокі, усё яшчэ па-маладому стромкі, у вечным сваім чорным кажусе, высокіх ботах і шэрай аўчыннай шапцы, ён вылучаецца з агульнага кола – мо пастаццю, мо пячаткай стомы на прыгожым, але няўсмешлівым твары. І да яго падыходзіць Кузьма, і яны ўвесь Чаротаў час тут гутараць удвух: Чарот – стрымана і павольна, амаль без жэстаў, ціха, сур’-

ёзна, Кузьма — выказваючы кожным рухам спачуванне і спагаду. Чарот ужо некалькі гадоў амаль не друкуецца і амаль не размаўляе пра літаратуру, толькі пра жыццёвае — што пабачыў, што падумаў, што зразумеў, і тое не з кожным. Таму да іх з Кузьмой людзі не падыходзяць, і толькі Зарэцкі, нейкі асабліва бадзёры, яснавокі, нечым узрушаны, увайшоўшы, адразу накіроўваецца да Чарота з Чорным, і побач з ягонай светлай бадзёрасцю раптам відаць, які ўсё ж стомлены і пастарэлы ўжо Міхась Вялікі. Аднекуль знізу, ці не са сталоўкі, падымаецца шумная кампанія.

Мікола Нікановіч, троху, мабыць, разагрэўшыся за столікам, дае гастроль. Нікановіч — майстра пародыі: як жывыя, выходзяць у яго Колас і Купала, Вольны і Валька Маракоў. Невысокі і шчыгульны, заўсёды ў добрым, хоць і троху паношаным, строі, Нікановіч раптам распускаецца, пінжак неяк абвісае, збягае з пляча, на лоб звешваецца чупрына, вусны паўзуць куточкамі ўніз, у вачах разліваецца сіняе неба — і гледачы ажно пакочваюцца, бо гэта выліты Тодзік Кляшторны.

З вішнёвых хмар на ледзяной гітары
Заплакала зара па сонечнай вясне… —

пачынае дэкламаваць Нікановіч, нібыта забываючыся словы, падцягваючы канчаткі радкоў, і падабенства з Кляшторным робіцца стоадсоткавым. Смяецца нават Чарот.

А вось Нікановіч становіцца пасярод залы ў задуменні, і падаецца, што ён неяк выцягваецца, расце, хоць галава ягоная крыху нахілена набок, на твары — задуменне, адчужанасць нават... Ён доўга маўчыць і раптоўна пачынае цягнуць манатонным, на адной ноце амаль, голасам, магнетычна ўздымаючы інтанацыю толькі напрыканцы, бліжэй да рыфмы, і глухі хіба не пачуе: Купала ж, сам, выкапаны! Нікановіч ажно крыху пагойдваецца, упаўшы ў паэтычны транс, але з лесвіцы чуецца голас, гэткі самы, які зараз лунаў над залай:

— А браточкі мае, а што ж гэта, Купала расшчодрыўся вершаў пачытаць? — і ўсчынаецца рогат, бо гэта падняўся паслухаць Нікановіча сам дзядзька Янка.

Кажуць, аднойчы Нікановіч прыйшоў да Дарожнага, пагрукаўся ў шыбу і павітаўся з вуліцы Купалавым голасам, і Сярожка, разгублены, страшэнна здзіўлены, што да яго зранку завітаў сам Купала, пратрымаў Міколу на марозе ледзь не з паўгадзіны, покуль бегаў па пакоі і шукаў чаго прыстойнага апрануць, каб адчыніць дзверы славутаму паэту.

На другім паверсе, як узняцца па скрыпучай цемнаватай лесвіцы, — рэдакцыя «Маладняка», якая нядаўна пераехала сюды з Ін-

белкульта, і пакойчыкі кіраўніцтва. Тут ціха, хіба даносіцца знізу гамана. Яшчэ вышэй – зусім ціха: тут, на гарышчы, літаральна на птушыных правах займаюць цесныя закуты мастакі і музыкі у чаканні сваіх дамоў. Крыху паблукаўшы, кожны ўсё ж спускаецца ўніз, да людзей, ці, прыкладам, у бакавы пакойчык, дзе цырульнік Князеў за невялікі, на ўвесь горад самы прыемны кошт паголіць пісьменніцкую бараду ці зробіць асаблівую, знарок паэтычную фрызуру.

Дудар бывае тут і адзін, і з Наташай. Наташа заходзіць адна – як складзецца, але кожны раз, калі яны прыходзяць у Дом пісьменніка разам, Дудар адчувае сябе імянінnікам. Некалькі разоў лавіў ён сябе на думцы: няхай глядзяць, як гэты зломак Шурка цяпер правільна і прыгожа жыве.

Але сёння зранку ён тут без яе, і гэта таксама няблага, прынамсі вальней. Ужо маяўся на канапе з самага ранку Валька, ужо заходзіў пабачыць, хто тут ёсць, Тодзік, ужо грукала нясмела машынка на другім паверсе – то, пэўна, Іларык Барашка ў чаканні машыністкі вырашыў сам перадрукаваць які свой апаведзік. Дудар заскочыў быў на хвілінку, бо збіраўся ўсё ж падысці ва ўніверсітэт. Пасля прызнання памылак па «лісце трох» ён раз-пораз хадзіў да Барычэўскага ці на нямецкую: стыпендыю яму Наркамат асветы плаціў спраўна, і дзядзька Цішка пры сустрэчы ажно гразіўся яму кулаком, маўляў, не дуры пакуль, рабі ўсё, як сказана табе, па лязе ходзіш. Але выскачыўшы пад Заходні мост на Новамаскоўскую і адтуль на Савецкую, мінаючы «Бельгію» і касцёл, ён адчуў раптам, якім холадам і якой трывогай поўніцца менскае паветра, ажно заныла ў грудзях. Таму ва ўніверсітэт ён не пайшоў, а даў нырца ва ўтульны паўзмрок Дома пісьменніка.

– А ты што тут, Валька? – прысеў побач з Мараковым на канапку.

– Ды я да Чарота хадзіў, а яго няма. Заяву напісаў, загадчыкам літаратурнага аддзела. З педтэхнікума мяне ўзялі, а ў газету ўжо во колькі не магу трапіць. Трох рублёў няма пазычыць?

– Бяры, Валька, – Дудар адразу суне руку ў кішэню і дастае пяцёрку. – Як Чарот сплаціць, аддасі.

– Сплаціць. Ён спярша няхай яшчэ возьме мяне.

– Возьме, Валька, возьме.

Маракоў моўчкі працягвае Дудару газету. На першай жа паласе, на жоўтым правым полі, алоўкам карыкатура: насаты чалавечак, няўлоўна, але відавочна падобны да Шукайлы, падымае худзенькую руку з рэвальверам. Подпіс: «Выйшаў я на сенажаць і з нагана ў жабу – бац!» Дудар ківае галавой і пасмейваецца: прыпячаталі Шукайлу.

– Ён жа нейкі вар'ят, Шурка. Каб ты чуў, што ён крычыць, як што раптам яму не ў дугу...

– Пойдзеце ўсе ў мяне ў падвалы ГПУ? – перапытвае Дудар.

— Во, так. Менавіта.

— Лухта гэта ўсё, Валька.

— А ты не баішся, Шурка, падвалаў ГПУ?

— А што мне там рабіць? Я ж не вораг. Не баюся. І ты не бойся, Валька.

Маракоў, не гледзячы на сябра, набірае паветра, каб нешта важнае сказаць, але ў гэты момант грукаюць дзверы, па фае шлёпаюць чыесьці хуткія крокі, і ў пакой забягае Чарот.

— Хлопцы, вы двое тут? Кідайце ўсё, Купала тоне. Бягом за мной. Хто там наверсе? Валька, гукні!

Маракоў кідаецца да лесвіцы: паводкі ўсе чакалі, але ніколі невядома, якой яна будзе, але як дзядзька Янка тоне, дык добрая, значыць, ідзе паводка.

Покуль Маракоў з Барашкам кубарам ляцяць уніз, Дудар з Чаротам ужо на вуліцы, і хлопцы подбегам даганяюць. Ідуць хутка, і чым бліжэй да Святога Тамаша, тым мацнейшае дыханне бунтоўнай ракі. Усярэдзіне Юр'еўскай ужо лужыны па калена, а далей — вада, колькі відаць.

— І што ты сядзеў з раніцы, Валька, і не чуў, што вада ў горадзе? — разгублена пытаецца Дудар.

— Адкуль я чуў? Тодзік мармытаў нешта, але я думаў — блазнуе, — разгублена адказвае Валька.

— Дык хіба на вуліцах не бачна было? Ты ж праз увесь горад ішоў?

— А ты што, не ішоў? — агрызаецца Валька.

— Дык у мяне там суха, а што там бабы нясуць па горадзе, хіба я прыслухоўваюся...

Яны перакідваюцца рэплікамі, не ведаючы, што рабіць: да Купалавага дома не дайсці — уся Кастрычніцкая ў вадзе, і там, дзе прасядаюць двары ля сядзіб, пэўна, абодвум, высокім хлопцам, будзе па грудзі.

Людзі ратуюцца як могуць: малыя сядзяць ужо па дахах, дарослыя мітусяцца ў хвалях, кідаюць дабро на гарышча, там і сям снуюць лодкі.

— У Купалы ж кніжкі! Годзе, хлопцы, пайшлі! — рашуча кажа Дудар, і яны рушаць наперад. Тры крокі — і вада ўжо па калена.

Вуліцы няма, усё — рака. Здаецца, яшчэ колькі хвілінаў — і хвалі пакоцяцца цераз Паліцэйскі мост. Зямлі няма, паўсюль вада. Ад гэтага шэрага халоднага трымцення і плёхання навокал, ад бясконцай рабізны хваляў на імгненне страчваецца арыентацыя, і, каб не заблукаць раптоўна, хлопцы трымаюць у полі зроку Купалаву таполю: вунь яна, сястрыца, палова камля на вуліцы, палова — у Ку-

палавым двары. Бягуць па калена ў вадзе, не бягуць, амаль брыдуць, пераадольваючы халодны вадзяны супраціў. «Шурка, давай у двор, я за лодкай», – кідае адрывіста Чарот і знікае недзе між парканаў.

Хваля коціцца і плыве цераз парог Купалавай хаты, прыступак не бачна. Дзверы адчыненыя. Вады ў хаце шмат, як ні заварочвай порткі – не ўратуеш. І дзядзька Янка, і цёця Уладзя мокрыя ўжо, як мышы, па пояс. Мітусні няма. Ціха, перакідваючыся толькі нейкімі асабліва важнымі словамі, ратуюць яны бібліятэку, і нават разгубленая Купалава маці Бянігна Іванаўна, зусім старэнькая, маленькая жанчынка ў хустачцы, спачуваецца надзвычай спакойна.

— Хлопчыкі, а ну станавіся ў ланцуг! Давай на гарышча падымайма! – камандуе жонка, нібы і не здзівіўшыся нечаканым памагатым.

Купала абарочваецца на гэты загад, бачыць хлопцаў і нечакана для іх усміхаецца, а потым яшчэ корчыць адпаведную грымасу: маўляў, такія во справы, таварышы.

— Янка, што пераміргваешся? – цёця Уладзя стаіць, сагнуўшыся ў тры пагібелі да ніжніх паліц, але, выходзіць, усё бачыць. – Зараз паплыве твой Талстой.

— Не дамо паплысці Талстому, хлопцы! – гукае Купала, і Маракоў ад задавальнення ажно пацірае рукі: такую працу, калі і ў жарт, і ў ахвотку, хто ж не любіць, няхай сабе і вада па калена.

Перадаюць ланцугом кнігі: са стала, з канапы, адтуль, дзе гаспадары з самай трывожнай раніцы наскладалі ўжо стосаў, потым пачынаюць вызваляць з сярэдніх, яшчэ не закранутых вадой шэрагаў. Бянігна Іванаўна і цёця Уладзя здымаюць, Купала подбегам нясе да Валькі, Валька скача туды-сюды па лесвіцы, на гарышчы прымае кнігі Дудар, Барашка наверсе парадкуе.

— Калі так справа пойдзе, дык мы і Уладчыны сукенкі з куфра ўратуем! – задаволена прамаўляе Купала.

Маракоў робіць страшныя вочы:

— А што, такія прыгожыя сукенкі не ўратаваныя шчэ? І тая вышываная?

— І сукенкі не ўратаваныя, Валька, і ручнікі, і вясельныя свечы, – гаруе цёця Уладзя.

— Авохці! І вясельныя свечы! Шурка, давай хутчэй бегайце там, вясельныя свечы не ратаваныя!

З гарышча звешваецца ўскудлачаная галава Дудара, на твары непаразуменне:

— Якія шчэ свечы?

Таму на твары Чарота, які ўвесь узмок, шукаючы, а потым цягнучы праз кустоўе, парканы і весніцы лодку, выразна чытаецца здзіўленне: што за рогат стаіць сярод тапельцаў?

Нарэшце, перакінуўшы кніжкі, падняўшы наверх падмоклыя ўжо прыпасы, усцягнуўшы на канапу куфар з цёці-Уладзіным дабром, нагрузіўшы лодку рэчамі першай патрэбы, рушаць па вадзе следам за Чаротам, які вязе Купалаву маёмасць да новага берага — туды, дзе Юр'еўская крута бярэ ўверх і дакуль яшчэ не дабралася Свіслач.

— Дык ці будзе ў цябе, Міхасёк, месца для гэтага ўсяго і для яго-ных гаспадароў? — клапатліва пытаецца цёця Уладзя.

Чарот маўчыць, штурхае наперад лодку, і Купала асцярожна цісне жонцы руку: ён ведае ўжо, што днямі сышла да Вольнага Чаротава Аня і месца ў Міхася дома цяпер шмат.

Потым нясуць угору клункі. Усе прамоклыя, раптам адчулі страшэнную стому. Здаецца, чорт ведама дзе тая Чаротава кватэра, хоць вунь яна, рукою дастаць, крыху далей за «Еўропу». Высокі каменны падмурак, драўляная лесвіца на другі, таксама драўляны паверх.

Чарот адчыняе дзверы ў вялікі пакой — тут перачакаюць біду госці, забірае толькі са спінкі крэсла чорны свой кажух, што, здаецца, вісіць тут, кінуты ненадоўга стомленым гаспадаром, ажно з зімы. Цёця Уладзя і Бянігна Іванаўна ўмомант робяць са стылага, шэрага пакоя ўтульнае жытло і адразу ж накрываюць на стол, аднекуль бярэцца і сухая рыбіна, і сыр, і прыгожая, з белымі скрылікамі сала, свіная каўбаса, так што покуль мужчыны кураць на куханьцы, закуска гатовая. З'яўляецца і бутэлька белай. І яе цёця Уладзя прыхапіла з сабою сярод рэчаў першай неабходнасці.

Гэтым разам сядзелі доўга — да світання. Мужчыны курылі ў адчыненую фортку, і пах папярос змешваўся з трывожным пахам бунтоўнай ракі. Яшчэ і яшчэ браліся аднекуль бутэлькі, але тыя, хто сядзеў за сталом, нібыта не п'янелі, а толькі цішэйшай і сур'ёзнейшай станавілася гутарка, і на тварах чыталася то падзяка, то горыч, то спачуванне.

— Упрошваючы не намілуешся, Міхась, даганяючы не нацалуешся — так кажуць.

Купала з Чаротам стаяць ля акна. Чарот маўчыць, і толькі ўсміхаецца раз-пораз, ускідваючы на дзядзьку Янку разгубленыя вочы, якія блішчаць ці то ад выпітага, ці то ад перажытага.

— Ты толькі нікога з іх не віні. Ніхто з вас не шчаслівы. Ні яна, ні ён, ні ты.

Маўчыць Чарот, толькі белыя ад напругі пальцы ўпіліся ў падаконнік. Зараз і Купала маўчыць.

Зімой яшчэ, калі ўсё гэта цацілася з гары, калі яны ўтраіх кожны дзень, нібы прыкутыя адно да аднаго, збіраліся за гэтым самым сталом, і пілі, і Аня спявала любімыя свае «Стаканчики» прыго-

жым нізкім голасам, і Толька хаваў вочы і пакутліва моршчыўся толькі, калі наўпрост за сталом разгаралася сямейная спрэчка, калі ўвечары, як сыходзіў Вольны, нібы ў абморы нейкім, хапаў Чарот швейную машынку, на якой Аня шыла свае выкшталцоныя сукенкі і вузенькія, каб асіная талія і высокія грудзі, гарсэты, хапаў гэтую машынку і шпурляў за акно на вуліцу, і Аня бегла збіраць у цемры жалеззе, а раніцой ішла да суседзяў рамантаваць ці латаць, зімой яшчэ ён зразумеў, што гэта канец.

І не толькі гэта – канец.

Хісталася ўсё навокал, трымцела пераліўна і сталёва, як свіслацкая вада, і не было зразумела, дзе зямля, дзе глей, дзе вір, і калі зробіш яшчэ крок – ці не праглыне цябе проста зараз халодная няўмольная вада. Хісталася пад ім рэдактарскае крэсла, ды, можа, і чорт з ім, але гэта абавязкова значыла канец хоць няпэўнай, але ўсё ж недатыкальнасці, канец нейкай надзеі, што спачатку папярэдзяць і толькі потым закрыюць у ГПУ. Ён і рэдактарам ужо не быў – нічога не вырашаў у той газеце, якой аддаў найлепшыя гады, якой аддаў паэта ў сабе. Вершы свае – тыя, старыя, бо новых не было ўжо зусім, – бачыць не мог. Валяліся па хаце там і тут нейкія паперчыны, выразкі з колішніх газет, зцёганыя зборнікі – не разгортваў, баяўся пабачыць слабасць уласную, хлусню і страшную наіўнасць, і чалавечую, і паэтычную. Бэндэ ўключыў у план выдавецтва том выбранага, аддаў яму папку з выразкамі. Што там ляжыць, не глядзеў. Агідна.

Аня калісьці глядзела чорнымі вільготнымі вачыма, пагойдвалася ў такт ягоным вершам, перабірала тонкімі пальцамі каралікі на грудзях. Балюча і агідна ўспамінаць гэтыя вечары ў Іваноўскіх, калі ўпершыню бачыў яе сярод іншых закаханых дзяўчат, якія гэтаксама пагойдваліся ў такт вершам – дурным, непатрэбным, пустым, што бразгалі, як жалеззе бразгае на вулічнай брукаванцы.

Можа, адно толькі і было:
Сенажацямі, лясамі
За санямі сані самі
Сцелюць сцежку.
Сцелюць сцілем.
У разгоне
Белы коні
Сівы грывы
Распусцілі…

Ён не заўважае, як і сам лёгка, ледзь заўважна, пагойдваецца ў такт уласным радкам. Гэтак ехаў з Маладзечна ў Рудзенск на калядныя вакацыі, у чорт яго ведае якім годзе, і складаліся радкі,

і духмяным сенам былі засыпаны сані, і шпарка беглі коні, і наперадзе быў дом, і гарачая печка, і мамка.

У гэтую ноч першы, пэўна, раз загаварыла па шчырасці з Дударом цёця Уладзя. Пачалося з жарту: Шурка кінуў Вальку французскае enfant terrible*, цёця Уладзя на выдатнай французскай падхапіла, зрабіўшы Маракову выкшталцоную вымову, у якой ён ані слоўца не зразумеў, затое зразумеў Дудар і адказаў за сябра небяспечным жартам, і цёця Уладзя, прыняўшы гульню, павяла гутарку ў бліскучым стылі старасвецкага французскага рамана. Мова яе маці, Эміліі Манэ, была не горшая за мову Мацільды дэ ля Моль, і ўжо і Маракоў махнуў рукой, і Барашка пазяхнуў з тугою, а яны, ужо без жартаў, гутарылі.

— Dites-nous, Shurka, comment connaissez-vous si bien le français?

— J’avais de bons professeurs, madame.

— Parlez-moi d’eux. Où chez nous il était possible d’apprendre la langue à un tel niveau? Il est comme dans les livres. Donc les gens parlent dans les romans, pas dans la vie**.

І ён распавядае — можа, першаму чалавеку распавядае. Распавядае, як увосень пятнаццатага вярнуўся неяк з гімназіі, толькі-толькі пайшоў у другі клас, а мамка ўжо пакуе рэчы: тэрміновая эвакуацыя сямей чыгуначнікаў. Рухі ў маці дакладныя, нават нейкія вострыя, словы адрывістыя, як каманды. Так заўсёды, калі яна моцна хвалюецца. Жэнька, зусім малая яшчэ, як тоўсценькае шчанё, поўзае пад нагамі, выцягвае з чамадана то лыжку, то ручнік. Распавядае, як дазволілі ўзяць толькі два чамаданы, астатняе панёс з вакзала збялелы, разгублены бацька. Як радаваўся ён спачатку, асабліва калі мамка, рашуча ўбіўшыся ў вагон, лёгка, як пёркі, закінула на самы верх чамаданы, а на другую паліцу да самага акна — яго. Туды ж, наверх, потым уціснуўся зусім незнаёмы нейкі Сёмка, з якім тузаліся на гэтай вузкай, цвёрдай паліцы ўвесь наступны тыдзень, і было цесна і часам моташна, але ўсё ж лепей, чым там, унізе, дзе сядзела дзень і ноч у цясноцці і смуродзе спакутаваная мамка, трымаючы на руках Жэньку. Да Смаленска ехалі яны з Сёмкам весела, глядзелі ў акно і гулялі ў «Дзявяты вал», хваліліся адзін перад адным рознымі глупствамі, а за Смаленскам ужо страшэнна

---

* Жудаснае дзіця (*фр.*)

** — Скажы, Шурка, адкуль ты так добра ведаеш французскую?

— У мяне былі добрыя настаўнікі.

— Раскажы мне пра іх. Дзе ў нас можна было так добра вывучыць кніжную мову? Бо ты размаўляеш па-французску, як у раманах, а не так, як размаўляюць на вуліцах (*фр.*).

захацелася есці і зусім ужо нясцерпна — у прыбіральню. А ўнізе людзей — месіва, і да самага Казлова, крыху пасаромеўшыся, рабілі яны свае немудроныя справы ў акно ці, калі што больш сур'ёзнае, на адарваную мамкай анучу.

У Сафонаве з цягніка знялі першых памерлых, у Вязьме іх было ўжо так шмат, што бабы нават перасталі па кожным плакаць, есці атрымлівалася раз на дзень — гідкі пусты суп і слабенькую, затое саладжоную гарбату. Аднойчы недзе пад Масквой на станцыі на кожнае малое дзіця далі бутэльку малака і белую булку, і мамка падзяліла Жэньчына малако і булку на траіх — малой і яму з Сёмкам.

І ўжо павінны былі дабрацца да Масквы, але цягнікі на нейкім паўстанку сталі мёртва, ажно чатыры цягнікі, і двое сутак стаялі, і яны з хлопцамі — цэлая каманда сабралася — шнырялі па агародах і пералесках, і ў кішэнях зараз былі і морква, і яблыкі, і грыбы, а дарослыя хадзілі ўздоўж цягніка, сядзелі ў роспачы на траве, і толькі і гутарак было: «Масква не прымае», «Масква не прымае», «Масква адмаўляецца прыняць».

Цягнікі адправілі на Гразі, і потым колькі дзён стаялі ў Гразях, і Жэнька крычала нямым крыкам, бо на шыі і пад пашкамі гарэлі мокрай чэрванню папрэласці, і хацелася есці, спаць на ложку і піць халоднага.

І калі дацягнуліся ўжо неяк да Казлова і зноў сталі, бо і Тамбоў не мог прыняць, мамка схапіла чамаданы, прывязала да Шуркавай спіны вузлом Жэньку і пайшла цераз плошчу да будыніны з надпісам — гасцініцы «Трансвааль». «Я жонка чыгуначніка, нас гвалтам вывезлі сюды, і я не буду болей чакаць смерці ў вашым цягніку!» — коратка, адрывіста, без слёз і просьбаў сказала яна перапуджанаму чалавеку ў пацёрханай, мятай уніформе, і ён пабег па калідоры і адчыніў ім пакой, а за імі цякла ўжо рака з вакзала, і пад самы дах забітая была ўжо «Трансвааль», але да іх у трэці пакой не падсялялі болей нікога.

Назаўтра ж мамка павяла яго па шырокіх прыгожых вуліцах — дых займала ад гэтых гмахаў, камяніц, храмаў і купалоў — у трохпавярховы будынак казлоўскай гімназіі і коратка пагутарыла з дырэктарам, ветлівым, усмешлівым чалавекам з пухнатымі вусамі і смяшлівымі вачамі, і яго ўзялі ў другі клас — па-за камплектам, пяцьдзясят шостым.

Форма ў казлоўскай гімназіі была горшая за форму ў Фальковіча: у Менску яны хадзілі ў чорных шынялях з сінім кантам, а тут сукно было чамусьці шэрае і ніякіх табе кантаў. Але ўсё роўна фарсіў, асабліва падабаліся гузікі на форменнай кашулі — белыя і круглыя, бліскучыя, нібы пярліны.

Французскую там выкладала Вера Пятроўна Бяляева – et je n'ai jamais rencontré une femme plus gentille*. У яе быў муж-п'яніца, ён часта прыходзіў да гімназіі, стаяў ля прыступак, зусім нікчэмны, у пацёртым пінжаку і з пузырамі на каленях, і чакаў, покуль выйдзе жонка, хуценька, саромеючыся за яго, ткне яму грошы, каб сыходзіў. І ён сыходзіў. Вера Пятроўна любіла французскую так, як няшчасныя людзі любяць які-небудзь прыдуманы сусвет – усім спакутаваным сэрцам. У гэтым сусвеце яна была прыгожая, каханая, абкружаная галантнымі кавалерамі і бліскучымі дамамі, яна ведала тут кожны маляўнічы куток і ўсе духмяныя сцежкі. Тут уздымаліся сцены замкаў, у якіх яна жыла, тут квітнелі алеі ружаў, па якіх яна гуляла, і як несправядліва было, што ўвечары яна павінна была вяртацца ў свой дамок ля вакзала, адзін пакой якога здавала яна бежанцам за тое, каб кватарантка мыла ёй бялізну, а ў другім спаў мёртвым сном п'яніца муж.

Шурку лёгка давалася і нямецкая, і французская, і таму было прыемна радаваць Веру Пятроўну: яна ажно свяцілася, калі ён «з выражэннем» чытаў з хрэстаматыі ці здаваў дыктоўку, а ягоныя пераказы яна нават зачытвала перад класам. Тады ўпершыню ён адчуў тое пераможнае хваляванне, якое потым заўсёды ахоплівала яго, калі народжаныя ўнутры словы раптам выплёскваліся на публіку. Excitation victorieuse**.

— Je la comprends, – ціха кажа цёця Уладзя. – Et toi***.

Дайлідовічы чатыры гады пражылі ў Казлове – вялікім горадзе на вялікай рацэ. Яна таксама разлівалася ўвесну.

Як адбыўся кастрычніцкі пераварот, адразу проста не ведалі, потым хваляваліся і не ведалі, што рабіць. Першымі ўзняліся студэнты камерцыйнага вучылішча, потым перакінулася і на гімназістаў: далоў! Перамены! Даеш саюз вучняў! Увесці прадстаўнікоў у педсавет! Іх, малых, нікуды не бралі, а хацелася. І хацелася хутчэй ехаць дамоў і там, дома, таксама арганізоўваць саюзы і будаваць жыццё па сваіх правілах, бо тут яны былі ўсё ж чужыя, а дома – дома яны былі б гаспадарамі, і там таксама была рэвалюцыя, а значыць, можна было браць уладу ў свае рукі. І ў саюзе вучняў дзяўчаты сядзелі побач з хлопцамі, і па вуліцах хадзілі ўзрушаныя, узбуджаныя старшакласнікі і цалавалі дзяўчат проста на вуліцы.

---

* Ніколі не страчаў жанчыны, дабрэйшай за яе (*фр.*).

** Хваляванне пераможцы (*фр.*).

*** Я гэта разумею. Разумею цябе (*фр.*).

— Et as-tu embrassé?* — пыталася цёця Уладзя.

— Oui, la première fois qu'il a embrassé. Elle a vécu dans le «Transvaal» dans la pièce voisine. Lilya. Très belle fille. Je ne sais pas où elle est maintenant**.

А зімой дзевятнаццатага, на самым яе пачатку, толькі-толькі Шурку споўнілася чатырнаццаць, мамка раптоўна паляцела ў Менск, кінуўшы абрыдлы нумар «Трансвааля» і падхапіўшы пад пахі абаіх дзяцей. Прыйшоў з Менска ліст, яна тры дні хадзіла ажно чорная ад перажыванняў, уночы плакала, а потым сабрала ўсіх і паляцела. Сустрэў бацька — ціхі, пастарэлы, чамусьці вінаваты. Так што пад польскай акупацыяй яны ўжо былі ў Менску.

Тут ён стаміўся і змоўк, і цёця Уладзя наліла яму гарачай гарбаты, бо гарэлкі ўжо не хацелася.

Купала задрамаў у фатэлі, абапёршы галаву на руку, Чарот, відаць, спаў у суседнім пакоі. Валька ўжо даўно злым шэптам нешта даказваў Барашку, але нечакана змарыўся і таксама заснуў, упаўшы галавой на стол, і цёця Уладзя асцярожна раскатурхала яго і давяла да канапы, і Валька паслухмяна лёг і адразу ж заснуў наноў, паклаўшы руку пад шчаку, і Дудар развітаўся з цёцяй Уладзяй і сышоў. Яшчэ было цёмна, і развіднела толькі, калі падыходзіў да сваёй Правадной. Ён усё пра яе ведаў. Ведаў, што ў ягоным пакоі спіць пакрыўджаная Наташа, што прыслухоўваецца да кожнага кроку на двары маці, што пасапвае мірна цёплая, калматая, на канікулы прыехаўшая Жэнька, і шкада было яму ўсіх: і Веру Пятроўну, і цёцю Уладзю, і Чарота, і Тольку з Аняй, і Купалу, і Наташу, і маці, і сябе самога, а чаму шкада — не хацелася разбірацца.

# ДАКУМЕНТЫ

* * *

Когда тов. Василевич обнаружил стихотворение «Пасеклі край наш папалам» и передал его Пилляру, указав предполагаемого автора, Пилляр поручил мне проверить и со своей стороны, и когда я обратился к Купале при ближайшей встрече — с укором — что он,

* І ты цалаваўся? (*фр.*).

** Так. Упершыню там пацалаваўся. Яна таксама жыла ў «Трансваалі», у суседнім пакоі. Ліля. Вельмі прыгожая дзяўчына. Я не ведаю, дзе яна цяпер (*фр.*).

дескать, автор безобразных антисоветских стихов, тот обиделся, заявив, что он может быть недоволен тем или другим, но таких вещей он не делает, и сразу же назвал автора — А. Дударя.

*Из докладной записки секретного агента НКВД А. Ульянова*

* * *

ПОСТАНОВЛЕНИЕ

1929 марта 20 дня в гор. Минске я, пом. начальника 2 отд. СО ГПУ Бел. Чернышев, рассмотрев имеющийся материал на гр. Дайлидовича Александра Александровича, изобличающий его в писании и рапространении стихотворений а/с характера, и принимая во внимание, что указанное деяние предусмотрено ст. 72а УК БССР (58п УК РСФСР), а потому руководствуясь ст. 100 п. 1 и 175 УПК

ПОСТАНОВИЛ:

Произвести обыск на квартире Дайлидовича Александра Александровича по Проводной ул. № 15-а, кв. 2 и возбудить против него уголовное расследование.

Пом. нач. 2 отд. СО — Чернышев
«Согласен» нач. СО — Соболев
«Утверждаю» зампред — ГПУБ Залин

* * *

ПРОТОКОЛ ОБЫСКА

На основании ордера Государственного Политического Управления Белоруссии № 274 от 20/3—1929 и согласно 175 и 177 ст. ст. УПК произведен обыск у гр. Дайлидович А. А., проживающего Проводная ул., 15а. При обыске присутствовали: Вишневская Н. В.

Взято для доставления в Госполитуправление Белоруссии следующее: 19 стихов, писанных на белорусском, и 3 письма.

* * *

ПРОТОКОЛ ДОПРОСА

20 марта 1929 г.

Прад'яўлены мне верш «Пасеклі край наш папалам, каб панскай вытаргаваць ласкі, вось гэта вам, а гэта нам і г. д.» напісаў я ў прошлым годзе ў сябе дома, будучы ў нятрэзвым становішчы. Пры напісанні верша ніхто не прысутнічаў. Верш быў напісаны пад уп-

лывам суда над Грамадой. Праз нядоўгі час гэты верш я прачытаў Алесю Адамовічу, які быў у мяне. Праслухаўшы верш, Адамовіч скептычна паціснуў плячыма і нешта сказаў — параіў проста схаваць. Акрамя Адамовіча я, здаецца, чытаў гэты самы верш Зарэцкаму. Калі гэта было і ці было — я не ведаю. Больш нікому верша не паказваў і не чытаў. У канцы 1928 г. ці ў пачатку 1929 г. да мяне звярнуўся Алесь Адамовіч з просьбай даць яму пярэпісаць верш. Разам з ім я зайшоў у яго кабінет, даў яму верш, ён яго пярэпісаў, і я з ім развітаўся. Навошта быў яму патрэбен верш, ён мне нічога не сказаў, акрамя таго, што «моцны верш». Сказаўшы «моцны верш», Адамовіч меў на ўвазе яго мастацкую апрацоўку — гэта мой погляд. Некаторы ўплыў на напісанне гэтага верша меў выпадак з працаўнікам рэдакцыі «Савецкай Беларусі» Капланам, які ў нумары, прысвечаным прысуду над Грамадой, змесціў больш чым трэба было пратэстаў і за што быў зняты з працы — гэтак казалі. З працы Каплан быў зьняты Сянкевічам, які даволі прахладна адносіцца да беларускай культуры і не карыстаецца сімпатыямі з прычыны мэханічнага падыходу да пытання будаўніцтва беларускай пралетарскай культуры.

Алесь Дудар (Дайлідовіч)

Другі раз з Алесем Адамовічам, калі ён звернуўся да мяне з просьбай даць пярэпісаць яму верш, я сустрэўся пры наступных абставінах: было гэта прыблізна а 6-й гадзіне ўвечары ў канцы 1928 г. ці ў пачатку 1929. Я з дому накіраваўся на кватэру да А. Адамовіча, дзе мне трэба было ўзяць нейкую часопісь. У кватэру зайсці мне не давялося, таму што сустрэўся з ім у самай брамы. На маё пытанне даць мне часопісь Адамовіч сказаў, што часопісь у яго ў габінеце, і прапанаваў мне з ім туды пайсці. У габінеце, атрымаўшы часопісь, я яму прадыктаваў верш, каторы быў Адамовічам перапісан. Дзе звярнуўся Адамовіч з просьбай даць яму верш, ці ў габінеце, ці на вуліцы, я не памятую. Прыблізна ў гэты самы час Алесь Адамовіч звярнуўся да мяне з прапановай распрацаваць на ўмовах Беларусі артыкул Валабуева, які прадстаўляе сабой эканамічнае абаснаванне нацыяналістычных тэорый Шумскага і Хвылёвага.

Алесь Дудар.

* * *

ПРОТОКОЛ ДОПРОСА

21 марта 1929 г.

Встречался с Дударом на его квартире раза два (во время приезда Горького и потом осенью). При встречах на квартире Дудар читал свои стихи, но чтобы читал «Пасеклі край наш папалам» – не помню. О стихотворении зашла речь, когда Дудар был у меня перед партсъездом на службе в НКЗ. Он приходил попросить некоторые книги и журналы. Зашла речь о стихотворениях, которые ходили по рукам. Говорили о стихотворении, которое написал в Москве Гессен. Дудар прочел мне стихотворение, и я попросил, чтобы он дал переписать. После партсъезда я читал стихотворение тов. Василевичу, а затем на квартире у Чарота, когда последний был болен. Тов. Василевич взял у меня и переписал. Это было в комнате, где помещается библиотека, а Чарот лежал в другой на постели. О стихотворении говорил с тов. Пецюевичем в Москве, т. Мицьковым.

Больше не помню, с кем говорил. Стихотворения не распространял.

Алесь Адамович.

* * *

ПРОТОКОЛ ДОПРОСА

22 марта 1929 г.

Стихотворение, которое начинается словами «Пасеклі край наш папалам, каб панскай вытаргаваць ласкі, вось гэта вам, а гэта нам, няма сумлення ў душах рабскіх» і г. д. и кончается «Дзень чырвоным зацвіце, і мы гукнем яму «Дабрыдзень», ці са шчытом, ці на шчыце ў краіну нашу зноў мы прыйдзем» – я слышала от своего мужа Александра Дайлидовича, прочитавшего мне его недели 2-3 тому назад. Раньше, чем читать стихотворение, Дайлидович сказал: «Вот послушай стихотворение». Где он достал это стихотворение и кто его автор – он не сказал. Своих взглядов на это стихотворение я не высказывала, считаю, что это стихотворение написано в нетрезвом состоянии. Содержание этого стихотворения, безусловно, контрреволюционно и не отвечает моим политическим воззрениям. Читал это стихотворение Дайлидович мне один раз. Разговора насчет этого стихотворения у меня с Дайлидовичем никакого не было. Кому еще читал Дайлидович это стихотворение, я не знаю. Во время чтения Дайлидовичем мне этого стихотворения никого из его товарищей не было. Возможно, что во время чтения стихот-

ворения Дайлидович был немного выпивши, но пьяным не был. Стихотворение Сосюры читала, но при каких обстоятельствах это было, не помню. Дайлидович насчет стихотворения Сосюры ничего не говорил. С этого стихотворения мы просто посмеялись. Стихотворения Дайлидовича 1) «Я радзіўся за хатай пад плотам» і г. д. 2) «Цені будзяць па твары» – мне совершенно незнакомы и когда он их писал, я не знаю.

Н. Вишневская

* * *

Дорогой товарищ!

Недели две-три тому назад ГПУ Бел. получило сведения, что в националистических кругах Минска, главным образом среди писателей, «ходит по рукам» какое-то антисоветское стихотворение. Наша агентура, согласно данного ей задания, спустя несколько дней доставила экземпляр интересующих нас стихов, которые при сем прилагаем. Считая написание подобного стихотворения и его распространение актом контрреволюционным, ГПУ занялось выяснением автора произведения и круга его распространения. Нами было установлено, что стихи написаны поэтом Дударём.

20-го марта 1929 года гр. Дударь был вызван в ГПУ для объяснений. На допросе (показания при сем прилагаются) он сознался в написании стиха, указав также, что стихи он читал тов. Зарецкому и тов. Адамовичу и что последний их переписал для неизвестных ему целей.

С целью выяснения круга рапространения этих стихов был вызван товарищ Адамович, который дал свои показания, копию которых при сем прилагаю.

Считая вопрос достаточно выясненным, ГПУ Бел. дело Дударя посылает в Особое совещание при ОГПУ на предмет выселения гр. Дударя за пределы БССР как социально опасный элемент.

С тов. приветом – Пилляр.

* * *

ЗАКЛЮЧЕНИЕ

Пом. прокурора республики по ГПУ Бел. по делу № 9420 по обвинению гр-на Дайлидовича Александра Александровича по 72а ст. УК БССР.

1929 года марта 26 дня, рассмотрев настоящее дело в порядке Положения о правах ОГПУ по части административных высылок,

ссылок и заключения в концентрационный лагерь и принимая во внимание:

1) Что постановление ГПУ Бел. от 25 марта сего года соответствует собранным по делу материалам;

2) Что несмотря на отсутствие в деле достаточных улик для предания обвиняемого ДАЙЛИДОВИЧА суду по признакам преступления, предусмотренного по 72а ст. УК БССР, пребывание его в пределах БССР, как пограничной полосе, является в настоящее время социально-опасным, а посему

ПОЛАГАЛ БЫ:

Настоящее дело на основании приказа ОГПУ за № 172 от 2/4-1924 направить в Особое Совещание при Коллегии ОГПУ для внесудебного рассмотрения и высылки обвиняемого ДАЙЛИДОВИЧА из пределов БССР на срок, по усмотрению Особого Совещания.

Меру пресечения обвиняемому ДАЙЛИДОВИЧУ до рассмотрения дела в ОГПУ оставить прежнюю – подписку о невыезде.

Пом. прокурора Республики
по ГПУ Бел. Кипарисов.

* * *

ВЫПИСКА ИЗ ПРОТОКОЛА
Особого Совещания при Коллегии ОГПУ
от 29 марта 1929 года

163. Слушали: дело № 71934 по обв. гр. ДАЙЛИДОВИЧ (ДУДАРЬ) Александра Александровича по 58/10 ст. ч. 2 УК

Постановили: ДАЙЛИДОВИЧ (ДУДАРЬ) Александра Александровича – выслать из Белоруссии, лишив права проживания в Москве, Ленинграде, Харькове, Киеве, Одессе, Ростове Н/Д, озн. губерниях и округах сроком на ТРИ года.

Секретарь Коллегии ОГПУ

* * *

Дударь является автором совершенно контрреволюционного стихотворения, ходившего по рукам и, по-видимому, известного задолго до его обнаружения отдельным членам партии. За это стихотворение «Пасеклі край наш папалам» автор – бывший комсомолец, механически выбывший из союза – был выслан из БССР и находится ныне в Смоленске. Любопытно, что «Полымя», не смотря на исключение Дударя из литературной организации, извеще-

ние об этом не печатает, напротив того – его имя, и даже дважды, под фамилией Глыбоцкого – псевдонима Дударя – продолжает печататься в списке виднейших сотрудников журнала, вплоть до последнего майского (1929) номера «Полымя». Одновременно в литературной хронике в третьем номере «Полымя» тонко намекает, что за помещение стихотворения Дударя «Навальніца» в чешской газете «Руде право» (орган чешской коммунистической партии) номер газеты был конфискован полицией.

Госиздат Белоруссии подготавливает к изданию сочинения Дударя, в частности, его «Вецер з Усходу», проводящий основной мыслью идею, что разложение белорусской молодежи идет с Востока. Была уже резолюция зав. Госиздатом тов. Шипило пускать в печать. Задержано по указанию ЦК.

Сам Дударь до апреля получал от Наркомпроса 100-рублевую стипендию ежемесячно, а с 1 апреля (после высылки его) Наркомпрос увеличил стипендию его жене, тоже студентке БГУ, с 20 до 45 рублей, что было сделано по инициативе зав. Главискусством Жилуновича. До самого отъезда из Минска высланный Дударь неоднократно появлялся на собраниях и ходил в обнимку с коммунистами. Несколько членов партии: редактор «Советской Белоруссии» Чарот, Зарецкий, Ильючонок участвовали в прощальной выпивке по случаю высылки Дударя на квартире одного беспартийного националиста.

Члены партии и беспартийные, вполне откровенные националисты, во всех этих театральных, литературных (а по существу, политических) делах так перепутались, что не всегда разберешь, есть ли между ними грань.

*Доклад Комиссии ЦКК ВКП(б)*
*под руководством В.П. Затонского,*
*раздел «Наблюдения и замечания*
*из области национальной идеологии»*

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Лазар вярнуўся з камандзіроўкі на вёску і прывёз дзве паперчыны. «Заехаў толькі рэчы пакласці і пераапрануцца, зараз жа павінен ісці ў ГПУ», — кінуў мне адрывіста. Я збялела. «Не пужайся, не мяне выклікаюць, сам іду. Настачка, ну, не пужайся, я ж кажу табе», — тут ён нават усміхнуўся. Аказалася, да іх на выступе падышла жанчына, вясковая настаўніца, перадала яму дзве лістоўкі і папрасіла завезці ў Менск, маўляў, тут усе

адзін аднаго пакрываюць, а там, у сталіцы, дапамогуць і разбяруцца. «Тут цягнуць нельга, Наста. Справа надта сур'ёзная, вораг падымае галаву. Па ўсёй краіне, Наста».

Лістоўкі тыя я прачытала.

«Настасья. Я скажу тебе, если будешь делать, как делала, т. е. участвовать на их собраниях и не будешь защищать нашу сторону, т. е. сторону своего хутора граждан, то я тебе скажу, что ты не сегодня то завтра получишь себе в голову кирпича, а может быть того мало, то получишь и больше».

«Объявление. Доводится до сведения всех коммунистов и комсомольцев, что волостной комитет по борьбе с коммунистами постановил начать со следующих типов: Руденный Илья — запалить, Леводны Рыгор — расстрелять, Стражило Иван — убить дома, если так не удастся, Дыхно Илья — забрать без известия. Смерть коммунистам».

Цэлы вечар я думала пра тую Настассю. Мне хацелася скочыць у цягнік, імчаць да яе на вёску і сядзець ля яе, пільнаваць, і каб кожны пабачыў: у Настассі ёсць абаронцы. Я ведала: шмат хто з нас паехаў бы яе бараніць. Я думала пра жонак Іллі Рудзеннага і Рыгора Ляводнага, пра маленькіх дзетак Стражылы Івана і Дыхно Іллі, я паўтарала і паўтарала пра сябе іх імёны, нібыта гэта магло неяк спыніць бандытаў. Я думала пра тое, што, калі вораг не здаецца, яго знішчаюць, і гэта правільна, бо тады вораг знішчыць Настассю і гэтых чатырох хлопцаў, нашых, камсамольцаў і камуністаў.

Нянавісць і страх. У дваццаць дзявятым навокал нараджаліся нянавісць і страх.

«У ГПУ сустрэлі спакойна, падзякавалі. Нічога не сказалі — яны там, ведаеш, людзі сур'ёзныя. Не охаюць — робяць. Але яны не гавораць, а такіх лістовак, Наста, усё болей і болей. І не па адной».

Жыць і праўда станавілася цяжэй. Затрымлівалі грашовыя выплаты. Некуды стала прападаць ежа. Зусім бедным стаў рынак. Панчохі, духмянае мыла, шакалад — чамусьці закрываліся лавачкі, якіх некалі незлічона было на Савецкай. Вораг падымаў галаву. Шкоднікі былі паўсюль: газеты не стамляліся даваць рэпартажы з судовых пасяджэнняў. На шахтах, на заводах, у крамах, на вёсках — у нованароджаных калгасах.

«Нашто табе думаць пра гэта, Наста?» — Лазар незадаволена абрываў усе гутаркі на гэтую тэму. Усе абрывалі гутаркі на гэтую тэму. Сказаць папраўдзе, я ніколі не чула, каб нехта абмяркоўваў тое, што стала адбывацца навокал.

Усе былі тыя ж, але і не тыя ж. Часам даводзілася бачыць Бабарэку: схуднелы, змарнелы, ён бегаў па партыйных кабінетах, ратуючы «Узвышша», супроць якога разварнулася цэлая кампанія. Як асатанеўшы, узвышаўцаў дзяўблі і «Звязда», і «Полымя», і асабліва стараліся Гартны

з Дударом, і я думала: яны бэсцяць іх, быццам яны ворагі, але ж якія яны ворагі? Уладзік, Адам?

А хутка сталі бэсціць і Дудара з імі разам: штодня ў «Звяздзе» з'яўляліся разгромныя артыкулы альбо пра Дубоўку, альбо пра Дудара. Пісаў Міронычык — я нават не ведала, хто гэта. І з такой нянавісцю — супраць сваіх. Хіба яны былі ворагамі? Хіба праз іх станавілася цяжэй? Хіба яны былі павінныя ў тым, што не было каму абараніць Настассю на вёсцы? Я ўсё думала над гэтым, і мне падавалася, што я шмат чаго не ведаю, а яшчэ больш — не разумею, і таму ніяк не магу дадумацца.

Прыехала з Гомеля Зіна. Яе звольнілі з»Гомельскай праўды», выключылі з камсамола за тое, што яна адмовілася перакладаць для газеты звяздоўскі артыкул, у якім шальмаваліся Дудар і Зарэцкі. Зіна сядзела на маёй куханьцы, прымружвала вочы, зводзіла ў белую нітку смяшлівыя свае вусны, і я дзівілася, якая яна аказалася цвёрдая, якая смелая, якая ўпартая, мой дарагі верабейка, мая Зіна. «Ты не думай, Наста, што гэта складана — зразумець, дзе вораг, а дзе сябар. Слухай сябе. Дудар і Зарэцкі — свае. Міронычык — не. Гэта, па-мойму, зразумела. Што тут думаць?» Калі я спытала яе, што цяпер будзе з яе членствам у камсамоле, яна зноў звяла вусны ў суровую нітку. «Разбяруцца. Я адмовіла ворагам і абараняла сваіх. Гэта, па-мойму, цалкам зразумела. І яны разбяруцца». Толька Вольны праз некалькі дзён забіраў яе ў Ленінград на сцэнарныя курсы, далей ад менскіх «разбіракаў», мне хацелася набыцца з ёю дасыта. Але і Зіна была іншая. Родная, але не тая. Я ўспаміналі педтэхнікум сваёй маладосці: тры гады таму, а падавалася — у іншым жыцці. Здаецца, ніхто з нас тады не быў адзін — заўсёды разам, у грамадзе, заўсёды ў нейкім цёплым чалавечым кубле. Успаміналі «Бельгію». Такая маладая куламеса, і адно аднаму сябра. Зараз людзі былі тыя ж — і не тыя ж. Ніхто не вёў шчырых гутарак, а калі хто і спрабаваў, дык астатнія неяк пужаліся, хавалі вочы, змаўкалі альбо халадзелі вачыма і сурова сціскалі вусны. Здаецца, учора ж мы яшчэ гутарылі з табой па-сяброўску, а сёння чамусьці ўжо не.

Я тады падумала яшчэ, што хлопцы — і Уладзік, і Дудар — адчулі ўсё гэта раней, чым мы. Я гартала Уладзікава «Credo» і Дударову «І залацісцей, і сталёвей» і зараз раптам убачыла, што яны адчувалі гэта ўсё раней.

А ў сакавіку Дудара арыштавалі.

У рэдакцыю гэтую вестку прынёс, здаецца, Зэлік Аксельрод: ён зайшоў у кабінет да Зільбера, зачыніў за сабой дзверы. Праз хвіліну выйшлі разам з Лазарам, абодва ў нейкай дзіўнай роспачы, з разгубленымі ўсмешкамі на тварах. Лазар зайшоў да нас, паклікаў мяне, мы выйшлі на вуліцу. «Наста, Дудар у ГПУ. Я хачу, каб ты ведала і каб маўчала. Чым крапчэй мы ўсе зараз будзем маўчаць, тым прасцей будзе яму там, зразумела?» А што я зразумела? Пра што я павінна была маўчаць? Я нічога не разумела, акрамя аднаго: Дудара арыштавалі.

Маўчаць мне не было пра што, да таго ж асабіста мяне ніхто ані пра што не пытаўся. Тры дні прайшлі як у тумане. Потым я пабачыла Дудара на вуліцы. Я ўжо ведала, што ён праседзеў два дні і выйшаў, даўшы падпіску аб нявыездзе, што чакае прысуду, потым ведала, што сасланы ў Смаленск, ведала, што гэта за верш, які ён чытаў направа і налева яшчэ ўзімку і які ляжаў перапісаным амаль у кожнага ў шуфлядзе, раней ляжаў, зразумела. Зараз тыя копіі папалілі ў грубках. Дудар ішоў па Савецкай у гурбе хлопцаў — з Чаротам, Кавалём, Сташэўскім. Нехта быў там яшчэ, і ён, высокі, прыгожы, рукі ў кішэнях.

Неўзабаве ён з'ехаў у Смаленск, казалі, пад канвоем. Мяне гэта асабліва ўразіла — пад канвоем. Аднойчы да мяне прыйшла Зіна, і мы пабеглі да Наташы. Тады я першы раз прыйшла на Праўдную, дзе яны жылі з Дударом.

На двары было брудна і тлумна: навакольная дзятва ўсчала нейкую гульню і збеглася з усёй вуліцы сюды на двор, у глыбіні якога ля плота мітусіліся казляняты, трывожна трэсла галавой каза, а ў хлеўчуку рохкалі парсючкі. Высокая, мужчынскага росту, шыракаплечая жанчына цягнула з дома ў хлеўчык агромністую балею — варыва парсючкам. Нешта няўлоўнае, але з першага ж погляду знаёмае было ў яе светлых вачах, прамой спіне, круглым твары, зграбных, нягледзячы на цяжар, рухах. Я зразумела: ягоная маці.

Яна паставіла балею. Агледзела нас.

— Вы, пэўна, да нас, дзяўчаткі, — нечакана ласкава прагучалі гэтыя словы. Чамусьці чакалася, што яна скажа нешта суровае, строгае. — Другая кватэра, пасярэдзіне, калі вы да Наташы. Адразу направа.

Драўляныя дошкі падлогі з гатоўнасцю рыпнулі пад нашымі нагамі. «Яны гэтак жа рыпелі яму», — падумалася мне. Дзверы налева былі адчыненыя, адтуль цягнула жытлом, кухняй, варывам, печкаю. У дзверы направа мы грукнулі і ўвайшлі. Акенца ў двор, фіраначка, чысценькі падаконнік. Паліцы з кнігамі па сцяне. Самаробны пісьмовы стол пасярэдзіне пакоя. Ложак ля грубкі. Куфар.

Наташа была ў зусім жахлівым стане: плакала, скардзілася на Дудара, які сваімі бязглуздымі паводзінамі ламае ёй жыццё. І піў, і бадзяўся абы з кім, і пісаў абы-што, а цяпер кінуў яе ў такім становішчы, добра яшчэ, што без дзяцей. Гартны спачатку даў Наташы падвышаную стыпендыю, ажно сорак пяць рублёў, але нехта адразу напісаў пра гэта ў ГПУ, і стыпендыю адабралі, пакінулі дваццаць рублёў, як усім.

Мы сядзелі і маўчалі. Зайшла ягоная мама, паставіла на стол малака і палову белай булкі, стала, склаўшы рукі на жываце.

— Бяда якая ў нас, дзяўчаткі, — ціха сказала. Наташа адвярнулася да сцяны.

Навокал было вельмі нервова. Арышт і высылка Дудара агаломшылі ўсіх. Потым я думала: а чаго мы ўсе чакалі? На нашай памяці ўвесь час не-

кага арыштоўвалі, цягалі ў ГПУ, дапытвалі, адпраўлялі некуды. Недалёка ад Інбелкульта ў дваццатыя месціўся канцлагер для «контррэвалюцыі». ГПУ не сыходзіла з языкоў. Шукайла, дык той у любым выпадку крычаў: «Ты ў мяне паразмаўляеш у падвалах ГПУ!» Але гэта была нібыта такая гульня, у якую гулялі не мы. Што адбывалася з тымі людзьмі, якія траплялі ў тыя «падвалы», я не ведала. Пэўна, пра гэта часам гаварылі між сабой мужчыны, у тых гутарках, куды не было прынята запрашаць дзяўчат, але мы гэтую тэму… не, нават не абыходзілі. Яе для нас не існавала. Наша жыццё пачыналася і ішло ў такі час, калі кожны дзень і зусім побач людзі арыштоўвалі, абвінавачвалі, забівалі іншых людзей, і гэта было само сабой зразумелым: ворагаў трэба знішчаць, інакш ворагі знішчаць цябе.

Але Дудар не быў ворагам! Хуліганіў, так, не надта быў сур'ёзны, з некім сварыўся, з некім сябраваў, жыў, як усе, як чалавек, а не лозунг. І раптам аказалася, што гэтага жывога цёплага прыгожага чалавека можна так вось узяць і выкінуць у Смаленск. І ён не рыпнецца.

Цяпер я думала толькі пра яго — не так, як раней. Паступова ўнутры мяне вобраз таго вясёлага і лёгкага хлопца, якога я некалі кахала, змяняўся вобразам героя, мужнага змагара, якога ўтрымліваюць за кратамі варожыя сілы. Я дрэнна ўсведамляла тады, што адбываецца навокал мяне. Муж глядзеў хмура і сумна.

А ў жніўні дваццаць дзявятага здарылася страшнае — яшчэ страшнейшае за тое, што адбывалася з Дударом.

Гэта зноў было ў рэдакцыі «Штэрна». Мы чамусьці былі там усе, заканчваўся жнівень, вярталіся канікулянты, народу і ў рэдакцыях, і на вуліцах прыбывала. Затрэнькаў тэлефон, Лазар схапіў трубку, дасмейваючыся з нейкага жарціка, і раптам збялеў. «Ціха!» — крыкнуў ён, і ўсе сціхлі. Зільбер выслухаў таго, хто званіў, апусціў слухаўку і сказаў: «Трус памёр». Мы не адразу зразумелі: які трус? Хто памёр? Што такое? Разгубленыя твары, нехта нават збянтэжана ўсміхаецца, покуль у свядомасць кожнага ўваходзіць немагчымае: гэта ж пра Паўлюка, пра нашага Труса! Ён памёр?!

Апошні раз я бачыла яго на педфаку: ён паступіў на першы курс разам з Глебкам. Ён быў зусім іншы, як некалі ў педтэхнікуме — ціхі, сур'ёзны, амаль незаўважны. Нават педфакаўскія дзяўчаты паглядалі на яго без цікавасці: для іх ён быў надта просты. Але і Паўлюку, здаецца, было ўжо не да іх. Ён сур'ёзна заняўся вучобай — і ўсё роўна быў кранальны і смешны ў гэтай сваёй сур'ёзнасці.

— Настачка, хадзі сюды. Во тут давай станем, дзе няма нікога. Слухай. Уважліва слухай. І адкажы мне. Што такое спандэй? — неяк злавіў ён мяне ў калідоры. — Сорам пытацца ў Барычэўскага, а як ён у мяне запытае? — Паўлюк гаварыў так, нібыта гэта было галоўнае пытанне ягонага жыцця. Я нават стрымалася смяяцца: было відаць, што можна яго і пакрыўдзіць.

А зараз ён памёр.

Пачалі тэлефанаваць у «Вёску» Чорнаму, ён ужо ўсё ведаў і нават з'ездзіў у бальніцу пабачыць яго, мёртвага.

Расказвалі, ён ішоў пешшу з Магілёва — вандраваў летнімі канікуламі. Зайшоў у Ждановічы, там якраз адпачывалі Глебка, Каратай, Хведаровіч — звычайная ягоная кампанія, нашы ўсе хлопцы, педтэхнікумаўскія. Раптам адчуў сябе блага і пайшоў пешшу ў Менск. Дайшоў да бальніцы. Назваўся студэнтам. Каб сказаў, што паэт! Яго дагледзелі б, уратавалі б! Сказаў: студэнт Паўлюк Трус. Гэта ўжо потым, пасля, знайшлі ў ягонай вопратцы білет «Маладняка» і патэлефанавалі ў «Полымя». Паўлючок, родны, як жа так!

А потым мы яго хавалі.

Памятаю, што рамантавалі трамвайныя рэйкі, стаяў грукат, пыл, спёка, жоўтае менскае лета кацілася па вуліцах сухім пяском, і чорная чалавечая рака цякла да могілак, і на ёй, нібыта човен, калыхалася труна. Ён ляжаў у ёй змарнелы, худы, белы, наш Паўлюк, іншы, ціхі, самотны.

Яго неслі на руках па Савецкай, а на рагу, звярнуўшы да могілак, паклалі труну на катафалк: два белыя коні цягнулі пышна ўбраную фурманку, а на той фурманцы, упрыгожанай белымі кісейнымі полагамі, стаяла труна з нашым Паўлюком. І так яны не падыходзілі адзін да аднаго, полаг і Паўлюк! Чамусьці ўспомнілася адразу, як распавядаў пра яго Глебка: малым, васьмігадовым, Паўлюка ставілі аднаго за плугам, і ён павінен быў узараць бацькоўскае поле, і пакуль конь ішоў у баразне, не было бяды, а калі паварочваў і трэба было рукамі перацягваць плуг з баразны ў баразну, сіл не ставала — і Паўлюк сядаў і плакаў, а конь стаяў побач і вінавата ўздыхаў.

А цяпер белыя коні везлі яго на могілкі.

Мы трымаліся побач, белпедтэхнікумаўскія, хоць даўно ўжо жылі кожны сваім жыццём, а тут збіліся адно да аднаго, усе з пачырванелымі вачыма, з сінімі плямамі пад прыпухлымі вейкамі. Плакалі дзяўчаты, плакалі хлопцы, Глебка рыдаў уголас, Каратай абкусваў дрыжачыя вусны. Шмат казалі, розныя людзі, усе не тыя. «На ягонае месца прыйдуць тысячы новых Трусоў!» — крыкнуў нейкі выступоўца, і мы нават скалануліся: як тысячы? Як новых? Было балюча і крыўдна.

А як апусцілі ў глыбокую яму і пачалі засыпаць, заплакаў і Кузьма. Ён трымаўся, а тут не сцярпеў і заплакаў галасна, як дзіця. А сонца паліла і паліла, і рабочыя білі па рэйках, і жыццё працягвалася, і гэта было, напэўна, самае жахлівае — яно проста працягвалася, а Паўлюка ў ім ужо не было.

Узімку мы даведаліся, што Наташа разводзіцца з Дударом. Яна напісала яму ў Смаленск і падала заяву, з Пясочні прыехала яе маці. Мы з Зінай дапамагалі ім збіраць рэчы ў кватэры на Праваднай, і я ледзь не расплакалася ля іхняга куфра, вялікага, дыхтоўнага, з якога Наташа павыцягвала ягоныя рэчы. На падлозе валяўся маладнякоўскі пояс з кутасамі, шэры, падзёрты, з махрамі павылезлых нітак. Гальштукі віліся па ложку кублом бліскучых

рознакаляровых змей. Старэнькая гімнасцёрка — я ведала яе, у ёй ён калісь выступаў у нас у тэхнікуме. Я лаяла сябе: навошта сюды пайшла?! І радавалася ўпотай таксама.

Мама ягоная нават не зайшла ў сынаў пакой развітацца з нявесткай: бразгала нечым на двары, грукала ў хлеўчуку і не глядзела ў наш бок. І я адчула, што ў нечым вінаватая перад ёй.

# ГОРАД. СМАЛЕНСК

Ён сапраўды спрабаваў змагацца. У самы першы дзень, як яго прывезлі ў Смаленск, пасля неабходных фармальнасцяў у асобым аддзеле, спярша пайшоў у мясцовую рэдакцыю — знаёміцца. Тут жа дамовіўся, што будзе даваць ім раз на тыдзень аповесць з працягам, па-руску. Спытаўся, дзе бібліятэка, пайшоў і завёў там фармуляр. Маладая сімпатычная бібліятэкарка, паглядаючы на яго з-пад апушчаных веек, з гатоўнасцю адказала на запытанне пра кватэру: мая бабуля здае пакойчык з асобным уваходам, магу даць вам адрас. Ён заўсёды ведаў, што маладыя і сімпатычныя бібліятэкаркі не кінуць яго ў бядзе.

Два дні ён, не падымаючы галавы, пісаў першыя раздзелы абяцанай аповесці, выплёскваючы на паперу і крыўду, і злосць, і страх, і жаданне барацьбы. Сам сабою прыйшоў псеўданім: імя «Арцём» узяў ад уласнага героя з «Ветру з Усходу», імя добрага беларускага хлопца, сапсаванага маскоўскімі спакусамі, прозвішча «Яроцкі» — ад героя Зарэцкага, з «Голага звера», цыніка і злачынцы, які сеяў вакол сябе толькі благое. Ён ведаў, што ніхто ў Смаленску не зразумее ягонага тайнапісу, і быў вельмі задаволены гэтым. Пісаў захлёбваючыся, не перачытваў, не правіў, уставаў з-за стала, толькі каб папіць вады і з'есці наскора мамчыных, менскіх яшчэ прысмакаў.

А на трэці дзень наўпрост з раніцы навалілася чорная роспач. Ён ужо прачнуўся з ёю, з гэтай роспаччу. Усё напісанае мінулымі днямі ляжала недзе пад рэбрамі халодным каменнем — злое, волглае, неталенавітае, чужое, на чужой, каменнай мове. Але і тое, што пісаў калісь, ад самага пачатку, і той, першы, нумар «Савецкай Беларусі», і наступныя, і зборнікі, і артыкулы — усё, усё раптам падалося аслізлым, наіўным, прымітыўным. Ён ажно падхапіўся і сеў і адчуў страшэнную разгубленасць: дык што цяпер? Што цяпер? Хто я і чаму так?

І раптам у халодным святле нованароджанага ранку ўсё ўбачылася інакш, нязвыкла, але праўдзіва. І Наташа, якая магла б паехаць з ім

разам, але ж не паехала. І сябры, якія спачувальна ляпалі па плячы і лаялі Васілевіча, але ніводны не заступіўся, хоць бы так, як некалі заступіліся за Аляхновіча, і ён жа падпісваў той ліст, у якім прасілі Аляхновічу вызвалення. І Адамовіч, які заўсёды грэбліва крывіўся, называючы некага сачкамам, і чые паказанні, клапатліва перададзеныя цераз стол следчым, Дудар, разгублены ад здзіўлення, чытаў на допыце. І вершы свае, такія нязграбныя, дзіцячыя, словы ў рыфму, не болей за тое. І аднекуль сапраўдным пакараннем за той жарт, які называўся жыццём, — гэты чужы стылы горад, шэрыя дамы, гразкія вуліцы, хмурыя, насцярожаныя людзі, і ніводнай роднай душы побач.

Накатвала, кацілася на яго аднекуль з акна, плыло па пакоі, плюхала ўжо недзе пад ложкам, білася ў старыя спружыны: павыкідаюць жа зараз з бібліятэк кніжкі, вымятуць зараз адусюль, нават тое, што было зроблена, тыя кроплі, тыя няхай нягеглыя, але ж ягоныя радкі, абзацы — усё вынішчаць зараз, вымятуць, забароняць успамінаць, а яшчэ наверх заваляць нянавісцю і асуджэннем гэтае кволае, наіўнае, але ж маё, якому і радаваўся, з якога смуткаваў, і нічога не будзе болей. Нічога не будзе. Універсітэта не будзе. Дакладаў не будзе ў той адзінай светлай, залітай сонцам аўдыторыі, дзе ля нямытага акна стаяў прыгожы, заўсёды бліскуча апрануты і чыста паголены Барычэўскі, і, склаўшы рукі на грудзях, глядзеў на яго ўважліва, і раз-поразківаў прамоўленаму пародзістай сваёй галавой, і перапытваў з цікавасцю — гэтага ўсяго не будзе болей.

Хто схапіў яго, як куцёнка, і выкінуў сюды? Чаму не атрымалася абараніцца? Што ён зрабіў не так? Няўжо ў нейкага Васілевіча ці Сянкевіча болей моцы за яго? І чаму? Хто такія яны? І чаму яны гаспадараць? Што ён рабіў не так? Любіў сваё і абараняў сваё, чаму сталася, што гэта яго выкінулі са сваёй зямлі?

Роднае, цёплае, да чаго прывык і не заўважаў, а яно ж ратавала: вячэрні грукат чыгуноў ля печы, калі мамка, асцервянеўшы за дзень упраўляцца з вялікай сям'ёй, парадчыла кухню; малая, пругкая, імклівая Жэнька, якую можна было цішком прыхапіць пад пашкі і заказытаць да дурнога смеху і енкаў; і пах бацькавых папярос; і Наташа, жонка Наташа, са сваёй праклятай усмешкай, родная, каханая, гнуткая, такая гарачая зранку, калі, не прачнуўшыся яшчэ як след, вядзеш па яе мяккім, раскошным целе прагнай рукой... Сам сказаў не ехаць ёй, вучыцца, хадзіць ва ўніверсітэт, але ж чаму пагадзілася яна, чаму не ўзбунтавалася, чаму не палящела за ім? Хіба ён не ведаў, што не паляціць?

Ён ускочыў, хутка апрануўся. Шэсць гадзін раніцы, холадна. Нятоплена. Тое з ежы, што, плачучы, сабрала з сабой мамка, скончыцца сёння зранку. Усё ляцела ў тартарары.

Выскачыў з чужога, стылага, няўтульнага пакоя і пабег кружыць па вуліцах, чужых, нямілых. Блукаў у адчаі, проста кідаўся ў першыя ж павароты, без думкі, без мэты, толькі каб некуды ісці, але зноў і зноў вяртаўся да шэранькага дамка, зарослага малінай, і разумеў, што не вырвецца. Але асабліва горка станавілася ад таго, што ён жа недзе чытаў ужо пра тое, як нехта кідаецца па вуліцах і не можа вырвацца з іхных абдымкаў, і свае вершы недзе чытаў раней, і тое, што ўчора пісаў, ужо дзесьці было, і Наташа была, і як жа так выйшла, што ён трапіў у тое самае кола, і нашто тады было ўсё, усё, усё жыццё, усе гэтыя гады, уся гэтая сусветная бура, калі вось так зараз?.. Яно валілася і валілася, нібыта з неба, адчай, і крыўда, і туга, і ён яшчэ паспрабаваў сесці ўсё ж у пакойчыку за стол, і распачаў у цыратовым сшытачку. Яшчэ калісь у Віцебску з Настай набылі такія два, яму і ёй, і ягоны бадзяўся на Правадной па кутах, незапатрабаваны, бо ён не любіў пісаць у сшытках, а рваў сабе напалам аркушы жаўтаватай таннай паперы, і на гэтых палавінках утульна пісалася, але тут паспрабаваў раскласці ўсё, што віравала ўнутры, па радках, падвесці нейкі вынік, паставіць нейкія пытанні. Карацей, паспрабаваў распачаць дзённік, але кінуў на другім радку, і злосна закрэмзаў напісанае, і ўрэшце сплюнуў на падлогу, вышкраб з кішэняў некалькі рублёў — і пайшоў пытацца ў гаспадыні, дзе можна набыць гарэлкі.

Ён праваліўся ў нябыт амаль на тыдзень, а калі ачомаўся — страшны, няголены, апухлы, зусім разгублены, — аказалася, што ў Смаленску, зусім недалёка ад яго, жыве Лябецкі, якога памятаў яшчэ па Полацку, па дваццаць пятым годзе, калі спрабаваў наладзіць там працу маладнякоўскай філіі. Ён нібыта чакаў яго на вуліцы, той Лябецкі, стаяў і пазіраў з радаснай усмешкай, як Дудар павольна зачыняе за сабой веснічкі, асцярожна паварочваецца, каб не трасянуць чыгуннай, налітай болем галавой, і няспешна, нібы хворы, крочыць па вуліцы ў ягоны, Лябецкага, бок.

З таго дня ён учапіўся за Лябецкага абцугамі: аказалася, што аднаму немагчыма зусім. Вельмі хутка, літаральна праз некалькі дзён, ён зразумеў, што Лябецкі — сексот і дае ў асобы аддзел пасля кожнай гутаркі падрабязную справаздачу пра тое, што гаворыць, што робіць і пра што думае высланы, бо Аргаў, ягоны куратар ад тутэйшага ГПУ, асцярожна і нібыта выпадкова пытаўся менавіта пра тое, пра што гутарка ішла толькі з Лябецкім, але ж няхай. Аднаму можна ў пятлю. Ён ніколі ў жыцці не быў адзін, і не ўмеў гэтага. Пакрысе выцарапаўся, нават, стрымаўшы ваніты, дапісаў першыя тры аркушы аповесці і занёс у «Красноармейскую правду» — друкаваць. Там узялі, як абяцалі, але асаблівай радасці не выказалі.

Вядома ж.

Беларускія газеты ў шапік на вакзале дастаўляліся акуратна — на дзень пазней, чым у Менску. Таму быў у курсе ўсяго, чытаў нават шчыльней, як дома — прагна, ад літары да літары, і апошнюю старонку таксама, і абвесткі пра страты даведак і білетаў, і паведамленні пра аблігацыі, і яму падавалася тады, што нават пах адчувае — пах менскіх вуліц, мокрай гліны, нагрэтага сонцам дрэва, трывожнай ракі. І хоць чакаў гэтага, але нязменна дзівіўся, як сустракаў сваё прозвішча на старонках: у бязлітасным паведамленні «Полымя» пра сваё выключэнне з аб'яднання, у гнеўнай рэзалюцыі КПЗБ па сваёй контррэвалюцыйнай персоне, у яхідных перадруках з буржуазных польскіх газет, у якіх выказвалася спачуванне апальнаму паэту Дудару, у артыкулах па літаратурных пытаннях, у кожным з якіх аўтар — усё роўна хто — лічыў патрэбным даць кухталя ворагу Глыбоцкаму.

Аднойчы яму падалося, што ён, нібы кот, які ляціць з высачэзнага дрэва, і трэба круціцца ў паветры, напружваючы ўсе мускулы, каб усё ж упасці на лапы. У ліхаманцы гэтага кручэння напісаў на імя рэдактара «Савецкай Беларусі» заяву супраць скарыстання свайго імя ў спачувальных заявах фашыстоўскай прэсы, занёс у асобы аддзел, там ухвалілі, але ў друк не аддалі. Сеў пісаць паэму «Паўлюк Багрым», у якой хацеў стаць на патрэбныя рэйкі і выправіцца, выйсці на пралетарскую лінію — усё адно атрымлівалася па-свойму, па-беларуску, ніякага інтэрнацыяналізму. Кінуў. Не атрымлівалася падаць на лапы. Прачнуўся неяк уночы мокры ўвесь, абліты потам, у страшным жаху: што я раблю? Выю, як сабака на ланцугу. Стала сорамна нават перад чэкістамі. Успомніў задаволеную пысу Аргава: цяпер не адмыешся, у друк не пайшло, але ж у папку легла, і дакажы цяпер, што цябе не зламалі. Няўжо зламалі? За месяц які зламалі? Дык колькі кошту табе, Алесь Дайлідовіч, беларускі паэт Дудар?

Тады пачаў гузакоў шукаць. З Лябецкім гутарку павёў крута: пра тое, што КПБ даскачацца, што беларусы ўрэшце кінуць цярпець і створаць сваю партыю, нацыянальную, і досвед Грамады паказвае, што гэта будзе масавая і моцная партыя, і шмат хто з камуністаў пойдзе ў яе, бо для беларуса рэвалюцыя — гэта нацыянальная рэвалюцыя, і нішто іншае. Лябецкі горача ківаў, падтакваў. У аповесці рэзка развярнуў сюжэт: от, зараз спяю вам арыю маскоўскага госця! Пасяліў побач з галоўным героем беларуса-смаленчука і асцярожна павёў пра Себеж, пра Невель, пра дзядоў, што баранілі гэтую зямлю ад маскавітаў. Здаецца, яны бралі да друку, але не чыталі, бо пакуль што ніякай рэакцыі не было. Але гэтае хуліганства не мела ніякага водгуку, Аргаў штотыдзень сустракаў ветліва, задаваў пытанні, адзначаў нешта ў паперах, развітваўся. Зноў ахоплівала роспач.

Між тым прыйшло лета.

Смаленскае лета было пыльнае і парнае, цяжкае і нуднае. Шмат піў, у асноўным – са шчадротаў Лябецкага. Амаль нічога не еў. Друкаваць яго перасталі. Грошай не было зусім – раз на месяц колькі рублёў прысылала поштай мамка. Наташа не пісала. Дый ён ёй не пісаў. Аднойчы моцна захацелася напісаць ліст да Насты. Але пакуль думаў, дзе ўзяць яе хатні адрас, каб не пісаць на рэдакцыю «Штэрна» – ведаў, што яна там, – спахапіўся: не хапала ўблытаць сюды яшчэ і Насту, лістом ад высланага. Выйсця не было ніякага.

А ў ліпені прыехаў Валька. Пасярод самых цяжкіх дзён. Ён нават не грукаў у дзверы – проста адчыніў і гукнуў:

— Ёсць хто жывы?

Дудар падхапіўся з ложка – змяты, няголены, разгублены. Валька стаяў у дзвярным праёме – зусім немагчымы, нібы фата-маргана.

— Маракоў! – чамусьці шэптам ускрыкнуў Дудар і кінуўся Вальку ў абдымкі.

— Дык вось ён які, наш герой! – крыху штучна, праглытваючы камяк у горле, жартуе Валька. – Дзяўчатам не пакажаш такога! А ў Менску ж толькі і гутарак: Дудар дый Дудар, як там наш Дудар, ці трымаецца наш Дудар, каб усе былі, як Дудар. Увесь былы «Маладняк» штодня п'е за здароўе свайго першапачынальніка. А ён, пабач, тыдзень не расчэсваўся! Героі, Шурка, павінны быць паголеныя! Дзе тут у цябе які цырульнік, якому можна даверыць твар беларускага героя? Пайшлі, бо ў гэткім логавішчы я не збіраюся бавіць свае смаленскія канікулы! Вядзі, паказвай горад!

Дудар пакуль не можа патрапіць у тую менскую інтанацыю, з якой гутарыў з Валькам некалі дома – дураслівую, кплівую, звысоку, бо надта ж малады і бесталковы той Валька. Ай да малады, ай да бесталковы, братка ж ты мой, чалавек! Надта нечакана, дужа шчаслівa. Дудар стаіць пасярод пакоя і радасна, разгублена міргае. Тая хваля агульнага спачування яму і захаплення ім, якая накатвала на яго з усіх бакоў перад ад'ездам з Менска, плешча зараз з блакітных Валькавых вачэй, лечыць і ратуе: не дарэмна ўсё, значыцца.

Яны сапраўды ідуць на вуліцу, і на рагу Савецкай і Нікольскай Валька штурхае сябра ў дзверы з надпісам «Парикмахерская», а потым – абодва цяпер прыгожыя, блакітнавокія, узрушаныя сустрэчай – шпацыруюць па Пушкінскай, сядзяць на лавачках у Блонье, і Валька перакідваецца жартачкамі з дзяўчатамі, і дзяўчаты ахвотна адказваюць, з цікавасцю паглядаючы на гэткіх фацэтаў.

— Слухай, Валька, я з дзяўчатамі два месяцы ўжо не размаўляў нават, не тое што нешта там, – са здзіўленнем шэпча Вальку Дудар.

— Ну дык ты здурнеў, брат. Зусім сапсаваўся. Трэба ж узяць сябе ў рукі!

Абодва рагочуць — крэпкі атрымаўся каламбур, салёны. Адрагатаўшы, Валька асцярожна пазірае на Шурку: ці не спытаецца, як там Наташа. Але той не пытаецца.

Зноў ідуць гуляць. Гэтым разам лезуць на крапасныя сцены, заглядаюць у чорную цемру сутарэнняў, скачуць па дошках і цаглінах унутры напаўразваленых вежаў. Паліць сонца, мацнее гарачыня, і разам з ёй мацнее звычайны смаленскі смурод. Покуль не пройдзе дождж і не змые ў Дняпро змесціва сцёкавых калодзежаў, у паветры будзе стаяць устойлівы моташны пах чалавечых выпаражняў — у Смаленску няма каналізацыі. «Чорт, Шурка, як ты тут жывеш? — на твары Маракова не агіда — здзіўленне. — На што ўжо Менск дупа, але хоць гаўном не нясе... Нават у Козыраве маім нешта такім не патыхае...»

З абеду, набыўшы на Валькавы грошы ў краме гарэлкі і хлеба, захапіўшы на рынку цыбуліну і агурок, вяртаюцца ў Дудароў пакойчык. Крыху прыграбаюцца, вызваляюць месца на стале.

— Слухай, а торба ж мая дзе! — б’е сябе рукой па ілбе Валька. — Я ж як на Праўдную хадзіў адраса пытацца, Вольга Іванаўна пакуначак табе сабрала!

— Каб табе ў пекле чэрці так вады забываліся падаць, Валька! — падскоквае Дудар.

Акраец сала, сухія, шчодра пасыпаныя цукрам коржыкі — мамчыны, ромбам нарэзаныя, крыху падпечаныя з аднаго боку, і пахнуць домам, хоць і змяліся ў Валькавай торбе.

— Дзе мамка твая сала тое ўзяла, не ведаю, Менск галадуе, — весела рапартуе Маракоў. — У Доме пісьменніка суп даюць з адных буракоў з морквачкамі, мяса ў талерцы хоць бы ўвесь абед пільнаваў — не ўпільнуеш. На другое — бульба з селядцом.

— А Наташа як? — нарэшце пытаецца Шурка, дрыготкімі рукамі адразаючы сала, якога не бачыў ад самага ад’езду.

— Нармальна. Вучыцца. Дык пісала ж табе, пэўна, — неяк убок адказвае Валька.

Дудар ківае галавой.

— Давай, Валька, а то слінай заглынуся, далібог, — і сябрына пачынаецца.

Валька — родны і свой, сала пругкае, ажно салодкае, і столькі трэба спытацца, і столькі сказаць.

Валька распавядае, што з Масквы прыслалі камісію на чале з Затонскім, і яна правярае нацыянальную палітыку КПБ, і, напэўна ж, нарэшце разбяруцца, што нашыя мясцовыя ад вялікага розуму

пазаціскалі гайкі не там, дзе трэба. Кажа таксама, што рэй цяпер у БелАПП вядзе хвацкі Броўка, і Ліманоўскі, і Гародня, а яшчэ Галавач, і што гэта, вядома ж, і не проза, і не паэзія, а лозунгі, і яны яшчэ гучнейшыя, чым маладнякоўская бурапена, і што літаратуры ў Менску зусім няма, а гаўна хапае, і што ў Смаленску хоць бы паветра смярдзіць, а ў Менску — газеты і кніжкі. Яшчэ казаў, што горад моцна галадуе, і нават у сакавіку, як Дудар ад'язджаў, было сытней, а цяпер зусім дрэнна, і надта сапсаваўся хлеб, і каб не расло паўсюль крапівы, дык няма чаго было б есці, покуль дачакаешся восені. Казаў, што хлопцы моцна п'юць, і толькі Трус прыходзіць у Дом пісьменніка зусім цвярозы і сур'ёзны, пасядзіць разам з усімі, узяўшы піва, і нават не каўтане. Так і пойдзе. А Звонак з Наташаю...

— Звонак? З Наташаю? З якой? З маёй?

— З Вішнеўскаю, ну. Не сумаваць жа дзяўчыне. Калі ў кіно выведзе. Дамоў правядзе.

— Ага.

— Так, а што за «ага»?

— Ды нічога, Валька, не зважай. Давай далей.

— Не, а што? Нейкае дробнабуржуазнае «ага». Нібыта такое раўнівае.

— Валька, пакінь.

І Валька паслухмяна спыняецца наконт Наташы і працягвае свой расповед — і праз некалькі хвілінаў няёмкасць знікае. Мо яе і не было. А калі і была — Маракоў рады, што назваў Звонака.

Пад вечар гутарка пайшла жарчэй — пачаліся вершы. Даўно! Як даўно гэта было, каб за сталом чыталіся вершы! Здаецца, у мінулым жыцці. Валька чытаў — і дзіваваўся Дудар: якая ж унутраная моц у хлопцы гэтым, які ён сапраўдны паэт будзе, як не зацягнуць яго ў БелАПП! Піша, здаецца, проста, вобразы штампаваныя, слоўнікавы запас — мінімум, чатыры радкі страфа, рыфма «сны — вясны», але ж якое пачуццё, якое хваляванне па-за гэтым радком! Вось і зразумей, вось і кажы каму, што такое паэзія і што такое паэт, як будзе ўсё ў вершы нязграбнае, але ўсё сапраўднае. Не звяртаў ён увагі на Вальку, а вунь яно як. Паэт Валеры Маракоў. Тут ужо і пытанняў няма. А некалі ж гэта ён, Дудар, сам зялёны яшчэ, хоць і пры ўласных кніжках, рэдагаваў першыя спробы Валькавы, якія той прыносіў у рэдакцыю, ружовашчокі, усхваляваны, зусім хлапчук. Вырас Валька, ай ды сукін сын!

Вершы ў Валькі заўсёды браліся невядома адкуль. Здавалася, яны проста родзяцца ў ягоных кішэнях. Раз — і дастаў верш. Ніхто і ніколі не бачыў, каб Валька ці хадзіў задуменны, ці чырыкаў нешта на паперы, ці ўзняў вочы ўгару. Тодзік — той адразу станавіўся

нейкім незямным, зусім бездапаможным, калі «думаў вершы». Вольны садзіўся за стол і запускаў руку ў валасы, пісаў цяжка, пяро рыпела, папера рвалася. Купала хадзіў некалькі дзён моўчкі, дык ведалі ўжо: унутры спее верш. Трус хаваўся некуды ў кут, але радасна рагатаў адтуль, як складаўся радок. Дудар браўся хадзіць: ці па калідоры рэдакцыі, ці — лепей — па вуліцы. А ў Маракова яны проста з'яўляліся. Выпілі ўжо нямала, і Дудар адчувае, як рассуропліваецца. Вочы пашчыпвае, да горла падпаўзае камяк. Ніхто не прыехаў: ані сябар Толька, ані сябар Зарэцкі, што ўжо пра іншых казаць. На Правадной раней бітма ў пакой набіваліся, дом ходырам хадзіў ад таварыскай бяседы, нікому ніколі адмовы ад стала не было, але як бяда — нікога побач няма. Наташа не прыехала, хоць канікулы ва ўніверсітэце і яна вольная. Валька прыехаў. А да яго ж ніхто і ніколі не ставіўся сур'ёзна. Кепікі адны, ніводнага разу нават не гутарылі так, па-сяброўску. Чалавек ты мой, дарагі Валька.

Што ж ты думаеш, не разумею, нашто ты мне пра Звонака сказаў? Разумею. Ведаю сваю Наташу, усмешку яе памятаю. Вочы яе, касу залатую. Звонак даўно, пры мне яшчэ, глядзеў на яе, рот разявіўшы. Ходзіць, значыцца, вакол яе. Суцяшае. А муж харошы: нарабіў спраў, падставіў дзяўчыну і сядзіць цяпер, крыўдуе, што яна не піша. А як пісаць? Каму пісаць? Сасланаму за контррэвалюцыю? Хлопцы ў Менску абяцалі, вядома ж, прасачыць, каб Наташы нічога не было, каб не спаганялі на ёй ягоныя грахі, але ці лёгка ёй там? Нялёгка ж, мусіць. Горш, чым яму, бо ён сам за сябе пакутуе, а яна за што? Толькі за тое, што замуж за яго пайшла.

Раптам успамінаецца яму Толькава Ганя. Як суцяшаў яе, няшчасную, п'яную, абдымаў, гладзіў па галаве, бы малую, і як чаплялася яна гарачымі рукамі за ягоную шыю, успамінае і вусны, і вочы яе, чорныя, вільготныя, бездапаможныя, і саму, кволую, як дзіця. І Дудара ажно перасмыкае, нават Маракоў глядзіць запытальна.

— Нешта гарэлка не ў тое горла пайшла.

— А ты адным горлам пі, Шурка, тады яна не паблытае, — ласкава кажа Маракоў.

І падаецца Шурку, што гэта Валька, а не ён, старэйшы, мудрэйшы за яго, што варта толькі спытацца ў Валькі, што яму, Шурку, зараз рабіць з усім: з сабою, са сваёй галавой, са сваімі думкамі, са сваімі вершамі, з характарам дурным сваім, з беднай ягонай Наташаю, — і Валька скажа, што рабіць, і ён, Шурка, зробіць, добра зробіць, як след, так, як рабіў некалі хатнія заданні па французскай, «ад сіх да сіх», і ўсе пабачаць, які ён старанны і разумны хлопец, і адпусцяць яго, і ён вернецца дадому.

І калі на золку яны, так і не спаўшы, выпраўляюцца на вакзал, бо хутка адыходзіць цягнік на Менск, — няма на ўсім белым свеце мацнейшых сяброў.

І гэта быў апошні дзень, у які ён адчуваў сябе ранейшым. У верасні прыехала Наташа.

Чужая, халодная. Схапіў яе адразу ў абдымкі, не разабраўшыся, што за настрой у яе, з чым прыехала, пра што думала. Яна неяк нібыта ўпіралася, не адгукалася на пацалункі, на пяшчоты, амаль згвалціў яе, вар'яцеючы ад яе галавакружнага паху, якім поўніўся ўвесь ягоны брудны, няўтульны пакой. Гэтая прыгожая залатая галава на ягонай шэрай каменнай падушцы, сціснутыя вусны, звездзеныя пакутай бровы — што ж такое адбывалася, Наташа? Ён чакаў ад яе палёгкі, а стала толькі цяжэй. Шаптаў ёй пяшчотныя словы, цалаваў, песціў, лашчыў — і бачыў, што блага ёй.

А тады, як падняліся з ложка, нібыта блізкія зноў, а нібыта яшчэ болей чужыя, расказала, што выклікаў яе Сянкевіч і патрабаваў парваць з мужам усялякія зносіны. Маўляў, выкінем з БДУ, з БелАПП, працы не дадзім, пойдзеш у афіцыянткі.

Адсюль і пачалося.

Ён шалеў ад злосці, пырскаў слінай, кідаўся ад сцяны да сцяны, спрабаваў супакоіцца, але не атрымлівалася, і Наташа так і паехала, не пачуўшы ад яго спакойнага, узважанага рашэння. Яно, тое рашэнне, прыйшло потым ужо, і ён напісаў ёй вялікі ліст, у якім тлумачыў усё, што будзе рабіць ён і што трэба рабіць ёй, пісаў і адчуваў, што позна. Галавач і Александровіч, якім пісаў з просьбамі, каб дапамаглі Вішнеўскай, не адказвалі. Аргаў, да якога занёс быў яшчэ адну рэзалюцыю аб прызнанні сваіх памылак, тэкст ухваліў, але ў друк зноў жа не аддаў. Газеты, якія спраўна прыходзілі ў шапік на вакзале, прыносілі несуцяшальныя весткі: пачалі лупіць беларусаў наогул. Ільючонак выключаны з партыі, выключаны і Марук, страшна, несупынна б'е хваля за хваляй крытыка на адрас Гартнага, Прышчэпава, пачынаюць гваздаць Зарэцкага, інтэрнацыянал пайшоў у наступ на нацдэмаў. Цяпер успомніліся словы Лябецкага пра замежны друк, пра магчымасць пераправіць вершы ў польскія газеты, і ён сапраўды спытаўся у Лябецкага, ці ёсць яшчэ такая магчымасць. Той асцярожна абяцаў удакладніць. Унутры яго нараджалася бура, і ён гатовы быў адмовіцца ад усяго, чаму верыў з самага свайго дзяцінства.

Зіма ішла цяжкая, смаленская — шэрая, злая, бясснежная, з ветрам і вільгаццю. Наташа не пісала. Ніхто наогул не пісаў. Ён адчуў, што зусім заблытаўся.

У снежні ў вакзальны шапік прывезлі газеты з заявай Жылуновіча аб ягоным адмаўленні ад папярэдняй палітычнай лініі. Недзе

тады ж у «Звяздзе» разбіралася выступленне зацятага пілсудчыка Галоўкі, у якім Дудар раптам з жахам пазнаў свае думкі і нават свае фармулёўкі. Даваяваўся да хаўруса з буржуазнай Польшчай.

Атрымлівалася, што ён і сапраўды здраджваў усяму таму, дзеля чаго біўся і працаваў усе гэтыя гады, ад самых сваіх шаснаццаці: рэвалюцыі, пралетарскай літаратуры, «Маладняку», «Савецкай Беларусі», сваёй краіне, Наташы, якая зараз прымала на сябе ўвесь цяжар ягонай здрады. Як гэта адбылося, чаму? Немагчыма было зразумець. У студзені ў Смаленск прыехала беларуская дэлегацыя: Чарот, Александровіч, Галавач, Фамін. Да яго ніхто не зайшоў. Ён сам ледзь не пільнаваў іх на вуліцах і, пабачыўшы Фаміна, напрасіўся на кватэру, дзе тыя спыніліся. Сустрэлі яго халодна, Чарот нават лаянкай. Ніхто не хацеў пэцкацца аб яго.

Тады ён ізноў узяўся пісаць, цяпер па-новаму, шчыра, не падманваючы, прызнаючы ўсё, у чым не меў рацыю.

Выходзіла блага. Вершаў не атрымлівалася. Кінуў.

## ГОРАД. МАСКВА

Ці адчувае ён, Уладзімір Дубоўка, разгубленасць? Не, не адчувае. Усё ж сітуацыя пад ягоным кантролем. Ён бачыць, што лісты Адаму і Адамавы да яго ўскрываюцца і прачытваюцца. Кім і дзе? У Менску? У Маскве? Сваімі ці чужымі? У любым выпадку ён гэта бачыць, а значыцца, мяч на ягоным баку. Ён разумее, што адбываецца і хто за гэтым стаіць: за адстаўкай Луначарскага, за кампаніяй супраць Пільняка і Замяціна, за чысткамі ў Акадэміі навук і звальненнем дырэктара МХАТа (ці пойдзе працэс далей, на Менск?). Тут зачышчаюць прастору пад правадыра, але ў Менску ўсё прасцей: там вёска, адзін аднаго ведаюць усе, пытанні вырашаюцца інакш, драбней, можа, больш ганебна, але ўсё ж больш бяспечна. Між тым, у Менск – ані нагой. Сам прападзе і таварышаў пацягне, там яго першага зачэпіць, як толькі рыпнецца. Усе гэтыя Гартныя толькі і чакаюць, каб ляснуць зубамі ля ягонага горла. Але Сянкевіч і Адамовіч на ягоным баку, Галадзед – прыязны. Значыцца, пакуль жывём і працуем, у кожным разе – глядзім вакол сябе і аналізуем тое, што адбываецца.

Усё ж было зразумела, яшчэ тады, у студзені, калі раскалолася «Узвышша».

Як ён гэтага баяўся і як зберагаў хлопцаў, але ж бач ты... Здавалася, так надзейна, так моцна было пабудавана згуртаванне, такі быў

святы сяброўскі хаўрус... Яшчэ як думалі на двух з Адамам, як прымаць ва «Узвышша», як стаяць адзін за аднаго, як самім для хлопцаў аддаваць усё: сілы, грошы, месца ў часопісе, сувязі, магчымасці, каб відаць было кожнаму, што мы адзін за аднаго, мы аднадумцы-паплечнікі... Пераацаніў? Ну, Лужанін з Глебкам — тое зразумела. Стрыжня ў іх няма, нават злавацца не выпадае. Але Кандрат... Але Кузьма... Адной гутаркі ў ГПУ хапіла ўсім, каб падпісаць прызнанне памылак. Як перажыў Адам тое пасяджэнне, немагчыма сабе ўявіць. Нават уяўляць не хацелася. Добра, што ён тады не паехаў з Масквы. Даруй, Адаме. Толькі перад табой і сорамна.

Ці адчувае ён страх цяпер? Не, не адчувае. Толькі напружанне большае за звычайнае. Тут галоўнае, каб не пачалі лупіць беларусаў наогул. У Маскве гэтым, вядома, не займаюцца, а там паляванне на апазіцыю можа пераўтварыцца якраз у гэта — у паляванне на беларусаў. Сталін крута бярэ, і не толькі вакол сябе, у Крамлі. Троцкі высланы. Бухарын аб'яўлены ледзь не асабістым ворагам генсека за «маленькага ўсходняга дэспата». Яно, вядома ж, смела было сказана на пленуме, але ж Бухарын мае рацыю: паскораная рэпрэсіўная калектывізацыя знішчыць усё, што ўдалося пабудаваць. Калгасы, можа, і перспектыва — але селяніну трэба даваць шанец прывыкнуць, паразважаць, вырашыць самому. Як беларуса запхнуць у калгас? Падаецца немагчымым. Тут усё ж мае рацыю Прышчэпаў са сваімі хутарамі і трактарамі ў бестэрміновую арэнду. Але Прышчэпаву цяпер трэба берагчыся. Усім трэба быць пільнымі. Трацкістаў у Менску мо і не адшукаюць, але і за бухарынцаў, і за нацдэмаў могуць узяцца — і дома, і ва Украіне, і паўсюль. Пра гэта глуха шамацяць у крамлёўскіх калідорах: маўляў, калі папусціць, калі даць зашмат самастойнасці, контррэвалюцыя падыме галаву якраз за кошт нацыяналістаў. А хто ў іх нацыяналіст? Кожны, хто за сваё.

Але і поўзаць, галавы не падымаючы, не будзеш. Мы не рабы, рабы не мы. Трэба толькі ўзважыць усё і зразумець: дзе ты сапраўды нечага не разумееш і таму памыляешся, а дзе ты маеш усё ж права на тое, каб карэктаваць тое, што адбываецца. Усё ж мы разам будуем гэтую краіну. І нашымі рукамі ставілася яна. Улада пралетарыяту — значыцца, наша.

Глыбоцкага выслалі — жорстка. Але ж не дзіўна. Ён неасцярожны хлопец. Ён наогул не барацьбіт — так, звычайнае звягала, направа і налева ляманту. Так справы не робяцца, як ён спрабаваў іх рабіць. Крык, гвалт, порсканне слінай. Ніколі не думаў пра наступствы, ляпне, а раніцой дзівіцца: што парабілася?

Дубоўка падыходзіць да акна. Уночы Масква нічым не адрозніваецца ад Менска. Тая ж ноч за акном, ціша і цемра. Хіба што дыханне

ў Масквы моцнае, суровае. Менск дыхае інакш – ціха, з усхліпамі. Менская ноч трывожная. Маскоўская – злая.

А ў Манькавічах ноч дыхала, бы дзіця. Ціха, але ўсё ж чутно – во як зараз сапе малы Альгерд. Здаецца, ціхенька-ціхенька, але ж і тут, у сваім пакойчыку-кабінеце, Дубоўка чуе яго. І гэты ціхі гук, і гэты пах – нагрэтай сухой травы, блізкай вады і тапалінага пуху.

У сакавіку іх сцёбалі ў беларускай прэсе на роўных – Дубоўку і Дудара-Глыбоцкага. Цяжка было стрымацца нават, каб не пасмяяцца: два заклятыя ворагі ляжалі зараз на адной лаўцы пад адным дубцом. Цікава, хто распачаў гэтую кампанію, хто дыктаваў Міронычыку тэмы і цытаты ягоных артыкулаў. Гартны? Катэгарычна не, ён не здаў бы свайго выхаванца Глыбоцкага. Стасевіч? Больш верагодна. Ён іх усіх, хто вытыркаецца, ненавідзіць. Васілевіч? А гэты наўрад ці пайшоў бы супраць самога Дубоўкі. Але ж адчувалася нейкая адна рука за гэтымі артыкуламі. Цяпер Дудар высланы. Ягоная чарга?

Чорта з два дастануць яго ў Маскве.

На заўтра запісаўся на прыём да Керванцава. Трэба быць пільным і асцярожным. Трэба ўзважваць кожны свой крок. Аднаго шкада: яны зараз не поплеч з Адамам. Бабарэку там цяжка аднаму. Адам якраз і можа аступіцца – і не таму, што, як Глыбоцкі, не разумее рызыкаў. Таму, што галубіная душа ў чалавека. Проста не верыць у тое, што нехта можа ўсміхацца яму ў вочы – і перлюстраваць ягоныя лісты ў Маскву. Адам не па гэтым часе чалавек. Сэрца баліць за яго. Як за сына, за Альгерда – гэтаксама.

І толькі вершаў пісаць не хочацца. Часцяком наогул не разумее, навошта яны.

Пераклады, артыкулы, крытыка, асвета, алфавіт, навука – тут зразумелы і плён, і тактыка, і стратэгія, і чаканы вынік. З вершамі не тое. Час зусім не для вершаў. Немагчыма адкрыцца. Немагчыма паставіць тое слова, якое трэба. Немагчыма быць шчырым. Дудар, можа, слабы як паэт, але ён таленавіта шчыры. Таму Дудара найперш закрылі як паэта. Дубоўку, калі закрыюць, закрыюць за іншае. За «Узвышша», за праграмныя артыкулы, за паэмы, якія больш публіцыстыка, чым паэзія.

Ён кладзецца тут жа, у кабінеце, Марылька спіць у пакойчыку з малым, прыбягаючы да яго палашчыцца зранку. Канапка вузенькая, караценькая – на ягоны рост не робіць канапак савецкая прамысловасць. Але загартоўка ратуе: намацаўшы спінай зручныя, прылёжаныя ўжо ямкі, замірае і больш не круціцца. Нічога, можна выспацца і так. Заўтра цяжкі дзень. Трэба спаць.

І праз некалькі хвілін ён ужо роўна, глыбока дыхае – гэтаксама, як за вокнамі дыхае Масква.

А раніцой навальваецца ўсё тое, што ўчора так старанна і так, здавалася, паспяхова гнаў ад сябе ўвечары: і страх, і разгубленасць, і неразуменне. Гэта за ім водзіцца апошнім часам — адчуваць няўпэўненасць раніцой і прыводзіць сябе ў парадак да вечара. Бо ніколі не ведаеш, што прынясе раніца.

Да Керженцава ён пайшоў паблізу абеду адразу з працы. Маленькая прыёмная перад ягоным кабінетам была, як заўсёды, поўная народу, але ён нікога не заўважыў, бо адразу кінулася ў вочы гіганцкая фігура ля акна, вышэйшая за іншыя на некалькі галоў — Маякоўскі.

Адразу падышоў да яго: яны былі знаёмыя яшчэ з Брусаўскага інстытута, калі Маякоўскі з Бурлюком прыходзілі на семінары да Брусава ці на дыспуты, якія праводзіў Луначарскі. У Брусаўскім інстытуце Маякоўскі звычайна быў спакайнейшы, чым на сваіх публічных выступах, уважліва слухаў, фармуляваў, калі прасілі, нешматслоўныя каментары. Дубоўку слухаў ён некалькі разоў, і кожны раз, ажно павярнуўшы галаву вухам да выступоўцы, пільнаваў асаблівыя слоўцы ці граматыку, аднойчы нават папрасіў запісаць рыфмы. Таму зараз, пабачыўшы над натоўпам, на некалькі галоў вышэйшага за астатніх, Дубоўку, кіўнуў яму і працягнуў руку.

«Ты одна мне ростом вровень», — заўсёды ўспамінаўся Дубоўку гэты радок Маякоўскага, як даводзілася ім перастрэцца дзе-небудзь: абодва гіганты, шыракаплечыя, магутнадалонныя. Маякоўскі хіба больш рэзкі ў рухах, Дубоўка спакайнейшы, больш далікатны. Напісана зусім з іншай нагоды, але абавязкова мігціць у думках гэта: «ростом вровень». Так проста — і так важна. Ягоная Марылька, занадта высокая для дзяўчыны, яму, Дубоўку, «ростом вровень».

Яны стаялі побач ля акна, абодва маўчалі. З калідора нёсся звычайны для крамлёўскіх будынкаў шалёны грукат ундэрвудаў.

«Товарищ Маяковский, пожалуйста», — аб'явіла стомленая сакратарка, не падымаючы нават вачэй туды, дзе запытліва, пранізліва глядзелі на яе вочы Маякоўскага.

Ён выйшаў хутка, праз пяць хвілін. Яшчэ чарнейшы, чым заходзіў у кабінет. У адзін крок пераадолеў душную мітуслівую прастору прыёмнай і рашуча знік у цемры калідора, дзе рваліся з усіх сваіх ланцугоў друкаркі.

«Товарищ Дубовка, пожалуйста», — зноў аб'явіла сакратарка.

— Приветствую, Владимир Николаевич! — Керженцаў прыўзняўся ў крэсле, працягнуў руку Дубоўку. — У меня сегодня поэтический день. Правда, почему-то трагический. Только что Владимир Владимирович на жизнь жаловался, и у вас, смотрю, на лице не то чтобы радость написана.

— На жизнь жаловаться не приходится, Платон Михайлович, жизнь хороша и жить хорошо, как правильно отметил Владимир Владимирович, — асцярожна адкарэктаваў Дубоўка ўражанне, пакінутае Маякоўскім. — Но не без проблем. Враг не дремлет, и в поэзии — также.

— Вы хотите рассказать мне о врагах в поэзии?

— Упаси боже.

Кержанцаў шырока ўсміхнуўся.

— Хочу просить совета. Тяжело стало печататься в Минске. Последний сборник свой издавал здесь, в Москве. Но если Москва разрешает печатать белорусского поэта по-белорусски, что может помешать Минску напечатать собственного поэта у него дома? Говорят, я в поэзии расхожусь с линией партии. Но у меня складывается ощущение, что это кто-то там у нас в партии ведет неправильную линию. Разве может помешать партии, огромной силе, закаленной в боях, здоровая дискуссия по острым вопросам, которая ведется на страницах пролетарской печати? Почему вдруг нам, людям, которые своими руками строили это государство, затыкают рты на том основании только, что мы искривляем чью-то личную линию, выдаваемую за линию партии?

Кержанцаў слухаў уважліва, з ветлівай усмешкай і, здаецца, быў гатовы слухаць доўга. Але Дубоўка строга пралічыў свой выступ — не меней і не болей за патрэбнае. Пасля невялікай паўзы Кержанцаў, узняўшыся, падышоў да акна і запаліў папяросу, прапанаваўшы тое самае Дубоўку. Абодва зацягнуліся. Папяросы ў Кержанцава добрыя.

— Вот что я скажу вам, Владимир Николаевич. Переходите-ка вы на русский. Язык вы знаете блестяще, институт закончили здесь, учились у лучших наших педагогов, русская литература вам родная, живете вы в Москве. Нет никаких причин вам упрямиться. Здесь уж мы вас как-нибудь относительно линии партии сориентируем. Помощь, защиту, сборники, хотите, даже должность, пусть небольшую, но подыщем. Там же всё сложно, и будет еще сложнее. Таков мой вам совет.

Дубоўка глыбока зацягнуўся і выпусціў дым у акно, і воблачка ягонае сплыло на Маскву-раку. Паўза зусім малая — не большая і не меньшая за патрэбную.

— Спасибо, Платон Михайлович, за совет. И за разговор спасибо. Я всё понял. Мог бы — так и сделал бы. Но не могу.

Кержанцаў, са шчырай скрухай паціснуўшы плячыма, працягнуў Дубоўку руку.

— Вот и Маяковский поблагодарил, но не послушался. Иногда и мне хочется быть поэтом. Но чаще я радуюсь, что не поэт.

Дубоўка пасміхнуўся і, паціснуўшы яшчэ раз руку Кержанцаву, выйшаў з кабінета. Усё зразумела. Значыцца, і праўда наступная чарга — ягоная. Засталося толькі зразумець калі.

Ён крочыць цераз плошчу, выходзіць за сцяну, размашыста крочыць па Махавой, паварочвае на Цвярскую. У яго яшчэ з паўгадзіны, покуль трэба будзе вяртацца ў Крэмль. Не, ён не паспее прайсці кола сваёй маладосці — прадстаўніцтва на Мікіцкай, Брусаўскі інстытут на Паварской, Чырвоная Прэсня, Грузіны... Але якраз зараз гэтае кола раптам замыкаецца ўнутры яго. Здаецца, маладосць скончылася.

А назаўтра, чатырнаццатага красавіка трыццатага года, недзе ў адзінаццаць, з калідора ў іх крамлёўскі працоўны кабінет уварваўся нехта і крыкнуў: «Маяковский застрелился!»

Здаецца, Дубоўка дабег да Лубянкі за дзесяць хвілін. Узляцеў па лесвіцы на пяты паверх. Паўсюль унізе грудзіліся людзі, плакалі, гучна гутарылі, гукалі адзін аднаго, а там, наверсе, было ціха. Засяроджана, ціха працавалі міліцыянеры, асцярожна, сантыметр за сантыметрам аглядаючы пакой. Маякоўскі ляжаў галавой да акна, белы, нежывы. Упёршыся лбом у касяк, ціха і безупынна рыдаў Мікалай Асееў.

Ён ішоў дамоў з Лубянкі марудна — ніколі так не хадзіў па Маскве. Унутры спела рашучасць: не. Не так. Калі сапраўды гэта супрацьстаянне, дык трэба супрацьстаяць. Але не крыкам, не трыбунай, не патрабаваннем. Тут канец адзін — ці так, ці гэтак. Немагчыма творчасць — чорт з ёю, з творчасцю. Пісаць можна і ў стол. Навука. Тое, што па-за часам, па-за палітычнай паўсядзённасцю. Паэтыка. Этнаграфія. Гісторыя. Мы разменьваемся па драбязе ў гэтым газетным звяганні — хто з кім, хто за каго, ухілы, заганы, правыя, левыя, з намі, супраць нас. Гэта ўсё міне, як мінае любая паўсядзённасць, паэтыка застанецца. Колькі чарніла ахвяравана на грызню з Глыбоцкім. А грошы? Што з таго? Абодва зараз у дупе. Неяк саскочыць з гэтых калёсаў. Трэба пісаць Адаму, няхай тармазяць з «Узвышшам». Закрыць часопіс — не час для яго зараз. Пагутарыць з Туруком. Узяць паперы ў аспірантуру. Паехаць у Ленінград. Менавіта туды. Язэп кажа, там зусім спакойна. І заняцца нарэшце навукай — да чаго мае схільнасць найперш. Сесці ў кабінет і забыцца на гэты пустазвонны час. Словы, словы, словы — нічога, акрамя слоў. Усё сапраўднае — па-за імі.

Самае страшнае, што можна было б сёння зрабіць, — гэта напісаць верш памяці Маякоўскага. Верш часам бывае блюзнерствам. Часцяком.

# ГОРАД. МЕНСК

— Ты мне скажы толькі, харошая мая, дзевачка мая. Калі гэта проста страх, дык я абараню цябе, бачыш, я ўсё змог, я вырваўся, я дабіўся, каб яны выпусцілі мяне да цябе. Я забяру цябе, любая мая, будзем разам, нікому не аддам цябе цяпер. Калі яны моцна пагражаюць табе, не вер ім, яны нічога з табой не зробяць, я ведаю, чым спыніць іх, я іх спыню. Калі гэта страх, калі гэта проста боязь, Наташа, я клянуся табе, што зраблю ўсё, каб з табой нічога не здарылася.

Наташа маўчыць.

Дудар зваліўся як снег на галаву: ці можна было чакаць яго ў Менску? Але прыляцеў — на тры дні вырваў дазвол ад Аргава.

Пэўна, немагчыма было не даць яму гэты дазвол: калі Наташа прыслала пазоў аб разводзе, Дудар нібы звар'яцеў. Лябецкі, які ўзяўся аднекуль у хаце літаральна праз пяць хвілін пасля таго, як ліст быў ускрыты, пабачыў на свае вочы, як кідаецца па пакоі ягоны таварыш: б'е кулакамі ў сцены, ламае нагамі крэсла, шпурляе па кутах посуд. Адваяваўшы, кінуўся на ложак — і раптам сеў, белы, зусім спакойны. Пабачыўшы Лябецкага, задаволена кіўнуў. «Перадай ім: заўтра дастануць мяне з пятлі. Не ўпільнуеце».

— Каму — ім? — асцярожна, не кранаючыся з месца, удакладніў Лябецкі.

— Каму захочаш, таму і перадай. Ідзі зараз. Не хачу нікога.

Лябецкі выйшаў, але застаўся паблізу. Сеў, устрывожаны, у глыбіні двара на калоду. Было ціха, ніякіх гукаў з пакоя. Асцярожна заглянуў у акно. Дудар так і сядзеў на ложку нерухома. Лябецкі зноў вярнуўся на калоду.

Праз паўгадзіны раптоўна адчыніліся дзверы — рэзка, ажно скалыхнулася паветра ў двары. Дудар выйшаў з пакоя і рушыў з двара на вуліцу. Лябецкі пайшоў назіркам: здаецца, у аддзел, да Аргава. У аддзеле відавочна ўзнерваваліся. Тое было бачна па ветлівай усмешцы Аргава, пільным позірку сакратаркі і раней яшчэ, ад самага ўвахода, калі дзяжурны, узяўшы ў рукі ягоную паперчыну, нават не зазірнуў у яе, а кіўнуў і паказаў рукой на кабінет Аргава. Чакалі.

Аднекуль ужо ведалі, што зараз прыйдзе.

— Мне трэба на дзень у Менск.

— Александр Александрович, но вам в Минск нельзя. Вы это сами понимаете.

— Я не магу вырашыць асабістыя праблемы ліставаннем. Я павінен ехаць у Менск.

— Но это невозможно, Александр Александрович. Если бы мы еще надеялись, что и вы пойдете навстречу нам, и вы будете с пониманием относиться к нашим просьбам, и вы будете с нами искренним, честным, открытым, может быть, мы могли бы...

— Тады я аб'яўляю галадоўку. Покуль не выпусціце, есці не буду. Піць таксама. Гэта прыкладна восем дзён да смерці. Вырашайце.

Аргаў ветліва ўсміхнуўся і развёў рукамі.

Покуль Дудар ішоў дамоў, адзначыў пра сябе: нават не спыталіся, што за асабістыя праблемы ён збіраецца вырашаць. Усё ведалі ўжо. Лісты, вядома ж, чытаюць. Сукі. Такая машына — супраць дваіх. А хто прыходзіў да яе? Ці выклікалі? Чым палохалі? Што казалі? А раптам і не толькі гутарылі? Ад гэтых думак пачынала разрываць вантробы, нібыта нехта варочаў унутры вострым жыгалам. Выйсця няма, але не пятля. Гэткага не дачакаюцца.

Дома ён адразу ж кінуўся на ложак і ў тую ж хвіліну заснуў надзіва спакойным сном. Колькі спаў — не заўважыў, але прачнуўся ад ляпання дзвярэй і з вялікім задавальненнем пабачыў у пакоі Лябецкага.

— Дык а што здарылася, Шурка? — заклапочана спытаўся той, позіркам адшукваючы ў разбомбленай хаце якога ўслончыка, каб сесці. Стаяць перад ложкам было зусім нязручна.

— Аб'явіў галадоўку. Як хочуць сабе. Устану толькі пасцаць калі, покуль будзе чым. І на цягнік. Усё.

— Дык а з чаго ты ўзняўся? Прычына?

— Няважна. Яны ведаюць.

— Дур гэта, Шурка. У тваім становішчы гэтак нельга.

— Няважна.

— Дзівак чалавек. Калі я прапаноўваў табе з'ехаць на Вільню, ты адмовіўся. Прасіў вершаў у заходнюю прэсу — адмовіўся. Такі, пабач, бальшавік. Дык а што ты зараз упёрся? Усё па-іхняму правільна. Ты сам абраў заставацца тут, жыць па гэтых законах. Дык што цяпер гізаваць?

— Не твая справа, Лябецкі. Пакінь.

— Я цябе, Шурка, люблю і ўвесь час жадаю добрага. Таму не пакіну.

— Як хочаш. Мне цяпер справы ніякай няма, ляжу і чакаю. Ляпай што хочаш, мне ўсё роўна.

І ён сапраўды ляжаў — дзень, два, устаючы толькі, каб выйсці на двор, а на трэці дзень прыбег дзяжурны і выклікаў яго ў аддзел. Ішоў ён туды марудна, кружылася ў галаве, цягнула на ваніты, але недзе ў жываце ўсё ж круціла радасным прадчуваннем перамогі.

— Александр Александрович, что ж это вы… Зачем вы усугубляете свое и без того тяжелое положение? Вы должны понимать: такими методами с нами не разговаривают. Шантаж, угрозы, вот голодовка эта ваша, извините, конечно, но очень нелепая — это к чему? Это ведь не приведет к тому, к чему вам хотелось бы, а только вынудит нас принять к вам меры административного характера, — Аргаў быў нібыта сапраўды разгублены, нібыта сапраўды шкадаваў, што ўсё так выйшла.

— Вы не пакінулі мне іншай магчымасці развязаць мае пытанні, — нібыта змякчыў тон і Дудар.

— Ну почему не оставили? Оставили. Решение о вашей поездке принято, не сегодня-завтра вы получите разрешение, мы об этом подумали сразу же, как только вы к нам обратились, но вы же должны понимать. Процедуры, бумаги, согласования… Вы же не то чтобы простой гражданин. Вы всё-таки осужденный, и не по простой какой-нибудь статье, а за контрреволюцию. Такие вещи, Александр Александрович, требуют особенного внимания. Еще и характер ваш учитывая, ваше нежелание как-то… скажу прямо: дружить с нами…

Ён ужо не чуў, што там далей казаў Аргаў, зразумеў толькі: паедзе! Тут жа, у кабінеце, ён папрасіў вады і піў, піў, піў, і разам з цёплай іхняй вадой разбягалася па жылах шалёнае адчуванне: адзін супраць іх усіх, але ж перамога.

Папераў на выезд, праўда, Аргаў не даў. Не было іх і заўтра, і паслязаўтра. Дудар кідаўся па пакоі ў роспачы, потым у адну хвіліну зніякавеў. Лябецкі зноў падступаўся да яго з эміграцыяй, і калі б сапраўды была такая магчымасць, ён бы і з’ехаў. Два тыдні, якія ён чакаў абяцанага дазволу, уяўляліся яму потым суцэльнай чорнай ямай, у якой ён нават не цялёпкаўся ўжо, ляжаў лежма, заплюшчыўшы вочы.

Праз два тыдні яго выклікалі ў аддзел і далі і дазвол, і квіток на вечаровы цягнік. Але радасці ўжо не было.

Зараз ён стаяў перад Наташай. Яна сышла з Правадной, і мамка, сплаканая і амаль непрытомная ад усяго, што адчувала зараз, пабачыўшы сына, не словамі прамовіла, а тыцнула яму паперчыну, дзе няўмелым і да таго ж яшчэ і злым мамчыным почыркам быў запісаны новы Наташын адрас. Зараз ён стаяў перад Наташай у цесным пакойчыку, з якога павольна, знарок марудна, выплыла толькі што Наташына маці, і прасіўся.

— Наташа, не кідай мяне. Ты адзінае, што засталося ў мяне. Нічога няма, ты толькі.

Яна маўчала.

— Адно толькі, Наташа. Калі знелюбіла, тады я... тады я не буду. Нялюбым жыць не буду з табой. Калі ты проста баішся — не бойся і пойдзем са мной. Вывучымся і ў Смаленску. Калі ж не любіш...

Покуль яна маўчала, усё ж заставалася надзея. Маўчы, дзяўчынка мая, маўчы.

Праз паўгадзіны ён ужо выйшаў на вуліцу і доўга стаяў яшчэ пасярод завулка, разгублена міргаючы, іншы раз пасміхаючыся. Раптам заўважыў, што зазбіралася ўжо вясна, вецце дрэваў прыкметна пачырванела і дзе-нідзе набухлі ўжо пупышкі. Ён не бачыў, але адчуваў, што раз-пораз паглядае ў акно Наташа, і злуецца, і нервуецца, што ён стаіць тут, а не сыходзіць. Няўжо не шкада ёй усяго? Так і не зразумеў ён яе, а падавалася, што ведае ўсю, ведае, што яна за дзяўчына такая, прыгожая, цёплая, любая гэтая Наташа, якая так паслухмяна, так пяшчотна, так горача гнулася калісьці ў ягоных руках.

І тут ён адчуў, як нешта адарвалася ў грудзях і стала чамусьці лягчэй, як заўсёды бывае, калі сыходзіць цяжкая надзея.

Тут жа, на Набярэжнай, зайшоў ён у адзін здавён знаёмы яму дом. Усё мянялася, не мяняліся толькі брудныя пакойчыкі ў ім і шэрыя дзіравыя просціны на ложках, і жанчыны, стомленыя, прымятыя, але добрыя, і калі заходзіў да якой — шчаслівыя належаць маладому прыгожаму цвярозаму мужчыне, і прабыў тут некалькі гадзін з чарнявай, сталай, але па-маладому гарачай прастытуткай, якая, напэўна, яшчэ зусім нядаўна занялася цяжкім гэтым рамяством. Яна шаптала яму салодкія словы, абдымала, тулілася да яго, нібыта сапраўды кахала, а ў самыя шчаслівыя моманты вырывалася з яе вуснаў брудная лаянка — і гэта было так правільна і шчыра, як нічога ў свеце навокал сёння не было.

І толькі ўвечары ў Зарэцкага, добра прыняўшы гарэлкі, не стрымаўся ён і плакаў, а Зарэцкі моўчкі паліў у акно ў цярплівым чаканні, покуль Шурка здолее гутарыць далей пра тое, пра што сапраўды было важна гутарыць сёння ўночы.

Тое, што трэба нешта рабіць, разумелі абодва.

— Паратунак наш — у праўдзе, Шурка, — працягнуў Зарэцкі сваю думку, якую перарвала было асабістае Шуркава гора. — Трэба казаць ім усю праўду. Чаго мы хацелі, пра што марылі, дзе памыляліся. Сапраўды, няма падстаў у нас што-небудзь хаваць перад партыяй. Усё ж бальшасць там — разумныя людзі. Калі памыляліся, дык усе памыляюцца, выправім. Мы з гэтай краінай ад самага пачатку, і не па прымусе, а па любові.

Шурка скрывіўся, але змаўчаў.

— Я вельмі раю табе, Шурка, проста пайсці да тых таварышаў, якія там працуюць па тваім пытанні, і ўсё расказаць. Не хаваючыся.

Што хаваць нам? Сваё чыстае сэрца? Няхай слухаюць. І я, калі выклічуць, нічога хаваць не буду. Урэшце, тое, што ставяць нам у віну, гэта насамрэч дробязь, якую разгойдваюць тут некаторыя пісакі.

— Я, Зарэцкі, думаю, што ўсё больш сур'ёзна. Не чыстага сэрца яны ад нас чакаюць. І не дробязі тут раздзьмуваюцца. Цicнуць па ўсіх франтах, з розных бакоў. Недзе мы добра саступілі з іхняй дарогі, а як вярнуцца, дык не ведаеш куды? Я дык адчуваю... Я не тое адчуваю, што ты. Я іншае адчуваю.

Дудар маўчыць, а потым працягвае:

— Што, калі ўсё гэтае во — Беларусь наша, Украіна, Арменія, астатнія — гэта толькі дэкарацыя, Міхась? Так, адчэпка тутэйшым нацыянал-камуністам, каб сядзелі пакуль ціха, грызлі костку і адзін аднаму горла спакваля. Пакуль што. Бо ці былі б сёння яны пры ўладзе, калі б не далі тады нашым камуністам такой смачнай косткі? Ці пайшоў бы дзядзька Цішка за імі, як не давалі б яны абяцанняў нацыянальных? Таму тады давалі. А зараз бяруць назад. Вось што думаю я, Зарэцкі. Ты можаш папасці на гэтую лінію? Я — не. У мяне няма больш нічога за душой, акрамя таго, каб Беларусь была беларуская. Я не ведаю, як інакш. Хачу інакш, але не ведаю як. Каму мы з табой тады патрэбныя, Зарэцкі? Каму ўсё тое, што было зроблена? Кніжкі гэтыя ўсе, памкненні, сваркі, спрэчкі — каму? І ведаеш што? Усё гэта павінны мы будзем аддаць адной мове. Адным кніжкам. Іхнім. Рускім. А нас ім не трэба. Усё. Я не разумею, як тады жыць, Зарэцкі.

— Ты перабольшваеш, Шурка. Ніхто не адымае ў цябе тваіх кніжак.

Сказаў — і асёкся. Яшчэ ў мінулым годзе, як выслалі Шурку, знялі з машыны яго зборнік «Чырвоная сталіца», рассыпалі набор і знішчылі выдавецкі рукапіс, адабраўшы арыгіналы пры вобшуку. Нават пылу не засталося. Ды што там! У самога Зарэцкага «Крывічы» схаванымі на гарышчы ляжаць. Хіба забудзеш, як загортвалі па ўсім Менску селядцоў прадавачкі ў ягоныя забароненыя «Крывічы» і Купалава «Выбранае».

Дудар крыва ўсміхнуўся на гэтую паўзу — зразумеў, пра што Зарэцкі маўчыць.

— Я сам разумею, што трэба неяк выкарасквацца, Міхась. У мяне цяпер нічога няма. Я так не магу. Я хачу, каб было так, як раней. Я не ведаю, як вытрываю яшчэ два гады ў Смаленску — цяпер зусім без нічога, пусты. Буду ім казаць тое, што яны хочуць, думаю, так. А тое, што насамрэч... А што насамрэч... Нічога не ведаю я. Каму мы замінаем... Чаму так усё... Я працаваць хачу. Вершы, паэмы, я паэт, чорт яго бяры. Так калі ўспомніць, якія справы рабіліся, Зарэцкі...

Якімі былі мы... Здавалася, увесь свет падпарадкаваны табе. Усё можаш. Ты памятаеш першае апавяданне сваё ў друку? Я свой верш памятаю. Здавалася, сэрца выскачыць з горла. А «Савецкую Беларусь» тую памятаеш? Чарота — не гэтага, таго яшчэ? Толькі... Чаму нашыя ворагі аказаліся мацнейшыя за нас?

— Значыцца, праўда за імі, Дудар. Не за намі. Праўда за імі. А мы як пісьменнікі не сваё пяяць павінны. Мы павінны адлюстроўваць час. Час іхні зараз, Шурка. Нам трэба быць з імі.

Дудар ківае галавой. І зноў, і зноў... Ківае, заплюшчыўшы вочы.

Які цяжкі сёння выдаўся дзень...

— Пайду дамоў, Міхась. Мамку амаль не бачыў сёння. Заўтра прыйду яшчэ — тры дні далі мне тут. Толькі косткай яны popстануць мне ў горле, тыя дні.

## ВЁСКА. КРУШЫНАЎКА

Увесну Чарот выехаў на вёску.

Яго знялі з рэдактарскай пасады ціха, без скандалаў, без асаблівай нагоды. Аднойчы вызвалі ў ЦК і пасля спакойнай сяброўскай гутаркі прапанавалі сысці. І хоць ён павінен быў адчуць палёгку — адчуў трывожны холад унутры. Заныла пад лапаткай, пабегла ліпкім цуркам па спіне. Гэта пачатак канца.

Але далей нічога асаблівага не здарылася. Яму запрапанавалі кансультаваць маладых паэтаў у Доме пісьменніка, і ён перабраўся ў маленькі кабінецік на Савецкую, 68. Паэтаў маладых хапала, усе яны пісалі блага, кукарэкалі бадзёра пра Кастрычнік і вясёлыя дні, у Чарота ад гэтых вершаў невыносна балелі зубы. «Я быў малады — таксама так пісаў. Кінь. Падумай, што ты можаш дадаць да таго, што ўжо напісана. Што ты бачыш навокал. Як чалавеку справіцца з цяжарам, як яму выправіцца на светлую дарогу», — тлумачыў якому з іх, але часцей проста крэмзаў радкі, замяняючы эпітэты без усялякай мэты. Таму як толькі пачалі збіраць пісьменніцкі дэсант на вёску агітаваць за калгасы, узяў камандзіроўку на месяц і паехаў. На вёсцы яго сустракалі ўсё яшчэ як рэдактара «Савецкай Беларусі», як знакамітага паэта, як Міхася Вялікага, і гэта раздражняла, але і суцяшала.

Іншы раз ён кідаў таварышаў і ехаў сам па вёсачках і хутарах, дзе яшчэ ўпарціліся аднаасобнікі, дзе страшна глядзелі гаспадары сядзібак, дзе на дарозе можна было перастрэць маладога плячыстага хлопца, які раптам станавіўся перад табой, і не даваў прайсці, і нічога не казаў, а толькі пасміхаўся злой усмешкай і глядзеў

у вочы. Ледзь не кожны дзень даносіліся чуткі пра забітых упаўнаважаных, пра напады на камсамольцаў, пра крадзяжы калгаснай маёмасці. У Мазыры Чароту прапанавалі рэвальвер, але ён не ўзяў і ездзіў так, як быў. У ягоных вачах даўно ўжо стаяла абыякавасць і стома — з таго самага дня, як Аня забрала свае рэчы, а Толька, вінаваты, але задаволены, панёс за ёй швейную машынку.

У Крушынаўку Чарот прыехаў адзін.

За вялікім калгасным полем цягнулася палоска няўдобіцы — звычайны аднаасобны шнурок. Па палосцы цягнуўся стомлены худы конь, за ім ішоў гаспадар — каржакаваты, сутулы, зусім ужо стары, але яшчэ моцны. Дамок, пунька і адрына ўтваралі невялікі хутар, да якога ад самой Крушынаўкі трэба было дайсці праз голы, хвосткі хмызняк.

Але ўжо за хмызняком ён зразумеў, што не ён першы дабраўся да хутара. Ля плота сумна азіраўся невялікі, але сытаваты конік, на драбінах кінуты былі шынялі, і па невытлумачальных, але дакладных прыкметах Чарот зразумеў, што ў хаце людзі па калгасным пытанні. Дзверы роспачна расчынены, і Чарот пераступае нізенькія сенцы ў адзін крок.

І ў гэтае самае імгненне спыняецца ў нечаканым здзіўленні: цераз вялікі пакой проста на яго ляціць раз'юшаны чалавек з рэвальверам.

— Я ёй зараз, ё... яе маць, пакажу бульбу! Да сцяны суку, разам з сучанятамі ейнымі!

Чарот упіраецца рукой у грудзі чалавека:

— Стой, таварыш. Паспееш. Што здарылася?

— Міхась! — кідаецца да яго маладзён з-за стала. Бач ты, нагнаў сваіх. Жэнька Рамановіч, мастак, таксама працуе па калгасах.

— Што здарылася?! — пырскае слінай чалавек з рэвальверам. — Ты паглядзі, таварыш, якой бульбы наварыла нам! Яна ж атруціць уздумала нас! Кулачка, сукіна дачка!

Чарот падыходзіць да стала, на якім дыміцца свежазвараная бульба. Уся — ярка-ружовага колеру.

Ён бярэ адну бульбіну, уважліва разглядае, крыху шкрабае пазногцем і кладзе ў рот.

— М-м-м-м... Чысты крухмал. Добрая бульба, хоць і леташняя. А што ружовая, дык тое дзяўчаты, пэўна, у чыгунку ўчора сукенкі фарбавалі. Анілін. У нас у Рудзенску палова лявоніхі ўвосень ружовая скача. А ну-ка, хто тут нявеста ў хаце?

Цяпер толькі аглядае хату. Галеча, вядома ж, але, бачна, стараюцца ўбіцца ў жыццё. Покуць, дзе багата абразоў і на століку — таўшчэзнае Пісьмо. На вокнах чысценькія фіранкі. За шырмаю шушуканне: пэўна, там хаваецца і тая, каму страшна карцела займець

новую сукенку. Нарэшце выходзіць малая, гадоў мо пяць.

– Дзядзя, паглядзі, якія ў мяне боцікі... У мяне – боцікі, у Тані – сукенка.

Боцікі сапраўды шыкоўныя, шытыя вясковым шаўцом. Адзін сіні, другі зялёны.

– Цябе як клікаць?

– Маруся.

– Прыгожыя ў цябе боцікі. А што ж розныя?

– А ў шаўца астача толькі такая была. З іншых ботаў, з чужых.

– А нашто яны табе? Мо басанож лацвей?

– Няможна басанож. Татка сказаў, мы сабе зарабляем, трэба, каб боцікі.

Ля печы стаіць, ухапіўшыся за шкворань, гаспадыня, нізенькая, але крэпкая жанчына.

Чарот уздыхае.

– Не пойдзем мы ў калгас, – раптам цвёрда кажа яна. – Гэты прайдзісвет раз на тыдзень да нас прыязджае. На што вока кладзе? На каня? На тры куры? На шнур наш? Падаткам абклалі. Думаюць, што адужаюць нас. Мы сплацім падатак. І дзеці ў нас будуць у ботах і ў сукенках. Мы не пойдзем у калгас.

– Ясна, – шумна ўздыхае Чарот. – Што ж, хоць запрасіце тады да стала. Здарожыўся я, трохі пад'еў бы.

Да ружовай бульбы дастае гаспадыня салёных агуркоў.

– Кліч і дзяўчат.

– Снедалі ўжо. Няма чаго балавацца, па два разы за ранак да стала прысядаць.

– Строга ў вас.

– А як не строга? Пяцёра ў хаце, гаспадарка, шчэ падатак. Вядома ж, строга. То не ў горадзе вашым, дзе ядуць, як не хочуць, і скачуць, як не весяляцца.

– Дык цяжка жывяце?

– А то лёгка.

– Дык чаму ж тады ўпёрліся супраць калгаса? То ж палёгка выйдзе табе. Трактары на зямлю прыйдуць, спецыялістыя. Агулам працей, ну зразумей жа ты. Матэматычна падлічы.

– Мне твая матэматыка не трэба. У мяне свая матэматыка, – строга кажа гаспадыня, узмахнуўшы рукой да абразоў. – Сказана ў Пісьме, што д'ябал з калгасамі прыйдзе.

– Так і сказана?

– Так і сказана, – цвёрда кажа жанчына.

Чарот зноў уздыхае. Колькі ўжо разоў паўтаралася гэтая гутарка ў розных вёсках з рознымі людзьмі. Як падвучыў хто.

У Рагачоў едуць ужо разам. Прахалодна, але калі забіцца глыбей у сена, можна ўнурыцца ў думкі, забыўшыся на вецер.

— Нельга так, Жэнька, з рэвальверамі на людзей кідацца. Старшыня гэты — ну яму толькі волю дай, ён і курэй, і парасят, і жанок абагуліць. Такіх у шэнкелях трымаць трэба. А то раз-два! Ёсць дырэктыва, валяй, рабі камунію! І не гавары! Вось яго метода. Грандыёзная справа, сялянства прачынаецца, толькі накіроўваць яго трэба. Цярпець, гутарыць... То ж не само сабою, спакваля, то ж рэвалюцыйны скачок... Вунь горад пакуль прызвычаіўся... А тут вёска, спрадвечнае ўсё. Памятаю, як у дваццаць дзявятым таксама на калектывізацыю ездзіў... Спектакль нейкі ладзілі ў клубе... Вёска вялікая, недзе на Случчыне... Ідзе спектакль, поўна зала народу — і тут маладзіца адна... бяжыць, на сцэну — скок! «Людзі! — і газетай над галавой трасе. — Во! Чытайце! У старшыні нашага галава круціцца! У газеце прапісана! Мяшок ячменю за газету ў горадзе аддала! Зараз жа іду па карову сваю, канец калгасам!» Гэта яна Сталіна прачытала, «галавакружэнне ад поспехаў». Галава, кажа, у старшыні круціцца. А то абагулілі адных. Гаспадар ужо заяву напісаў у калгас, прыехалі з падводамі, маёмасць выносяць, баба стаіць. Маўчыць. Усё дабро складаем на вазы. Маўчыць. Каня павялі. А як з хлява плуг панеслі — баба моўчкі ўчапілася за плуг і цягне на сябе. Страшна, разумееш, глядзець. «Дура баба, — кажам ёй, — каня ж твайго забралі ўжо, нашто плуг табе?» — «А конь, кажа, пастаіць-пастаіць, ды дамоў прыйдзе. А плуг не прыйдзе. Шукай яго потым па чужых хлявах». А ты кажаш.

Рамановіч маўчыць, і Чарот таксама змаўкае. З бабы той, з плугам, думка перакідваецца на Аню: сышла, а машынку Тольку папрасіла паднесці. Ніяк не ўкладваецца ў галаве: яна будзе гэтаксама спяваць свае «Стаканчики», ссунуўшы чорныя бровы, запраўляць ніткі ў машынку, гэтаксама будзе стракатаць карэтка, гэтаксама будзе круціцца паліраванае кольца ручкі, гэтаксама будзе паўзці на падлогу ружовы ці блакітны шоўк сукенкі, а побач будзе не ён, а Толька.

Раптам успамінаецца Алеся, тая, яшчэ амаль свая, вось-вось, здаецца, яшчэ адзін дотык, адзін толькі дотык — і будзе маёй. Купалле ў Весялоўцы, нечаканы, але неадменны яе адпор. І балючае, самае балючае, патаемнае: як падабраўся да дзяўчат, што купаліся ў начной Свіслачы, пабачыў яе. Засталася ў адной белай кашулі, увайшла ў раку і паплыла, гнуткая, прыгожая, нібы стронга, і серабрыліся ў месяцовым святле каменьчыкі на дне, і яна плыла па-над тымі каменьчыкамі...

Успамінаюцца Вайсковыя могілкі на Даўгабродскай — за палякамі там, у склепе, хавалі яны шапірограф і дынаміт, і серабрыліся

старыя крыжы пад месяцам, і, пасцёпваючыся ад холаду, кранаў ён халоднае жалеза чужой памяці, што ахоўвала цяпер ягоную таямніцу. Як падумаць: ну што яны там рабілі такога? Болей гульня была: лістоўкі, падпалы, канспірацыя, шапірограф на могілках... Усё вырашалася не там, у Менску, не там, на Вайсковых, і зусім не таму сышлі палякі, што Міхась Кудзелька хаваў у склепе дынаміт. Наогул усё вырашалася іншымі людзьмі ў іншым месцы, заўсёды. А ён жа спадзяваўся... Верыў, што гэта ён, ён робіць час і гісторыю. Дурань. Хто быў ён такі? Навошта?

Зноў успамінаецца Толька. Яны сядзяць у рэдакцыі. Тлумна, спякотна. Які гэта год? Дваццаць пяты? Толька яшчэ зусім малады, востры, імпэтны, сядзіць, як заўсёды, на падаконніку, паглядае смяшлівым вокам на Алеся Салаўя, што прынёс у «Савецкую Беларусь» свае няўмелыя вершы. «У-у-у-у, брат, што за вершы ты прынёс нам? Толька, глядзі! Пра васількі! Пра васількі, хоць учора толькі трагічна памёр герой пралетарскага народа, нямецкі паэт Гюнтэр Цвібельклопс!» Вольны імгнення падхоплівае: «Заўтра паласа выходзіць па Цвібельклопсе, а ён з васількамі! І Дудар, і Якімовіч, і Дубоўка, і Пушча — усе прысвяцілі свае радкі вялікаму нямецкаму паэту, і толькі Салавей цягне пра васількі!» І як назаўтра Салавей прынёс верш «Колькі гора, здзекаў перанёс наш таварыш і друг Цвібельклопс...», Толька ажно з падаконня зваліўся, рагочучы. Куды што падзелася? Няўжо так бывае? Пралетарскія пісьменнікі, словы адны, як стане перад натоўпам камсамольскім правадыром — вачэй не адвесці, а сам... На маёй канапе з маёй жонкай валяўся, са мной гарэлку піў. Чалавек як ён ёсць. Нічога не мяняецца. Адны словы толькі: пралетарская культура. Госпадзе, што ж тады будавалі мы? Усё адное і тое, тысячу годоў. Вырашылі, што чалавека можна змяніць. А яго няможна змяніць.

І гэтая жанчына ў Крушынаўцы. Якая моц у ёй! Покуль яны з Толькам рагаталі там, у рэдакцыі, покуль балявалі па «Еўропах» — цягнула і цягнула лямку сваю, а бач ты, якая дарагая яна ёй, лямка гэтая праклятая. Лёгка, лёгка, лёгка аддаваў ён Алесю — Марозу, Аню — Вольнаму, газету — гэтым... Лёгка, і толькі сэрца заходзіцца жалем і шкадаваннем, але ж ніводнага разу не хапаўся за шворан. А яна... І чалавек яе. Нічога не вартыя ані старшыня са сваім рэвальверам, ані пісьменніцкі дэсант, ані Чарот, прышлыя ўсе, чужыя на ягоным хутары — арэ сваю зямлю, гнецца ўпарта над ёй. Пляваць хацеў на калгасны трактар. Глупства, упартасць? Мабыць.

Проста жыць. Хочацца проста жыць. Каб пакінулі ў спакоі. Усё зрабіў бы.

Усяго ў жыцці было, жыцця толькі самога не было. Каб заглынуцца шчасцем і ведаць, што яно назаўсёды. Такога не было. Можа,

каб былі ў яго такая вось Крушынаўка, дамок і пуня, і свой шнурок, і возера побач з чыстым дном і сярэбранымі каменьчыкамі, і каб не хмызняк, а непралазны чароўны маліннік стаяў вакол яе, і каб нікога, нікога, каб ніхто не камандаваў, як жыць, і толькі яна і я, і дачушка, і каб справіць ёй новыя боцікі...

## ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

У траўні трыццатага года я сабралася і паехала ў Смаленск. Была субота, я схлусіла Зільберу, што еду да мамы ў Віцебск, тым больш што напрамак быў той самы, сабрала прадуктаў і паехала.

За шэсць гадзін дарогі пра што толькі ні думала, пра што толькі ні марыла. Часам мяне накрывала з галавой думка, што я вінаватая перад мужам, і я адганяла ад сябе ўспаміны пра наш акуратны дом, пра нашыя вечары ў Кульбакаў. Зільбер быў дарослы і моцны, Дудар — зусім дзіця, да таго ж самотнае. У Зільбера была праца, сябры, часопіс, глеба пад нагамі, у Дудара — нічога. Здаецца, гэтага было дастаткова, каб мне апраўдацца перад сабой. Часам надыходзіла нібыта працверазенне, і я думала, ці сапраўды я патрэбна там яму, менавіта я, якую ён двойчы ўжо выкідаў са свайго жыцця. Але такія думкі я таксама гнала. Цягнік вёз мяне ў Смаленск — ну, няхай не мяне, няхай толькі прадукты. Завязу — і назад. Да халупкі, у якой ён жыў, я дабралася надвячоркам — навокал ужо шарэла. Дзверы былі не зачыненыя, але ў хаце нікога не было. Ложак, незасланы, трохі прыкінуты дзяружкай, на стале нейкі вэрхал з газет і бруднага посуду, пясок і пылюка па падлозе: ці жыў ён тут? Я выйшла на двор і села на вузенькую лавачку пад бэзам, які ўжо рыхтаваўся стрэліць квеценню. Было холадна, і часам я прымалася дрыжэць.

Гэты двор чымсьці нагадваў мне двор «Бельгіі» — тыя ж неахайныя, недагледжаныя, але пяшчотныя дрэўцы і калючы хмызнячок між імі, тыя ж цёмныя куты, шэрыя адрыны, спіна мураванай лаўкі. У такіх дварах, хоць яны аддзелены ад іншага свету ўсяго толькі хісткімі плоцікамі, заўсёды складваецца адчуванне, што гэта і ёсць сусвет, маленькі, але бязмежны, азіральны, але невычарпальны. Можа, таму што такі двор быў ля дома, дзе я расла, і не было межаў таму двару. Да таго ж тут жыў Дудар, гэты двор кожны дзень чуў ягоныя крокі і бачыў ягоную постаць, а да мяне зноў вярнулася адчуванне тых шчаслівых дзён, калі ўвесь свет існаваў толькі вакол яго.

Было ўжо зусім цёмна, але мне чамусьці стала так хораша і так шчасліва, што я ў нейкі момант нават спужалася, што Дудар прыйдзе — і ўсё будзе зусім не так, не так хораша, не так шчасліва. Пакуль я проста сядзела і чакала яго, я была гаспадыняй свайго і ягонага сусвету. Але як толькі ён

прыйдзе, ён адразу зойме гэтае, яму адзінаму аддадзенае месца. З вуліцы пачуліся крокі, і я зноў адчула сябе ў двары «Бельгіі». Праўда, крокі былі зусім не тыя. Тады я чула лёгкую, упэўненую хаду, сёння — цяжкае шорганне. Гэта быў Дудар. Ён ішоў няпэўна, хістаючыся ад сцяны да плота, ад дрэўца да дрэўца. Ён быў такі п'яны, якім я не бачыла яго ніколі. Я скочыла са сваёй лавачкі, але ён прайшоў паўз мяне, цяжка падняўся па прыступках і ўваліўся ў хату. У сенцах зарыпела падлога і бразнулі дзверы.

Я не ведала, што мне рабіць. Я ніколі не бачыла яго такім. Я памятала яго хлопцам, а гэта быў дзядзька. Я стаяла ў роспачы і з усіх сіл вяртала сябе ў той цудоўны сусвет, у якім быў Герой і Я, мой каханы і маё да яго каханне.

Нарэшце я пераадолела сябе і ціхенька пайшла па прыступках. Пагрукала ў дзверы. Ніхто мне не адказаў. Я зайшла. Дудар ляжаў на ложку ніцма і спаў мёртвым сном — у ботах, у паліто. Ён так і хадзіў, без галёш.

Я знайшла свечку, распаліла буржуйку, распранулася. Сцягнула з яго боты і паліто, накрыла нейкай покрыўкай. Ён толькі мармытаў. Пачала ціхенька прыбірацца, паставіла прывезенае: што на падаконнік, што на стол. За акном стаяла ўжо веснавая ноч, халодная, свежая, празрыстая. У хаце цяплела. Я знайшла сярод вопраткі ў куце ягоны кажух, пасцяліла сабе ў закутку і легла. Родны пах палыну і тытуню і яшчэ чагосьці невызначальнага, але такога знаёмага агарнуў мяне, абняў. Мне добра быў відаць твар у белым месяцовым святле: парцалянавы, нібыта нежывы. Высокі лоб, шэрая стома вакол вачэй, разлапісты нос, дзіцячыя, крыху прыпухлыя вусны. Рука звешвалася з ложка — шырокая далонь, звычайная мужыцкая лапата. У Зільбера рукі былі акуратныя, але таксама шыракаватыя. У Зарэцкага — вузкая, але вельмі моцная нават з выгляду далонь. Самыя прыгожыя рукі былі ў Кульбака — вузкія, нібыта выразаныя з косці, з даўгімі прыгожымі пальцамі. Алесевымі рукамі можна было паставіць дом — такія яны былі шырачэзныя і спраўныя для сялянскай працы, якой ён насамрэч і не ведаў. Я памятала, як ён саромеўся сваіх шырачэзных далоняў і асабліва пальцаў, заўсёды імкнуўся схаваць ці то ў кішэні, ці то ў рукавы, ці то падклаўшы пад локці, калі сядзеў, па сваёй звычцы акуратна склаўшы рукі, нібыта вучань за партай, і абавязкова схаваўшы далоні.

Я глядзела на яго асцярожна, каб не абудзіць. Нешта дзіўнае адбывалася ўва мне, нараджалася нейкае новае, зусім незвычайнае пачуццё да гэтага чалавека, які мёртва ляжаў на ложку.

Раптам я ўсё зразумела: і «Бельгію», і нашы тры дні ў Віцебску, і ягонае каханне да Наташы. Момант, пачуццё, эмоцыя ў асабістым, у каханні пераўтвараліся ў яго ў рашэнне, і ён быў гатовы яго прыняць, а потым з ім жыць столькі, колькі жылося, бо ў яго не было асаблівых патрабаванняў да кахання і да дзяўчат. Ён іх не браў, ён да іх прыбіваўся, калі раптам узнікала такое жаданне. Але, прыбіўшыся, ён быў верны і закаханы, бо ня меў патрэбы шукаць іншага. Чамусьці я зразумела, што вось ён вернецца

са Смаленска — і прыйдзе да мяне, бо нікуды болей не будзе ў яго сцежкі.

I я пачала прыглядацца да яго зноў — да чалавека, які быў наканаваны мне лёсам, якога я любіла проста за ягоны пах, за чорны цень вакол вачэй, за рукі, за голас з прышэптам.

Я глядзела на яго, і ён адкрываўся мне цалкам — вясёлы, добры, прастадушны чалавек, які зусім не ўмеў гуляць у гульні, разлічваць свае рухі, прагназаваць наступствы сваіх учынкаў — і далёкія намеры ўчынкаў іншых людзей. Ён жыў адзіным днём і сваім у гэты дзень пачуццём, і, напэўна, гэта быў самы сумленны спосаб жыць, бо хто ведаў тады будучыню? Ён любіў — значыцца, любіў, ад усёй душы, сварыўся — значыцца, сварыўся, напоўніцу. Па-дзіцячы адкрыты, шчыры, ён хутка і цалкам паддаваўся чужым уплывам, слухаў тых, хто падаваўся яму разумнейшым за яго, больш таленавітым, а ён лёгка прызнаваў чужы талент.

Раптам я зразумела, які ён быў мяккі, як лёгка паддаваўся ўплывам. Спачатку — Дубоўкі і Бабарэкі, потым — Зарэцкага і Вольнага, потым — Гартнага. Ён так лёгка і так спакойна прымаў чужы талент, чужы розум, чужую перавагу над сабой, ён з такой радасцю — як найлепшы вучань у класе слухаецца любімага настаўніка — слухаў тое, што казалі яму з сур'ёзным выглядам тыя, каму ён верыў, ён так лёгка адмаўляўся ад самога сябе дзеля іншых, што часам пераўтвараўся ў тых, перад кім здымаў капялюш, страчваючы сябе. Яны любілі яго, покуль ён быў паслухмяны, і ненавідзелі, калі ён, station стаміўшыся жыць чужым розумам, раптам распачынаў супраціў. Разам з тым ён быў такі зацяты і такі шчыры ў сваім запаветным, у сваёй любімай «беларускай самабытнасці», усприняйтай калісьці на сцежках вандроўнага тэатра. Тыя, хто думаў напужаць яго высылкай, памыляліся. Ён пужаўся, вядома ж. Але, дзіця, ён не ўмеў хітраваць.

Ён ляжаў на няўтульным ложку, паэт, незразумелае дзіва, няшчасны, самотны хлопец.

Пэўна, змора ўсё ж схіліла мяне, і я заснула, бо раптам прачнулася ад таго, што нехта цяжка тупаў па пакоі. Я расплюшчыла вочы, сэрца моцна калацілася, чамусьці стала вельмі страшна. Алесь, неяк нахіліўшыся наперад, пратупаў у сенцы, чарэпнуў вады з вядра, прагна выпіў, грукнуў дзвярыма на двор. Зноў бразнулі дзверы. Ён вярнуўся. Адкінуў покрыўку, лёг, скруціўся. Не заўважыў нічога.

Зараз я ўжо не бачыла яго — толькі нешта шэрае ў цемры.

Да раніцы я хуталася ў ягоны кажух, дыхала ім, глядзела на ягоную спіну і думала пра тое, як люблю яго. Цягнік на Менск адыходзіў а дзявятай, і Дудар так і не прачнуўся. Я ціха выйшла на вуліцу, села на лавачку. Яшчэ колькі дзён — і гэты двор будзе зусім святочны. Глядзі ж, бэз, водары для яго.

Было радасна думаць, што ён прачнецца, пабачыць парадак і прадукты, пачне гадаць, хто гэта быў. Раптам мяне ахутаў жах: а ці не падумае ён,

што вярнулася Наташа? Ці не будзе для яго пякельнай пакутай гэты дзень дарэмнай надзеі? Вядома ж, падумае, вядома ж, будзе! Але было позна. І я забіла ў сабе гэтую думку.

Я прыехала дадому і ўсё расказала Зільберу. Ён цяжка маўчаў. Я расплакалася: Зільбер быў добрым сябрам і надзейным мужам. «Разыходзіцца мы пакуль не будзем, Наста. Ты адна прападзеш. Паглядзім, што будзе далей». І мы жылі па-сяброўску, нават да Кульбакаў раз-пораз заходзілі, і мне было лёгка, бо я чакала Алесевага вяртання і ведала, што яму болей няма куды вяртацца, як толькі да мяне, і я была шчаслівая як ніколі ў тым траўні і ў тым страшным чэрвені да таго дня, як пачаліся павальныя арышты.

Ніхто не чакаў такога. Хоць што я — чакалі. Яно нацягвалася, млела навокал, як духмень перад навальніцай, перашкаджала дыхаць, агортвала цябе ліпкім потам, і было непрыемна, калі да цябе дакранаўся нехта такі самы ліпкі. Але калі яно здарылася, аказалася, што ўсё ж не чакалі, што гэта будзе менавіта так. Не, навальніцы не такія. Гэты духмень скончыўся тым, што ранкам паляцелі на зямлю дахі і вокны, суха, без вогнішча, з тупым грукатам, і на нашыя целы, потныя ад жаху, клаўся тоўстым слоем пыл. Калі я потым першы раз трапіла пад бамбёжку, на ўскраіне Рэчыцы, ля метызнага завода, лежачы пад плотам у крапіве ў гарачай лужыне, якая цякла і цякла з мяне, я адразу ўспомніла тыя дні трыццатага.

Пачалося неяк здалёк: па Менску пайшоў ціхі шэпт, што ўзялі Колю Улашчыка. Я ведала яго толькі звонку, ніколі не чула, як ён размаўляе, ён быў і на маладнякоўскім з'ездзе, здаецца, не дэлегатам, а сярод слухачоў, сядзеў ён і за сталом у «Бельгіі», яго немагчыма было не заўважыць — чарнявы, асмуглы, густыя бровы адной лініяй над чорнымі вачыма, але ён увесь час нібы саромеўся і анічогенька не казаў. Ён і не друкаваўся ніколі, але з пісьменнікамі быў увесь час побач. Ціхі, спакойны, нічога пра яго ніколі не чула, каб хуліганіў ці зачапіўся з некім з камуністаў, ці наогул усё адно з кім. За што ўзялі Колю — ніхто не разумеў, але пачалося чамусьці з яго.

Спачатку думалі, што гэта як з Дударом — нешта асабістае, заеўся з некім, насаліў. Два тыдні нікога больш не краналі. Потым ужо я даведалася, што амаль адразу пасля ягонага арышту ў Менск са Смаленска прывезлі і Дудара. Яны сядзелі побач, сцяна да сцяны, Улашчык і Дудар, і патроху выпрацавалася ў іх свая азбука, якой яны перастукваліся.

А ў ліпені пачалося, пасыпалася. Людзей забіралі ледзь не кожны дзень. Мы баяліся засынаць увечары, чакалі, што прыйдуць і да нас, Зільбер усё перакладваў паперы ў шуфлядах, нешта некуды выносіў, нешта мы спалілі, цішком выехаўшы ў нядзелю ажно за Ждановічы. Баяліся ісці ранкам на працу і не пабачыць кагосьці на сваім месцы. Навіны перадаваліся шэптам, шэптаў было многа, часам казалі ранкам — узялі, а днём ты бачыў таго чалавека на вуліцы, але на твары ягоным ляжала ўжо пячатка той

страшнай чуткі. Асабліва страшна стала, калі ўжо дабраліся да «Узвышша»: калі ўзялі першага з іх, зусім хворага, сухотнага Валодзю Жылку, я адчула непераадольнае жаданне ўпасці на зямлю, закрыць вушы рукамі і вішчэць, дзіка, пранізліва, каб гэты страх, які рос унутры, выйшаў хутчэй і не парваў мяне. Адразу за Жылкам узялі Бабарэку, у той жа дзень — Антося Адамовіча і Пушчу. Я сустрэла ягоную Стасю ў той дзень на Савецкай, яна ішла, белая, страшна спакойная, нібыта засяроджаная на нечым, і спадніца на ёй была апранутая задам наперад. Праз колькі дзён дайшло да нас і з Масквы: арыштаваны Дубоўка, бралі з ложка, у бялізне, так і павезлі ў Бутыркі. Потым, многа пазней, ён смяяўся: то ж я, Наста, у белым строі на працу пайшоў! А я не смяялася.

Здаецца, тым летам мы перасталі нават усміхацца. Хоць не — людзі пасміхаліся. У скверыку ля БДТ перапорхвалі з лавачкі на лавачку маладзенькія дзяўчаты і хлопцы, белпедтэхнікумаўцы, якія бавілі час пасля заняткаў пад нашымі ліпамі, і часам нехта з хлопцаў рагатаў звонка і весела, і гэта мне было яшчэ страшней за жахлівае паўсядзённае маўчанне і шэпт у рэдакцыі. Пэўна, і ў тыя дні, калі мы так вось перапорхвалі, таксама некага бралі, кідалі ў ямы, дапытвалі ў кабінетах, а мы рагаталі на лавачках.

Напрыканцы лістапада — ужо ляжаў першы снег — усе даведаліся пра дзядзьку Янку. Памятаю амаль фізічны боль, які разрываў знутры: праклятыя, праклятыя, праклятыя! Хто яны, праклятыя, я не ведала, але так пульсавала ў грудзях: праклятыя! Прыгожы, танкатвары, далікатны, з такой мяккай усмешкай, ціхагалосы. Адкуль узялася ў ягоных руках, у ягоных тонкіх пальцах тая моц, з якой ён усаджваў у самога сябе кухонны нож? У бальніцу да яго не пускалі, Зільбер спрабаваў нават праз самыя высокія інстанцыі — не, немагчыма, казалі, ля дзвярэй палаты стаіць ахова, праклятыя!

«Божа, дзякуй табе, што Дудар у Смаленску!» — кожны дзень сонечным праменьчыкам мільгала думка. Я ж не ведала, што і ён тут, у самым пекле.

Зіма прайшла, як адзін доўгі чорны дзень. Увесну стала лягчэй. Па горадзе папаўзлі чуткі, што хутка суд і ўсё вырашыцца. Але гэтым жа часам пачалі масава выкідаць іхныя кніжкі з бібліятэк. Прыходзілі і да нас у рэдакцыю: каб ніякай наццдэмаўшчыны. У «Полымі» нават быў перапрус, шукалі Дударовы вершы. Зільбер увечары перабраў усе фотаздымкі, якія ў нас былі, і тыя, на якіх былі Пушча, Дубоўка, Бабарэка, мы паклалі ў чарговую скрыню з іншымі небяспечнымі паперамі і назаўтра Лазар некуды іх адвёз.

Нам абаім стала неяк лягчэй адно з адным — яднаў жах. Натуральна, я вельмі баялася і за яго. Але гэтым разам абмінула. Мы нават некалькі разоў адведалі Кульбакаў. Мошэ за гэтую зіму моцна састарэў, Жэня нібыта ссохла, мы ціха сядзелі за сталом і моўчкі пілі гарбату. Потым мужчыны сыходзілі на двор паліць, а мы з Жэняй так і сядзелі — моўчкі.

У нейкім паралельным свеце адбываліся разгромныя пасяджэнні, на якіх крыкам крычалі былыя сябры. Я на іх не была, не пасылалі, Лазар не расказваў, тыя нумары «Узвышша», у якіх Крапіва з Глебкам шчыравалі ў сваёй нянавісці да наццэмаў, я не бачыла, хоць і чула пра іх. Не хапала моцы, той моцы, якая сканцэнтравалася ў пальцах Купалы — адным махам знішчыць усё. Я не хацела нічога нішчыць, яно і так нішчылася навокал, а я хацела захаваць усё, як было, захаваць хоць бы ўнутры сябе, як маю няшчасную «Бельгію».

У лютым трыццаць першага застрэліўся дзядзька Ігнатоўскі. Гэта была апошняя кропка. Больш нікога не бралі, і нават лютаваць па бібліятэках спынілі. Мы з Зінай назаўтра, калі дачуліся пра дзядзьку Ігнатоўскага, пайшлі да Белпедтэхнікума і стаялі ў двары ў роспачы. Было зімна, на вокнах віліся ўзоры. Былога ўжо не было.

Увесну іх усіх вывезлі ў Маскву, а потым у Сібір па нейкіх далёкіх гарадах на высылку, за імі паехалі дзяўчаты: Аня Бабарэка з дачушкамі, Язэпава Стася, Марыля Дубоўка з малым, адна толькі Жылкава Маргарыта (ці то Лізавета?) басцялася па Менску з нейкімі афіцэрамі. І дзіўна. Стала чамусьці неяк лягчэй. Мне было нават сорамна за гэтую лёгкасць, але яна з'явілася. Нібыта нам цяпер дазволілі перастаць адчуваць сваю віну за тое, што яны сядзяць, а мы — не.

Тым больш што яны паехалі далей адсюль, а мы засталіся, і на нашых вачах людзі вельмі хутка пачалі псавацца, глядзець іншым у вочы вачыма пабітага сабакі ці, наадварот, тапырыць губу, калі раптам сабачымі вачыма глядзеў не ты, а глядзелі на цябе.

У трыццаць другім, за некалькі тыдняў да таго, як з высылкі вярнуўся Дудар, у Доме пісьменнікаў Глебка чытаў сваю «Карменсіту».

Глебка. Цяпер яго ўжо клікалі Нонікам — колішні наш хвацкі Пятро стаў гладкім цяляткам ля спаднічкі сваёй Ніны. Для мяне яны былі асобна. Наш белпедтэхнікумаўскі Глебка, вунь ён, зноў рагоча ля падаконніка ўторай Паўлюку, а вось ён гаспадаром пышнага вэрхалу ў пакойчыку на Мацвееўскай, а вось, прыгожы, худзенькі, з разным смуглявым тварам, кідае ў залу са сцэны свае бадзёрыя вершы — і Нонік, ужо азызлаваты, вочы насцярожана і пільна глядзяць з-пад ілба. Калі пачаліся арышты, Нонік прапаў: Ніна ягоная збегалася па горадзе, шукаючы мужа, мо дзе начуе, моцна выпіўшы, гуляе, забыўшыся на сорам. Але не, ён не піў і не гуляў. Ён хаваўся — і перахаваўся ж! Яго не кранулі, як не кранулі таксама Крапіву і Броўку. Гэты Нонік нават не заўсёды вітаўся са мной — думаю, проста не пазнаваў. Я даўно не чула ягоных вершаў, а тое, што сустракала ў газетах, не падабалася мне.

А тут ён чытаў «Карменсіту».

Гэта была паэма пра паэта, якому забаранілі пісаць вершы, і цяпер ён піша артыкульчыкі ў газету. У яго адабралі пяро, а замест далі чыйсьці

меч, і цяпер ён нібыта нямее, калі хоча сказаць пра прыгажосць ці хараство, і з вуснаў ягоных вырываецца толькі крык нянавісці. Усё, што раней вылівалася песняй любові і натхнення, цяпер гучыць песняй ганьбы і пракляцця. Праклятыя! Што вы зрабілі са мной? Адзін, без сяброў, без кахання, са сваім абрыдлым мячом і сваёй непадымнай нянавісцю…

Гэта быў апошні раз, калі я чула Глебку. Я плакала, і ён гэта бачыў. Калі ўсе разыходзіліся, падышоў. «Наста, я ўспомніў Паўлюка. Памятаеш шаўцоў?» Мы памаўчалі.

Потым ужо быў толькі Нонік.

## ГОРАД. ПРАВАДНАЯ

Чалавек ішоў па горадзе і не пазнаваў яго. Дый горад, сказаць папраўдзе, не надта пазнаваў гэтага высокага, сухога мужчыну з капой цупкіх, узбітых ветрам валасоў, стомленым поглядам і жорсткімі складкамі ля завостранага носа. Хіба што хада… Размашыстая, упэўненая хада, рукі ў кішэнях, на плячы старэнькі салдацкі заплечнік. Перамахнуўшы без пераходаў рэйкі Лібава-Роменскай, ён цянюе знаёмымі дварамі і выходзіць якраз на Маскоўскую.

Цотны бок забудоўваецца камяніцамі: побач з былой бібліятэкай захінае гарызонт цагляны чатырохпавярховік. Як чалавек ехаў у Смаленск, дом гэты яшчэ будаваўся. Цяпер у адчыненыя вокны ўжо збягаюць ад жыхароў белыя фіранкі і трапечуцца на ранішнім, амаль асеннім ветры. Там, дзе наш вандроўнік раней – у мінулым жыцці – заўсёды даваў нырца ў Шкляны завулак, які вёў да Правадной, таксама высіцца ўжо навюткі гмах. Дзілінькае трамвай: два бадзёрыя вагончыкі, бітма набітыя хмурымі людзьмі. Раніца, ускраіна мкне ў цэнтр. У Шкляным, як заўсёды, вэрхал: паваленыя агароджы, драўляныя і каменныя, тут – будоўля, тут чыясьці расчыненая па-гаспадарску адрына, тут – малакавоз з блізкага завода, старыя яблыні, што раскінулі вецце над вузенькай, але таксама напалову каменнай ужо вуліцай Фабрыцыуса. І вунь яна, над дахамі, выглядае ўжо, цягне шыю, мая таполя на Правадной, над ганкам, над усёй вуліцай, па-над горадам, дачакалася.

Калісьці хацелася яму, каб усё гэта знікла хутчэй, расцярушылася ў пыл пад маладым націскам часу, а сёння ён прагна пазнаваў сярод новага тое, старое: заўсёдні быльнёг ля каменнай агароджы малочнага завода, адарваную дошку адрыны, праз якую дваццаць гадоў таму яны з Толькам лазілі валяцца на чужым рыззі, пыльны куст

рамонкаў, які заўсёды вырастаў менавіта тут, дзе сцежка ўпадала ў Праведную. Няхай сённяшняе ягонае вяртанне будзе падобным да тысячы іншых вяртанняў, няхай яно будзе такое, як у тых кніжках, якія калісьці глытаў уночы тут, на векавечнай Праведной, на гэтай дрыготкай вуліцы паміж дзвюма чыгункамі. Гэтая недарэчная думка засела ў галаве трывожнай стрэмкаю.

З пыльнай, такой роднай, беднай, шэрай вуліцы – у двор.

Войкнула Люся Галубок, кінулася на шыю: не дзяўчына ўжо – маладая жанчына, нават змурачкі вакол вачэй, але ўсё роўна тая ж Люся, тая, з «галубянят». Люська ты мая, маладосць ты мая! Абхапіў яе моцна, сціснуў у абдымках, падняў, закружыў па двары. З дзвярэй яе кватэры выскачыў малады хлопец: глядзіць на госця, на Люсю, разгублена ўсміхаецца.

— Што, Люсечка, жаніх?

— Жаніх, Шурка! – цалавала яго Люся ў няголеныя шчокі. – У-у-у-у, які ты дзядзька стаў, Шурка, які цвёрды, які калючы! Косці ды калючкі! Шурачка, прыехаў! А цёця Воля ж і не чакае! Цябе ўжо зусім, – яна пераходзіць на шэпт, – цябе зусім ужо адпусцілі, Шурка?

— Адпусцілі, Люся. Учора выклікалі – і адпусцілі. Як быў, у цягнік скокнуў.

Ён паставіў Люсю на зямлю і дакрануўся рукой да таполі. І гэтая змянілася. Дарагая мая. Хуткая, гнуткая Люся ўварвалася ў дзверы кватэры Дайлідовічаў першай.

— Шурка ваш прыйшоў!

І покуль плакала мама, уткнуўшыся сыну ў грудзі, покуль таптаўся побач бацька, Люся стаяла ў цёці-Волінай кухні ля печы і ціхенька плакала таксама.

Мама кінулася збіраць на стол, марудзіў ля стала бацька, якому даўно час быў выпраўляцца на службу: «Апошнія гады, сынок, і пенсія, дзякуй богу». Люся прыцягнула за руку жаніха – прыгожага маладога бялявага хлопца, за ёй прыбегла Галубчыха, цёця Ядзя, сунула Вользе Іванаўне сухое, ажно цвёрдае кольца каўбасы, кінулася дапамагаць ля стала. Шурка ўжо сядзеў на лаве, на старым сваім месцы, спінай да акна, маўчаў, пасміхаўся і часта міргаў.

Сабралі ў хвіліну: бульба, агурок, селядцы з цыбуляй, скрылікі Галубчысінай каўбасы, шчодра пасыпаныя кропам.

— Бедна зусім у нас, сыночак, – зноў коцяцца слёзы ў мамы. – Дзякуй цётцы Ядзі, хоць каўбасы табе дастанецца во, хоць і без хлеба, не маем сёння і яго, увесь горад не мае, але ж частуйся, сынок, еш, худы зусім, чалавека не засталося, костачка адна, а які ж хлопец быў...

— Чаго ж быў, цётка Воля? Кіньце вы ўжо прычытаць, як па нябожчыку, адкорміце!

— З чаго ж адкармлю, Ядзя?..

— Дома і салома ядома, як кажуць, Вольга Іванаўна, — строга кажа жаніх. Відаць, што ён паціху камандуе і Люсяй, і цёткай Ядзяй, ажно на Вольгу Іванаўну голас паставіў. — Я са старых сваіх, віцебскіх яшчэ, запасаў... прынёс тут. Давайце тады. За прыезд. Дзе чарачкі ў вас, цётка Воля? — і дастае чакушачку жоўтай, мутнаватай самагонкі.

Да парога пакоя — тры крокі праз кухню, адзін — пераступіць сенцы. Мама пайшла яго праводзіць, адбымаючы за плечы: высокая, з ім у рост, зусім схуднелая, але, як і заўсёды, моцная. Нібыта нічога не было, нібыта той шчаслівы дзень, як прыехалі сюды, назаўсёды спыніўся.

А ў пакой ужо не пайшла.

— Адпачывай, сынок, ідзі. Я, праўда, не прыбіралася там даўно, але ж усё, як пры табе. Жэнька, пакуль у тэхнікум не з'ехала, усё бегала чытаць да цябе. Я на базар пабягу. Ты ж не пойдзеш нікуды? — спыталася з трывогай.

— Не, мама. Пакуль нікуды. Ноч не спаў, ехаў. Мо ўвечары.

— Дык тады спі, сынок. Нікуды не хадзі.

Праз акно кідае на падлогу жоўты водсвет жнівеньскае сонца. На падаконніку бзыкаюць мухі, падымаюцца за фіранкай уверх, б'юцца ў шыбу. На мятай газеціне сушыцца фасоля. Цяпер можна паглядзець і туды, дзе пад старой покрыўкай стаіць ягоны ложак. Стол. Крэсла. Паліцы з кніжкамі. Ніводнай чужой рэчы: ані хустачкі, якія ў тым, мінулым жыцці заўсёды віселі на папярочках ложка, ані забытага грабеньчыка. Усё так, як і тады, калі вярнуліся з Казлова — нерухома, непахісна, назаўсёды.

І да самага вечара ён спаў, не распрануўшыся нават, як быў, раз-пораз ускідваючыся, азіраючыся ў трывозе і ўспамінаючы цяжка, скрозь трызну: дома.

Як прачнуўся, доўга ляжаў, утаропіўшыся ў столь: гэтае вяртанне за восем месяцаў да канца тэрміну — чаго яно каштавала яму. Але ж не. Не сорамна. Ён не сачкам, і гэта не данос. Ён яшчэ і яшчэ раз перабіраў у памяці ўсе сто з лішкам старонак сваіх паказанняў. Гэта не данос. Ані слова пра Галубка і тэатр — пра тое, адкуль яно пайшло ўсё ў яго, усё тое, за што цяпер каемся. Нібыта не было. Замест яго — «Беларуская хатка». Няхай шукаюць тую хатку, ветра ў полі. Пра Купалу. «Пры мне ніякіх гутарак на палітычныя тэмы не бывала. Ці вяліся такія гутаркі без мяне — не ведаю». Яшчэ і яшчэ раз перакочвае пад языком гэтую фармулёўку. Добра. Пра Маракова. «Да маёй жа палітычнай

дзейнасьці ён не меў ніякага дачынення і не мог мець, бо я лічыў яго занадта маладым і бесталковым для таго, каб уводзіць яго ў круг сваіх поглядаў і спраў. Проста не звяртаў на яго асаблівай увагі». Добра. Пра Наташу. «Вішнеўская не хавала ад мяне свайго здзіўлення з тае акалічнасці, што я так далёка зайшоў у сваіх поглядах». Добра.

З Зарэцкім было абгаворана да літары, што яны будуць пісаць адзін пра аднаго. Тут усё зусім добра.

Лішняга напісаў пра Тольку. Эх, лішняга. Вырашыў з ім, як з Зарэцкім – таксама ж будуць церабіць па камсамольскай лініі, усё адно прыйдзецца яму каяцца, дык каб ужо каяцца на ўсе сто, каб бачылі, што не ўпіраецца. Але ж Толькавай тактыкі ён не ведаў, а нахамутаў пра яго рознага. Тут ажно злосць бярэ. Гэта дарэмна зусім. Але ж не кранулі Тольку. Значыцца, патрапіў у каляіну, значыцца, і Толька добра каяўся. Нават перад Дубоўкам не сорамна. І перад Бабарэкам. Усё замоўчана, што мог бы сказаць. Няма чаго ім прад'явіць з ягоных паказанняў. Ніводнай вочнай стаўкі не было. Хоць і прагнуў яе. Хацеў бы пабачыцца з Дубоўкам. Мо Уладзік зразумеў: калі няма вочных ставак, значыцца, не здаў яго Тодар Глыбоцкі. Хацелася, каб зразумеў.

Як прыкра, як смешна ўспамінаць зараз, як секліся з ім у дваццаць сёмым у газетах. Шчанюкі. Гаў-гаў, а гаспадар тым часам абодвух на ланцуг – і ў будку. Сядзі.

Каго здаў, дык гэта, пэўна, Алеся Фаміча.

Але то яму за верш. Давалі, давалі яму тады чытаць гэтую паперчыну з ягонымі паказаннямі. Памятаю ж, памятаю, як ухнула ўніз і сэрца, і пячонкі, як забалела ад жаху пад жыватом: здае! Адамовіч, Алесь Фаміч, правадыр ты наш, сука, здае! Цяпер разлічыліся.

Накняваў і на Александровіча, але таму нічога не зробіцца. Гэты выслізне. Тут зусім не сорамна. Але ж ісці прыйдзецца да яго, вітацца неяк. Але ж і ён з ім неяк вітаецца. Нічога. Затое дома.

Але важна. Важна. Пісаў шчыра, тлумачыў падрабязна ўсё, каб там прачыталі і ўбачылі, што не было ніякай контррэвалюцыі, што была толькі адданая праца на карысць сваёй зямлі – як умелі, як разумелі. Каб убачылі, што мы ж не ворагі. Каб прачыталі звычайнае, людское, а не тое, што цягнулі з іх абцугамі. Таксама чытачы ж. Мо прачытаюць так, як ён пісаў. Хоць і наўрадці.

Не хочацца, але ж лезе і яно: камера, падлога, столь. Страшнае ўсё, азызлае. Па сцяне труба, наверсе акенца, краты, усё. На гэтай трубе павесіўся Прышчэпаў: недзе напрыканцы восені, яшчэ ішлі допыты, некаторых, хто ўпарціўся, яшчэ ставілі на канвеер, яшчэ не зусім зразумелі ўсе, што адбываецца. У адну такую ноч у камеры на двух

з Прышчэпавым толькі-толькі праваліўся Дудар у цяжкі, ліпкі сон — пачуў, як каўкнуў нехта побач і абвалілася нешта цяжкое. Падскочыў — вісіць! Як забыцца на жудасны цяжар гэтага цела, на сутаргі, на тое, як б'ецца ў нечалавечым напружанні ў тваіх руках цела таварыша, і ты крычыш, і хапаеш ягоныя ногі, і спрабуеш утрымаць, а ён, нібы гумовы, падае, і цячэ з яго гарачае, бясконцае, чалавечае, смяротнае, цячэ па тваёй шыі, па плячах, па жываце, і таварыш усё б'ецца, і доўга, страшэнна доўга адчыняе дзверы вартавы, які пачуў крыкі...

Хочацца забыць, бо сорамна за сябе, за ўсіх. Так проста, так лёгка, у некалькі дзён, знішчыць можна чалавека тым, што не даваць мыцца. Не даваць справіць патрэбаў. Ногі распухлыя, скроні ламае. У галаве адно толькі, дзіцячае, бездапаможнае: дамоў, дамоў, божа, мамачка... Ніяк не атрымліваецца зрабіць геройскі твар. На трэція суткі канвеера ўжо нават не атрымліваецца ненавідзець іх — хочацца ўпасці на калені, і паўзці, і плакаць, і прасіцца, каб адпусцілі, што заўгодна, адпусцілі б толькі. Хіба думаў ты раней, што такі дробны, мізэрны, такі залежны ад свайго цела, такі ўбогі? Як забыцца на гэтае? Як да жанчыны падысці цяпер, як браць яе, калі разумееш: а як бачыла б яна, які я... Гэта толькі такая, якая кахае сапраўды, як не бывае, толькі такая прыме, пашкадаваўшы... Няўжо па-іншаму нельга было ўсё гэта? Няўжо толькі праз такое? Няўжо і праўда ён таго варты?

Няўжо ён і праўда вораг?

Але так. Вораг. Гэтаму вораг. Маскве вораг. Аргаву вораг. Атрымліваецца, так. А што, хіба не?

Як жа быць цяпер?

Усё зруйнавана, нічога няма. У літаратуру назад шляху яму няма, у газету таксама. Падавалася, ягонымі рукамі робіцца новае. Цяпер рукі паадламаныя ў яго.

Госпадзе, як быць?

Якому богу ўкленчыць, каб дапамог?

Усё верàць і верàць, што нехта дапаможа, а як стаіш на канвееры, дык асабліва востра разумееш, што няма каму табе дапамагчы, акрамя гэтага сытага кабана, што насупраць цябе. Вось твой бог, яму маліся. Самае надзейнае. Дапаможа ў адну хвіліну.

Хай бы абняў хто — горача, шчыра, аддана, — і сказаў бы: любога люблю цябе. І такога люблю. Пасля ўсяго.

Увечары зноў еў, прагна, хапаў гарачыя бульбіны, глытаў ледзь не цалкам, і мамка плакала зноў. «Гэта добра, сынку, што жнівень, хоць во бульба ёсць, капусты паставім, стараемся тут з бацькам збегаць у грыбы за Уборкі, але ж зіму як перажывём, голад ідзе, хлеба няма, людзі на рынку злыя, усё забірае хлебанарыхтоўка і калгас, урвеш што сабе ці на продаж — злупяць сем скур. На рынку, Шурка,

бяда зусім, хіба што голых вожыкаў не прадаюць. Ані курачак, ані сала – нічога няма. Няхай Бог дапамагае, сынку, ніколі шчэ такога не было, але галоўнае, што ты дома!» – не яму, а так, сама сабе, скорагаворкай кажа маці і плача, і плача. Як паеў ды падняўся з-за стала – падышоў да яе і абняў.

Ніколі не абдымаў сваю мамку. Яна заўсёды была такой моцнай, суровай, непрыступнай, дый проста не было завядзёнкі такой. А тут абняў, прытуліў. І яна прытулілася, нязграбна, няўмела. Усхліпвае, як дзяўчынка.

– Мам... Ну годзе... Пакінь, мам. Я ж цяпер дома. Зараз да хлопцаў пайду. Да Александровіча. Знойдзецца праца. Зажывём, мам. Як раней. Жэньку вывучым. Не плач, ну.

– Не возьмуць цябе нікуды, Шурка, – глуха сказала яму ў плячо мамка, і ён моцна, амаль злосна сціснуў ёй плечы. Возьмуць.

Трэба было выходзіць у горад, але ён стаяў пасярод пакоя і марудзіў. Ад цяжкога, трывожнага сну гуло ў галаве, дзіўна і няўтульна было думаць, што ўчора ў гэты самы час ён яшчэ быў у Смаленску, яшчэ рыпела пад нагамі рассохлая падлога ягонага выгнанніцкага заканурку. Падышоў да паліцы, выцягнуў кніжку, што стаяла зручна, якраз каб падняць руку і ўзяць. Яна так стаяла заўсёды, з таго самага часу, як бацька павесіў гэтыя паліцы, і ён, шаснаццацігадовы гаспадар ужо даволі прыстойнай, тамоў на сорак, бібліятэкі, масціў кніжкі на шырачэзных, на выраст зробленых дошках. «Les cruautés de L'amour»*, Джудзіт Гацье. Як цягнула пад каленкамі, круціла ў грудзях, невыноснай пакутай камянела пад жыватом, калі гартаў соты, тысячны раз яе старонкі, там, дзе зусім цнотна, але ж на той самай мяжы, дзе цнота падае пад націскам жарсці, расказвалася пра каханне нясмелых жанчын і нястомных мужчын. Кніжку гэтую можна было, не баючыся, кінуць разгорнутай на стале ці ложку: ані мамка, ані бацька ўсё адно не разумелі, пра што яна.

І так захацелася пайсці зараз не да Александровіча, не да Зарэцкага, не да якога Галавача (да каго яшчэ можна зараз пайсці?), а да жанчыны, якая б яго чакала і кахала. І каб было ў іх усё проста і шчыра, зусім проста і зусім шчыра, а потым каб яна ляжала на ягоным плячы і шаптала, захлёбваючыся, усё тое простае, што заўсёды шэпчуць жанчыны сваім каханкам. І каб нічога, нічога, нічога – толькі б яна ляжала і шаптала, і тулілася б да яго, і заходзілася б шчаслівым стогнам пад ім.

І ён грымнуў дзвярыма і выйшаў на вуліцу.

Ён ведаў, што Наста працуе ў «Штэрне», і зараз ішоў да яе.

---

* Пакуты кахання (*фр.*).

# ЦЫРАТОВЫ СШЫТАК

Дудар прыйшоў да мяне нечакана, але я ведала, што ён прыйдзе. Зільбер некалькі тыдняў як з’ехаў у Бабруйск, і я бавіла доўгія адзінокія, але шчаслівыя вечары ці то ў рэдакцыі, дзе затрымлівалася як мага пазней, ці дома. Думала пра рознае — пра сваё жыццё, пра Дудара, пра каханне, пра Віцебск — і чакала. Я гатова была чакаць колькі заўгодна, бо ведала, што дачакаюся.

І ён прыйшоў. Зусім неспадзявана — да канца ягонага тэрміну заставалася яшчэ восем месяцаў, я лічыла іх па днях.

Потым я шкадавала, што не глядзела ўвечары ў акно: я пабачыла б, як ён перасякаў плошчу Свабоды, як мінаў дамы і дрэвы, як падыходзіў да белага дома па Рэвалюцыйнай, 2, як падымаўся па прыступках, я прыслухоўвалася б і чула ягоныя крокі на лесвіцы. А так я нічога не бачыла і не чула, рыхтуючы хроніку ў вераснёўскі нумар. І тут дзверы проста адчыніліся, і ён зайшоў.

Гэта быў зусім іншы чалавек — не той круглатвары, самаўпэўнены хлопец, якога я памятала ў «Бельгіі», не той вясёлы пяшчотны каханак, з якім я прападала ад шчасця ў Віцебску, не той няўмольны, упарты суддзя, якім я ведала яго ў дваццаць сёмым, і нават не той, каго бачыла ўночы ў Смаленску. Ён схуднеў, паміж бровамі і ля носа залеглі жорсткія складкі, вусны, раней па-дзіцячаму прыпухлыя, зараз надзьмуваліся крыўдай. Калісьці русы, ён стаў зусім чорным — валасы як груганавае крыло.

— Дабрыдзень, Наста, — павітаўся з асцярожнасцю, хутка міргаючы, паглядаючы на мяне з-пад ілба. — Я вярнуўся.

І так ён гэта сказаў, гэты чужы і родны чалавек, што я ўскочыла з-за стала, за якім сядзела ў анямелым здранцвенні, і кінулася ў ягоныя абдымкі.

І ён маўчаў, і я маўчала, і толькі цалаваліся, і плакалі, і смяяліся, і называлі шэптам адно аднаго па імёнах — і нічога болей не сказалі адно аднаму тады.

Чаму так хутка мінае хвіліна шчасця?

Потым ужо, ноччу, у гарачай цемры маёй хаты, калі я ляжала на ягоным плячы і шаптала яму ўсё тое, што звычайна шэпчуць дзяўчаты сваім каханкам, паміж шэптам і пацалункамі, мы пачалі гутарыць і расказваць адно аднаму ўсё сваё жыццё за гэтыя цяжкія гады. І павольна пачало знікаць усё тое, што ўсё роўна яшчэ адчувалася паміж намі: і насцярожанасць, і няёмкасць чужасці, і недавер, і страх. І на золку ўсё тое знікла зусім.

«А я адразу зразумеў, што гэта ты прыязджала да мяне ў Смаленск траўнем, памятаеш? Гэта ж ты была?» — «Я». — «А я прачнуўся — водарыць антонаўкамі. Дзіўна, вясна — і антонаўкі. Думаў, гэта хмяльная раніца, ведаеш, бывае нейкае непаразуменне з пахамі з раніцы. Пахадзіў па хаце, выйшаў на двор, вярнуўся — не, антонаўкі. І падаконнік. Гэта ж

у цябе ў Віцебску запасы розныя стаялі на падаконніку. Наташа надта не любіла, калі нешта там стаіць». — «Я ўсё сказала Лазару, Шурка. Ён ведае, што я чакала цябе. Ён не будзе перашкаджаць». —»Нават калі б перашкаджаў, Наста. Я прыйшоў па цябе. Назаўсёды. У мяне нікога, апрача цябе, няма цяпер». — «Дык гэта проста безвыходнасць?» — «Не. Я нікому больш не веру. Усе іншыя, Наста. Толькі ты — тая ж. Ты адзінае, што засталося ад таго жыцця, у якім я быў шчаслівы і якога больш няма. Яны не адступяцца ад мяне, Наста. Будуць трымаць, як цяля на кольцы. Як ірванешся, дык з мясам, балючым. Самым кволым. Мы не будзем распісвацца з табой. Бо яны адбяруць і цябе. Ніхто не павінен ведаць нічога. Я знайду табе працу — ты сыдзеш з рэдакцыі. Я хачу, каб ніхто не ведаў, што мы разам. Ніхто». — «Яны не адолеюць мяне». — «Яны ўсіх адолеюць, Наста. Але я буду цяпер іншым. Я буду асцярожным. Я буду ціхім. Ты будзеш кахаць мяне іншым?» — «Мне ўсё роўна, якім ты будзеш. Хоць бы іншым. Усё роўна». — «Я не ведаю, ці гэта добра, Наста, што табе ўсё роўна». — «Гэта добра».

І ён стаў іншым. У кастрычніку ў «Полымі» ўсе прачыталі — хто са здзіўленнем, хто са злараднасцю, хто з абыякавасцю — «Ліст да рэдактара»: «З лістом звяртаюся, таварыш, я да вас...». Зверху стаяла такое знаёмае мне: Ал. Дудар.

Я нават не ўзяла дамоў гэты нумар, але такі ж увечары прынёс Шурка сам.

Быў ён сур’ёзны, нейкі дзелавіты, крыху мітуслівы, прагна еў, паклаўшы часопіс пасярод стала ў чаканні, што разгарну ці папытаюся. Не счакаўшы, узяў яго, панёс у пакой, і пакуль я правярала сшыткі, сядзеў побач, гартаў старонкі. Не сцярпеў.

— Наста... Паслухай верш...

...Тады я ворагам зрабіўся сам сабе.
І свой прысуд цяпер падпісваю сам я:
У бязлітаснай вайне, ў зацятай барацьбе
Я мушу змыць з сябе ганебнай здрады пляму.
Зноў ясны погляд мой і сэрца не дрыжыць,
І калі вораг зноў узнясецца згубнай зданню,
Дык у апошні бой на першым рубяжы
Я з песняй і штыхом яму насустрач стану.
Хай полымя мастоў за мной гарыць да зор,
На бёрды новыя я навіваю ніці.
І буду ткаць на іх квітнеючы узор
Нязломнай барацьбы, жыцця і будаўніцтва...

Мы памаўчалі.

— Мне падабаецца, Шурка. Пра «свой прысуд» падабаецца — смела. «Суровы прыгавор падпісваю першым» — то ж Чарот напісаў? А ты не стаў чакаць Чаротавага прысуду, сам сабе падпісаў... Бёрды, ніці... Добрая

метафара. Полымя мастоў. Апошні бой на першым рубяжы. Трэба жыць, Шурка. Усё адно ж нам трэба жыць. Калі-небудзь усё будзе як след, праўда? Калі-небудзь ты зможаш пісаць, як захочаш, да? Толькі перацярпець.

Дудар ціха засмяяўся.

— Нічога, Наста. Нічога. Змыю гэта з сябе. І гэта змыю таксама. Я ў «Полымя» гэта аддаў, а ў ЛіМ «Экзотыку» занёс.

— «Экзотыку»? — у мяне перахапіла дыханне. Тая «Экзотыка» — вялікі верш, амаль паэма — выплеснулася з яго ў верасні гарачай хваляй: пра малыя народы, каланізатараў, помсту прыгнечаных і рамантыку нацыянальнай барацьбы. — А як яны зразумеюць, Шурка? Цябе ж зноў...

Ён засмяяўся.

— Не зразумеюць, Наста. Заўтра будзе ў нумары. Галоўліт дазволіў. Непісьменныя людзі, што ты хочаш. Партызаніць буду, Наста. «Яму хатаю сіні бор», памятаеш?

Так і пайшло жыццё. Я засталася адна ў хатцы ў Омскім завулку, Лазар з'ехаў на іншую кватэру. Дудар прыходзіў да мяне, іншы раз ночыў, іншы раз жыў тыднямі, іншы — акопваўся ў сябе на Правадной, і тады я проста чакала. Часцяком ён заходзіў па мяне — і пакуль я працавала ў «Штэрне», і калі сышла адтуль у дзявятую школу настаўніцай, куды на свае гадзіны пусціў мяне Макавееў, зусім старэнькі ўжо чалавек, былы Шуркаў выкладчык, — і мы ішлі бадзяцца па горадзе, па завулках, па ўскраінах, па пыльных вулачках між драўляных дамкоў, і часцей за ўсё сядзелі ў закінутым садку за Камароўкай на даху старога склепа. Ён нават часамі смяяўся там, у садку, калі ўспамінаў вандроўкі з Галубком ці Францысканскае балота, на якім яны з Толькам адгойсалі сваё дзяцінства. Аднаго разу мы сустрэлі ў горадзе Наташу. Яны са Звонакам, цяперашнім мужам, жылі ў Ленінградзе, але часта прыязджалі ў Менск. Наташа ішла па вуліцы, прыгожая, высокая, залатавалосая. Павіталася, спынілася. Смелая! Я дык, як пабачыла яе, замітусілася ўнутры: што рабіць мне? Яны абое былі зусім спакойныя, усміхаліся, дакрануліся адно да аднаго: «Ну як жывеш?» — «Па-рознаму». — «Не крыўдзіць Пятро?» — «Бывае». — «Дык я скажу, каб не крыўдзіў». — «Ці паслухае?» Некалькі хвілінаў усяго — і мы пайшлі далей, і Наташа пайшла, і я адчула, што іхняя гісторыя засталася паміж імі, і ніводны з іх яе не выкрасліў з сэрца, і нешта такое яны ведалі адно пра аднаго, чаго не ведаў болей ніхто.

Дудар часам страшэнна піў. Яны ўсе пілі, чорна, брыдка, падымаючы галаву ў рэдкія, заўсёды непрадказальныя дні. Гэтыя хадзілі гуртом — Дудар, Самуйлёнак, Звонак, Валерык Маракоў, зрэдку, але далучаўся да гэтага бадзяння Зарэцкі, яшчэ радзей — Чарот. Гэта быў блёклы, крыўдны цень тых дзён, калі яны, маладыя, моцныя, пругкія, гаспадарылі на менскіх вуліцах. Часта пілі ў Звонака, бывала — на Правадной, пілі ў сталоўцы До-

ма пісьменніка, у піўной на вузенькай вулачцы ля кінатэатра «Чырвоная зорка». Аднойчы апынулася там і я. Пацёрты, цвілы Лёва Браўн, колішні кумір студэнцкай моладзі, зорка нэпа, разлівае за стойкай піва. Ягоная белая кашуля ўся ў брыдкіх плямах, абшэўкі чорныя, вільготныя, ён напявае: «Луна, луна, наверно, ты пьяна и мужу неверна...» — і ўся піўная рагоча непрыемным, зубатым смехам. Дудар таксама смяецца, рот ягоны крывіцца жудаснай усмешкай, твар ягоны раптам робіцца падобным да гарбуза. Ніколі болей не заходзіла туды.

Былі яны і ў мяне, разы тры, напэўна, самыя надзейныя, бо Дудар усё ж бярог гэтую хату і свой у ёй спакой.

Якія яны былі цяпер непрыгожыя, гэтыя хлопцы... Чарот неяк паплыў, востранькія, акуратныя рысы ягонага заўсёды ўзнёслага твару папаўзлі, азызлі, паміж зубоў разышлася шчыліна, пальцы на руках апухлі, вочы пасвятлелі і глядзелі зло і пуста. Кляшторны, ад якога некалі немагчыма было адарвацца, гледзячы на незвычайны, бледны, рамантычны, нібыта выразаны з каштоўнага дрэва твар, цяпер быў проста шэры, як старая прасціна, і ягоныя вусны, так прыгожа калісь намаляваныя на парцалянавым твары, крывіліся ў агіднай усмешцы. Буйныя кучарашкі Вольнага цяпер трэсліся неахайным пухам над спітым тварам, і з ягоных жартаў ужо ніхто не смяяўся. Аднойчы прыйшоў і Міхась Зарэцкі, і я ледзь не заплакала, калі пабачыла ягоныя пустыя, амаль белыя вочы і сціснутыя кулакі. Валерык Маракоў, зусім маладзенькі, такі яснавокі, светлатвары, з кіпай мяккіх бялявых валасоў, выпіўшы, сядзеў, углядаючыся ў кут белымі вачыма. Страшна было глядзець і на Дудара: ягоны круглы, такі прывабны калісь юнацкай сваёй свежасцю і плаўнасцю рысаў твар цяпер нагадваў перакулены трохкутнік: жорсткія, зблытаныя, нібы сувалака, валасы, нізкія бровы, завостраны нос, жорсткі, злы рот. Цяпер ён міргаў, як стары, цяжка, надсадна, стомлена. Партызанілася яму не надта.

Быў тады і Эдзік Самуйлёнак. Яны сябравалі з Дударом даўно, Эдзік вельмі проста сыходзіўся з людзьмі і распачынаў гутарку, і мне было з ім лёгка. «Разумееш, Наста, усе людзі падзяляюцца на тры катэгорыі, — сказаў ён мне неяк нападпітку. — Толькі на тры. Яны бываюць добрыя, злыя і часам добрыя, а часам злыя. Ты добрая. Бабарэка (ён перайшоў на шэпт) быў добры. Дубоўка — часам добры, часам злы. Чарот — злы. І Зарэцкі злы. А Дудар твой добры, і Валерык Маракоў добры». — «А ты, Эдзік?» — «Я... Я добры», — сказаў ён.

Эдзік раз на месяц хадзіў у ГПУ і пісаў справаздачы пра ўсіх пісьменнікаў, за якімі кожны дзень добрасумленна занатоўваў сумнеўныя гутаркі, анекдоты і паўслоўцы, у якіх можна было адшукаць антысаветчыну. Гэта мне потым расказаў Дубоўка, калі Эдзіка ўжо даўно не было на свеце.

Часам хлопцаў нібыта адпускала, і яны хадзілі па горадзе па адным, пацёртыя, але цвярозыя, пры гальштуках і ў палітонах, прыносілі ў рэ-

дакцыі жаўтаватыя паперчыны, спісаныя шэрымі алоўкамі, сядзелі на пасяджэннях і гаварылі шэрымі галасамі адпаведныя словы.

Але, можа, тое толькі падаецца мне, і час той быў зусім звычайны, а я цяпер уяўляю яго інфернальным. Бо мы ж хадзілі ў тэатры, снедалі і вячэралі, іншы раз смяяліся з нейкіх глупстваў, ляжалі побач на ложку і гарталі кніжкі, глядзелі на дрэвы, на кветкі, бачылі аблокі. Страх быў звычкай, ці жылі мы наогул без яго? Чалавек усё жыццё нечага баіцца.

Здаралася, мы ішлі разам у Дом пісьменніка — зусім зрэдку, калі там бывалі канцэрты. Потым мы ішлі блукаць па вуліцах. Заходзілі да Паўлюка на могілкі, побач рабочыя ўсё яшчэ тузгалі туды-сюды трамвайныя рэйкі, як і тады, у тым апошнім Паўлюковым жніўні. Заходзілі, садзіліся на лавачку. Пад лавачкай была схованка — чарачка, сцізорычак. Ці то віно, ці то гарэлка чамусьці заўсёды былі ў Дудара з сабой, і ён каўтаў чарку-другую, прыгаворваючы нешта для Паўлюка, а потым пасміхаўся сам сабе і сядзеў, разгублена міргаючы, і глядзеў на дрэвы. Побач з Паўлюковай магілай вырас малады клён, які чапляўся каранямі за магілу нейкай дзяўчыны, што, відаць, была апошняй у сям'і і памерла, не нарадзіўшы дзетак, бо помнікам ёй стаяла каменная калода з пасечаным голлем. Клён рос амаль з помніка, і калода выглядала старэйшым братам маладога дрэўца.

Былі ўсё ж светлыя дні. Шурка тады шмат часу праводзіў за сталом, абклаўшыся кнігамі. Купала як загадчык літкамісіі па перакладах абцяжарваў Дудара ледзь не самымі вялікімі замовамі. Атрымаўшы пераклад, ён прыбягаў шчаслівы, ажно свяціўся ўвесь. Яго амаль не друкавалі ўжо, ніколі не згадвалі ў нейкіх пераліках беларускіх пісьменнікаў, не ўспаміналі ягоныя зборнікі, як ніколі не згадвалі і Дубоўку з Бабарэкам. Таму пераклад — гэта была радасць. Ён пісаў, хлабыстаў гарбату, бегаў па пакоі, зноў садзіўся, увечары мы маглі пайсці па вуліцах.

Аднойчы я пачула з кухні гукі, нібыта нехта задыхаецца і бездапаможна каўкае, хапаючы ротам паветра. Я кінулася ў хату. Шурка, паваліўшыся на ложак, плакаў уголас, закрыўшы твар рукамі, зусім як дзіця.

У маленстве ён шмат плакаў, маці нават думала, што гэтае ягонае міргане праз частыя слёзы. Яшчэ ў Навасёлках старэнькая бабуля, суседка, якую часам прасілі прыглядзець за малым, страшэнна напужала яго ведзьмакамі і вурдалакамі, і ён не спаў начамі і ціхенька скуголіў пад покрыўкай, каб ніхто не чуў. У яго была жывая і бязмежная фантазія, і сваіх вурдалакаў ён бачыў як жывых, і жоўтыя кіпці, і гнілыя зубы, і рудыя пасмы.

Потым я часта ўяўляла яго маленькім. Адзін час гэты маленькі хлопчык, якога я дзень за днём прыдумвала сабе, які рос ува мне, каб зліцца з успамінам пра Алеся Дудара, якім я ўбачыла яго ў «Бельгіі», гэты хлопчык здаваўся мне ўласным сынам, якога ў мяне не было. Я прыдумвала яго з усёй адказнасцю, каб сапраўды з яго вырас мой Шурка, той, якога

я кахала. Гэты хлопчык быў добры і пяшчотны, бы тое цялятка, але ж і страшэнны неслух, і нечуваны хітрун. Усё, што яму было трэба, супроць забаронаў і правілаў, ён усё роўна рабіў, цішком, хітрасцю, а калі раптам лавілі — пачынаў горача каяцца, бажыцца, біць сябе ў грудзі і цалкам прызнаваць сваю віну. І ніводнага разу не было, каб ягоная суровая матуля, каб я разам з ёй, не расчулілася і не даравала падшыванцу самых нечуваных свавольстваў.

Летам трыццаць другога мы на месяц з’ехалі ў Віцебск і там штодня хадзілі на Лучосу, нават у дождж. Ён, дарэчы, вельмі добра плаваў — шчыра, з задавальненнем. Даваў нырца і пад вадой, незаўважна, ціха, нібыта іголкай, прашываў прахалоду, а вынырваў амаль каля другога берага. Тады вакол яго не было пырскаў, фантанаў, ён уваходзіў у ваду, як лязо, бясшумна, ёмка. А бывала, дурэў, падымаў навокал цэлую буру, гонячы ажно хвалю да берага. Я заўсёды чакала яго на беразе, каб не сапсаваць гэтай прыгожай карціны — Дудар і вада. Аднойчы ён усё ж зацягнуў і мяне ў холад і пяшчоту хуткай гэтай вады. З ім і я была ў ёй, нібыта рыба, вольная і смелая. Гэта быў шчаслівы месяц: у Віцебску не было аніводнага літаратурнага знаёмага, наогул ніякіх знаёмых, мы былі ўдваіх, ён шмат пісаў, я гатавала яму, мыла бялізну, шыла, прасавала. Два разы мы нават схадзілі ў тэатр. Ён страшэнна пляваўся, гаварыў з’едліва, складаючы вусна цэлыя артыкулы, якія, вядома ж, не запісваў. Але ўсё ж у Віцебску пасвятлеў з твару, наеў шчокі, стаў зноў падобны да таго Дудара з «Бельгіі», у якога я закахалася. У жніўні мы вярнуліся ў Менск, і ўсё зноў стала шэрым.

Ён зноў піў. Тыдзень без перапынку, месяц, два. Я шалела дома: дзе, што з ім, а раптам забралі? З астатніх сіл чакала, і ён прыходзіў да мяне. Прыйдзе, сядзе ля стала, рукі пакладзе перад сабой, як стомлены школьнік, павесіць галаву, усміхаецца бездапаможна, міргае, маўчыць, бо ўжо не можа нічога сказаць. Так і засне седзячы. Я здымала з яго боты і вопратку, калі ён валіўся на ложак, накрывала коўдрай, падавала вады.

Здаецца, у трыццаць другім знеслі «Бельгію».

Будаваўся Дом урада, ягоныя гмахі ўжо ўзнасіліся над Савецкай, і дамкі ля Чырвонага касцёла адзін за адным руйнавалі і вывозілі. «Бельгія» стаяла даўжэй за іншыя, хоць яна была ўжо і не «Бельгія» зусім — бітма набіты людзьмі дом, у кожным пакойчыку якога кіпела кіпнем людская куламеса.

— Пойдзем са мной, Шурка, паглядзець на «Бельгію». Яна хутка загіне. Шкада. Табе шкада?

— Мне людзей шкада, Наста, а дамоў не шкада. Можа, адзінае, што яны робяць добрага, — тое, што будуюцца. Паглядзі, якім становіцца горад. Халупы сваё аджылі.

І я пайшла да «Бельгіі» адна ў яе апошні вечар.

Гэта быў ліпень. Спёка ўжо спала, дзьмуў ласкавы ветрык, і рабочыя на будоўлі бегалі, як мурашкі: хутка, упарта. Па пояс голыя, чорныя, бліскучыя

ад поту, цягнулі яны ўверх драбіны з цэглай, беглі ўніз пустымі. Агромністы шэры дом, у тысячы разоў большы за кожнага з іх, рос проста на вачах. Як гэта адбывалася, немагчыма было зразумець: маленькія, слабыя, худыя людзі аднымі толькі рукамі ўзводзілі такую грамадзіну...

Ляцеў з будоўлі пыл і клаўся на Савецкую: на брук, на дахі дамоў, на вежы Чырвонага касцёла, у якім якраз толькі-толькі запрацаваў польскі тэатр. Ляцеў шэры калючы пыл — і касцёл сівеў. Пылу было шмат: шчодра, бясконца ляцеў ён на вішні, яблыні і грушы, што стаялі цяпер адны, абкружаючы тыя месцы, дзе калісьці былі сядзібы, стаялі, сівелі і чакалі непазбежнай смерці пад сякерай рабочых.

Шэры гмах, шырокі, каржакаваты, раскінуў агромністыя крылы над Савецкай і глядзеў на мяне тысячамі будучых вокнаў, і тыя чорныя, бліскучыя, паўголыя людзі, якія ўзводзілі яго, беглі па ягоным абыякавым твары ручаямі.

«Бельгія» стаяла зусім пустая, з выстаўленымі шыбамі, пастарэлая, перакошаная, перапуджаная, і ціхенька скавытала на ветрыку голая аконная рама. Двор быў завалены смеццем, каменная адрына расчынена, адтуль цягнула цвіллю, і глог забіўся ў кут, прыціснуўшыся да плота. Я села на прыступкі і сядзела там да ночы. Назаўтра яе не стала, але мне было вусцішна, што я была з ёй у апошнія яе хвіліны і гэтым нібыта ўратавала яе. Яна цяпер жыла ўва мне — уся, як была, з зялёнымі сценамі, белымі рамамі, форткамі і пахам тытуню і палыну, з жоўтымі вокнамі, з якіх выплёскваўся на Савецкую ўсёперамoжны малады рогат, з тым пакоем, з тым нешырокім ложкам, з тым месяцовым водсветам, які клаўся на столь блакітнымі квадратамі.

І часта потым, хоць і міналі гады, я чула, ідучы паўз шэрыя сцены Дома ўрада з перадачамі свайму Шурку ў турму, з тымі перадачамі, якія ўжо не даходзілі да яго, часта я чула, як тужліва і няспынна грукае на вятры незачыненая фортачка няіснай гасцініцы «Бельгія».

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

Мне важна адзначыць, што ў рамане «Гасцініца «Бельгія» амаль няма мастацкай выдумкі. У кожным разе, ён тут мінімальны.

Часцей за ўсё гэты тэкст – пераказаныя архіўны дакумент, газетны артыкул, чарнавік успамінаў, старонка мемуараў, верш, апавяданне, крытычны водгук, хроніка «тоўстага» часопіса. Першая частка мае крыніцаю даведнік Леаніда Маракова «Галоўная вуліца Мінска» і кніга ўспамінаў Яна Скрыгана «Ранішнія росы», часткі 13 і 30 амаль літаральна перадаюць змест пратаколаў адпаведных пасяджэнняў

«Маладняка», у частцы 6 (абед Кузьмы Чорнага і Паўлюка Труса) пераказаны блізка да арыгінальнага тэксту ўспаміны Максіма Лужаніна, частка 40 вырасла з падшыўкі «Савецкай Беларусі» за травень 1928 года, частка 52 амаль цалкам складаецца з успамінаў Яўгена Рамановіча, спроба самагубства Прышчэпава (частка 54) адноўлена па ўспамінах Міколы Улашчыка, контррэвалюцыйныя лістоўкі (частка 48) цытуюцца па матэрыялах фонду НКУС і гэтак далей, я не здолею пералічыць усё, бо амаль кожны абзац мае сваю мемуарную ці дакументальную крыніцу. У тэксце рамана выкарыстаны матэрыялы беларускіх архіваў БДАМЛМ, ЦНБ НАН Беларусі, НАРБ, НГАБ, ДАМВ, маскоўскага РДАЛМ, піцерскага ІРЛІ, тамбоўскага ДАТВ. Дарэчы, і назва рамана — адтуль, з дваццатых. «Гасцініца „Бельгія“» — менавіта так называўся нарыс Я. Скрыгана пра з'езд «Маладняка»; нарыс той быў страчаны ці то ў вобшуках падчас арышту ягонага аўтара, ці то ў высылках.

Я імкнулася аднавіць прастору і час такімі, якімі яны сапраўды маглі быць з 1925 да 1932 год, і на гэтым няпростым, але захапляльным шляху зразумела, колькі багаццяў хавае ў сабе наш горад, ягоныя вуліцы і завулкі, колькі намаганняў — валанцёрскіх, нічым не аплачаных! — прыкладаюць менскія гісторыкі, краязнаўцы, экскурсаводы дзеля таго, каб аднавіць і захаваць горад такім, якім ён быў, распавесці і перастварыць ягоныя легенды, не даць загінуць у вечнасці ягоным жыхарам. Калі вам, як і мне калісьці, падаецца, што Менск — горад без гісторыі, без харызмы, без легенды, не верце сабе. У Менска ёсць усё — мы проста лянуемся ведаць і шукаць. Я ўдзячная

«Гасцініцы „Бельгія“» за тое, што яна адкрыла для мяне Менск праз энцыклапедычныя выданні Леаніда Маракова і Захара і Сафіі Шыбекаў, экскурсіі і кансультацыі Вадзіма Зелянкова, Паўла Каралёва і Паўла Дзюсекава, тапаграфічныя росшукі Паўла Растоўцава, артыкулы Віктара Жыбуля.

Калі мне не хапала дакументаў ці мемуараў, я брала матэрыялам для «Бельгіі» тагачасныя беларускія раманы, апавяданні і вершы: міжваенныя пісьменнікі прагна, сумленна засвойвалі і фармулявалі час, у якім жылі, асабліва ў 1925—1928 гадах, пакуль не пераcталі верыць у сваё «сёння». Адтуль, з апавяданняў і вершаў Алеся Дудара, узялася прастытутка Тамара, вурдалакі, якімі пужала палеская бабуля маленькага Шурку, адшліфаваны сплёт рэек за вуліцай Правадной і іншыя дэталі. Гутаркі Дудара і Зарэцкага ў цягніку «Менск—Есентукі» і ў менскай кватэры Зарэцкага, а таксама агульныя рысы сяброўскай бяседы на кватэры Андрэя Александровіча рэканструяваны з публіцыстычных артыкулаў «наццэмаў», а таксама з урыўкаў рамана М. Зарэцкага «Крывічы» і «Рубеж», у якіх, па

сведчаннях сучаснікаў, аўтар вывеў пад імем Ліпіна Алеся Дудара, пад імем Пражэні — Міхася Чарота, пад імем Сляпня — Алеся Фаміча Адамовіча. Аўтарка цыратовага сшытка Наста Нарутовіч сабрана мной з паэмы Уладзіміра Дубоўкі «Кругі» (адтуль яе характар і імя, а таксама гісторыя з лістом да Дубоўкі), з вершаў Алеся Дудара, якія ўвайшлі ў зборнік «І залацісцей, і сталёвей» (адсюль — трохкутнік з Наташай Вішнеўскай і пачуцці галоўнага героя да Насты), а таксама з артыкула Тодара Глыбоцкага «Літаратурнае балота» (Полымя, 1928, № 1), праўда, там яна аднойчы названа Настай, а другі раз — пэўна, памылкова — Ганнай.

Зразумела, аднаўляючы час і прастору, я памылялася недзе, магчыма, моцна. Калі чытач пабачыць, калі крытык апрылюдніць мае хранаграфічныя ці тапаграфічныя памылкі, я буду вельмі ўдзячнаю: няма большай узнагароды для літаратара, як увесці рэаліі сваёй кнігі ў публічны дыскурс, асабліва калі гэты дыскурс дыскусійны.

Ёсць у «Гасцініцы „Бельгія“» некалькі свядомых анахранізмаў. Завулкі Малочны і Шкляны, якімі Дудар ходзіць на Праўдную, атрымалі свае сучасныя назвы толькі ў 1928 годзе, гэта значыць, на першых старонках рамана яны павінны былі б мець іншыя назвы. Але мне было важна, каб сучасны чытач мог як найпрасцей уявіць сабе гэтыя сцежкі да зніклай сёння вуліцы і не блытацца ў зменах назваў, тым больш што вуліцы Праўднай сёння няма, а Шкляны і Малочны завулкі ёсць. Гэтаксама ўнутранымі патрэбамі раманнага сюжэта тлумачацца яшчэ дзве гістарычныя вольнасці. Вандроўка Зарэцкага і Гнеўкі па ваколіцах вёскі Таль адбывалася не ў 1928, а ў 1932 годзе і была значна больш драматычная, бо калі ў 1928 калгасы распачыналіся як справа больш-менш добраахвотная, то ў 1932 даціскалі апошніх, самых упартых. Таксама і высокая паводка, падчас якой Дудар, Маракоў і Чарот ратавалі маёмасць Купалы ад вады, паглынула цэнтр Менска не ў 1929, а ў 1931 годзе. Акрамя патрэбаў тэксту, апраўданнем мне ёсць той факт, што і паводкі, і пісьменніцкія вандроўкі па вёсках адбываліся рэгулярна і адрозніваліся бадай што толькі інтэнсіўнасцю.

Мне хацелася напісаць класічны гістарычны раман. Гістарычны раман наогул падаецца мне найвышэйшай ступенню існавання прозы. Сюжэт, складзены аўтарам штучна, дзеля патрэбаў «захапіць увагу чытача», ці «зрабіць чытанне займальным», ці нават дзеля «раскрыцця характараў», «адлюстравання тыповых канфліктаў», падаецца мне справай, не вартай высокай літаратуры. Сюжэт сапраўдны, створаны жыццём і асвечаны спадзяваннямі і пакутамі, перамогамі і расчараваннямі сапраўдных людзей, сюжэт, убачаны

празаікам і «вылушчаны» з мільярда сюжэтаў, якімі поўніцца свет вакол нас, ёсць найвялікшае дасягненне таго, хто асэнсоўвае свет пры дапамозе слова. І тут сапраўды трэба і захапіць увагу, і раскрыць характары, і адлюстраваць канфлікт, і зрабіць чытанне займальным — не дзеля таго, каб даць чытачу адпачынак ці забаўку, а дзеля таго, каб падзяліцца з ім захапляльнасцю навакольнага свету і аб’яднаць творчыя энергіі таго, хто піша, і таго, хто чытае, у даследаванні жыцця і тых, хто жыў ці жыве.

На жаль, героі «Гасцініцы „Бельгіі“» ўсё адно атрымаліся такімі, якімі іх убачыла я, а не такімі, якімі яны былі насамрэч. Літаратура ўсё ж абмежаваная ў магчымасцях, як і ўся культура, на жаль, і не таму, што мастацтва слова само па сабе бездапаможнае, а таму, што ствараецца яно чалавекам. Шмат што мы ўмеем — не ўмеем толькі вяртаць мінулае і тых, хто адышоў.

Да таго ж невядома, дзе шукаць маіх герояў сапраўднымі. У мемуарах сучаснікаў яны выглядаюць такімі, якімі іх бачылі мемуарысты, у газетных публікацыях уласнага аўтарства — такімі, якімі яны хацелі быць, у крытычнай дыскусіі — такімі, якімі іх рабілі ворагі. Чалавек у тэксце — заўсёды фантом, але чалавека па-за тэкстам шукаць няма дзе. Тэкст шмат у чым хлусня, але ён адзіная шматвымерная магчымасць захаваць тое, што мінае. Відэа слабейшае за яго, бо не дае працы ўласнаму ўяўленню, сцвярджаючы аднабаковы погляд камеры і рэжысёра ў якасці адзінага магчымага.

Я ведаю пра Алеся Дудара шмат, але не ведаю, ці паліў ён, што любіў есці, як сядзеў за пісьмовым сталом, ці падварочваў, прыкладам, пад сябе нагу, як рэагаваў на нечаканае ці жахлівае — ці падала ў яго сэрца ў жывот, ці слабела пад каленкамі... Усё гэта аўтар гістарычнага рамана павінен дадумаць — тут і пачынаецца хлусня. Таму для мяне вельмі важныя тыя дэталі, якія сапраўдныя, шматразова пацверджаныя мемуарыстамі: тое, што ён сутаргава міргаў, што занадта эмацыйна рэагаваў на знешнія раздражняльнікі, што быў нешматслоўны, але гаваркі пад выпіўку. З такіх сапраўдных, жыццёвых, не прыдуманых, надзвычай каштоўных для мяне дэталяў — скупыя жэсты Міхася Чарота, тонкія пальцы і сталёвыя вочы Зарэцкага, Купалавы ружы ля дома, тапол камлём напалову на вуліцы, напалову на двары, смех Паўлюка Труса, жоўтыя боты Тодара Кляшторнага, «Стаканчики гранёные», якія спявае Аня Савіч, ружовыя шчокі Валера Маракова, кажухі Вольнага і Дудара, слуцкія паясы першых маладнякоўцаў і белы абрус узвышаўцаў, сурвэт, які ўспамінае ў пакоі Рыўкі Кузьма Чорны, і грубка ў пакоі Дудара, якая распальвалася з калідорчыка, — складаецца для мяне ці не самае важнае ў гэтай кнізе.

У іх, у гэтых дэталях, яшчэ мігціць для мяне надзея на тое, што некалі, можа, нехта іншы, у апошнім, гранічным напружанні творчай фантазіі ўсё ж верне нарэшце да жыцця гэтых людзей такімі, якімі яны былі насамрэч.

Навошта? Не ведаю. Можа быць, каб мець яшчэ адзін доказ на карысць непахіснай веры ў тое, што час можна перамагчы, а смерці няма.

# ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

**Алесь Дудар (Дайлідовіч)** (1904, в. Навасёлкі Петрыкаўскага раёна — 1937, Курапаты, Менск) — беларускі паэт, празаік, крытык (пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі), перакладчык. Акцёр тэатра У. Галубка. Сузаснавальнік «Маладняка», віцебскай і полацкай яго філій. Член ЦБ «Маладняка», супрацоўнік «Савецкай Беларусі». Сябра аб'яднання «Полымя». Арыштаваны ў 1929 г., высланы ў Смаленск, паўторна арыштаваны — у 1930 г. па справе СВБ, трэці раз — 01.11.1936. Расстраляны 29.10.1937.

**Вольга Іванаўна Дайлідовіч** (1882, в. Талька —1962, Менск) — маці Алеся Дудара. Праз усё жыццё хатняя гаспадыня. Да сярэдзіны 1950-х гг. жыла па вул. Праваднай д.15а, пасля зносу — у кватэры дачкі на вул. Чычэрына. Захавала паперы і бібліятэку сына, ратавала ягоны архіў ад бамбёжак вайны і пасляваенных распродажаў. Напрыканцы жыцця склала паэму пра сына, якую не магла занатаваць, бо была непісьменная, і чытала яе на памяць дачцэ і ўнучцы Лідзе. Пахаваная на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

**Аляксандр Станіслававіч Дайлідовіч** (? — 1947, Менск) — бацька Алеся Дудара. Працаваў арандатарам, загадчыкам віннай крамы ст. Пухавічы, канторшчыкам Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Пасля арышту сына захварэў на эпілепсію, пакінуў працу па інваліднасці. Пахаваны на Лютэранскіх могілках у Мінску, якія былі знесеныя пасля вайны, ані магілы, ані крыжа не захавалася.

**Яўгенія Аляксандраўна Дайлідовіч** (1914, Мар'іна Горка — 1959, Менск) — малодшая сястра Алеся Дудара. Закончыла Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум, Ціміразеўскую сельскагаспадарчую акадэмію у Маскве (адукацыю і прафесію для Жэні абраў старэйшы брат, сказаўшы, што Беларусі найперш патрэбныя добрыя аграномы). У 1938 г. нарадзіла дачку Ліду (муж Жэні, Марк Трохан,

выпускнік Ціміразеўкі, удзельнік вайны, пасля вяртання з фронту ў сям'ю не вярнуўся; кандыдат сельскагаспадарчых навук М.А. Трохан – стваральнік Зеленаградскага дэндрапарку, у 1949–1950 гг. – дырэктар Крымскага сельскагаспадарчага інстытута). Падчас нямецкай акупацыі Жэня пешшу сышла з горада з маленькай дачкой, у эвакуацыі працавала аграномам, па вяртанні ў 1946 г. жыла з маці, працавала ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Займалася справамі рэаблітацыі брата, аднаўленнем ягонага імя, дапамагала складаць першыя пасляэабілітацыйныя зборнікі твораў брата. Пахаваная на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

**Наталля Вішнеўская** (1907, Коўна – 1986, Ленінград) – беларуская паэтка, рэдактар. Жонка Алеся Дудара (1928–1929), Алеся Звонака (1930–1936), Янкі Бобрыка (1936–1942). Пасля арышту другога мужа з'ехала з Менска спачатку на вёску ва Украіну, пасля – у Ленінград, у Беларусь болей ніколі не вярталася. Працавала ў Ленінградзе выхавацелькай дзіцячага прытулку. Падчас блакады была эвакуяваная разам з выхаванцамі, трэці яе муж, беларускі паэт Янка Бобрык, з'язджаць адмовіўся і памёр у блакадным Ленінградзе ад голаду ў 1942 г. Пасля вяртання працавала бібліятэкаркай у Стаматалагічным інстытуце Ленінграда, выхоўвала двух хлопчыкаў, якіх усынавіла з прытулку. Абодва прыёмныя сыны сталі капітанамі дальняга плавання. Памерла ў Ленінградзе, пахаваная на могілках Красненькае.

**Анатоль Вольны (Ажгірэй)** (1902–1937) – беларускі паэт, празаік, публіцыст, фельетаніст (пад псеўданімам Алёша), сцэнарыст, адзін з першапачынальнікаў беларускага кіно. Сузаснавальнік «Маладняка». Арыштаваны ў 1936 г., расстраляны 29.10.1937.

**Міхась Чарот (Кудзелька)** (1896–1937) – беларускі паэт, першапачынальнік беларускай пралетарскай літаратуры. Акцёр тэатра У. Галубка, удзельнік хору У. Тэраўскага. Сузаснавальнік «Маладняка», старшыня аб'яднання. Галоўны рэдактар «Савецкай Беларусі». Арыштаваны ў 1937 г., расстраляны 29.10.1937.

**Міхась Зарэцкі (Касянкоў)** (1901–1937) – беларускі празаік, публіцыст. Акцёр тэатра У. Галубка. Сябра аб'яднанняў «Маладняк» і «Полымя». Загадчык аддзела літаратуры і мастацтва Беларускай акадэміі навук. Арыштаваны ў 1936 г., расстраляны 29.10.1937. Раман М. Зарэцкага «Крывічы», прысвечаны гісторыі маладога літаратурнага руху 1920-х гг., быў знішчаны ў наборы ў 1929 г., рукапіс, верагодна, быў спалены ў жніўні 1937 г. разам з іншымі рукапісамі арыштаваных літаратараў. Тэксты «Крывічоў» да сёння

не знойдзены і лічацца адной з самых буйных страт беларускай літаратуры 1920-х гг.

**Уладзімір Дубоўка** (1900–1976) – беларускі паэт, празаік, перакладчык, мовазнаўца. Сябра «Маладняка», адказны сакратар яго ЦБ, заснавальнік аршанскай філіі, сузаснавальнік «Узвышша». Арыштаваны ў 1930 г. па справе СВБ, высланы ў Яранск, у 1935 г. тэрмін падоўжаны на 2 гады. Паўторна арыштаваны ў 1937 г., асуджаны да 10 гадоў лагераў. Трэці раз – у 1947 г., асуджаны да вечнага пасялення. Рэабілітаваны ў 1954 г., вярнуўся у Маскву, актыўна ўдзельнічаў у літаратурным працэсе 1960-х гг.

**Адам Бабарэка** (1899–1938) – беларускі крытык і літаратуразнаўца. Сузаснавальнік «Маладняка» і «Узвышша». Выкладчык БДУ. Заснавальнік беларускай літаратурнай крытыкі. Арыштаваны ў 1930, асуджаны да высылкі, у 1935 г. тэрмін падоўжаны на 2 гады. Паўторна арыштаваны ў 1937 г., асуджаны да 10 гадоў лагераў. Памёр у лагерным шпіталі.

**Валеры Маракоў** (1909–1937) – беларускі паэт. Сябра аб'яднанняў «Маладняк», БелАПП. Арыштаваны ў 1933 г. Паўторна арыштаваны ў 1936 г., расстраляны 29.10.1937. Пляменнік Валерыя Маракова Леанід Маракоў (1958–2016) – выбітны даследчык сталінскіх рэпрэсій, стваральнік энцыклапедычных даведнікаў рэпрэсаваных беларусаў, адпаведнага інтэрнэт-рэсурсу, энцыклапедыст, празаік, архівіст.

**Мойшэ Кульбак** (1896–1937) – беларускі габрэйскі паэт, празаік, драматург. Старшыня сусветнага габрэйскага ПЭН-цэнтра. Арыштаваны ў 1937 г., расстраляны 29.10.1937.

**Тодар Кляшторны** (1903–1937) – беларускі паэт, перакладчык. Сябра аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», БелАПП. Арыштаваны ў 1936 г., расстраляны 30.10.1937.

**Зінаіда Бандарына** (1909–1959) – беларуская паэтка, настаўніца, перакладчыца. Падчас рэпрэсій з'ехала ў Маскву, закончыла Інстытут кінематаграфіі і аспірантуру, працавала на кінастудыях і ў тэатрах Масквы, Архангельска, Горкага. Па вяртанні ў Мінск працавала ў часопісе «Бярозка», на радыё, у 1948–1950 гг. загадвала Музеем Янкі Купалы ў Вязынцы. Пахаваная на Усходніх могілках у Мінску.

**Андрэй Александровіч** (1906–1963) – беларускі паэт, крытык, публіцыст. Удзельнік хору У. Тэраўскага. Адзін з арганізатараў «Маладняка», рэдактар часопіса «Маладыя араты». Член «Маладняка», БелАПП. Член-карэспандэнт АН БССР, нам. старшыні Праўлення СП

БССР (1934–1937), дырэктар Інстытута мовы БелАН. Арыштаваны ў 1938 г., асуджаны на 15 гадоў лагераў. Рэабілітаваны ў 1955 г. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**Алесь Фаміч Адамовіч** (1900–1937) – беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Сакратар акругкамаў КПБ у Клімавічах і Полацку, загадчык аддзела друку ЦК КПБ. Арыштаваны ў 1930 г. па справе СВБ, асуджаны на 10 гадоў лагераў, арыштаваны паўторна ў ВПЛ, расстраляны.

**Зміцер Прышчэпаў** (1896–1940) – беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч, наркам земляробства БССР, аўтар канцэпцыі развіцця сельскай гаспадаркі Беларусі як сістэмы хутарскіх гаспадарак («Беларусь – чырвоная Данія»). Арыштаваны ў 1929 г., асуджаны да 10 гадоў лагераў. Паўторна арыштаваны ў 1937 г., асуджаны да расстрэлу. Памёр у турэмнымі шпіталі.

**Алеся Александровіч** (1904–1947) – беларуская літаратуразнаўца, педагог. Удзельніца хору У. Тэраўскага. Правобраз і першая выканаўца ролі Алесі ў драме М. Чарота «На Купалле». Жонка Міхася Мароза. Пахаваная на Вайсковых могілках у Мінску.

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Севярынец** Ганна Канстанцінаўна

# ГАСЦІНІЦА «БЕЛЬГІЯ»

**Раман**

*2-е выданне*

Адказны за выпуск *М. Шыбко*
Вокладка *П. Няхайчык*
Вёрстка *А. Жынкін*
Карэктар *М. Шавыркіна*

Падпісана да друку __.12.2021. Фармат 84×108/32.
Папера афсетная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. __,__.
Ул.-выд. арк. 18,63. Наклад ___ асобн. Заказ 30__.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/226 ад 20.03.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/26 ад 20.03.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.